ГІСТАРЫЧНЫ
НАВУКОВА-ПАПУЛЯРНЫ
ЧАСОПІС

ЗАСНАВАЛЬНІКІ
ВІЦЕБСКІ АБЛАСНЫ КРАЯЗНАЎЧЫ МУЗЕЙ
ВІЦЕБСКАЕ АБЛАСНОЕ КРАЯЗНАЎЧАЕ АБ'ЯДНАННЕ

Рэгістрацыйны № 216



АДРАС РЭДАКЦЫІ:
Беларусь, 210026 г. Віцебск, вул. Леніна, 36
тэл. 36-22-31

АДРАС ДЛЯ КАРЭСПАНДЭНЦЫІ:
Беларусь, 210026 г. Віцебск-26 а/с №34



Часопіс выдаецца з 1995 года
Усяго выйшла тры нумары.

Падпісана да друку 20.12.1997 г.
Фармат 62х90 1/8. Папера афсетная.
Друк. аркушаў 28. Тыраж 500 экз.
Заказ №

Полацкае паліграфічнае прадпрыемства
"Спадчына Ф.Скарыны"
Ліцэнзія ЛП № 131
г. Полацк, вул. Гагарына, 8.

# ЗМЕСТ

# Віцебскі сшытак



*Валянцін ГРЫЦКЕВІЧ*

# УРАЧ КАРЛ ГІБЕНТАЛЬ

Смерць трох сыноў імператара Паўла I чуткі моцна звязалі з таямніцаю. Згодна чутак, Аляксандр I нібы імітаваў смерць, каб схавацца ад свету пад выглядам старца, а Мікалая I і Канстанціна нібыта атруцілі.

Да адной з гэтых таямніцаў нібыта меў дачыненне герой гэтага нашага апавядання - віцебскі ўрач Карл Іванавіч Гібенталь. Яму давялося ў 1831 годзе ў Віцебску лячыць ад халеры вялікага князя Канстанціна Паўлавіча, які ў свой час адрокся ад прастолу на карысць брата Мікалая. Канстанцін не выжыў (яно і не дзіва пры тагачасным узроўні медыцыны). Мікалаю пачалі прыпісваць імкненне пазбавіцца ад магчымага прэтэндэнта на трон, Гібенталю ж - садзейнічанне гэтаму.

Біёграф марганатычнай жонкі Канстанціна княгіні Ловіцкай Іааны Грудзіньскай [1] А.Чарткоўскі паўстагоддзя таму назад пісаў пра гэта: "Об отравлении великого князя Константина с помощью черники говорил в 1913 году профессору Ш.Ашкенази [2] князь Львов, внук Павла Александрова, а следовательно правнук великого князя Константина" (П.К.Аляксандраў быў пазашлюбным сынам Канстанціна - *В.Г.*). Далей А.Чарткоўскі, спасылаючыся на інфармацыю гісторыка Х.Масьціцкага, пісаў: "О смерти великого князя Константина есть некоторые материалы в витебском архиве, но самые секретные материалы собрал бывший председатель Витебской учёной архивной комиссии Василий Сергеевич Арсеньев, в 1915 году постоянный член губернской управы в Туле; у него как будто были документы, подтверждающие отравление Константина. Среди витеблян существует твёрдое убеждение об отравлении лесной земляникой, помнится такое значительное обстоятельство, что гроб для великого князя привезли из Петербурга уже на второй день после его смерти".

Пакуль што доказаў на карысць атручэння нямнога. Паслухаем гісторыка далей. Ён даводзіць самыя важкія, з яго пункту гледжання, высновы на карысць атручэння: "Отравление должен был выполнить врач великого князя доктор Гибенталь, у сына которого (проживающего, кажется, в Ялте) должны были быть якобы ценные документы по этому делу, хотя он и отрицал факт отравления". [3]

Канечне, абвінаваціць чалавека нескладана. Даказаць даволі цяжкае абвінавачванне не так проста. Тым больш, што гісторык пры разглядзе любой справы, павінен зыходзіць з "прэзумпцыі невінаватасці", вядомай кожнаму юрысту. Згодна гэтага дэмакратычнага прававога прынцыпу абвінавачваемы лічыцца невінаватым да той пары, пакуль яго віна не будзе даказана ва ўстаноўленым законам парадку.

Па нашай просьбе тульскі пісьменнік Мікалай Барысавіч Кір'янаў прагледзеў фонд Арсеннева ў Дзяржаўным архіве Тульскай вобласці, але не знайшоў там ніякіх звестак аб акалічнасцях смерці Канстанціна. Крымскі абласны дзяржаўны архіў, які мы запыталі, дакументаў Гібенталя таксама не мае. [4] Ялцінскія краязнаўцы і гісторыкі А.Ф.Баброў і В.П.Гарбуленка, да якіх мы звярнуліся, таксама не змаглі знайсці дакументаў сына Гібенталя ў музеях Крыма.

Звернемся да дзённіка блізкай да Канстанціна асобы - яго флігель-ад'ютанта віцэ-адмірала П.А.Калзакова, які цытуе біёграф вялікага князя Е.П.Карновіч. У дзённіку дзень за днём апісваецца жыццё Канстанціна ў Віцебску. Сюды намеснік імператара ў Царстве Польскім Канстанцін вымушаны быў выехаць з Беластоку, паколькі да паўстання ў Польшчы, якое выбухнула ў лістападзе 1830 года, далучыліся і жыхары заходняй часткі Беларусі. У Віцебску вялікі князь знаходзіўся з 3 чэрвеня 1831 г. У гэты час у Расіі распаўсюдзілася эпідэмія халеры. 13 чэрвеня Канстанцін адчуў сябе дрэнна і паслаў за сваім урачом Калішам. На наступны дзень ён адчуў сябе лепш, але раніцай 15 чэрвеня зноў захварэў і выклікаў да сябе Каліша. Каліш запрасіў Гібенталя. Лячэнне не дапамагло і ўвечары Канстанціна не стала. На наступную раніцу абодва ўрачы склалі заключэнне аб хваробе вялікага князя і забальзаміравалі цела, паклаўшы яго ў абабітую меддзю труну [5]. Аб тым, што Канстанціна лячылі Гібенталь і ўрач вялікага князя, пісаў жыхар Віцебска палкоўнік Карпаў [6].

---

Грыцкевіч Валянцін Пятровіч, кандыдат медыцынскіх навук, дацэнт кафедры музеязнаўства Пецярбургскай Акадэміі культуры. Займаецца пытаннямі гісторыі медыцыны і геаграфічных ведаў Беларусі, гісторыі музеязнаўства, методыкі і метадалогіі гісторыі, гістарычнай культуры. Аўтар кніг "Путешествия наших земляков" (Мн., 1968), "Dešimt kelių iš Vilnius (Vilnius, 1972), "Шляхі вялі праз Беларусь" (у сааўтарстве з А.Мальдзісам. Мн., 1980), "От Нёмана к берегам Тихого океана" (Мн., 1986), "С факелом Гиппократа" (Мн., 1987) і інш, мае каля 270 навуковых публікацый.

Гувернёр вышэйзгаданага П.К.Аляксандрава граф А. дэ Марыоль паведамляе аб апошнім дні вялікага князя: “Утром он почувствовал сильные боли в животе и позвал дежурного лакея. Тот дал лекарства, которые великий князь назначил себе сам. Он всегда возил с собою походную аптеку и любил лечить сам себя, не советуясь с докторами. Боли однако продолжались (...). Тотчас же явился бывший при великом князе доктор-немец. Несмотря на все его средства, приступы становились сильнее, боли были ужасны, и через 10 часов великого князя не стало. Его внезапная и быстрая смерть породила множество догадок и подозрений. Но какой был смысл совершать бесполезное теперь преступление?” [7]

Здагадкі і меркаванні мікалаеўскай эпохі тлумачацца проста. Па словах М.С. Ляскова, нават сталіца “в то время печатной безголосицы жила в атмосфере бесконечных сплетен”. [8] Што тады казаць аб правінцыі, у якую нечакана прыехала другая па значнасці асоба ў імперыі, ды яшчэ памерла там ад амаль невядомай тады халеры! Як тут не разгуляцца падазронасці?

Пакуль што доказаў на карысць версіі аб забойстве Канстанціна замала. Давядзецца яе адкласці да выяўлення больш пераканаўчых, чым чуткі, аргументаў.

Размовы заўжды кружылі вакол Гібенталя: занадта ён не ўпісваўся ў круг правінцыйных чыноўнікаў. Лячыў ён смела новымі метадамі, вынаходзіў хірургічныя інструменты, новы плуг. А ўжо калі браўся кіраваць закінутым маёнткам, то даводзіў яго да ладу. Да сялян ён адносіўся надзіва добра. Перадавы горыцкі аграном, сын латышскага селяніна Б.Цэлінскі відавочна знайшоў у Гібенталю аднадумцу, калі пісаў аб жыхарах маёнтку Гібенталя: “Уже по наружному виду судить можно было, что г-н Гюбенталь [9] должен быть добрым барином для своих крестьян, это можно было читать в глазах самих крестьян; встретившись с нами, они приближались к нему не с боязнью или с раболепной лестью, но с простотою и упованием на благорасположение господина”. [10]

Зараз няма хірурга, які б не выкарыстоўваў гіпсу падчас лячэння пераломаў касцей. Існуюць разнастайныя методыкі яго выкарыстання. Гіпс настолькі агульнапрыняты ў медыцыне, што часам здаецца нам такім жа старадаўнім сродкам як банкі, п’яўкі, клізма. А быў час, калі Гібенталю даводзілася актыўна прапаноўваць яго выкарыстанне ў хірургіі. [11] Размова ідзе аб пачатку XIX ст., калі напалеонаўскія войны спарадзілі велізарную колькасць ранаў вогнестрэльных і нанесеных халоднай зброяй. Тады ж пачасціліся пашкоджанні рук і ног на новых заводах і фабрыках, падчас высечкі лесу, у якім усё больш павялічвалася патрэба для будаўніцтва.

А лячылі тады пераломы ўсё па-даўнейшаму - мазямі, перавязкамі, губкамі, саламянымі пасцілкамі і валікамі. Косці часта не зрасталіся ці зрасталіся не так як трэба, месцы пераломаў нагнайваліся, людзі заставаліся калекамі.

Львоўскаму гісторыку медыцыны Н.А.Аборыну ўдалося вызначыць, што Гібенталь упершыню прапанаваў прымяняць гіпс для лячэння пераломаў. 7 лютага 1812 г. хірург адаслаў апісанне спосабу ў рэдакцыю часопіса пецярбургскай медыка-хірургічнай акадэміі. Аднак, вядучы сталічны хірург І.Ф.Буш, да якога трапіла наватарская прапанова Гібенталя, адгукнуўся аб ёй стрымана: “Это хорошо при простых переломах, но при сложных - пользы иметь не может”. Зразумела, думка гэтая, з цяперашняга пункту погляду, памылковая. Але тым не менш з-за аўтарытэту сталічнага прафесара яшчэ сорак год - аж да Крымскай вайны - урачы працягвалі лячыць зламаныя косці па-ранейшаму. Колькі калек, колькі ўтрыманцаў атрымала рускае грамадства з-за асцярожнасці Буша [12]!

А Гібенталь працягваў лячыць пераломы гіпсам. Яго спосаб знайшоў прызнанне ў Аўстрыі, Францыі, Германіі. Праўда, метад быў ускладнены, што дыскрэдытавала яго. Таму вяліся пошукі больш удалага спосабу лячэння пераломаў. [13] Спатрэбіліся клінічны геній М.І.Пірагова і яго аўтарытэт, каб у 1852 г. распрацаваць стройную сістэму лячэння павязкай, насычанай вадкім гіпсам, што спрасціла і зрабіла таннейшым спосаб. Гэтая павязка, па словах выдатнага арганізатара ваенна-медыцынскай службы Е.І.Смірнова, з’явілася “похоронным звоном колоколов господствовавшему учению о преимуществе ранних ампутаций непосредственно на поле боя”. А па сутнасці, першым, хто ўдарыў у гэтыя званы, быў Гібенталь.

На жаль, доўгі час біяграфія Гібенталя не вывучалася ні па архіўных справах, ні па сведчаннях сучаснікаў, ні па афіцыйным друку таго часу. Не было артыкулаў аб урачы ў біяграфічных слоўніках і ў энцыклапедычных выданнях.

Толькі на пачатку 1970-х гг. па нашай рэкамендацыі ў “Беларускай Савецкай энцыклапедыі” з’явіўся артыкул аб урачы [14], але, на жаль, у ім прыведзена недакладная дата яго смерці. Найбольш поўныя звесткі аб урачы апублікаваны ў нарысе, змешчаным у нашай кнізе “С факелом Гиппократа” (Мн.,1987).

Змешчаныя ў другіх выданнях звесткі аб К.І.Гібенталі часам памылковыя. Не адпавядае рэчаіснасці сцверджанне рыжскага хірурга Шыманоўскага, нібыта Гібенталь быў на Ўсходзе (дзе быццам бы мог пазнаёміцца з падобным метадам арабскай хірургіі) і ў далейшым выпрабаваў у 1816 г. арабскую гіпсавую павязку пры пераломах [15]. Няпраўда, быццам урач нарадзіўся ў 1788 г., служыў у Цвяры да 1816 г., у Віцебску - з 1816 па 1825 гг., а на пярсідскай мяжы - з 1831 г. [16]

Шмат год мы збіралі ў адно дадзеныя аб віцебскім урачы ў дакументах архіваў і кнігасховішчаў Магілёва, Мінска, Кіева, Масквы, Вільнюса, С.-Пецярбурга, Саратава, у старых кнігах і газетах, якія выдаваліся і ў нас, і ў Германіі.

Усе даступныя нам фармулярныя спісы службы Гібенталя згадваюць аб ягоным родавым маёнтку ў Кашынскім павеце Цвярской губерні з васьмю прыгоннымі душамі [17] (спіс 1819 г. сведчыць аб яго паходжанні "з нямецкіх дваранаў"). Гэта дае падставы меркаваць аб нараджэнні Гібенталя ў сям'і чалавека ці служачага ў гэтай губерні, ці народжанага там (што не супярэчыць прыпісцы 1819 года). Дзе канкрэтна знаходзіўся маёнтак, пакуль не ўдалося высветліць.

Вызначыць год нараджэння Гібенталя было няпроста. У фармулярным спісе 1819 года пазначана, што яму было ў той час трыццаць тры гады [18]. У недатаваным фармулярным спісе ў справе ад 10 мая 1832 г. (напэўна, ён складзены на год раней) указана, што ён меў тады ад роду сорак пяць год [19]; у спісе ад 31 мая 1833 г., што яму было сорак сем гадоў [20]; а ў спісе 1837 г., што яму споўніўся тады пяцьдзесят адзін год [21]. Параўнанне гэтых дадзеных дазваляе схіліцца да даты нараджэння Гібенталя ў 1786 годзе.

Медыцынскую адукацыю Гібенталь атрымаў у лепшых універсітэтах Гетынгена і Марбурга.

"О родины прямых студентов: Геттинген, Вильно и Оксфорд!" - усклікаў у паэме "Сашка" сасланы за яе сачыненне маскоўскі студэнт Аляксандр Паляжаеў [22]. Пушкін падкрэсліваў у сваім Уладзіміру Ленскім яго "душу геттингенскую". "Где можно быть таким господином самому себе, как в Геттингене?" - пытаўся дзекабрыст Мікалай Тургенеў, які праходзіў там вучобу, у сваім дзённіку перад ад'ездам з гэтага горада [23].

Гетынгенскі універсітэт, на медыцынскі факультэт якога паступіў Гібенталь, быў перадавой навучальнай установай [24]. У часы навучання нашага героя яна не ператварылася яшчэ ў той расаднік абывацельшчыны і мяшчанства, якім заспеў яе крыху пазней Генрых Гейнэ. У маі 1802 г. яго студэнты пратэставалі супраць праследвання маладой прафесуры. Для іх уціхамірвання ўлады вымушаны былі выклікаць гановерскіх драгунаў, якія падчас падаўлення хваляванняў паранілі 24 студэнтаў, аб чым паведамляла французская рэспубліканская газета "Манітор". У студзені 1806 г. хваляванні паўтарыліся [25].

З Гетынгена Гібенталь пераехаў у Марбург у суседнім курфюрстве Гесэн. Тутэйшы універсітэт на пачатку XIX стагоддзя быў вядомы сваім перадавым медыцынскім факультэтам з новым анатамічным тэатрам, клінічнай амбулаторыяй, акушэрскім шпіталем, лабараторыяй [26]. Праз год пасля заканчэння ў 1805 г. Гібенталем універсітэта і атрымання ім доктарскага дыплома [27] Марбург стаў цэнтрам паўстання гесэнскіх сялян супраць уласных памешчыкаў і французскіх захопнікаў [28]. Германія, дзе вучыўся Гібенталь, у сувязі з нашэсцем Напалеона зведвала цяжкія нягоды. Яе народ з нянавісцю адносіўся да чужаземнага прыгнёту [29].

Гібенталь быў выхаваны на прынцыпах веку Асветы і барацьбы супраць тыраніі. Прасцей было ўладкавацца на спакойнае месца ў якім-небудзь правінцыйным гарадку, але ён стаў палкавым лекарам у гвардзейскім егерскім палку рускай арміі - адзінай рэальнай сілы, супрацьстаячай Напалеону. Ён прыняў удзел у паходзе "з Гінавергіі праз Мікленбург і Прусію" з 29 студзеня 1806 года [30]. У цяжкіх метэаралагічных умовах армія аказала стойкае супраціўленне напалеонаўскім войскам на палях Мазовіі і Усходняй Прусіі. Не хапала правіянту і фуражу [31]. Малады ўрач атрымаў баявое хрышчэнне ў кампаніі 1806-1807 гг., у тым ліку ў вядомых бітвах пад Прэйсіш-Эйлау і Фрыдляндам, а ў баі ля Хайльсберга 28 мая 1807 г. быў паранены ў левую руку падчас перавязкі параненых [32]. Маляўнічае апісанне бітвы можна знайсці ў пісьмах яе другога ўдзельніка паэта К.Бацюшкава [33].

Пасля заключэння Тыльзіцкага міру паміж Расіяй і Францыяй егерскія палкі прынялі ўдзел у руска-шведскай вайне, у ходзе якой была заваявана Фінляндыя. Гібенталь працягваў працаваць у палкавым шпіталі, у якім падтрымліваў добры парадак. За гэта дывізійны генерал М.П.Далгарукаў 5-ы 9 жніўня 1808 г. выказаў урачу падзяку [34]. Імя Гібенталя працягвала ў гэтым годзе пазначацца ў спісе медыцынскіх чыноў ваеннага ведамства [35].

У гады кантынентальнай блакады рускія войскі павінны былі перашкаджаць пранікненню англійскіх тавараў у Еўропу. Дывізія пад камандаваннем будучага героя 1812 года П.П.Канаўніцына, у якой служыў урач, ахоўвала берагавую лінію цяперашніх Латвіі і паўднёвай Эстоніі [36]. Гібенталь, мяркуючы па ўсім, працягваў працаваць

добрасумленна, за што ў 1810 г. "ад дывізійнага генерала Канаўніцына атрымаў такую ж падзяку" [37].

У 1811 г. Гібенталь дэмабілізаваўся. Яму заўжды было ўласціва імкненне да самаразвіцця. Ён здаў экзамен на права лячэння ў Расіі ў Віленскім універсітэце, выканаў там пробную аперацыю і пасля гэтага атрымаў званне медыка-хірурга [38].

З чэрвеня 1811 г. па ліпень 1812 г. Гібенталь працаваў аператарам і адначасова інспектарам Мінскай урачэбнай управы.

Працы Гібенталю хапала. Медыцынскую частку ў губерні павінны былі абслугоўваць тры ўрачы на дзяржаўнай службе - узначальваючы яе інспектар, аператар і акушэр. А ў губерню ўваходзілі ні многа ні мала амаль уся цяперашняя Мінская вобласць, большая частка Гомельскай і значныя часткі Брэсцкай і Гродзенскай абласцей па сучаснаму адміністрацыйнаму дзяленню. Прыватных медыкаў было нямнога, прычым, гэта былі пераважна не ўрачы з універсітэцкай адукацыяй, а цырульнікі-хірургі, якія вывучыліся вучнёўскім спосабам у сваім цэху (брацтве), што налічвала ў 1800 г.дзесяць сяброў. Урачу даводзілася працаваць і інспектарам, і аператарам, лячыць і хірургічныя, і масавыя захворванні. Першая буйная ўспышка масавых захворванняў, з якой змагаўся Гібенталь, прыйшлася на сакавік 1812 года, калі ў медыцынскім дэпартаменце міністэрства паліцыі стала вядома, што сярод насельніцтва Беларусі і на Валыні распаўсюдзілася цынга. Да 4 мая толькі ў чатырох паветах Мінскай губерні хварэла ёю да чатырох тысяч чалавек, а памерла 413 (гэта значыць 10,2% летальнасці). Гібенталь адразу ж выехаў у найбольш пацярпелыя Бабруйскі і Рэчыцкі паветы. Прычыны захворвання ён бачыў у піцці балотнай вады, неўрадлівасці капусты і буракоў мінулым летам, а галоўнае, у "недостатке в чистом хлебе, скудности в одежде, которая нужна для укрывания от холода тела" [39], гэта значыць у фактарах сацыяльна-эканамічных.

4 мая Гібенталь дакладваў грамадзянскаму генерал-штаб-доктару А.Крэйтану, што "прописаны им лекарства весьма малой цены для их (хворых сялян - *В.Г.*) помещиков стоющей, выдал он в публику на польском диалекте для лучшего их пользования наставление, которое в самоскорейшем времени тамошними земскими исправниками повсеместно и во все городские дворы разослано" [40].

Арыгіналу брашуры мы не маем. Яе копію ў рускім перакладзе Гібенталь прыклаў да пасланага А.Крэйтану дакладу ад 4 мая 1812 г. "Наставление" не знойдзена намі ў кнігасховішчах, яго апісання няма ў бібліяграфіях выданняў пачатку стагоддзя [41].

Урач раіў уладальнікам паселішчаў, у якіх жылі хворыя сяляне, клапаціцца аб свежым паветры ў жыллі хворых, "которое может быть сделано чрез прилежное чищение горниц и отдаление скотины от оных", бо паўсюдна К.І.Гібенталь бачыў, што і ў без таго цесных сялянскіх хатах матэрыяльна абцяжараныя жыхары вымушаны былі змяшчаць хатні скот і птушку. Раіў урач памешчыкам забяспечваць сялянаў "легко питательную... пищу", "свежий и чистый хлеб, кислую капусту, хрен, щавель, ложечную траву, горчицу и т.п., свежую говядину, хороший квас" і забараняць сялянам "брать из болотистых мест воду, которая по большей части есть гнилая и с множеством инсектов (насякомых - *В.Г.*), наполненная нечистотою. Где не имеется колодцев, то должно сейчас и в высшем месте в те выкопанными (так - *В.Г.*)".

Апошняя парада Гібенталя сугучная духу "Веку Асветы". "Больного не должно стращать каким-нибудь наказанием или неправильным взысканием, но, напротив того, должно обходиться с сими несчастными людьми ласкательным образом, дабы возбудить у них спокойное чувствование". Ва ўмовах прыгоннай беларускай вёскі большасць парадаў урача маглі здавацца памешчыкам дарагімі і эканамічна непрыймальнымі. Гібенталь улічваў гэта і таму папярэджваў іх: "И когда по вышеописанному данному наставлению приведено будет больными к действительному исполнению, тогда только можно ожидать совершенного подействования лекарств" [42].

Толькі пасля пералічэння гігіенічных і псіхатэрапеўтычных мерапрыемстваў супраць цынгі, якія знаходзіліся ў поўнай адпаведнасці з перадавымі навуковымі поглядамі таго часу, Гібенталь пералічваў лекавыя сродкі. Сярод гэтых лекавых сродкаў былі "вітамінныя" напоі з сасновых шышак, хрэну і г.д. (як мы назвалі б іх зараз). Медыцынская рада ўхваліла рэкамендацыі Гібенталя і палічыла іх "полезными и местным обстоятельствам сообразными" [43]. Сапраўды, пералічаныя ўрачом лекавыя сродкі былі недарагімі і даступнымі.

Там, дзе памешчыкі ішлі пад уздзеяннем "Наставления" Гібенталя на матэрыяльныя выдаткі дзеля лячэння прыгонных, адзначаўся прыкметны поспех. 15 чэрвеня 1812 года Мінская ўрачэбная ўправа дакладвала ў Пецярбург аб рэзкім зніжэнні захворвання, а таксама смяротнасці хворых. За паспяховае спыненне ўспышкі хваробы Гібенталь атрымаў ад уладаў падзяку.Трапіўшае ва ўсе фармулярныя спісы Гібенталя сцвярджэнне, нібы ў 1812 г. "собственными его трудами (было) вылечено по Минской губернии до нескольких тысяч одержимых эпидемической болезнью", памылковае. Сам урач падкрэсліваў, што хвароба, якая ахапіла насельніцтва, "не заразительна" [44].

Але і ў мітусні спешных спраў Гібенталь не пакідаў сваіх хірургічных заняткаў. І ў гэтым яму дапамагала яго рознабаковасць. Даўно вядома, што менавіта гэтая якасць, імкненне ведаць і развіваць веды не адной толькі спецыяльнасці дапамагае новым адкрыццям. Яго рознабаковасць не ператваралася ў раскіданасць. Наадварот, адны інтарэсы ўрача дапаўнялі іншыя. Схільны да захаплення чалавек, Гібенталь ведаў акрамя рускай мовы яшчэ сем еўрапейскіх, з ахвотаю займаўся сельскай гаспадаркай. Заняткі лепкай з гіпсу дапамаглі яму спарадзіць думку аб выкарыстанні гэтага матэрыялу для лячэння пераломаў касцей. Аднойчы ён рабіў з гіпсу, што ляжаў у начовачцы, бюст свайго сябра. Нечакана заняткі скульптурай былі перарваныя. Да Гібенталя прывезлі параненага работніка аднаго мінскага купца. Падаючым дрэвам пашкодзіла няшчаснаму левую руку. Не апранаючы сурдут, як быў у фартусе, так і ўправіў Гібенталь перелом.

Тым часам вільготны гіпс паспеў засохнуць і ў начовачцы, і ў бюсце. Зацвярдзенне гіпсавай масы нарадзіла ў хірурга думку выкарыстаць яе для замацавання зламаных касцей у адным становішчы. Гібенталь вырашыў змясціць зламаныя перадплечча і кісць у гіпс. Да здзіўлення Гібенталя на наступны дзень выявілася, што паранены ўсю ноч пачуваў сябе спакойна. Звычайна пасля такога пералому хворых доўга непакоіла месца пералому. Невялікая балючасць у руцэ, якая адзначалася першыя дні, хутка прайшла. Праз месяц косці зрасліся і павесялелы работнік мог валіць лес і распілоўваць яго без усялякай нязручнасці ў руцэ.

Існуе шмат легендаў аб адкрыццях, якія з'явіліся дзякуючы выпадковым уражанням - стварэнню павуком ніці, лунанню птушкі ў паветры, падзенню яблыка. Не трэба абмяжоўваць узнікненне ідэі хірургічнага выкарыстання гіпса ў Гібенталя толькі тым, што ён падглядзеў яго зацвярдзенне падчас лекавання хворага. Усё было значна складаней. Момант творчага асвятлення навукоўца не складаецца з падглядвання за знешнім светам. Значна больш адбываецца ў сярэдзіне чарапной каробкі чалавека. М.І.Пірагоў пісаў у "Дзённіку старога ўрача" аб творчай фантазіі мысляра: "Без фантазіі і розум Каперніка і Ньютона не даў бы нам светапогляду, які зрабіўся набыткам усяго адукаванага свету. Нішто вялікае ў свеце не абыходзілася без фантазіі" [45]. Знешнія ўражанні не больш чым іскра, якая ўдарыла ў склад пораху, які па крупінцы, гадамі збіраўся вынаходнікам альбо навукоўцам. Успышка пакідае ў ценю звычайна асветленыя прадметы. Вядома, творцы пачынаюць ствараць новае там, дзе звычайныя людзі, якія не заўважаюць нічога цікавага, праходзяць міма. Аднак ствараюць яны на аснове былога доўгага, напружанага роздуму. Адно да аднага падбіраліся назіранні, ставіліся вопыты, рабіліся высновы. Факты чакалі прасвятлення, каб стаць ісцінай. Ідэі не нараджаюцца з паветра.Якім бы ні быў таленавітым навуковец, ён ніколі не здолее адкрыць нічога славутага, калі гэтаму адкрыццю не будзе папярэднічаць вялікі вопыт, не толькі яго асабісты вопыт, але і вопыт іншых навукоўцаў ва ўсіх галінах навукі і ведаў. Заслуга Гібенталя ў тым, што ён здолеў убачыць тое, што не ўбачылі іншыя, зрабіць шырокія абагульненні, у сваіх пошуках не прапусціць нічога, што магло садзейнічаць пошукам, не скласці зброю падчас няўдачы.

А цяпер вернемся да адкрыцця мінскага хірурга. Гібенталь паведаміў аб паспяховым прымяненні гіпса пры лекаванні "изломанных костей без бандажа" у сваім рапарце Медыка-хірургічнай акадэміі ад 7 лютага 1812 г., з якім быў дасланы артыкул аб гэтым метадзе лекавання. Лекаванне пералому з накладаннем гіпсу праходзіла не менш чатырох тыдняў. Калі б Гібенталь пісаў рапарт аб сваім вопыце ў дзень зняцця гіпсу, то дастасаванне гэтага метаду належыць аднесці да тэрміну не пазней 10 студзеня 1812 года, а магчыма, і да больш ранняга тэрміну.

Гібенталь падрабязна апісаў свой метад лячэння ў артыкуле "Новый способ лечить переломы костей", які змясціў у 1816 годзе ў медыцынскім часопісе на нямецкай мове, які выходзіў у Рызе і Лейпцыгу. Праз тры гады артыкул быў перадрукаваны ў парыжскім медыцынскім часопісе [46].

Як жа лячыў урач пераломы? Ён выпростваў пашкоджаную канечнасць, упраўляў зрушаныя канцы косці, змазваў скуру канечнасці алеем і пакрываў яе ніжнюю частку сумессю гіпсу і расцёртай прамакальнай паперай у вадзе. Пад канечнасць падкладваўся жолаб з кардона. Потым нажом альбо шпатэлем выраўноўваліся краі і каркас гіпсавага покрыва і залівалася верхняя частка формы. Калі на канечнасці былі раны, то ў гіпсавай форме насупраць іх рабіліся адтуліны, каб іх можна было лячыць. Абедзьве паловы гіпсавай формы бінтаваліся і прымацоўваліся да рухомага шаста над ложкам. Накладваўся гіпс за дзесяць хвілін.

К.І.Гібенталь падкрэсліваў таннасць спосабу і выказаў думку аб прымяненні гіпсу "на войне в крупных госпиталях". Ён лячыў гіпсам пераломы касцей галёнкі, ключыцы, чэрапа. Ёсць звесткі, што ён выдаў раней, чым у 1816 г., у Пецярбургу іншае паведамленне аб сваім метадзе ("Новое средство лечения переломов костей"). Пазней ён пісаў, што выкарыстоўваў гэты метад ва ўсіх бальніцах і шпіталях, дзе ён працаваў. Гэта была яшчэ не гіпсавая павязка, але асноўныя яе прынцыпы фактычна тут ужо распрацаваны.

Аб далейшым лёсе метаду Гібенталя мы ўжо ведаем. Своечасовай публікацыі працы Гібенталя перашкодзілі двое абставінаў: адмоўны водгук Буша і нашэсце Напалеона на краіну. Урач паспеў вывезці з

Мінску да ўступлення туды войскаў захопнікаў хірургічныя інструменты і казённыя грошы ўрачэбнай управы. Ён прыбыў у Маскву. Маскоўскі генерал-губернатар граф Ф.В. Растапчын накіраваў 7 жніўня Гібенталя ў Першую армію пад камандваннем славутага палкаводца М.Б.Барклая-дэ-Толі. 24-26 жніўня 1812 года ўрач аказваў дапамогу параненым воінам на Барадзінскім полі. Пасля гэтага ён працаваў у Цвяры (нагадаем, што родам Гібенталь быў з Цвярской губерні). 16 лістапада 1812 г. ён узяў там водпуск, каб адвезці грошы ўправы і інструментарый у сталіцу, у Медыцынскі дэпартамент [47].

8 студзеня 1813 г. Гібенталь быў прызначаны аператарам Цвярской урачэбнай управы, з 24 снежня 1812 г. быў прыкамандыраваны "к Тверской военной гошпитали" [48]. У далейшым урач бязвыплатна працаваў яго ж галоўным лекарам, за што атрымаў "благодарность за оказанное старание, усердие и хорошие успехи в пользовании больных" [49].

3 мая 1814 г. пасля экзамена ў Маскоўскім універсітэце ўрач атрымаў званне інспектара [50], у жніўні таго ж года прызначаны інспектарам лячэбнай управы ў Цвяры [51]. Паблізу Волгі Гібенталь адкрыў лекавыя воды і даследваў іх хімічны склад. Да таго часу ў Цвярской губерні былі вядомымі іншыя мінеральныя воды са значным утрыманнем жалеза. У газеце "Тверские губернские ведомости" за май 1863 г. паведамлялася, што "ещё в 1808 г. имели устроенный вид родники Андреяпольский и Кушелевский в Осташковском уезде и Высоцкий и Олсуфьевский в Кашинском уезде" [52]. Ці не гэтыя мінеральныя крыніцы вывучаў Гібенталь, які меў родавы маёнтак у Кашынскім павеце?

Пасля заканчэння вайны з Напалеонам Гібенталь вярнуўся на Беларусь, але не ў Мінск, а ў Віцебск. 4 верасня 1816 года быў прызначаны інспектарам Віцебскай урачэбнай управы.

Тут, у Віцебску, Гібенталь правёў большую частку жыцця, даслужыўшыся да высокага чына стацкага саветніка і да пенсіі [53].

28 снежня 1838 года Гібенталя перавялі з Віцебска на пасаду інспектара Адэскай лячэбнай управы [54]. Вестак аб яго пераездзе на поўдзень няма. Пасада інспектара ў Адэсе так і заставалася не занятай, бо Гібенталь быў "согласно прошению его, уволен 24 марта (1839г.) от должности инспектора здешней врачебной управы" [55]. Пасля адстаўкі Гібенталь працягваў жыць у Віцебску [56], быў ганаровым папячыцелем мясцовай гімназіі (1845-1847, 1853-1856) [57], памёр 1 верасня 1858 года, як аб гэтым было сказана ў аб'яве аб прызначэнні пенсіі яго ўдаве ў "Витебских губернских ведомостях" ад 28 лістапада 1859 года [58].

Спыніўшыся на асноўных датах жыцця ўрача, паспрабуем зараз разгледзець яго як перадавую, мыслячую, ініцыятыўную асобу, паступова разбіраючы розныя праявы шматлікіх інтарэсаў гэтага чалавека.

Жыхарам маглі здавацца дзівацтвамі, блюзнерствам, самарэкламай спробы ўрача ва ўмовах правінцыі выконваць трансплантацыі органаў розных жывёл. Максіміліян Маркс (1816-пасля 1891), юнацтва якога прайшло ў Віцебску, пазней - удзельнік рэвалюцыйнага руху, у старасці ўспамінаў аб Гібенталі: "То (он) обрежет ноги поросёнку и пришьёт к нему утиные лапы, то отрубит хвост коту с целью прирастить к нему петушиный гребешок" [59]. У апублікаванай у 1825 годзе працы "Остеопластика или искусство восстанавливать потерянные куски кости" урач спасылаўся на праведзеныя ім вопыты па перасадцы касцей жывёлаў. І тут Гібенталь апярэдзіў час. Сёння нам зразумелы ўсе складанасці праблемы біялагічнай несумяшчальнасці тканак пры іх перасадках. Тады гэтыя складанасці не маглі быць зразумелымі нават перадавым прадстаўнікам грамадства з-за недасканаласці навуковых ведаў.

Гібенталь удасканальваў аперацыйную тэхніку ў галіне ўралогіі. У 1812 годзе (разам з артыкулам аб лячэнні пераломаў гіпсам) ён дасылаў у Пецярбург і артыкул "Новый способ операции камнесечения у женщин" з адлюстраваннем адпаведнага інструментарыя. І гэты артыкул быў таксама адхілены Бушам [60]. Адмова не збянтэжыла ўрача і не пашкодзіла яму праз некаторы час прапанаваць новы інструмент для бяспечнага драблення камянёў унутры мачавога пузыра [61].

З пункту гледжання актыўнага ўспрымання ўсяго новага належыць расцэньваць і ўвагу Гібенталя да папулярнага з канца XVIII стагоддзя метаду магнетычнага лячэння, якому ён прысвяціў артыкул, абагульняючы свой вопыт у гэтай справе [62], і грунтоўную запіску, накіраваную ім у 1820 г. у канцылярыю генерал-штаб-доктара грамадзянскай часткі Міністэрства паліцыі [63]. Гібенталь пры гэтым з поспехам выкарыстоўваў псіхатэрапеўтычны метад лячэння (як мы назвалі б яго зараз). Паспяховае выкарыстанне гэтага метаду выклікала зайздрасць і паклёпы з боку ворагаў урача [64]. Вывучэнне гэтага метаду Гібенталем пашырала яго веды, хоць тлумачэнне сутнасці гэтага метаду ўрачом было памылковым з пункту гледжання сённяшняга вопыту медыцыны.

Цяжка правесці мяжу паміж пошукамі адноснай праўды і навуковымі памылкамі. Любы пошук адноснай праўды можа завесці на памылковы шлях, але наўрад ці мае сэнс па гэтай прычыне адвяргаць і асуджаць безагаворачна гэты пошук. Гібенталь быў папулярным урачом. Нават непрыязныя адносіны да ўрача не перашкодзілі М.Марксу адзначыць праз паўстагоддзе, што "слава его как знаменитого врача и магнетизёра распространялась далеко, и не только из соседствовавших, но и из отдалённых местностей приезжали к нему для лечения" [65].

Імя Гібенталя стала вядома ўсёй урачэбнай Расіі ў часы халернай эпідэміі 1830 года. У 20-я гады XIX стагоддзя ў Еўропе ўпершыню з'явілася невядомая дасюль небяспечная хвароба халера. Ад яе гінула каля паловы захварэўшых за даволі хуткі тэрмін. Медыкі не ведалі сутнасці хваробы, якая раней не выходзіла за межы свайго прыроднага ачагу ў дэльце Ганга. Найбольш востра абмяркоўвалася пытанне, ці заразная халера? У інфекцыйным характары хваробы ніхто не сумняваўся. Спрэчкі ішлі аб спосабах перадачы заразы.

Са старажытных часоў медыкі спрабавалі растлумачыць узнікненне эпідэмій. Адны лічылі, што эпідэміі выклікаюць спецыфічныя і размнажаючыяся пачаткі - "кантагіі", якія перадаюцца ад хворага чалавека здароваму праз судакрананне. Іншыя сцвярджалі, што заразныя хваробы распаўсюджваюцца асаблівымі хваробатворнымі часцінкамі, узважанымі ці растворанымі ў паветры (выпарваючыміся са "шкодных" балот, выходзячымі ад трупаў і інш.) і ўдыхваемымі разам з паветрам - "міязмамі". Дзве канцэпцыі - міязматычная і кантагіяністкая - змагаліся паміж сабою, пакуль адкрыццё мікробаў - жывых узбуджальнікаў заразных хвароб - не вырашыла спрэчкі на карысць кантагіяністкіх уяўленняў [66]. Але да гэтага адкрыцця заставаліся яшчэ дзесяцігоддзі.

А пакуль узмацненне гандлю з Індыяй, каланіяльныя войны, пры якіх салдат перавозілі на далёкія адлегласці ў больш кароткі, чым раней тэрмін, і выцісканне парусnага флота параходным дазволілі занесці халеру ў Заходнюю Еўропу праз марскія прасторы. У Расіі ўспышка халеры ў 1829 годзе даволі хутка згасла. Катастрофа выбухнула годам пазней. Летам 1830 г. халера была занесена з Ірана ў Астрахань. Захворванні распаўсюдзіліся ўздоўж Волгі, дасягнулі Ніжнягародскага кірмашу. Кірмашовы люд пачаў хутка раз'язджацца і разнёс захворванне па ўсёй тэрыторыі Еўрапейскай часткі Расіі. Следам за гэтым халера ахапіла і іншыя еўрапейскія краіны. Гэта была першая ў гісторыі Еўропы эпідэмія гэтай страшнай хваробы.

Эпідэмія навяла жах на людзей. Новае захворванне цягнула за сабою масавую смяротнасць. Насельніцтва ахапіла паніка, са сталіц было забаронена выязджаць, па краіне разгарнуўся ланцуг каранцінаў, прычым, падчас халеры ўладжвалі такія ж каранціны, што і падчас чумы, якая была вядома па папярэднім стагоддзі. Паміж гэтымі хваробамі не праводзілася вялікай розніцы, хоць яны, як мы зараз ведаем, зусім непадобныя. На каранцінах акурвалі серай людзей і рэчы, а паперу праколвалі ў розных месцах і таксама акурвалі. Большасць лістоў аб халернай эпідэміі, якія мы чыталі ў фондах Цэнтральнага дзяржаўнага архіва ў Санкт-Пецярбургу, сколатыя шылам як цёрка. Праўда, пах серы за паўтары стагоддзі з іх выветрыўся.

Шматлікія лісты і ўспаміны сучаснікаў распавядаюць аб цяжкай атмасферы ў краіне ў той час. Юны М.Лермантаў адгукнуўся на эпідэмію вершам "Чума в Саратове" з прыпіскай "Cholera morbus" (хвароба халера). А.Пушкіна каранцінная сістэма вымусіла затрымацца ў Болдзіне, ён пераклаў там паэму Вільсана "Пир во время чумы" [67]. Як мы бачым, у паэтаў малавядомая датуль халера асацыіравалася з вядомай сваімі згубнымі вынікамі чумой.

Лепшыя лекарскія сілы краіны ўключыліся ў барацьбу супраць пагрозлівай эпідэміі. М.Я.Мудроў, заснавальнік рускай клінічнай школы, узначаліў медыцынскі савет пры прызначанай царом "Центральной комиссии по прекращению болезни холеры" [68]. Гэтая хвароба не пашкадавала старшыню камісіі, у 1831 г. Мудроў памёр, заразіўшыся халерай. У склад камісіі ўваходзілі вышэйшыя чыноўнікі. Сярод вучоных-урачоў, членаў медыцынскага савета вылучаўся І.Е.Дзядзькоўскі. Яго прапановы леглі ў аснову інструкцый, распрацаваных і апублікаваных медыцынскім саветам. Медыцынскім саветам быў выдадзены "Трактат о повально-заразительной болезни холере, бывшей в России в 1830 и 1831 гг., сочинённый членами медицинского совета при Центральной комиссии и рассмотренный медицинским советом МВД" (СПБ, 1831, 566 стар.), недаацэнены ў нашай гісторыка-медыцынскай і спецыяльнай эпідэміялагічнай літаратуры. "Трактат", па-першае, з'яўляецца першай у сусветнай літаратуры навуковай працай, напісанай пасля пранікнення халеры ў Еўропу, прычым, працай калектыўнай, якая абвергла распаўсюджаныя фантастычныя ўяўленні і праклала шлях правільным уяўленням аб халеры. Па-другое, у "Трактате" замацавана кантагіяністкая канцэпцыя распаўсюджвання заразных хвароб у процівагу міязматычнай. Па-трэцяе, тут упершыню выказана і развіта думка аб носьбіцтве распаўсюджвання заразных хвароб клінічна здаровымі людзьмі.

Гібенталя таксама прыцягнулі да барацьбы супраць халеры [69]. У Медыцынскім дэпартаменце Міністэрства ўнутраных спраў быў вядомы яго вопыт барацьбы супраць масавых захворванняў. У красавіку-чэрвені 1821 года ён паспяхова ліквідаваў успышку "гнилой горячки с пятнами", і "желчной

гнилой горячки с поносом, кровотечением и местным воспалением” у маёнтку Межы Суражскага павета Віцебскай губерні. Хутчэй за ўсё размова ішла аб спалучэнні сыпнога тыфу і дызентэрыі, якое Гібенталь справядліва звязаў з эпідэміяй гэтых захворванняў у пасляваенным 1813 годзе. Гібенталь аддзяліў “трудных больных от безопасных, велел всем окуривать минеральною кислотою все крестьянские избы; ежедневно переменять солому, на которой лежат больные; платье от умерших и выздоравливающих велел вымыть щелоком, а тех, которых мыть нельзя, и которые слишком сношены, сжечь; запретя всякие сообщения здоровых с больными, снабдя последних нужными лекарствами для исцеления их болезни”.

Лекі, якія ўрач даслаў у маёнтак, і сёння ўяўляюцца рацыянальнымі: гэта настой валяр’яны - сродак, карысны пры заняпадзе сардэчна-сасудзістай сістэмы, які назіраецца пры сыпным тыфе [70].

Гібенталя зацвердзілі членам Медыцынскага савета пры “Центральной комиссии по прекращению болезни холеры” праз два тыдні пасля заснавання гэтага органа [71]. Першапачаткова ўрача накіравалі на барацьбу з халерай у сяло Аркадак Балашоўскага павета Саратаўскай губерні (на паўдарозе паміж Тамбовам і Саратавам), дзе ён працаваў з 23 верасня 1830 г.[72]. На жаль, у Дзяржаўным архіве Саратаўскай вобласці ў перапісцы аб мерах барацьбы з эпідэміяй халеры весткі аб Гібенталю не былі знойдзены [73]. 6 кастрычніка 1830 г. урач ужо змог паведаміць Саратаўскай цэнтральнай камісіі па барацьбе з халерай, што “заболеваемость холерой в селении прекратилась”[74]. Затым Гібенталь быў накіраваны ў Ніжні Ноўгарад.Адсюль 29 кастрычніка яго камандыравалі для “подавления” эпідэміі ў Волагду [75], дзе Гібенталь лячыў хворых да 6 студзеня 1831 г. [76]

Саратаўскі губернатар Рославец высока ацаніў яго дзейнасць у Аркадаку [77]. Яшчэ лепш ахарактарызаваў яго дзейнасць валагодскі губернатар Брусілаў, які напісаў міністру ўнутраных спраў 15 снежня 1836 г., што Гібенталь і двое іншых урачоў “в пользовании больных холерою оказали особенное искусство, примерное усердие и неутомимую деятельность и много способствовали к прекращению болезни” [78].

3 снежня 1830 г. паседжанне Савета медыкаў у Волагдзе, у якім прымаў актыўны ўдзел Гібенталь, пастанавіла ізаляваць на два тыдні чыноўніка А.Манакава, які наведваў хворых халерай, “чего (он) также делать не вправе, ибо через сообщение с поражённым холерою он или сам может заразиться или служить проводником заразы для других” [79]. Няцяжка заўважыць, што Гібенталь тут выявіў кантагіяністычныя погляды і думку аб носьбіцтве і распаўсюджванні хваробы здаровымі адначасова з Дзядзькоўскім, які ўпершыню пасля Самайловіча выказаў гэтую думку.

Праз паўгода, 19 сакавіка 1831 г. міністр унутраных спраў Закрэўскі накіраваў урача (“по известной ему опытности вашей и по знаниям в медицинской части”, як ён звяртаўся да Гібенталя) для спынення эпідэміі халеры ў Валынскай губерні [80]. Нягледзячы на “весеннее время, трудные переправы и разлитие рек” [81], Гібенталь хутка дасягнуў цэнтра губерні Жытоміра, дзе і “употреблён был для преподания способов к прекращению холеры”[82]. Валынскі грамадзянскі губернатар пазней успамінаў аб урачы: “При бытности его в Житомире во время прохода войск и рекрут (...) [83] предлежал особенный труд как в устройстве больницы для значительного числа больных холерою, и пользования оных, так и по присутствии в губернском холерном комитете для изыскания к сообщению оному важнейших к прекращению холеры способов” [84]. Барацьба супраць халеры ішла паспяхова. Нават да Віцебска да 22 красавіка даходзілі весткі, “что оная болезнь в Житомире почти уже прекратилась”[85]. Праз два тыдні ў горадзе захворванняў ужо не адзначалася і 26 траўня ўрача адпусцілі дамоў [86].

Гібенталь мог памыляцца, але ён умеў прызнаваць і выпраўляць памылкі. 26 студзеня 1831 года ўрач супакоіў віцебскага генерал-губернатара М.М. Хаванскага, запытаўшага, ці магчыма з’яўленне халеры ў Віцебску. Урач адказаў, што “Вологда, Москва, Смоленск и Житомир составляют географическую линию, которую упомянутая болезнь не может перешагнуть” [87]. Да гэтага ён меў справу з невядомай еўрапейскай медыцыне хваробай. Адсюль зыходзіць яго недаацэнка эпідэмічнага характару захворвання, тым больш, што сапраўды аж да канца чэрвеня 1831 года халеры ў Віцебску і губерні не было.

21 сакавіка 1831 г. віцебскі віцэ-губернатар Давыдаў дакладваў міністру ўнутраных спраў: “Честь имею донести, что по благости божьей в Витебской губернии эпидемической болезни холеры не существовало...” [88]. Толькі ўлетку гэтага года страшная азіяцкая госця з’явілася ў горадзе. “Холера посещала тогда Европу в первый раз, -успамінаў відавочца М.Маркс, - и как бы для устрашения её, свирепствовала неимоверно. Большею частью она поражала так быстро, что времени ни на какое бы то ни было лечение её не хватало. (...) Народ падал на улицах”. Відавочца падкрэсліваў непасрэднае ўздзеянне эканамічных фактараў на распаўсюджванне хваробы: “Особенно пострадали бедные евреи. Почти три четверти смертностей пало на их долю. И гигиенические условия их жизни, и санитарная обстановка, и, наконец, физическая расовая их слабость - всё враждебно действовало на них, и, кажется, ни один заболевший из них не оставался при жизни” [89].

Гібенталь энергічна распачаў змаганне супраць халеры, увайшоў у склад створанага супрацьхалернага камітэта. Па распрацаванаму ім плану “город был разделён на участки; и к каждому участку приставлен один надзиратель, из местных жителей, и один врач (...). В каждом участке было по две больших телеги, возившие из домов и улиц больных в лазареты и мёртвых из домов и лазаретов в ямы. Два служителя, одетые в чёрное, пропитанное дёгтем платье, были при каждой телеге; а полицейские сторожа распоряжались по указанию врача и смотрителя этим амбулянсом (санітарнымі драбінамі - *В.Г.*)” [90].

Каб была больш зразумелай прагрэсіўнасць мерапрыемстваў Гібенталя па барацьбе з халерай, нагадаем, што праз год у Парыжы гурт урачоў-утапістаў (сярод іх былі сацыялісты-сен-сіманісты і сацыялісты-фур’ерысты) таксама прапанаваў падзяліць горад на такія ж участкі і бясплатна ўдзельнічаць у медыцынскай дапамозе насельніцтву і ў правядзенні санітарных мерапрыемстваў [91].

М.Маркс адзначаў, што “за пределами города устроены (были) две больницы; а на Песковатике выкопали две огромнейшие ямы для погребения, отдельно христиан, отдельно евреев. По ночам трупы заливали в ямах раствором извёстки; а по наполнении засыпались землёю и обливались тем же раствором. Врачебная управа (чытай: Гібенталь! - *В.Г.*)предписала жителям запастись хлорною водою, которая должна была стоять налитою на тарелки в каждой комнате, и спиртовым настоем стручкового перца, для втирания при судорогах. Дом, в котором оказывалось заболевание, сейчас же оцеплялся стражею, и ни входа, ни выхода из него не дозволялось никому” [92].

Рацыянальныя мерапрыемствы, арганізаваныя Гібенталем для знішчэння эпідэміі, прывялі да таго, што ў Віцебску з кожнай сотні хворых памерла толькі 38, у той час, як у Віцебскай губерні з сотні гінула 62 чалавекі. Гэтыя падлікі мы зрабілі па афіцыйных дадзеных, якія прывёў віцебскі краязнаўца XIX стагоддзя А.М.Семянтоўскі [93].

Ужо з самага пачатку эпідэміі ўрач склаў запіску аб мерах супраць захворвання і 13 кастрычніка 1830 года даслаў яе міністру ўнутраных спраў [94]. Вопыт барацьбы з халерай у Паволжжы ён паведаміў у артыкуле, змешчаным у адным нямецкім часопісе ў 1831 г. [95] Артыкул выйшаў у свет асобным выданнем у Пецярбургу ў 1832 годзе на нямецкай мове [96]. У яго былі ўнесены дапаўненні на падставе вопыту барацьбы супраць халеры на Валыні і ў Віцебску [97]. Гібенталь адмовіўся ад лячэння халеры опіумам і кровапусканнямі і прапанаваў выкарыстоўваць пры захворванні водныя і спіртавыя растворы кавы, якія “возбуждают угнетённую и упавшую деятельность сосудистой системы” [98]. Пры гэтым, па назіранню ўрача, “возвращается потерянная нормальная теплота крови, биение сердца и пульса делается живее, и больной спасён”. Да гэтай пары пры з’явах паслаблення сардэчна-сасудзістай дзейнасці пры халеры выкарыстоўваецца кафеін, які ўтрымліваецца ў каве. Такім чынам, Гібенталь правільна вырашыў, як трэба лячыць хворых. Бо ў тыя часы ўрачы не ведалі, што для вывядзення хворых з вельмі цяжкага стану пры халеры трэба ўводзіць у вену вялікую колькасць солевых раствораў. Спосаб лячэння халеры, які прапанаваў Гібенталь, прыцягнуў увагу ўрачоў. Аб гэтым сведчыць указанне Дзядзькоўскага, які пісаў аб метадах лячэння халеры: “(...) Мы лучшим из всех сих способов почитаем способ, предложенный г.профессором Еллинским. Впрочем, к числу сих способов принадлежат также и способы, предложенные Мухиным, Фуксом, Вишневским, Соломоном, Гюбенталем, Забиякиным, Челноковым и мн. др.” [100]

Паспяхова змагаўся Гібенталь і з масавымі захворваннямі жывёлы, якія пагражалі дабрабыту і здароўю насельніцтва. Урач склаў тэксты трох брашур аб барацьбе супраць яшчура і язвавага стаматыту ў рагатай жывёлы: адну ў Цвяры (“Способы лечения и предотвращения скота”), а дзве другія пазней у Віцебску. Віцебскія брашуры - адны з самых ранніх папулярных ветэрынарных выданняў у Беларусі - нам удалося знайсці ў Цэнтральным гістарычным архіве Беларусі. Адна з іх носіць назву “Наставление по случаю открывшегося в Витебской губернии скотского падежа. С показанием признаков и способов лечения и предохранения” (Віцебск, 1820, 10 с.)[101]. Трэцяй брашуры ўрач даў такую ж назву і выдаў праз сем год [102]. У брашурах урач рэкамендаваў мерапрыемствы па барацьбе супраць яшчура і язвавага стаматыту ў рагатай жывёлы.

Ад ветэрынарнай практыкі не так ужо далёка і да агранамічнай. У 1826 г. па ўзору сталіцы перадавыя дваране Віцебскай губерні арганізавалі Беларускае вольна-эканамічнае таварыства[103]. Яно праіснавала пятнаццаць год. Актыўным супрацоўнікам таварыства і яго скарбнікам быў Гібенталь [104].

У 1833 г. Гібенталь прыняў у арэнду набыты ў свой час таварыствам хутар Залучоссе, які да таго часу “находился в весьма посредственном состоянии” з-за дрэннага кіравання ім [105]. Добрым гаспадараннем Гібенталь прывёў хутар да ладу. Вопыт гэтай сваёй працы ён выклаў у артыкуле “Краткая история Белорусского Вольного экономического общества”, рукапіс якога быў выяўлены намі ў мінскім архіве [106]. Рукапіс быў прызначаны да публікацыі ў “Витебских губернских ведомостях” [107].

Гібенталем былі падведзены вынікі дзейнасці таварыства ў выдадзеным ім адзіным нумары часопіса "Летопись Белорусского общества сельского хозяйства" (кн. 1. СПб., 1841, 128 стар.), большасць артыкулаў якога належыць яго пяру. Сярод гэтых артыкулаў некаторыя мелі прамыя адносіны да медыцынскай тэматыкі. Напрыклад, "Опыт флоры белорусской", у якім пералічаны шэраг лекавых раслін [108].

Хай чытача не здзіўляе, што вышэйша зацверджанае Беларускае вольна-эканамічнае таварыства выдавала "Летопись Общества сельского хозяйства". Гісторык таварыства В.П.Федаровіч праз шэсцьдзесят год пасля яго закрыцця пісаў на гэты конт: "Допущенное в заглавии (журнала) изменение названия Общества явилось плодом излишней осторожности издателя" [109]. На жаль, змена назвы часопіса была зусім не асцярожнасцю. Яна лішні раз нагадвае нам аб тым часе, калі працаваў Гібенталь. Часопіс выходзіў у свет у самы суровы час ганенняў на вольнадумства, калі адна кулінарная кніга не была прапушчана цэнзарам у свет з-за парады ставіць посуд для прыгатавання стравы, каб яна пратушылася, "в вольный дух".

Як выдавец і рэдактар Гібенталь адхіляў рэакцыйныя выказванні аўтараў іншых артыкулаў выдання [110]. Ён выступаў супраць вінакурства і распаўсюджвання памешчыкамі ўжывання водкі сярод сваіх сялян [111]. Для павышэння ўраджайнасці ўрач прапагандаваў прапанаваную ім новую канструкцыю плуга [112]. У набытым Гібенталем маёнтку Каралёва (інакш Карлава) [113], на адлегласці сарака вёрст ад Віцебска ўрач палепшыў побытавыя ўмовы сялян, у дамах якіх, па сведчанню відавочца, былі заведзены "досчатый пол, печь с трубою, оконные рамы со стеклом"[114]. Але, бадай, лепш за ўсё аб узаемаадносінах Гібенталя з сялянамі кажа прыведзенае на пачатку артыкула сведчанне Б.Цэлінскага. Ніводнаму памешчыку аграном, які пабываў у розных маёнтках Беларусі, не даваў гэтакай станоўчай характарыстыкі.

Мы не імкнемся ідэалізаваць асобу ўрача, сына сваёй эпохі і асяроддзя, але на фоне сваіх сабратаў па класу Гібенталь выглядаў заўважна лепш за іх. Нават у сваёй, здавалася б, далёкай ад медыцынскай, дзейнасці Гібенталь паслядоўна кіраваўся гуманнымі прынцыпамі.

Гібенталь быў вядомы сваёй прынцыповасцю і патрабавальнасцю. Прамы характар урача не дазваляў яму мірыцца з бязладдзем і слабай пастаноўкай медыцынскай справы ў Цвярской губерні. Не толькі на паседжаннях мясцовай урачэбнай управы, але і ў іншых месцах Гібенталь заўжды казаў аб гэтым і патрабаваў змен у парадку работы. Рэакцыю начальства на гэта нецяжка прадбачыць: 17 красавіка 1814 г. цвярскі губернатар зрабіў Гібенталю заўвагу за "непристойные поступки против начальства в рекрутском присутствии", а 16 мая 1815 г. звольніў з пасады інспектара ўправы "за неуважение к местному своему начальству" [115].

Гады не змянілі неспакойнага характару ўрача. Калі ў 1836 г. новы прыбылы ў Віцебск ваенны губернатар І.С.Жыркевіч падчас агляду бальніц стаў рабіць заўвагі Гібенталю, той дзёрзка адказаў, што ў генерал-губернатара трох губерняў М.М.Хаванскага прэтэнзій да бальніц не было. Раз'юшаны ўпэўненым тонам Гібенталя, губернатар рззка абарваў яго і арыштаваў наглядчыка бальніц: самога ўрача арыштаваць ён не набраўся рашучасці [116]. Незалежнасць Гібенталя падкрэсліваў і Б.Цэлінскі. Ён характарызаваў яго "как человека действительно остроумного, с разнообразными познаниями, с оригинальными мыслями и взглядами на вещи" [117]. Акаляючымі ж губернскімі жыхарамі такія якасці расцэньваліся як пагарда, фанабэрыя, арыгінальнічанне, "самообожание" [118].

Да Гібенталя падыходзіць характарыстыка, дадзеная папулярызатарам гісторыі навукі Я.Галаванавым другому яго аднапляменніку - фізіку Якобі: "Если говорить формально, он был как раз тот чужеземец, от засилья которых извечно страдала российская наука. Но жестокой несправедливостью было бы валить в кучу иноземных паразитов и очевидных бездарностей и людей более чем достойных, руководствуясь лишь их происхождением" [119]. Гібенталь прысвяціў Беларусі амаль паўстагоддзя жыцця, гэты край ён пакідаў толькі ў 1812 г., каб зноў стаць пад армейскія сцягі. Папярэднік дзеячоў земскай медыцыны, урач сваёй працай адхіляў руціну, абывацельшчыну, коснасць урачоў свайго часу.

Медыцынскія веды фарміруюцца працай не толькі славутых дзеячоў, але і шматлікіх добрасумленных, ведаючых спецыялістаў, якія не займалі вядучыя пазіцыі ў навуцы. Будынак медыцыны ўзводзіцца з мноства цаглін і камянёў, якія закладваюць у яго падмурак сціплыя працаўнікі навукі і практыкі. Іх даволі часта абыходзяць увагай гісторыкі. Такім працаўніком быў і Гібенталь.

Многае з таго, што сеяў Гібенталь у мікалаеўскую эпоху, падала на камень. Але асноўнае прарастала, ператваралася ў рэальнасць у лепшых умовах у лепшы час. Такім было, у прыватнасці, прапанаванае ім прымяненне гіпсу ў хірургіі, распаўсюджанае яго малодшым сучаснікам вялікім Піраговым.

***Пераклад з рускай мовы У.Сцепановіча.***

***Літаратура і крыніцы:***


1. Марганатычны шлюб - нярoўнародны шлюб, пры якім адзін бок не карыстаецца саслоўнымі прывілеямі другога. Іаана Грудзіньская не карысталася правамі асобы царскага роду.
2. Вядомаму польскаму гісторыку.
3. A.Czartkowski. Księżna Łowicka. Portret biograficzny (1791-1831). Poznań, (1930). S.161-162; таксама K.Kolińska. Tajemnice i damy. Warsawa, 1975. S.81-82.
4. Ліст выконваючага абавязкі дырэктара Крымскага абласнога дзяржаўнага архіва Н.Крыўцовай аўтару №83 ад 5 мая 1974 г.
5. Е.П.Карнович. Цесаревич Константин Павлович. Биографический очерк. СПб., 1899. С.247-253.
6. Карпов. Записки полковника (...) 1807-1837 гг. Труды Витебской учёной архивной комиссии. Кн.І. Витебск, 1910. С.77.
7. А.-Н.-Л.-К. де Мориолль. Записки графа (...)(1821-1833). Исторический вестник. 1909. Т.118, №10, С.76-77.
8. Н.С.Лесков. Человек на часах. У кн.: Н.С.Лесков. Повести и рассказы. Омск, 1947. С.138.
9. Напісанне прозвішча ўрача мае два варыянты: сам ён і "Гібенталь", і "Гюбенталь" (у нямецкай транскрыпцыі Hübenthal), поўная ж форма прозвішча была "Урангель-фон-Гюбенталь (Гібенталь)". Часцей у дакументах і выданнях сустракаецца першая форма.
10. Б.Целлинский. Агрономические путешествия по России. Обозрение некоторых имений Могилевской и Витебской губерний. (артыкул II). "Журнал Министерства государственных имуществ". Ч.26, №1, 1848. С.40-41.
11. Т.Зацепин. Гипсовые повязки, корсеты, кроватки. Большая медицинская энциклопедия. 2-е изд. Т.7. М., 1958. С.315.
12. А.А.Ландшевский. Исторический очерк кафедры академической хирургии императорской Военно-медицинской академии (1798-1898). СПб., 1898. С.57; Н.А.Оборин. Первое в России применение гипса для лечения переломов костей. Хирургия. 1956, №9. С.87; Н.А.Оборин. О первом в Европе применении гипса для лечения переломов костей. - Вопросы истории медицины и здравоохранения БССР. (Тезисы докладов научной конференции). Минск, 1960. С.32-33; Н.А. Оборин. О первом в Европе применении гипса для лечения переломов костей. -Новый хирургический архив. 1961, №1. С.83-89; В.П.Грыцкевіч. Віцебскі вынаходнік гіпсавай павязкі. Беларусь. 1961, №1. С.32; В.П.Грицкевич. Впервые в европейской медицине. Нёман. 1965, №4. С.157-160; Г.Р.Крючок, В.П.Грицкевич. Видный врач Белоруссии К.И.Гибенталь (к 175-летию со дня рождения). Здравоохранение Белоруссии. 1962, №3. С.64-66; В.П.Грицкевич. Передовой провинциальный врач К.И.Гибенталь (1786-1858) (новые биографические данные). Советское здравоохранение, 1974, №4. С.74-79.
13. Ж.Ф.Мальгень. Учение о переломах костей. Перевёл с французского доктор Я.(А.)Чистович. СПб., 1850. С.225-226; Е.М.Кракиновская. Физическая антисептика и лечение ран. Очерки по истории русской хирургии. М.Л. 1960. С.162-164.
14. Гібенталь (аб ім). Беларуская Савецкая энцыклапедыя. Т.3. Мінск, 1971. С.464.
15. Ю.(К.)Шимановский. Гипсовая повязка. Перевод с немецкого. СПб., 1863. С.13.
16. Н.А.Оборин. Первое в России применение гипса (...). С.83-84.
17. Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў у Санкт-Пецярбургу (далей - РДГА ў Санкт-Пецярбургу), ф. 1343, воп. 19, спр. 202, арк. 2 адв.; спр. 5750, арк. 2 адв.; Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (далей - НГАБ), фонд 1416, воп. 2, спр. 7168, арк. 438 адв.
18. РДГА ў Санкт-Пецярбургу, фонд 1299, воп. 8, спр. 3, арк. 2 адв.
19. РДГА ў Санкт-Пецярбургу, фонд 1343, воп. 19, спр. 5750, арк. 2 адв.
20. НГАБ, фонд 1416, воп. 2, спр. 7168, арк. 438 адв.
21. РДГА ў Санкт-Пецярбургу, фонд 1343, воп. 15, спр. 202, арк. 2 адв.
22. А.И.Полежаев. Сашка. У кн.: А.И.Полежаев. Полное собрание стихотворений. Л., 1939. С.8.
23. Н.И.Тургенев. Дневники и письма за 1806-1811 гг. Т.1. СПб., 1911. С.306.
24. K.W.Justi. Grundzüge einer Geschichte der Universität zu Marburg. Marburg, 1827, s.108-110; F.W.Unger.Göttingen und die Georgia Augusta. Ed.1. Göttingen, 1861, s.80; G.Selle. Die Georg-August Universität. Göttingen, 1937. S.212-213.
25. Moniteur (Paris), an X, 10 Prairial, № 250; Gottingen den 6.May 1802. Medicinisch-chirurgische Zeitung, herausgegeben von Dr. J.J. Hartenkeil. (Salzburg), 17. June 1802, №48, S.430-431; Die Unruhen un Göttingen in Hauptbezug auf L.Spangenberg. Rostock, 1806, XVI + 103. S; Gottingen. Verordnungen bei Gelegenheit des Auszugs des Studenten (19. Januar 1806). Imtelligenzblatt der Allgemeinen - Literatur - Zeitung, 15.Februar, 1806. № 27. S.211.
26. J.H.Sternberg. Bruchstücke über akademische Bildungsanstalten für medizinstudierende, mit besonderer Hinsicht auf die Universität Marburg, in Briefen. Leipzig, 1806, S.16-84; S.A.Kaehler. Die Universität Marburg von 1653-1866. In: H.Hermelink, S.A.Kaehler. Die Philipps - Universität. 1527-1927. Marburg, 1927. S.447-448.
27. РДГА ў Санкт-Пецярбургу, фонд 1343, воп. 19, спр. 5750, арк. 2 адв.
28. Марбург. Энциклопедический словарь. Издатели Ф.Брокгауз и Н.Ефрон. Т.36. СПб., 1896. С.593.
29. А.Д.Эпштейн. История Германии от позднего средневековья до революции 1848 года. М., 1961. С.368-369.
30. РДГА ў Санкт-Пецярбургу, ф. 1299, воп. 8, спр. 3, арк. 3.
31. История лейб-гвардии Егерского полка за сто лет. 1796-1896. СПб., 1896. С.37-48. В.В.Ранцов. 1795-1897. Сто два года боевой и мирной жизни 96-го пехотного Омского полка. СПб., 1902. С.56-58, 60-76.
32. РДГА ў Санкт-Пецярбургу, ф. 1343, воп. 19, спр. 5750, арк. 3.
33. В.В.Дементьев. Великое устье. М., 1972. С.208-221.
34. Цэнтральны дзяржаўны ваенна-гістарычны архіў у Маскве, ф. 879, воп. 1, спр. 31, арк. 6.

35. РДГА ў Санкт-Пецярбургу, ф. 1299, воп. 8, спр. 3 (фармулярныя спісы членаў Віцебскай урачэбнай управы), арк. 2 адв. - 3.
36. Коновницын Петр Петрович (о нем). Русский биографический словарь. Т.Кнаппе-Кюхельбекер. СПб., 1903. С.109.
37. РДГА ў Санкт-Пецярбургу, ф. 1299, воп. 8, спр. 3, арк. 3 адв. - 4.
38. Catalogus examinum et promotionum in Fakultate Im(perialis) Un(iversitatis) Viln(ensis). Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў Літвы ў Вільнюсе, ф. 1135, воп. 5, спр. 10, арк. 19 адв.
39. РДГА ў Санкт-Пецярбургу, ф. 1299, воп. 1, спр. 7 (Об открывшейся цынготной болезни по Польским губерниям: Гродненской, Могилевской, Витебской, Волынской и Минской и о принятых мерах к прекращению оной), арк. 27 адв.
40. Тамсама, арк. 28.
41. K.Estrejcher. Bibliografia polska XIX w. T.2. G-L. Kraków, 1874; T.5. W-Z. Kraków, 1880. T.6. Dopełnienia. A-O. Kraków, 1881.
42. РДГА ў Санкт-Пецярбургу, ф. 1299, воп. 1, спр. 7, арк. 44 адв.
43. Тамсама. Ф. 1343, воп. 19, спр. 5750, арк. 3 адв. і інш.
44. Тамсама. Ф. 1299, воп. 1, спр. 7, арк. 29.
45. Н.И.Пирогов. Вопросы жизни. Дневник старого врача (...). У кн.: Н.И.Пирогов. Сочинения. Т.1, СПб., 1887. С.50, 69.
46. C. von Hübenthal. Neue Behandlungsweise der Knochenbruche. Russische Sammlung für Naturwissenschaft und Heilkunst. B.1. Riga - Leipzig, 1816. S.592-593; (C.) Hübenthal. Nouvelle manière de traiter les fractures. Nouveau journal de mèdicine, chirurgie, pharmacie. 1819. T.5. P.210-213.
47. РДГА ў Санкт-Пецярбургу, ф. 1349, воп. 3, спр. 641, арк. 117-122 адв.; Дзяржаўны архіў Калінінскай вобласці (скарочана ДАКВ), ф. 466, воп. 1, спр. 660, арк. 1-2.
48. РДГА ў Санкт-Пецярбургу, ф. 1299, воп. 1, спр. 434 (О прикомандировании к Тверской военной гошпитали по случаю болезни двух врачей в оной находящихся оператора тамошней врачебной управы Гибенталя).
49. РДГА ў Санкт-Пецярбургу, ф. 1343, воп. 19, спр. 5750, арк. 4 адв.
50. РДГА ў Санкт-Пецярбургу, ф. 1343, воп. 19, спр. 5750, арк. 4 адв.
51. ДАКВ, ф. 466, воп.1, спр. 780, арк. 1.
52. Тверские губернские ведомости, 1863, май. Вельмі ўдзячны за прадстаўленыя мне ў 1959 г. дадзеныя аб знаходжанні Гібенталя ў Цвяры (Дзяржаўны архіў Калінінскай вобласці, ф.802, спр. 88, 99, 103, 104, 105, 114) начальніку архіва І.Віслабокаву і навуковаму супрацоўніку М. Багданавай, а за капіраванне адпаведных дакументаў у 1972 г. - Г.Н. Прыпачкінай.
53. РДГА ў Санкт-Пецярбургу, ф. 1297, воп. 15, спр. 202 (О назначении пенсии инспектору Витебской губернской управы статскому советнику Гюбенталю сверх получаемого им на службе жалованья), арк. 1-13.
54. РДГА ў Санкт-Пецярбургу, ф. 1297, воп. 15, спр. 690 (Насчет определения штаб-лекарей Заруцкого, Сезневского, Рожественского и медико-хирурга Бланка на вакансию инспектора Одесской врачебной управы) арк. 7 адв.
55. Тамсама, арк. 9 адв.
56. НГАБ, ф. 1436, воп. 1, спр. 188, арк. 15-17.
57. А.П.Сапунов. Историческая записка 75-летия Витебской гимназии. Витебск, 1884. С.103-104.
58. О назначении пенсии вдове бывшего попечителя Витебской губернской гимназии... Врангель-фон-Гюбенталя. "Витебские губернские ведомости". Официальная часть. Отдел 1. 28 ноября 1859г., №48. С.587.
59. М.Маркс. Записки старика. Дзяржаўная навуковая бібліятэка АН Украіны ў Львове. Рукапісны аддзел. (Скарочана РА ДНБ АН Украіны ў Львове). №3454, арк. 7 адв. Аб гэтай крыніцы гл.: Т.Ф.Федосова. Воспоминания Максимилиана Маркса "Записки старика". У кн.: "Исследования по истории польского общественного движения XIX в. - нач. XX в. Сборник статей. М. 1971. С.148-196.
60. А.А.Ландшевский. Исторический очерк кафедры академической хирургии императорской Военно-медицинской академии (1798-1898). СПб., 1898. С.57.
61. C. von Hübenthal. Abbildung und Beschreibung einiger neuen Instrumente. Magazin für gesamte Heilkunde. 1830. B. 30. H.3. S.474-479; Г.И.Перлин. Историческая заметка о камнедробителе К.И.Гибенталя. "Урология". 1956, №1. С.58-59.
62. К.И.Гибенталь. Описание жизне-магнетического лечения, произведенного на опыте. Витебск, 1817. 31 с. Пераклад на польскую мову: Opisanie wyleczenia przez magnetyzm zwierzęcy doświadczeniem stwierdzonym przez doktora Karola von Hibenthala inspektora Białorusko-Witebskiego urzędu. Pamiętnik magnetyczny Wileński. T.2, №7, 30 lipca 1817, s.177-193.
63. РДГА ў Санкт-Пецярбургу, ф. 1299, воп. 1, спр. 226 на 896 аркушах (О лечении инспектором...Гибенталем девицы Заблоцкой посредством магнетизма).
64. РДГА ў Санкт-Пецярбургу, ф. 1299, воп. 10, спр. 556 (О появившейся заразительной горячке на людях Суражского повета Витебской губернии в имении подполковника Глинского), арк. 60.
65. РА ДНБ АН Украіны ў Львове, №3454, арк. 7 адв.
66. Аб гэтай эпідэміі гл.: К.Г.Васильев, А.Е.Сегал. История эпидемий в России. (Материалы и очерки). М., 1960. С.252-254; Д.И.Дранкин. Холера, прошлое и настоящее. Саратов, 1973. С.3-12; В.П.Грицкевич. Из ранней истории борьбы с холерой в России (20-30-е годы XIX в.) Журнал микробиологии, эпидемиологии и иммунобиологии. 1974, №3. С.148-151 і інш. У артыкуле аб эпідэміі В.П.Браўнова "М.Я.Мудров в борьбе с холерной эпидемией в России (1830-1831 гг.)". Фельдшер и акушерка. 1981, №11. С. 54-56 прысутнічаюць сур'ёзныя недакладнасці.
67. С.М.Громбах. Пушкин и медицина его времени. Асклений. Т.5, София, 1978. С.65-68.
68. РДГА ў Санкт-Пецярбургу, ф. 1301, воп. 1, спр. 24, арк. 1-3.

69. (И.Е.Дядьковский) Критическое обозрение различных способов лечения повально-заразительной холеры и изложение способа, принятого мною. У кн.: Трактат о повально-заразительной болезни холере, бывшей в России в 1830 и 1831 гг. , сочиненный членами медицинского совета при Центральной комиссии и рассмотренный медицинским советом М(инистерства) в(нутренних) д(ел). СПб, 1831. С.380.
70. РДГА ў Санкт-Пецярбургу, ф. 1299, воп. 10, спр. 556 (О появившейся заразительной горячке на людях Суражского повета Витебской губернии в имении подполковника Глинского), арк. 5, 8-8 адв. С.41-42, 49.
71. РДГА ў Санкт-Пецярбургу, ф. 1301, воп. 1, спр. 24, арк. 16.
72. РДГА ў Санкт-Пецярбургу, ф. 1301, воп. 1, спр. 113 (По циркулярному предписанию о доставлении аттестаций медикам), арк. 63 адв.; спр. 39 (О распоряжениях по пресечению холеры в Саратовской губернии), арк. 33.
73. Ліст дырэктара Дзяржаўнага архіва Саратаўскай вобласці Л.І.Шаройка аўтару. №181 ад 1 жніўня 1972 г.
74. РДГА ў Санкт-Пецярбургу, ф. 1301, воп. 1, спр. 39 (О распоряжениях по пресечению действий холеры в Саратовской губернии), арк. 100.
75. РДГА ў Санкт-Пецярбургу, ф. 1301, воп. 1, спр. 29 (О распоряжениях по пресечению холеры, появившейся в г.Вологде), арк. 10.
76. Тамсама, арк. 25.
77. РДГА ў Санкт-Пецярбургу, ф. 1301, воп. 1, спр. 113, арк. 63 адв.
78. РДГА ў Санкт-Пецярбургу, ф. 1301, воп. 1, спр. 113, арк. 20.
79. РДГА ў Санкт-Пецярбургу, ф. 1301, воп. 1, спр. 29, арк. 19.
80. РДГА ў Санкт-Пецярбургу, ф. 1301, воп. 1, спр. 133 (О мерах, принятых против холеры в Волынской губернии), арк. 47. Аб гэтай эпідэміі гл.: Г.Ф.Брунс. К истории эпидемии холеры в Волынской губернии. Эпидемия 1830-1831 года. У кн.: Протоколы об-ва врачей Волынской губ. 1885 г. Житомир, 1855. С.19-26.
81. РДГА ў Санкт-Пецярбургу, ф. 1301, воп. 1, спр. 133, арк. 58.
82. Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў Украіны ў Кіеве (скарочана ЦДГА Украіны), ф. 1342, воп. 1, спр. 50 (О холере в Подольской и Волынской губерниях), арк. 108 адв.
83. У гэты час царскія войскі падаўлялі народна-вызваленчае паўстанне ў Польшчы, Літве і Беларусі.
84. ЦДГА Украіны, арк. 109 адв.
85. РДГА ў Санкт-Пецярбургу, ф. 1301, воп. 1, спр. 133, арк. 74.
86. ЦДГА Украіны, ф. 1342, воп. 1, спр. 50, арк. 132, 138 адв.
87. Цытата па: А.М.Сементовский. Витебск. Исторический очерк. У кн.: "Памятная книжка Витебской губернии на 1864 год". СПб., 1864. С.109.
88. РДГА ў Санкт-Пецярбургу, ф. 1301, воп. 1, спр. 108 (О мерах предосторожности от холеры, принятых в Витебской губернии), арк. 4.
89. РА ДНБ АН Украіны ў Львове, №3454, арк. 18 адв. - 19.
90. РА ДНБ АН Украіны ў Львове, №3454, арк. 18 адв. - 19. Гл. таксама: А.М.Сементовский. Зг. сач.С.110.
91. П.Е.Заблудовский. Пути и этапы развития общественной медицины. Советское здравоохранение, 1968, №12. С.65; Ён жа. Пути развития общественной медицины. М., 1970. С.351.
92. РА ДНБ АН Украіны ў Львове, №3454, арк. 18 адв. - 19.
93. А.М.Сементовский. Зг. сач.С.111.
94. РДГА ў Санкт-Пецярбургу, ф. 1301, воп. 1, спр. 24, арк. 39.
95. C. von Hübenthal. Darstellung und Behandlung der Orientalischen Cholera. Journal des praktischen Heilkunde von Hufeland. 1831. B.72. 1 Stuck.
96. C. von Hübenthal. Darstellung und Behandlung der Orientalischen Cholera. S. - Petersburg, 1832, 20 S.
97. РДГА ў Санкт-Пецярбургу, ф. 1294, воп. 5, спр. 113 (О наблюдениях о холере Гюбенталя), арк. 3 адв.
98. РДГА ў Санкт-Пецярбургу, ф. 1299, воп. 16, спр. 1171 (По журналу Медицинского совета и истребовании от доктора Гюбенталя некоторых дополнительных сведений о болезни холеры), арк. 7 адв. 8.
99. Холера. - Большая медицинская энциклопедия. 2-е выд. Т. 34, М., 1964. С.83.
100. (И.Е.Дядьковский) Критическое обозрение различных способов лечения повально-заразительной холеры и изложение способа, принятого мною. У кн.: Трактат о повально-заразительной болезни холере, бывшей в России в 1830 и 1831 гг. , сочиненный членами Медицинского Совета при Центральной комиссии и рассмотренный Медицинским Советом МВД. СПб, 1831. С.380.
101. НГАБ, ф. 1436, воп. 1, спр. 65, арк. 1-6. Тэкст брашуры перадрукаваны ў выданым пад рэд. К.І.Гібенталя часопісе "Летопись Белорусского общества сельского хозяйства" (кн. 1, СПб., 1841. С.26-32).
102. (К.І.Гібенталь). Краткое наставление по случаю открывшегося в Витебской губернии скотского падежа с показанием признаков и способов лечения сей болезни (Витебск, типография губернского правления, 1827). НГАБ, ф. 1430, воп. 1, спр. 845, арк. 2-6.
103. Высочайше утверждённое положение Комитета Министров. О учреждении в Белоруссии Вольного экономического общества. № 51, 12 января 1826 г. Полный свод законов Российской империи. Собрание второе. Т. 1, СПб., 1830. С.69-73.
104. НГАБ, ф. 2779, воп. 1, спр. 11 (Список членам Белорусского Вольно-Экономического общества), арк. 1; В.П.Федорович. Устав Белорусского Вольно-Экономического общества. К (его же) докладу "Белорусское Вольно-экономическое общество". У кн.: Труды первого областного съезда сельских хозяев в г. Двинске в 1903 г. Витебск, 1904. С.XVIII-XXIX; Д.М. Васілеўскі. Беларускае вольна-эканамічнае таварыства. "Наш край", 1927, №12. С.16; Н.В.Воробей. О белорусском вольно-экономическом обществе. Сборник научных работ Белорусского политехнического института. Вып. 68. Минск, 1958. С.164-173; И.Л.Козловский. К вопросу о развитии экономической мысли в Белоруссии (конец XVIII-нач.XIX вв.). У кн.: Из истории экономической мысли народов СССР. М., 1961. С.63-74.

105. М.П.Жданов. Путевые записки по России в двадцати губерниях. СПб., 1843. С.174.
106. НГАБ, ф. 2779, воп. 1, спр. 16 (О представлении сведений о состоянии Белорусского Вольно-экономического общества за 1838, 1839, 1840 и 1841 гг. и о закрытии его), арк. 247-250.
107. Тамсама, арк арк. 110-113.
108. Летопись Белорусского общества сельского хозяйства. Кн.1, СПб., 1841. С.78-119.
109. В.П.Федорович. Зг. сач. С.XXVIII.
110. Примечания издателя. Летопись Белорусского общества сельского хозяйства. С.40.
111. Об улучшении состояния крестьян и о способе заменить по Витебской губернии подати подушную и за право винокурения. Тамсама. С.53-66; Записки И.С.Жиркевича. Русская старина, 1890, №8. С.242.
112. Новый плуг, изобретённый издателем "Летописи". Летопись Белорусского общества сельского хозяйства. С.5-8.
113. Б.Целлинский. Зг. сач. с.40; РА ДНБ АН Украины ў Львове, №3454, арк. 7 (Słownik geograficzny Królewstwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. T. 15, Warsz., 1902. S.126.
114. Б.Целлинский. Зг. сач. С.40-41.
115. ДАКВ, ф. 466, воп. 1, спр. 10413, арк. 2.
116. Записки И.С.Жиркевича. Русская старина, 1890, №8. С.228.
117. Б.Целлинский. Зг. сач. С.44.
118. РА ДНБ АН Украины ў Львове, №3454, арк. 7 адв.
119. Я.Голованов. Этюды об ученых. М., 1976. С.396.

Анджэй ХАДУБСКІ

# Тадэвуш Лада-Заблоцкі (1811-1847)— паэт, палітычны ссыльны, грамадскі дзеяч

У І-й палове XIX ст. вылучаўся літаратурным талентам прадстаўнік Віцебшчыны Тадэвуш Лада-Заблоцкі (1). Ён паходзіў з сям'і шляхціцаў сярэдняй заможнасці. З дзяцінства ён праяўляў вялікія літаратурныя здольнасці і ўвогуле быў чалавекам усебакова адораным. Вучыўся ён вельмі добра. У 1831 г. скончыў Віцебскую гімназію. Потым як адораная асоба атрымаў магчымасць набыцця вышэйшай адукацыі за кошт дзяржавы і паехаў у Маскоўскі універсітэт, дзе быў прыняты на славеснае аддзяленне. З 1831 г. вучыўся ў Маскве.




Тадэвуш Лада-Заблоцкі быў чалавекам вельмі таварыскім, які шмат часу праводзіў сярод людзей. Ён ахвотна ўдзельнічаў у таварыскіх сустрэчах і бяседах. Такія паводзіны былі тыповымі для інтэлігенцыі, што паходзіла з беларускіх зямель.

Ён добра адаптаваўся ў акадэмічным асяроддзі Масквы. Звязаўся з літаратурнымі арганізацыямі, у тым ліку з тайным таварыствам аматараў роднай літаратуры, а таксама "Таварыствам 11 нумера" (нумар пакою ў студэнцкім інтэрнаце). Гэтыя таварыствы былі прасякнуты ідэалістычнай філасофіяй, высока цанілі ідэі патрыятызму і вольнасці.

Аднак, доўга ў Маскве Ладзе-Заблоцкаму быць не давялося. Ужо ў першы год свайго знаходжання там ён быў арыштаваны за напісанне верша, скіраванага супраць цара, і распаўсюджванне антыцарскіх ідэй.

Працэс супраць яго цягнуўся чатыры гады. Частку гэтага часу ён знаходзіўся на волі. Жыў тады ў Беларусі, у прыватнасці, у Мосыры, Бружках і Віцебску, дзе знаходзілася яго сям'я. У 1837 г. быў вынесены вырак, паводле якога Заблоцкі прыгаворваўся да 24 гадоў катаргі, якую павінен быў адбываць як просты салдат у каўказскім корпусе. Восенню 1837 г. ён трапіў у Таганрог на Азоўскім моры.

З Таганрога быў накіраваны на фронт ваенных дзеянняў на Каўказе. Сярод іншых, быў у наступных гарадах і станіцах: Безапасная, Царскія Калодцы, Хазары, Ахты, Куба, Дэрбент, Чамаха, Тыфліс, Кульпы. У першыя гады ссылкі як просты салдат ён удзельнічаў у крывавых бітвах, будаваў станіцы, здабываў неабходнае забеспячэнне для арміі.

Ураўнаважаны характар, а таксама высокая асабістая культура дапамагалі Ладзе-Заблоцкаму наладжваць прыватныя кантакты з такімі ж як ён рэкрутамі і начальствам (2). Ён быў чалавекам, адкрытым на рэчаіснасць, якая яго атачала. На яго звярнулі ўвагу лепшыя прадстаўнікі каўказскай інтэлігенцыі, у тым ліку Аббас Кулі Ага Бакіханаў, Мірза Фаталі Ахундаў, Біртваловіч Туманішвілі, Мелітановіч Бараташвілі, Георг Эрыставі, якія высока ацанілі яго талент і літаратурныя здольнасці. Бакіханаў нават даверыў яму пераклад сваёй фундаментальнай працы "Гісторыя ўсходняй часткі Закаўказскага краю". Пра гэты пераклад Заблоцкі пісаў у лісце да Юзафа Ігната Крашэўскага наступнае: "Некалькі дзён назад пачаў пад наглядам аўтара займацца перакладам з персідскай мовы на рускую "Гісторыі Закаўказскага краю" Аббаса-Кулі-Бакі-хана. Праца гэтая, да якой я быў прымушаны ex officio, адбірае ў мяне зараз усе хвіліны вольнага часу" (3).

Грузінскі паэт і публіцыст Туманішвілі прадставіў Заблоцкаму матэрыялы для напісання нарыса пра грузінскую літаратуру. Адзнакай сяброўскіх стасункаў паэтаў быў своеасаблівы абмен перакладамі: Заблоцкі пераклаў "Чару" Туманішвілі, а Туманішвілі - "Алазанскую даліну" Заблоцкага (4).

Хадубскі Анджэй Ян, доктар габілітаваны, надзвычайны прафесар Гданьскага універсітэта. Займаецца ўсеагульнай гісторыяй XIX і XX стст., праблемамі польскай дыяспары, нацыянальных меншасцяў і этнічных груп. Аўтар больш чым 225 публікацый, у тым ліку "Aktywność kulturalna Polaków w Azerbejdżanie w XIX i na początku XX w."(Gdańsk, 1986),"Przemiany społeczne, kwestie narodowościowe i polonijne" (Toruń, 1996),"Wstęp do badań politologicznych"(Gdańsk, 1995) і інш.

Лада-Заблоцкі, знаходзячыся ў ссылцы, сістэматычна займаўся паэзіяй. Ён старанна пазначаў месца і час напісання асобных твораў. Яго першы каўказскі верш з'явіўся ў станіцы Безапасная і быў напісаны 29 верасня 1837 г. Называўся ён "У альбом пані К...скай" (5). Яго радкі гучалі наступным чынам:

Што ж напісаць у альбоме тваім невялічкім?
Незнаёмка, у промнях вясновага сонца
Ты прыгожа асветлена сіняй крынічкай,
Марай шчаслівай са мною вандруеш па роднай старонцы.

Што ж табе напісаць? Ты - крынічка святога натхнення
Ў сэрцы маім і вандроўнай душы.
Лёс мой віхурны пазбавіў цярпення
Добрыя справы з любоўю вяршыць.

Лютня замоўкла ў трывожным адчаі.
Струны настрою на песенны лад,
Каб песня ў сэрцах людскіх загучала
Пра салаўіны сад-вінаград.

Прабач, незнаёмка, за сціплыя словы.
Успомні калісьці ў радзінным краі,
Што ты для мяне, як праменьчык вясновы,
Без цябе я змарнею ці загіну ў баі.

*(Пераклад з польскай мовы Анатоля Канапелькі)*

Вершы Лады-Заблоцкага характарызаваліся роздумам над уласнай доляй, а таксама сумам аб роднай старонцы. Многія строфы былі скіраваны да сяброў, асабліва тых, хто займаўся паэзіяй. Нягледзячы на сваё знаходжанне ў ссылцы, Заблоцкі ўсталяваў кантакты з некалькімі выдаўцамі, якія друкавалі яго творы. Яго вершы з'яўляліся на старонках выданняў "Athenaeum", "Biblioteka Warszawska","Gwiazda", "Rocznik Literacki", "Rubon". У 1845 г. быў выдадзены зборнік яго вершаў пад назвай "Poezje".

Адным з найбольш характэрных вершаў, у якім выказваліся адносіны паэта да Каўказа, быў верш "Ранак у гарах" (6). Ён быў напісаны 22 траўня 1842 г. ва Уладзікаўказе і меў наступныя радкі:

Ранішні ветрык развеяў аблокі ў пагодным блакіце
І азарыў на вяршыні Казбека снежныя грывы.
Як вар'ят, закаваны ў каменным граніце,
Церак шалее шумлівы.

Ля дзікіх стромаў кусцяцца сосны.
А ў іх салаўі аж да самай раніцы
Спяваюць малітву вясновому сонцу,
Што песняй праменнаю з імі вітаецца.

З пяшчотнай смугою ружовых праменняў
Яно зазірнула ў цясніну глыбокую.
А Церак, раз'юшаны ў плыткім імгненні,
Імчыцца ўспенена ў дарогу далёкую.

Зямля першародная ў ранішняй шэрані.
Колькі ж цудаў таемных змяшчае прырода!
Люблю твае глыбы і скалы замшэлыя,
Непакорную мужнасць вольных народаў.

Канапелька Анатоль Мікалаевіч, паэт, перакладчык, літаратуразнаўца, дацэнт кафедры беларускай літаратуры і культуры Віцебскага дзяржаўнага унівесітэта. Аўтар паэтычных кніг "Зямная сімфонія" (Мн., 1966) і "Сустрэчы" (Мн.,1979), а таксама шэрагу публікацый па праблемах сучаснай беларускай паэзіі і прозы.

Люблю прыгажунь, што асвечаны дымкаю,
З усмешкай анёльскай, з агнём адаліска,
Прывеціць гатовы ў гарачых абдымках
Чужынца вандроўнага з краю няблізкага.
Люблю я вяршыні ў папахах аснежаных
І райскія ў звоне пчаліным сады,
Нястомныя рэкі і неба бязмежнае,
І ў хмелю гуллівым вінаград малады.

Я люблю твае песні, край мой гасцінны,
Ды чамусьці тужліва прашу я з вятрыстых дарог:
- Божа, дай хоць на міг зноў убачыць Айчыну,
Бацькоўскі радзімы парог.

Там, у прысадах Падворыцы, Мосара, Асаўца,
Пажыву я, хоць трохі, у свеце казачных чараў -
Паклікалі ўдалеч сваю малайца
Прасторы прыгожыя родных абшараў.

Там, на зялёным улонні палёў і лугоў,
Успомню я першыя сны пра каханне,
Як ля пяшчаных рачных берагоў
Ноччу купальскай сустрэлі світанне.

Марнымі мары юнацтва былі.
Марыў, каханне віхурай закружыць.
Толькі ў розных куточках зямлі
Мяне сустракалі шыпы, а не ружы.

Цяпер жа ў краіне чароўнай жыву.
Тут сэрцы з любоўю адкрытыя насцеж.
- Божа, сівую схілю галаву,
Дай жа пабачыць далёкае шчасце!

*(Пераклад з польскай мовы Анатоля Канапелькі)*

Своеасаблівы раздзел творчасці Лады-Заблоцкага складалі пахавальныя рапсодыі. Гэта былі простыя, напоўненыя салдацкай чуллівасцю вершы, прысвечаныя салдатам, што палеглі ў каўказскіх бітвах. У 1842 г. ён напісаў рапсодыю "На смерць Фелікса Ардынскага, які загінуў у баі з горцамі ў 1841 годзе" (7). Яна мае наступныя словы:

Далёка-далёка ад роднай зямлі,
Там, дзе вятры над Казбекам кружляюць,
Хаваюць таварыша ў ценю далін,
Ў магілцы глыбокай хаваюць.

Апошняй пашаны аддаць не змаглі.
Не грымелі салюты, музыкі не йгралі.
Па жменьцы чужой са слязою зямлі
Мы асцярожна ў магілку кідалі.

Не стала цябе ў смяротным баі.
Загінуў, як рыцар, харобра і мужна.
Плачуць даліны, маўчаць салаўі,
А ў сэрцы маім неспакойна і сцюжна.

Душа адляцела да горных вяршынь.
Пэўна, арлінуяю далеч вартуе.
.......................................................
Фелікс, я знаю, што ў зорнай цішы
Трэба пакінуць памяць святую,
Бо слёзы, пралітыя з горкай жальбой,
Высушыць вечарам вецер вясновы,
А магільны курган, насыпаны мной,
Заўтра разбурыць чачэнец суровы.

Спі, мой таварыш!.. Не спыніцца час,
Хоць у жыцці - гэта толькі імгненне.
Помнікам будзе скалісты Каўказ
З надпісам строгім - жыццё і сумленне.

*(Пераклад з польскай мовы Анатоля Канапелькі)*

Тадэвуш Лада-Заблоцкі быў чалавекам вельмі працавітым. Ён надаваў вялікае значэнне павышэнню ўласнай адукаванасці і выказваў зацікаўленне да пашырэння ведаў нават ва ўмовах абознага жыцця. Ахвоту да атрымання ведаў ён вынес з часу вучобы ў Віцебску. Яго настаўнікамі там былі базыльяне, якія звярталі вялікую ўвагу на салідныя класічныя асновы гуманістычнага выхавання.

Лада-Заблоцкі вылучаўся веданнем некалькіх замежных моў. Ён звяртаў на сябе ўвагу як добры знаўца англійскай мовы і зрабіў пераклады шматлікіх твораў англійскіх паэтаў. Ён лічыцца адкрывальнікам творчасці Шэллі. Заблоцкі часта выкарыстоўваў эпіграфы, пачэрпнутыя з творчасці англійскіх аўтараў, у тым ліку Байрана, Шэкспіра, Мура, Томпсана (8).

На творчасці Лады-Заблоцкага адбілася таксама яго веданне французскай мовы. Паэт быў знаёмы з творчасцю Парні, Ламарціна, Гюго.

Знаходзячыся на Каўказе, Заблоцкі вывучаў мясцовыя мовы. Каб усталяваць лепшыя кантакты ў Тыфлісе, асаблівую ўвагу надаваў вывучэнню грузінскай мовы. Веданне мясцовых моў спрыяла выказванню яму сімпатый з боку тутэйшага насельніцтва, а таксама стварала больш-менш прыстойныя ўмовы жыцця ў ссылцы.

У штодзённым жыцці паэт карыстаўся рускай мовай. Ён выказваў вялікую стараннасць у дасягненні высокай культуры гэтай мовы, што вельмі часта адзначалі прадстаўнікі інтэлігенцыі Каўказа. Яны падкрэслівалі, што Заблоцкі карыстаецца "прыгожай рускай мовай".

Літаратурнай творчасцю ён займаўся на польскай і рускай мовах. Веданне польскай мовы і карыстанне ёю сталі прычынай таго, што Заблоцкага сталі называць "польскім каўказскім паэтам". Выкарыстанне польскай мовы мела культурную і палітычную матывіроўку. У штодзённым жыцці Лада-Заблоцкі гаварыў таксама па-беларуску. Гэтую мову ён выкарыстоўваў у кантактах з асобамі, што паходзілі з Беларусі. Заблоцкі, як і іншыя прадстаўнікі Беларусі, ставіўся да яе як да мовы неафіцыйнай сферы.

Асаблівы перыяд у жыцці Лады-Заблоцкага быў падчас яго знаходжання ў Тыфлісе. Гэты горад акрэслівалі тады найменнем "Сібіры поўдня" або "цёплай Сібіры". У палітычнай ссылцы там знаходзіліся ўдзельнікі вызваленчых рухаў, у тым ліку вялікая група дзекабрыстаў. Сярод ссыльных вельмі многія паходзілі з так званых заходніх крэсаў Расійскай імперыі, гэта значыць з Беларусі, Літвы, Украіны і Польшчы. Лада-Заблоцкі ў хуткім часе заваяваў давер і павагу ссыльных, стаў прыкметнай асобай, уліўся ў плынь грамадскай актыўнасці. У Тыфлісе ён імкнуўся аб'яднаць тых, хто пісаў вершы на польскай мове, падтрымліваў кантакты амаль што з 40 такімі асобамі (9). Маючы сувязі з выдаўцамі, ён дасылаў творы каўказскіх паэтаў у друк, а таксама збіраў літаратуру, да якой мелі доступ яго землякі. Да ліку найбольш актыўных літаратараў, што супрацоўнічалі з Заблоцкім, належалі Міхал Бутаўт Андрэйкавіч, Лявон Янішэўскі, Гуга Корсак, Уладзіслаў Стральніцкі, Станіслаў Вінніцкі, Канстанцін Зах.

Знаходзячыся ў Тыфлісе, Заблоцкі пазнаёміўся там з намеснікам Каўказа князем Міхаілам Сямёнавічам Варанцовым. Намеснік спрыяў развіццю культурнага жыцця, быў бібліяфілам і збіральнікам рукапісаў. Князь Варанцоў адносіўся да паэтаў, што пісалі па-польску, з вялікім разуменнем і сімпатыяй. Прычынай гэтага, між іншым, было тое, што яго жонка Эльжбета была дачкой графа Ксаверыя Браніцкага.

Гэтае знаёмства стала прычынай прасоўвання паэта ў вайсковай іерархіі. У Тыфлісе Тадэвуш Лада-Заблоцкі быў прызначаны афіцэрам. З гэтым павышэннем па службе паэт звязваў вялікія надзеі на магчымасць

вяртання ў родную старонку. Аднак такога дазволу ён не атрымаў. Аб гэтым ён пісаў у лісце да Крашэўскага ад 9 студзеня 1847 г.: "Нягледзячы на найвялікшае жаданне вярнуцца ў край і прысвяціць сябе выключна літаратуры, прызначэнне быццам бы наўмысна затрымала мяне за Каўказам. Князь наместнік прызначыў мяне на пасаду загадчыка Кульпінскімі салянымі капальнямі, можа быць, самую важную ў Грузіі пасаду, якую да гэтага часу займалі людзі, што больш дбалі пра ўласны, чым пра казённы інтарэс. Калі мяне блаславіць Бог, спадзяюся прынесці тутэйшаму краю нямалую карысць, і з такою думкаю прыймаючы гэтую пасаду, не ведаю, ці ўдасца мне пакінуць што-небудзь карыснае ў нашай літаратуры, хоць сабраў ужо столькі матэрыялаў для апісання Арменіі, краю, які з розных пунктаў гледжання можа нас цікавіць" (10).

Да даручэння Ладзе-Заблоцкаму функцыі кіраўніка саляных капальняў спрычыніўся палкоўнік Войцэх Патоцкі. Ён таксама быў літаратарам і падтрымліваў цесныя стасункі з князем Варанцовым. Атрыманне пасады мела вялікае значэнне ў сэнсе матэрыяльнага забеспячэння паэта. Аднак у Кульпах, размешчаных ля падножжа Арарата, яму не было дадзена магчымасці развіць ні свае арганізацыйныя, ні літаратурныя здольнасці. У хуткім часе пасля пераезду ў новае паселішча Заблоцкі памёр ад халеры (11).

Перад ад'ездам у Кульпы ён задумаў выдаваць літаратурны перыёдык на польскай мове, аднак не атрымаў дазвол на выданне ад царскіх уладаў (12).

У памяці паэтаў Каўказа Заблоцкі застаўся чалавекам вельмі таленавітым, добразычлівым у адносінах да людзей, добрым арганізатарам. Лявон Янішэўскі (1810-1861), адзін з вельмі крытычных і нават з'едлівых у ацэнках літаратараў (13), пісаў пра Заблоцкага: "Гэта быў адзіны пасрэднік паміж выдаўцамі і кнігапрадаўцамі. Ён станавіўся нахалам і грубіянам, але рабіў сваё. Нават з заклятых кашалькоў і кішэняў ён штурмам здабываў рублі на кніжкі, а ў спісе яго падпісчыкаў нярэдка фігуравалі татары і лезгіны, якія нават не чулі, што на свеце была Польшча. Але Лада выконваў, так скажу, сваё пасланніцтва. Гэта была яго манера" (14).

У лістах да выдаўцоў Заблоцкі выказваў вельмі ўхвальныя меркаванні пра землякоў, якія займаліся паэзіяй. Характэрным у гэтых адносінах быў яго ліст да рэдактара і выдаўца "Rocznika Literackiego" Рамуальда Падбярэскага ад 10 чэрвеня 1843 г., у якім ён падаў інфармацыю пра многіх паэтаў. Гэты ліст быў апублікаваны выдаўцом (15). У лісце, між іншым, Заблоцкі пісаў: "Запрошаны да супрацоўніцтва з "Rocznikiem Literackim", дасылаю некалькі вершаў сваіх і Стральніцкага, якія яшчэ ў 1839 г. былі дасланы ў рэдакцыю "Tygodnika Petersburgskiego", аднак паводле асаблівага звычаю гэтай газеты не былі ні надрукаваны, ні вернуты назад. Стральніцкі некалькі месяцаў таму быў у Тыфлісе і чытаў у некаторых дамах напісаную ім новую аповесць, якая называецца "Махмудак" і якую ён збіраўся адаслаць у Варшаву. Паэму "Рэй-Булат" ужо скончыў Ануфры Петрашкевіч, аўтар "Двух веліканаў". Падчас апошняй выправы ў горы ён быў паранены ў жывот куляй, якая там і засталася. Канвульсіўныя пакуты, якія ён стаў перажываць з тае пары, сталі прычынай яго ад'езду ў Пяцігорск на мінеральныя воды, дзе ён знаходзіцца зараз, а адтуль, калі выжыве, збіраецца ехаць на радзіму, бо ўжо атрымаў звальненне. Лявон Янішэўскі надрукаваў у Варшаве "Баркаролу", урывак з паэмы і свой пераклад "Цыганоў" Пушкіна, пра які так ухвальна адазваўся пан Міхал Грабоўскі ў "Tygodniku". Два ж тамы паэзіі, якія ён збіраўся друкаваць у Вільні, не выйшлі па прычынах не залежных (...) Міхал Андрэйкавіч ужо даўно працуе над "Апісаннем Каўказа ў гістарычных, этнаграфічных, статыстычных і г.д. адносінах". Урывак з гэтай працы, поўнай нямецкай эрудыцыі, ён адаслаў Крашэўскаму ў "Athenaeum". Зараз ён піша "Нарысы Каўказа", у якіх гісторыя, этнаграфія і археалогія будуць другаснымі рэчамі і збіраецца выдаць іх пад імем Бутаўта. Гуга Корсак, малады хлопец, піша аповесць на падставе паданняў Грузіі пад назваю "Кіколі". Гэта будзе карціна звычаяў, нораваў, забабонаў і характараў жыхароў тутэйшага краю. Урыўкі, якія ён чытаў мне, вызначаюцца трапнасцю назіранняў. Ян Вяжбіцкі разглядае Каўказ з пазіцый медыцыны і натуральнай гісторыі і вынікі сваіх даследаванняў рыхтуе да друку. Канстанцін Зах, пазнаёміўшыся з мясцовымі мовамі, збірае паданні і перакладае народныя песні закаўказскіх татараў і персаў. Вось такія найважнейшыя працы, якім аддаюць сябе нашы землякі на Каўказе. Я не згадваю тут тых, хто займаецца перакладам аповесцяў Марлінскага ці апошніх французскіх раманаў, бо бяруцца яны за гэта хутчэй для ўдасканальвання ў мовах, чым для якіх іншых мэтаў (...)" (16).

Увесь час свайго знаходжання на Каўказе Заблоцкі падкрэсліваў сваю моцную сувязь з рэгіёнам, з якога паходзіў. У літаратурнай творчасці ён звяртаўся да ўспамінаў дзяцінства, адзначаў асаблівасці прыроды Беларусі, звычаяў і нораваў, знешняга выгляду і паводзін, прыхільнасці да традыцый і г.д. яе жыхароў.

На творчасць Лады-Заблоцкага вялікі ўплыў аказала паэзія Адама Міцкевіча і асабліва яго "Крымскія санеты". Літаратурныя крытыкі звяртаюць таксама ўвагу на той уплыў, што аказалі на творчасць Заблоцкага творы Лермантава, Пушкіна, Аляксандра Бястужава і шматлікіх заходнееўрапейскіх рамантыкаў.

Апроч асобных твораў, раскіданых па шматлікіх выданнях, вершы Лады-Заблоцкага былі надрукаваны ў двух зборніках, выдадзеных Рамуальдам Падбярэскім: "Poezje" (Пецярбург, 1845) і "Chanson de l'Ukraine" (Парыж,

1845), а таксама ў ананімным зборніку паэзіі "Fantazje" (Варшава, 1885). Выхаду зборніка "Poezje" папярэднічала падпіска. Сярод падпісчыкаў было шмат вядомых асобаў, сярод якіх галоўнае месца займалі прадстаўнікі Віцебшчыны (17). Пасля выхаду ў свет "Poezji" выдавец парушыў папярэднія дамоўленасці з аўтарам. Аб учынку Падбярэскага Лада-Заблоцкі паведамляў Крашэўскаму ў лісце ад 30 ліпеня 1846 г. Між іншым, ён пісаў: "(...) пры выданні маіх вершаў ён самым ганебным чынам мяне ашукаў, бо, прымусіўшы мяне страціць некалькі соцень срэбных рублёў, прысвоіў сабе ўвесь наклад і карыстаецца ім!" (18).

З 1845 г. у арміі на Каўказе ў якасці сапёра знаходзіўся брат паэта Бенедыкт Лада-Заблоцкі. Браты падтрымлівалі цесныя сямейныя кантакты. Імя брата сустракаем у спісе падпісчыкаў "Poezji" Лады-Заблоцкага.

У каўказскую ссылку Заблоцкі трапіў за ўдзел у вызвольным руху. Ён быў звязаны з Таварыствам польскага народа. Ад сваіх ідэалаў ён ніколі не адракаўся. Нягледзячы на тое, што яму давялося ўдзельнічаць у барацьбе з народамі Каўказа, што змагаліся за сваю незалежнасць, сваіх перакананняў і поглядаў Заблоцкі не змяніў.

Упершыню заслугі паэта выразна акрэсліў і распаўсюдзіў іх у выглядзе падручніка гісторык Казімір Уладзіслаў Вуйіцкі, які 1861 г. у IV томе "Historii literatury polskiej w zarysach" напісаў наступнае: "Тадэвуш Лада- Заблоцкі, незвычайны паэтычны талент, быў адным з першых пасля Патоцкага (Войцэха, палкоўніка і літаратара) сярод тых, хто пісаў на Каўказе. Кожны з землякоў знаходзіў у ім дарадчыка і памочніка. Ён добра ведаў Каўказ і Грузію, схадзіўшы іх уздоўж і ўпоперак. Улюбёны ў англійскую літаратуру і мову, ён ведаў на памяць большую частку паэм Байрана і любіў іх цытаваць як у размовах, так і ў творах. Аднак свой паэтычны талент, адзначаны чуллівасцю і сумам, ён размяняў на недаўгавечныя, пераважна эратычныя вершы. Пры ўсім багацці ведаў, валодаючы некалькімі як еўрапейскімі, так і ўсходнімі мовамі, і ведаючы творы літаратуры кожнай з іх, ён не развіў гэты талент ні ў водным з вялікіх твораў. Зборнік яго паэзіі ў адным томе выдаў у Пецярбургу ў 1845 г. Рамуальд Падбярэскі. Заблоцкага ведалі як простыя салдаты, якіх ён вучыў чытаць і пісаць, так і не адзін грузінскі князь і кожны вышэйшы афіцэр. Мілай неспадзяванкай быў тады зборнік паэзіі Заблоцкага, аздоблены партрэтам аўтара, шляхетныя рысы якога кожны аглядаў з задавальненнем. Таму ў спісе падпісчыкаў можна сустрэць і радавога, і чаркескага мурзу. Службу ён пачынаў як просты салдат у каўказскім сапёрным батальёне. Стаўшы афіцэрам, ён прагнуў вярнуцца ў родныя мясціны, у Віцебск. Намеснік Каўказа князь Варанцоў, які высока цаніў адукаванасць і характар Заблоцкага, хацеў яму дапамагчы, дзеля чаго прызначыў яго начальнікам саляных капальняў у Кульпах. Для каго-небудзь іншага гэтая пасада стала б асаблівай узнагародай і сродкам для здабыцця багацця, аднак Заблоцкі, чалавек правы і пачуццёвы, змучаны тугой па радзіме, ледзьве два гады прабыў у Кульпах і памёр ад халеры ў 1847 г." (19).

Наступныя больш чым сто гадоў Лада-Заблоцкі быў у забыцці. Пасля 2-й сусветнай вайны, узгадваючы яго творчасць, была зроблена спроба іншага прачытання curriculum vitae паэта. Была нават пастаўлена пад сумненне яго асоба канспіратара і ссыльнага (20).

Зараз Тадэвушу Ладзе-Заблоцкаму вернута належнае пачэснае месца ў шэрагу таленавітых, ствальных паэтаў і арганізатараў культурнага жыцця ў царскіх гарнізонах на Каўказе ў 1-й палове XIX ст. (21). Падкрэсліваецца яго любоў да роднай старонкі, захапленне рамантычнымі ідэямі, асоба канспіратара і грамадскага дзеяча, а таксама арыенціры ў творчасці, тыповыя для 1-й паловы XIX ст.

***Пераклад з польскай мовы Л.Хмяльніцкай.***

***Літаратура і крыніцы:***


1. Гл.: "Rocznik Literacki" (Wilno), 1849. T.IV. S.IX-XXIII; Literatura polska. Przewodnik encyklopedyczny. T.II. Warszawa, 1985. S.657.
2. K.W.Zawodziński. W stulecie romantycznego tomu poezji. "Twórczość", 1946. Z.3. S.129.
3. Biblioteka Jagiellońska, rkps 6458/IV. Korespondencja Kraszewskiego; M.Żywow, Polscy poeci "kaukascy" (Materiały biograficzne). "Pamiętnik Literacki", 1959. Z.3/4. S.576-577.
4. M.Żywow, op. cit., s.576.
5. T.Łada-Zabłocki. Poezje. Petersburg, 1845. S.159.
6. Jbidem, s.189-190.
7. Jbidem, s.180-181.
8. K.W.Zawodziński, op. cit., s.130-132.
9. Гл.: M.Inglot. Polacy piszący na Kaukazie w pierwszej poł. XIX w. Materiały do zagadnienia. "Pamiętnik Literacki", 1957. R.48. Z.1 i 2. S.538-551; W.Kubacki. Mawy na Kaukazie. Warszawa, 1969. S.36 і наст.; A.Chodubski. Kaukaska grupa poetów. "Delta", №16, 27. VII.1984.

10. M.Żywow, op.cit., s.581.
11. "Kaukaz", 1847, №33; J.Reychaman. Wyjasniona zagadka zapomnianego poety-spiskowca. "Twórczość", 1954, №6. S.153-154.
12. J.Reychman. Podróżnicy polscy na Bliskim Wschodzie w XIX w. Warszawa, 1972. S.221.
13. Literatura polska. Przewodnik encyklopedyczny. T.1. S.387.
14. "Pamiętnik Naukowo-Literacki" (Wilno), 1850. T.II. z.4. S.123.
15. "Rocznik Literacki" (Wilno), 1849. T.IV. S.IX-XXIII.
16. Jbidem, s.XI-XII.
17. T.Łada-Zabłocki, op. cit., s.237-238.
18. M.Żywow, op. cit., s.583.
19. K.W.Wójcicki. Historia literatury polskiej w zarysach. Warszawa, 1861. T.IV. S.XV.
20. K.W.Zawodziński, op. cit.; J.Durr-Durski. Tadeusz Zabłocki spod przemalowań biograficznych. "Twórczość", 1947. Z.7-8, S.85-90.
21. Ю.С.Равич. Жизнь и творчество польского поэта Тадеуша Лада-Заблоцкого в Грузии. Автореф. канд. дисс. Тбилиси, 1971, 28 с.; Bibliografia literatury polskiej. "Nowy Korbut". Warszawa, 1972. T.9. S.346-347; М.Садыхов. Очерки русско-азербайджанско-польских литературных связей XIX века. Баку, 1975; W.Djakow, A.Nagajew. Partyzantka Zaliwskiego i jej pogłosy. Warszawa, 1979; B.Baranowski. Polskie zainteresowania z XVIII i XIX wieku kulturą Gruzji. Wrocław-Warszawa-Kraków-Gdańsk-Łódź, 1982; A.Chodubski. Aktywnosć kulturalna Polaków w Azerbejdzanie w XIX i na początku XX wieku. Gdańsk, 1986; A.Chodubski. Poeta kraiu kaukaskich. "Okolice" (Warszawa), 1987, №12.

POEZJE

TADEUSZA

ŁADY ZABŁOCKIEGO.

---

It came from mine own heart, so to my head
And thence into my fingers trickled;
Then to my pen, from whence immediately
On paper I did dribble it daintily.

JOHN BUNYAN.



WYDAŁ

ROMUALD PODBERESKI

PETERSBURG.

W DRUKARNI KAROLA KRAJA.

1845.

Тытульны аркуш кнігі "Poezje" Тадэвуша Лады-Заблоцкага

*Людміла ХМЯЛЬНІЦКАЯ*

# ЗА ШТО СУДЗІЛІ ПАЭТА ТАДЭВУША ЛАДУ-ЗАБЛОЦКАГА

У жыцці кожнага чалавека час ад часу здараюцца падзеі, якія становяцца лёсавызначальнымі. Яны або незаўважна адводзяць павольную штодзённую плынь у крыху іншы накірунак, або вірліва перакаламучваюць увесь паток жыцця, трушчаць былыя каштоўнасці, кідаюць уверх, уніз і, зрэшты, выносяць збалелую душу на новыя нязведаныя прасторы. Менавіта такой падзеяй для беларускага паэта Тадэвуша Лады-Заблоцкага стаўся яго арышт царскімі чыноўнікамі ў чэрвені 1833 г. Прыцягнуты да следства 21-гадовы юнак чатыры гады чакаў канчатковага вырашэння свайго лёсу. А дачакаўшыся, да самага скону, вымушаны прысвяціць сябе абрыдлай вайсковай службе, смуткаваў па Радзіме.

У лютым 1833 г. паэт Ян Вернікоўскі напісаў у альбом Ладзе-Заблоцкаму наступныя радкі: "Нечаканы выпадак можа мець шмат дрэнных наступстваў - лёс... слабасць... і насілле трайной сваёю сілаю могуць ударыць штурмам у дзверы сэрца". Гэтыя словы сталіся для Заблоцкага прарочымі, і ад пачатку следчай справы, якая перакрэсліла ўсе мары і юначыя спадзяванні паэта, іх аддзяляла тады ўсяго некалькі месяцаў.

У чэрвені 1833 г. казённакоштны студэнт славеснага аддзялення Маскоўскага універсітэта Тадэвуш Лада-Заблоцкі яшчэ добрасумленна наведваў лекцыі, а ў Віцебску ўжо быў запушчаны рухавік цяжкавеснай бюракратычна-следчай машыны, прызначанай да знішчэння недобранамерных і вальнадумных падданых імперыі. А пачалося ўсё 15 чэрвеня, калі генерал-губернатар Смаленскай, Віцебскай і Магілёўскай губерняў князь М.М.Хаванскі атрымаў ад Магілёўскага грамадзянскага губернатара паведамленне аб тым, што ў доме чавускага гараднічага Сіліна быў знойдзены аркуш паперы з польскамоўным вершаваным тэкстам, які быў нібыта згублены адным з гасцей. Тэкст уяўляў сабой словы патрыятычнай песні "Mlody Lachu"("Малады лях"), змест якой быў кваліфікаваны як "самое возмутительное воззвание поляков против Государя Императора и России" (1). Не паспеў Хаванскі яшчэ як след разабрацца ў гэтай гісторыі, як 16 чэрвеня праз данос "отпущенного на волю господского человека Грибачева", толькі што выключанага з ліку вучняў губернскай гімназіі за п'янства, даведаўся, што песню гэтую ведаюць і спяваюць і ў Віцебску. У гэтай сувязі было названа імя вучня 7-га класа віцебскай гімназіі шляхціца Міхаіла Гірш-Брама, сына хатняга лекара графа Храптовіча, што жыў у Бешанковічах. 17 чэрвеня князь Хаванскі асабіста дапрасіў Брама, які паведаміў, што "как охотник до музыки и пения" пераняў "сию песню с голосу и со слов у живущаго близ местечка Бешенкович дворянина Станислава Пржисецкого" і зрабіў гэта "единственно по приятности голоса" (2). Такія тлумачэнні не надта задаволілі генерал-губернатара і ён загадаў арыштаваць як вучня Брама, так і настаўніка гімназіі Радзіслава Шэпялевіча, у якога той жыў на кватэры, а таксама "отобрать у обоих для пересмотру все бумаги".

Між тым, вызначаная лёсам Грыбачову, яскравы партрэт якога намаляваў у сваіх "Записках старика" Максіміліян Маркс, непрывабная роля "доносителя" яшчэ не была выканана да канца. Адвячоркам таго ж 17 чэрвеня ён разам з некалькімі гімназістамі, у ліку якіх былі вучні 5-га класа Іван Шаняўскі і Эрнест Якавіцкі, выправіўся на загарадны шпацыр. Апынуўшыся за гарадской заставай, падлеткі вырашылі зрабіць тое, чаго звычайна не дазвалялі ім бацькі і настаўнікі - пакаштаваць мацаваных напояў. Аднаго з вучняў паслалі ў бліжэйшы шынок і ён прынёс у пляшцы гарэлку, якую пілі ўсе. На наступны дзень Грыбачоў данёс "кому следует" пра тое, што падчас шпацыру з гімназістамі Іван Шаняўскі, праходзячы побач з калонамі шлагбаума Магілёўскай заставы, на якіх былі змешчаны гербавыя арлы і вензель імператара, сказаў: "Шкада, што гэта не арыгінал". Аднаго пераказу гэтых слоў аказалася дастаткова для таго, каб Шаняўскі быў "обличен в произнесении оскорбительных противу Императорского Величества и возмутительных для каждого истинно-верноподданного слов".

Варта было князю Хаванскаму пацягнуць толькі за адну нітачку незадаволенасці падданых давераных яму губерняў рэжымам, як непрыемнасці пасыпаліся на ягоную галаву як гарох. "По ходу развития дела о патриотической польской песне" ў канфіскаваных у Брама і Шэпялевіча паперах была знойдзена

Хмяльніцкая Людміла Уладзіміраўна, старшы навуковы супрацоўнік Віцебскага абласнога краязнаўчага музея. Займаецца гісторыяй Віцебшчыны да першай чвэрці XX ст., асаблівую ўвагу надае пытанням гісторыі архітэктуры і мастацкай культуры рэгіёна. Аўтар шэрагу артыкулаў у навуковых і навукова-папулярных выданнях.

"злонамеренная в польском духе переписка" студэнта Маскоўскага універсітэта Тадэвуша Лады-Заблоцкага са шляхціцам Зянонам Міхалоўскім, які служыў у Віцебскім дваранскім сходзе. Трэба было прымаць рашучыя меры і 26 чэрвеня 1833 г. генерал-губернатарам была створана спецыяльная "Комиссия об открытии возмутительных сочинений и возмутителей". Узначаліў камісію Віцебскі грамадзянскі губернатар Шрэдар, а ў склад яе ўвайшлі віцэ-губернатар Кляменцьеў, Віцебскі павятовы маршалак Енька, дырэктар вучылішчаў Віцебскай губерні Гаратоўскі, губернскі страпчы Зайкоўскі і ад'ютант генерал-губернатара паручнік Мызнікаў (3). 27 чэрвеня камісія распачала выкананне сваіх абавязкаў і ў той жа дзень князь Хаванскі даслаў адпаведнае падрабязнае данясенне ў Пецярбург шэфу жандармаў і начальніку III Аддзялення графу А.Х.Бенкендорфу. Так, у поле зроку спачатку мясцовай правінцыйнай адміністрацыі, а потым і вышэйшай палітычнай паліцыі імперыі разам з іншымі трапіў казённакоштны студэнт другога курса славеснага аддзялення Маскоўскага універсітэта Тадэвуш Лада-Заблоцкі (4).

Пра пачатак жыццёвага шляху Т.Лады-Заблоцкага мы ведаем сёння з надрукаванай сп.Г.Кісялёвым у зборніку "Пачынальнікі" (Мн., 1977) падрабязнай юначай аўтабіяграфіі паэта, напісанай у не зусім звыклай для такога жанру крыху белетрызаванай форме. Пра сям'ю паэта і першыя гады яго жыцця чытаем у аўтабіяграфіі наступнае: "Отец мой Гилярий Матвеевич Заблоцкий, кончивши курс наук в Витебском иезуитском училище, находился в Виленском университете два года, по истечении которых занимал место учителя немецкого языка в бывшем Витебском пиярском училище. Но будучи меланхолического характера, оставил службу и переселился в наследственный уголок - Могилевской губернии Сенинского уезда деревню Лугиново. Мать моя Агафия - дочь Василия Шимановского, польского дворянина, служившего долгое время своему отечеству. От сих родителей произошел я, первый сын, 1811 года августа 27-го дня.

Младенчество мое промчалось быстро, как приятный сон, оставивший по себе темные воспоминания, мелькающие в воображении моем весьма невнятно. Когда минуло мне 7 лет от рождения, отец мой сам начал обучать меня, сам преподал мне основания польского и латинского языков, а более всего старался вкоренять в юном сердце моем правила нравственности" (5).

Сярод матэрыялаў следчай справы, што захоўваецца ў Нацыянальным гістарычным архіве ў Мінску, нам удалося знайсці яшчэ адну ўласнаручную аўтабіяграфію "Фаддея Елярова сына Заблоцкого", якой пачынаецца яго допыт у Віцебску 4 ліпеня 1833 г. Гэты дакумент дадае некаторыя новыя звесткі да біяграфіі паэта, таму варта працытаваць яго поўнасцю: "От роду мне 21 год; веры римско-католич. исповедания; на исповеди у святого причастия бываю каждогодно; (...) в приводе под следствием и судом не находился; холост. Родитель мой был священником греко-униатского исповедания и находился в Могилевской губернии Сенновского уезда при церкви, состоящей в селении Лугинове; звали его Елярий Матвеев Заблоцкий, который в 1823 г. помер. До 11-летнего возраста я воспитывался при родителе моем, жившем в означенном селении. А 1822 г. в сентябре месяце поступил я в Витебскую базилианскую гимназию, (далей у рукапісе неразборліва - *Л.Х.*) теперь умею читать и писать по-русски, латыни, по-французски, по-немецки, по-польски, английски. В оной гимназии был я до 1827 г. и по бедному состоянию своему не мог далее продолжать в сей гимназии (обучение - *Л.Х.*). Перешел в июле месяце того года Могилевской губернии Сенновского уезда к помещику Петру Кожаневскому в должность гувернера при его детях. В каковой должности находился один год, получая жалованья в год 200 руб. ассигн. По истечении годового времени я, не захотя более жить у Кожаневского, перешел (...) к помещику Витебской губернии Суражского уезда Антону Дышлевскому, у него жил до половины 1829 г. От него же получа 350 руб. за мое обучение детей его, поступил по-прежнему в Витебскую гимназию для окончания полного курса наук (...) 1830 года в начале октября месяца вышедши из гимназии с выданным мне о науках моих аттестатом, уехал я к дяде моему родному Витебской губернии Городокского уезда помещику Григорью Матвееву сыну Заблоцкому, у которого и гостил до июня месяца 1831 г. А после отправился в Витебск к г-ну попечителю Белорусского учебного округа Карташевскому, по случаю тому, что он при окончании моем в гимназии курса наук обещал (...) отослать меня в Московский университет. И по распоряжению его превосходительства в октябре месяце 1831 г. прибыл я в Москву и поступил для слушания лекций университета по словесному отделению" (6).

Згаданы ў аўтабіяграфіі Заблоцкага папячыцель Беларускай навучальнай акругі Рыгор Іванавіч Карташэўскі адыграў у жыцці паэта адметную ролю, прадставіўшы таленавітаму юнаку магчымасць атрымаць вышэйшую адукацыю, якой ён быў цалкам пазбаўлены з-за свайго цяжкага матэрыяльнага становішча. І хоць Заблоцкі не апраўдаў спадзяванняў свайго апекуна, праз два гады вярнуўшыся з Масквы ў Віцебск пад канвоем жандарма, да свайго дабрадзея ён захаваў шчырую ўдзячнасць, аб чым і паведамляў на допытах падчас следства.

Прызначаны ў 1829 г. на пасаду папячыцеля навучальнай акругі, Р.І. Карташэўскі да 1835 г. жыў у Віцебску. Добра вывучыўшы стан адукацыі ў Беларусі, ён распрацаваў праграму перабудовы школьнай справы, якую

прадставіў у Міністэрства народнай асветы і генерал-губернатару Хаванскаму. У ёй Карташэўскі прапанаваў стварыць сетку пачатковых школ ланкастэрскага тыпу ў маёнтках памешчыкаў, ва ўсіх павятовых гарадах і ў вялікіх мястэчках. Пасля скасавання ў 1832 г. Віленскага універсітэта, ён прапаноўваў заснаваць вышэйшую навучальную ўстанову (ліцэй) у Оршы, на што нават ужо былі выдаткаваны грошы, пакуль урад праз два гады не адмовіўся ад выканання сваёй задумы. У 1834 г. па ініцыятыве Карташэўскага ў Віцебску была адчынена першая ў Беларусі семінарыя прыходскіх настаўнікаў, якая рыхтавала выкладчыкаў для прыходскіх і павятовых вучылішчаў, а таксама падрыхтоўчых класаў гімназій. Апроч таго, Карташэўскаму ўдалося атрымаць ад урада дазвол на навучанне за казённы кошт ва універсітэтах Масквы і Пецярбурга 50 юнакоў з Беларусі. Ён асабіста адбіраў у гімназіях навучальнай акругі найбольш здольных абітурыентаў, накіроўваў іх на вучобу ў сталіцы і апекаваўся далейшым лёсам. Так, у лік юнакоў, падаючых надзеі, трапіў і Тадэвуш Лада-Заблоцкі. Вось што пісаў пра гэта сам Карташэўскі ў ліпені 1833 г. у лісце, накіраваным у Міністэрства народнай асветы: "Заблоцкий, обучавшийся в Базилианской гимназии, при первом обозрении моем Белорусских училищ в 1830 г., рекомендован мне инспектором здешнего греко-российского духовного училища Барковским, который преподавал российскую словесность в Базилианском училище, (...) чиновником просвещенным и благомыслящим. Заблоцкий сочинял тогда стихи как на польском, так и на русском языке. И когда я велел ему описать какой-либо случай в жизни, который оставил в нем сильное впечатление, слогом простым, то он представил мне описание из семейной жизни весьма хорошо обработанное (7). Испытав его в латинском языке и новейших и найдя его довольно хорошо приготовленным, я решился ходатайствовать у г.бывшего министра народного просвещения об отправлении его в Московский университет. Осенью 1831 г. переехав сюда (у Віцебск - *Л.Х.*) из С.-Петербурга, мне приятно было видеть, что он читал уже лучшие русские сочинения. Получив разрешение, я отправил его на счет здешней гимназии в помянутый университет" (8).

Навучанне ва універсітэце за казённы кошт прадугледжвала потым абавязковую працу на працягу шасці гадоў у навучальных установах Беларусі. Але гэта, трэба меркаваць, асабліва не прыгнятала нікога з тых бедных студэнтаў, каму давялося патрапіць на вучобу ў сталіцу. У студэнцкім інтэрнаце Маскоўскага універсітэта Лада-Заблоцкі пасяліўся 20 кастрычніка 1831 г., а 26 кастрычніка быў залічаны на першы курс славеснага аддзялення. У хуткім часе ён пазнаёміўся з іншымі казённакоштнымі студэнтамі універсітэта: Міхайлам Чысцяковым, Іванам Савінічам і Вісарыёнам Бялінскім, якія былі галоўнымі сябрамі "Литературного общества 11 нумера". У 1831-1832 навучальным годзе Заблоцкі разам з В.Бялінскім наведваў лекцыі па расійскай славеснасці Пабеданосцава, заняткі па лацінскай мове Кубарава і інш. (9).

Пасля выкрыцця ў Віцебску "возмутительных сочинений и возмутителей", яшчэ да стварэння адпаведнай камісіі, а менавіта 19 чэрвеня 1833 г. князь Хаванскі накіраваў Маскоўскаму вайсковаму генерал-губернатару князю Л.В. Галіцыну сакрэтнае данясенне, у якім указваў на неабходнасць арыштаваць Т.Ладу-Заблоцкага і агледзець яго паперы. 29 чэрвеня Заблоцкі і яго паперы былі "взяты из университета". Арышт адбыўся ў казённакоштных нумарах інтэрната і атрымаў шырокую пагалоску сярод студэнтаў. У 1850-х гадах на старонках сваёй кнігі "Былое и думы" пра гэтую падзею, хоць і з некаторымі недакладнасцямі, згадваў А.І.Герцэн: "Сеть шпионства, обведенная около университета с начала царствования, стала затягиваться. В 1832 году (недакладнасць: у 1833 г. - *Л.Х.*) пропал поляк, студент нашего отделения (недакладнасць: Герцэн і Заблоцкі вучыліся на розных аддзяленнях - *Л.Х.*). Присланный на казенный счет, не по своей воле, он был помещен в наш курс; мы познакомились с ним; он вел себя скромно и печально; никогда мы не слыхали от него ни одного резкого слова; но никогда не слыхали и ни одного слабого. Одним утром его не было на лекциях, на другой день тоже нет. Мы стали спрашивать; казеннокоштные студенты сказали нам по секрету, что за ним приходили ночью, что его позвали в правление, потом являлись какие-то люди за его бумагами и пожитками и не велели об этом говорить. Так и кончилось, мы никогда не слыхали ничего о судьбе этого несчастного молодого человека" (10).

З пачатку ліпеня 1833 г. пачаліся допыты Заблоцкага ў Маскве. У іх выніку было выяўлена кола маскоўскіх і віцебскіх знаёмых паэта. Асаблівую ўвагу прыцягнула яго знаёмства ў доме павітухі Францішкі Бардэгліа, полькі па паходжанні, з ваеннапалоннымі польскімі афіцэрамі, якія праз Маскву вярталіся з Сібіры. З іх вуснаў, вуснаў відавочцаў, Заблоцкі чуў аповяды пра паўстанне 1830-1831 гг., пра бітвы супраць расійскіх войскаў, у гэтым коле абмяркоўваліся лёсы Польшчы ў сувязі з палітычнымі падзеямі ў Францыі. "Поляки ему сказывали, - даносіў маскоўскі обер-паліцмайстар, - что у них в Сибири были все запрещенные журналы и газеты, что особенно им благодетельствовал Александр Муравьев и что в Сибири дух очень хорош и все готовы к восстанию против правительства" (11).

13 ліпеня 1833 г. генерал-губернатор Галіцын загадаў адправіць Заблоцкага ў Віцебск, куды паэт выехаў на наступны дзень у суправаджэнні "надежного жандармского офицера". 18 ліпеня старшыня створанай у Віцебску

“Комиссии об открытии возмутительных сочинений и возмутителей” грамадзянскі губернатар Шрэдар атрымаў данясенне аб тым, што “по делу, с поводу которого учреждена означенная комиссия, важнейшее лицо есть студент Московского университета Фаддей Заблоцкий. Ныне сей Заблоцкий прислан в Витебск с жандармом” (12).

Дык на чым жа палягала віна Заблоцкага і ў чым заключаўся склад здзейсненага ім дзяржаўнага злачынства? Галоўныя абвінавачванні, высунутыя супраць Заблоцкага, грунтаваліся на словах яго прыватнай перапіскі са шляхціцам Зянонам Міхалоўскім і вучнем віцебскай гімназіі Гірш-Брамам, знойдзенай падчас вобыску ў апошняга, а таксама ў яго настаўніка Шэпялевіча. Было канфіскавана каля дзесятка лістоў Заблоцкага, аднак толькі два з іх былі прызнаны асабліва шкоднымі, бо ў іх выказваліся думкі, “показывающие величайшее нерасположение и злобу к Государю и ко всему русскому вообще”. Арыгіналы гэтых лістоў яшчэ да арышта Заблоцкага былі адасланы з Віцебска Маскоўскаму вайсковаму генерал-губернатару, таму сярод дакументаў следчай справы, што захоўваецца зараз у Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі, нам удалося знайсці толькі іх копіі ў перакладзе на расійскую мову.

Першы ліст “важного содержания”, напісаны Заблоцкім з Масквы Міхалоўскаму і датаваны 23 жніўня 1832 г., у дакументах следчай справы цытуецца толькі ўрыўкамі з пастаноўкай відавочных акцэнтаў на антырасійскіх выказваннях аўтара. Цытаванне яго пачынаецца з абуранай тырады Заблоцкага з нагоды закрыцця ў 1832 г. Віцебскага базыльянскага з правамі гімназіі вучылішча, якое ён сам скончыў і дзе атрымаў трывалыя асновы класічнай адукацыі. Прыводзім гэты ліст у тым выглядзе, у якім нам удалося адшукаць яго ў архіўнай справе, уключаючы і зробленыя ў свой час чыноўніцкай рукою падкрэсліванні: “*Вероятность в Витебской губернии много благомыслящих обывателей,которые по уничтожению Базилианского училища не захотят поверить детей своих козлам (т.е. русским), чтоб преподавали им науки на москальском языке и портили их нравственность.*

*Окрестности Москвы так прекрасны, что несмотря на мою ненависть к русским я привык бы к Москве если б там было более поляков.*

*Я иногда с жадностию хватаю западный ветерок, мысля что он имеет нечто божественное, что он несет мне приветствие друзей и жалобы несчастных моих земляков, столь ужасно теперь преследуемых и угнетаемых нашими гонителями.*

*Я желал бы превратиться в ядовитейшую заразу, чтоб одним дуновением мог отравить и истребить творцов несчастия нашей земли.*

*По получении известия об уничтожении Виленского университета я, со злости, плакал горькими слезами: каждого благомыслящего поляка должно чрезвычайно тронуть, что отобрав у нас права и свободу, приказывают нам забыть еще и язык единственное наследие, оставшееся после отцов наших, и велят слушать все науки на языке чуждом; учителями присылают к нам тунеядцев, которые портили бы и уничтожали нравственность нашей молодежи; хотят нас совершенно обрусить; хотят нас напитать глупыми своими правилами. Ах, любезный Зенон! Надобно всякими способами поддерживать свой язык, и для того не пиши ко мне ни одной фразы по-русски, а тем более не называй нашего тирана Всемилостивейшим.*

*Старайся собирать стихи и песни патриотические.*

*В Москве хорошо жить,потому что есть библиотеки всех просвещенных наций и можно читать все заграничные журналы, в которых беспрестанно ругают русских последними словами и выхваляют поляков со стороны просвещения, храбрости и благородного образа мыслей*” *(13)*.

Другі ліст Заблоцкага да Міхалоўскага з Масквы быў датаваны 9 лютым 1833 г. і ў дакументах следчай справы ў перакладзе на расійскую мову быў прыведзены поўнасцю:

“*Любезный Зенон.*

*Вручитель сего письма, Александр Лубкин, отправляющийся во Мстиславль профессором математики, при отъезде своем из Москвы, просил меня, чтобы я написал к моим приятелям и знакомым письма, дабы через то мог он весело провести время пребывания его в Витебске. Он прекрасный малый,очень хорошего образа мыслей, благородный, и ты можешь с ним свободно говорить обо всем. За свой (независимый) неуклончивый характер весьма много потерпел от начальства; а потому можешь быть в нем столько уверенным,как во мне самом. Рекомендую тебе его; прошу принять его как наилучше, т.е. как меня самого по возвращении из Москвы. Я сильно (так у тэксце - Л.Х.) говорил ему о тебе: надеюсь, что через сие ты удержишь о себе то мнение, которое он уже имеет, не будучи еще с тобою знаком. Он намерен неделю или полторы пробыть в Витебске. Своди его в некоторые*

*знакомые тебе дома; пусть узнает природное польское гостеприимство. (Здесь следует отчет в покупках).*

*Старайся собирать сколько можно патриотических стихов, ибо как возвращусь в Витебск, то будем делать взаимную оных мену. Я дам тебе переписать те, которые соберу в Москве, в семи листах, а ты мне, что соберешь в Белоруссии. Я здесь изо всех поляков, живущих в Москве, прежде знакомлюсь с теми, которые сюда приезжают, и от них достал патриотические песни. Ни один поляк, возвращаясь из Сибири в княжество Познанское или в Галицию не ушел от того, чтобы я с ним не познакомился. Много, очень много по приезде в Витебск расскажу тебе особенных редкостей.*

*Из политических новостей первейшаяесть та,что Англия,Франция и Бельгия встречно заключили между собой наступательный и оборонительный союз, в который хотят вовлечь Австрию. Целию сего союза: 1) не вмешиваться никому в дела Турции и не позволять России даватьей помощь; 2) помирить Гишпанию и Португалию, и в последней утишить домашние раздоры; 3) дать Польше такой образ правления, чтобы оным были довольны поляки и союзные державы. От сего заносится ужасная политическая буря, от которой мы можем надеяться для нас важных событий. Во Франции учреждено общество патриотов польских под начальством графа Водинского и двух Платеров. Целию общества восстановление независимости польской и проч. (нет слова) сего общества подлежит весьма сильно на англичан, американцев, французов, немцев, (нет слова), гишпанцев и голландцев. Я читал сам условия (статьи) сего общества, изданные в Париже на французском и польском языках. Первое же сведение имею я из газет заграничных, которые я сам имел случай читать.*

*Заклинаю тебя нашею дружбою и всем, что драгоценно твоему сердцу, письмо сие по получении тотчас сожги.*

*Начальником общества патриотов польскихесть Лафаетт. Может быть пожелаешь иметь запрещенное сочиненьице Леонарда Ходзки, изданное в Париже: "История легионов польских" ("Historia Legionów Polskich"). Оно стоит 25 руб. ассигнац. Могу тебе оное достать, ибо я знаком с книгопродавцем, и через оказию переслать. Повторяю: сожги сие письмо" (14).*

Натуральна, што асоба Зянона Міхалоўскага, аднадумцы і паплечніка Лады-Заблоцкага, выклікала асаблівую цікавасць уладаў. Ён таксама быў арыштаваны і дапытаны ў Віцебску. На допыце Міхалоўскі паведаміў, што "чувство противности к русским" выхаваў у ім падчас навучання ў Полацкім піярскім вучылішчы ксёндз Міхайловіч, які выкладаў усеагульную гісторыю па творах Лялевеля, "говорил всегда в отношении к России с дурной стороны, особенно поставлял неправильность забрания Польского края". Між тым, Міхалоўскі адзначаў, што лад думак яго і Заблоцкага не быў выключэннем і што "подобные разговоры и песни, где только ни собирались поляки, были общим предметом тогдашнего времени, и кроме немногих поляков, особенно же женщины, открыто говорили в пользу поляков с недоброжелательством к России" (15).

Падчас арышту Заблоцкага ў Маскве ў яго паперах быў знойдзены "Альбом" з упісанымі для яго ўладальніка рознымі асобамі вершамі, а таксама сшытак са спісамі "речей возмутительных, говоренных в Париже Лелевелем, Платером, Лафайетом и другими по случаю годовщины польской революции". Як пазней удакладнялася ў данясенні віцебскай камісіі, у сшытку былі занатаваны прамовы, якія прагучалі ў Парыжы 29 лістапада 1831 г. (16). Што ж тычыцца "Альбома", то найбольш крамольным у ім быў прызнаны верш, напісаны для Заблоцкага паэтам і сябрам таварыства філарэтаў Янам Вернікоўскім, сасланым у 1824 г. у Казань, дзе ён быў прафесарам арабскай мовы ў мясцовым універсітэце і выкладаў у гімназіі. Пазнаёміў Заблоцкага з Вернікоўскім у канцы 1832 г. казённакоштны студэнт Павел Госцеў, які пераехаў з Казанскага ў Маскоўскі універсітэт. У сваіх паказаннях Вернікоўскі акрэсліваў Заблоцкага як абаяльнага і шляхетнага юнака, які вылучаўся "пылкостью, горячностью, живостью темперамента". "Знакомство мое с Заблоцким, - пісаў ён, - было кратковременно: признаюсь чистосердечно, я любил этого человека: кроме его услужливости быть мне предводителем в Москве, а именно в различные книжные лавки (...) во время моего переезда через оную, я в нем видел молодого человека, преданного наукам: он мне доставил драгоценное знакомство со знаменитым российским археологом и литератором проф. Каченовским, снабдил меня в Казань новейшими сочинениями (...) Это привязало меня к Заблоцкому" (17).

У матэрыялах следчай справы з мінскага архіва намі быў знойдзены тэкст верша Вернікоўскага з "Альбома" Заблоцкага, які яскрава адлюстроўвае прыхільнасць навукоўца-арыенталіста да свайго маладога сябра-студэнта і які, на жаль, стаў падставай для абвінавачвання апошняга ў наяўнасці "мыслей и чувствований противности к русским". Пераклад верша, зроблены чыноўнікамі з польскай мовы на расійскую, цалкам знішчыў памер, але ўсё ж не здолеў разбурыць яго паэтыку і вобразнасць:

*I.*

*"Родимый горизонт покрывается туманом и несутся зловещия тучи, но видишь ли возстающую звезду на западе? Это блеск новой зари в розовой улыбке...*

*II.*

*Устремляя мысль вслед взора, берегись, чтобы из груди твоей не унеслась душа; чтобы гоняясь за чувством, не простился нечаянно с уединением, которое хранило твое сердце...*

*III.*

*В сем храме духа надобно иметь неусыпную стражу! Нечаянный случай может иметь много худых последствий - судьба ... слабость ... и насилие тройною своею силою могут ударить штурмом в двери сердца ...*

*IV.*

*Выдержать мужественно напор - есть удел человека сильного; охранять святыню - долг верной стражи, пока торжество с пламенем прославит великое дело, пока Бог перевесит на верных весах жребий поляка,- я имею вдохновенное предчувствие,Фаддей,что ты этого еще дождешься.*

*Иван Залегина В..........*
*1833 года февраля 20" (18)*

Яшчэ адным пунктам абвінавачвання Лады-Заблоцкага стаўся яго ўдзел падчас знаходжання ў Маскве ў дзейнасці "Тайнага польскага літаратурнага таварыства", заснаванага студэнтам Маскоўскага універсітэта Іванам Савінічам. Пра існаванне гэтага таварыства ўладам стала вядома са слоў самога Заблоцкага падчас яго допыту ў Віцебску 29 ліпеня 1833 г. Таму, што ў склад тайнага таварыства апроч Заблоцкага і Савініча ўваходзілі таксама студэнты універсітэта А.Бялецкі, Людвіг Макса і Каэтан Касовіч, князь Хаванскі накіраваў Маскоўскаму генерал-губернатару князю Галіцыну данясенне, у якім прасіў правесці расследаванне ў дачыненні да універсітэцкіх сяброў Заблоцкага. Аднак князь Галіцын, баючыся шырокай пагалоскі ад выкрыцця ў Маскоўскім універсітэце новага тайнага таварыства (толькі што ў лютым 1833 г. Мікалаем І быў зацверджаны канчатковы вырак па справе "тайнага таварыства Сунгурава"), адмовіўся праводзіць у сябе дадатковае следства і тым самым аказаць дапамогу віцебскай следчай камісіі. Хаванскі вымушаны быў пагадзіцца з такім станам рэчаў і 8 лістапада 1833 г. паведаміў, што віцебская камісія згодна перапыніць справу пра маскоўскіх студэнтаў. З гэтага часу ход следства спрасціўся, бо цяпер яно тычылася толькі Лады-Заблоцкага і яго віцебскіх сяброў (19).

Тым не менш, для нас прадстаўляе цікавасць, што ж ўяўляла сабой так перапалохаўшая маскоўскія ўлады "Тайнае польскае літаратурнае таварыства". Звесткі пра яго знаходзім у паказаннях Заблоцкага, дадзеных следчай камісіі: "Сие общество составилось следующим образом: я однажды предложил Савиничу издать в Москве альманах на польском языке. Здесь, кроме спекуляции, была еще цель показать соотечественникам, что мы в Москве не забываем польского языка. Савинич отвечал, что это без общих усилий нельзя исполнить, что для этого нужно составить общество литературное. Я сказал, чтобы он написал условия сего общества, и он это сделал; они находятся в моих бумагах. Сии условия предъявлены были Савиничем Белецкому, Каетану Коссовичу и Людвигу Максе, и они все согласились на них с большой радостью. Мы, однако же, долго не могли найти места, где бы могли собраться. Наконец, Белецкий уступил нам свою комнату, и мы в первый и в последний раз собрались 8 или 9 апреля сего (1833 - *Л.Х.*) года. Савинич, избранный нами предводителем (presus), во-первых, потому, что он долго жил в Москве и был более нас опытен, и во-вторых, что был знаком почти со всеми русскими литераторами, а следовательно, мог иметь всегда новейшие русские книги, прочел вступительную речь, в которой говорил о любви к отечественному языку и о том, что нужно, по возможности, каждому принести какую-нибудь пользу своей литературе. Белецкий читал отрывок из Гетева Фауста, Макса - следствие царствования Сигизмунда III, а я - стихотворение, находящееся в моих бумагах под заглавием "Мечта" ("Мага"). Это было только одно собрание у нас, и после единодушно мы оставили его, во-первых, потому, что не надеялись в таком малом числе издать что-нибудь хорошее, во-вторых, потому, что каждое тайное общество, хотя самое невинное, строго запрещено правительством. Кроме условий выраженных мы еще обязывались по возможности знакомить русских с польскою литературою, а это произошло оттого, что студенты Московского университета, не зная польской литературы, худо о ней отзывались. А вследствие того Савинич издал польскую грамматику и приготовил к печати польско-российский карманный словарь, кроме сего перевел сочинение Мациевского о законодательстве славянском. Этот перевод он предпринял по просьбе Погодина, профессора университета, а я помещал разные извлечения из польских журналов в "Телескопе" и "Телеграфе" (20).

Да матэрыялаў следчай справы быў прыкладзены таксама статут або "постановления" гэтага таварыства, якія ў перакладзе на расійскую гучалі наступным чынам:

*"Постановления общества любителей отечественной словесности.*

*Кроме благородного образа жизни и точного исполнения свойственных всякому обязанностей и должностей, Общество любителей отечественной словесности должно иметь в предмете:*

*1) Общую нравственную пользу всех членов общества;*

*2) Усовершенствование себя в познании польского языка;*

*и 3) Возбуждение в прочих здесь находящихся единоземцах чувства нравственного достоинства, и изъяснять им необходимость полюбить польский язык и оным с усердием заниматься; от сего происходят следующие обязанности членов общества.*

*1-е. Каждый член общества должен по возможности и обстоятельствам помочь прочим членам, сообщать им свои советы, предостережения и делать пособия, относящиеся к потребностям нравственным и физическим.*

*2-е. Для общего употребления предлагать находящиеся у себя книжки, тетради, карты географические и другие училищные пособия, коих список от каждого должен быть представлен обществу.*

*3-е. В казну общества внести денежную сумму, по возможности для вписания себя в книжную лавку для чтения, и увеличивать сию казну согласно издержкам общества.*

*4-е. Для упражнения и усовершенствования в отечественном языке назначается один раз в две недели собрание, на коем каждый из членов общества обязан дать отчет: чем в продолжение сего времени занимался; что именно написал на польском языке или перевел из иностранных языков на польский.*

*5-е. Предметы упражнения могут быть по склонности каждого из членов: учебные, изящных наук и словесности, не касаясь, однако (под опасением выключки из общества), политики, правления и мнений, противных христианской религии, - в переводах из всех иностранных языков (кроме известного каждому русского). Надлежит больше обращать внимания на важнейшие предметы, каковые между прочим суть: История, Филология, Эстетика, Естествознание и прочие.*

*6-е. Каждый член общества обязан хранить в тайне как то, что делается в собрании, так и само общество.*

*7-е. Число членов общества не имеет настоящего определения, оно зависит от выбора определяющихся в общество, какой делается тщательно и требует от определяющихся: 1) дабы он всем вообще или большей части членов был известен по своему примерному поведению и 2) по хорошему образу мыслей - не обладающий сими качествами не может быть принят в общество.*

*8-е. Управление сим обществом поручается председателю, большинством голосов избранному на три месяца, коего обязанностью смотреть за благоустройством во время собраний; предназначение рецензий о сочинениях членов общества, сохранение казны и записывание из оной издержек, а также журнальные книги, в коих вписываются предметы, читанные в собрании, и двухнедельные занятия общества. После окончания трех месяцев управляющий обществом в присутствии всех членов должен дать отчет в своем управлении.*

*9-е. Каждый член общества в собрании при рассмотрении дела, относящегося к обществу, имеет по одному голосу или баллу, а предводитель имеет три балла.*

*Таковые пункты подписаны и за исполнение оных поручились сотоварищи (Савинич, Заблоцкий, Белецкий, Макса, Коссович)" (21).*

Як адзначаў маскоўскі даследчык сп.М.Палякоў, які першым вывучаў архіўныя дакументы, звязаныя са следчай справай Лады-Заблоцкага, з аналізу тэкстаў статута літаратурнага таварыства і паказанняў Заблоцкага вынікае, што створаны студэнтамі універсітэта гурток не быў ні тайным палітычным таварыствам, ні падпольнай арганізацыяй польскіх рэвалюцыянераў, а толькі ўтойваў у сабе пэўную магчымасць развіцця ў палітычным накірунку.

Аднак вернемся да дзеянняў віцебскай "Комиссии об открытии возмутительных сочинений и возмутителей". У ліку галоўных прыцягнутых да следства асобаў тут лічыліся апроч Заблоцкага вучні віцебскай гімназіі Міхаіл Гірш-Брам, Іван Шаняўскі, Эрнест Якавіцкі і настаўнік гімназіі Радзіслаў Шэпялевіч.

Дырэктарам вучылішчаў Віцебскай губерні Іванам Гаратоўскім былі прадстаўлены характарыстыкі на вучняў гімназіі. З іх вынікае, што самы малодшы з гімназістаў, 15-гадовы Міхаіл Брам, першапачаткова навучаўся ў Полацкім піярскім вучылішчы, адкуль яго забраў бацька, хатні лекар графа Храптовіча, даведаўшыся аб тым, што піяры змушаюць сына змяніць лютэранскае веравызнанне, і аддаў у верасні 1830 г. на навучанне ў Віцебскую гімназію. 16-гадовы Іван Шаняўскі, сын "довольно достаточного помещика Полоцкого уезда", да 1831 г. навучаўся ў Забельскай гімназіі, пазней - у віцебскіх базыльянаў, а пасля закрыцця іх вучылішча ў жніўні 1832 г. паступіў у 5 клас губернскай гімназіі. Шляхціц Эрнест Якавіцкі, 17 гадоў, сын памершага тытулярнага саветніка Антона Якавіцкага, з 1823 г. вучыўся ў Віцебскім базыльянскім вучылішчы, адкуль у 1827 г. быў пераведзены ў 1 клас губернскай гімназіі (22). Характарыстыка на настаўніка гімназіі Радзіслава Восіпавіча Шэпялевіча, выхаванца Полацкай езуіцкай акадэміі (23), была складзена самім папячыцелем Беларускай навучальнай акругі Р.І.Карташэўскім. У ёй, у прыватнасці, паведамлялася: "Шепелевич долгое время служил в С.-Петербурге по Главному управлению Департамента духовных иностранных исповеданий и по Министерству народного просвещения. В 1830 г. прикомандирован был Департаментом просвещения для разбора Полоцкой библиотеки; после того определен мною учителем латинского языка в низших классах гимназии. При весьма хороших педагогических способностях и примерном усердии в исправлении своей должности он не подал до ныне причины сомневаться в образе его мыслей; имея престарелых родителей, сестру, жену и детей, он употреблял все свободное сверх учебных часов время на частные уроки и на обучение детей на своей квартире, и тем доставал себе и своему многочисленному семейству содержание, работая почти до изнурения своего здоровья" (24).

Уся следчая справа ў дачыненні да азначаных асобаў была вырашана ў самыя кароткія тэрміны. Ужо 27 лістапада 1833 г. асобным рапартам віцебская камісія паведаміла князю Хаванскаму пра заканчэнне даручанага ёй следства. Паводле выраку камісіі, настаўнік Шэпялевіч быў звольнены з займаемай пасады з выдачай яму паслужнога спіса з запісам аб знаходжанні пад следствам. Гірш-Брам і Якавіцкі былі выключаны з гімназіі. Першы з забаронай паступлення ў будучым на дзяржаўную службу быў перададзены на парукі свайму бацьку, а другі, атрымаўшы ад камісіі заўвагу, быў "поручен вниманию училищного начальства". Самая суровая кара напаткала Івана Шаняўскага - ён быў аддадзены ў вайсковую службу і сасланы радавым на Каўказ. У дачыненні ж да Заблоцкага вырак камісіі быў наступны: "Предать суду для поступления с ним по закону" (25).

24 снежня 1833 г. Хаванскі накіраваў у Пецярбург шэфу жандармаў Бенкендорфу сваё заключнае данясенне па справе і падрабязную запіску віцебскай камісіі. 14 студзеня 1834 г. Бенкендорф паведаміў міністру юстыцыі Дашкаву загад цара прадставіць "соображения" аб мерах пакарання вінаватых. 26 лютага Дашкаў прадставіў гэтыя "соображения". Пасля даклада Бенкендорфа 20 траўня 1834 г. справа была перададзена ў С.-Пецярбургскі камітэт, створаны для разгляду спраў Заходніх губерняў. 4 кастрычніка 1834 г. было абвешчана рашэнне гэтага камітэта аддаць пад суд Заблоцкага, Міхалоўскага, Вернікоўскага і некаторых іншых асобаў. Суд адбываўся ў Віцебску. 6 чэрвеня 1835 г. князь Хаванскі паведаміў Бенкендорфу пра рашэнне суда. 22 чэрвеня 1835 г. справа паступіла для разгляду ў Сенаце. 28 траўня 1837 г. было вынесена рашэнне дзяржаўнага Савета: "1) Дворян: Фаддея Заблоцкого (24 л.), Зенона Михаловского (26 л.) и Егора Смолича (20 л.), изобличенных в оскорблении Его Императорского Величества дерзкими выражениями в собственноручных письмах и хранении у себя возмутительных стихотворений, лишив всех прав состояния, сослать в каторжную работу". Канчатковы вырак, зацверджаны Мікалаем I, паведамляў: "Трех первых отдать в рядовые в Кавказский корпус, в разные батальоны" (26).

Так была афіцыйна завершана справа "о распространении революционных стихов и песен в Витебской гимназии". Яна не была адзінкавай для свайго часу. Справы "о лицах училищного ведомства" разглядаліся таксама спецыяльнымі камісіямі ў 1831 г. ў Мінску (аб наглядчыку і настаўніках павятовага вучылішча ў Маладзечне і піярскага вучылішча ў Лужках) і ў 1833 г. ў Гародні (аб настаўніках і вучнях Гарадзенскай дамініканскай і Беластоцкай абласной гімназій) (27).Асуджаныя па ўсіх гэтых справах асобы былі хутчэй не адшчапенцамі грамадства, а выказвальнікамі пануючых на той час у ім агульных настрояў і пачуццяў. Таму царскія ўрадоўцы і імкнуліся пакараць прыцягнутых да адказнасці ўзорна, каб застрашыць астатніх. У гэты Малох рэжыму трапіў і паэт Тадэвуш Лада-Заблоцкі. Ці было выпадковым яго зняволенне і пакаранне, разбярэцца Гісторыя. Галоўнае, што выпадкам не было яго з'яўленне на віцебскай зямлі.

***Літаратура і крыніцы:***


1. НГАБ, ф.3157, воп.1, спр.181, арк.9.
2. Тамсама, арк.4 адв., 9 адв.
3. Тамсама, арк.5-5 адв.
4. Поляков М. Студенческие годы Белинского. У кн.: Литературное наследство. Кн.56. М., 1950. С.373.
5. Пачынальнікі. З гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст. Укладальнік Г.Кісялёў. Мн., 1977. С.484-485.
6. НГАБ, ф.1430, воп.1, спр.51055, арк.142-143.
7. Магчыма, гэта і ёсць напісаная Т.Заблоцкім "Краткая биография моей жизни", знойдзеная сп. Г.Кісялёвым у гістарычным архіве Літвы і надрукаваная ў зборніку "Пачынальнікі".
8. НГАБ, ф.3157, воп.1, спр.181, арк.36 адв. -37.
9. Поляков М. Студенческие годы Белинского, с.380, 414.
10. Тамсама, с.374.
11. Тамсама, с.374-375.
12. НГАБ, ф.1430, воп.1, спр.51055, арк.117.
13. НГАБ, ф.3157, воп.1, спр.181, арк.15 адв. -16 адв.
14. Тамсама, арк.25-25 адв.
15. Тамсама, арк.12.
16. Поляков М. Студенческие годы Белинского, с.382.
17. Тамсама, с.388.
18. НГАБ, ф.1430, воп.1, спр.51055, арк.197-197 адв.
19. Поляков М. Студенческие годы Белинского, с.376-377.
20. Тамсама, с.390.
21. Тамсама, с.388-390.
22. НГАБ, ф.3157, воп.1, спр.181, арк.32-32 адв.
23. Сапунов А.П. Историческая записка 75-летия Витебской гимназии. Витебск, 1884. С.113.
24. НГАБ, ф.3157, воп.1, спр.181, арк.36.
25. Тамсама, арк.90-93.
26. Поляков М. Студенческие годы Белинского, с.377-378.
27. НГАБ, ф.3157, воп.1, спр.181, арк.82-82 адв.

# КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ "КАЎКАЗСКАГА" ПАЭТА

*Тадэвуш Лада-Заблоцкі (1811-1847) за свае менш чым дзесяць гадоў працы ў літаратурным працэсе Беларусі першае паловы XIX стагоддзя здолеў заняць у ім высокае мейсца. Спецыфічнасць абставін, у якіх адбывалася станаўленне яго таленту (а ён з дваццаці двух гадоў на доўгі час быў адарваны ад краёвае літаратуры), бясспрэчна, не спрыяла як самому беларускаму літаратурнаму працэсу, так і ўдасканаленню майстэрства паэта. Набытыя ў Маскоўскім універсітэце веды, а таксама літаратурная практыка (паэт наведваў паседжанні гуртка "11-га нумера" В.Бялінскага і М.Чысцякова і ананімна друкаваў свае працы ў расійскай перыёдыцы) Т.Лады-Заблоцкага не былі запатрабаваны беларускім грамадствам. І творчая энергія паэта самастойна мусіла шукаць выйсце. Справа ішла да таго, што агульнамастацкія і агульналітаратурныя аспекты творчасці з часам маглі адолець доўга непадмацаваную нічым стыхію краёвага патрыятызму. А гэта для тагачасных беларусаў сталася сапраўднаю трагедыяй. Можна прыгадаць шэраг таленавітых маладых людзей, якія аддалі свой талент і працу на карысць суседніх народаў. Найбольш яскравы прыклад - сябра Т.Лады-Заблоцкага па Маскоўскаму універсітэту Каэтан Касовіч: шчырая захопленасць беларускаю тэматыкаю не змагла рэалізавацца ў даследаваннях мовы і фальклору свайго народа з-за палітыкі расійскага царызму. На шчасце, лёс абраў для Т.Лады-Заблоцкага іншы шлях. Закінуты на Каўказ, паэт знайшоў у літаратурнай творчасці выратаванне ад пагрозлівай небяспекі згубіцца ў свеце, страціць сваю бацькаўшчыну. Вершаскладанне, а таксама клопат данесці суайчыннікам набытак свае музы сталіся тым стымулам, які дапамагаў у жорсткіх умовах жаўнерскае службы не страціць чалавечыя пачуцці, патрыятычныя погляды, любоў да краю, Віцебшчыны, да свае Беларусі.*

*Не маючы сяброў на радзіме, Т.Лада-Заблоцкі наважваецца звярнуцца да незнаёмых яму людзей з просьбаю ў падтрымцы. Надзвычай балюча перажываючы страту сваіх рукапісаў, паэт, накіроўваючыся на вайну з горцамі, каб дабываць Расіі новыя землі, марыць усё ж адшукаць іх, выдаць і будзе шчаслівы, "калі хоць адна мая думка, хоць адно пачуццё ўвойдзе ў сферу паняццяў маіх землякоў".*

*Цяжкі гэта быў шлях. Доўгіх пяць гадоў (а калі ўлічыць і першую спробу выдаць сваю кніжку паэзіі, дык цэлых дзесяць) чакаў паэт шчаслівага дня 1845 года, калі Рамуальд Падбярэскі даслаў з Пецярбурга томік "Poezji".*

*Пра асобныя этапы гэтага шляху можна даведацца з лістоў Т.Лады-Заблоцкага да вядомага і папулярнага тагачаснага польскамоўнага літаратара Юзафа Ігната Крашэўскага (1812-1887), які ў той час жыў у маёнтку Губін на Валыні. Відаць, не выпадкова каўказскі выгнанец звярнуўся да Ю.І.Крашэўскага, каб той адшукаў і выдаў ягоныя творы: аўтарытэт апошняга быў проста неабходны ў дадзеным выпадку. Ю.І.Крашэўскі, па-першае, быў адным з самых таленавітых ды пладавітых літаратараў (ледзь не ў кожным нумары тагачаснае перыёдыкі друкаваўся ягоны ці то твор, ці то допіс); па-другое, ён пачынаў выдаваць часопіс "Athenaeum", праграма якога значна адрознівалася ад усіх іншых выданняў і шмат абяцала. Для Т.Лады-Заблоцкага, польская мова якога, мякка кажучы, жадала быць лепшаю (лексічныя і сінтаксічныя беларусізмы парушалі яе нормы) дастаткова важным з'яўлялася пытанне, хто будзе рэдактарам-выдаўцом ягоных твораў. Вось чаму паэт хацеў, каб менавіта Ю.І.Крашэўскі дапамог яму.*

*Аднак справа аказалася нялёгкаю. Доўгі час не ўдавалася атрымаць аніякіх звестак з Беларусі, і Т.Лада-Заблоцкі ў 1843 годзе просіць Ю.І.Крашэўскага выдаць хоць тое, што ён ужо даслаў у Губін.*

*Адсутнасць лістоў паэта за наступныя тры з палоўваю гады не дазваляе высветліць усе абставіны выдання зборніка. Мажліва, што Ю.І.Крашэўскі, атрымаўшы ўсё ж творы Т.Лады-Заблоцкага, перадаў іх Рамуальду Падбярэскаму. Але зусім верагодна, што ўсё было інакш. Бо ўжо ў 1842 годзе наладзілася ліставанне між Р.Падбярэскім і каўказскім выгнанцам. Можна дапусціць, што "беларускія рукапісы" паэта не дасылаліся Ю.Крашэўскаму, а іх здолеў знайсці ў часе сваіх вандровак па Беларусі Р.Падбярэскі. Перадусім, у лістах апошняга да ўсё таго ж Ю.І.Крашэўскага няма гаворкі пра перадачу рукапісаў. Складваецца ўражанне, што фразаю "Я хачу выдаць даволі вялікі том вершаваных твораў Лады-Заблоцкага" ў лісце ад 22.07.1844 года Р.Падбярэскі адно толькі знаёміць Ю.І.Крашэўскага са сваімі планамі. Відаць, бачачы, што ў Ю.І.Крашэўскага нічога не атрымліваецца, Т.Лада-Заблоцкі даручыў справу пецярбургскаму выдаўцу. Здарылася гэта ў 1843 годзе ды, відаць, якраз і падштурхнула Р.Падбярэскага паехаць на Беларусь ды адшукаць рукапісы паэта. У часе вандровак ён сустракаўся з Вінцэнтам Газдава-Рэвутам і Аляксандарам Абрампольскім, г.зн., тымі, хто меў значны, хоць і няпоўны збор рукапісаў Т.Лады-Заблоцкага. 15.01.1845 года (як паведаміў у "Tygodniku Petersburgskim" Р.Падбярэскі) зборнік "Poezje" быў здадзены ў друк, а ў чэрвені-ліпені трапіў да падпісчыкаў, у кнігарні і да самога аўтара.*

*Так збылася мара Тадэвуша Лады-Заблоцкага вярнуцца - хоць такім чынам - на Бацькаўшчыну, "на небе родным заблішчаць..."*

*Лісты Т.Лады-Заблоцкага да Ю.І.Крашэўскага друкуюцца ў перакладзе з польскае мовы паводле арыгіналаў, якія захоўваюцца ў рукапісным аддзеле Ягелонскае бібліятэкі ў Кракаве (сігнатура 6458 і 6482).*

***Мікола Хаустовіч, кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры гісторыі беларускай літаратуры Белдзяржуніверсітэта.***

Тадэвуш ЛАДА-ЗАБЛОЦКІ

# ЛІСТЫ ДА ЮЗАФА КРАШЭЎСКАГА

## №1

***15 лістапада 1840 г., Тыфліс***

Вяльможны Мосці Дабрадзею!

Праспект на выданне Панам часопіса "Athenaeum" [1] (у якім Вяльможны Пан Дабрадзей меў ласку паклікаць да супрацоўніцтва ўсіх, хто не абыякавы да развіцця краёвага пісьменства, хто альбо сам удзельнічае ў ім, альбо пільна сочыць за ягоным поступам) дайшоў пры пасрэдніцтве "Tygodnika Petersburgskiego" аж да нас і заахвоціў мяне даслаць Пану колькі вершаў Уладзіслава Стральніцкага [2] ды маіх уласных, напісаных за Каўказам, і далей стала ды чынна супрацоўнічаць з гэтым альманахам, калі толькі атрымаю на гэта дазвол Вяльможнага Пана Дабрадзея. Больш блізкае знаёмства маё са справамі тутэйшага краю магло б дазволіць мне напісаць не адзін артыкул, які б меў шмат цікавага, асабліва для нас, палякаў. [3] Але каб мае гэтыя жаданні і намеры здзейсніліся, мне трэба заахвочванне з боку Пана Дабрадзея. Дык няхай даруе мне пан, што на самым пачатку нашых лістоўных стасункаў, якія спадзяюся і далей падтрымліваць, калі толькі пан ушануе мяне сваёю згодаю на гэта, асмельваюся патурбаваць Яго невялікім даручэннем і маю надзею, што той, Хто так руліцца пра дабро краёвага пісьменства, Хто найчынней спрыяе славе нашага народа, захоча выканаць маю просьбу, абавязваючы мяне гэтым да асабістае ўдзячнасці.

У 1836 годзе, калі я рыхтаваўся да выезду з краю, пан Ігнат Цеханавецкі, сын маршалка Віцебскае губерні, кандыдат Дэрпцкага універсітэта, намовіў мяне аддаць яму ўсе мае рукапісы, абавязваючыся як найлепш выдаць іх у Ліпску ў Брайцкопфа і Гартэля пры пасрэдніцтве дэрпцкага кнігара Клюгэ і дазволам тамтэйшае цэнзуры. Ужо быў падпісаны кантракт і надрукаваны падпісныя білеты ў Дэрпце. Давяраючы святому слову прыяцеля і лічачы гэтую справу закончанаю, я ад'ехаў у Грузію, зусім не хвалюючыся пра гэты інтарэс. У 1839 годзе я атрымаў ліст ад Цеханавецкага, у якім ён паведаміў мне, што мусіў разарваць кантракт з Клюгэ, які больш клапаціўся пра сваю карысць, чым пра агульнае дабро, і запэўніў мяне, што праз два месяцы, не больш, надрукуе ў Пецярбургу як вершы, так і іншыя мае творы, што меў у сваіх руках. Але калі на наступныя мае лісты ён ані разу не адказаў, калі два апошнія з іх я атрымаў назад, я пачаў хвалявацца ў скрусе, ці не загінулі мае рукапісы, а таксама ці не сталася чагосьці з іхнім выдаўцом. Правёўшы дзіцячыя гады ў Расіі і атрымаўшы адукацыю ў Маскоўскім універсітэце, я больш маю стасункаў з цэнтральнаю Расіяю, чым з нашым краем, дык не магу даведацца не толькі пра лёс маіх твораў, але нават і пра іхняга выдаўца. Мае рукапісы на адной толькі польскай мове, пакінутыя ў Цеханавецкага, наступныя: 1) "Вершаваныя творы" (больш за дзевяноста, у тым ліку некалькі вялікіх паэмаў) - два тамы; 2) "Аксэль", паэма Тэгнера [4], перакладзеная са шведскае, - адзін том; 3) "Дзённік майго падарожжа з Віцебска ў Тыфліс і з Тыфлісу па размаітых краях за Каўказам" - тры часткі; 4) "Збор новых вершаў, напісаных у Грузіі" (больш за сорак).

З іх толькі копію апошняга маю ў сябе, аўтографы двух сярэдніх аддаў ці адаслаў Цеханавецкаму, не пакінуўшы ў сябе аніводнага нават з іх вынятку, першага ж пакінуў на Белай Русі пяць копій. Першую, найбольш поўную, якая складаецца з усяго таго, што толькі напісаў вершам у часе майго побыту ў Расіі ці на Белай Русі, я аддаў Ігнату Цеханавецкаму; другая, не такая поўная, - у Аляксандра Абрампольскага, абываццеля Полацкага павету; трэцяя - у Вінцэнта Газдава-Рэвута [5], маршалка Гарадзецкага павету; чацвёртая - у нябожчыка Юзафата Яхімовіча, магістра Віленскага універсітэта, абываццеля Гарадзецкага

павету; пятая (сам аўтограф-чарнавік, што складаецца з пяцідзесяці маіх вершаў) - у руках майго сваяка Юры Лады-Заблоцкага, абываценя Себежскага павету Магілёўскае губерні. Я чуў, што пан Абрампольскі надрукаваў у "Bіrucie" колькі з гэтых твораў пад крыптанімам T.Ł.Z. [6] Але ці надрукавана дзе-небудзь штосьці яшчэ з іх - я зусім не ведаю.

Дык просьбу сваю выкажу ў некалькіх словах. Ці не мог бы Пан Дабрадзей звярнуцца праз "Athenaeum" і "Tygodnik Petersburgski" да ўсіх, хто мае мае рукапісы, каб выслалі іх Табе; а атрымаўшы, сістэматызаваць і надрукаваць іх ці то ў Завадскага, ці то ў Глюксберга. І хоць я сам не лічу, што мае працы маюць вялікую вартасць, але хацеў бы, каб яны, напісаныя з самымі чыстымі мэтамі, былі далучаны да агульнага скарбу нашага пісьменства, як удовін грош, пакладзены на алтар польскае мовы. Няхай я не атрымаю аніякае матэрыяльнае карысці, але буду шчаслівы, калі хоць адна мая думка, хоць адно пачуццё ўвойдзе ў сферу паняццяў маіх землякоў, - тады будуць узнагароджаны ўсе страты, якія я меў у жыцці. Як толькі Пан паведаміць адказ на маю просьбу, я збяру ўсё тое, што напісаў у Грузіі, і вышлю Яму. Прашу адказаць мне як можна хутчэй, бо ў першых днях сакавіка па абавязку мушу выехаць з Тыфлісу і не ведаю, як хутка вярнуся назад. Напачатку гэтага года я меў намер наведаць родны край, але акалічнасці ды справы не толькі цяпер затрымалі мяне за Каўказам, але нават цэлы наступны год не дазволяць мне выехаць адсюль. Больш таго, маё аслабленае здароўе, што патрабуе цёплага паветра Усходу і тутэйшых мінеральных водаў, можа змусіць мяне назаўсёды застацца ў Грузіі альбо нават пераехаць далей на поўдзень у правінцыі, далучаныя ад Персіі. Не спадзяюся, каб калі-небудзь мог асабіста заняцца гэтаю справаю. Дык даручаю яе Пану Дабрадзею і хоць ведаю Пана толькі з літаратурнае славы, але ўнутранае перакананне кажа мне, што можаш выканаць маю просьбу, і што ў цяснінах Каўказу, у стэпах Грузіі і блізу гор старажытнага Арарату я паўтару са шчырай удзячнасцю Панскае імя.

Колькі месяцаў таму я даслаў шэраг вершаў як сваіх уласных, так і Стральніцкага ў альманах "Zorza Północna" і ў 43 нумары "Tygodnika" атрымаў падзяку выдаўца. Творы, што я зараз дасылаю Пану, прызначаны былі дзеля "Niezabudki" Баршчэўскага, але з-за кепска напісанага адрасу ліст не дайшоў да свайго адрасата і быў вернуты мне, дык не маю намеру паўтараць яго. Адрасу майго ўласнага не дасылаю Пану, бо Тыфліс не з'яўляецца мейсцам сталага майго побыту: мушу даволі часта з'язджаць і вяртацца, дык ласкава прашу Пана пісаць на імя майго малодшага брата. Маю гонар заставацца назаўсёды са шчырай прыхільнасцю Вяльможнага Пана Дабрадзея найніжэйшым слугою.

Тадэвуш Лада-Заблоцкі

Его Благородию Венедикту Илларионовичу Ладе-Заблоцкому, прапорщику Кавказского саперного батальона, Господину Адъютанту при бригаде генерал-майора Нильсена в г.Тифлисе.

Дзеля пэўнасці шчыра прашу Пана пісаць заказным.

**№2**

***3 сакавіка 1841 г., Тыфліс***

Вяльможны Мосці Дабрадзею!

Не ўмею выказаць Пану тае радасці, якую прынёс мне Ягоны ліст ад 14 студзеня, атрыманы мною 14 лютага г.г. Я ўдзячны Пану за тую ўвагу і за такое хуткае выкананне мае просьбы, бо таго ж самага дня, калі атрымаў дарагі ліст Ягоны, дайшоў да мяне і №8 "Tygodnika Petersburgskiego". Дык мая вера ў нашых вучоных не толькі не пахіснулася, але шматкроць узмацнілася, і Пан будзе мець з часам пацеху (калі заслужу права на хоць якую згадку ў гісторыі нашага пісьменства), што засцярог мяне ад кроку, які не зрабіў бы мне гонару: спаткаўшы неадольныя перашкоды напачатку свае кар'еры на ніве нашае літаратуры, я меў намер пакінуць яе назаўсёды і прысвяціць сябе, відаць, мове чужога і далёкага ад нас народа.

Асмелены тым удзелам, з якім Пан узяўся шукаць мае рукапісы, і выконваючы дадзенае ў папярэднім маім лісце абяцанне, маю гонар даслаць Яму рэшту маіх вершаў, напісаных за Каўказам, ды крыху больш за дзесятак з даўнейшых, якія ведаў на памяць; і прашу Пана, каб хоць гэтымі кавалкамі, што маеш цяпер у сябе, меў ласку неадкладна пазнаёміць грамадскасць са мною, змяшчаючы іх у "Athenaeum" альбо "Bibliotece Warszawskiej" Шубраньскага, бо толькі два гэтыя часопісы маю надзею знайсці ў Тыфлісе пасля свайго вяртання з далёкае пілігрымкі, у якую зараз выбіраюся. Калі ж Пан захоча змясціць нешта маё дзе-небудзь у іншым месцы, напр., у "Rusałkach" пана Ал.Грозы, дык шчыра прашу абавязаць выдаўца, каб прыслаў мне адзін асобнік гэтага альманаха; бо нягледзячы на ўсю маю прыхільнасць да нашае мовы і

літаратуры, я не маю мажлівасці выпісваць новыя кніжкі і даўно ўжо мала што чытаю па-польску, а калі яшчэ маю якое паняцце пра сучасны стан нашага разумовага жыцця, дык атрымаў яго пераважна з недасканалых, а часта і з памылковых праблiскаў, што часам з'яўляюцца ў замежных часопісах - англельскіх, французскіх і г.д., якія ў мяне ёсць.

Сярод вершаў, якія маю гонар даслаць Пану зараз, знаходзяцца і тыя, што я ўжо перадаў у альманах "Zorza Półnосna". Калі рэдактар "Tygodnika" з-за нейкіх прычынаў не захоча змяшчаць у сваім часопісе [7], тады Пан атрымае іх у поўнае валоданне.

Як толькі Пан атрымае мае рукапісы, прашу перш-наперш заняцца выданнем вершаў; няхай Пан мае ласку прагледзець іх, ачысціць ад граматычных памылак, калі знойдуцца якія, укладзе па-свойму (альбо пакіне той парадак, што ёсць у маім рукапісе, калі яго палічыць добрым) ды выкіне ўсё тое, што будзе не вартым увагі. Давяраю Ягонаму эстэтычнаму пачуццю ды грунтоўнаму веданню польскае мовы.

Што датычыць "Дзённіка майго падарожжа", дык у тым стане, у якім Пан яго знойдзе, у ніякім разе друкаваць нельга. Заўсёды думаў цалкам яго перапрацаваць ды дапоўніць новымі назіраннямі, якія я назапасіў пазней. Такі, як ёсць, ён можа мець цікавасць толькі дзеля сяброў ды знаёмых, а не дзеля грамадскасці. Колькі разоў прасіў Цеханавецкага даслаць яго мне назад, але дасюль ён не выканаў маю просьбу. Дык калі яго Пан атрымаеш, - зычліва прашу даслаць мне, каб я перагледзеў ды закончыў. Калі гэты "Дзённік" з-за нядбаласці Цеханавецкага загінуў, дык мне будзе вельмі шкада яго. Я не магу зараз прыгадаць тыя ўражанні, якія меў ад цудоўных краявідаў Каўказу. Душа мая, падрыхтаваная чатырохгадовым адасабленнем ад свету і людзей [8], была больш чулая, мацней, не так, як звычайна мусіла адчуваць і разумець ды больш пышныя барвы заўважаць на рэчах, якія яе акружалі. Памятаю толькі, што колькі разоў плакаў ад захаплення, і на тым жа самым мейсцы, на скалах, ля берагу рэчкі ды блізу падножжа паднебных гор, не даючы астыць натхненню, занатоўваў на паперы малюнкі, вобразы і мае тагачасныя ўражанні. Моцна шкадую, што не пакінуў сабе копіі. Выконваючы просьбу пана Стральніцкага, маю гонар даслаць у "Athenaeum" верш, прысвечаны мне. Стральніцкі - гэта яшчэ вельмі малады хлопец і абяцае нам вялікі талент. Так ужо добра адгукнуўся пра яго рэдактар "Tygodnika Petersburgskiego" і, спадзяюся, што наша грамадскасць пацвердзіць калісь ягоныя словы. Пасылаючы гэты верш, варта было б з майго боку даслаць і адказ на яго, але разам з пагаршэннем майго здароўя збяднелі і мае думкі, дык пакіну гэта да больш спрыяльных акалічнасцяў.

Выкананнем просьбы Пана (даслаць Яму якія-небудзь малюнкі краявідаў Каўказа, мясцовых сцэнаў, тутэйшых строяў і г.д.) заняўся зараз пан Ляховіч, паручнік графа Паскевіча Эрыванскага палка; ён абавязкова вышле Яму ўсё тое праз колькі тыдняў. Я ўжо бачыў нават колькі малюнкаў, зробленых ім з гэтаю мэтаю. Шкада толькі, што я сам асабіста не магу паклапаціцца пра гэта, бо 8 г.м. накіроўваюся па абавязку маім у далёкую вандроўку. Рэшту сакавіка і ўвесь красавік буду ў стэпах Шырвану і блізу берагоў Каспійскага мора, наступныя месяцы аж да кастрычніка альбо нават лістапада буду ў гарах паўночнага Дагестана і ледзь напрыканцы гэтага года вярнуся ў Тыфліс, калі толькі Бог дазволіць мне шчасліва адбыць гэтае небяспечнае падарожжа, ад удалага завяршэння якога залежыць мой далейшы лёс і асабістая незалежнасць майго жыцця. Аднак няхай гэта не спыняе Пана цешыць мяне сваімі частымі лістамі: дзе б я не быў, заўсёды іх адашлюць мне, хоць і не так хутка буду атрымліваць іх ды не так хутка адказваць на іх. Генерал Нельсан ад'язджае ў Пецярбург, а з ім разам, можа, і мой брат, дык зычліва прашу пісаць мне на наступны адрас: Его Высокоблагородию Антону Адамовичу Стоцкому [9], Господину помощнику губернского землемера Грузинско-Имеретинской губернии в г.Тифлисе. Заўсёды аднак дзеля пэўнасці няхай Пан піша заказным. У выпадку маёй смерці, што вельмі лёгка можа здарыцца ці то з прычыны пастаяннай слабасці майго здароўя, ці то з-за небяспечнага мерапрыемства, у якім удзельнічаю, і клопатаў, якія мушу перанесці, Пану будзе паведамлена кім-небудзь з маіх знаёмых.

На ўсе ўмовы, якія Пан Дабрадзей укладзе з кнігаром, і пра якія, як пішаш, маешся мне паведаміць, адразу згаджаюся. Хацеў бы, аднак, замест грошай атрымаць патрэбныя мне польскія кнігі і калі на гэта будзе дазвол, дашлю іх спіс.

Перш за ўсё прашу Пана, калі толькі Ягоны намер споўніцца, намаўляць кнігара, каб зрабіў добрае выданне маіх вершаў на мелаванай, калі можна будзе, паперы, у трох томіках у 12 альбо 16.

Хоць пасля стольких довадаў шляхетнага спосабу мыслення і сапраўднага чалавечага спачування Вяльможнага Пана Дабрадзея сорамна было б абцяжарваць яго новым даручэннем, аднак вымушана выконваю не толькі шчырыя жаданні ўласнага сэрца, але і просьбы шматлікіх маіх знаёмых. Гаворка пра партрэт Пана. Ці не мог бы Пан даслаць са два асобнікі нам? Гэта было б для нас, закаўказцаў, самай дарагой памяткай. Мы хацелі б бачыць хоць рысы Таго, чые творы былі і будуць для нас сапраўдным задавальненнем, і каго, можа, ніколі не

мецьмем шчасця бачыць асабіста. Пэўна, Пан даруе мне шчырасць, бо ж пішу я Крашэўскаму.

Маю гонар заставацца назаўсёды з самым глыбокім шанаваннем Вяльможнага Пана Дабрадзея найніжайшым слугою.

Тадэвуш Лада-Заблоцкі.

**№3**

*27 красавіка 1842 г.,*
*г.Тыфліс*

Больш за год прайшло, як я меў гонар даслаць Пану свае творы, напісаныя ў Грузіі, просячы Яго неадкладна змясціць іх у нашых перыядычных выданнях, пакуль Пан атрымае рэшту маіх рукапісаў, пакінутых на Белай Русі. Мая адсутнасць у Тыфлісе, што працягвалася аж да студзеня г.г., а пасля пастаянны занятак абавязкам, не пакінулі мне аніводнае вольнае хвіліны, каб мог якой-небудзь новай працай нагадаць Яму пра сябе. З пятага тому "Athenaeum"даведаўся, што Пан атрымаў мой апошні ліст і, мяркуючы па праспекту на 2-гі аддзел часопіса, спадзяваўся ў шостым нумары спаткаць што-небудзь сваё, але як на няшчасце, Глюксберг аж да сённяшняга дня не даслаў мне гэты том, а выпісаны ў Завадскага месяц таму наступны аддзел, - яшчэ не трапіў у мае рукі. Дык нічога не ведаю ні пра лёс твораў, дасланых Яму, ні таксама пра рэшту маіх рукапісаў, знайсці якія я асмеліўся даверыць Пану.

Дык калі добрыя жаданні Пана не зніклі, то зычліва прашу ўкласці і як хутчэй выдаваць творы. Я не памятаю нават тытулаў многіх сваіх вершаў, але з тых, што памятаю, прашу выкінуць "Odczarowanie", "Grob poety", пераклады альбо наследаванні з расійскай, баладу Вальтэра Скота "Aliksa Brand", бо яна ўжо перакладзена Адынцом [10] і шмат іншых. Усе гэтыя вершы май Пан ласку, калі можна, падзяліць на тры часткі, нягледзячы на іх храналагічнасць; дзве часткі няхай складаюць напісанае ў краі, а трэцюю - на Каўказе. Усе прысвячэнні, калі Пан, можа, знойдзеш у рукапісе, май ласку зняць, бо мае сённяшнія акалічнасці далі мне магчымасць аж занадта зразумець сапраўдныя вартасці маіх даўнейшых сяброў.

Яшчэ раз паўтараю просьбу пра найхутчэйшую публікацыю, бо стан майго здароўя, падарванага няшчасцем і згрызотамі, нязменна пагаршаецца. У мяне, здаецца, сухоты і калі мне ў гэтым годзе не дапамогуць Пяцігорскія воды, на якія думаю паехаць праз тыдзень, - то ў такім разе, можа, і не дажыву да наступнае вясны. Не ведаю навошта, але хацеў бы перад смерцю абавязкова ўбачыць пададзеную на суд грамадскасці адзіную памятку, якую быў у стане пакінуць пасля сябе дзеля краю. З духу, які сёння пануе ў нашай літаратуры, раблю выснову, што публікацыя маіх вершаў будзе анахранізмам, але жыццё маё было горкім, аж занадта горкім! Пісаў я пад уплывам акалічнасцяў і грамадскіх уражанняў. Не наследаваў нікога, а калі і наблізіўся да чыйгосьці духу, - не мая віна!

Я даў Пану поўнае права на заключэнне дамовы з кнігаром, на ўсе ўмовы адразу згаджаюся, але калі трэба маё слова, - не хачу грашовага ўзнагароджання. Няхай мне дашле польскіх кніжак, і калі мне самому не прыдадуцца, дык могуць прынесці пацеху і палёгку не аднаму з нашых землякоў, закінутых на Каўказ. Няхай хоць гэтым буду карысным!

Абяцаў даслаць Пану на просьбу Ягоную колькі малюнкаў Каўказу, але з жалем мушу прызнацца, што не знайшоў тут аніводнага мастака, які б мог гэта зрабіць. Паручнік Ляховіч, на якога столькі ўскладаў надзей, адразу пасля майго ад'езду з Тыфлісу, нечакана выехаў на Літву, дзе бавіцца ажно дасюль. Аднак жа яшчэ не губляю надзею. Генерал Э...[11], што мае багаты збор тутэйшых краявідаў, хутка вернецца з Пецярбургу. Спадзяюся, што ён дазволіць пазнаёміцца са сваім зборам, дык я пастараюся перамаляваць, - і тым самым задаволю Ягоныя жаданні.

З нецярплівасцю буду чакаць Панскага адказу, у якім спадзяюся атрымаць якую-небудзь вестку пра мае творы: ці надрукаваны яны дзе-небудзь і калі? Ці Пан атрымаў што-небудзь з Белай Русі і што менавіта? Я перакананы, што не захочаш мяне пакінуць у такой няпэўнасці і з першаю поштаю май ласку даць адказ. Калі выеду ў Пяцігорск, то не пазней як праз тыдзень. Забаўлюся там цэлы месяц, дык Панскі ліст застане мяне ўжо ў Тыфлісе.

Няхай Пан паведаміць пану Міхалу Вішнеўскаму [12], што "Крымскія санеты" Міцкевіча і ягоная славутая імправізацыя "Самотнасць..." перакладзены на грузінскую мову князем Эрыставым, а "Фарыс" - на персідскую мову невядомым перакладчыкам, здаецца, Аляксандарам Ходзькаю [13], які нядаўна быў консулам у Рэшце. Праязджаючы праз Дэрбент, які ляжыць блізу Каспійскага мора, я сам слухаў перса,

што дэкламаваў гэты пекны твор нашага вялікага вешчуна, захапляўся ім, але аніяк не хацеў паверыць мне, што яго напісаў паляк. Можа, гэтая вестка прыдасца ў гісторыі польскае літаратуры на што-небудзь.

Май ласку, мой дарагі Пане, прыняць словы самае шчырае павагі, з якімі маю гонар заставацца назаўсёды.

Яго найніжэйшы слуга Тадэвуш Лада-Заблоцкі.

Адрас: Венедикту Илларионовичу Ладе-Заблоцкому г-ну подпоручику и кавалеру Кавказского саперного батальона в г.Тифлисе. А его прошу передать Фаддею Илларионовичу.

**№4**

***21 чэрвеня 1842 г.***
***Цемір-Хан-Шура - у Паўночным Дагестане.***

У апошнія дні красавіка г.г. я пісаў Пану, пытаючыся пра лёс маіх вершаў, дасланых Яму, і спадзяваўся атрымаць адказ ў Тыфлісе, але замест Пяцігорска, куды я меўся ехаць, нечакана і неспадзявана апынуўся ў Паўночным Дагестане, на берагах Каспу, і не так хутка, як здаецца, вярнуся ў Тыфліс. Аднак жа мая вандроўка, хоць і без мае волі, прынесла мне немалую карысць. Уражанні, сабраныя ў ёй, дасылаю цяпер Пану, просячы Яго змясціць іх неадкладна ў "Athenaeum" альбо ў якім-небудзь іншым нашым перыядычным выданні [14]. Чатыры першыя вершы ("Do Nizzy", "Duma nad brzegiem morza Kaspijskiego", "Do N..." і "Do Władysława Strzelnickiego") даслаў п.Рамуальду Падбярэскаму [15] ў ягоны "Rocznik Literacki" , што мае выйсці ў Пецярбургу; Р.Падбярэскі меў ласку звярнуцца да мяне. Змясціў іх тут толькі дзеля таго, каб Пан, займаючыся выданнем маіх твораў, меў іх усе пад рукою.

Дасылаю Пану таксама чатыры акорды заўчасна разбітае бураю лёсу лютні Станіслава Вінніцкага, якія мне ўдалося адшукаць. Малады той чалавек, вялікіх надзей, сябра і, здаецца, сваяк Аляксандара Грозы [16], памёр год таму ў шпіталі крэпасці Грозная. Калі Пан з прычыны вялікае колькасці матэрыялаў не можа змясціць іх у "Athenaeum", дык у такім разе шчыра прашу адаслаць п.Аляксандару Грозе ў ягоную "Rusałku". Гэты апошні зык душы шаноўнага Станіслава, пэўна, будзе яму мілым і жаданым. Здаецца, што с.п. Вінніцкі закончыў сваю паэму "Арцём Паповіч", пачатак якое друкаваўся ў першай частцы "Rusałki". Год таму ён дэкламаваў мне колькі выняткаў з яе, але нягледзячы на агульныя старанні ўсіх ягоных знаёмых, не мог атрымаць больш пэўных звестак пра яе. Калі ж нашыя пошукі завершацца поспехам, то ў такім разе не забуду даслаць Пану рэшту твораў Вінніцкага дзеля іхняе публікацыі.

Малады хлопец, падпаручнік Міхал Брамм, навучыўшыся па-польску, захапіўся нашай літаратурай і праз мяне дасылае Пану колькі вершаў, просячы змясціць у "Athenaeum". Спадзяюся, што Пан захоча заахвоціць маладога чужаземца, зважаючы калі не на ўнутраную вартасць ягоных твораў, то, перадусім, на жаданне бескарысна пакласці ўдовін грош на алтар славянскага пісьменства.

Калі Пан возьме ў "Athenaeum" артыкул пра Усход, дык дашлю Яму маю працу "Пра грузінскую паэзію", якую я ўжо даўно падрыхтаваў; буду чакаць на гэта дазволу.

Няхай Пан піша мне на адрас, дасланы яму ў апошнім лісце. Дзе б я ні быў, Ягоны ліст трапіць у мае рукі, калі толькі не давядзецца мне закончыць гэтае тулячае жыццё, бо заўтра на досвітку з аддзелам генерала Граббе [17] выходзім у горы да Амарыі, дзе мусім узяць штурмам колькі аулаў ды пабудаваць крэпасць.

Маю гонар заставацца назаўсёды з самым глыбокім шанаваннем Яго найніжэйшым слугою.

Тадэвуш Лада-Заблоцкі.

**№5**

***5 студзеня 1843 г.,***
***Тыфліс***

Панскі ліст ад 25 мая мінулага года я атрымаў 31 жніўня ў Айсынанруху ў Вялікай Чачні, дзе быў цэлае лета ды восень, будуючы крэпасць. Адсутнасць усялякае камунікацыі з Тыфлісам, якую нам перапынілі горцы, пазбавіла мяне прыемнасці хутка адказаць на апошні Ягоны ліст ды падзякаваць Яму ад душы за той шчыры ўдзел, які маеш ласку Пан браць і ў здароўі маім, і ў пошуку маіх твораў. Вярнуўшыся ў Тыфліс 25 снежня, стомлены і з яшчэ больш падарваным здароўем, ледзь сёння магу разлічыцца з таго доўгу ўдзячнасці, так любага майму сэрцу.

Я моцна засмучаны, што нягледзячы на Панскую абвестку ў "Tygodniku", нічога Пан аж да сённяшняга дня не атрымаў з маіх рукапісаў. Такую нячуласць на Ягоную адозву хацеў бы вытлумачыць тым, што "Tygodnik Petersburgski" - надзвычай рэдкая газета ў нашым краі і што Ягоныя словы не трапілі па прызначэнні. Прасіў бы Пана змясціць колькі маіх вершаў ў "Athenaeum" ды паўтарыць у ім абвестку, бо шчыра перакананы, што "Athenaeum" больш ведаюць на Белай Русі, чым "Tygodnik", і толькі гэтым шляхам можна трапіць да мэты. З наступнаю поштаю я зноў пішу на Белую Русь - можа, гэтая адозва будзе шчаслівейшаю.

Тымчасам старанна перагледзеўшы сваю памяць і паперы, знайшоў больш за дваццаць даўнейшых вершаў, напісаных ці не ў дзіцячыя гады; маю гонар даслаць іх сёння Пану. Тыя, што Пан палічыць вартымі друку, няхай змесціць у маючым выйсці зборніку; і хоць бы Пан пазней атрымаў другі асобнік гэтых самых вершаў, зычліва прашу, каб трымаўся пры выданні тых, якія я сёння яму дасылаю, бо гэта перапрацаваныя апошнім часам. Калі ж Пан праз шэсць месяцаў ад даты гэтага ліста анічога з маіх рукапісаў не атрымае, дык у такім разе, не чакаючы болей, абавязваю Пана на ўсё, каб меў ласку заняцца выданнем хоць таго,што я даслаў яму з Тыфлісу; бо спадзяюся, што і таго, што Пан мае сёння ў сябе, дастаткова на два прыстойныя томікі. Не трапяць у гэты зборнік ні паэма "Ваколіцы Віцебска", ні дзве фантазіі "Духі" і "Два анёлы", а таксама балада з беларускіх паданняў "Зачараваная дзяўчына" ды колькі іншых, якія я найбольш цаню. Але што ж чыніць? Пакіньма іх іншаму часу, і калі будуць вартыя ўвагі грамадскасці, то абавязкова пазбегнуць забыцця і некалі адшукаюцца.

Пан раіць мне заняцца апісаннем маіх вандровак па Каўказе. Па-праўдзе, сорамна за суайчыннікаў, бо аніводзін з тых, што былі альбо зараз знаходзяцца на Каўказе, не заняўся гэтым прадметам, такім важным і такім цікавым у нас. Адсутнасць здароўя і часу не дазволяць мне заняцца гэтым, але свае ўражанні ды назіранні, запісаныя ў вандроўках па левых хрыбтах Каўказа, я перадаю пану Міхалу Бутаўту, які ўжо колькі гадоў працуе над апісаннем Каўказа, вывучае тутэйшыя мовы, збірае гістарычныя матэрыялы, і ўжо значную частку працы, такое цікавае ды важнае для нас, закончыў. Кавалак з яе пад тытулам "Дэрбент" ён даслаў, як мне казаў, Пану ў "Athenaeum". Не чытаў яго, але спадзяюся, што напісаў ён добра, бо што датычыць дару трапнага назірання ды праўдзіва нямецкае эрудыцыі ў справах Усходу, - рэдка хто зраўняецца з ім. Няхай яго толькі Пан мае ласку заахвоціць ды надрукуе тое, што ён даслаў Яму; гэта чалавек малады, дваццаці двух гадоў, і патрабуе заахвочвання.

Апрача таго, пан Лявон Янішэўскі, перакладчык "Цыганоў" Пушкіна на польскую мову, ужо закончыў свае "Уражанні з падарожжа на Каўказ", што (магу паручыцца) будуць мець большы інтарэс і значэнне за напышлівыя малюнкі Марлінскага [18].Ён цяпер ужо перапісвае іх і праз колькі поштаў адашле ў Варшаву ў друк. Пасля гэтых працаў я вельмі малую магу прынесці карысць, лепей перакладу якую-небудзь паэму з грузінскае мовы (вывучэннем якое займаюся ўжо нейкі час), калі толькі кепскі стан майго здароўя не змусіць перапыніць гэтую працу.

Калі я ў гэтым годзе не здолею трапіць у Пяцігорск, то ў таварыстве некалькіх калегаў накіруюся ў вандроўку на Арарат. Яшчэ польская нага не была на ягонай вяршыні. Ужо даўно гэтая думка займае маё ўяўленне.

Заканчваючы гэты ліст, я лічу патрэбным папрасіць у Пана прабачэння, што наважваюся абцяжарваць яго сваёю карэспандэнцыяй. Выдатна разумею, як павінны мы берагчы Ягоны час; час, прысвечаны толькі ўслаўленню нашага імя і развіццю пісьменства. Але мае акалічнасці павінны заступіцца за мяне перад Панам; і да каго ж бы мы звярнуліся, калі б Крашэўскі адмовіў нам у дапамозе?

Няхай Пан верыць самаму шчыраму прызнанню, што маю гонар назаўсёды заставацца з глыбокім шанаваннем Яго найніжэйшым слугою.

Тадэвуш Лада-Заблоцкі.

**№6**

***15 лютага 1843 г.,***
***Тыфліс***

Не ведаю, як вытлумачыць Пану сваю частую надакучлівасць, што лістамі адрываю Яго ад важных працаў, якія столькі гонару прыносяць нашаму пісьменству. Даруй, мой дарагі Пане, што яшчэ раз асмельваюся непакоіць і нагадаць пра сябе сваім лістом.

5 студзеня гэтага года я прасіў Пана, каб не чакаючы рэшты маіх рукапісаў, Ён пачаў друкаваць тое, што даслаў Яму, абяцаючы яшчэ раз звярнуцца да пп. Цеханавецкага і Рэвута. Але розныя акалічнасці не

дазволілі мне аж да сённяшняга дня напісаць ім ды толькі зараз знайшоў час яшчэ раз лістоўна нагадаць ім, каб пакінутыя ў іх рукапісы адаслалі Пану. Калі не дашлюць на працягу шасці месяцаў, лічачы ад даты гэтага ліста, дык няхай ужо Пан, не чакаючы больш, пачынае перамовы з Завадскім наконт выдання маіх вершаў; бо я хачу, каб Завадскі, а не Глюксберг (што дастаткова нас ашукваў, не дасылаючы шмат якіх выпісаных кніжак, узяўшы за іх грошы), заняўся іх друкаваннем.

Укладанне маіх вершаў даручаю Пану, просячы Яго аднак, каб меў ласку трымацца таго рукапісу, які я даслаў Яму з Каўказа, хоць і атрымаеш з іншых краёў рэшту маіх твораў. Бо шмат якія з іх я паправіў і значна змяніў. Калі ж нічога больш не атрымаеш, дык зычліва прашу даць тытул "Niektóre poezye Tadeusza Łady Zabłockiego, wydane przez J.I. Kraszewskiego", а ў прадмове - кароткую гісторыю маіх рукапісаў, называючы тых, у каго былі яны пакінуты і што менавіта змяшчалі. Сярод страчаных вершаў, якіх я найбольш шкадую, трэба назваць: 1) "Ваколіцы Віцебска" (паэма), 2) "Зачараваная дзяўчына" (балада з беларускіх паданняў), 3) "Духі" (фантазія), 4) "Два анёлы" (фантазія), 5) колькі сцэнаў з "Неба і Зямлі" Байрана, якія не закончыў, бо не меў пачатку, але хацеў бы надрукаваць; хоць і выдатна пераклаў іх Адынец, аднак наважваюся паспаборнічаць з ім, 6) колькі перакладаў з Байрана і Мура, 7) колькі рамелійскіх і чэшскіх народных песняў, 8) верш "Да Тамаша Кладніцкага", 9) "Да Юзафа Страмескага", 10) "Да Антося Кладніцкага" і шмат якія іншыя. Сам жа зборнік прашу прысвяціць: "Леону Янішэўскаму, Ксавэры Петрашкевічу і Міхалу Андрэйкавічу, сябрам і таварышам доўгіх вандровак Аўтара на Каўказе". Усе яны - маладыя хлопцы вялікіх надзей і поўныя запалу да навукі. Гэта заахвоціць іх да працы і зможа засцерагчы ад змарнавання іхніх талентаў.

Дарагі мой Пане! Аж занадта адчуваю Панскую шляхетнасць, з якою ўзяўся Ён за выкананне просьбы зусім незнаёмага Яму чалавека. Пан учыніць дзеля мяне тое, што Сауці [19] ўчыніў дзеля стольксх сваіх суайчыннікаў, і будзь пэўны: дабрыня Ягоная не трапіць у няўдзячнае сэрца, што нягледзячы на буру, якая няшчасцем праляцела над ім, што так заўчасна развеяла ягоныя найлепшыя імкненні і пакрыла маю галаву раннім інеем, яшчэ цепляцца ў ім святыя пачуцці, яшчэ ў ім можа разгарэцца полымя самае чыстае ўдзячнасці!

Па Панскай просьбе дасылаю сёння два малюнкі краявідаў Каўказа. Яны недасканалыя, але калі хоць часткова адпавядаюць Панскім жаданням, я абяцаю даслаць іншыя тае ж самае рукі. Не паверыць Пан, як цяжка знайсці ў гэтым паэтычным краі мастака. Калі Пан выдасць мае вершы, дык гэта зможа пазнаёміць мяне з іншымі людзьмі, што здолеюць выканаць Панскае даручэнне. Будзь, Пан, пэўны, - гэта мой святы абавязак, які я абавязкова выканаю.

Колькі дзён таму я пачаў перакладаць з персідскае мовы на расійскую "Гісторыю Закаўказскага краю" Абба-Кулі Бакі-хана [20] пры дапамозе самога аўтара. Гэтая праца, да якое ex officio [21] змушаны, займае цяпер увесь мой вольны час. Не ведаю, калі яе закончу, але пасля займуся перакладам з ангельскае на польскую драмы Персі Бішы Шэллі "Вызвалены Праметэй", калі толькі Пан будзе мець ласку запэўніць мяне, што наша цэнзура дазволіць мне надрукаваць яго. Шэллі ў нас зусім не ведаюць, нават не памятаю, каб хоць адну згадку пра яго сустракаў у нашых часопісах, а гэта ж славуты паэт і ён варты таго, каб пазнаёміць з ім нашу чытацкую публіку. Прашу толькі Пана паведаміць мне, ці дазволіць цэнзура надрукаваць яго.

Маё здароўе неспадзявана пачало паляпшацца. Калі я змагу трапіць у Пяцігорск, дык, мяркую, цалкам вылечуся. Зусім верагодна, што паўплывала на яго надзвычай лагодная зіма, на працягу якое мы нават не бачылі снегу. Надвор'е такое добрае, што два месяцы неба было нязменна чыстае і так цёпла, што толькі два ці тры разы я апранаў паліто; тыдзень ужо, як усё вакол зазелянела, цвіце міндаль і расце вінаград.

Май ласку Пан паведаміць мне, ці атрымаў мой ліст ад 21 чэрвеня 1842 г. з Цемір-Хан-Шуры, у якім я дасылаў больш за дзесяць маіх новых вершаў. А калі не, то я зноў іх дашлю. Той ліст не я сам адносіў на пошту.

Адрас мой той самы.

Маю гонар заставацца назаўсёды з самым глыбокім шанаваннем Вяльможнага Пана Дабрадзея найніжэйшым слугою.

Тадэвуш Лада-Заблоцкі.

P.S. Я прасіў бы Пана змясціць колькі маіх вершаў у "Athenaeum" і паўтарыць пры іх маю абвестку, надрукаваную ў пазамінулым годзе ў "Tygodniku Petersburgskim", пра мае рукапісы.

**№7**

*30 ліпеня 1846г.,*
*Тыфліс*

Вяльможны Мосці Дабрадзею!

Даўно ўжо ляжыць на маім сэрцы, як самы святы абавязак, жаданне шчыра падзякаваць Пану першнаперш за такія прыемныя для мяне словы ў лісце да гр.Аляксандара Пшэздзецкага, змешчаным у "Bibliotece Warszawskiej", якія сярод прадажных альбо няўмелых вырокаў нашае крытыкі прынеслі мне сапраўдную радасць; па-другое, за рэкамендацыю мяне Войцэху Патоцкаму [22], які, прыехаўшы ў Тыфліс, пазнаёміўся ды пасябраваў са мною і шмат дапамог мне ў справах. Страціўшы надзею выехаць у падарожжа па Персіі, Малой Азіі, Арабіі, Нубіі і Палесціне, я меўся вярнуцца на Бацькаўшчыну і знарок ехаць праз Валынь, каб асабіста пазнаёміцца з Панам, выказаць Яму самую глыбокую маю павагу ды падзякаваць за такую да мяне, незнаёмага, прыхільнасць. Але калі з ласкі пана Падбярэскага (які пры выданні маіх вершаў найганебней мяне ашукаў, бо, намовіўшы мяне на страту некалькіх сотняў рублёў срэбрам, прысвоіў увесь наклад і карыстае з яго), ні першы, ні другі намер не споўніўся і я, закінуты ў Грузію, мушу застацца ў ёй, можа, назаўсёды, спяшаюся аддаць святы доўг і сёння шчыра падзякаваць Пану.

Не паверыць Пан, як нас, жыхароў Каўказа, усцешыла першая вестка, што Пан канчаткова парваў з тою праслаўленаю Валынска-Ліцвінскаю катэрыяй [23], якая не баючыся ні Бога, ні людзей, намагаецца надаць фальшывы ды рэакцыйны кірунак новаму пакаленню. Я заўсёды пераконваў сваіх сяброў, што гэта абавязкова прыйдзе, і, на шчасце наша, не быў хлуслівым пракрокам. У першым запале ў довад нашае радасці абавязаліся ўсе мы даслаць Пану цэлы стос артыкулаў у "Athenaeum", але вестка пра пэўныя здарэнні і ад'езд Патоцкага з князем Варанцовым з Тыфлісу не дазволілі нам споўніць гэты намер. Хоць і адклад, але будзе ў лад; перадусім, я са свайго боку выконваю абяцанне і дасылаю Пану колькі апошніх маіх вершаў, а менавіта: 1) "Вялікі карлік" (балада), 2) "Завушніцы Зары" (гішпанская балада), 3) "Уцекачы" (раманс), 4) "Просьба прарока", 5) "Да К... Д...скай", 6) "Да Казіміра J...i", 7) "Парада невуку" - якія прашу, калі можна, змясціць у наступным нумары "Athenaeum". Апрача гэтага меўся даслаць Пану асобныя мае пераклады з Гётэ, у якіх стараўся трымацца памеру арыгіналу, але адклаў на пазней.

Маючы намер выехаць у край і абавязкова пабачыцца з Панам, хоць бы давялося мне збочыць з дарогі і некалькі сотняў вёрст, я прасіў сваіх карэспандэнтаў накіроўваць лісты на Панскае імя, таму ўрачыста перапрашаю Яго за гэткую смеласць. Дык калі б Пан атрымаў якія-небудзь лісты на маё імя, зычліва прашу адкрыць іх, бо там не можа быць аніякага сакрэту, і ў адным канверце даслаць мне ў Тыфліс на ніжэйпададзены адрас.

Май Пан ласку прыняць словы самае глыбокае павагі і самае шчырае ўдзячнасці з якімі маю гонар заставацца назаўсёды Вяльможнага Пана Дабрадзея найніжэйшым слугою.

Тадэвуш Лада-Заблоцкі

Его Высокоблагородию Ивану Васильевичу Росковшенко, Г-ну инспектору Тифлисской гимназии, с передачею отставному подпоручику Фаддею Илларионовичу Ладо-Заблоцкому, в г.Тифлисе.

**№8**

*9 студзеня 1847 г.,*
*Кульпы, ля падножжа Арарату*
*на Турэцкай мяжы*

На шаноўны і шматчаканы Ягоны ліст ад 29 жніўня мінулага года ледзь сёння адважыўся адказаць. Прычына гэтае затрымкі - хвароба і смерць майго калегі Уладзіслава Стральніцкага, а таксама няпэўнасць уласнага лёсу. Нягледзячы на самае палкае жаданне вярнуцца ў край ды прысвяціць сябе выключна літаратуры, я па волі лёсу мушу затрымацца за Каўказам. Князь намеснік [24] даў мне пасаду кіраўніка Кульпінскімі салянымі капальнямі; можа, найважнейшую ў Грузіі пасаду, якую дасюль займалі людзі, што больш дбалі пра ўласны, чым пра дзяржаўны інтарэс. Калі блаславіць мяне Бог, дык спадзяюся прынесці незлічоную карысць тутэйшаму краю; з такою думкаю заступаючы на пасаду, я не ведаю, ці патраплю пакінуць нешта карыснае дзеля нашае літаратуры, хоць столькі сабраў матэрыялаў дзеля апісання Арменіі, краю, што са шмат якіх пунктаў гледжання можа нас цікавіць.

Што п.Войцэх не піша Пану, дык мае на гэта сякія-такія падставы. Аднак жа калі я выязджаў з Тыфлісу і казаў яму, што пры першай мажлівасці напішу Пану, дык ён прасіў перадаць паклон ад яго. Ён - шчыры Панскі сябра, што дастаткова ўмее ацаніць Панскія заслугі.

З "Tygodnika Petersburgskiego" вядома Пану, што ў нас незваротная страта - памёр с.п.Уладзіслаў Стральніцкі. Ягоныя рукапісы знаходзяцца ў мяне. Сярод іх - аповесць "Махмудак", якая з пункту гледжання мастацкіх вартасцяў займе высокае мейсца ў нашай літаратуры. Я хацеў бы ўсё выдаць, але закінуты на мяжу з Турцыяй, не ведаю, як споўню гэты намер. За выручаныя грошы я паставіў бы помнік на ягонай магіле ў Тыфлісе. Звяртаюся да Пана па гэтым пытанні і спадзяюся, што не адмовішся параіць і дапамагчы мне. Што датычыць кошту на выданне, дык усё гэта я магу ўзяць на сябе. У адной Грузіі раздаў бы блізу двухсот падпісных білетаў. Прашу Пана паведаміць мне, да каго маю звярнуцца: ці да Завадскага, ці да Глюксберга, і колькі можа каштаваць выданне (як можна лепшае) рукапісу ў дваццаць аркушаў.

Спадзяюся, што Пан не адмовіцца ўшанаваць мяне і на гэты раз сваім лістом на ніжэйпададзены адрас. Маю гонар заставацца назаўсёды Яго найніжэйшым слугою.

Тадэвуш Лада-Заблоцкі.

Его Высокоблагородию Фаддею Илларионовичу Ладо-Заблоцкому, управляющему Кульпинским соляным промыслом, через Тифлис и Эривань в Кульпы.

**№9**

***8 мая 1847г.,***
***Кульпы на Турэцкай мяжы ў Азіі***

Шаноўны Пане!

Дарагі ліст Яго ад 26 лютага я атрымаў колькі поштаў таму. Не мог на яго адразу адказаць, бо хаос кульпінскага жыцця ціснe на мяне і не дае мне аніводнае вольнае хвіліны. Пан слушна бласлаўляе нашага добрага, шляхетнага і мудрага намесніка. Ён яшчэ так мала кіруе гэтым краем, а ўжо Каўказ прымае іншы выгляд. Бразганне зброі пачынае глухнуць, злоўжыванні знікаюць, пустыні Арменіі ды Карабаху, дзе калісь кіпела жыццё, пачынаюць зноў засяляцца, прыстойныя людзі паклiканы да працы, непрыстойныя - хочуць не хочуць, а мусяць дастасоўвацца да іх і маўчаць. Я пераканаы, што калі Бог дасць здароўе князю намесніку яшчэ гадоў на дзесяць, то Каўказ стане расійскаю Італіяй, бо ўжо цяпер маем і газеты, і літаратуру, і друкарні, і тэатр, і сваіх уласных кампазітараў ды мастакоў. А ўсё гэта зрабіў князь намеснік на працягу двух гадоў, што ж будзе за гадоў дзесяць-дваццаць? Баюся, каб Пан не палічыў мае словы за паэтычную гіпербалу; усё - шчырая праўда. Тыфліс пачаў траціць рысы азіятызму і так забудаваўся на працягу апошніх гадоў, што яго і пазнаць нельга. Князь намеснік апрача ўсяго заснаваў публічную бібліятэку пры сваёй канцылярыі; у яе ўвойдзе і кнігазбор с.п.Стральніцкага, дзеля якога зробяць асобную шафу з залатым надпісам: "Памятка па с.п.Стральніцкім". Прашу Пана мець ласку даслаць усе свае творы ў бібліятэку пры канцылярыі князя, за што будзеш мець падзяку праз газету "Кавказ", якую Пан мусіш атрымліваць, бо выязджаючы з Тыфлісу, я прасіў рэдактара, каб дасылаў Пану гэтую газету ў абмен на "Athenaeum".

Пан просіць у мяне якіх-небудзь тутэйшых старажытных з паганскіх часоў памятак. Хрысціянства, а пазней іслам усё гэта знішчылі. Можа яшчэ ў недаступных кутках Каўказу патрапіш напаткаць нейкую рэч, але я так далёка за Каўказам, што гэта для мяне становіцца немагчыма. Пры ўзяцці штурмам Кара-Кюры ў Лезгіі ў 1839 годзе ў адной падпаленай саклі я знайшоў тры бронзавыя медалі з выявамі Траяна, Васпасьяна і Марка Аўрэлія, якія аддаў па настойлівай просьбе пэўнага нямецкага падарожніка. Няхай Пан не верыць апісанням падарожжаў па Каўказе французаў і немцаў. Dubois de Monfpezeus [25] шмат распаўсюдзіў хлусліввых вестак, хоць ён і з'яўляецца адным з самых прыстойных пісьменнікаў, што апісваюць падарожжы. Ён піша пра падабенства абхазаў на ліцвінаў, а гэта сапраўдная лухта. Асеціны, праўда, маюць блакітныя вочы і светлыя валасы і гэтымі славянскімі рысамі адрозніваюцца ад усіх каўказскіх народаў, але ў іх мове няма аніводнага славянскага слова. Ёсць колькі нямецкіх слоў, у тым ліку werden і haben, адкуль яны ўзяліся - неразгаданая таямніца. Каб апісаць Каўказ з этнаграфічнага пункту гледжання, трэба мець здольнасці Mezzofati [26]. Бо апрача трох галоўных моваў: армянскае, татарскае і грузінскае, цалкам адрозных адна ад аднае, ёсць абхазская, чаркеская, асецінская, лезгінская, аварская, кумухская, курдская і г.д. мовы асобных плямёнаў. Надзвычай шкада Стральніцкага. Ён ведаў татарскую і лезгінскую мовы, пачаў вучыць кумухскую і шмат зрабіў бы дзеля Каўказу, тым больш, што князь намеснік прызначыў яго даследаваць Каўказ.

Ці можаш, Пан, узяцца за выданне пасмяротных твораў Стральніцкага? Калі б я жыў у Тыфлісе, дзе маю шмат знаёмых, дык пэўна б мог раздаць 200 падпісных білетаў ды звярнуцца да Завадскага, але знаходзячыся ў Кульпах, немагчыма гэта зрабіць; і не ведаю нікога, хто б мог гэтым заняцца. Я ўклаў і перапісаў усе рукапісы с.п. Уладзіслава, сярод якіх - усходняя аповесць "Махмудак", што захапляе паэтыкай, пекнасцю мовы і арыгінальнасцю думкі. Я хацеў даручыць справу Якубу Юркевічу [27], але ён так марудзіць са сваёю "Gwiazdką", на якую я збіраў у Тыфлісе падпіску, што ўжо пачынаю сумнявацца, каб яна калі-небудзь засвяцілася. Працлаўскі, здаецца, патушыў яе сваім грубаватым сарказмам.

Адно, што я магу зрабіць дзеля Пана, дык гэта збіраць старажытныя манеты, якіх тут велізарная колькасць. Раскаўшэнка, дырэктар Тыфліскай гімназіі, сабраў іх блізу 4000. Трапляюцца тут не толькі грэцкія ды рымскія ўсіх часоў, але жыдоўскія, арабскія (найбольш з дынастыі Сасанідаў) і шмат іншых. Але і дзеля гэтага нават трэба жыць у Тыфлісе, дзе сканцэнтравана ўсё жыццё Каўказа. Старажытныя манеты найбольш можна бачыць на амулетах тутэйшых кабет, бо гэтыя амулеты пераходзяць ад пакалення да пакалення.

Проша Пана, ці можна было б даслаць мне "Athenaeum" за 1846 і 1847 гады, якіх я не чытаў. Бо Глюксберг такі неакуратны, што аніякіх дачыненняў з ім мець немагчыма, а Завадскі неахвотна бярэцца за дасланне кніг, што выходзяць з друкарні Глюксберга. З апошняю поштаю я атрымаў: "Каталептык" Штырмера, "Рахіль" Галавінскага, "Лістапад" Равускага і "Калакацыя" Кажанёўскага. Маё сэрца заходзіцца ад радасці, што вы так плённа працуеце. Калі будзе ў мяне час, абавязкова дашлю Пану ў "Athenaeum" сёе-тое прозаю. П.Войцэх заўсёды з князем. У апошнім лісце да мяне сцвярджаў, што хутка напіша Пану.

Май Пан ласку прыняць словы павагі ад

Тадэвуша Лады-Заблоцкага.

***Каментарыі:***

1. Ю.І.Крашэўскі ў 1839 г. звярнуўся да літаратурнае грамадскасці з просьбаю падтрымаць літаратурнымі матэрыяламі яго выданне.
2. Уладзіслаў Стральніцкі (1820-1846) - польскамоўны літаратар. Удзельнік змовы Ш.Канарскага, выгнанец.
3. Палякамі ў сярэдзіне XIX стагоддзя вельмі часта называліся жыхары былое Рэчы Паспалітае - беларусы, украінцы, жамойты.
4. Тэгнер Эсаяс (1781-1846) - паэт, пачынальнік рамантызму ў шведскай літаратуры. "Аксэль" (1822) - лірычная паэма пра часы Карла XII. Гэты твор яшчэ ў 1835 годзе (выдадзены ў Вільні ў 1842 г.) вершам на польскую мову з расійскага падрадкоўніка пераклаў Ян Вернікоўскі (1800-1877) - паэт, філолаг, філамат, сасланы ў 1824 годзе ў Казань. Цікава адзначыць, што ў 1832-1833 гг. Тадэвуш Лада-Заблоцкі сустракаўся і перапісваўся з Я.Вернікоўскім.
5. Вінцэнт Газдава-Рэвут (каля 1815-да 1883) - беларускі польскамоўны літаратар. Аўтар "беларускае паэмы" "Жонка". Жыў у маёнтку Мосар каля Гарадка, куды наведваліся Я.Баршчэўскі, Р.Падбярэскі, Т.Лада-Заблоцкі ды інш.
6. У альманаху "Biruta" за 1837 год надрукаваны верш паэта "Мудрыя вочы. (З чэшскае паэзіі)", а ў томіку за 1838 год - балада "Ляшка".
7. Ю.Працлаўскі так і не выдаў альманах "Zorza Północna".
8. Тадэвуш Лада-Заблоцкі чатыры гады знаходзіўся ў турме.
9. Стоцкі Антон Адамавіч - выгнанец, сябра тыфліскага літаратурнага гуртка.
10. Адынец Антон Эдвард(1804-1885) - беларускі польскамоўны паэт, перакладчык.
11. Прозвішча напісана невыразна.
12. Міхал Вішнеўскі ў той час выдаваў "Гісторыю польскае літаратуры".
13. Ходзька Аляксандар (1804-1891) - беларускі польскамоўны літаратар. У сваёй творчасці выкарыстоўваў беларускі фальклор.
14. Просьбу гэту Ю.І.Крашэўскі, здаецца, не выканаў.
15. Р.Падбярэскі надрукаваў гэтыя вершы ў першым томе свайго альманаха "Rocznik Literacki".
16. Гроза Аляксандар (1807-1875) - польскамоўны літаратар. Нейкі час жыў на Беларусі. Шырока выкарыстоўваў у сваёй творчасці беларускі ды ўкраінскі фальклор.
17. Аддзел генерала Граббе П.Х. у 1839 годзе штурмам авалодаў рэзідэнцыяй Шаміля Ахульго.
18. Вядомы расійскі раманіст.
19. Сауці Роберт (1774-1843) - ангельскі паэт, прадстаўнік "азёрнае школы". Вядомасць яму прынеслі рамантычныя балады.
20. Бакіханаў А. (1794-1847) - вядомы азербайджанскі гісторык.
21. ох officio (лац.) - па абавязку, па пасадзе, па неабходнасці.
22. Патоцкі Войцэх - выгнанец; у польскамоўным друку 40-х гадоў змясціў цэлы шэраг сваіх навел.
23. Або "Пецярбургская катэрыя" - групоўка літаратараў на чале з Г.Равускім, што выступалі за супрацоўніцтва з расійскім царызмам.
24. Са снежня 1844 года намеснікам на Каўказе быў генерал М.С.Варанцоў.
25. Прозвішча літаратара напісана невыразна.
26. Прозвішча напісана невыразна.
27. Юркевіч Якуб (псеўданім - Бенедыкт Далэнга) (1808-пасля 1866) - паэт, перакладчык. Родам з Украіны. Выдаваны ім альманах "Gwiazda" (Кіеў, 1847-1849) вёў барацьбу з "Пецярбургскай катэрыяй".

*Тадэвуш ЛАДА-ЗАБЛОЦКІ*

# ВАКОЛІЦЫ ВІЦЕБСКА

## Апісальная паэма

*Again I revisit the hills where we sported,*
*The streams where we swam, and the fields we fought*
*The school where, loud warn'd by the bell, we resorted*
*To pore o'er the precepts by peta gogues fought.*
*Byron*

I

Светлавалосыя дзяўчаты Беларусі,
Якія мне, як ля крыніц я апынуўся,
На ўздыме дзён юнацкіх і з палётам мараў,
Ссылалі цуды-сны, напоўненыя чараў!
І вы мне, падарожніку уяўных светаў,
Вянок сплялі з дзікіх руж і розных кветаў,
Пасля, калі даўно ўжо песні адгучалі,
Яго на скроні песняровыя ўскладалі.
Мае зямлі дачушкі! Вось чаго хачу я:
Хай сэрца ваша раз адзін яшчэ пачуе
Даўно закінутую песню вайдалота,
Бо лютню Кахаскага была ахвота
Узяць на Белай Русі раз яшчэ ў далоні.
Ах! гук разбуджаны, нібыта рэха, тоне.
Ды мо, як тое рэха, перш чым загубіцца,
Яшчэ паўнейшым гукам сонны гай зварушыць,
І песні сум кране мо дзе душу ўдавіцы
І водгуллем мінулага Наталлю ўзрушыць.

II

Благаслаўлёны край, дзе Тыбр магутны, строгі
Праз пышныя лугі вядзе свае дарогі,
Прырода цешыць там людзей вясной бясконцай,
Каханым мірт, паэтам лаўр там рдзее ў сонцы,
І там, як ноч зямлю абдыме светлым ценем,
Усё навокал дрэмле ціхім задуменнем.
Там Філамена пад аслонай кіпарысаў
Вітае сумнай песняй месяца абрысы.
Паўднёвы ветрык там прыносіць лугу водар,
Пасля ляціць і гіне ў чыстым небе воддаль.
А на самотных выспах у блакітным моры
Гарэць яшчэ ўсё веку залатога зоры.
Шчаслівы той, хто жыў між гэтакай прыроды,
Пад рымскім небам бавіў дні свае заўсёды.

III

А наша поўнач, маці снегу й навальніцаў,
Надзвычай рэдка можа сумных хмар пазбыцца.
Зіма-краса, мароз іскрысты, непагода
Зямлю трымаюць у няволі больш паўгода.

Вясна тут, як прамень нязбыўнае надзеі,
Што блісне і разгоніць сумныя падзеі,
На момант нейкі пачуццё зняволіць,
Аднак, як мара сонная, не задаволіць.

IV

О срэбная Дзвіна! праз гай цячэш халодны.
Як снег растопіць сонечны прамень лагодны,
Вясна на берагах тваіх найлепш квітнее
І ўся сваёй чароўнасцю вакол яснее.
О як жа я любіў дзіцём у час калішні
Гуляць сярод тваіх лугоў, лясоў зацішных
І слухаць хвалі шум, нібыта песню няні,
Суцішваў сэрца неспакой, дум хваляванні,
Ці, быццам варажба, душы мае пагоднай
Наводзіў сум якісьці ў цішыні лагоднай.
Вясна! ты промнем ажыўляючым ласкавым
Жыццё даеш усім, спрыяеш розным справам,
Гай апранаеш, сцелеш на лугах каберцы,
Чаму ж ты не ўнясеш пацехі ў маё сэрца?
І вока, што прывыкла ўжо да слёз чуллівых,
Не можаш асушыць мне ветрыкам гуллівым?

V

Калі ахвяра ты жыццёвай навальніцы,
Калі твая надзея ўжо не можа збыцца,
Калі душу тваю нясцерпны боль падточыць,
І горкая сляза твой ясны зрок азмрочыць,
Хадзі сюды! прысядзьма тут у ціхім цені,
Тут мо пакінуць нас і болі, і ўтрапенні,
Сардэчны сум хвілёвай мараю раззброім,
І слёзы ў воку, і ўздыханні супакоім.
Натхнімся да злых лёсаў пачуццём пагарды,
Як робяць гэта іншыя шчасліўцы барды.

VI

Куды ж завёў мяне ты, роздум мой юначы?
Гару з вянком ляшчыны на чале зноў бачу (1),
Гару, што зрок прыцягвае з адлеглай далі...
Пад ёй плюскочуць Віцьбы задуменнай хвалі,
А побач распрасцёрся роўна луг прыбраны,
Кустамі, травамі і кветкамі заслаы.
О, колькі я разоў - наіўны малалетак, -
Калі жыццё плыло бясхмарна паміж кветак,
Цішком уцёкшы з-пад апекі пільнай вока,
Ляцеў вітаць гару, узнятую высока.
Не раз, з Францішкам (2) седзячы на схіле,
За Віцьбай наўздагон мы думкамі сачылі,
Туды, дзе ўкрытая зялёных гаяў ценем,
Яна ўцякала, як пра шчасце летуценні.
.........................................................................
І вецер асушаў слязу любові з твараў.
Мы часта марылі у прастаце дзяціннай
Аб славе, аб каханні, аб душы нявіннай.
У хваляванні рукі нашыя спляліся,
І вусны ў дружбе вечнай пакляліся.
Дружбак! Як рана лёсу атрымаў удар ты!

А ты ж не дапісаў жыцця і першай карты,
Яшчэ з мінулага не вынес успамінаў,
Яшчэ не стрэў кахання светлае хвіліны,
Яшчэ табе за песні любая дзяўчына
Вяночка з кветак свежай ружы не ўручыла,
Яшчэ чужога сэрца ты не сцішыў жалі,
А ўжо цябе глынулі грознай Віцьбы хвалі!
Ніхто над смерцю не пусціў тваёю слёзкі,
Замоўклі вельмі хутка жыцця адгалоскі,
Няма ніякіх на тваёй магіле кветак,
І памяць аб табе сышла памалу гэтак.

А меней вартых і не так шляхетных
Нярэдка не мінае славы лаўр адметны.
Імя тваё ў глыбінях веку не засвеціць,
Адсутнасці тваёй нашчадак не прыкмеціць.
Спакой тваім астанкам! Ты мне яснай зоркай
Блішчыш у сумнай цемры долі маёй горкай.
Няхай твой дух самотны радасна лунае,
Адно яшчэ тут сэрца забыцця не знае,
Яно ў няшчасці й любасці заўжды сардэчнай
Табе зайздросціць у тваім спачыне вечным.
Была ў цябе душа вялікая, нябожа,
Прымі маю слязу, апошнюю, быць можа,
Слязу ад сябра...
Таго, які прыбыў сюды з краін далёкіх
Успомніць маладосці незваротнай хвілі
І раз яшчэ заплакаць на тваёй магіле.
Спакой тваім астанкам! А з вышынь бяздонных
Спусціся часам да мяне у марах сонных,
Наведвай, як я буду ў сумным хваляванні,
І зоркаю надзеі мне свяці ў выгнанні.

VII

Што тут за шум такі, што дзіка так і глуха
Здалёк лапоча, рвецца ў стомленае вуха
І пасму успамінаў груба абрывае?
Ах, гэты грукат вадаспад млына стварае.
Набліжмася памалу. Ў склубкаванай пене
Імчыць за хваляй хваля, быццам у кіпенні,
Здаецца, тут вясёлка ззяе ў ясным сонцы,
Разбіўшыся на пыл і кропляў лік бясконцы.
Чаго, закраўшыся у гэты кут спакойны,
Грыміш ты, вадаспад, як той самум, вір знойны
Ў арабскай неабсяжнай векавой пустыні
Або віхор душы збалелае ў святыні?

Усё квітнее навакол, ты ж, сын знішчэння,
Спыняеш громам буры цішу акружэння.
Жыцця сапраўднага адбітак ты сярдзіты,
Не адлюстроўваеш нябесныя блакіты.
І вось Наталля, першая ў гуртку дзявочым,
Як німфа скал альпійскіх, што ў задуме змрочнай
Лунала у Манфрэда мройных эскападах,
Не можа паглядзецца ў хвалях вадаспада.
Грымі ж ты, вадаспад! Для тых, хто не ўяўляе,
Напамінай, што хутка так жыццё мінае.

Жыццё вірлівае, бурлівае бясконца
І толькі зрэдку пешчанае ласкай сонца,
З якое, як з цябе: зляціш у вір глыбінны,
І застануцца толькі пенныя ўспаміны.

VIII

У горад ідучы, мы адпачнём хвіліну (3)
На тых узгорках, што схіляюць да спачыну,
Што, быццам забаўкі, са шчодрае далоні
Прырода разлажыла на сваім улонні.
Калісьці ціхай весняй месячнаю ночкай
На ўзгорку тут адным у гэтакім лясочку
У час, як салавей, прыкрыты росным дрэвам,
Будзіў вакольныя гаі чароўным спевам,
Спакоем памяці я ўсцешыўся адзіным
І дух засільваў свой мінуласці ўспамінам.

Якой шчасліваю была хвіліна тая,
Калі, як з вуляю, пчала, мысль вылятае
І п'е у забыцці нектар салодкі боскі,
Тады знікаюць бед, турботаў адгалоскі
І прышласць, маляваная ў вясёлак фарбы,
Пачне ў душы будзіць пачуццяў новых скарбы,
Пакуль стары гадзіннік з базыльянскай вежы
Пра поўнач не аб'явіць звонам, як належыць,
І думкі з дальняе вандроўкі не акліча,
І покуль ветрык не астудзіць мне аблічча
Ці не разбудзіць цішы гаю свіст харошы,
Як дух сапраўднасці ілюзію раскошы.

IX

Узыдзем на гару, ўладарку наваколля (4),
Дзе сумны цень кладуць высокія таполі,
Яна ўжо зарастае, а калісьці, ўзняты,
На гэтым месцы замак быў багаты;
Бацькі йшчэ нашы бачылі яго руіны,
А нам ледзь засталіся слёзныя ўспаміны.
Калісьці ў гэтым месцы ў час вайны крывавай
Літва і Русь былі адбітыя са славай.
Альгерд, тут перажыўшы ўпадкі й перамогі,
Прыгожай Марыянне меч паклаў пад ногі.
Так Геркулес, акрыты славай векапомнай,
Пагрэбваў пры Амфалі булавой нязломнай.
Ад той хвіліны Віцебск з крэпасцю багатай
Валадаром Літвы магутнай быў заняты.
На тым сягоння месцы, дзе даўней грымелі
Ці стрэлаў водгукі, ці песні на вяселлі,
Якісь даліны Лукішанскай птах вандроўны
Спявае часам зрэдку звонкі гімн чароўны,
І плюшч, што аб тварэнні рук людскіх не дбае,
Па месцы асвячоным плашч свой рассцілае.

Не раз з Гарацыем ў руках або Віргілем
Я слухаў тут, як хвалі Віцьбы гаманілі,
І вельмі часта мне тут дзед сівагаловы
Апавядаў пра рыцараў вандроўных слаўных,
Пра чараўніц і пра герояў старадаўніх,

А я заглытваў тыя казкі прагным вухам.
Ах, мудры быў стары, ён верыў тайным духам,
Пра будычыню з імі весці ўмеў размовы
І мог прадбачыць, што нам дзень прыносіў новы.

X

О Беларусь! зноў ты ўспамінаў будзіш рoі!
Ах, дзе ж цяпер твае даўнейшыя героі,
Што некалі вялі адважна ў бітву роты?
І дзе твае вялікай славы вайдалоты,
Што ўмелі дабываць на арфе тыя ноты,
Якія гартавалі сэрцы патрыётаў?
Ужо пра тых герояў аніхто не знае,
А лютні бардаў час няўмольны пажырае.
Адзін з тваіх сыноў, пясняр чуллівы,
Удзячны выхаванец лесу, роўнай нівы,
Што вуха Чартарыскіх лашчыў чалавечна,
Імя сваё ў касцёле ўвекавечыў.
Над рэчкаю далёкай, між чужой прыроды
Я з ім развітваюся песняй назаўсёды! (5)
Хто з нас у рукі лютню звонкую ўзяць зможа?
Хто ўскрэсіць цені продкаў так, як ён, прыгожа?

Магчыма, што на месцы, дзе я часта марыў,
І ён пад плюскаты Дзвіны ў абдымках чараў
Сваім прарочым вокам бачыў духаў тлумы
І з чуласцю праслухваў дзеда песні й думы.
І вобразы юнацкія, спавітыя аблокам,
Уздымаліся ў душы, стаялі перад вокам.
І быццам сіла валадарнай чарадзейкі
Паэта клікала ў прастор цудоўны нейкі.
О бардзе! ты ж аздоба нашай Беларусі!
Якую ж будучыню ўбачыць ты імкнуўся!
Ты думаў, у запале, неспакойны гэткі,
Што некалі табе падасць красуня кветкі
За песні звонкія і за прыгоства мовы,
Што калісь скронь тваю спаўе вянок лаўровы,
Ды вельмі рана стаў ты ў шчасці сумнявацца,
І сэрца чулае звяло цябе ў вар'яцтва.
Ці ж мог ты думаць, што князёўна маладая,
Якая караля за мужа выглядае,
Ад свету адрачэцца дзеля слёз паэта!
А ці не сведчыць лёс Тарквата нам пра гэта?
Ці ты не знаў, што сінявокія багіні
Цвітуць не для паэтаў у любой краіне?
На іх мы можам толькі зводдаль падзівіцца
І, ціхенька ўздыхнуўшы, трону пакланіцца.

XI

Ах! вокам акідаючы вякі былыя
І памяткі свае, для сэрца дарагія,
Няхай стрымаю дум сваіх трывогу
На той святыні, ўзнятай велічнаму Богу (6),
Дзе, зліць душу з арганам маючы намеры,
Шукала сэрца беднае пацехі ў веры,
Дзе споведзь адбывалася ў набожным чыне.
О, колькі ж я разоў дзіцём у той святыні

На крыллях чыстае малітвы з дна планеты
Ўзнімаўся да Тварца бязмежнага сусвету,
І як сусвету ўсім прыціснуты цяжарам,
Заплаканы, туліўся да зямліцы тварам!

Чаму ж не захаваў я веры той гарачай,
Калі маё жыццё лёс бурны перайначыў,
Калі мяне і без вясла,і без вятрыла
Панесла разгуканая хваль грозных сіла
І кінула на свету грозныя прасторы,
Дзе здрадна пад маёй ступнёй бурліла мора.
А дружба і любоў, што ў свой час зберагалі
Мяне, у сполаху, куды хто паўцякалі.
Калі адзін блукаў я па шляхах цярністых,
Нібы Фарыс сярод пустыняў камяністых,
І зорка ні адна не выплыла з аблокаў,
І жалю слёз не ўбачыў я ў ніводным воку,
Стрымала вера самагубныя далоні...
Тады кінжал хацеў я ўбіць сабе ва ўлонне
І сэрца пакараць, што ў прастаце дзяцінай
Да ўсіх хілілася і мкнулася няспынна
Да тых, хто прыгажосцю й цнотай быў сагрэты!..
Дурное сэрца! як жа здрадзіла, ох, мне ты?

XII

Ля старажытнага стылёвага касцёла
Стаіць даўнейшы храм навукі - наша школа,
Дзе выхавальнікі праслаўленага веку
Стараліся развіць у юным чалавеку
Магчымасці яго, і розум вызваліць з цямніцы,
І абвясціць адвечнай праўды таямніцы.
О школа! Тут прыняў я першыя асновы
Навук, цнатлівасці на тэрмін шматгадовы,
Бо тут жа раніца жыцця майго мінала
І мой юнацкі розум спраўна развівала.
На творах класікаў я тут жа мацаваўся
І тут з сябрамі дружбай першаю звязаўся.
Сябры мае! таварышы гадоў маіх дзяціных,
Даўно пакінулі вы гэты кут айчынны,
І не адзін з вас, на малой паплыўшы лодцы
За ўяўнаю надзеяй па жыцця паводцы,
Дамоў вярнуўся з выкананай важнай справай,
Аточаны дастаткам, гонарам і славай.
Другі, калі супроць яго віхор узвіўся,
Не мог да берага даплысці і ўтапіўся,
А іншы ў бітве за радзіму злёг са славай
І сведчыць помнікам аб злой вайне крывавай;
А той у ціхіх муках між сяброў жалобы
Памёр бясслаўнай смерцю ад цяжкой хваробы.
Няма ўжо вас даўно, а я яшчэ ўсё мару,
Цяпер мяне чужыя акружаюць твары,
Дык да каго з разбітым сэрцам мне звярнуцца?
Хто зможа на мой спеў гаротны адгукнуцца?
Хто зможа зразумець мяне, хто жаль падзеліць?
І хто мяне ў той адзіноце развяселіць?

XIII

Ды хопіць горкім успамінам мучыць сэрца
І рассцілаць, як быццам саван, скарг каберцы,
Няхай жа думка сумная ўжо нас пакіне.
Вось я у Лукішанскай зваблівай даліне (7).
Чароўны кут! высокія навокал горы,
Пакрытыя лясамі. Быццам хвалі ў моры,
Вышэй за іншых дрэвы-волаты ўзбуялі
І зацікаўленаму горад засланялі.
Ніжэй, прытулак шчасця, - вёсачка здалёку
Паміж зялёных дрэў, гародаў вабіць вока.
Далей ляжаць залочаныя збожжам нівы,
Якія скрозь хвалюе ветрык мітуслівы.
Там серабрыстая Лучоса ў лузе ўецца
І, праз каменьчыкі праскакваючы, льецца,
Ды быццам стомленая доўгім падарожжам,
Жалліва енчыць, што далей цячы не зможа.
А хваляў плынных тых журботнасць наракання
Чыіх грудзей не ўздыме лёгкім уздыханнем?
Калі пакінуць горад змусіць боль, трывога,
Прыемна тут спачыць ад шуму гарадскога.
Тут думка пад уплывам буйнае прыроды
Ўзнімае мар цудоўных, дзіўных карагоды,
Тады ў нябыт адходзяць клопаты і болі,
І чалавек, як быццам выйшаўшы з няволі,
І, быццам адарваны ад людзей і свету,
Перасяляецца на іншую планету.
Мяне задумы дзіўныя тут паланілі...
Табе, Лучоса, ўдзячны я за тыя хвілі,
Што я правёў на гэтым беразе й не ведаў
І нат не прадчуваў мяне чакаўшых бедаў.
Чаму ж не выйшла з гэтай светлае крыніцы
Прадказвальніца лёсу німфа-чараўніца?
Наталля! І чаму ж мне пра цябе ўспаміны
Ўзнімаюць у душы зноў сум і боль няспынны?

XIV

Калі я воляй Богам дадзенага лёсу
Сышоў на луг жыцця з глыбінь хаосу
І першы раз звярнуўся улюбёным вокам
На зоры ў небе, на зямлі абшар шырокі,
Тады увесь той круг вялікага тварэння
Злучыўся мне ў адзін прадмет для пакланення.
І я з любоўю шчырай, з радасным уздымам,
Прыроду абдымаў рукамі маладымі,
Жадаючы яе ўсю агарнуць, наблізіць
І растапіцца ў ёй і хмаркі з неба знізіць.
І хмарка, нібы нянька ў даўні час дзіцячы,
Мяне схапіла у абдымак свой гарачы,
І на грудзях яе, як на грудзях дзявіцы,
Я мог пра клопаты жыццёвыя забыцца.

XV

Аднак той чарадзейскі сон не быў трывалы,
Душа ад пачуцця гвалтоўнае навалы
Па бесцялеснай стала сумаваць каханцы,
Што скрытая за мрояў фантастычных шанцы,

Злятала да мяне і несла ў сэрца сонца...
..............................................................
І гімн, як быццам з арфы нейкае багіні,
Гуў у гаях, у лузе і ў Лучосы плыні.
Ах! гімн незразумелы, што багаццем зыкаў
І рваўся ў глыб душы, і ў сон чароўны клікаў;
Той спеў цудоўны, тыя гукі асалоды
Лавіў не раз я доўга, ды аднак заўсёды
Ўцякаў ён ад мяне. Вось так на дне пякельным
Тантал быў строга мучан смагаю смяртэльнай -
Дарма хапаў ён вуснамі струмень халодны,
Які прад ім з апокі выцякаў бясплоднай.

XVI

А тая, што стварыў я пачуццём агністым,
Яшчэ не існавала ў свеце рэчаісным.
Дарма шукаў яе я ўсюды сэрцам чулым,
Нідзе ад прыгажосці шчасця не адчуў я.
І сум, закраўшыся ў закутак сэрца скрыты,
Знішчаў душу, пустошыў гадам ядавітым.
Дык я астыў, і той гарачы ціск натуры
Не меў спачатку ўплыву на мой дух пануры,
І, як дзяўчыны маладой праціўнік строгі,
Ужо я ўдараў сэрца не лічыў нябогі.

XVII

І думка дзікая ў душу маю запала,
Калі з палёў, лугоў уборы восень крала;
Я думаў, назіраючы, што так і людзі:
Жывуць, растуць, цвітуць, тут ёсць, тут іх не будзе,
А ў іхніх чарапах - дум, розуму крыніцы -
Прытулак знойдзе гад ці птушка загняздзіцца.
А дзе ж падзенецца той дух...
...................................................

XVIII

І думка тая, горшая, чым мукі пекла,
І дзень і ноч душу маю сцябала й секла.
Хай на мяне Тварэц сусвету ўсемагутны
Сашле агонь пякельны карай шматпакутнай,
Хай чыніць помсту над маім нікчэмным духам,
Скуе хай ланцугамі, хай пазбавіць рухаў,
Хай вызначыць за грэх любое пакаранне,
Абы маёй душы запэўніў існаванне.
Мой Божа! Ты мне сэрца даў, што чуе многа,
Няўжо мяне адкінеш ад свайго парога?

XIX

Так я маліўся часта ў поўнай адзіноце,
Прасіў слязамі горкімі ў крывавым поце,
Ды неба ўпартае адказу не давала
І цёмнай таямніцы мне не адкрывала.
Як той агонь, які бушуе ў нетрах Этны,
Так роспач ува мне гарэла непрыкметна.
Імчаўся хутка час, і я ўжо без надзеі
Са страхам сустракаў наступных дзён падзеі.

XX

Ідзе за годам год, гадзіна за гадзінай,
Аднолькава для пана і прасталюдзіна.
Учора не вяртаецца, а заўтра, можа,
Імглу няшчасцяў растрасе, ў бядзе паможа.
Нядоўга прадаўжалася змаганне тое -
.......................................................
Аблітая праменняў залатым патокам,
З'явілася знячэўку прад юнацкім вокам.

XXI

І я сустрэў (аб тым хай памяць не загіне)
Істоту, бачаную часта ў мар краіне,
Яе, што з пальмаю надзеі і ўрачыста
Лунала прад маёй душою прамяніста.
Мо гэта серафім прыняў той стан дзявочы,
І бляскам незямным яго гарэлі вочы?
Румянец, што твар мілы упрыгожваў,
Нібы зара заходу, вабіў, заваражваў,
А вусны мілыя цвілі нектарам боскім,
А вейкі серабрыліся насустрач слёзкам,
Каса эбенавая хваляю сплывала
І, быццам хмарка, алебастр грудзей хавала.
Была яна прадвесніцай, пасланкай Бога,
Яна маё кранула сэрца, і трывога,
Сумненні адпусцілі. Зноўку дух вандроўны
Узвіўся на арліным крыллі ў край чароўны,
І вера шчырая з надзеяю спакойнай
Ізноў з'явілася ў душы маёй нястройнай.

XXII

Я дзякую, Наталля! ты вярнула Богу
Таго, хто быў ужо ля згубнага парога.
У горкія хвіліны болю і пакуты
Ссылала мне натхнення зорку не адну ты.
Душа маёй душы, жыцця і шчасця мэта!
Ты ў вечнасць павядзеш душу свайго паэта,
І там пры троне Божым часткай несмяротнай
З табой сальёмся мы ў адзінства беззваротна.
І клятву там дамо на вернасць і бясспрэчнасць,
На ўсю незразумелую святую вечнасць.
Тут на зямлі, дзе наша кветка не ўзрастае,
Рука людская нас падступна разлучае.
Ты, гонячыся ўслед за шчасцем мімалётным,
Пагрэбавала сэрцам шчырым і самотным.
Ды я не вінавачу! хто ж звязацца зможа
З бадзягам на ліхіх жыццёвых бездарожжах,
Што без імя, прытулку, цалкам без апекі,
Які праліў дагэтуль слёз гарачых рэкі?
Таго, чый лёс цяжкі нікому не абходзіць,
Якому сэрца аніхто не асалодзіць?

Той, хто ў руках трымае лёсы чалавека,
Загадвае мне йсці дарогай той да веку,
Бо ўсё, што я люблю ўзаемнаю любоўю,
Ўцякала ад мяне у страху і бязмоўі.
І ты сама ў жыцця цяжкога змроку

На тое бліснула ў маім самотным воку,
Каб мары распазнаць, падняць мяне угору
І потым зноўку скінуць у прадонне гора.
Але мінулае і пра цябе ўспаміны
Блішчаць, як лямпка рымская ля дамавіны.
Душу, як я, ты мела чулую для славы,
Як я, абняць хацела цэлы свет ласкава,
Як я, блукаць любіла пад дубравы ценем
І слухаць енк крыніц і свіст вятроў асенніх.
Цябе я бачыў шчырай, чуў твой голас звонкі,
Як ты ў слязах чытала Шылера старонкі.
Цябе я чуў, багіня! голасам анёла
Пацеху, радасць сэрцам несла ты наўкола.
Ах! Бог назначыў мне цябе мо ўжо з калыскі,
Ці мо яшчэ раней з табой мы сталі блізкі,
Калі дзве зоркі нашага з табою лёсу
Кружылі дзесьці побач у імгле хаосу.
О любая, чамусьці ты недацаніла
Пачуццяў сэрца, што табе адзінай біла.
Аднак калі мы скінем тое абалонне,
Якое нас трымае на жыцця улонні,
Тады і ўзнімемся ў высокія блакіты.
.............................................................
Там лепш адчуеш шчырую любоў маю ты
І ўзнагародзіш за зямныя ўсе пакуты.

XXIII

Бывай, бывай, Наталля! скарб мой яснавокі!
Ужо мяне мой лёс ссылае ў край далёкі,
Туды, дзе нібы кветка ў сонцы, хутка звяну
І жыць, і дыхаць канчаткова перастану.
А страх як выжане аленя-старажыла
З кустоў, і спыніцца ён над маёй магілай
Ды схіліць галаву, зірнуўшы ў наваколле,
І стане абгрызаць тут маладое голле,
Мой дух, задобрыўшы бязлітасныя лёсы,
З вятрамі адплыве да берагоў Лучосы
І, як цябе сустрэне сумную пад дрэвам,
Разбудзіць з мар ціхуткім ветрыку павевам
І горкую слязу з вачэй тваіх асушыць,
Калі цяжкі ўспамін душу тваю узрушыць.

XXIV

Лучоса! Пакідаю я твае ўзбярэжжы,
Вярбу старую, што вартуе хваль мярэжы,
І выспачку малую, што вясной і летам
У зеляніну й кветкі розныя адзета,
І вёску дробную, дзе ў шчасці мімалётным
Жыве працоўны люд спакойна і самотна,
І нівы залацістыя, што з гэтай далі
Відаць, як ходзяць з ветрам, бы марскія хвалі,
І іншыя бясконцыя прыгожасці й прывабы.
Цяпер жа ў тыя далі зрок скіруем слабы,
Дзе стомленыя доўгаю вандроўкай хвалі
Спыняюцца ў празрыстае Дзвіны крышталі.

XXV

Лукішкі, скрытыя дуброваю цяністай,
Глядзяцца ў плынь Дзвіны магутнай і празрыстай.
Вячэрні вецер дрэў вяршаліны гайдае,
Якая ж тут сцяжынка ровам прабягае?
Пайду па ёй, што ж бачу? - нечая магіла
(На ёй у крэпе крыж) мяне тут запыніла.
Скажы мне, хто ты, што заснуў тут сном навечным
У гэтым пустыры закінутым, зарэчным?
Якаясьці рука, мо сябра або маці,
Тут кветкі пасадзіла. Гэтыя "багацці"
Блішчаць на копчыку тваім засумавана,
Як водгулле душы, пад імі пахаванай.
Відаць, няшчасны нехта ў гэтай спіць магіле.
Цяпер ці весялей твае мінаюць хвілі,
За тыя, што пляліся ў час жыцця суровы?
Хто знае? Мо душу твой лёс рваў на паловы,
Каханне мо разбіла сэрца твае ў чвэрці,
І ты шукаў палёгкі у абдымках смерці?
З апошняю надзеяй ты мо пасварыўся,
І промень у душы тваёй не заіскрыўся.
Хто ж мае права папракаць цябе за гэта?
Дзяўчына не адна, жалобаю адзета,
Сюды пад елку зблудзіць і пры успаміне,
Як не слязу, то ўздыхі жалю тут пакіне.
Дык спачывай спакойна! Хай вясны каханак
Пяе табе тут песні вечар кожны й ранак.
Няхай цень апякунскі хмурнае яліны
Нясе на гэты копчык супакой няспынны.
Мо тая, што была трагедыі прычынай,
Наблізіцца сюды вячэрняю гадзінай
І ў жалі аб няшчасці і ліхой падзеі
Заплача ціха аб нядзейсненай надзеі.
Яшчэ ты й так шчаслівы, што сляза суседкі
Пакропіць на магіле твой вянок і кветкі.

XXVI

Чаму у гэтым месцы а такой гадзіне
Якойсьці песні рэха ўзносіцца ў вышыні?
Званы гудуць у кляштары святога Марка (8),
Іх звон плыве паветрам над Дзвіною шпаркай
І рэхам сумнай песні коціцца па рове.
Я рад той песеннай і таямнічай мове,
Яна прыносіць многа думак, сум развее,
Ссылае і ўспаміны й светлыя надзеі.
Шчаслівы, хто адрокся ад людзей і свету,
Наладзіўшы жыццё накшталт анахарэта!

Ці мне калі дазволяць лёсаў злых прысуды,
Праплыўшы акіян маіх няўдач паўсюдных,
Схіліць стамлёнае чало ў цянёчку вёскі?

.....................................................................

Пад звон крыніцы дзесь пад дубам або клёнам
Памарыць з Шылерам, наплакацца з Байронам?
Ці сяду я калі у сціплай ціхай хатцы
Пры родных сваіх дзетках і пры іхняй матцы?
Ці буду ў іх выхоўваць да навук ахвоту,

Вучыць любові Бога і пашане цноты?
Такія перажыўшы здрады й лёсу ўдары,
Яшчэ расстацца з вамі не магу, о мары!

XXVII

Халодныя гаі, зялёныя дубравы,
Магілы пад травою - сведкі даўняй славы,
Прыміце ўжо апошнія мае ўздыханні,
Што ўздоўж ракі плывуць пад арфы развітанні.
Шчаслівы, хто насупраць лёсам злым, варожым
На беразе тваім, Дзвіна, заплакаць можа.
Шчаслівы той, хто, ходзячы дзіцячай сцежкай,
З яшчэ зялёным сэрцам, з радаснай усмешкай
Памарыць можа ціха ля сваёй крыніцы,
Там, дзе любіла і Наталля прыпыніцца,
А той найшчаслівейшы, хто ў яе ля боку
Чытае прышласці падзеі ў чарадзейным воку,
Бярэ з яго жыцця чароўныя раскошы,
Хто знае сэрцам дум яе прадонне
І можа класці голаў на яе улонне.
О людзі! Ці ж ніхто з вас брата не аплача,
Які, нібы віхор, вядзе жыццё бадзяча?
А вось і развітання час настаў кароткі -
Ўздымае бура ветразь кінутае лодкі
І гоніць яе ўдалеч мутнаю вадою...
Пярун б'е нада мной, вір пеніць пада мною,
Сляза апошняя мне зрошвае павекі...
О краю Віцебскі! бывай навекі!

***Пераклад з польскай Пятра Бітэля***

***Заўвагі:***

1. *Гару з вянком ляшчыны на чале зноў бачу...* Ваколіцы Юркоўшчыны. Няхай чытач ласкава даруе, калі ў гэтае апісанне трапіла якая-небудзь недарэчнасць. Аўтар пісаў паводле ўспамінаў свае маладосці і тых мясцін, якія не мог праверыць.
2. *Не раз, з Францішкам...* Францішак Ахрымовіч - падлетак цудоўных надзей, які ўтапіўся ў Віцьбе (1825) на чатырнаццатым годзе свайго жыцця.
3. *У горад ідучы...* Ваколіцы Гутараўшчыны.
4. *Узыдзем на гару, ўладарку наваколля.* Узгалоўе, або Замкавая гара, расчышчаная і засаджаная таполямі, служыць цяпер паркам для прагулак.
5. *Адзін з тваіх сыноў, пясняр чулліві...* Беларусь дала польскай літаратуры досыць вядомых пісьменнікаў, такіх, як Францішак Багамолец, езуіт; Ян Аношка, паэтычныя творы якога, хоць і пісаваныя моцна, выдала пані Урублеўская; Рысінскі, паэтычныя творы якога цалкам меўся выдаць кс(ёндз) Карніловіч, місіянер; Мігановіч, езуіт, узорны перакладчык трагедый Эўрыпіда: "Арэст" і іншыя. Але найслаўнейшы з усіх іх Францішак Дыянізы Князьнін (пра якога тут гутарка) нарадзіўся 7 лістапада 1750 г. ад Ігната і Анастасі Князьніных, апошнім яго плодам былі думы Асіяна. Шырокія звесткі пра яго жыццё прывёў выдаўца яго прац Ф.С.Дмахоўскі ў сямі тамах (Варшава, у 1828, здаецца, годзе), да якіх адсылаем нашых чытачоў.
   Цяпер, калі канчаткова пераглядваем рукапіс гэтай паэмы (за Каўказам, у Тыфлісе, у 1844 годзе), далятаюць да мяне вартыя пакланення і пашаны імёны п.п. Казіміра Буйніцкага, Міхала г(рафа) Борха, Аляксандра Грота-Спасоўскага, Радзіслава Шапялевіча *, Яна Баршчэўскага, Ігн(ата) Храпавіцкага і многіх іншых, што так старанна бяруцца цяпер на Белай Русі за справу краёвага пісьменства. Дзякуй вам, светлыя дзеячы, бо праз вашае пасрэдніцтва дух часу завітаў і да нас, бо наша Беларусь праз колькігадовую летаргію нарэшце прачнулася і пачынае новы перыяд разумовага жыцця.
6. *На той святыні, ўзнятай велічнаму Богу...* Паезуіцкі касцёл ксяндзоў базыльянаў.
7. *Лукішкі* - маёнтак генерала Чорбы, цяпер застаецца ў руках нейкага Косава. Пры ўпадзенні Лучосы ў Дзвіну ў цудоўным месцы знаходзіцца даліна.
8. *...у кляштары святога Марка...* Манастыр св(ятога) Марка на правым баку Дзвіны ў 2 ці 3 вярстах ад Віцебска.

*Рэдакцыя перакладу і пераклад заўваг Т. Лады-Заблоцкага Уладзіміра Мархеля*

* *Гаўдэнты - па-славянску Радзіслаў.*

***Шляхам гадоў. Гісторыка-літаратурны зборнік. Мн., 1994. С.270-286.***

*Генадзь КІСЯЛЁЎ*

# ВІЦЕБСК КАНСТАНЦІНА ВЕРАНІЦЫНА /ЗАДУНАЎСКІ МОСТ - "ВОБРАЗ" І РЭАЛІІ/

Колькі гадоў таму, дзякуючы найперш публікацыям В.Скалабана, нашай грамадскасці сталі вядомыя беларускія літаратурныя тэксты са сшыткаў слыннага пісьменніка і фалькларыста XIX ст. А.Рыпінскага: паэма "Тарас на Парнасе" - новы, надзвычай цікавы варыянт - за подпісам Канстанціна Вераніцына і з паметкай: Гарадок, 15 красавіка 1855 г., другая паэма - "Два д'яўлы" з тым самым подпісам і паметкай: Масква, 7 красавіка 1860 г. [1]. "Два д'яўлы" сюжэтна звязаны з тагачасным рухам за цвярозасць і напісаны на віцебскім матэрыяле. Паводле паэмы, сатана, каб губіць добрых людцаў, паслаў аднаго чорта ў Віцебск, другога ў Гродню. У рэшце віцебскі чорт, які з вялікім поспехам спакушаў прастадушных віцяблянаў таннаю гарэлкаю, запрасіў сабе ў памочнікі менш удачлівага калегу, прагнанага з берагоў Нёмана непітушчымі і пільнымі гродзенцамі. Канчаецца паэма такімі радкамі:

*Тут два д'яўлы схамянуліcь,*
*Верць туды, сюды хвастом;*
*І з разгону апынуліcь*
*Пад Задунайскім мастом.*

Яшчэ Рыпінскі, які нічога не ведаў пра Вераніцына, раздумваў над гэтымі словамі і зрабіў заўвагу: "Адна частка горада Віцебска, што ляжыць за ярам, называецца Задунаўе і злучаецца з берагамі паезуіцкага кляштара драўляным мастом не лепшай рэпутацыі. Аўтар гэтай прытчы мусіў у такім выпадку некалі жыць у Віцебску, пакольki ведае гэтую акалічнасць і назву месца" [2].

Месца сапраўды вельмі адметнае, характэрнае. Ім - са свайго пункту погляду - цікавіўся некалі і першы наш славіст З.Даленга-Ходакоўскі, які пабываў у Віцебску ў 1819 г. па дарозе ў Пецярбург. Ён пісаў: "У Віцебску, у старажытнай царкве ніжняга замка, дарэмна шукаў я партрэт Вітаўта, пра які згадвае Стрыйкоўскі, затое адкрыў для сябе прыток Дунай, які ўпадае ў Віцьбу, а за ім частку горада Задунаўе, або пасад Задунайскі, як пацвердзілі і старыя паперы ў магістраце" [3]. Адчуваецца радасць апантанага даследчыка славяншчыны ад гэтага нечаканага адкрыцця (вось жа і ў Віцебску ёсць свой Дунай!). Скіруем сюды сваю ўвагу і мы.

Сістэма віцебскіх мастоў старажытнай часткі горада склалася ў далёкім сярэднявеччы. Яна наглядна прасочваецца на вядомым "Чарцяжы" Віцебска 1664 г. Не пазбаўленае цікавасці апісанне яе знаходзім у рэдкім расійскім геаграфічным слоўніку 1788 г., падораным у свой час ленінградскай акадэмічнай бібліятэкай бібліятэцы АН Беларусі. Згодна з модай XVIII ст. слоўнік мае доўгую назву: "Новый и полный географический словарь Российского государства, или Лексикон, описывающий азбучным порядком географически, топографически, гидрографически, физически, исторически, политически, хронологически, генеалогически и геральдически, наместничества, области и уезды, города, крепости..." (і гэтак далей у такім духу - мы прывялі толькі частку назвы). Ёсць там артыкул і пра Віцебск - "лучший сей в Белоруссии город..." Не абмінаюцца таксама старажытныя масты: "За замком в превеликом буераке бежит в Двину небольшой ручеек, за которым на угорке находящаяся часть города называется Заручевье. К сему буераку от Витьбы позадь замка подходит также буерак, чрез который к жительству, вверх по горе лежащему, сделан мост, называемый Кривой; чрез Витьбу к замку другой находится мост, который Красным называется; третий мост от замка к Заручевью никакого наименования не имеет" [4]. Наш Задунаўскі мост, здаецца, выступае тут пад імем Крывога, хаця вядома, што Крывым традыцыйна называўся якраз Заручаўскі мост. Праўда, і ў знакамітай кнізе М.Без-Карніловіча Задунаўскі мост таксама чамусьці называецца Крывым (хоць назва тут пададзена з малой літары і можа быць прынята за эпітэт): "В так называемом замке находятся: Замковая улица и другая, перпендикулярная к ней, ведущая мимо театра к дому дворянского собрания; третья уличка из площади к кривому мосту на Задунавье". [5]

Кісялёў Генадзь Васільевіч, кандыдат гістарычных навук, доктар філалагічных навук, галоўны навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Я.Купалы Акадэміі навук Беларусі. Займаецца вывучэннем гісторыі беларускай літаратуры, культуры, вызваленчага руху пераважна XIX ст., а таксама літаратурным крыніцазнаўствам. Аўтар кніг "Сейбіты вечнага" (Мн., 1963), "З думай пра Беларусь" (Мн., 1966), "Пачынальнікі" (Мн., 1977), "Спасцігаючы Дуніна-Марцінкевіча" (Мн., 1988), "Разыскивается классик..." (Мн., 1989), "Ад Чачота да Багушэвіча" (Мн., 1993) і інш.

Найбольш поўна і красамоўна гістарычныя рэаліі ўзнаўляюцца, як правіла, у архіўных дакументах. У мінскім гістарычным архіве, у фондзе Віцебскага губернскага праўлення, адшукалася цікавая справа "По рапорту витебского полицмейстера об исправлении Задунавского моста" 1855-1860 гг. [6] акурат таго часу, калі ствараліся паэмы "Тарас на Парнасе" і "Два д'яўлы".

Даволі ёмістая падшыўка адкрываецца рапартам паліцмайстра губернатару ад 1 жніўня 1855 г.: "Деревянный Задуновский мост, состоящий во 2 части города, совершенно ветх и перилы развалились, - требует поэтому необходимой починки. О чем вашему превосходительству имею честь донести" [7]. Праз некалькі дзён новы рапарт: "Задуновский мост пришел в такую ветхость, что проезд по оному сопряжен с большою опасностию". [8]

Становішча трэба было тэрмінова ратаваць, аднак адразу выявіліся розныя падыходы, розныя пазіцыі гарадскіх уладаў і губернскай адміністрацыі. Гарадская дума настойвала, што рамонт або пабудову новага моста трэба рабіць за кошт земскіх павіннасцей, а не гарадскіх сродкаў, паколькі "Задуновский мост служит сообщением не для одних внутренних частей города, но и уезда оного и даже пролегает соединительный тракт в разные местности и на Смоленское шоссе..." [9]

Губернская будаўнічая і дарожная камісія наадварот лічыла: "...мост Задуновский находится не на соединительных трактах, а на частной Задуновской, по которой не бывает никакой почтовой езды". [10]

З матэрыялаў справы відаць, што Задунаўскі мост быў для горада даўняй балючай праблемай. Яшчэ ў 1853 г. губернскі архітэктар Плюшчэўскі-Плюшчык перадаў у згаданую камісію праект на пабудову тут новага маста. У 1854 г. мост быў папраўлены паводле кантракта купцом Чыр'евым. Ды карысці з гэтага, як мы ўжо бачылі, было мала. 16 ліпеня 1856 г. архітэктарскі памочнік Пальчэўскі данёс у камісію, "что верхняя настилка и продольные слеги на Задуновском мосту довольно прочны, все же остальное совершенно сгнило и мост этот требует безотлагательной постройки вновь". [11] На гэта патрабавалася 900 рублёў срэбрам.

Праз год прыстаў 2-ой часткі горада папярэджваў думу: "Задуновский мост весьма во многих местах поврежден, так что опасно проезду на лошадях и даже пешим людям проходить в ночное время..." [12] Дума і сама жахалася, каб "не могло случиться, Боже сохрани, несчастия..." [13]

Грозныя сімптомы множыліся. У студзені 1858 г. яшчэ спраўная пажарная каняка па мянушцы Агурок правалілася на злашчасным мосце і зламала нагу.

Справа абрастала ўсё новымі дакументамі. Ішоў час, меняліся службоўцы, а праблема заставалася. Падае голас новы паліцмайстар:

"Его превосходительству
господину Витебскому гражданскому губернатору
Витебского полицмейстера

РАПОРТ

Во второй части вверенного мне города Витебска мост, называемый Задуновский, пришел в совершенную ветхость до того, что основа оного, как то: клетки и балки, изгнивши, угрожают падением, а насланные на нем доски во многих местах провалились, и оный в настоящее время не токмо опасен для проезда, но даже и для перехода пеших, и поэтому население (у тэксце памылкова - "сообщение". - *Г.К.*) Задунавского квартала может вскоре лишиться безопасного сообщения с городом, о чем донося вашему превосходительству, имею честь покорнейше просить относительно устройства означенного моста сделать начальническое распоряжение и об оном не оставить меня предписанием.

Полицмейстер Лопатин (?)
№ 907 маия 26 дня 1858 года" [14]

Шмат цікавага матэрыялу аб сітуацыі знаходзім у запісцы жыхароў Задунаўя ад 10 чэрвеня 1858 г. "об устройстве вновь на Задунавском ручье деревянного моста". У запісцы гаварылася: "Обширнейшая в Витебске и к центру города прилегающая местность, известная под названием Задунавской, соединяется с Николаевскою улицею (вяла да Мікалаеўскага сабора. - *Г.К.*) чрез деревянный мост, называемый также Задунавским. Мост этот, на котором пластинная настилка совершенно сгнила, до того обветшал, что приходит в шаткость при проезде по оному в самых легких экипажах и ежеминутно угрожает совершенным разрушением. Поименованная местность, окруженная рекою Витьбою, ручьями Гапеевым, Дунаем и Духовским рвом, имеет единственным для сообщения с центром города путем означенный Задунавский мост, с разрушением которого неминуемо должно прекратиться вовсе с центральною городскою частию конное сообщение. Не говоря уже о том, что на случай, избави Боже, несчастия от пожара задунавские домовладельцы должны остаться обреченными на жертву пламени без всякой надежды на содействие и

защиту пожарной команды..."[15] Прыводзіліся і дадатковыя аргументы: адсюль горад забяспечваецца харчаваннем, па Задунаўскай вуліцы ідуць рэкруцкія партыі з вялікарускіх губерняў (ад Смаленска).

Неўзабаве пытанне дасягнула сваёй кульмінацыі, што відаць з пісьма гарадскога галавы Цытро губернатару ад 18 ліпеня 1858 г.: "...Витебская городская полиция, по приказанию вашего превосходительства, для отклонения несчастного случая распорядилась разобрать бывшую на мосте настилку единственно для прекращения переезда и перехода по мосту. Между тем окрестные жители, пользуясь случаем, не только разобрали сброшенный настилочный лес, но покушаются даже растаскивать и другие части моста и никакой надзор и запрещения не могут прекратить этого хищничества". [16] Цытро наогул прапанаваў прадаць мост на злом, зрабіўшы аб'езд па Кстоўскай гары і мосце праз Віцьбу.

Перамагла больш цвярозая думка. Патрэбная сума на пабудову новага маста - 1161 рубель - усё ж была знойдзена. На 2 кастрычніка 1858 г. прызначаны таргі на пабудову, але ахвотнікаў не адшукалася. Нарэшце, у снежні таго самага года зрабіць новы мост за тысячу рублёў узяўся мешчанін Моўша Янкелевіч Фрэйверт. Патрэбнага сасновага лесу ў горадзе тады не было, мост рабіўся з менш прыдатнага яловага.

Перапіску завяршае даведка: "Так как по настоящему делу все зависящее от Губернского правления исполнено, то дело это, зачислив законченным, отдать в свое время в Архив. Марта 17 дня 1860 года". [17]

Цікава, што літаральна праз лічаныя дні - 7 красавіка - мост "ажыў" у паэме "Два д'яўлы". Але наш аповяд пра Задунаўскі мост вымагае нейкага лагічнага завяршэння. Пагартаем яшчэ працы класікаў мясцовага краязнаўства.

У вядомым нарысе А.Семянтоўскага "Віцебск" 1865 г. пра віцебскія масты чытаем: "Сказав о двинских мостах, деревянном и строящемся каменном, и о шоссейном, называемом Красным, - остается заметить, что в г. Витебске существуют еще два моста, именно Заручевский, сохранивший также и древнее свое название: Кривого, - деревянный, на каменных устоях, соединяющий Замковую улицу с Каменной или Старой Могилевской, построенный в 1863 году на счет добровольной складчины жителей, с отпуском лишь из думы 400 рублей, и Задунавский, находящийся на ручье, называемом Дунаем, на улице Задунавской; мост этот деревянный, на сваях; постройка его обошлась городу 10011 р.50 коп." [18]

Паводле другога выдатнага краязнаўцы - М.Нікіфароўскага, Задунаўскі і Заручаўскі масты будаваліся спачатку "в клецки" (з клятчатых зрубаў). "Клецки", или срубы в таких мостах делались лишь для береговых устоев и поднимались до настильной высоты, где предварительно накладывались продольные балки, обыкновенно висевшие над узким пролетом, отчего при движении грузных экипажей средина моста "ходнем-ходила", как говорили тогда. При последнем исправлении "кривого" моста он преобразился в 1860 г. в свайный, на каменных столбах, а по его почину скоро последовало переустройство моста задуновского. Во время частых ремонтов сих двух мостов переправа чрез ручьи, особенно "дунайский", представляла невероятные ныне затруднения. Так, напр., выезжающий из Витебска на туловский тракт спускался по едва проезжей дорожке на восточном откосе за архирейским садом (былы езуіцкі, цяпер парк Фрунзе -*Г.К.*) к дунайскому руслу, следовал по нему до узкого и крутого подъема между нынешними строениями гг.Сапожникова и Хморовича, откуда выбирался на Задуновскую улицу, или, лавируя по топи между давнею гостиницею Брози и конвикторским подворьем [19], чрез мельничный (б.мельница известного в Витебске д-ра Гюбенталя, потом - Шпеерса) мост въезжал в горное ущелье на никольской слободке и уже потом, полевыми дорожками, переезжал на туловский путь". [20]

У парэформенны перыяд, у сувязі з добраўпарадкаваннем горада, Задунаўскі мост быў заменены насыпам-дамбаю. [21]

Прыведзены намі матэрыял сведчыць, што аўтар паэмы "Два д'яўлы" Канстанцін Вераніцын быў тонкім майстрам мастацкай дэталі і выдатна ведаў рэаліі старога Віцебска. Трэба дадаць яшчэ, што назва "Задунайскі мост" (ад апетага ў шматлікіх народных песнях Дуная) ужо па самай сваёй семантыцы лёгка клалася ў паэтычны тэкст. Недарма гэтымі тапанімамі ў свой час так цікавіўся З.Даленга-Хадакоўскі. Ужо не гаворым пра тое, што масты ўвогуле ў народным уяўленні звязваліся з нячыстай сілаю, разбойнікамі і г.д. Тут самае месца для ўсялякіх душашчыпальных рамантычна-фантастычных гісторый. Да таго ж Задунаўскі мост знаходзіўся хоць і непадалёк ад цэнтра, але ў даволі бязлюдным, як бы закінутым месцы. З трох старажытных віцебскіх мастоў Задунаўскі па ўсіх параметрах найбольш падыходзіў для ролі, адведзенай яму ў паэме К.Вераніцына.

***Літаратура і крыніцы:***


1. Найбольш поўная публікацыя - у зб.: Шляхам гадоў. Мн., 1990 (вып.1).
2. Киселев Г. Разыскивается классик...: Историко-литературная дилогия. Мн., 1989. С. 411.
3. Малаш Л. Из первых - первый. Нёман, 1990, №12. С. 178; Аксамітаў А.С., Малаш Л.А. З душой славяніна: Жыццё і дзейнасць З.Я.Даленгі-Хадакоўскага. Мн., 1991. С. 88.
4. Новый и полный географический словарь Российского государства. М., 1788. Ч. 1. С. 155. На форзацы друкарская наклейка: "Фундаментальной библиотеке им. Якуба Коласа Академии наук Белорусской ССР - Дар от Библиотеки Академии наук СССР. Ленинград, 23 сентября 1968 г."
5. Без-Корнилович М.О. Исторические сведения о примечательнейших местах в Белоруссии. СПб., 1855. С. 40.
6. НГАБ, ф. 1416, воп. 4, спр. 9199.
7. Тамсама, арк. 2.
8. Тамсама, арк. 6.
9. Тамсама, арк. 40.
10. Тамсама, арк. 10.
11. Тамсама, арк. 35.
12. Тамсама, арк. 57.
13. Тамсама.
14. Тамсама, арк. 69.
15. Тамсама, арк. 74.
16. Тамсама, арк. 94.
17. Тамсама, арк. 125.
18. Сементовский А. Витебск: Статистический очерк. Памятная книжка Витебской губернии на 1865 г. СПб., 1865. с. 115.
19. З канвіктам (гімназічным інтэрнатам), несумненна, меў добрую нагоду пазнаёміцца К.Вераніцын у перыяд вучобы ў Віцебскай гімназіі (1845-1852). Як, мабыць, і яго аднакашнік - таленавіты беларускі паэт Я.Вуль (Э.Карафа-Корбут), які, мяркуюць, таксама прычыніўся да напісання "Тараса на Парнасе". Надзвычай цікавы віцебскі Парнас сярэдзіны мінулага стагоддзя яшчэ вымагае разнабаковага дадатковага вывучэння.
20. Никифоровский Н.Я. Странички из недавней старины города Витебска. Витебск, 1899. С. 180-181.
21. Тамсама. С. 180, 182.

*Збігнеў ЕНДРЫХОЎСКІ*

# ТЭАТРАЛЬНАЕ ЖЫЦЦЁ ВІЦЕБСКА Ў 1845-1849 ГАДАХ

Сціслую інфармацыю пра віцебскія тэатры знаходзім у "Dykcjonarzu teatrów polskich" Людвіга Сімона. Тут згадваецца пра дзейнасць езуіцкага тэатра, які існаваў з 1671 г., тэатра піяраў у 1765 г., а таксама выступленні вандроўных труп галоўным чынам у першай палове XIX ст. "Новую тэатральную залу адчынілі ў 1846 г.", - запісаў Сімон. Гэтаму здарэнню ці, уласна кажучы, гісторыі польскай сцэны ў Віцебску ў 1845-1849 гадах прысвечана прыведзенае ніжэй даследаванне.


СЪ ДОЗВОЛЕНІЯ НАЧАЛЬСТВА.

Сего 1847 года Января 2 дня въ Четвергъ,

Труппою Артистовъ Оперы, подъ Дирекціею Вильгельма Фонъ-Шмидгоффъ, представлена будетъ большая Опера Буффо въ 4-хъ действіяхъ, сочиненіе Бомарше, переводъ Богуславскаго, музыка Россини.

Подъ названіемъ:

СЕВИЛЬСКІЙ ЦИРУЛЬНИКЪ

Действующія лица:

Графъ Альмавива, — — — Г. Шмидгоффъ.
Докторъ Бартоло, — — — Г.
Розина его воспитанница, — — Д-ца Шмидгоффъ.
Василій учитель музыки, — — Г.
Берта горничная Розины, — — Д-ца.
Фигаро Севильскій Цирульникъ, — Г.
Альвадъ. — — — — — Г.
Нотаріусъ. — — — — Г. Ганов.
Фіорилло лакей Графа, — — — Г.
Офицеръ, — — — — — Г.

Музыканты. Г. / Г. / Г. / Г.

Слуги Бартоло, — — — —
Солдаты, — — — — —

Действіе происходитъ въ Севиліи.

Цена местамъ:
Ложа верхняя 5 руб. Ложа нижняя 4 руб. Кресло первыхъ 4-хъ рядовъ 1½ руб. прочихъ 1 руб. Амфитеатръ 40 коп. Галлерея 30 коп. сереб.

Начало въ 7 часовъ вечера.

Билеты получать можно заблаговременно въ Театре.

Цена Абонементовъ на 15 представленій:
Ложи Бель этажа по 4 руб. — — 60 руб. сереб.
Ложи Бенуара по 3 руб. — — — 45 —
Кресла первыхъ 4-хъ рядовъ по 1 руб. — — —

Афіша з Віцебска, 2 студзеня 1847 г.

1845

У пачатку лістапада
ў горадзе Віцебску быў зроблены агляд будынка, які належаў шляхцянцы Саламеі Гайковай. Гэты дом быў прызнаны вельмі заняпалым і не прыдатным для жылля (таму ён і не быў арэндаваны). Адміністрацыя генерал-губернатара Галіцына палічыла магчымым пасля правядзення рамонту ўладкаваць у ім тэатр [1].

16 лістапада
ў сакрэтным лісце Галіцына да кіраўніка тайнай паліцыі ў Пецярбургу - так званага III Аддзялення ўласнай Яго Імператарскай Вялікасці канцыляры - паведамлялася аб тым, што трупа акцёраў пад кіраўніцтвам "жителя города Варшавы Мориса Пиона" прыбыла ў Віцебск з намерам паказу балетаў і спектакляў на польскай мове, якія яны перад тым ігралі ў Магілёве. Галіцын убачыў неадпаведнасць у дазволе "играть пьесы на польском языке, который уже по Высочайшему повелению нигде в учебных заведениях не преподается и, следовательно, должен выйти там помалу из употребления" [2]. Канцылярыя III Аддзялення даслала сакрэтны ліст у Віцебск з адказам, што дазваляе трупе Піёна іграць па-польску і " что вообще нет причины воспрещать театральные представления на этом языке в западных губерниях" [3].

23 снежня
адбылося адкрыццё пабудаванага тэатра ў Віцебску. Не менш за 250 чалавек маглі размясціцца ў яго глядзельнай зале з 12 ложамі ўнізе, 13 уверсе, на галерэі і ў партэры з крэсламі. Гэты "очень удобный и вместительный" тэатр быў узведзены па праекце архітэктара Чарвінскага [4]. На сцэне, дастаткова шырокай і глыбокай, з поспехам можна было паказваць нават вялікія драмы і балеты.
Пра новы тэатр у Віцебску была даслана карэспандэнцыя ў пецярбургскі "Репертуар и Пантеон", у якой адзначалася "красота и изящество" будынка, прызначанага выключна для сцэнічных прадстаўленняў. У той жа час згадвалася, што ў мінулым большым поспехам у віцебскай публікі карысталіся спевакі і музыканты, а вандроўныя акцёры ў цесных і халодных адрынах, перарobленых на тэатрыкі, спрабавалі прыцягнуць увагу да сцэны "марнымі" фарсамі і жартамі-вадэвілямі [5].
На адкрыццё новай сцэны, пабудаванай дзякуючы старанням Галіцына [6], трупа Піёна прадставіла наступныя творы: камедыю "Тереза" на рускай мове, камедыю-вадэвіль "Індзіяна і Шарлемань" Байярда на французскай, а таксама на заканчэнне балет "Апалон і дзевяць музаў". "Публіка наколькі мажліва заняла

---

Ендрыхоўскі Збігнеў, тэатразнаўца, рэдактар часопіса "Notatnik Teatralny" (Уроцлаў, Польшча). Займаецца гісторыяй польскага тэатра ў Беларусі ў XIX ст. З'яўляецца аўтарам шэрагу артыкулаў пра дзейнасць польскіх тэатральных труп у Гродне, Мінску, Магілёве і Віцебску ў 1840-х гадах, якія былі апублікаваны на старонках перыядычных выданняў Польшчы і Беларусі.

ўсе месцы" і "была задаволена прадстаўленым відовішчам" - пісаў у сваю чаргу "Kurier Warszawski" [7].

На польскай мове
да канца года ігралі яшчэ два разы Каржанеўскага: 26 снежня - "Замужнюю дзявіцу", а на наступны дзень - "Акенца на першым паверсе".

1846

Да 18 лютага
трупа Піёна іграла ў Віцебску. Рэпертуар абвяшчалі "Витебские Губернские Ведомости". Публіка запрашалася на вечар, які складаўся з камедыі і балета, іншым разам паказвалі вадэвілі і дывертысменты. З польскага рэпертуару ігралі, між іншым, "Старога мужа" Каржанеўскага, "Мужа і жонку" Фрэдры, "Старую рамантычку" Станіслава Багуслаўскага, "Чыншавую шляхту" Камінскага, а таксама "Вар'ята па неабходнасці" Гашынскага [8].




Афіша з Віцебска, 20 красавіка 1847 г.

Піён прадстаўляў,
перад усім, балеты. Як былы першы танцор і дырэктар варшаўскага тэатра, а таксама рэфарматар варшаўскай балетнай школы, ён прапанаваў прадстаўленні аж дзесяці найменняў, створаныя пераважна па ўласнай харэаграфіі на музыку Юзафа Стэфана. З балетаў, што былі пастаўлены раней у Варшаве, віцебская публіка ўбачыла "Стаха і Зоську", "Мімілі або Штырыйцаў", "Дзве статуі", "Швейцарскую малочніцу", "Тэатраманію", а таксама знакамітае "Вяселле ў Айцове" (24 і 31 студзеня) [9]. У "Мімілі", аздобленай куплетамі, штырыйскімі танцамі і жывымі карцінамі, pas de trois выконвалі Яўгенія Кос (чатырма гадамі раней прыма-балерына варшаўскай сцэны), а таксама сыны Піёна Адольф і Уладзіслаў. Камічныя штырыйскія pas de trois Яўгенія Кос танцавала з Марысам Піёнам, а ў фінале браты Адольф і Уладзіслаў выступалі разам з "мясцовымі артыстамі" [10]. Вядомага па афішах Варшавы "Хатняга апекуна" ў Віцебску ігралі як "Антыкварыуса або Баль у касцюмах". На гэты раз сямейныя дуэты выконвалі наступныя pas de trois: анакрэатычнае і качучу-балеро (Кос, Марыс Піён), а таксама мазурку, у якой Адольф Піён, хутчэй за ўсё, танцаваў у жаночым касцюме, а яго партнёрам быў брат Уладзіслаў [11].

Некалькі лічбаў
пра антрэпрызу Піёна, выведзеныя намі на падставе "Счета прихода и расхода денег в Витебском театре с 23 декабря 1845 года по 18 февраля 1846 года" [12]. На працягу васьмі тыдняў было дадзена 21 прадстаўленне, прыбытак ад якіх склаў (пасля выплаты выдаткаў за кожны спектакль) 2671 рубель і 25 капеек срэбрам. З гэтай сумы было выдаткавана яшчэ 90 рублёў возніцы за перавоз з Магілёва ў Віцебск, 200 на аплату за наём тэатра і 50 на пастаноўку новага балета [13]. Прыбыткі з асобных вечароў былі вельмі розныя. Пры цалкам запоўненай глядзельнай зале яны дасягалі сумы ў 150 руб. срэбрам і нават перавышалі яе. Аднак дастаткова часта не даходзілі нават да яе паловы, а 14 лютага ледзьве склалі 16 руб.35 к. ср. [14].

У сакавіку
нашчадкі Гайковай нагадалі пра грошы за яе дом, "в котором устроен театр". Галіцын не прадугледжваў, каб такі стары будынак можна было лёгка здаць у арэнду. Тым больш, што ў тэрмін не былі вернуты 1090 рублёў асігнацыямі за дрэва, якое было заказана на ўладкаванне тэатра [15].

Бліжэй да вясны
было прынята рашэнне аб перабудове ("перестроении") толькі што адчыненага тэатра. Пасля Велікодных святаў былі дастаўлены будаўнічыя матэрыялы, неабходныя для правядзення рамонту. Усе працы планавалася скончыць да 10 кастрычніка [16].

У ліпені
ў прыгарадным парку, які з 1849 г. называлі "Цівалі", быў адчынены летні тэатрык "Ваксал" [17].

24 верасня
архітэктар Чарвінскі даносіў Галіцыну, што "в театре работы идут с большим успехом и чистотою" [18]. Перабудова закранула галоўны будынак тэатра, а таксама афіцыну, у якой знаходзіўся буфет. У асноўным будынку быў перароблены калідор, што вёў у верхнія ложы, дзякуючы чаму значна вышэйшымі сталі ўваходы на галерэю і пад ложай "Его Сиятельства". Быў пашыраны ўваход у тэатр, а з памяшкання, у якім знаходзілася каса, "пробита дверь к флигелю, чтобы удобнее ходить в буфет". Апроч таго, быў адрамантаваны дах, ва ўсіх ложах перароблены дзверы, атынкаваны сцены, пад сцэнай зроблена падлога з цэглы, а таксама пракладзена мураваная вадаправодная труба і студня. У афіцыне былі адрамантаваны буфет і сені, заменены дзверы і вокны і зроблены новы дах [19].
Рамонту спадарожнічалі фінансавыя клопаты. Той невялікай грашовай сумы, якая была атрымана ад ахвяравальнікаў, не хапіла нават на аплату працы майстроў і рабочых. Даўгі, што з часам толькі ўзрасталі, абцяжарвалі рахунак тэатра яшчэ ў кастрычніку 1847 г. Сітуацыю магла змяніць толькі перадача тэатральнага будынка ў арэнду [20].

Восенню
Піён зноў хацеў прыехаць з трупай у Віцебск, каб на працягу зімы даць некалькі прадстаўленняў. Галіцын адказаў згодай на яго просьбу і адначасова паспяшаўся "театральное здание со всеми принадлежностями передать режиссеру Чеховичу под его расписку и ответственность" [21]. 29 верасня Галіцын быў праінфармаваны аб выдачы адпаведнага распараджэння, згодна якому "витебское театральное здание [передано] в ведение режиссера Чеховича" [22].

23 снежня
канцылярыя генерал-губернатара Галіцына звяртала ўвагу віцебскага паліцмайстра на цыркуляр міністра ўнутраных спраў ад 9 лістапада 1842 г. і на яго падставе загадвала: "Предписываю Вашему Высокоблагородию немедленно доносить мне о каждой прибывшей в город труппе актеров, вольтижеров или других, с присовокуплением сведений, в каких именно домах они будут помещаться, а между тем каждую неделю доносить мне о данных ими представлениях с приложением по два экземпляра выпущенных ими афишек, печатных или писанных, с удостоверением, что данныя ими пьесы одобрены цензурою; а те драматические сочинения, которыя цензурою не были еще разсмотрены, отнюдь не дозволять представлять на театрах, но доставлять оныя ко мне, для представления с моей стороны в III Отделение [...]" [23].

Піён не прыехаў
на зіму ў Віцебск. Замест гэтага да 10 снежня была сабрана падпіска на абанементныя оперныя прадстаўленні ў выкананні трупы пад кіраўніцтвам Вільгельма фон Шмідкофа. Галіцын дазволіў Шмідкофу з трупай заняць тэатральны будынак, а за кожнае прадстаўленне загадаў плаціць 10 руб. срэбр. [24].
З 1836 г. Шмідкоф з пераменным поспехам паказваў спектаклі ў Вільні, Гродне, Друскеніках, Кобрыне, Брэсце і Мінску Літоўскім, а таксама ў Кіеве, Харкаве, Камянцы-Падольскім і Жытоміры. Ён быў таксама вядомы фінансавай неплацежаздольнасцю перад давернымі. "З'язджаў з горада, не пакідаючы нічога, але і невядома было, дзе ён знаходзіўся".

26 снежня трупа Шмідкофа
прыбыла з Магілёва ў Віцебск і спынілася ў так званай другой - Заручаўскай - частцы горада. Акцёры жылі недалёка ад тэатра на Замкавай вуліцы [25]. Ужо 29 снежня было дадзена першае з дзесяці абанементных прастаўленняў - рамантычная опера "Fra Diavolo" Абера. У галоўнай партыі выступіў сам Шмідкоф, лорда Кокбурна іграў Ян Аснікоўскі, Памелу - Эмілія Аснікоўская, Ларэнца - Дамінік Навагонскі, гаспадара двара Матэа - Ярашэвіч, а яго дачку Цэрліну - Ева Шмідкоф. У астатніх ролях былі заняты Каткоўскі, Адамовіч, Статкоўскі, Юзаф Лютомскі, Ян Ганс, Анісяровіч, а таксама актрысы Гейбовіч, Ганс, Фрыдэрыка Блюм, Лаўчынская 1, Лаўчынская 2 і панна Кроспель. Прыбытак ад прадстаўлення склаў 169 руб. 40 к.(не ўлічваючы сумы за абанемент) [26].

Тэнар Ян Хэлмікоўскі
не прыбыў у Віцебск, нягледзячы на прадпісанне самога генерал-губернатара, якое было выдадзена асабіста Шмідкофу падчас знаходжання ў Магілёве. Заява Шмідкофа аб тым, "што Хэлмікоўскі захварэў", не была прынята і 30 снежня Галіцын пісаў аб гэтым начальніку Магілёўскай губерні [27].

1847

2 студзеня
па абанеменце ігралі шэдэўр рамантычнай оперы-буф - "Севільскага цырульніка" Расіні. Калі 15 студзеня

1846 г. Шмідкоф паказаў "Цырульніка" ў Кіеве ў амаль тым жа складзе (у Віцебску Ярашэвіч і Аснікоўскі памяняліся ролямі), тамтэйшы рэцэнзент заўважыў: "[...] г. фон Шмидкофф (в роли графа Альмавивы) хороший тенор, с обработанной манерой, исполняет партии primo tenore. Наружность его прекрасна, пение его приятно, но не трогает души, и восхищаться совершенно нечем.
Г.Асниковский (доктор Бартоло), комик в польском вкусе; пение его без натяжки и принуждения, очень натурально. Игра хоороша, без фарсов.
M-lle фон Шмидкофф (Розина), всю свою партию пропела прекрасно; голос ее приятный soprano, доходит до верхнего si bemol. Манера обработана, рулады, фиоритулы и трели выходят у нее очень верны, чисты, и главное, приятны для слуха. Она молода, прекрасной наружности, стройна, ловка [...] Игра m-lle Шмидкофф грациозна и непринужденна до того, что находясь на сцене, и видя комическия выходки г.Асниковского, она не может удержаться и хохочет. [...]
Г.Ярошевич (Базиль), актер без голоса, хотя не забывает величать себя при случае baritono [...]
Г.Новогонский (Фигаро), видной наружности, с хорошими приемами, голос его звучный baritono. [...]" [28].

5 студзеня Хэлмікоўскі
паведаміў з Магілёва ў Віцебск, што ён не хварэў, звыш таго, патлумачыў наступнае: "Г.Шмидкофф действительно предложил мне только одному ехать с ним в Витебск, на что я не дал согласия, потому что тогда должен был бы расстаться с семьей и покинуть пятнадцать актеров, с которыми я подписал годовой контракт. [...] Если Его Сиятельство г-н генерал-губернатор витебский, могилевский и смоленский желает, чтобы я приехал в Витебск и играл вместе с г.Шмидкоффом, я сделаю это при условии приглашения всей моей труппы и получения платы в размере 500 руб. сер., половину которой я уже должен отдать на оплату не малого числа долгов в Могилеве, и при этом учтиво отмечаю, что не хочу иметь с г-ном Шмидкоффом никаких счетов. [...]" [29].

9 студзеня
Шмідкоф прадставіў чарговы шэдэўр камічнай рамантычнай оперы - "Любоўны напітак" Даніцэцці. Тэнаровую партыю Немарына спявала сапранам Ева Шмідкоф (што канчаткова магло ўказваць на слушнасць прапановы Галіцына, звязанай з Хэлмікоўскім). Дырэктар тэатра выконваў партыю лекара Дулькамара, якая ў арыгінале была напісана для баса. У ролі прыгажуні Адзіны выступала Кроспель, а сяржанта Белькора прадстаўляў Навагонскі [30].
Да перапынку, утворанага Вялікім пастом (гэта значыць, да 16 лютага), у рэпертуары апроч згаданых былі наступныя оперы: "Актэон", "Муршчык і слесар" і "Бронзавы конь" Абера, "Цар духаў альпейскіх" Мюллера, "Аліна царыца Галконды" Бертана, "Фрэйшыц Чароўны стралок" Вебера - найслаўнейшая рамантычная опера, пра якую на афішы было напісана наступнае: "Большая волшебная опера с принадлежащими к ней хорами, машинами, полетами и великолепным спектаклем". Ігралі таксама "Цампу" Герольда, "Паштальёна з Ланжумо" Адама і "Норму" Беліні на нямецкай мове [31].
Бенефісы святкавалі:
- 7 студзеня Аснікоўскі ў ролі Каліла Бамбумаза ў оперы-камедыі "Тарабан малы барабаншчык" Скрыба і сяржанта Граканона ў оперы "Лекар турэцкі" Ісуарда. Даход склаў 117 руб. 73 1/2 к.
- 24 студзеня Ева Шмідкоф у ролі Магдусі ў "Паштальёне з Ланжумо". Даход склаў 200 руб. 55 к.
- 29 студзеня Ярашэвіч у малавядомым творы "Жарты са смерцю або Сіла нерухомай улады". Даход склаў 19 руб. 72 к. [32].

20 студзеня Галіцыну
з дэпартамента паліцыі Міністэрства ўнутраных спраў: "В сентябре 1845 г. состоялось Высочайшее повеление, чтобы содержатели театральных трупп, желающие давать представления в западных губерниях, не иначе были к тому допускаемы, как по предъявлении свидетельства о своей благонадежности от местного генерал-губернатора. [...] В последствии с приведением этой меры в действие найдена возможность ввести в Киеве, Вильне и Минске представления на тамошних театрах с польскими пьесами и на русском языке, в видах усвоения и распространения русского языка между жителями тамошняго края. [...]
Считаю долгом сообщить о сем Вашему сиятельству на тот конец, не признаете ли Вы нужным сделать во вверенных Вам губерниях распоряжение, чтобы и на тамошних театрах производились представления русских пьес. [...]" [33].

14 лютага Галіцын
у сакрэтным адказе прыгадваў аб сваіх папярэджваннях, зробленых ім у 1845 г., калі ў Віцебску з'явіўся Піён. У той жа час трупе Шмідкофа ён не мог забараніць "играть на польском языке по незнанию актерами русского языка и успел только заставить их играть на немецком языке". І ўвогуле, тлумачыў ён, спектаклі на польскай мове ставяцца таму, што "здесь нет постоянной русской труппы актеров, а

приездные из соседних к Царству Польскому губерний мало знают русский язык, не могут давать на этом языке пьес с успехом". Далей ён пісаў, што з мэтай распаўсюджвання рускай мовы ў падначаленых яму губернях трэба стварыць у Віцебску і Магілёве рускі гарадскі тэатр "с назначением нужной суммы от правительства; [...] как все здешние помещики польского происхождения, то они больше поддерживают польский театр" [34].

Акцёр Чаховіч
у лютым вярнуўся ў Віцебск. Не атрымаўшы ад Марыса Піёна пакрыцця страт за дагаворную няўстойку, сам абцяжараны даўгамі і "совсем разоренный", 3 сакавіка ён звярнуўся да Галіцына з просьбай прадставіць яму выключнае права на прадстаўленне тэатральных твораў падчас кірмашоў у Невелі, Люцыне і Рэжыцы (правінцыяльных мястэчках Віцебскай губерні). Ён таксама прасіў аб магчымасці прадстаўляць відовішчы са сваёй трупай у розных гарадах губерні [35].
9 сакавіка Чаховіч зноў пісаў генерал-губернатару: "Имею в виду составить здесь труппу на русские и польские пьесы". Далей ён прасіў дазволу на выкананне прадстаўленняў у віцебскім тэатры да 1 верасня і адначасова браў на сябе абавязацельства адлічваць на карысць тэатра дзесятую частку даходаў ад кожнага выступлення. Галіцын у той жа самы дзень падтрымаў пажаданні прадпрымальнага акцёра [36].
14 сакавіка Чаховіч ужо як "частный содержатель труппы актеров" паведамляў віцебскаму грамадзянскаму губернатару Міхаілу Міхайлавічу Татарынаву наступнае: "С разрешения Его Сиятельства Господина Генерал-Губернатора князя Голицына забочусь я о скомплектовании и улучшении труппы для представления на здешнем театре после праздников" [37]. Адначасова Чаховіч падаў на зацвярджэнне цэнзуры падрыхтаваны ім уласнаручна спіс твораў, які ўключаў назвы сямідзесяці трагедый, драм, меладрам, опер, вадэвіляў і камедый, і разлічваў на атрыманне "благосклонной резолюции" [38].

Шмідкоф -
перад выездам 7 красавіка ў Смаленск - даў яшчэ некалькі прадстаўленняў у Віцебску. З новых опер былі паказаны "Жан з Парыжа", буф Буальда, дзе ў ролі княгіні Навары выступіла жонка Шмідкофа Генрыета. Віцебская публіка ўсеагульнай любоўю адарыла "Севільскага цырульніка", "Любоўны напітак", "Fra Diavolo", "Цампу", "Норму" і "Жана з Парыжа". Па яе жаданні гэтыя оперы былі паўтораны ("Цырульніка" і "Напітак" у другі раз ігралі ў межах абанемента).
Агульны даход антрэпрызы склаў каля 3500 руб., у тым ліку 900 руб. ад продажу абанементаў. "Актэон", "Fra Diavolo", "Севільскі цырульнік" і "Вольны стралок" хоць і іграліся па абанеменце, прынеслі самы вялікі даход, які дасягнуў 170 руб. ад продажу звычайных білетаў. Пасля прадстаўлення "Вольнага стралка" (18 студзеня) наведвальнасць спектакляў зменшылася і прыбытак ад "Першага кахання" Скрыба і "Марскога закону" Кацэбу (якія былі паказаны 31 студзеня) ледзьве дасягнуў 15 руб. 90 кап. Прадстаўленні "Цампы", "Нормы" і "Жана з Парыжа", аднак, зноў заваявалі сцэну [39].
Шмідкоф, вызвалены ад платы за тэатр, абавязваўся і прадставіў таксама "живые картины и концерты". Галіцын ацаніў яго дзейнасць і падпісаў пасведчанне, у якім выказваў падзяку публіцы за атрыманае ёю задавальненне ад прадстаўленняў, "производящих впечатление" і "в которых особенно был виден талант девицы Шмидкофф" [40].

У першай палове красавіка
Чаховіч, заняты камплектаваннем трупы, у другі раз прадставіў у адпаведныя інстанцыі спіс твораў, якія меркаваў "свободно представлять". На гэты раз размова ішла пра зацвярджэнне копіі рэпертуару, што атрымаў дазвол цэнзуры ў Пецярбургу 29 траўня 1843 г., з наступнай паметкай: "III Отделение собственной Его Величества Канцелярии по приказанию Господина Генерал- Адъютанта Графа Бенкендорфа сим разрешает содержателю частной труппы актеров Иосифу Шипянскому беспрепятственно представлять во всех городах, где с разрешения местного начальства открыт театр будет, ниже писанные сто шестьдесят пять пьес". Сярод згаданых назваў опер, вадэвіляў, трагедый, драм і меладрам сорак чатыры былі напісаны на рускай мове [41].
Шыпянскі, які ў 1842 г. кіраваў віцебскай сцэнай, здаецца, падтрымліваў намаганні Чаховіча, які як дырэктар тэатра рабіў першыя крокі. Апроч таго, ён застаўся акцёрам у яго трупе, у якой ігралі таксама Чаховіч з жонкай Луізай і дачкой Камілай, Юзаф Дамброўскі, Навіцкі, Піятроўскі, сёстры Лаўчынскія і Лютомскі, якія не ад'ехалі ў Смаленск [42].

13 красавіка
сфарміраваная Чаховічам трупа драматычных акцёраў дэбютавала ў віцебскім тэатры камедыяй "Пан на хуткую руку або Гулец і далакоп". 20 красавіка прадстаўлялі "Атэла венецыянскі маўр" Шэкспіра, трагедыю ў 5 актах, з Шыпянскім у галоўнай ролі і Чаховіч у ролі Дэздэмоны. Даход у абодвух прадстаўленняў склаў 80 руб., няшмат для ўрачыстага адкрыцця. Два іншыя спектаклі былі адменены па прычыне пустой глядзельнай залы [43].

20 траўня Галіцыну
з дэпартамента паліцыі Міністэрства ўнутраных спраў. У паведамленні на яго адказ ад 14 лютага звярталася ўвага на тое, што выдаткі на будаўніцтва пастаяннага рускага тэатра ў Віцебску не могуць быць пакрыты са скарбніцы дзяржавы. Рэкамендавалася прафінансаваць азначаны план з мясцовых сродкаў, як гэта зроблена ў Кіеве і Вільні (дзе былі выкарыстаны гарадскія даходы).
Адначасова нагадвалася аб тым, каб кіраўнікі тэатральных труп паклапаціліся пра пасведчанні аб сваёй добранадзейнасці. У дачыненні да вандроўных труп, якія паходзілі з заходніх губерняў, было загадана дазваляць прадстаўленні тым з іх, “которые будут вместе с польскими пьесами давать и русские пьесы” [44].

Летам,
згодна з папярэднімі дамоўленасцямі, Чаховіч з трупай драматычных акцёраў віцебскага тэатра выехаў у правінцыю. Выступалі ў Люцыне. Ва ўладкаваным у доме Залмана Кісіна тэатрыку паказвалі, між іншым, дзве камедыі Каржанеўскага “Фабрыкант” (15 жніўня) і “Замужнюю дзявіцу” (18 жніўня), а таксама “Лекара па прымусу” Мальера (17 жніўня). У трупе знаходзіліся акцёры: Эмілія і Ян Аснікоўскія, Чаховіч з жонкай, Дамброўскі, панна Ісаковіч, Севярын Юзэфовіч, Младзяноўскі, Навіцкі, Палонскі, панна Скаўронская, а таксама Сакульскі. Афіша ад 17 жніўня дадаткова абвяшчала: “Драматический артист Виленского театра г.Асниковский с женою выступят 2-й раз на здешнем театре” [45].
29 жніўня трупа Чаховіча прыбыла ў Рэжыцу і спынілася ў доме купца Меера Тагера. У адрыне, што яму належала, быў уладкаваны тэатр. Паказваўся камедыйны рэпертуар: “Стары муж” (7 верасня), “Старая рамантычка” (8 верасня), “Толькі раз забылася або Акенца на першым паверсе” (9 верасня, на бенефіс Камілы Чаховіч у ролі Адэлі), “Каханне да аблуды” Мальера (10 верасня, на карысць Аснікоўскага ў ролі Рыгора), а таксама “Пан на хуткую руку або Гулец і далакоп” (14 верасня). Да трупы далучылася панна Русаноўская (8 верасня яна іграла жонку ў “Нашым Юзі” Кацэбу). Апроч таго, 11 верасня прадстаўлялася аднаактовая вершаваная камедыя Аснікоўскага “Адвакаты”, у якой аўтар выканаў ролю Яцака Хахульскага [46].

“Существование
постоянного русского театра в Витебске было бы весьма действительным средством к большему упрочению здесь русского языка,” - пісаў Галіцыну 11 верасня віцебскі грамадзянскі губернатар, адзначаючы, што ён не мог зрабіць выдаткавання грошай на гэтую мэту з недастатковых даходаў горада. Тым не менш, ён лічыў, што трэба браць штогод 3 тысячы рублёў срэбрам “из общаго земскаго сбора” [47].

1 кастрычніка
трупа Чаховіча (пяць актрыс і сем акцёраў) вярнуліся з выезду ў Віцебск. З рукапісных узораў афіш, перададзеных у віцебскую друкарню, і далучаных да іх заказаў на друкаванне вынікае, што спектаклі мелі намер паказваць з 5 кастрычніка. Між іншым, прапаноўваліся “Казёл або Стары вор дзічыны” Кацэбу, “Шымон Цяцёра або Вялікія вочы страху” у перакладзе Аснікоўскага, “Дзве дуэлі” Мелесвілі, “Тарабан малы барабаншчык” Скрыба, “Каханне да аблуды” і аднаактовыя камедыі і вадэвілі, таксама на рускай мове. У лістападзе і снежні афішы таксама заказваліся [48].

1848

З 18 студзеня
ў Віцебску зноў выступала трупа Марыса Піёна. Бліжэй да вясны Галіцын вырашыў стварыць новы калектыў пад кіраўніцтвам Піёна. Па просьбе Піёна ён хадайнічаў аб тым, каб выпісаць з Імператарскіх тэатраў у Пецярбургу “два актера для роли любовников и две актрисы для балета”[49]. Пецярбург даваў згоду на выезд сваіх акцёраў на правінцыяльную сцэну пры ўмове гарантый з боку мясцовых уладаў, што антрэпрэнёр будзе дакладна прытрымлівацца варункаў падпісанай дамовы. “Угодно ли будет Вам принять артистов Дирекции в таковое с Вашей стороны покровительство перед антрепренером Морисом Пионом?” - пыталася ў Галіцына дырэкцыя Імператарскіх тэатраў у лісце ад 25 сакавіка і адначасова зазначала: “Артисты сколько-нибудь талантливые весьма не охотно отправляются на провинциальные театры. Дирекция же принуждать их к тому не имеет права, ибо каждый поступая в Театральную школу, имеет в виду для службы своей театры Императорские, а не провинциальные, при которых время бытности считается по большой части отпуском, исключенным из числа лет службы. Только одне выгодныя условия могут их понудить к выезду”.
Галіцына таксама прасілі адказаць, “какое вообще содержание может г.Морис Пион назначить требующимся артистам”. Ні ў якім выпадку, аднак, не запэўнівалі, што хоць хто-небудзь прыедзе [50].

3 чэрвеня
акцёр Чаховіч зноў імкнуўся атрымаць дазвол на выступленні ў Люцыне, Рэжыцы і Невелі. Ён прасіў таксама аб указанні абавязковага рэпертуару, бо ў мінулым годзе “встречал трудности”, таму што

перададзены на разгляд цэнзуры рэпертуар да гэтага часу не вярнуўся ў ягоныя рукі. Просьба Чаховіча не засталася без адказу і канцылярыя віцебскага грамадзянскага губернатара разаслала гараднічым Невеля, Люцына і Рэжыцы лісты, паводле якіх Чаховіч ва ўсіх гарадах губерні мог прадстаўляць творы з рэпертуару Шыпянскага, які прайшоў цэнзуру ў 1843 г. [51].
На мяжы кастрычніка і лістапада трупа Чаховіча знаходзілася ў мястэчку Лепель. У тэатры, уладкаваным у доме Ёселя Гольмана, паказвалі, між іншым, "Старую рамантычку" (31 кастрычніка), а таксама аднаактоўку "Ніхто мяне не ведае" Фрэдры (1 лістапада) [52].

21 кастрычніка
Піён пісаў Галіцыну з Магілёва: "Считая за величайшее счастие [...] приглашение Его Сиятельства и охотно готов был бы тот же час отправиться в Витебск, но не имея достаточной труппы кроме двоих только сыновей не могу явиться туда для представлений" [53].

У лістападзе
Галіцын канчаткова запрашаў у Віцебск на выгадных умовах на тэрмін ад Божага Нараджэння да Вялікага паста акцёраў Піёна і Шмідкофа, якія ў адным калектыве з ліпеня выступалі ў Магілёве [54].
Наконт гэтай справы Піён тлумачыў: "[...] Я глыбока задумаўся і зрабіў падлікі наконт майго вяртання ў Віцебск і з вялікім жалем адзначаю, што пакуль не магу выкарыстаць ласкавае запрашэнне, зробленае мне Яго Правасхадзіцельствам панам генерал-губернатарам.
Мой балетны рэпертуар вычарпаны і адсутнасць танцорак робіць немажлівым стварэнне іншага; да таго ж, мой сын Адольф ужо надта вялікі для таго, каб ён мог танцаваць у жаночым касцюме, бо - на жаль для мяне - вельмі расце. Вяртаючыся ў Віцебск, я рызыкаваў бы выпрабоўваць дабрыню і прыхільнасць Яго Правасхадзіцельства пана генерал-губернатара, бо прадстаўляў бы тыя ж самыя балеты, якія ўжо так вядомы, што ні Яго Правасхадзіцельства, ні публіка Віцебска не маглі б быць задаволены маімі спектаклямі.
Што тычыцца Шмідкофа [...], то яго становішча такое самае, як і маё. Я не маю танцорак, каб паставіць балет, а ён не мае акцёраў і ніводнай актрысы, каб ставіць спектаклі [...] Толькі што я напісаў маладой танцорцы Адэлі [...] і калі яе адказ будзе станоўчым, я шчасліва паспяшаюся ў Віцебск і прыкладу намаганні для выказвання Яго Правасхадзіцельству пану генерал-губернатару маёй вялікай удзячнасці за дабрыню і прыхільнасць, якія ён заўсёды жадаў мне аказваць [...]" [55].
У той жа самы дзень - 12 лістапада - Шмідкоф пісаў: "[...] Честь имею доложить, что я, пользовавшийся не раз милостивым покровительством Его Сиятельства, не могу и не смею объявлять никаких кондиций и по этому предоставляю себя в полное распоряжение Его Сиятельства, докладывая только, что ежели г.Морис также поедет в Витебск, то существующее [...] мое условие с ним - делить доходы пополам за удовлетворением всех актеров и расходов - желал бы оставить без перемены" [56].

Яшчэ раз 25 лістапада
Галіцын паведамляў Піёну і Шмідкофу, што "если угодно будет прибыть в г.Витебск, театр будет в их распоряжении, ибо кроме Чеховича с несколькими актерами прибытия другой труппы не предвидится" [57].
Піён пісаў Галіцыну 29 лістапада: "Мой Князь, у Магілёве я пазнаёміўся з ласкавым запрашэннем, у якім Ваша Правасхадзіцельства просіць аб тым, каб я вярнуўся ў Віцебск; аднак на жаль, я ўжо не ў стане выкарыстаць гэтае запрашэнне, бо я сам, засцерагаючыся сціплых сродкаў, якія засталіся ў маёй дыспазіцыі для рэалізацыі чагосьці ў тэатры ў Віцебску, прыняў выгадныя прапановы, што былі зроблены мне дырэктарам тэатра ў Кіеве [...]
Аднак, будзьце ласкавы, мой Князь, мяне прабачыць і захаваць для мяне ў будучым Вашы добрыя адносіны, бо аддаляючыся ад Віцебска, я маю намер працаваць, каб зрабіць новыя пастаноўкі, і наступнай зімой вярнуцца ў Віцебск, выкарыстоўваючы мае сціплыя таленты пад высокім пратэктаратам Вашага Правасхадзіцельства [...]"[58].
Шмідкоф у далейшым прыхільна рэагаваў на запрашэнне, а ў дачыненні да трупы Чаховіча гатоў быў яе "принять под дирекцию свою", калі толькі Чаховіч заключыць адпаведныя ўмовы ("войдет в условие") [59].

1849

5 студзеня
трупа Чаховіча прыехала ў Віцебск і з 9 студзеня як трупа драматычных акцёраў рэгулярна давала спектаклі да паловы лютага. Трупа Шмідкофа па-ранейшаму выступала ў Магілёве. Чаховіч прыбыў у Віцебск у таварыстве адзінаццаці асобаў. Апроч Дамброўскага, Ісаковіч, Навіцкага, Сакульскага і Чаховіча з дачкой Камілай і сынам Уладзіславам у трупу таксама ўваходзілі Каткоўскі, Малінская і Ян Хэлмікоўскі.

Ігралі па-польску і па-руску, а іншым разам і па-ўкраінску. Афішы інфармавалі аб тым, на якім "дыялекце" будуць прадстаўляцца асобныя творы. На працягу аднаго вечара Чаховіч прапаноўваў глядачам прадстаўленні польскія, а таксама рускія (часцей за ўсё якую-небудзь з аднаактовак Грыгор'ева, Мартынава або Фёдарава - модных на той час у Расіі аўтараў камедый і вадэвіляў). У "польскім дыялекце" прадстаўлялі "Каханкаў экстрапоштай" Дмушэўскага, "Старую рамантычку", "Старога мужа", а таксама творы з удзелам Хэлмікоўскага, выступленні якога 23 студзеня на афішы абвяшчаліся наступным чынам: "Бывший содержатель Минского и Могилевского Театров Драматических, артист г. Хелмиковский будет первый раз играть на сдешней сцене". Тады ён іграў Сымона ў "Бедным рыбаку" Каломба і Адольфа ў "Перарэзаных асігнацыях" Старжынскага. Іншыя спектаклі з яго ўдзелам былі наступныя: камедыі "Выхаванец кахання" Ламберта, "Запіскі сатаны" Араго (бенефіс 2 лютага ў ролі Рабена), "Жывы нябожчык" Лебруна, "Дзядзечка з Украіны" Дмахоўскага, "Замужняя дзявіца" і "Жыды" Каржанеўскага, "Пан Спяхайла або Сумятня" Кацэбу, а таксама трагедыя "Гонар або смерць" Раберта.




Апроч таго, бенефісы святкавалі Дамброўскі ў ролі маёра Вальчынскага ў "Гонары або смерці" (27 студзеня) і Луіза Чаховіч у ролі Старасвецкай у "Жыдах" (12 лютага). Затое Каміла Чаховіч магла пацешыць публіку 13 студзеня, калі ў антракце танцавала сола ў "Мазурцы" [60].

Агульны даход ад адзінаццаці прадстаўленняў, сыграных з 9 студзеня да 13 лютага, склаў 921 руб. 90 кап. ср. З гэтай сумы выдаткі паглынулі 356 руб. 56 кап. Засталося 565 руб. 34 кап. чыстага даходу, з якога - паводле дамовы - дзесяць працэнтаў пералічваліся на карысць тэатра [61].

У сакавіку

праездам у Віцебск завітаў Шварцбургскі аркестр, які даваў інструментальныя канцэрты ў зале Дваранскага сходу. У праграму, між іншым, уваходзілі варыяцыі для флейты, варыяцыя для кларнета, канцэрт для двух кларнетаў Мюллера, папуры з опер "La Fille Regiment" і "Fra Diavolo", фінал з оперы "Lucrezia Borgia" [62].

Трупа Чаховіча

ўзнавіла свае выступленні, хутчэй за ўсё, пасля Велікодных святаў. Іграць сталі, аднак, радзей. Трупу пакінуў Хэлмікоўскі, затое вярнуўся Шыпянскі, а ў чэрвені ў яе прыйшлі Ярашэвіч, Леліянаў, Леўнякоўскі і панна Станкевіч. 17 красавіка адбыўся бенефіс Камілы Чаховіч, якая станцавала сола ў "Венгерцы" і ад'ехала на прадстаўленні ў Мінск. 13 чэрвеня ігралі "Ніхто мяне не ведае" і "Чыншавую шляхту", 16 чэрвеня - драму "Пляма ганьбы" Маліяна, а 26 - "Пана на хуткую руку". Паказваліся таксама рускія п'есы [63].




У другой палове чэрвеня

на віцебскай сцэне пачала выступленні запрошаная Галіцыным з Магілёва трупа рускіх акцёраў пад кіраўніцтвам Мацвея Дудчанкова. Рускія акцёры ігралі на змену з польскай трупай [64].

Чаховіч

па вопыту мінулых сезонаў задумаў выехаць з Віцебска на кірмашы: 20 ліпеня ў Невель, 15 жніўня ў Люцын і 8 верасня ў Рэжыцу. Шукаючы падтрымкі ў гэтай справе ў віцебскага грамадзянскага губернатара, ён прасіў праінфармаваць гараднічых вышэйазначаных гарадоў аб дазволе на адкрыццё тэатра, каб пазбегнуць "угнетения и препятствий"[65].

У канцы ліпеня

ў Віцебск прыбыў Шмідкоф. Разам са сваімі дзецьмі Максіміліянам і Саламеяй, а таксама тырольскай сям'ёй Фішараў у зале "Цівалі" 30 ліпеня ён прадставіў "Вялікі дывертысмент" з музыкай, спевамі і танцамі ў касцюмах. Канцэрт у "Цівалі" адбыўся таксама 10 жніўня [66]. Далей у гэтым тэатры выступала руская трупа Дудчанкова. Яна знаходзілася ў Віцебску да сакавіка 1850 г.

* * *

Адкрыццю тэатра ў Віцебску ў канцы 1845 г. спрыялі як мінімум дзве акалічнасці: узвядзенне новага будынка тэатра і прыбыццё ў горад Марыса Піёна. У гэты час кіраўнікі шматлікіх вандроўных труп у заходніх губернях - згодна з імператарскім распараджэннем, разасланым у 1845 г. генерал-губернатарам у Вільні і Кіеве - імкнуліся атрымаць пасведчанні аб сваёй добранадзейнасці, якія рабілі мажлівым прадстаўленне спектакляў. Галіцын атрымаў вытрымку з гэтага распараджэння толькі ў 1847 г., ужо тады, калі ў тэатрах Кіева, Вільні і Мінска творы прадстаўляліся на рускай мове і адначасова абмяжоўвалася дзейнасць вандроўных труп на карысць тэатраў у губернскіх гарадах.

Трупа Піёна пазнаёміла віцебскую публіку з багатым балетным рэпертуарам,



Шмідкоф прадставіў вялікія оперы. Тэатр Чаховіча выглядаў больш сціпла, але ён праводзіў сваю дзейнасць тады, калі настойліва, хоць і безвынікова, прадпрымаліся спробы стварэння пастаяннага рускага тэатра. Чаховіч прадстаўляў вадэвілі і камедыі, не забываючыся пра моднага тады Каржанеўскага. Ён іграў па-польску і па-руску (на задавальненне Галіцына падтрымліваючы ў гэтым Піёна) і не лічыў рэпертуарны спіс Шыпянскага абавязковым. Дасягаў ён таксама трагедый (Шэкспір) і драм.

Такім чынам, новая сцэна ў Віцебску зрабілася сапраўдным тэатрам.

**"Notatnik Teatralny". Lato 1991(2). S. 234-249.**

***Пераклад з польскай мовы Л.Хмяльніцкай.***

***Скарачэнні:***

НГАБ - Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі.
Дело о доме Гайковой -
Дело по записке Витебского Полицмейстера о доме Гайковой, назначенном для устройства в нем театра. 1845-1847 гг. НГАБ, ф.1297, воп.1, спр.15107.
Дело о представлениях -
Дело о представлениях, сделанных на Витебском театре [...] von Schmidkoffom. О взыскании денег на содержание труппы. 1846-1848 гг. НГАБ, ф.1297, воп.1, спр.16793.
Дело о приезде актеров -
Дело о приезде актеров в Витебск, Смоленск и Могилев для постановки пьес в рождественские праздники. 1848 г. НГАБ, ф.1297, воп.1, спр.19898.
Дело о сборе денег -
Дело о сборе денег с Витебского театра. 1846-1847 гг. НГАБ, ф.1297, воп.1, спр.17104.
Дело о труппе актеров Пиона -
Дело по отношению Генерал-Губернатора к графу Орлову о прибывшей в Витебск труппе актеров под дирекциею Пиона, играющаго пьесы на языке польском. 1845-1848 гг. НГАБ, ф.1297, воп.1, спр.15529.
Дело об актерах -
Дело об актерах и представленных ими пьесах. 1846-1847гг. НГАБ, ф.1297, воп.1, спр.17415.
Дело об актерах 1849 -
Дело об актерах и представленных ими пьесах. 1849 г. НГАБ, ф.1297, воп.1, спр.20432.
Дело об открытии театров -
Дело по отношению Министерства внутренних дел об открытии театров в городах Витебске и Могилеве. 1847-1850 гг. НГАБ, ф.1297, воп.1, спр.18486.
Документы -
Документы по частным заказам на 1849 год. НГАБ, ф.1416, воп.6, спр.61.
Об актерах -
Дело об актерах и представляемых ими пьесах. 1848 г. НГАБ, ф.1297, воп.1, спр.19343.

***Літаратура і крыніцы:***

1. Дело о доме Гайковой, арк.1-2 адв.
2. Дело о труппе актеров Пиона, арк.1.
3. Jbidem, арк.2. Так званы Заходні край утваралі Віленская, Ковенская, Гродзенская, Мінская, Магілёўская, Віцебская, Падольская, Валынская і Кіеўская губерні.
4. Об открытии театра. Витебские Губернские Ведомости, 1846,№1.
5. Ф.Клодницкий. Об открытии театра в Витебске. Репертуар и Пантеон, 1846. Т.13. С.99-103. Гл.: Г.Барышаў. Тэатральнае мінулае Віцебска. Літаратура і мастацтва, 1962, №67.
6. Ibidem, с.100-101. Крыху раней генерал-губернатар віцебскі, магілёўскі і смаленскі князь Андрэй Міхайлавіч Галіцын заснаваў так званы хатні тэатр у сваім палацы, у якім аматары ігралі на карысць сірот (Ф.Клодницкий, op. cit., с.101).
7. Kurier Warszawski, 1846, №41. Тут дата адкрыцця "нова ўладкаванай залы відовішчаў" пададзена па новым стылі, а менавіта 4.1.1846 г. (у нашай працы мы прытрымліваемся храналогіі па юльянскім календары, які ў той час рэальна функцыянаваў у Расіі).
8. За дакладную крыніцу аб рэпэртуары Піёна мы прымаем дакумент, у якім занатаваны прыходы, расходы і прыбыткі за кожнае прадстаўленне, зробленае на віцебскай сцэне з 23.XII.1845 г. па 18.II.1846 г. (Дело о сборе денег, арк.2-5). Аб'явы пра відовішчы на старонках "Витебских Губернских Ведомостей" (далей - ВГВ) за 1846 г. №2,3,4,6,7 у параўнанні са згаданай вышэй крыніцай неаднаразова дэманструюць разыходжанні і аказваюцца няпоўнымі (ВГВ былі штотыднёвікам). У ім таксама нерэгулярна згадвалася аб тым, на якой мове будзе адбывацца анансаваная дзея. Між іншым, на 13.I яны абвяшчалі паўтор камедыі "Тереза" на рускай мове ў перакладзе (Якуба) Чаховіча, які хутчэй за ўсё быў акцёрам у трупе Піёна. Ужо згаданы "Kurier Warszawski" недакладна паведамляў: "Была прадстаўлена камедыя на польскай мове "Тэрэнія". Напэўна, Чаховіч перакладаў з польскай на рускую аднаактовую п'есу Скрыба "Тэрэнія". Пра яго пераклады на рускую мову гл. заўвагу 43.
9. Дело о сборе денег, арк.2-5; ВГВ, op.cit. Гл.: J.Pudełek. Warszawski balet romantyczny 1802-1866. Kraków, 1968.
10. ВГВ, 1846, №2. Яўгенія Кос была сястрой Марыса Піёна. "Мясцовыя артысты": дакладна тут размова ішла пра сялян (у арыгінале: "Адольф и Владислав Пионы с поселянами").
11. ВГВ, 1846, №2.
12. Дело о сборе денег, арк.2-5.

13. Ibidem, арк.4 адв.-5. Апроч ужо згаданых балетаў у Віцебску былі паказаны таксама "Чароўная флейта" (гл. J.Pudelek, s.171-172), "Дывертысмент" і невядомы твор з рускай назвай "Бетинст в лагерях" (можа быць, зусім новы, пастаноўка якога каштавала выдаткавання 50 рублёў).
14. Дело о сборе денег, арк.2 адв.-4. Самы вялікі даход быў атрыманы ў дзень адкрыцця тэатра (150 р. 54 1/2 к.ср.), а таксама 3.1 (154 р. 17 к. ср.), калі ігралі "Камінара і млынара" ды "Стаха і Зоську". 14.II былі паказаны "Наталка-Палтаўка" Катлярэўскага і балет "Бетинст в лагерях".
15. Дело о доме Гайковой, арк.5-7.
16. Ibidem, арк.13, 24 адв.; Дело о сборе денег, арк.7. Тэрмін "перестроение" ў адносінах да віцебскага тэатра ўжыў Галіцын у дакуменце ад 19.II.1847 г. (Дело о доме Гайковой, арк.18).
17. Ю.А.Пашкин. Русский драматический театр в Белоруссии XIX века. Мн., 1980. С.41.
18. Дело о доме Гайковой, арк.23 адв.
19. Ibidem, арк.24 адв.-25 адв. Яшчэ ў кастрычніку Галіцын даручыў архітэктару пабудову даху ("для удобного соединения театра с буфетом" у афіцыне) і "галереи с двумя окошками" (якая злучала б з тэатрам мужчынскі гардэроб). Ibidem, арк.20.
20. Ibidem, арк.28.
21. Дело Витебского Гражданского Губернатора №311. 1846 г. НГАБ, ф.1430, воп.1, спр.13025, арк.1.
22. Дело о доме Гайковой, арк.II.
23. Дело об актерах, арк.1.
24. Дело о представлениях, арк.1,2.
25. Дело об актерах, арк.229. У беларускіх даследаваннях (Ю.А.Пашкін, op.cit., с.41; Гісторыя беларускага тэатра. Т.I. Мн., 1983. С.257-258) паведамляецца аб тым, што віцебскі тэатр размяшчаўся ў адбудаваным з руін будынку недалёка ад узведзенай пазней мужчынскай гімназіі. Прыведзеная вышэй інфармацыя ўзята з наступных крыніц: Известия о провинциальных театрах. Современник, 1851, №XI. От.6. С.33; Н.Я.Никифоровский. Странички из недавней старины города Витебска. Витебск, 1899. С.15-16, 47-49. Згаданая гімназія знаходзілася пры Замкавай вуліцы. На кватэры Шмідкофа, якая знаходзілася на той жа вуліцы, праводзіўся папярэдні продаж білетаў, аб чым паведамлялі афішы.
26. Дело об актерах, арк.233 (афіша), арк.46 (сума тэатральных даходаў). На падставе афіш, што захоўваюцца ў гэтай справе, падаем прозвішчы іншых акцёраў трупы Шмідкофа: Ляшчэўская, Дэмазырскі, а таксама дзеці Шмідкофа Саламея і Максіміліян.
27. Дело о представлениях, арк.6.
28. А.Захарченко. Киевский театр (во время контрактов). Репертуар и Пантеон, 1846. Т.13, С.95-96. Летам 1846 г. Шмідкоф з опернымі прадстаўленнямі завітаў у Житомір, пра што паведамлялі "Волынские Губернские Ведомости" (1846, №24), якія ўхвалялі вакальны талент панны Шмідкоф, звярталі ўвагу на акцёрства Ярашэвіча, які ў ролі дона Базыліо ў "Севільскім цырульніку" быў "знакаміты" і не ашчаджалі жорсткіх слоў аркестру. Гл.: J.Komarowski. Polskie życie teatralne na Podolu i Wołyniu. Wrocław, 1985. S.90.
29. Дело о представлениях, арк.8-9.
30. Дело об актерах, арк.13(афіша).
31. Ibidem, арк.12, 19, 22, 34, 35 (афіша), 46. Наряд отношениям в типографии губернского правления о напечатании разных бланок, форм и др. 1847-1848 гг. НГАБ, ф.1416, воп.6, спр.29, арк.23 (тут знаходзіцца афіша "Нормы" ад 1.II з рукапіснымі праўкамі і заказам Шмідкофа на друкаванне 300 экземпляраў з датай 28.III).
32. Дело об актерах, арк.14, 34 (афіша), 40 (рапарт паліцмайстра аб прадстаўленнях), 46.
33. Дело о труппе актеров Пиона, арк.3-4.
34. Ibidem, арк.5-6 адв.
35. Дело об актерах, арк.50. - У студзені Чаховіч разам з жонкай і дачкой, а таксама Дамброўскім выступалі ў рускай трупе Піражкова ў Смаленску. Выязджаючы ў Віцебск, Чаховіч забраў з сабой кнігу прыходаў і расходаў смаленскага тэатра, з-за чаго Піражкоў вытлумачваўся перад тамтэйшым паліцмайстрам (Ibidem, арк.37, 48).
36. Дело об актерах, арк.65, 99.
37. Частного содержателя труппы актеров Якоба Чеховича прошение. 14.III. 1847 г. НГАБ, ф.1430, воп.1, спр.14423, арк.1.
38. Список театральных пьес частного содержателя труппы актеров Якоба Чеховича. НГАБ, ф.1430, воп.1, арк.7-7 адв. - Гэты спіс назваў быў прадстаўлены на польскай мове.
39. Дело об актерах, арк.46, 71а (рапарт паліцмайстра), 75 (афіша).
40. Ibidem, арк.71а, 64.
41. НГАБ, ф.1430, воп.1, спр.14423, арк.5-6 адв.
42. Дело об актерах, арк.92, 94 (афіша).
43. Ibidem, арк.91 (рапарт паліцмайстра), 91, 94. - Аб адмене спектакляў паліцмайстар даносіў Галіцыну. Часткова нам вядома - на падставе захаваўшагася рукапіснага ўзору афішы, перададзенай Чаховічам для друкавання - якія творы не ўдалося прадставіць. На 17.IV была запланавана камедыя на рускай мове "Наш Саша" ў перакладзе Чаховіча (або "Наш Юзя" Кацэбу), за ёй ішла аднаактоўка на польскай мове "Цырульнік шнапс" і ў канцы прапаноўваўся вадэвіль па-руску "Квартира на Бугорках" Фёдарава (Наряд отношениям в типографию ..., op.cit., арк.46). Дакументы такога тыпу трэба адрозніваць ад пісаных афіш, якія дастаўляліся губернатару разам з рапартамі аб прадстаўленнях.
44. Дело об открытии театров, арк.1-2 адв.
45. Дело об актерах, арк.154, 156, 158 (афиша).
46. Ibidem, арк.172, 174, 177, 179, 181, 203 (афіша), 161 адв. (рапарт рэжыцкага гараднічага).
47. Дело об открытии театров, арк.9-9 адв.

48. Дело об актерах, арк.160. (рапарт паліцмайстра аб прыбыцці акцёраў). - Наряд отношениям в типографии ..., op.cit., арк.245, 251, 270, 275, 277 (рукапісныя ўзоры афіш; паводле іх у склад трупы ўваходзілі актрысы Аснікоўская, Чаховіч, панна Чаховіч, панна Ісаковіч, панна Рушэўская; акцёры Аснікоўскі, Дамброўскі, Младзяноўскі, Навіцкі, Палонскі, Сакульскі, Шыпянскі). - Захаваліся заўвагі віцебскай друкарні, датаваныя лістападам і снежнем, аб заказаных дырэктарам віцебскага тэатра Чаховічам афішах. Былі заказаны афішы з рэпертуарам камедыйным ("Бацька дэбютанткі" Ламберта-Байярда, а таксама "Богач на час", "Ришард" ...(?), "Докторская шутка") і драматычным ("Жонка артыста" Скрыба, "Гулец", "Брат против брата"). 29 снежня заказ падпісаў акцёр Аснікоўскі. Афіша паведамляла пра яго твор "Карчма на мяжы Аўстрыі або Падарожжа ў Варшаву". Надрукаваную афішу забіраў Палонскі (Книга для записи работ Типографии витебского губернского правления по напечатанию разных бумаг со взысканием платы в течение 1847 г. НГАБ, ф.1416, воп.6, спр.36, арк.15-16). - У "Деле об актерах" згаданыя вышэй афішы нам не сустракаліся.
49. Дело о приезде актеров, арк.1-2.
50. Дело о труппе актеров Пиона, арк.7-8.
51. Актера Якоба Чеховича прошение, 3.VI.1848 г. Лісты гараднічым у Невелі, Люцыне і Рэжыцы, 4.VI.1848 г. ГНАБ, ф.1430, воп.1, спр.14423, арк.10-12.
52. Об актерах, арк.71 (Регистр представленных пьес в г.Лепеле).
53. Ibidem, арк.61.
54. Ibidem, арк.69.
55. Дело о приезде актеров, арк.5-5 адв. (Ліст Піёна Галіцыну на французскай мове, 12.XI.1848).
56. Ibidem, арк.3.
57. Ibidem, арк.7.
58. Ibidem, арк.6-6 адв. (Ліст Піёна на французскай мове).
59. Ibidem, арк.9.
60. Дело об актерах 1849, арк.5 (рапарт паліцмайстра аб прыбыцці ў Віцебск акцёраў Чаховіча), 1а, 1б, 7, 8, 13, 14, 15, 17, 17а, 17б, 17в (афіша) - іх рукапісныя ўзоры ў: Документы, арк.5, 7, 9, 11, 13 адв., 21, 23, 33, 35 адв., 37, 42. - Трагедыя Раберта пад рускай назвай "Честь или смерть" ідэнтыфікавана праз параўнанне пераліку персанажаў на афішы з рэпертуару львоўскага тэатра (B.Lasocka. Teatr Lwowski w latach 1800-1842. Warszawa, 1967. S.343). У ВІцебску яна афішыравалася як драма ў 5 актах у перакладзе з нямецкай мовы Камінскага.
61. Дело об актерах 1849, арк.16 (рапарт паліцмайстра).
62. Документы, арк.52, 55 (рукапісныя ўзоры афіш).
63. Документы, арк.92, 149, 153, 171 (рукапісныя ўзоры афіш). - Пра выступленні Камілы Чаховіч у Мінску пісалі "Минские Губернские Ведомости", 1849, №18, 19.
64. Дело об актерах 1849, арк.37, 38. - Документы, арк.158, 159.
65. Частного содержателя труппы актеров Якоба Чеховича прошение, 5.VII. 1849 г. Лісты гараднічым у Невелі, Люцыне і Рэжыцы, VII.1849 г. НГАБ, ф.1430, воп.1, спр.14423, арк.13-14.
66. Документы, арк.219, 224 (рукапісныя ўзоры афіш).

*Марэк ГАЗДАВА*

# УСПАМІНЫ ПРА ВІЦЕБСКІХ ПІЯРАЎ

*"Elles sont tombées, ces belles et chères eglises oú des générations de nos pères étaient venues chercher des consolations, du courage, de la force pour lutter contre les maux de la vie; ces cloîtres, - qui servaient d'asile si sûr, et si digne à tous les arts, à toutes les sciensces, oú toutes les misères de l'homme étaient soulagées... - ne sont plus que des ruines..."*
*Montalembert, Les moines d'occident, introduction p. CXL (Paris 1860) (1).*

Лукашэвіч (Historya Szkol, IV, 261), узгадваючы піярскую сядзібу ў Віцебску, апавядае: "У панаванне Аўгуста III была рэзідэнцыя піяраў у Віцебску. Хто і калі яе заснаваў - мне невядома". Дзе-нідзе сустракаем такія ж паведамленні, аднак яшчэ часцей - увогуле ніякіх згадак. У такім выпадку пастараемся распавесці тут нешта большае пра гэту нашу старадаўнюю інстытуцыю (2).

Піяры былі запрошаны ў Віцебск Андрэем і яго жонкай Ганнай Лапаўнай Свіршчэўскімі (гэтае прозвішча пішуць таксама і трохі па-іншаму), віцебскімі абывацелямі, і адбылося гэта паміж 1751 і 1753 гадамі (3). Спачатку піяры не мелі з гэтай фундацыі ані фальварка, ані вёскі, а толькі пляцы, агароды і невялікую грашовую суму ў 1000 талераў ад фундатараў, якія таксама пабудавалі драўляны касцёл і такі ж кляштар. Грошы гэтыя былі забяспечаны на ўладаннях віцебскага бурмістра Ігольніка і працэнты з іх пасля нават часта затрымліваліся. Аднак з часам дадаліся да іх іншыя лягаты (4): ад Пацея (5) 1200 талераў, ад віцебскага харужага Магучага (6) - 100 талераў, ад нейкага Міклейевіча (ці не Мількевіча?) - 800 талераў, ад Косавых - 200 талераў. У 1761 г. Міхал Мікоша, ротмістр ваяводства, межавы суддзя, запісаў піярам грыгаровічаўскую юрыдыку за Дзвіной, у "слабадскім пасадзе", з двума палянкамі і пяццю "слабаджанамі" на гадавое спагнанне за душы памерлых, што ніадкуль паратунку не маюць. У 1763 г. віцебскі бурмістр Ян Ігольнік (8) з жонкай Ганнай ахвяравалі 550 талераў з тым, каб па іх волі кожны месяц дзве імшы за іх душы адпраўляліся пры жыцці і столькі ж пасля смерці. Магчыма, былі таксама яшчэ нейкія іншыя ахвяраванні, але працэнты ад іх і ўвогуле даходы гэтыя былі вельмі нязначныя і недастатковыя для пакрыцця непазбежных выдаткаў касцёла і кляштара. Пабожныя дабрадзеі яшчэ не аднойчы дапамагалі манахам і іх школе.

Гісторыя віцебскіх піяраў і іх навучальнай установы ў 1785-1799 гг. падзяляецца на тры часткі, пра кожную з якіх раскажам усё, што нам вядома.

Першы перыяд дзейнасці піяраў у Віцебску ахоплівае час ад іх з'яўлення ў горадзе да 1785 г. Матэрыялаў аб гэтых часах маем, на жаль, вельмі мала. Хоць маёмасць піяраў тады была надта мізэрная, аднак яны ў адпаведнасці са статутам выконвалі свае абавязкі і пасля прыбыцця ў Віцебск распачалі тут навучанне моладзі. Якой у той час магла быць іх школа?

Не ведаю, ці распаўсюдзілася тады на Белай Русі вядомая рэформа манаскіх школ Канарскага, бо і ў пазнейшыя часы ў Літве яна не адразу была прынята. Піяры ж Літоўскай правінцыі (да якой таксама належаў і Віцебск) выпрацавалі для сваіх школ у пэўнай ступені асабістую методу навучання. Менавіта гэтая метода была надрукавана ў хуткім часе пасля з'яўлення сядзібы піяраў у Віцебску стараннем літоўскага правінцыяла ксяндза Каспара Трэшчкоўскага, а напісана ксяндзом Ежы Цяпінскім, консультарам і сакратаром правінцыі (9). Яе мусілі, mutatis mutantis (10), дакладна прытрымлівацца. Водгулле дзейнасці Адукацыйнай камісіі, бясспрэчна, даходзіла сюды, хоць значна пазней і не ва ўсёй паўнаце. Аднак заўсёды рэформа Канарскага і мадыфікацыі Адукацыйнай камісіі знаходзілі і тут сваё ўвасабленне, хоць з пэўнымі зменамі і не ў поўным аб'ёме, ды і то ў пазнейшыя часы. З пачатку ж існавання піярскай школы ў Віцебску прыстасоўваліся, пэўна, да тых рэкамендацый і норм педагагічных паводзін, што былі выдадзены кс. Трэшчкоўскім і мусілі прытрымлівацца іх нават на працягу многіх гадоў. Варта, аднак, разгледзець, якімі ж былі школы паводле правіл кс. Трэшчкоўскага, бо так выглядала і навучальная ўстанова ў Віцебску.

Гэтыя піярскія школы складаліся з пяці класаў. У першых двух вывучалі польска-лацінскую граматыку, (пераважна, аднак, лацінскую), трэці клас называўся humanitatis або паэзія, чацвёрты - рыторыка, пяты - філасофія (аднак быў ён не паўсюль і не заўсёды). Infima classis grammatices наведвалі вучні трох катэгорый: тых, што толькі вучыліся чытаць, называлі minimis (а сама гэтая катэгорыя некалі называлася праформай); тых, што пачыналі вывучаць склоны і спражэнні, называлі minores; majores знаёміліся з пачаткамі лацінскай мовы. Апроч таго, у гэтым класе вучылі пачаткам катэхізму, малітвам, боскім і касцёльным запаведзям. Minores і majores дасканаліліся ў "фарміраванні характару", гэта значыць, каліграфіі, вывучалі пачаткі геаметрыі і чатыры арыфметычныя дзеянні. Majores шмат практыкаваліся ў

хатніх перакладах з лаціны на польскую мову з вядомага тады падручніка Людвіга Вівеса (11) "Collectaneum et Colloquia". Неабавязковымі былі размовы вучняў па-лацінску паміж сабой,а толькі з магістрам (12), які пры неабходнасці іх папраўляў. Падручнікі Вівеса, а менавіта хрэстаматыя, ужываліся паўсюдна пры вывучэнні лацінскай мовы.

Medja et suprema Classis Grammatices - гэта сінтаксіс, арфаграфія, вывучэнне мноства лацінскіх слоў. Пісьмовыя практыкаванні, пераклады з лацінскай на польскую мову і наадварот складалі аснову навучання ў гэтым класе. І вучні павінны ўжо былі ў школе і па-за яе межамі размаўляць па-лацінску. Вывучалі тут таксама польскую гісторыю (13),працягвалі вывучэнне геаграфіі, катэхізму, святой гісторыі, арыфметыкі, "totam usque ad finem" (14).

У класе humanitatis (або паэзія) праходзілі паўтарэнне найбольш важных і цяжкіх частак сінтаксісу і празоды (15), слухалі лекцыі пра віды паэзіі, займаліся чытаннем рымскіх класікаў, старажытнай гісторыяй аб чатырох манархіях са старажытнай геаграфіяй, вывучалі польскае права, практыкаваліся дома ў апрацоўках на лацінскай і польскай мовах. Клас рыторыкі часам быў злучаны з папярэднім, а часам існаваў зусім асобна.

У класе рыторыкі сустракаем ужо тэорыю красамоўства: правілы рознага кшталту празаічных стыляў, разнастайных прамоў і правільнага празаічнага выкладання думак, як вуснага, так і пісьмовага; правілы складання і аздобы прамоў і розных арацый, што падзяляліся на тры часткі (inventio, dispositio, conclusio), кожная з якіх павінна была мець адпаведную стылізацыю. Асаблівая ўвага звярталася на ўменне напісання лістоў. У праграму навучання таксама ўваходзіла чытанне знакамітых лацінскіх і польскіх прамоўцаў і ўдасканальванне ўмення складання такога роду тэкстаў. У падручніках прапаноўваліся тэмы для разнастайных разважанняў і практыкаванняў. Гэтыя тэмы ахоплівалі розныя бакі грамадскага ўладкавання Рэчы Паспалітай, неабходнасць іх выпраўлення, ахову правоў і г.д. Шмат выкладалася тут старажытнай гісторыі (Рым і Грэцыя) і польскага права па падручніках Гарткнаха і Ленгніха.

Пра пяты клас - філасофію ("Methodus docendi") - не згадваецца, аднак пэўныя звесткі пра яго мы маем. У выкладанні філасофіі прытрымліваліся правілаў тамістаў (16), курс навучання складаў два гады. У першы год выкладалі пралегамену (17), логіку, метафізіку, якая падзялялася на анталогію, агульную касмалогію, псіхалогію і натуральную тэалогію. На другі год вывучалі матэматыку (алгебру і геаметрыю), механіку і фізіку.

Ва ўсіх класах заняткі пачыналіся а палове восьмай раніцы і доўжыліся да 10 гадзін, пасля абеду - з 2 да 4 гадзін. Звычайна навучанне пачыналася з катэхізму або якога-небудзь духоўнага практыкавання, а апошнюю чвэрць вучэбнага часу завяршала "lectio spiritualis" (18). Па чацвяргах была так званая рэкрэацыя (перапынак), не зусім, праўда, вольная ад лекцый і розных заняткаў, якія проста былі карацейшыя і праходзілі іншым парадкам. У сферу выхаваўчага працэсу манаскіх школ уваходзілі таксама штодзённае слуханне св. імшы, штомесячная споведзь, рэкалекцыя (19) перад Вялікаднем і набыццё іншых рэлігійных навыкаў, удзел у працы брацтва садалісаў (20). Вучылі ў піярскіх школах бясплатна. Вучань, што наведваў школу, зусім нічога не плаціў за навучанне, выключаючы толькі свайго так званага дырэктара. За ўтрыманне вучня ў канвікце плата, натуральна, спаганялася. У школах былі таксама бедныя вучні, так званыя пауперы, якія ўтрымліваліся за агульны кошт або ахвяраванні сваіх таварышаў. Пауперы наведвалі школу разам з іншымі вучнямі. Некаторых паупераў утрымлівалі самі піяры і пры гэтым выкарыстоўвалі іх для выканання розных паслуг, часцей за ўсё, для палення ў печах, адкуль і паходзіць іх назва "калефактары". Дысцыпліна ў піярскіх школах у цэлым была досыць добрая. Цялесныя пакаранні ўжываліся рэдка, але ж часам здараліся "пляцэнты" (біццё па руках) падчас абеду, а на ноч - па месцы для сядзення... Аднак было гэта не часта. Увага ў адносінах да маладых навучэнцаў была вялікая, а пільнасць - бацькоўская.

Піярскімі школамі і рознымі справамі ўсяго ордэна кіраваў генерал, што знаходзіўся ў Рыме. Чым з'яўляўся генерал для ўсяго ордэна, тым жа быў правінцыял для правінцыі, на якія падзяляўся ордэн. У абавязкі правінцыяла ўваходзіла наступнае: даглядаць, каб ва ўсіх школах правінцыі ва ўсіх адносінах панаваў прыстойны парадак; наведваць гэтыя школы асабіста або праз пасрэдніцтва сваіх візітатараў. Візітатары турбаваліся аб тым, каб кожны дакладна выконваў свае абавязкі, каб вучні нідзе адны без нагляду не заставаліся, каб усе навукі ў школах добра выкладаліся. На чале кожнага калегіума стаяў рэктар (у рэзідэнцыях - супрыёр), які выбіраўся на тры гады (як і правінцыял).

Аднак заняты разнастайнымі справамі ўсяго калегіума, рэктар не мог адначасова займацца ў належнай ступені школамі, таму кіраванне школамі даручалася прэфектам. Апошнія прыймалі і выпускалі вучняў, назіралі за іх поспехамі ў навуцы і паводзінамі па-за школай. Прэфект, які штодня прысутнічаў у школах, меў права ўмешвацца ў тое, як настаўнікі выконвалі свае абавязкі. Ён прызначаў ім аўтараў, якіх яны павінны былі перакладаць, і звяртаў увагу на тое, каб яны дакладна прытрымліваліся раскладу заняткаў. Не

радзей, чым раз на месяц аглядаў пакоі вучняў, часта наведваў хворых. Ведаючы кожнага з вучняў, мог у асобных выпадках затрымліваць іх у адным класе або пераводзіць у вышэйшыя. Прэфект звычайна быў прафесарам філасофіі або рыторыкі, а іншым разам зусім не выкладаў. Канвікты знаходзіліся пад непасрэдным наглядам рэгентаў, але таксама залежалі ад прэфекта.

Змены ў школах, уведзеныя Канарскім, а потым і Адукацыйнай камісіяй, добра вядомыя (21) і грунтоўна даследаваныя, таму не будзем кранацца тут гэтага пытання. Працытуем лепш меркаванне аб піярскіх школах кс. Дабшэвіча, іх выхаванца, вядомага прафесара тэалогіі і капелана пры Кіеўскім універсітэце, потым прэлата кафедральнага архідыякана луцкага і жытомірскага (22): "Школы, што ўтрымлівалі ксяндзы піяры, вызначаліся паўсюдна падборам настаўнікаў. Гэты ордэн, які меў на мэце ад самага свайго заснавання выхаванне моладзі, сам палаў жарсцю навукі і асветы і вельмі ўмела ўзбуджаў гэтыя схільнасці ў маладых людзей, што гарнуліся да яго. Рэфармаваны ў нас Канарскім, ён стаў настаўніцкім аб'яднаннем, але страціў рысы аб'яднання манаскага. З таго часу піяры, настойліва ўдасканальваючыся ў свецкіх навуках, занядбалі духоўныя. Усе, пра каго ўзгадваем, паводзілі сябе беззаганна. У вонкавым жыцці папракнуць іх не было за што, а іх стараннасць і самаадданасць, вялікую акуратнасць у выкананні абавязкаў, безумоўную справядлівасць і бескарыслівасць варта нават ухваляць. Аднак такое іх жыццё і выкананне абавязкаў ... не асвятляла тая іскра рэлігійных пачуццяў, якая магла б запаліць любоў да Стваральніка ў юных сэрцах. Іншыя духоўныя таварыствы, асабліва бернардзінцы і дамініканцы, якія на самой справе не маглі зраўняцца ў падборы такіх адукаваных настаўнікаў, у гэтым сэнсе пераўзыходзілі піяраў".

Да 1785 г. нам вядома няшмат манахаў са школы ў Віцебску і мы можам адзначыць мала фактаў з мясцовага школьнага жыцця. Аднак падзелімся з шаноўнымі і паблажлівымі чытачамі тым, пра што нам самім удалося даведацца.

Ужо Лукашэвіч падае наперэлік віцебскіх піяраў за 1755 г. (23), а менавіта: супрыёрам тады быў кс.Язафат Ілумінскі, кс.Станіслаў Дормат вучыў гісторыі і матэматыцы, кс.Валенты Прусецкі - філасофіі, кс.Міхал Шэлюта выкладаў красамоўства і адначасова быў рэгентам канвікту. Такі склад настаўнікаў указвае на тое, што ў той час быў нават клас філасофіі, аб чым потым увогуле ніколі не было чуваць. Аднак, ніадкуль не вядома напэўна, якую філасофію тады выкладалі і што ўвогуле пад гэтым належыць разумець...

З таго перыяду ведаем яшчэ і іншых віцебскіх піяраў (24).

Пад канец 1755 г. згадваецца ў Віцебску кс.Себасціян ад св.Станіслава Выкоўскі, дакладна нават невядома, у якой якасці. Аднак асоба гэтая ўвогуле добра вядомая (25) - гэта другі літоўскі правінцыял (1741-1744). Нарадзіўся ён у 1700 г. у Мазовіі, у навучанні вызначаўся ведамі і стараннасцю. Паміраючы ў 1764 г. у Любешаве, меў 64 гады, 60 з якіх правёў у ордэне. Ён выдаў пару эпіталамаў (26), пахавальных казаняў і тэалагічныя тэзісы. Згаданы вышэй кс.Ежы Цяпінскі таксама быў нейкі час у Віцебску. Можам таксама прыгадаць некалькі прэфектаў марыянскай кангрэгацыі і выхаванцаў гэтай школы: Ян Лапацінскі (1755), Ян Сіпка (1756), Ян Гурка (1758), сын віцебскага суддзі, Лявон Ігольнік (1759), сын першага гарадскога радцы ў Віцебску, нейкі Херцык (1761), Андрэй Сіпка (1762), сын Сяргея, таксама віцебскага радцы, Антон Карніцкі (1766), сын мінскага суддзі, Юзаф Вяшчыскі (1767), сын мінскага суддзі, і Алаізі Карніцкі (1769), таксама сын мінскага суддзі. У 1759 г. прафесарам быў кс.Ян Хрыз. Страшэвіч. У 1762 г. згадваюцца тры ксяндзы: Мангольд, Карцье і Шэрфер. У наступным годзе - кс.Каспар Трэшчкоўскі, аб якім ужо ішла гаворка, кс. Каэтан Касабудскі, настаўнік Касцюшкі ў Любешаве ў 1755 г. (27), і кс. Рафал Файнхабер. У тым жа годзе згадваецца кс.Андрэй Гумоўскі (таксама яго прозвішча пішуць і Гумкоўскі), прапаведнік; кс.Юзаф Фельняровіч (?), віцэ-прэфект - у 1769 г.; кс.Тамаш Зукоўскі, прафесар - у 1772 г.; у 1784 - кс.Міхал Іярдан, прэфект і прафесар рыторыкі, які ў 1781 г. быў прэфектам віленскага канвікту.

Аднак яшчэ перад гэтым у віцебскай школе недзе паміж 1780 і 1783 гг. прафесарам быў кс.Аляксандр Глагоўскі. Пра яго мы ведаем шмат падрабязнасцяў (28). Гэта быў мінскі шляхціц, які нарадзіўся ў 1759 г., уступіў у ордэн у 1775 г. ў Любешаве, вучыўся там і ў Вільні філасофіі і тэалогіі, а пасля заканчэння навучання пачаў сам выкладаць у Віцебску ды іншых школах. У 1801 г. быў абраны рэктарам у Вільні, потым займаў розныя высокія пасады ў ордэне. Зрэшты, у 1814 г. стаў правінцыялам, а ў 1817 г. быў абраны на новы triennium (29). У 1819 г. быў у Вільні.

Піяры, як і манахі іншых ордэнаў, у сваіх школах давалі тэатральныя прадстаўленні. Нам вядома толькі аб адным такім сцэнічным выступленні ў Віцебску (30). Называецца яно так: "Артаксар. Трагедыя, напісаная айчынным вершам і падчас шматлікага сходу ў віцебскай школе, Scholarum Piarum, прэзентаваная ў тысяча семсот шэсцьдзесят пятым годзе. Вільня, у друкарні Я.К.М. і Рэчы Паспалітай Scholarum Piarum int. з подпісам кс.Ю.Кушаль С.П., карт. нел. 2 1/2, аргумента 1 1/2, твора к. нел. 43; у канцы - дазвол цэнзуры з датай 11 лютага 1766 года".

Твор гэты прысвечаны аўтарам Вікторыі Пацей з Патоцкіх, жонцы вялікага стражніка ВКЛ.

Аляксандр II Пацей, трокскі ваявода, які памёр у 1770 г., быў жанаты з Тэрэзай з Войнаў, брацлаўскай старасціхай, удавой Бжастоўскага, мсціслаўскага кашталяна. Ён меў двух сыноў (апроч стольскіх жа дачок): Людвіга II, вялікага літоўскага стражніка, які памёр маладым у 1771 г., не пакінуўшы дзяцей, і быў жанаты з Вікторыяй Патоцкай, дачкой познаньскага ваяводы (яе зводная сястра Ганна з Лашчоўны стала маці шчаслівага, а дакладней, нешчаслівага Патоцкага); і другога сына Леанарда II, вялікага стражніка, які памёр у 1774 г. (31), пакінуўшы сына Аляксандра III ад шлюбу з М.Радзівіл, рэчыцкай старасціхай (яго сын Тэадор II - апошні ў родзе). Такім чынам, гэтае прысвячэнне можа ўказваць на тое, што Людвіг Пацей зрабіў віцебскім піярам ахвяраванне, пра якое ўжо згадвалася вышэй. Хоць таксама мажліва, што яго зрабіў і Аляксандр, трокскі ваявода, або яго другі сын Леанард. Аднак больш за ўсё сведчанняў на карысць Людвіга.

Пра аўтара гэтай трагедыі мы ведаем, што меў ён імя Юзаф ад св.Міхала. Правінцыялам ён стаў пасля паўторнага абрання Трэшчкоўскага. Як экс-правінцыял быў у 1787 г. у Вільні, дзе ўжо да гэтага працаваў рэктарам.

Эпохай у жыцці віцебскіх піяраў стала набыццё князем Пацёмкіным Дуброўны (або Дамброўны). Дуброўна - гэта мястэчка, што знаходзіцца на Дняпры ў сучаснай Магілёўскай губерні на адлегласці 2 1/2 міль ад Оршы. Даўней гэта была ўласнасць Глябовічаў, якія пісаліся графамі на ёй. Мікалай Глябовіч фундаваў тут у 1630 г. бернардзінскі кляштар. Потым Дубровенскае графства стала ўласнасцю Сапегаў з чарэйскай лініі, і Аляксандр-Міхал (сын Казіміра, генерала літоўскай артылерыі, і Караліны з Радзівілаў, што выйшла замуж адразу пасля смерці мужа, нават без сватоў, як сцвярджае Матушэвіч, за Юзафа Аляксандра Ябланоўскага, пазней наваградскага ваяводу), польны гетман і канцлер літоўскі, у лістападзе 1782 г. прадаў гэтыя ўладанні за 5 800 000 польскіх злотых (32) Рыгору Пацёмкіну (33). Дубровенскія бернардзінцы чымсьці не спадабаліся новаму ўладару і ён вырашыў іх выгнаць адтуль.

Праз нейкую пару гадоў пасля набыцця Дуброўны, недзе ў 1784 г., едучы ў Мультаны, ён праязджаў праз Віцебск, сустракаўся тут с піярамі і казаў, што прагне мець іх у сябе ў нованабытых маёнтках (а ўладанні тыя былі велічэзныя: ужо не кажучы пра вялізныя абшары зямлі, адных прыгонных ён меў больш 40000!). Князь пазнаёміўся ў Віцебску з тагачасным рэктарам кс.Ельяшэвічам (34) і паведаміў яму, што жадае мець у Дуброўне школу і канвікт.

Сестранцэвіч не выказваў піярам перашкод у справе іх перамяшчэння, а князь абяцаў узяць на сябе атрыманне bene placitum Apostolicum (35) на гэты пераезд і сапраўды хутка, у 1785 г., яго атрымаў. Так піяры перамясціліся ў Дуброўну, пакінуўшы ў Віцебску двух ксяндзоў для адпраўлення імшы і пільнавання касцёла. Кс.Ельяшэвіч разам з прафесарамі паехаў у нованабытыя ўладанні Пацёмкіна і такім чынам пачаўся другі перыяд гісторыі віцебскіх піяраў. Бернардзінцаў размясцілі ў іншых кляштарах, а піяры адчынілі там школу. Князь адразу даў на ўтрыманне манахаў і ўпарадкаванне навучальнай установы 15000 рублёў асігнацыямі, забяспечыўшы гэтую суму на Дуброўне, і вызначыў 6% гадавога даходу (900 руб. асігн.). Звыш таго, ён адпісаў ім вялікую і заможную вёску Азаркава (або Азоркава), што знаходзілася тады ў Гарадзецкім павеце Полацкага намесніцтва.

У канцы XVIII ст. ў гэтай вёсцы было (36) 356 падданых (пазней нават значна больш) і амаль 77 валок зямлі. Аднак пасля смерці Пацёмкіна, а дакладней, яшчэ раней, пасля продажу гэтых уладанняў, піяры амаль што перасталі атрымліваць працэнты, аднак вёска Азоркава (37) заўсёды была ў іх распараджэнні. У 1804 г. піяры пабудавалі тут уласным коштам драўляны касцёл, які быў філіяльным у Няпоратаўскай парафіі (38). Касцёл меў вежу і тры алтары. У 1818 г. капеланам пры гэтай святыні быў уніяцкі прэсвітэр, які выконваў рэлігійныя абавязкі для азоркаўскіх падданых, а піяры яму за гэта давалі 100 руб. (напэўна, асігнацыямі), а таксама маярат, кошт якога перавышаў 300 руб., і жыллё. Пры гэтым касцёле існаваў яшчэ шпіталь для піярскіх падданых (39). Аднак вернемся пакуль што да Пацёмкіна.

Князь Таўрычаскі выказаў піярам шмат прыхільнасці і дапусціў да самых блізкіх да сябе адносін. Асабліва яму спадабаўся малады капелан гэтага ордэна кс.Скірнеўскі (40). Апошні ахвяраваў яму свае вершы (напэўна, для шанавання князя), якія Пацёмкіну вельмі падабаліся, ён загадваў іх чытаць ды хваліў аўтара і яго талент. Лічачы недастатковым тое, што Скірнеўскі жыў у яго горадзе, князь жадаў, каб той быў заўсёды пры ім і паўсюль яго суправаджаў, дзеля чаго ўзяў яго з сабой у Херсон і паставіў на чале цэлай арміі каталіцкіх капеланаў. Скірнеўскі ўмеў карыстацца сваім становішчам і выклікаў прыхільнасць да сябе ўсіх, хто знаходзіўся вакол яго, што пасадзейнічала здабыццю яму яшчэ большай пашаны і гонару. Пасля смерці свайго апякуна (Пацёмкін памёр у 1791 г.) Скірнеўскі пакінуў ордэн, а потым трапіў у Луцк да мітрапаліта Цецішоўскага, увайшоў у давер да яго і заваяваў прыхільнасць. Ён застаўся там прэлатам, заняў высокае становішча і раптоўна памёр у Луцку (41) у 1831 г., учыніўшы там вядомае махлярства і

злоўжыўшы даверлівасцю мітрапаліта (42).

У Дуброўне піяры таксама ўтрымлівалі школу, хоць і на працягу ўсяго некалькіх гадоў, аднак, на жаль, ніякіх звестак пра гэтую навучальную ўстанову мы не маем! Ведаем толькі, што там вучыўся А.Анёл Даўгірд (43), пра якога належыць сказаць некалькі слоў. З'явіўся ён на свет у 1776 г. у Мсціслаўскім павеце. З пачатку 1786 г. вучыўся ў езуіцкіх школах у Магілёве і Мсціславе, потым у дубровенскіх піяраў слухаў рыторыку, фізіку, гісторыю, логіку і французскую мову, на чым і скончыў свецкае навучанне, што адбылося да 1790 г. Упадабаўшы для сябе духоўнае апірышча, ён уступіў у ордэн піяраў у Любешаве 17 верасня 1791 г. Прайшоўшы там навіцыят, прыняў манаскі абет у 1793 г. і далей дасканаліўся ў навуках, адпаведных манаскаму сану, у Дамбровіцы і Вільні. Узбагаціўшы ведамі сябе, пачаў даваць асвету іншым, выкладаючы ў школах свайго ордэна. Працаваў таксама і ў Віцебску недзе да 1800 г., праўда, непрацяглы час. У Магілёве ў 1801 г. быў пасвечаны ў духоўны сан і потым адразу закліканы ў Вільню для працы прэфектам шляхецкага канвікту, дзе знаходзіўся да 1809 г. Часы яго працы прэфектам характарызавалі захаванне непрадузятасці і справядлівасці, лагоднасць і стараннасць у выкананні абавязкаў. Набыўшы славу за вучонасць і пабожнасць, ён быў закліканы на пасаду капелана ў так званую Галоўную школу ў Вільні, дзе з перапынкам ад 1812 да 1816 гг., калі школа была зачынена, выконваў свае абавязкі аж да скасавання універсітэта ў 1832 г. Кс.Даўгірд кіраваў усімі духоўнымі практыкаваннямі моладзі, іх сумленнем, на працягу шэрагу гадоў вучыў маладых таму, як трэба змагацца пад харугвою Хрыста...

Адначасова з гэтымі заняткамі ён займаў розныя высокія пасады. У 1814 г. быў сакратаром правінцыі, кансультарам ордэна піяраў і тады ж працаваў над рэформай гэтага манаскага аб'яднання. Пасля выкладаў ва універсітэце логіку, псіхалогію і ўвесь курс тэарэтычнай філасофіі. Затым, пакінуўшы ордэн, стаў кафедральным канонікам, дыяцэзіяльным экзаменатарам, сябрам шматлікіх навуковых таварыстваў і г.д. Веды служылі яму суцяшэннем у выпадковасцях і нягодах жыцця і працаваў ён да самай смерці з вялікай ахвотай і запалам. Зрэшты, 26 красавіка 1836 г. Бог паклікаў яго да сябе. У яго засталіся працы па філасофскіх дысцыплінах на польскай і лацінскай мовах ("De miraculis" - даследаванне на лацінскай мове, напісанае ў 1826 г. на доктарскую ступень). Шмат з іх апублікавана, а яшчэ больш засталося ў рукапісах. Тычацца яны тэалагічных пытанняў, сярод іх ёсць казані, павучэнні і г.д.

Нядоўга панаваў Пацёмкін у Дуброўне. Каля 1787 г. ён прадаў або памяняў гэтае ўладанне на Сміляншчыну на Украіне (зараз Кіеўскай губерні), якая належала Фр.Кс.Любамірскаму (44), генерал-паручніку расійскіх войск, сецяхоўскаму старасту. Новы ўладар Дуброўны не пакінуў пасля сябе добрага ўспаміну, не вызначаўся ён і станоўчымі прыкметамі, быў фанабэрысты, буйнага нораву, запальчывы і помслівы. Не меў ён добрых адносін і з піярамі, якія яшчэ больш пагоршыліся пасля наступнага выпадку. Любамірскі меў дачку Клемянціну (45), якая насуперак волі бацькі выйшла замуж за нейкага Пятра Крогера ў той час, калі генерала не было дома. Гэты шлюб асвяціў, атрымаўшы індульт ад Сестранцэвіча, тагачасны дубровенскі рэктар Юзаф ад Св.Яна Непамуцэна Астроўскі, які пазней быў рэктарам у Віцебску, а пасля гэтага - правінцыялам. Гэта так раззлавала Любамірскага, што ён пастанавіў выдаліць піяраў, у чым яму дапамог заўсёды ўслужлівы да вялікіх паноў Сестранцэвіч. Апошні заахвоціўся гэтым пасля таго, як генерал са свайго боку паабяцаў піярскія фундушы (за выключэннем Азоркава), што складалі быццам бы 5000 руб. срэбрам (напэўна, з розных запісаў), далучыць да даходаў магілёўскага капітула. У гэты ж самы час, у 1799 г., імператар Павел даў у сябе прытулак французскім трапістам (46), для якіх Сестранцэвіч павінен быў вызначыць рэзідэнцыі. Такім чынам, сярод іншых ён выбраў дзеля гэтай мэты і кляштар піяраў у Дуброўне, а манахам апошняга загадаў вяртацца ў Віцебск (47).

Рэшткі ордэна французскіх трапістаў, як вядома, нядоўга заставаліся ў дзяржаве Паўла, але пасля іх выдалення піяры ў Дуброўну (48) ўжо не вярнуліся. Любамірскі зрабіў тое, што жадаў, а частка піярскіх ахвяраванняў дасталася магілёўскаму капітулу.

* * *

Так, у 1799 г. піяры вярнуліся з Дуброўны ў Віцебск. Тут адкрывалася перад імі значна больш шырокае поле выкладчыцкай і педагагічнай дзейнасці і гэта быў трэці перыяд у іх гісторыі і жыцці.

Як мы ўжо адзначалі вышэй, пасля ад'езду піяраў у Дуброўну ў Віцебску заўсёды заставаліся два ордэнскія капеланы для выканання касцёльных паслуг, але школ пры касцёле не было. У 1797 г. заспяваем тут (49) супрыёра кс.Сымона Лабейкаўскага 70 гадоў і кс. Себасцьяна Заблоцкага 62 гадоў. Парафіі пры віцебскім касцёле не было. Аднак пасля 1799 г. пачалося тут новае жыццё і далейшая педагагічная дзейнасць. На чале тады ўжо калегіума ў Віцебску знаходзім кс.Юзафа Астроўскага, пра якога

вялі гаворку вышэй (50). Апроч таго, тут жылі 8 манахаў, і іх лічба за наступныя гады ўзрасла да 12.

Цяпер тут быў створаны канвікт, які размяшчаўся ў асобным драўляным доме (51). Гэта быў convictus nobilis, а асобна ў другім, таксама драўляным будынку знаходзіўся канвікт для шасці бедных хлопцаў, якія ўтрымліваліся коштам Чайкоўскага. Тут, аднак, паўстае такая праблема: матэрыялы, што мы маем пад рукой і якімі ўвесь час карыстаемся, распавядаюць нам аб гэтай установе Чайкоўскага пад апекай піяраў, але дзе-нідзе (52) мы знаходзім і іншыя звесткі. У гэтых крыніцах гаворыцца аб тым, што Ян Чайкоўскі, прускі паручнік, у 1798 г. зрабіў запіс, якім прызначыў працэнты (ад капіталу ў 14000 руб. срэбрам) у памеры 410 руб. для 6 вучняў з бедных шляхецкіх сем'яў па 55 руб. на кожнага і 80 руб. для іх настаўніка (дзяўчаты за 290 руб. з працэнтаў таксама ўтрымліваліся ў розных месцах) з тым, каб гэты канвікт быў створаны пры Віцебскім трынітарскім кляштары, і каб хлопцы вучыліся там чытаць і пісаць па-польску, па-расійску, па-лацінску, па-французску, спасцігалі катэхізм, арыфметыку, пачаткі геаграфіі і польска-лацінскай граматыкі. На чыім баку праўда, з упэўненасцю сказаць нельга.

Быў яшчэ адзін дом, таксама драўляны, які належаў кляштару, знаходзіўся па-за межамі калегіума на зямлі, часткова купленай, а часткова падараванай панам Гуркам, і прызначаўся для жылля свецкіх настаўнікаў. Усё гэта было ў 1799 г.

На той час апроч даходаў з розных сум і лягатаў піяры з вёскі Азаркава (прыгонных мужчынскага полу 405 душ) мелі гадавых каля 600 руб. (напэўна, асігнацыямі, з прапінацыі (53) там жа - 200 руб., за продаж збожжа - каля 300, а разам - 1100 руб. Звыш таго, падданыя гэтай вёскі мусілі даваць 70 гусей, 70 курэй, 10 коп яек. З дакументаў даведваемся таксама, што яны адпрацоўвалі паншчыну два дні на тыдзень. Апроч гэтай вёскі згадваецца і другая, аднак назва яе напісана так неразборліва, што мы так і не маглі зразумець, пра якую мясцовасць ідзе гаворка. Дык вось у гэтай другой вёсцы пасеву было 30 карцоў збожжа і можна было сабраць 300 фур сена.

Як мы ўжо адзначалі вышэй, ксяндзы піяры пры сваім касцёле не мелі парафіі, аднак у канцы XVIII ст., а можа нават ужо і на пачатку XIX ст., атрымалі per commendam (54) касцёл Св.Барбары, які мае наступную гісторыю. У 1783 г. Антон Косаў (55), гарадоцкі маршалак, пабудаваў у Віцебску за Дзвіной касцёл (іншым разам касцёл называюць падвіцебскім), які атрымаў ад яго і іншых асоб ахвяраванні. Адным з першых яго пробашчаў быў кс. Ігнаці Шастакоўскі, інфлянцкі канонік, вялікі сябра піяраў. Ён валодаў некалькімі пляцамі з размешчанымі на іх пабудовамі, а таксама агародамі і ўсё гэта ахвяраваў піярам. Са згоды Сестранцэвіча ён саступіў піярам і ўпраўленне касцёлам ды прыпісанай да яго парафіяй. У канцы XVIII ст. пры касцёле было амаль 40 шляхецкіх сем'яў, а ў самім Віцебску - больш за 460 вернікаў абодвух палоў нешляхецкага паходжання.

Са сваёй гаспадаркі піяры мелі наступныя даходы: камісійных - 240 руб. ад 4000 руб., змешчаных у Малькевіча, віцебскага маршалка, і ад прапінацыі на касцёльных землях - 150 руб. Крыніцай даходаў піяраў была таксама і плата ад канвіктараў, аднак якой яна была ў той час - невядома. Занатавана толькі, што тых канвіктараў, якія плацілі, у 1800 г. было 3, у 1801 г. - 14, а ў 1802 г. - 10.

На пачатку гэтага апошняга 1802 г. на чале калегіума яшчэ стаяў ужо вядомы нам кс.Юзаф Астроўскі. Кс.Сымон ад Св. Юзафа Лабцыкоўскі займаў пасаду віцэ-рэктара, а кс.Міхал Палонскі быў рэгентам канвікту, а таксама нейкі час выкладаў. У 1804 г. заспяваем яго ўжо ў Вільні прэфектам піярскай друкарні. З гэтай нагоды скажам пра яго наступнае: меў ён тады 31 год, часу знаходжання ў ордэне -12 гадоў, тэрміну з часу прыняцця духоўнага сану - 8 гадоў, знаходжання на апошняй пасадзе - другі год (56).

Колькі вучняў было ў першы год паўторнага знаходжання піяраў у Віцебску - невядома. Аднак у 1800-1801 гг. іх было ў 1-м класе - 51 (57), у 2-м - 12, у 3-м - 20 (разам - 83), пераважна лацінскага абраду і сярод іх толькі адзін уніят і адзін дызуніт.

Навучалі: у 1-м класе - клерык Мацей Малькевіч, у 2-м класе ўрокі даваў кс.Ігнаці Плескашэўскі, у 3-м класе настаўнікам быў кс.Міхал Палонскі.

У 1801-1802 гг. тут вучылася: у 1-м класе - 53 вучні (4 уніяты, астатнія лацінскага абраду), у 2-м кл. - 13 вучняў (усе рымскія каталікі), у 3-м кл. - 16 (таксама ўсе каталікі). Разам было 82 вучні.

У маі таго ж навучальнага года школу і кляштар візітаваў кс.Канстанцін Якуцэвіч, літоўскі правінцыял.

У 1802-1803 гг. (58) у 1 кл. было 40 вучняў (з іх 1 уніят, 3 пратэстанты, 1 дызуніт, астатнія лацінскага абраду), у 2 кл. - 11, у 3 кл. - 13 (усе лацінскага абраду). Так, summa summarum(59), 64 вучні.

У другой палове 1802 г. рэктарам у ВІцебску быў прызначаны кс.Аляксандр ад Нараджэння Св.Дзевы

Марыі Турскі, які тут жыў і з вялікім поспехам працаваў да сакавіка 1819 г. Ён амаль усё de nova radice (60), што тычылася школ і кляштара, уладкаваў і прывёў у ранейшы стан. Быў ён душой усяго. З тае прычыны належыць сказаць пра яго некалькі слоў (61). Кс.Аляксандр прыйшоў на свет 10 снежня 1758 г. у Лідскім павеце (зараз Трокскі павет Віленскай губ.) у вёсцы Чужыны Калесніцкай парафіі. Навуку пачаў спасцігаць у Шчучыне Літоўскім у піяраў і гэта вызначыла яго далейшае прызначэнне. Ужо знаходзячыся там, ён выказаў вялікія здольнасці і ахвоту да навучання, а ўпадабаўшы манаскі стан, у 1773 г. у Любешаве ўступіў у ордэн, дзе адбыў навіцыят і далей вучыўся ў тым жа Любешаве і Вільні. Там ён слухаў лекцыі па фізіцы кс.Юзафа Міцкевіча, пазней вядомага прафесара Літоўскага універсітэта. У Вільні ён вывучаў тэалогію да 1781 г. У наступным годзе стаў капеланам і пачаў выкладаць у школах свайго ордэна: у Лідзе - год, у Шчучыне - два гады, у віленскім канвікце - больш за чатыры. Каля 1790 г. выбраўся за мяжу ў якасці настаўніка польскіх панічоў (адны кажуць, што гэта быў Марыконі, другія - Пацей) (62). Падчас гэтага падарожжа ён наведаў Турын, Мілан, Рым, Неапаль, потым Вену, Берлін і нават Стакгольм. Працягвалася падарожжа некалькі гадоў. За гэты час кс.Аляксандр узбагаціў сябе разнастайнымі ведамі і нават пачаў займацца медыцынай. Потым у Вільні ён яшчэ больш паглыбіў свае веды ў гэтай галіне. Невядома, ці меў ён ступень лекара, але ў свой час у Віцебску лячыў з вялікім поспехам. Прыродазнаўчыя ж спецыяльнасці, асабліва фізіку і хімію, ведаў дасканала і яго лекцыі па гэтых прадметах (у віленскім канвікце і ў іншых школах) прынеслі яму незвычайную славу і мелі вялікую пагалоску. Пасля вяртання на радзіму ён займаў пасаду консультара і асістэнта правінцыі на працягу двух трохгадовых тэрмінаў і пры гэтым заўсёды вельмі ахвотна і з вялікай карысцю навучаў і ўдасканальваў моладзь па сваёй спецыяльнасці.

У Віцебску кс.Турскі зрабіў шмат добрых спраў: заклаў батанічны агарод, аранжарэю, заснаваў хімічную лабараторыю, фізічны і мінералагічны кабінеты, упарадкаваў і павялічыў бібліятэку, адрамантаваў кляштарныя пабудовы, а некаторыя з іх узвёў нанова, стварыў аптэку, у школе ўсталяваў дысцыпліну і навучанне паставіў на высокі ўзровень. Сам ён часта выкладаў фізіку з хіміяй, а таксама вучыў французскай мове. 27 дня (новага стылю) сакавіка месяца 1819 г. кс.Турскі пайшоў з гэтага свету, пакінуўшы пасля сябе вялікі і ўсеагульны жаль ды пяшчотную памяць, якая жыла гэтак жа доўга, як і ўспаміны пра тое, як трапна і бескарысліва ён лячыў. Ён нічога не друкаваў, толькі напісаны ім падручнік па фізіцы меў вялікі поспех, і ім яшчэ доўга карысталіся, пакуль не былі надрукаваны адпаведныя працы Асінскага і Быстрыцкага.

Восенню 1802 г. кс.Турскі склаў наступную справаздачу пра віцебскую школу, якой ён кіраваў (63). Настаўнікаў было 7: першы - прэфект, прафесар фізікі, хіміі і французскай мовы; другі вучыў красамоўству і геаметрыі (матэматыцы); трэці - сінтаксісу; чацвёрты - пачатковай граматыцы і каліграфіі; пяты - нямецкай мове; шосты - маляванню; сёмы - танцам. Пяцёра з іх былі манахамі, а настаўнікі нямецкай мовы і танцаў - свецкімі людзьмі. Манахі вучылі бясплатна, настаўнік нямецкай мовы атрымліваў 120 руб. (напэўна, асігнацыямі) і натурай на 50 руб., апроч таго меў стол, жыллё і карыстаўся кляштарнымі паслугамі. Настаўнік танцаў атрымліваў штомесяц сто (?!) рублёў. Вучняў было 53: у 1 кл. - 30 (ва ўзросце ад 8 да 11 гадоў), у 2 кл. - 11 (11-15 гадоў), у 3 кл. - 12 (ад 14 да 21 года). Здаецца, курс навучання ў гэтых класах быў двухгадовы. У 1-м класе вучылі чытаць, пісаць, пачаткам арыфметыкі, лаціны (разам з польскай мовай), геаграфіі, катэхізму са святой гісторыяй і маральнай навуцы з падручнікаў Адукацыйнай камісіі. У 2-м кл. - урыўкам з геаграфіі, маральнай навуцы, старажытнай гісторыі, сінтаксісу з польска-лацінскай граматыкі, вывучалі хрэстаматыю класічных аўтараў, рабілі пісьмовыя пераклады з лацінскай на польскую і наадварот. У 3-м кл. вывучалі прапорцыі, прагрэсію і трэцяе правіла з арыфметыкі, геаметрыю, красамоўства (паэтыку і рыторыку). Аднак тут згадваецца яшчэ і чацвёрты клас, пра які вышэй не ўпаміналася нічога (можа, так называўся другі год навучання ў трэцім класе?). У ім праходзілі хімію ды практычную фізіку - і больш нічога!

Апроч таго, для ўсіх выкладаліся расійская, французская і нямецкая мовы, а маляванне і танцы - толькі для тых, хто жадаў. На выкладанне розных прадметаў адводзілася 20 гадзін у тыдзень, на сучасныя мовы - яшчэ 15 (разам 35), і гэта апроч малявання і танцаў, якімі пачыналі займацца толькі з красавіка (64). Заняткі праводзіліся з 25 верасня да 25 ліпеня (потым у гэтым раскладзе адбыліся змены). Навучанне было бясплатным, кабінеты і навучальныя дапаможнікі ўтрымліваліся за кошт кляштара. Узвядзенне некаторых школьных будынкаў было яшчэ не завершана. Гадавыя экзамены праводзіліся публічна, іншыя - прыватным чынам.

У першай палове 1803 г. выкладалі (65): кс.Турскі, рэктар, кс.Міхал Палонскі, кс.Юзаф Крукоўскі, кс.Ігнацi Плескашэўскі, кс.Ежы Захарэвіч і двое свецкіх - Ян Зоммер і Адам Кандратовіч. Вучняў было быццам бы 67 (66).

У верасні таго ж года школу візітаваў Васіль Севяргін, які на той час адзначаў 70 вучняў (67).

У наступным годзе з праверкай прыязджаў кс.Тадэвуш Кундзіч, прэлат-канцлер віленскай катэдры, доктар

філасофіі etc. (68). Ён адзначыў, што ў школе было 4 класы. Тады ж гэтай навучальнай установе універсітэтам былі нададзены правы тагачасных павятовых школ - гэта значыць, тых, скончыўшы якія можна было паступіць ва універсітэт. Праграмы выкладання мала чым адрозніваліся ад папярэдніх: 1 кл. - без зменаў, у 2 кл. дадавалася землявробства і агародніцтва, у 4 кл. вывучаўся адзін толькі дастаткова вялікі курс фізікі і хіміі. Хутчэй за ўсё, апошні клас лічыўся другім годам навучання ў 3 кл., бо нават і колькасці вучняў у ім мы не знаходзім, а толькі наступныя лічбы: у 1 кл. было 24 вучні, у 2 кл. - 10, у 3 кл. - 10 (разам 44). Выкладаліся таксама расійская, французская і нямецкая мовы. Па нядзелях і ў святочныя дні пасля абеду ў 1 і 2 кл. чыталі катэхізм, а ў 3 кл. займаліся духоўным чытаннем па старых прадпісаннях Адукацыйнай камісіі. Усіх вучняў абавязвалі штодзённа прысутнічаць на імшы і кожны месяц спавядацца. Вучыліся кожны дзень з 8 да 12 гадзін, а таксама з 2 да 6 толькі чатыры разы на тыдзень (па чацвяргах і аўторках заняткаў пасля абеду не было).

На чале школы стаяў ужо вядомы нам кс.Аляксандр Турскі, які таксама выкладаў фізіку. Кс.Юзаф Крукоўскі быў прэфектам, прафесарам красамоўства, лаціны і расійскай мовы. Пра яго вядома, што паходзіў ён з магілёўскай шляхты, нарадзіўся ў 1744 г., вучыўся спачатку ў езуітаў у Магілёве, потым у 1794 г. паступіў да піяраў у Дамбровіцы. Пазней вучыўся ў піярскім ордэне і Віленскім універсітэце, дзе атрымаў вучоную тэалагічную ступень. Выкладаў у школах свайго ордэна: у Дамбровіцы, Любешаве, 4 гады ў Віцебску (дзе 2 гады быў прэфектам) і іншых. У 1826 г. стаў правінцыялам, а ў наступным годзе жыў у Панявежы. Кс.Лукаш Філіпкоўскі навучаў геаметрыі і ўвогуле матэматыцы. Яго мы застаем у 1819 г. ў Вільні консультарам і прафесарам матэматыцы. На той час яму быў 41 год ад нараджэння, 20 - знаходжання ў ордэне, 14 - з часу прыняцця духоўнага сану, другі год ён знаходзіўся на займаемай пасадзе. Кс.Якуб Захарэвіч праводзіў заняткі ў 1 кл., кс.Тадэвуш Малюкевіч вучыў маляванню, кс.Пётр Нейманоўскі - французскай мове, Ян Зоммер - нямецкай. Расійскую мову вучылі ўсе, а французскую і нямецкую - хто жадае. У канвікце ўтрымлівалася 7 вучняў, якія вучыліся ў класах разам з іншымі. Хатніх наглядчыкаў было 4 (69).

У 1805-1806 гг. у 1 кл. вучылася 28, у 2 кл. - 22, у 3 кл. - 6 і ў 4 кл. - 7 вучняў, пераважна лацінскага абраду. У той час выкладалі: у 1 кл. - кс. Антон Стэткевіч; у 2 кл. - кс.Міхал Палонскі (верагодна, ужо на пачатку навучальнага года ён мусіў з'ехаць з Віцебска), у свой час ён таксама даваў урокі французскай мовы; кс.Тадэвуш Малюкевіч, прафесар фізікі (у 1817 г. ён быў рэктарам у Лужках. Быў яму тады 41 год, ён меў 14 гадоў капеланства і першы год рэктарства); кс.Ілля Серадзкі, прафесар матэматыкі. Апошняя асоба вельмі вядомая. Нарадзіўся ён у 1782 г. у Міжрэччы Карэцкім на Валыні і там уступіў у ордэн піяраў. Вучыўся ў Віленскім універсітэце, потым выкладаў у розных піярскіх школах фізіку і матэматыку. У 1821 г.быў рэктарам канвікту віленскіх піяраў і ў наступным годзе памёр. Ён напісаў і выдаў некалькі падручнікаў на польскай мове па фізіцы і алгебры, якія ў свой час мелі вядомасць і папулярнасць. Выкладчыкам расійскай мовы быў Міхал Анерка, нямецкай - Ян Зоммер, малявання - Сымон Савіцкі. Прэфектам і прапаведнікам быў кс.С.Заблоцкі.

У 1806-1807 гг. вучыліся: у 1 кл. - 40 (адзін уніят), у 2 кл. - 12, у 3 кл. - 14 (адзін уніят), у 4 кл. - 6 вучняў (разам 72). Педагагічны персанал заставаўся амаль такім жа, толькі ў 2 кл. выкладаў кс.Алаізы Рыгецці.

У 1807-1808 гг. вучняў было: у 1 кл. - 38, у 2 кл. - 11, у 3 кл. - 10 (адзін уніят), у 4 кл. - 6 (разам 59). З'яўляецца новы выкладчык матэматыкі кс. Караль Маліноўскі, які ў 1816 г. быў прэфектам у Панявежы і адначасова выкладаў фізіку і матэматыку. Меў ён тады 36 гадоў ад нараджэння і 10 капеланства. У 1830 г. зноў застаем яго ў Панявежы.

У 1807 г. віцебскую школу візітаваў Людвіг Плятар, сын Казіміра, камер-юнкер (70).

18 ліпеня 1808 г. з візітацыяй піярскую школу ў Віцебску наведаў Пётр Цэйс, дырэктар навучальных устаноў Мінскай губерні. Адзначыўшы, што класаў у школе чатыры, што прадметы ў іх выкладаюцца паводле прызначаных дзеля гэтага акадэмічных статутаў і пачатковых кніжак, ён паведамляе наступнае: "Поспех вучняў у навуках аказаўся ўхвальным; асабліва ў французскай і нямецкай мовах, а ў фізіцы, у выкананні доследаў, яны выказалі веданне справы. Кабінеты, навуковыя дапаможнікі і батанічны агарод багата і добра задаволены ўсім патрэбным. Рэктар кс.Турскі, муж высокай навукі і вялікіх ведаў, вядомы сваімі рэдкімі талентамі, далучае да гэтага турботы аб добрай адукацыі моладзі." Працаваў там у гэты час кс.Міхал Палонскі (71), напэўна, заклікані ў Віцебск паўторна. Ён выкладаў лацінскую мову і літаратуру, права, гісторыю з геаграфіяй "непамернай навукі", быў прэфектам. Кс.Тамаш Шымковіч, рэгент канвікту, даваў урокі фізікі; кс. Караль Маліноўскі - матэматыкі; клерык Алаізы Рыгецці вучыў у 1 кл.; французскай мове - Казімір Пінабель; Юзаф Зоммер - нямецкай. Асобнага настаўніка расійскай мовы на той час не было.

У 1 кл. было 32 вучні, у 2 кл. - 11, у 3 кл. - 10, у 4 кл. - 5 (разам 58) (72), а таксама 4 хатнія дырэктары з чацвёртага класа. Сваімі поспехамі ў навуках вылучаліся: у 1 кл. - Казімір Пюра, Юзаф Лісоўскі, Ян Масальскі; у 2 кл. - Міхал Ласкіна, Міхал Быкоўскі, Тамаш Сабалеўскі і Вінцэнт Сабалеўскі; у 3 кл. - Станіслаў Пюра, Ян Хейдовіч, Ігнаці Кудзіновіч, Ян Зоммер; у 4 кл. вызначаліся ўсе - Антон Быкоўскі, Ігнаці Малюкевіч, Ян Гарадзецкі, Ян Каштульскі і Мацей Уданоўскі (напісана невыразна!). За ўтрыманне ў канвікце і паўторныя заняткі было заплочана 200 руб. асігнацыямі.

У траўні наступнага года школу візітаваў Яцак (Гіяцынт) Крусінскі, доктар філасофіі, вядомы дырэктар вучэльняў Гродзенскай губерні. Ён быў не надта задаволены гэтай установай... Школьны штат заставаўся амаль без зменаў, толькі кс.Антон Паўловіч навучаў у 1 кл., дзе было 20 вучняў, у 2 кл. - столькі ж, у 3 кл. - 5, у 4 кл. - 6 (разам 51) (73), а хатніх наглядчыкаў - 4. “Немагчыма кіраўніку, - піша візітатар, - утрымліваць у школе парадак і дысцыпліну, бо вучні маюць розныя схільнасці, прыходзяць у школу калі пажадаюць і часцяком пакідаюць яе, не атрымаўшы пасведчанняў” (74). Падчас візітатарскага экзамену вызначыліся поспехамі наступныя вучні: у 1 кл. - Аляксандр Сіпайла, Каэтан Шухер, Юзаф Пюра і Ян Палонскі; у 2 кл. - Юзаф Сіпайла і Міхал Быкоўскі (візітатар выказаў сваё шкадаванне, што ў гэтым класе толькі малая частка вучняў імкнулася прыстойна карыстацца навукамі). У 3 кл., як меркаваў візітатар, у перакладах з лаціны на польскую мову дасягнулі невялікіх поспехаў, у іншых галінах ведаў таксама не надта вызначыліся і вылучаліся толькі двое вучняў. “Рэштка вучняў гэтых класаў (але якіх?) была толькі слухачамі”. Намаганні настаўнікаў візітатар ухваляе, а далей піша наступнае: “Рэдка якая школа, апроч універсітэта, мае столькі дапаможнікаў да справы навучання: падабраная бібліятэка, багатыя кабінеты, цудоўны батанічны агарод. І ўсё гэта зроблена коштам і стараннасцю цяперашняга рэктара.” Канвіктараў было 11. Колькасці моладзі, што навучалася ў школе, ён не занатоўвае, але з іншых крыніц мы даведваемся аб гэтым: у 1 кл. - 21 вучань, у 2 кл. - 11, у 3 кл. - 4, у 4 кл. - 7 (разам 43), усе лацінскага абраду.

На пачатку чэрвеня 1810 г. віцебскую школу, на чале якой па-ранейшаму стаяў кс.Турскі, выкладчык фізікі, наведаў Марцін Залескі. Кс.Міхал Палонскі, прэфект, выкладаў тыя ж самыя, што і раней, прадметы. Кс.Караль Маліноўскі - геаметрыю, логіку і маральную навуку; кс.Юзаф Кеневіч - алгебру, арыфметыку і геаграфію; кс.Антон Паўловіч - лаціну і натуральную гісторыю; Сымон Савіцкі - архітэктуру, пад чым, напэўна, трэба разумець архітэктурныя малюнкі. Звыш таго, выкладаліся расійская, французская і нямецкая мовы. У 1 кл. было 23 вучні, у 2 кл. - 10, у 3 кл. - 7, у 4 кл. - 3 (разам 43) (75). Падчас візітатарскага экзамену сваімі поспехамі вызначыліся: у 1 кл. - Рафаіл Шыбека, Ігнаці Дэмбінскі, Адам Калусоўскі; у 2 кл. - Аляксандр Сіпайла, Нікадзім Дэмбоўскі і Ян Палонскі; у 3 кл. - Юзаф Сіпайла, Міхал Быкоўскі, Ян Эрдман і Вінцэнт Пётух; у 4 кл. - Антон Быкоўскі і Ян Зоммер. У канвікце пад наглядам кс.Паўловіча і кс.Кеневіча ўтрымлівалася 16 вучняў. Кіраўнік школы і выкладчыкі выказалі візітатару пажаданне аб тым, каб дзеля большай карысці краю па прычыне малой колькасці вучняў у школе і вялікай лічбы школ у Віцебску зноў перавесці іх у Дуброўну, адкуль яны прыбылі ў 1799 г. Аднак гэтае іх пажаданне не здзейснілася.

У канцы чэрвеня 1811 г. з візітацыяй прыехаў зноў той жа Марцін Залескі. Кс.Караль Маліноўскі быў тады прэфектам і вучыў красамоўству, гісторыі і праву; кс.Юзаф Кеневіч - матэматыцы; кс.Антон Паўловіч - фізіцы і прыродазнаўчым навукам. Апроч таго, былі тры свецкія настаўнікі сучасных моў. У 1 кл. было 24 вучні (адзін дызуніт), у 2 кл. - 14, у 3 кл. - 5, у 4 кл. - 5 (разам 48). З іх 24 вучні жылі ў канвікце. Поспехамі ў навуках вызначаліся: у 1 кл. - Якуб ды Юзаф Лісоўскія і Караль Кандратовіч; у 2 кл. - Францішак Лісоўскі, Рафаіл Шыбека і Адам Калусоўскі; у 3 кл. - Аляксандр Сіпайла, Міхал Быкоўскі і Мацей Багдановіч; у 4 кл. - Антон Быкоўскі, Ян Зоммер (76), Вінцэнт Пётух і Юзаф Сіпайла. Візітатар увогуле быў задаволены настаўнікамі і вучнямі. Са справаздач з экзаменаў і праграм навучання (польскую гісторыю ў школе не выкладалі) можна зрабіць выснову, што матэматыка, фізіка і натуральная гісторыя займалі тут першае месца. Гэтыя прадметы больш за ўсе іншыя выкладаліся і найбольшая колькасць вучняў іх ведала. На лаціну і красамоўства звярталася менш увагі, і, як нам здаецца, вучні ў меншай колькасці і радзей наведвалі гэтыя заняткі.

У другой палове чэрвеня наступнага года школу наведаў той жа самы М. Залескі. Кс.Ян Шастакоўскі, прэфект, выкладаў красамоўства і лаціну; кс.Антон Казлакоўскі - права, гісторыю і геаграфію; астатнія двое - як і вышэй. На працягу ўжо некалькіх гадоў разам з матэматыкай выкладалі логіку. Піяры доўгі час у сваіх школах выкарыстоўвалі па гэтым прадмеце падручнік, выдадзены іх слынным братам кс.Казімірам Нарбутам (77). Падручнік быў напісаны ім самастойна, аднак пры яго ўкладанні кс.Нарбут пайшоў услед за Хрысціянам Вольфам. Падручнік неаднаразова перавыдаваўся ў Вільні - у 1766, 1769, 1782 і 1791 гг. Другое выданне in 8° на 150 старонках было прысвечана Ксаверыю Бжастоўскаму, вялікаму літоўскаму пісару і віленскаму каноніку. Аднак у больш познія часы пачалі выкарыстоўваць падручнік логікі Кандзійяка (78), перакладзены Зноскам (79), што адбылося, напэўна, пад націскам і па рэкамендацыі

Віленскага універсітэта. Падручнік, выдадзены Зноскам, быў непараўнальна слабейшы за працу кс.Каз.Нарбута, аднак пачынаючы з 1808 г. ва ўсіх школах сустракаем ужо толькі яго (80).

Вучняў было: у 1 кл. - 26 (дызунітаў 2), у 2 кл. - 18 (адзін уніят), у 3 кл. - 13, у 4 кл. 4 (разам 61). У іншым месцы адзначана толькі 58 вучняў. Экзамен прайшоў добра, візітатар дзякаваў кіраўніку школы і выкладчыкам, хваліў вучняў.

Гэта былі часы вялікай вайны з Напалеонам, аднак школа і пасля гэтай візітацыі (18 чэрвеня 1812 г.), як нам здаецца, зусім не была зачынена. Хоць на працягу 1812-1813 навучальнага года і не пададзена лічба навучэнцаў, але ў кнізе экзаменаў, якія праходзілі прыватным чынам, адзначана, што ў снежні 1813 г. адбыўся такі паўгадавы экзамен - значыць, вучні ў школе ўсё ж былі.

На пачатку чэрвеня 1814 г. візітаваць піярскую школу ў Віцебску прыехаў Марцін Залескі (81). У 1 кл. аказалася 12 вучняў, у 2 кл. - 14, у 3 кл. - 8, у 4 кл. - 10 (разам 44) (82). Большасць з вучняў жыла ў канвікце, таму "як у навуках, так і ў выхаванні можна ўбачыць значныя поспехі", як адзначаў візітатар.

У гэтым годзе ў пераліку школьных прадметаў упершыню згадваецца выкладанне расійскай гісторыі ў 4 класе. Найбольшыя поспехі ў навуцы мелі наступныя вучні: у 1 кл. - Эўзебіюш Снарскі, Фелікс Запольскі, Цэзар Сіпайла; у 2 кл. - Юзаф Грудзінскі, Андрэй Прыбылоўскі, Людвіг Багдановіч; у 3 кл. - Караль Кандратовіч і Канстанцін Бяляўскі; у 4 кл. - Тамаш Багдановіч, Ігнаці Гурка, Тад.Гарноўскі.

На працягу 1815, 1816 і 1817 гг. (да кастрычніка месяца) піярскай школы ў Віцебску не было. Прычыны гэтага не зусім зразумелыя. У школьных дакументах мы знайшлі толькі нататку аб тым, што ад правінцыяла не былі прысланы настаўнікі... Умяшанне ў гэтую справу рэктара кс.Турскага, яго настойлівыя клопаты дазволілі адчыніць школу на пачатку кастрычніка.

У канцы траўня 1818 г. школу візітаваў Кірыл Канароўскі-Саховіч (83), дырэктар вучэльняў Віцебскай губерні. На той час рэктар кс.Турскі зноў выкладаў фізіку; прэфект кс.Мацей Малькевіч - красамоўства, права і гісторыю; клерык Каспар Маліноўскі быў настаўнікам польска-лацінскай граматыкі; клерык Павел Ванжоўскі - арыфметыкі, геаграфіі і расійскай мовы. Апроч таго, як і раней, выкладаліся сучасныя мовы. Вучняў было 32, сярод іх 7 канвіктараў. З іншай крыніцы даведваемся, што ў 1 кл. вучылася 19 чалавек (з іх 2 дызуніты Цяцерскія), у 2 кл. - 8, у 3 кл. - 6, у 4 кл. - столькі ж (адзін дызуніт Зялёнка), разам 39. Публічны экзамен, так званы акт, адбыўся 28 чэрвеня, аднак не так урачыста, як у папярэднія гады. Ва ўсялякім выпадку, знакамітыя госці на ім не прысутнічалі.

6 чэрвеня 1819 г. на візітацыю прыязджаў Ян Будзіловіч, дырэктар навучальных устаноў Віленскай губерні. Адбылося гэта ўжо пасля смерці кс.Турскага, і на чале школы стаў кс.Мацей Малькевіч, які не быў рэктарам і выкладаў маральную навуку ды польска-лацінскую граматыку. Прэфект кс. Аляксей Станкевіч навучаў матэматыцы і натуральнай гісторыі; Павел Ванжоўскі - красамоўству, а кс.Тадэвуш Касілоўскі - арыфметыцы і геаграфіі. Вучняў было: у 1 кл. - 22, у 2 кл. - 4, у 3 кл. - 6, у 4 кл. - 3 (разам 35). Паводле іншых звестак: у 1 кл. - 27 (два дызуніты), у 2 кл. - 9 (2 дызуніты Агонавы Даганоўскія), у 3 кл. - 3, у 4 кл. - 10 (разам 49).

Візітатар згадвае аб добрых намерах настаўнікаў і значных поспехах навучэнцаў. Асабліва вылучаліся: у 1 кл. - Вацлаў Песляк, Юзаф Папкевіч; у 2 кл. - Аляксандр Дабравольскі; у 3 кл. - Тамаш Янішэўскі, Ян Пюра; у 4 кл. - Анастазы Пазняк. Публічны экзамен быў адсвяткаваны 26 чэрвеня ў прысутнасці губернатара Бутовіча, віцэ-губернатара Магучага, нейкага чыноўніка Барэйкі, езуітаў, дамініканцаў і іншых. На ім "з гонарам сябе прадставілі" з 1 кл. Мыслоўскія Напалеон і Канстанцін, Вацлаў Піцыляк і Юзаф Папкевіч; з 2 кл. - Ануфры Козел і Аляксандр Дабравольскі; з 3 кл. першага года навучання - Тамаш Янішэўскі і Юзаф Станішэўскі, з другога года - Мікалай Сцібло і Ян Пюра; з 4 кл. - Юзаф Піульскі, Анастазы Пазняк, Вінцэнт Пятрыша.

У наступным годзе на візітацыю прыехаў зноў Кірыл Канароўскі-Саховіч, і акт візітацыі ён уласнаручна напісаў па-расійску, што адбылося ў першы і апошні раз. Адзначалася, што вучняў было 33, з іх 11 перайшлі ад езуітаў пасля ліквідацыі іх школы. У іншым месцы занатавана лічба ў 46 вучняў. Поспехамі вызначаліся: у 1 кл. - Караль Свянціцкі, Юзаф Свянціцкі, Ян Станкевіч, Дамінік Рыхлевіч (нечытальна); у 2 кл. - Міхал Азаркевіч, Вацлаў Песляк, Юзаф Папкевіч, Ян Сляпец; у 3 кл. - Station Станіслаў Жаба і Ян Дабравольскі; у 4 кл. - Ян Пюра. Візітатар школу хваліць.

Апошнім візітатарам быў вядомы прафесар Віленскага універсітэта Ігнаці Рэшка, які ад'ехаў у чэрвені 1821 г. Рэктарам тады быў кс.Тамаш Карэва (таксама кажуць Карэво), пінскі шляхціц, які нарадзіўся ў 1776 г. Вучыўся ён спачатку ў Пінску, у піярскі ордэн уступіў у 1799 г. у Любешаве. Пасля заканчэння

навучання, як заўсёды, выкладаў у школах свайго ордэна: 2 гады ў Любешаве, 8 - у Шчучыне, 3 - у Міжрэччы, 4 - у Дамбровіцы, дзе ён быў прэфектам і ў 1817 г. - вікарыем, адкуль у 1819 г. яго прызначылі рэктарам у Віцебск. Прэфектам быў кс.Аляксей Станкевіч (нарадзіўся ў 1791 г., прыняў духоўны сан у 1816 г.), ён даваў урокі фізікі, матэматыкі, натуральнай гісторыі і малявання. Кс.Мадэст Станкевіч (нарадзіўся ў 1794 г., духоўны сан прыняў у 1818 г.) вучыў красамоўству, праву, гісторыі, расійскай і французскай мовам. Кс.Тадэвуш Касілоўскі - катэхізму, маральнай навуцы, арыфметыцы і геаграфіі; пан Юзаф Піульскі - польска-лацінскай граматыцы, а пан Ян Зоммер, як і раней, - нямецкай мове. Вучняў у падрыхтоўчым класе было 8, у 1 кл. - 6, у 2 кл. - 13, у 3 кл. першага года - 15, другога - 5, у 4 кл. - 2 (разам 49). Паводле іншых падлікаў, усяго было 55 вучняў, з іх 10 уніятаў.

Поспехамі вызначаліся: у падрыхтоўчым класе - Ян Галуза і Вінцэнт Азаркевіч; у 1 кл. - Казімір Крайскі і Юзаф Рамашка; у 2 кл. - Караль і Юзаф Свянціцкія; у 3 кл. - Юзаф Папкевіч, Мікалай Пракаповіч, Юзаф Фалютынскі і Ян Есьман; у 4 кл. - Станіслаў Жаба і Ян Сіпайла. Вучні, як адзначае візітатар, маглі карыстацца добрымі лекцыямі настаўнікаў і вылучаліся ўласнай стараннасцю. На публічным экзамене 26 чэрвеня прысутнічалі віцэ-губернатар Магучы, чыноўнік 1-га дэпартамента Раман Гарбачэўскі, старшыня 2-га дэпартамента Плятар і шмат абывацеляў. Вучань 4 класа Станіслаў Жаба сказаў прывітальную прамову, а на прыканцы экзамену вучань 3 класа Юзаф Папкевіч на расійскай мове выказаў падзяку прысутнай публіцы за ўдзел ва ўрачыстасці, а выкладчыкам - за працу па навучанні.

Ухвалы з гэтай нагоды атрымалі: у падрыхтоўчым класе - Аляксандр Харошча, Казімір Жудра і Яўхім Зайянчкоўскі; у 1 кл. - Казімір Крайскі, Юзаф Рамашка, Ян Шалкевіч; у 2 кл. - Караль і Юзаф Свянціцкія, Павел Лукоўскі, Юстын Багдановіч; у 3 кл. - Юзаф Папкевіч, Ян Есьман, Юзаф Фалютынскі, Ануфры Жудра; у 4 кл. - Нарцыз Лешка (прозвішча пішуць па-рознаму!), Станіслаў Жаба і Марцін Уляноўскі. Тут згадваецца нават і пяты клас, у якім поспехамі вылучаліся Ян Сіпайла і Казімір Фалютынскі. У канцы снежня таго года адбыўся яшчэ адзін прыватны паўгадавы экзамен, з нагоды чаго таксама згадваецца пяты клас. Можа быць, ён з'явіўся таму, што пасля скасавання трэцяга класа з двухгадовым тэрмінам навучання павялічылася агульная колькасць асобных класаў.

Колькі вучняў было ў 1821-1822 навучальным годзе, дакладна не вядома, бо кніга для запісу вучняў за гэты час пашкоджана. У ёй выдраны апошні аркуш, аднак агульную колькасць вучняў усё ж знаходзім - 42. Сярод іх было 8 уніятаў і адзін дызуніт - Аляксандр Чэпялеўскі.

Пасля вакацый 1822 года віцебская піярская школа была пераведзена ў Полацк, дзе ў распараджэнне піяраў быў перададзены былы езуіцкі калегіум, і такім чынам паўстала там так званая вышэйшая гімназія. Аднак існаванне яе было вельмі нядоўгім, бо працягвалася ўсяго толькі некалькі гадоў. Тым не менш, піяры і там вызначыліся вялікай стараннасцю і запалам у выкананні сваіх абавязкаў.

Пасля ад'езду піяраў з Віцебска іх сядзібы тут ужо не было: кляштар з цягам часу быў зусім знішчаны, а ў касцёле пазней уладкавана лютэранская кірха (84)... Nihil semper manet suo statu (85).

* * *

Аб тым, як выглядаў піярскі касцёл з пабудовамі ў Віцебску, якія ён меў даходы і выдаткі за пару гадоў да скасавання, можам распавесці цярпліваму чытачу, упэўніваючы яго самым урачыстым чынам, што ўжо не будзем злоўжываць яго вялікадушным цярпеннем!

На Полацкай вуліцы (86) касцёл з размешчанымі вакол яго пабудовамі займаў пяць моргаў зямлі "квадратнай фігуры". Уся гэтая тэрыторыя была часткова апаясана мурам, а часткова абнесена "хілямі". Перад галоўным фасадам касцёла знаходзілася мураваная брама, а з боку вуліцы - яшчэ адна драўляная. На пляцы размяшчаліся касцёл, кляштар, канвікт, афіцына для чэлядзі, стайня, вазоўня, клець, бровар, хлявы і інш. Касцёл быў невялікі, мураваны, з дзвюма вежамі, з жалезным крыжом на купале, крыты гонтай. Ля ўвахода ў касцёл знаходзіўся мураваны ганак на некалькі прыступак. На адной з вежаў віселі званы і размяшчаўся ўваход на хоры, дзе стаяў арган на 9 галасоў. У адной з нішаў знаходзіўся скарбец для захоўвання касцёльных рэчаў. Падлога ў касцёле была зроблена з цэглы, у сакрысціі - з дошак. Вакон у касцёле было 6, у купале - 4. Алтароў было 3: вялікі ў гонар Маці Божай Шкаплернай, перад ім - крышталёвая жырандоль, а пасярод касцёла - латунная, і два алтары па баках - у гонар Пана Езуса і Св.Юзафа. Амбон невялікі драўляны, пафарбаваны, прэсбітэрый аддзелены краткамі. Лавак з аднаго боку дзве і столькі ж з другога, дзве лаўкі пад харамі і дзве ў бабінцы. Касцёльнае срэбра важыла 26 фунтаў, начыння было няшмат. Абавязковых набажэнстваў было 270.

Канвікт з ганкам, зроблены з яловага дрэва, на падмурку, абабіты дошкамі і крыты гонтай знаходзіўся насупраць калегіума. 4 пакоі звычайна займаў рэктар, столькі ж прызначалася для канвіктараў і прэфекта, у рэшце размяшчаліся класы. Каля канвікту быў разбіты невялікі батанічны агарод. У вялікай музейнай зале размяшчаліся таксама хімічная лабараторыя і розныя кабінеты. Бібліятэка знаходзілася ў асобным пакоі над рызніцай, на той час у ёй налічвалася каля 1900 кніг.

Недалёка ад калегіума знаходзілася драўляная афіцына для чэлядзі. У ёй з аднаго боку жылі арганіст і аканом, а з другога - манах, які збіраў ахвяраванні, і парабкі. За гэтым будынкам размяшчаліся хлявы, далей - бровар, лазня, так званая пякарня, затым стайня з вазоўняй, клець з круглага дрэва на падмурку і да т.п., далей - агарод, які цягнуўся ад калегіума аж да бровара. Касцёльныя слугі - арганіст і служка ў рызніцы; кляштарныя слугі - аканом і 4 хлопцы; прыгонныя слугі - стражнік, кухцік, 3 вартаўнікі, 2 слугі для пакояў і 3 хлопцы.

У інвентары згадваюцца брычка на рэсорах, яшчэ адна звычайная на жалезных восях, "дрожкі" на рэсорах, калёсы на двух колах, 2 парадныя хамуты, 11 звычайных, 2 раменных лейцаў, адны сані з будкай, адны новыя парадныя сані, 4 "звычайных" санак etc.

Адразу за кляштарам на вуліцы, што вяла да Дзвіны, піяры таксама валодалі пляцам з агародам (значная частка гэтага пляца была ахвяравана генералам Гуркам). Яны пабудавалі там дом на 8 пакояў, аднак часцей за ўсё ён выкарыстоўваўся на казённыя патрэбы, таму ніякага даходу не прыносіў. Апроч таго, піяры мелі яшчэ 6 пляцаў, забудаваных living рознымі жыхарамі Віцебска, якія плацілі кляштару чынш, што перавышаў 53 руб. 50 кап. (напэўна, асігнацыямі) кожны год. Асноўныя ж даходы паступалі з зямельнай маёмасці за продаж прадуктаў, што перавышала 3180 руб. Агульная сума ўсіх прыбыткаў (арэнды з корчмаў, працэнтаў, з рызніцы, агародаў, пляцаў etc.) складала 6113 руб. асігн. З гэтай сумы на харчаванне пайшло амаль 1730 руб., на "эканоміку" (?) - 2284 руб., аплату чэлядзі і рамеснікам - 1110 руб., на бібліятэку - 80, на касцёл і рызніцы - 270, на падаткі - 277, на аддзенне манахам - 240, на міласціну - 90 і г.д., а ўсё разам - 6107 руб. асігн. Так было ў 1816 г. У наступным годзе прыбытку было атрымана 7461 руб. асігн. і ўсё разышлося на патрэбы кляштара і маёнтка. Маёнтак гэты, Азоркава, складаўся, напэўна, з некалькіх вёсак і быў аддалены ад Віцебска на 8 1/2 міль. Былі там два вялікія будынкі для жылля. Адзін прызначаўся для кіраўніка кляштара, калі ён туды прыязджаў, а другі для аканома. Побач з імі знаходзіліся розныя гаспадарчыя пабудовы. У маёнтку было 75 кароў, 4 бугаі, 17 валоў і "волікаў", 6 цялят, 9 коз, 5 свіней, 30 авечак, розных птушак 200 штук.

Наймітам у фальварку плацілі: пісару - 50 руб., аканомцы (што займалася хатняй гаспадаркай?) - столькі ж. Рэшта прыслугі набіралася з прыгонных, якім давалі харчаванне і аддзенне. У маёнтку высявалася: 55 "чвэрцяў" жыта, 2 пшаніцы, 14 ячменю, 63 аўса, 12 грэчкі, 4 гароху, 5 ільну, 32 гарнцы канапель. Збіралася: 930 коп жыта, 46 пшаніцы, 273 ячменю, 375 аўса, 3 капы канапель, 88 ільну, 60 вазоў (?) грэчкі, 100 вазоў гароху, 250 вазоў сена. Лесу ў гэтым маёнтку не было, толькі некалькі моргаў хмызняку. Былі тут два возеры, адно з якіх піярам належала цалкам, другое - напалову, тры карчмы, якія прыносілі 750 руб., 6 агародаў і адзін сад. У інвентары згадваецца таксама, што ў сувязі з неўраджаем, які працягваўся тры гады, і іншымі няшчасцямі падданыя моцна збяднелі. У сувязі з гэтым грашовага чыншу ад іх не патрабавалі, а з маёнтка нават далі жыта і аўса на пасеў, некаторым купілі коней і вызначылі пэўную колькасць збожжа на харчаванне.

**Kwartalnik Litewski. T.1. Petersburg, 1910. S.89-110.**

***Пераклад з польскай мовы Л.Хмяльніцкай.***

***Літаратура і крыніцы:***

1. "Яны разбурыліся, гэтыя цудоўныя і дарагія сэрцу храмы, куды многія пакаленні нашых бацькоў прыходзілі за суцяшэннем, мужнасцю, сілай, каб змагацца з жыццёвымі няшчасцямі; гэтыя кляштары - якія былі такім надзейным і такім вартым прытулкам усім мастацтвам і навукам, дзе давалася палёгка людскім пакутам... - цяпер толькі руіны..." Манталамбер, Манахі Захаду, уводзіны, с. CXL (Парыж 1860) - *франц.*
2. Гэты аповед пра піяраў мы засноўваем пераважна на рукапісных матэрыялах, што знаходзяцца ў музеі Чартарыскіх у Кракаве, а таксама ў нашых зборах.
3. Кананічныя візітацыі сядзібы піяраў за 1797, 1818, 1819 і інш. гады. Сучасныя іх копіі ў руках пішучага.
4. Лягата - ахвяраванне, зробленае паводле тэстамента - *заўвага перакладчыка.*
5. Здаецца, што гэта быў Леанард Пацей, вялікі літоўскі абозны, які памёр у 1774 г., або яго родны брат Людвіг (з ім мы яшчэ сустрэнемся). А можа, іх бацька?
6. Вядомы ўжо ў сярэдзіне XVIII ст. і пазней віцебскі род. Імя харужага мы не ведаем.
7. Историко-юридические материалы, извлеченные из актовых книг губерний Витебской и Могилевской. Витебск, 1889. Вып.XIX. С.91.
8. Историко-юридические материалы, l.c., с.119.
9. Methodus docendi pro Scholis Piis prowinciae Lithvanae, Typis S.P. Vilnae 1762, in 8° min., 86. Экземпляр кнігі з музея Чартарыскіх паходзіць менавіта з бібліятэкі віцебскіх піяраў.

10. Mutatis mutantis - змяніўшы тое, што трэба (лац.) - *перакл.*
11. Вядомы ў свой час педагог, філосаф і філолаг Ян Людвіг Вівес (1492 - 1540), іспанец, працы якога цаніліся вельмі доўгі час.
12. Магістрам у піяраў называлі выкладчыка рыторыкі. Выкладчык рыторыкі і філасофіі называўся прафесарам.
13. "Historiam Polonam patrio idiomate breviter ac succinte dictabit quae tam pro libris diligentiarum, quam pro exerciis domesticis in serviet" (польскіх падручнікаў тады не было).
14. "Studium arithmeticae summopere in unaquaque schola commendatur".
15. Празодыя - раздзел моваэнаўства, які займаецца вывучэннем націску, працягласці інтанацый, а таксама іх выкарыстаннем у паэзіі - *перакл.*
16. Тамізм - філасофскі і тэалагічны накірунак, у аснову якога пакладзена сістэма Фамы (Тамаша) Аквінскага (1225-1274), што была афіцыйнай філасофіяй каталіцкага касцёла - *перакл.*
17. Пралегамена - уступная частка, якая папярэднічае асноўнаму тэксту - *перакл.*
18. Lectio spiritualis - духоўнае чытанне (лац.) - *перакл.*
19. Рэкалекцыі - рэлігійныя практыкаванні, якія складаюцца з павучэнняў, набажэнстваў і г. д. - *перакл.*
20. Садаліс - сябра рэлігійнага каталіцкага брацтва, створанага ў гонар Дзевы Марыі - *перакл.*
21. Colegium Nobilium Stanisława Konarskiego przez Floryana Łagowskiego. Warszawa, 1883; Lewicki Józef. Bibliografia druków, odnoszących się do Kom. Eduk. Lwów, 1908 і інш.
22. Wspomnienia czasów, które przeżyłem. Kraków, 1883. P.65.
23. Historya Szkół, l.c.
24. У музеі Чартарыскіх у Кракаве знаходзіцца кніга даходаў і расходаў віцебскіх піяраў, адкуль пра гэта бяром звесткі.
25. Vita et scripta Scholarum Piarum. Varsoviae, 1812. P.49.
26. Эпіталама - вясельны верш або песня, якія выконваліся на шлюбных урачыстасцях - *перакл.*
27. Rozprawy i sprawozdania wydziału histor. Ak. Krak. T.III. R. 1875 (IV).
28. З рукапісных візітацый піярскіх кляштараў ў Панявежы і Вілкаміры - манускрыпт у руках пішучага.
29. Triennium - трохгадовы тэрмін (лац.) - *перакл.*
30. Wizerunki i roztrzasania naukowe, poczet nowy drugi. Wilno, 1841. T.21. P.129.
31. Złota Księga Szlach. Polskiey przez Teodora Żychlińskiego. T.X. P.250.
32. Sapiehowie. III. P.381.
33. Канцлер у Варшаве ў 1793 г. Пахаваны ў сямейнай магіле ў Бярозе Картузскай. Ад шлюбу з Магдаленай Любамірскай, з якой пражыў 13 гадоў, пакінуў сына Францішка, бацьку Яўстаха, уладара Дзярэчына, Ружан, Быхава, Шкуд і інш., якія былі канфіскаваны пасля 1831 г. Cf. Sapiehowie, l.c.
34. Ks. Szantyr. Zbiór wiadomości o Kościele. Poznań, 1843. P.46.
35. Bene placitum Apostolicum - апостальская бласлаўленне(лац.) - *перакл.*
36. Cfr. Сапунов А.П. Историческая записка 75-летия витебской гимназии. Витебск, 1884. C.CXLVIII.
37. Зараз гэтая вёска знаходзіцца ў Гарадзецкім павеце Віцебскай губерні. Яна значна зменшылася.
38. Няпораты, у Віцебскім дэканаце, сучасны цэнтр парафіі, дзе на пачатку XX ст. было каля 400 вернікаў. Філіі ў Азаркаве зараз не засталося і следу.
39. Звесткі з акта візітацыі піярскага касцёла ў Віцебску - манускрыпт у руках пішучага.
40. Szantyr, l.c., p.47.
41. Heleniusz. Wspomnienie lat minionych. I, 533.
42. Дзіўна, што Шантыр, які так добра ведаў гісторыю тагачаснага касцёла, пра гэта нічога не згадвае і кажа толькі пра станоўчыя рысы Скірнеўскага!
43. Кс.Фіялкоўскі, будучы мітрапаліт, ведаючы яго добра і блізка, склаў жыццяпіс кс.Даўгірда ў Wizerunkach wilensk. 1835. T.II. P.101.
44. Гэта быў чацвёрты сын Станіслава, вядомага багача, кіеўскага ваяводы, кандыдата на польскі трон, які канчаткова здзяцінеў і быў узяты пад апеку Ганаратай Пацей. Фр. Кс. Любамірскі быў жанаты тройчы: з Адэл. Ант. Патоцкай, Тэафіліяй Ржэвускай і М.Нарышкінай.
45. Жыхлінскі кажа, што гэта была дачка ад першага шлюбу, а Касакоўскі сцвярджае, што ад другога.
46. Трапісты - сябры манаскага ордэна, заснаванага ў 1664 г. у мясцовасці la Trappe ў Нармандыі - *перакл.*
47. Szantyr, l.c., p.132; Notatki X. Ant. Moszyńskiego, ex-pijara - рукапіс у руках пішучага, а таксама Сапунов, l.c.
48. Зараз Дуброўна - цэнтр парафіі ў Аршанскім дэканаце Магілёўскай губерні ў Горыгорыцкім павеце. Касцёл V класа ў імя Св.Юрыя пабудаваны нанова ў 1809 г. коштам Любамірскага. Парафіян пры ім на пачатку XX ст. было 700 чал.
49. Візітацыя 1797 г. - у руках пішучага.
50. Кс.Астроўскі ў 1781 г. вывучаў у Вільні філасофію, у 1783 г. быў пасвечаны ў духоўны сан. Ён быў вялікім сябрам і калегам кс.Турскага, пра якога зараз будзем казаць. У 1802 г. кс.Астроўскі стаў правінцыялам.
51. Пачынаючы адсюль амаль усё напісана на падставе рукапісных матэрыялаў з музея Чартарыскіх у Кракаве.
52. Cf. Сапунов, l.c., c.CXLVI; Периодическое сочинение о успехах народного просвещения. Петербург, 1808. № XXI. C.419.
53. Прапінацыя - продаж алкагольных напояў - *перакл.*
54. Per commendam - з дапамогай рэкамендацыі (лац.) - *перакл.*
55. Косавы, уласнага гербу, што ўяўляе сабой літару "N", у якой сярэднюю

перакладзіну прабівае скіраваная ўгару страла, а на версе шчыта размешчаны пяць страусавых пер'яў. З гэтага роду паходзіў Адам, віцебскі пісар, які згадваецца ў спісе з жыцця св.Язафата. У яго было два сыны: Юры і Сільвестр, які пазней быў метр.хыз. (так у тэксце - *перакл.*). Ад Аляксандра, брата Адама, пайшла лінія, што пазней пашырылася ў Віцебскім ваяводстве і зараз з'яўляецца польскай. Той жа Антон, можа быць, - віцебскі мечнік у 1761 г., пра якога згадвае Банецкі.

56. Касцёл Св.Барбары і Св.Іосіфа Абручніка яшчэ існуе ў Віцебску. Нанова ён быў вымураваны ў 1883 г. стараннасцю кс.Мотуша, асвечаны біскупам Сымонам і кансекраваны ў 1895 г. На пачатку XX ст. меў амаль 4000 парафіян.
57. Сярод іх знаходзім Станіслава Крогера, сына таксама Станіслава, рымскага католіка. Можа ён нейкі крэўны таго, што ажаніўся з Любамірскай?
58. У іншым месцы, аб чым будзем казаць ніжэй, за гэты ж самы час падаецца іншая лічба вучняў. У гэтых лічбах і далей аднолькавасці не будзе!
59. Summa summarum - літаральна "сума сум", канчатковы вынік (лац.) - *перакл.*
60. De nova radice - з новага корня (лац.) - *перакл.*
61. Паводле Ateneum Kraszewskiego, t.II, 1845 і Сыракомлі, якому Турскі даводзіўся нейкім дзядзькам, а таксама з дадаткам з іншых матэрыялаў.
62. Магчыма, гэта быў Аляксандр Пацей, сын Леанарда, вялікі літоўскі абозны, які памёр у 1846 г. і валодаў Кетавіскім ключом у Трокскім ваяводстве. Ён мог мець з Турскім і далейшыя стасункі. А Марыконі мог быць Юзаф, пазней вялікі польскі генерал, сын Міхала-Тадэвуша, віцэ-маршалка літоўскага трыбунала, які сваім выракам асудзіў на смерць Ігн. Валадковіча, вядомага фаварыта Пане Каханку.
63. Материалы для истории просвещения в России. Петербург, 1893. Т.І. С.567.
64. Гэтыя 35 гадзін, напэўна, так трэба разумець, што тут размова ідзе пра правядзенне ўрокаў і падрыхтоўку да іх вучняў. Ва ўсялякім выпадку, вельмі многа часу кожны тыдзень адводзілася выключна на навуку!
65. Материалы для истории просвещения, l.c., т.2, с.573. Прозвішчы настаўнікаў паперакручаны.
66. Лічбы вучняў, якія, відаць, падаваліся ў розныя часы, не стыкуюцца паміж сабой. У іншым месцы ў гэтым жа годзе згадваецца толькі 45 навучэнцаў.
67. Записки путешествия по западным провинциям Российского государства. Академика В.Севергина. Петербург, 1804. Т. II. С.133. У іх аўтар распавядае аб тым, што ў Віцебску на той час было 15000 жыхароў, 7 каталіцкіх кляштараў абодвух абрадаў (езуіцкі, бернардзінскі, піярскі, дамініканскі, трынітарскі, базыльянскія мужчынскі і жаночы), апроч таго 14 уніяцкіх і дызуніцкіх цэркваў.
68. Кніга візітацый піярскай школы ў Віцебску з музея Чартарыскіх у Кракаве і іншыя дакументы адтуль жа, якія будуць згаданы ніжэй.
69. У іншым месцы знаходзім: у 1804-1805 гг. у 1 кл. было 34 вучні (адзін дызуніт), у 2 кл. - 14, у 3 кл. - 13, разам 61. Які з варыянтаў праўдзівы, не маем уяўлення!
70. Нам невядома, чаму расійскія крыніцы называюць яго Лонгінам.
71. З ім маем вялікі клопат: раз яго называюць Палонскім, а другі раз - Паланскім! Немажліва даведацца, якое яго сапраўднае прозвішча. І ўвогуле, прыватныя імёны часта вельмі перакручаныя.
72. Гэтая колькасць выключна стасуецца з лічбай вучняў, паданай у іншых крыніцах.
73. У іншым месцы знаходзім такія звесткі: у 1 кл. - 21 вучань, у 2 кл. - 11, у 3 кл. - 4, у 4 кл. - 7 (разам 43).
74. Магчыма таму, што колькасць вучняў падавалася ў розныя часы, лічбы гэтыя і адрозніваюцца паміж сабой.
75. У іншым месцы адзначаецца наступнае: у 1 кл. - 23 вучні (2 дызуніты), у 2 кл. - 10, у 3 кл. - 8, у 4 кл. - 4 (разам 45).
76. Абодва яны ўжо згадваліся ў звестках за папярэдні год. Гэта адбылося, напэўна, таму, што часам здаралася так, што ўжо пасля заканчэння школы вучні заставаліся яшчэ на год, каб удасканаліцца ў пэўных прадметах.
77. Казімір Нарбут нарадзіўся 3 студзеня 1738 г. ў Літве. Бацькам яго быў таксама Казімір, харужы, а потым лідскі маршалак, маці - Марыяна з Навіцкіх. У школу ён пайшоў у Шчучыне Літоўскім. У ордэн піяраў уступіў 25 ліпеня 1755 г. у Любешаве, дзе знаходзіўся 2 гады, а потым вучыўся ў Дамбровіцы і Вільні, дзе ў часы рэктарства Догеля спецыяльна прысвяціў сябе вывучэнню філасофіі і матэматыкі. А каб яшчэ больш удасканаліцца ў гэтых прадметах, паехаў у Рым. Правёў ён там некалькі гадоў і ў вечным горадзе ў 1761 г. прыняў духоўны сан. Яго ведаў асабіста і вылучаў Клеменс XII. Пасля вяртання на радзіму выкладаў у школах свайго ордэна, а таксама ў віленскім канвікце. Пасябраваў з сям'ёй Чартарыскіх, дзе вельмі цанілі яго веды і высакародныя якасці. У Кракаўскай Акадэміі атрымаў ступень доктара права. Пасля секулярызацыі стаў парадызскім абатам, атрымаў бенефіцыум у Радзіміне, працаваў у Адукацыйнай камісіі. Памёр 17 сакавіка 1807 г. Апроч падручніка логікі надрукаваў таксама розныя духоўныя творы і нават пісаў вершы. Шмат яго рукапісаў загінула.
78. Эцьен Бано дэ Маблі Кандзійяк (1715-1780), пераўтварыў эмпірызм у філасофіі ў чысты сенсуалізм. Гэтая тэорыя не прызнае ніякай духоўнай улады, паводле яе усё ёсць толькі камбінацыя і пераўтварэнне пачуццяў; псіхічныя з'явы - уражанні матэрыяльных пачуццяў. Яго падручнік "La Logique, où les premiers développement de l'art de penser" быў выдадзены ў Парыжы ў 1781 г.
79. Ян Зноска (1772-1833), прафесар Віленскага універсітэта. Яго "Logika czyli pierwsze zasady sztuki myślenia" была выдадзена ў Вільні ў 1802, 1808 і 1819 гг.
80. Піяры мелі яшчэ аднаго вучонага, які пісаў аб гэтым прадмеце - кс. Даўгірда, пра якога мы ўжо казалі вышэй. Яго творы: O logice, metafizyce i filozofii moralney. Wilno, 1821; Wykład przyrodzonych myślenia prawideł, czyli logika teoretyczna i praktyczna. Połock, 1828.
81. Марцін Залескі гербу Любіч, сын Міхала, літв. ваяводы, пасла на чатырохгадовы сойм, вядомага аўтара мемуараў, які памёр у 1816., і Бенедыкты з Матушэвічаў гербу Лебедзь, брэсцкай кашталянкі. Быў уладаром Папарці ў Літве, рэферэндарыем

каралеўскай кангрэгацыі, вялікім польскім генеральным інтэндантам. Быў жанаты з Соф'яй з Забелаў гербу Тапор.

82. У іншым месцы знаходзім такія звесткі: у 1 кл. - 11 вучняў (1 дызуніт), у 2 кл. - 13, у 3 кл. - 6 (1 уніят), у 4 кл. - 8 (разам 38).
83. Родам ён быў з-за Дняпра. Ужо ў канцы XVIII ст. выкладаў ва ўрадавых школах гісторыю, у 1802-1821 гг. быў там дырэктарам.
84. Сапунов А.П. Витебская старина. Т.1. Витебск, 1883. С.663. З даўніх часоў кальвіністы мелі сваю сядзібу ў Віцебску, а менавіта: Жыгімонт Аўгуст дазволіў ім у 1562 г. заснаваць тут збор. У 1571 г. Павел Юрэвіч, князь Саколінскі (з лугінавецкай лініі, а Друцкія-Саколінскія разам з іншымі з'яўляюцца патомкамі полацка-віцебскіх княжатаў) ахвяраваў збору свой двор і пляц. Яго сын Юр Паўлавіч, віцебскі падкаморы, усвяцкі і азярышчанскі стараста, жанаты з Аляксандрай з Валовічаў, пацвердзіў гэтае бацькоўскае ахвяраванне, прызначыўшы дадаткова ад сябе пляц для будаўніцтва школы. Таксама Ян Храпавіцкі, віцебскі харужы, пакінуў запісы гэтаму збору. Аднак падчас вайны 1654 г. усё было знішчана, і апошні пратэстанцкі прапаведнік Ранішэўскі з сям'ёй быў вывезены ў Маскву як палонны. У апошняй чвэрці XVII ст. збору там ужо, здаецца, не было. Cfr. Zbory i Senatorowie protestanccy. Opracował H.M. Warszawa, 1905. P.102.
85. Nihil semper manet suo statu - нічога не застаецца пастаяннага ў сваім стане (лац.) - *перакл.*
86. Кананічная візітацыя 1818 г. - манускрыпт у руках пішучага.

*Вольга КУКУНЯ*

# З ГІСТОРЫІ ТРЫНІТАРСКАГА КЛЯШТАРА Ў ВІЦЕБСКУ

Комплекс былога трынітарскага кляштара размешчаны на рагу вуліц Леніна і Шубіна, у гістарычнай Заручайскай слабадзе. Зараз былы трынітарскі касцёл, гэтаксама, як і вежа гарадской ратушы, з'яўляецца важнай дамінантай гістарычнай забудовы цэнтральнай часткі горада.

Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя гістарычнага цэнтра Віцебска да сярэдзіны XVIII ст. у асноўным ужо склалася. Аднак рост горада працягваўся, планіровачная сетка дапаўнялася новымі вышыннымі арыенцірамі.

Сярэднявечная планіроўка горада была падпарадкавана прыроднаму ландшафту. Вуліцы і дарогі прыстасаваліся да рэльефа, да абрысаў Заходняй Дзвіны і яе прытокаў. Арыенцірамі ў складаным перапляценні вуліц былі вертыкалі храмаў. Пры пад'ездзе да горада з поўдня на левабярэжжы Заходняй Дзвіны першай дамінантай у сярэдзіне XVIII ст. стаў пабудаваны на самым высокім месцы гэтай часткі горада трынітарскі кляштар. Наступным арыенцірам у накірунку да цэнтра была Уваскрасенская Заручайская царква. Ад яе адкрываўся від на Благавешчанскую царкву і далей быў бачны езуіцкі калегіум на Саборнай плошчы. Такім чынам, з моманту з'яўлення трынітарскага кляштара яго аб'ём актыўна ўключыўся ў гарадскі сілуэт. Фундуш на будаўніцтва на вольных землях горада Віцебска трынітарскі кляштар атрымаў 16 студзеня 1758 года.

Трынітарыі (ад лацінскай назвы Святой Тройцы, у гонар якой быў заснаваны ордэн) — сябры каталіцкага манаскага аб'яднання, зацверджанага ў 1198 г. папам рымскім Інакенціем III. Ордэн трынітарыяў быў адным з цэлага шэрагу манаскіх аб'яднанняў, якія ўзніклі ў XI - XIII стст. (ордэны бенедыктынцаў, дамініканцаў, францысканцаў, цыстэрцыянцаў, кармелітаў, аўгустынцаў і інш.). Галоўнай мэтай ордэна трынітарыяў быў выкуп хрысціян з няволі, будаўніцтва дамоў міласэрнасці, аказанне медыцынскай і духоўнай дапамогі параненым.

Першая акцыя выкупу адбылася ў 1199 г. у Марока, калі былі вызвалены 186 палонных. Ордэн трынітарыяў распаўсюдзіўся ў шэрагу еўрапейскіх краін, асабліва ў Францыі, дзе яго сябры называліся матурынамі ад наймення царквы Святога Матура ў Парыжы. Матурыны валодалі вялікімі зямельнымі ўгоддзямі (ордэн быў ліквідаваны падчас Французскай буржуазнай рэвалюцыі канца XVIII ст.).

На тэрыторыі Рэчы Паспалітай першыя кляштары трынітарыяў з'явіліся ў канцы XVII ст. На тэрыторыі Беларусі трынітарскія кляштары існавалі ў Бабінавічах (1782-1832 гг.), Брэсце (1709-1832 гг.), Крывічах (1710-1832 гг.), Маладзечне (1758-1832 гг.), Оршы (1714-1832 гг.), Віцебску (1758-1832 гг.). Кляштары былі зачынены пасля паўстання 1831 года. Зараз апроч комплекса былога трынітарскага кляштара ў Віцебску захаваліся будынкі касцёла і кляштарнага корпуса ў Крывічах, узведзеныя ў 1776 г.

Ордэн трынітарыяў існуе зараз у Італіі, Іспаніі, Аўстрыі, у краінах Паўднёвай Амерыкі і некаторых іншых (1).

Будаўніцтва драўлянага касцёла і кляштарнага корпуса трынітарскага кляштара ў Віцебску распачалося ў 1758 г. і доўжылася два гады. У 1760 г. храм быў асвечаны (2). Грошы на ўзвядзенне будынкаў прадставіў харужы Віцебскага ваяводства Мікалай Рэут. Графічная выява драўлянага кляштара не захавалася.

Аб плане касцёла мы можам меркаваць на падставе выяў на гістарычных планах Віцебска канца XVIII - пачатку XIX стст. Касцёл быў пабудаваны з сасновага дрэва. Гэта быў крыжовы ў плане храм, у цэнтры над сяродкрыжжам узвышаўся купал, храм меў двухскатны гонтавы дах. Касцёл быў у даўжыню 10 сажняў, у шырыню — 8 сажняў (сажань у Вялікім Княстве Літоўскім быў роўны 194,8 см, у Расіі — 213,36 см). У асноўным аб'ёме храма было 7 вялікіх вакон, у купале — 4 невялікія акенцы. У храм вялі падвойныя драўляныя дзверы вышынёй 5 локцяў і шырынёй 3 локці (локаць у ВКЛ быў роўны 64,96 см).

---

Кукуня Вольга Рыгораўна, галоўны спецыяліст аддзела комплексных гістарычных даследаванняў Беларускага рэстаўрацыйна-праектнага інстытута. Займаецца гісторыяй архітэктуры Беларусі. З'яўляецца адным з аўтараў зборніка "Дакументы па архітэктуры і картаграфіі Беларусі ў архівах Санкт-Пецярбурга і Вільні" (Мн., 1994), аўтарам кнігі "Костел в Лучае" (Мн., 1993), а таксама шэрагу артыкулаў у навуковых і навукова-папулярных выданнях.

**Выкапіроўка з плана Віцебска 1805 г.**
**1 - трынітарскі кляштар**




Апісанне інтэр'ера першага драўлянага трынітарскага касцёла вельмі скупое. Вядома толькі, што ў храме было 9 алтароў. У 1820 г. касцёл ужо знаходзіўся ў аварыйным стане і пасля асвячэння касцёла мураванага быў разабраны (3).

Драўляны кляштарны корпус быў узведзены адначасова з будынкам касцёла. На планах Віцебска канца XVIII - пачатку XIX стст. бачна, што кляштарны корпус далучаўся да касцёла з боку апсіды. У плане ён быў Н-падобны. Найбольш верагодна, што келлі знаходзіліся ў двух паралельна размешчаных пабудовах, злучаных калідорам. Верагодна таксама, што з кляштарнага корпуса быў уваход у касцёл — прыём, які часта сустракаецца ў комплексах такога кшталту. У былым трынітарскім кляштары ў Крывічах, што захаваўся да нашага часу, прамавугольны кляштарны корпус прымыкае да апсіды касцёла і мае ўваход у яе.

Як ужо згадвалася, трынітарскі кляштар быў размешчаны на паўднёвай ускраіне Віцебска і яго тэрыторыя мела складаныя абрысы межаў. У канцы XVIII ст. была распачата перапланіроўка горада ў адпаведнасці з горадабудаўнічымі прынцыпамі класіцызму. Першы рэгулярны план Віцебска не ўлічваў складаны рэльеф мясцовасці. Ён быў адкарэкціраваны і на падставе новага плана ішло развіццё і перапланіроўка горада да 1837 г., калі праз Віцебск была пракладзена новая шаша.

Часта храмы былі зручна размешчаны ў адным з кутоў квартала, маючы да сябе падыходы з дзвюх вуліц. Тэрыторыя, якая адводзілася пад гаспадарчыя пабудовы, была дастаткова вялікай. Абавязковай была зялёная зона, занятая, як правіла, агародам і фруктовым садам. Паводле новага плана, Віцебскі трынітарскі кляштар займаў пляц, размешчаны на рагу Раждзесцвенскай і Трынітарскай вуліц. Улічваліся існуючыя культавыя пабудовы, па перыметры тэрыторыі размяшчаліся гаспадарчыя будынкі. Пры кляштары былі агарод і сад.

Горадабудаўнічыя пераўтварэнні папярэднічалі ўзвядзенню новых мураваных кляштарных будынкаў. Іх размяшчэнне ўлічвала накірункі вуліц.

Мураваны будынак кляштарнага корпуса быў узведзены ў 1806 г. Гэта было двухпавярховае, прамавугольнае ў плане збудаванне, накрытае гонтавым дахам. Яго сцены раздзяляліся прамавугольнымі вокнамі. Даўжыня кляштарнага корпуса складала 20 сажняў, шырыня — 14. Да

**Выкапіроўка з плана Віцебска 1837 г.**

**1 - праектуемая шаша**
**2 - трынітарскі кляштар**



выхаду вялі простыя драўляныя прыступкі. Заходні фасад, што выходзіў на Раждзесцвенскую вуліцу (сучасная вуліца Леніна), меў рустоўку на ўзроўні першага паверха.

Планіроўка будынка, а таксама функцыянальнае выкарыстанне асобных памяшканняў апісаны ў інвентарах 1818 і 1820 гг. Паводле іх, будынак меў змяшаную сістэму планіроўкі. На першым паверсе ля ўвахода знаходзіўся невялікі калідор, адкуль праз дзверы можна было трапіць у сталовую. У сталовай было 3 вакны і печка з зялёнай кафлі. Бакавая ад сталовай келля мела адны дзверы і адно вакно. Побач размяшчалася другая келля з альковам і каморкай, дзе было 4 вакны, 3 дзвярэй і адна печ на два памяшканні. Сцены ў памяшканнях былі атынкаваны і пабелены. На другі паверх вяла лесвіца. Тут над сталовай і кухняй знаходзілася зала з трыма вокнамі без печы, сцены ў якой не былі атынкаваны (функцыя памяшкання ў інвентарах не згадваецца). Побач з залай знаходзілася памяшканне для бібліятэкі. У ім было адно вакно і атынкаваныя сцены. Апроч таго, на другім паверсе размяшчаліся 4 келлі, у кожнай з якіх было па аднаму вакну, а ў кутняй келлі — два. Столь была драўляная і атынкаваная (апроч памяшкання залы) (4).

Падмурак мураванага будынка касцёла быў закладзены 5 ліпеня 1814 г., аднак два гады будаўніцтва не вялося і пачалося толькі ў 1816 г. Новы касцёл меў у даўжыню 11 сажняў, у шырыню — 8 сажняў, у вышыню да скляпенняў — 7 сажняў. Дзве вежы касцёла завяршаліся жалезнымі пазалочанымі крыжамі. Інвентары 1823 і 1824 гг. падаюць вышыню касцёла ў 10 сажняў, аднак пры гэтым не згадваюць, улічваецца або не вышыня крыжа. Уваход у касцёл ажыццяўляўся праз дзверы, абабітыя жалезам і пафарбаваныя ў зялёны колер (5). З прытвора ў асноўны будынак вялі другія дзверы, пафарбаваныя "пад чырвонае дрэва" (6), якія былі напалову зашклёныя.

Асноўны аб'ём касцёла меў тры нефы, скляпенні абапіраліся на чатыры слупы. Па баках апсіды знаходзіліся дзве сакрысціі, у якіх было па аднаму вакну з жалезнымі кратамі. У прэсбітэрыі было тры вакны, у асноўным аб'ёме — "унізе 4 вакны з жалезнымі кратамі, над карнізам паўкруглых вакон 8" (7). Хоры абапіраліся на два мураваныя слупы і асвятляліся праз паўцыркульнае вакно. На хорах знаходзіўся арган "на 9 галасоў з 3 ... мяхамі" (8). Падлога ў касцёле была драўляная. Драўляных алтароў, упрыгожаных разьбой, было 5. Разным быў і амбон. Будынак быў атынкаваны звонку і знутры, а таксама пабелены.

Будаўніцтва касцёла і афармленне інтэр'ераў былі скончаны ў 1821 г. Касцёл быў асвечаны 1 траўня 1821 г. (9). Яго будаўніцтва доўжылася шэсць гадоў. Такі працяглы тэрмін узвядзення храма тлумачыўся адсутнасцю ў манахаў трынітарскага кляштара сродкаў (ахвяраванні на будаўніцтва былі нязначныя).

У Расійскім дзяржаўным гістарычным архіве ў Санкт-Пецярбургу захоўваецца чарцёж касцёла, выкананы епархіяльным архітэктарам А.Портам (10). На чарцяжы апроч подпісу архітэктара змешчаны надпіс: "Планъ и фасадъ Тринитатскага Кастелла въ Городе Витебске". Чарцёж не датаваны, найбольш верагодна, што выкананы ён быў у другой палове 40-х гадоў XIX ст., калі касцёл быў перададзены ў праваслаўнае ведамства. Хутчэй за ўсё, чарцёж трынітарскага касцёла ў Віцебску быў выкананы падчас падрыхтоўчых прац пры перабудове будынка касцёла ў праваслаўную царкву.

На чарцяжы прадстаўлены галоўны фасад і план храма. Касцёл двухвежавы, чатырохслупны, прамавугольны ў плане, трохнефавы, прычым, цэнтральны неф удвая шырэйшы за бакавыя і завершаны паўцыркульнай апсідай. Хоры падтрымлівалі два квадратныя ў плане слупы. Галоўны ўваход вылучаны чатырохкалонным порцікам з трохкутным франтонам. Па баках галоўнага фасада размешчаны двух'ярусныя вежы, дэкараваныя нішамі. Магутны прафіляваны карніз праходзіць па перыметры ўсяго будынка. У інтэр'еры цэнтральны і бакавыя нефы перакрыты крыжовымі скляпеннямі. Па баках апсіды размешчаны дзве сакрысціі, адна з якіх (паўночная) мае асобны ўваход. Будынак вырашаны ў стылі класіцызму.

Пры візуальным параўнанні чарцяжа, выкананага А.Портам, і існуючага зараз будынка былога касцёла звяртаюць на сябе ўвагу дзве неадпаведнасці: 1) на плане порцік касцёла вынесены наперад і знаходзіцца на некаторай адлегласці ад асноўнага аб'ёма, у існуючым жа будынку порцік прымыкае да яго; 2) на чарцяжы ў першым ярусе вежаў нішы прамавугольныя, у той час, як ў існуючым будынку яны набліжаны да квадратаў. Дакументальнага тлумачэння гэтым неадпаведнасцям мы, на жаль, прадставіць не можам. Магчыма, што пры выкананні чарцяжа былі дапушчаны памылкі, якія не былі заўважаны, бо гэты чарцёж служыў толькі схемай для далейшых прац па перабудове. Лічыць згаданы чарцёж праектным у нас няма ніякіх падстаў, па-першае, таму, што аб гэтым не сведчыць надпіс на чарцяжы, а па-другое, таму, што ў 1816 г. (год пачатку будаўніцтва касцёла) Порта яшчэ не быў епархіяльным архітэктарам.

Пасля паўстання 1831 г., у 1832 г., Віцебскі трынітарскі кляштар быў зачынены. Афіцыйнай прычынай закрыцця паслужыла невялікая колькасць манахаў у кляштары.

У 1838 г. у Віцебску Кацярынай Андрэеўнай Дзякавай, жонкай генерал-губернатара П.Дзякава, на ўласныя сродкі і на ахвяраванні гараджан быў заснаваны прытулак для дзяцей, якія страцілі бацькоў. У прытулку знаходзілася 15-20 дзяўчынак-сірот. У 1840 г. генерал-губернатар Дзякаў даслаў запыт на імя цара з просьбай дазволіць заняць пад прытулак будынак былога кляштара трынітарыяў. Быў атрыманы адказ, у якім "...Государь Император изволил изъявить Высочайшее соизволение на занятие строения покинутого монастыря залою приюта, с тем, чтобы в том строении, где помещалась церковь католическая была устроена церковь православная" (11). Так удала распачатая справа станоўчага працягу для касцёла не мела. Нягледзячы на тое, што ў 1840 г. "...статский советник Гежеминский предъявил ныне мне (генерал-губернатару П.Дзякаву — *В.К.*) план и смету на устройство означенной церкви" (12), перабудова не адбылася па прычыне адмовы ў фінансаванні. Чарцяжы і каштарыс вярнулі, а будынак касцёла застаўся безгаспадарным.

План и фасадъ Тринитарскаго Костела въ Городѣ Витебскѣ.



**План і фасад трынітарскага касцёла, выкананы епархіяльным архітэктарам А.Портам.**

У 1842 г. Віцебскую і Магілёўскую губерні з інспекцыйнымі мэтамі наведаў сапраўдны стацкі саветнік Цэйдлер. У сваіх заўвагах з нагоды стану будынкаў скасаваных кляштараў ён пісаў наступнае: "Строения, поступившие от католических священников в гражданское ведомство, частично уже разрушаются, а прочие приходят к тому же. Величественные здания церквей и кляшторов стоят с ветхими крышами, через которые пробивается снег и мокрота и от сырости промокают своды, а в церквях купола ... Теперь же несколько сот рублей, потребленные на исправление временно крыш, могли бы спасти здание." (13). Сярод пералічаных будынкаў, якія знаходзіліся ў такім гаротным стане, быў названы і былы Віцебскі трынітарскі кляштар. Заўвагі былі накіраваны з Міністэрства ўнутраных спраў у Дэпартамент гаспадаркі для прыняцця адпаведных мер. Адказ меў няпэўны характар. У ім гаварылася аб тым, што былы касцёл і кляштар знаходзяцца "в городском ведомстве для устройства в них детского приюта" (14). Пра рамонт і перабудовы ў былых кляштарных будынках звестак мы не маем.

Кляштарны корпус з часу размяшчэння ў ім дзіцячага прытулку стаў называцца "зал-приют". Прытулак утрымліваўся на ахвяраванні, а таксама на сродкі, атрыманыя ад продажу або розыгрышу ў латэрэю вырабаў, выкананых выхаванкамі. У 1841 г. дзіцячаму прытулку быў перададзены ва ўладанне вялікі агарод і сад, якія раней належалі трынітарскаму кляштару (15).

У 1846 г. апякункай прытулку стала С.П.Галіцына, жонка новага генерал-губернатара. Пры ёй прытулак быў пераведзены з былога кляштарнага корпуса ў трохпавярховы дом на Смаленскай вуліцы. У далейшым у будынку кляштара знаходзілася турма.

Будынак касцёла ў 1847 г. быў перададзены ў праваслаўнае ведамства. "После разных предложений, на счет употребления костельного здания бывшего тринитарского монастыря в 1858 году последовало разрешение преобразовать его в православную церковь. Необходимые по этому издержки принял на свой счет купец 2-й гильдии Григорий Волкович и исправления начались. Сначала работы шли довольно быстро, но чем ближе были к концу, тем более замедлялись. Это в особенности стало заметным в 1862 году. В городе стали носиться слухи об уступке этого храма католикам, и тому подобное; хотя толки эти, к счастью, не исполнились, но церковь и доселе остается неосвященной, за непоставкой в ней надлежащего иконостаса," — пісаў у 1865 г. у сваёй працы "Витебск. Статистический очерк" мясцовы краязнаўца А.М.Семянтоўскі (16).

Да пачатку другой паловы XIX ст. адбыліся прынцыповыя змены ў планіроўцы цэнтральнай часткі Віцебска. Гэта было звязана з будаўніцтвам у 1837 г. шашы, якая прайшла праз усю цэнтральную частку і стала галоўнай планіровачнай воссю горада. Былы трынітарскі кляштар хоць і страціў частку сваёй тэрыторыі (шаша прайшла праз яго зямельны пляц), аднак атрымаў выгаднае горадабудаўнічае становішча — стаў адзінай дамінантай у асяроддзі грамадзянскай забудовы пры ўездзе ў цэнтральную частку Віцебска з поўдня. Выгаднае размяшчэнне касцёла, фруктовы сад, старыя ліпы прыцягвалі сюды ў другой палове XIX ст. гараджан, аб чым красамоўна напісаў М.Я.Нікіфароўскі ў сваёй кнізе "Странички из недавней старины города Витебска": "В углу, образуемом соединением Большой Могилёвской улицы (новая шаша, сучасная вуліца Леніна — *В.К.*), и Тринитарского переулка (сучасная вуліца Шубіна — *В.К.*), — что находится против Покровской церкви ... существовал по-тринитарский сад с десятком вековых лип и двумя-тремя яблонями, год-от-году уродуемые посягателями на "ничьи" фрукты. Хотя со стороны переулка и были частные дома, а на углу торчал кабачек, все же садовая часть с улицы оставалась открытой и сюда невозбранно заходил бродячий скот, заезжал для попаски лошади ломовой извозчик, базарный мужик, проезжий бедняк; заходил поспать в холодке гость кабака, играли ребятишки, кое-когда появлялись и няни с порученными им детьми. Одних манила "людность" улицы, других — приволье и затишье площади; в пору цветения лип сюда жаловали и городские интеллигенты, на деревьях же хозяйничали немалочисленные сборщики липового цвета; осенью и зимою тут стайничало городское воронье; изредка появлялся балаган — "петрушка", тележный навес пряничника, бараночника, или продавца предметов из восточных стран. Как очевидно, Тринитарский сад служил разнородным, общественным надобностям, разночинным обывателям города и даже гостям его" (17). Паводле сведчання М.Я.Нікіфароўскага, сад загінуў падчас пажару 1888 г.

**Галоўны фасад былога трынітарскага касцёла. Фота 1945 г.**



Пра перабудову будынка касцёла мы можам меркаваць на падставе дарэвалюцыйных фотаздымкаў Віцебска, а таксама тых фотаздымкаў, што былі зроблены пасля Вялікай Айчынай вайны (18). Можна сказаць, што за тэрмін з 1858 да 1917 гг. будынак былога трынітарскага касцёла (які, апынуўшыся ў праваслаўным ведамстве, стаў Пакроўскай царквой) перабудоўваўся двойчы. Пасля першай перабудовы быў захаваны двухвежавы фасад, трохкутны франтон і асноўны дэкор. Былі зменены завяршэнні вежаў — ліквідавана завяршаючая вежачка. Апроч таго, на галоўным фасадзе над уваходам з'явіўся манументальны алейны жывапіс — кампазіцыя "Пакроў Прасвятой Багародзіцы", што была зроблена ў адпаведнасці з новай назвай храма.

Змены, якія адбыліся ў архітэктурным абліччы будынка пасля пераробкі яго ў праваслаўную царкву, як нам здаецца, трэба разглядаць з двух бакоў. З аднаго боку, змены былі не вельмі шматлікія, і пад наслаеннямі можна прачытаць першапачатковую ідэю архітэктара класіцызму. Тым больш, што ў гэты перыяд існавала ўказанне пра перабудову цэркваў "в византийском стиле

с означенными в чертежах профессора Тона как внутренними, так и снаружи украшениями" (19). Часцей за ўсё пасля такіх пераробак будынак цалкам страчваў сваё арыгінальнае аблічча, чаго не адбылося ў дадзеным выпадку. З другога боку, змяншэнне вышыні вежаў адмоўна адбілася на ўспрыманні сілуэта будынка, парушыліся суадносіны паміж даўжынёй касцёла і яго вышынёй.

Другая перабудова храма адбылася на пачатку XX ст. Падчас яе на будынку з'явіўся "глухі" купал і павялічылася вышыня вежаў за кошт з'яўлення завяршаючых вежачак, якія, аднак, у адрозненні ад першапачатковых мелі іншую форму. Гэтая перабудова ўнесла больш зменаў у першапачатковае аблічча будынка ў параўнанні з перабудовай сярэдзіны XIX ст., аднак роля будынка ва ўспрыманні гарадского сілуэта, безумоўна, павялічылася.

У гады Вялікай Айчынай вайны будынак касцёла быў моцна пашкоджаны. Быў знішчаны другі ярус вежаў, разбураны дах. Будынак не рамантаваўся і паступова прыйшоў у заняпад — абрынуліся скляпенні, пачалі разбурацца сцены. Па дзіўнай нядбайнасці гэты помнік архітэктуры не трапіў у "Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі". Рашэнне аб яго рэстаўрацыі было прынята ў 1986 г. Зараз комплекс былога трынітарскага кляштара ў Віцебску поўнасцю адрэстаўраваны і належыць праваслаўнай епархіі.

***Пераклад з рускай мовы.***

***Літаратура і крыніцы:***


1. Большая советская энциклопедия. Т.43. М., 1956.
2. РДГА, ф.822, воп.12, спр.2611.
3. РДГА, ф.822, воп.12, спр.2777.
4. Тамсама.
5. НГАБ, ф.1781, воп.26, спр.1413.
6. НГАБ, ф.1781, воп.26, спр.1430.
7. РДГА, ф.822, воп.12, спр.2777.
8. НГАБ, ф.1781, воп.26, спр.430.
9. НГАБ, ф.1781, воп.26, спр.1430.
10. РДГА, ф.835, воп.1, спр.764.
11. РДГА, ф.799, воп.10, спр.27480.
12. Тамсама.
13. РДГА, ф.1287, воп.31, спр.563.
14. Тамсама.
15. Никифоровский Н.Я. Странички из недавней старины города Витебска. Витебск, 1899.
16. Памятная книжка Витебской губернии на 1865 год. Спб., 1865.
17. Никифоровский Н.Я. Згад. сач., с.106-107.
18. Арыгіналы фотаздымкаў захоўваюцца ў аддзеле эстампаў Расійскай нацыянальнай бібліятэкі ў Санкт-Пецярбургу і архіве Беларускага рэстаўрацыйна-праектнага інстытута (г.Мінск).
19. РДГА, ф.1282, воп.225, спр.7.

*Ігар РОЦЬКА*

# КАСЦЁЛ ТРЫНІТАРСКАГА КЛЯШТАРА Ў ВІЦЕБСКУ: АРХІТЭКТУРНЫ АНАЛІЗ

Сярод нешматлікіх захаваўшыхся да нашых дзён помнікаў архітэктуры Віцебска былы трынітарскі касцёл займае адметнае месца.

Мураваны будынак трынітарскага касцёла (зараз у ім знаходзіцца праваслаўны Свята-Пакроўскі кафедральны сабор) быў узведзены на скрыжаванні Гогалеўскай і Пакроўскай вуліц (зараз вуліцы Леніна і Шубіна) у 1821 годзе на месцы раней існаваўшага драўлянага касцёла. Мураваны касцёл быў размешчаны даволі глыбока ад лініі забудовы Гогалеўскай вуліцы, што разам з двухпавярховым будынкам кляштара, які знаходзіўся як раз на лініі забудовы, дазволіла стварыць невялікую камерную плошчу перад яго галоўным фасадам. Такое размяшчэнне касцёла было адметным і ў горадабудаўнічым плане, бо дазваляла яму выразна раскрыцца як архітэктурнай дамінанце горада. Вежы трынітарскага касцёла размяшчаліся на восі Смаленскай вуліцы, што знаходзілася ва Узгорскай частцы Віцебска.




Будынак былога касцёла манахаў-трынітарыяў уяўляе сабой трохнефавую базіліку з паўцыркульнай апсідай, арыентаванай на ўсход. Бакавыя нефы амаль у два разы вузейшыя за цэнтральны і перакрыты крыжовымі скляпеннямі. Цэнтральны неф перакрыты цыліндрычным скляпеннем з падпружнымі аркамі, якія абапіраюцца на чатыры слупы ў сярэдзіне асноўнай залы, і распалубкамі над паўкруглымі вокнамі другога яруса.

Звонку фасады касцёла ў поўнай адпаведнасці з эстэтыкай стылю класіцызму не адрозніваюцца багаццем архітэктурных формаў. Найбольшае значэнне ў пабудове прапорцый асноўных частак касцёла належыць галоўнаму фасаду, які мае ярка вызначаную восевую сіметрыю. Цэнтральны ўваход у касцёл аздоблены порцікам з чатырма падвоенымі трохчвэрцевымі калонамі тасканскага ордэра. Падвоенасць калонаў - прыкмета стылю барока, але ў дадзеным выпадку калоны даволі далёка адстаяць адна ад адной. Завяршаецца порцік развітым антаблементам з трохвугольным франтонам.

Па баках галоўнага фасада знаходзяцца дзве квадратныя ў плане двух'ярусныя вежы, якія завяршаюцца таксама антаблементамі з трохвугольнымі франтонамі па ўсіх чатырох баках. Завяршаюць вежы маленькія вежачкі або сігнатуркі. Некалі сігнатурка існавала таксама і

Роцька Ігар Міхайлавіч, галоўны архітэктар праектаў МДП "Віцебскпраектрэстаўрацыя". Займаецца архітэктурным даследаваннем культавых будынкаў XVIII і XIX стст. Аўтар праекта рэстаўрацыі трынітарскага кляштара ў Віцебску, навуковы кіраўнік праектаў рэстаўрацыі дамініканскага касцёла ў Смалянах, бернардзінскага кляштара ў Дуброўне, а таксама Уваскрасенскай Рынкавай царквы ў Віцебску.

на даху касцёла над яго алтарнай часткай.

Першы ярус вежаў упрыгожаны нішамі з паўкруглым верхам, дзе размешчаны вокны. Вышэй паўкруглых вокнаў зроблены квадратныя нішы (такая ж ніша ёсць і ў цэнтральнай частцы фасада). Першы і другі ярусы вежаў раздзяляе развіты гарызантальны прафіляваны карніз, які апаясвае ўвесь будынак па перыметры. Другі ярус вежаў упрыгожаны пілястрамі з капітэлямі іанічнага ордэра. Па цэнтры другога яруса зроблены скразныя праёмы з паўкруглым верхам. У адной з вежаў размяшчалася званіца.

Бакавыя фасады касцёла выкананы больш сціпла. Першы ярус фасадаў асноўнага аб'ёма ўпрыгожаны прамавугольнымі вокнамі і прафіляваным гарызантальным карнізам. У рызніцах вокны паўкруглыя. На другім ярусе цэнтральны неф сцяны прарэзваюць восем паўкруглых вокнаў. Адно паўкруглае вакно зроблена па цэнтры апсіды.

Мал. 2




Разгледзім цяпер больш падрабязна пабудову асноўных прапорцый галоўнага фасада. Паводле гістарычных дадзеных вядома, што шырыня галоўнага фасада і бакавых вежаў была аднолькавая - па 8 сажняў (далей для большай зручнасці будзем карыстацца тагачаснай мернай адзінкай - сажнем). Неабходна ўзгадаць, што асноўнымі прынцыпамі пабудовы прапорцый у стылі класіцызму былі квадрат і залатая прапорцыя, якая ў лічбавым выражэнні складала $\sqrt{5}$-1=0,618... у меншы бок і $\sqrt{5}$+1=1,618... у большы бок. Для зручнасці выкарыстоўваліся таксама прыблізныя лічбавыя значэнні залатой прапорцыі 0,6 і 1,6.

У працэсе пабудовы прапорцый асноўных архітэктурных элементаў галоўнага фасада трынітарскага касцёла ў Віцебску можна вызначыць пяць асноўных этапаў. На першым этапе будуем асноўны квадрат, у якім вышыня і шырыня складаюць 8 сажняў (*мал.1 "а"*). На другім этапе дзелім квадрат фасада на два ярусы ў залатой прапорцыі: ніжні ярус - 5 сажняў, верхні - 3 сажні (8/1,6=5) (*мал.1 "б"*). На трэцім этапе знаходзім шырыню вежаў (*мал.1 "в"*). У залатой прапорцыі шырыня вежы ад вышыні другога яруса складае 1,875 сажня (3/1,6=1,875). На чацвёртым этапе знаходзім ніз антаблемента порціка (*мал.1 "г"*). І, нарэшце, на пятым этапе завяршаем пабудову прапорцый асноўных архітэктурных элементаў (*мал.1 "д"*).

Больш яскрава пабудову прапорцый галоўнага фасада касцёла можна выканаць графічным шляхам, абапіраючыся на асноўны закон графічнай пабудовы залатой прапорцыі (*мал.2*).

Пабудова плана касцёла зроблена больш сціпла, але і тут ёсць свае заканамернасці. Так, аснову плана складае квадрат з бакамі ў 8 сажняў. Да яго прыбудоўваюцца вежы памерам у 1,875 сажні (*мал.3*). Памер асноўнай залы вылучаецца на плане пры дапамозе залатой прапорцыі (8/1,6=5). Шырыня сакрысціяў і алтарнай часткі аднолькавая і складае 1/3 ад ўсёй шырыні касцёла.

Такім чынам, разгледзеўшы даволі падрабязна прынцыпы пабудовы асноўных прапорцый трынітарскага касцёла, неабходна высветліць і памер самой мернай адзінкі - сажня. Падзяліўшы шырыню галоўнага фасада, якая складае 17,92 м, на колькасць сажняў, атрымліваем даўжыню аднаго сажня, роўную 2,24 м. Між тым, у Расійскай імперыі сажань складаў 2,13 м, а ў Вялікім Княстве Літоўскім - 1,948 м. Такім чынам, бачна, што сажань Віцебскага трынітарскага касцёла не адпавядаў ніводнай з агульнапрынятых мерных адзінак. Менавіта ў гэтай неадпаведнасці і заключалася своеасаблівасць архітэктонікі трынітарскага касцёла.

Паўстае натуральнае пытанне: чаму сажань касцёла складае 2,24 м? Адказ на яго можна знайсці ў памерах цэглы, якая выкарыстоўвалася для будаўніцтва касцёла. Так, трыццаць радоў цаглянай муроўкі складаюць 2,25 м. Калі лічыць, што асноўны сажань складаўся з трох аршынаў (0,71 м), то і сажань трынітарскага касцёла таксама складаўся з трох умоўных частак. Кожная частка мае памер 0,746 м, што адпавядае дзесяці радам цаглянай муроўкі. Прыняцце такога умоўнага сажня спрыяла больш зручнаму ўзвядзенню будынка касцёла. Дарэчы, неабходна заўважыць, што лічбавае значэнне адной з галоўных вытворных залатой прапорцыі - V5 - складае 2,236.

На заканчэнне прыгадаем аб тых перабудовах, якія адбыліся пасля таго, як будынак трынітарскага касцёла быў перададзены праваслаўным вернікам. Першая перабудова скончылася ў 1862 г. і істотных змяненняў у вонкавы выгляд фасадаў касцёла не прынесла. Былі толькі знішчаны сігнатуркі на вежах.

Другая перабудова адбылася каля 1913 г., калі ў Расійскай імперыі рыхтаваліся святочна адзначыць трохсотгоддзе існавання дынастыі цароў Раманавых. У выніку гэтай перабудовы трохвугольны франтон цэнтральнага порціка быў заменены на лучковы. На вежах з'явіліся маленькія купалкі з вежачкамі і цыбулепадобнымі галоўкамі. Над асноўным аб'ёмам будынка быў зроблены глухі фальшывы барабан, які таксама меў вежачку з цыбулепадобнай галоўкай. Апошняя перабудова значна змяніла агульны выгляд касцёла і замест выразнай класічнай архітэктуры цяпер можна ўбачыць не вельмі ўдалы ўзор эклектыкі.

Мал. 3



*Андрэй КАТЛЯРЧУК*

# ЖАЗЭФ ДЭ МЭСТР І ТАДЭВУШ БРЖАЗОЎСКІ Ў СПРАВЕ АДКРЫЦЦЯ ПОЛАЦКАЙ ЕЗУІЦКАЙ АКАДЭМІІ

Як вядома, 12 студзеня 1812 г. у гісторыі Беларусі адбылася вялікая падзея: пастановай імператара Расіі Аляксандра І Полацкі езуіцкі калегіум атрымаў правы універсітэта з пераходам у стан акадэміі і верхавенствам над усімі школамі езуітаў на абшарах Усходняй Еўропы. Але ў літаратуры слаба асветлена "хроніка падзей" і роля ў канчатковым вырашэнні пытання дзвюх асобаў: Жазэфа дэ Мэстра і Тадэвуша Бржазоўскага.



**Жазэф дэ Мэстр.**
Мал. Фогель фон Фагельштэйна.

Жазэф дэ Мэстр (1753-1821) належыць да ліку выдатнейшых кансэрватыўных мысляроў XIX ст. Багатая эпісталярная спадчына (напрыклад, ліставанне з польскім пісьменнікам-славістам Я.Патоцкім), цудоўны літаратурны талент, логіка, незалежнасць меркаванняў, адданасць маленькай Сардзініі вылучаюць дэ Мэстра з шэрагу постацяў, якія належаць Гісторыі.

Выхаваны матуляй шчырым каталікам і раялістам, дэ Мэстр закончыў езуіцкі калегіум і юрыдычны факультэт Турынскага універсітэта. Ужо першы ягоны трактат "Разважанні аб Францыі" (1796) выклікаў агульнаеўрапейскую вядомасць. Не меншы поспех чакаў такія творы, як "Пра Папу" і "Санкт-Пецярбургскія вечары". Творчасць дэ Мэстра аказала значны ўплыў на развіццё расійскай думкі XIX-XX стст. (Ф.І.Цютчаў, Л.М.Талстой, Л.П. Карсавін), ягоная спадчына ў галіне тэалогіі і паліталогіі дагэтуль вабіць многіх даследчыкаў [1]. З 1803 па 1817 гг. Жазэф дэ Мэстр як пасол Сардзініі жыў у Санкт-Пецярбургу. Маючы сталыя сувязі з цэнтрам беларускіх езуітаў у Полацку, ён распачаў актыўную дзейнасць у асяродку пецярбургскага вышэйшага шляхецтва, нейкі час меў уплыў на Аляксандра І, міністра асветы А.К.Разумоўскага.

Як падкрэслівае С.Якавенка, "пры Аляксандры І каталіцтва зрабілася модай у магнацкіх колах расійскага грамадства. Апошняму моцна спрыяла дзейнасць графа Ж. дэ Мэстра" [2]. Услед за Г.Груберам, у Пецярбургу дэ Мэстр актыўна прапагандаваў ідэю злучэння асобных плыняў хрысціянства. "Рэабілітацыі адзінства царквы" прысвечаны ягоны ліст, пісаны ў студзені 1816 г. у Полацк генералу Суполкі Езуса (Societatis Jesu) Тадэвушу Бржазоўскаму [3]. Праграма дэ Мэстра для Расіі - гэта праграма еўрапеізацыі ўлады і адукацыі, галоўная роля ў дасягненні якой адводзілася беларускім езуітам.

Тадэвуш Бржазоўскі (1749-1820), паляк па нацыянальнасці, у 1765 г. уступіў у ордэн езуітаў. Далейшы ягоны лёс быў цалкам звязаны з Беларуссю. Спачатку ён працаваў выкладчыкам французскай мовы ў Менскім калегіуме. У 1782 г. атрымаў кафедру тэалогіі Полацкага калегіума, адначасова выкладаў там французскую мову. У Полацку слынны прамоўца распачаў актыўную дзейнасць па перакладу французскай і італьянскай літаратур. У выніку пратэкцыі беларускага ксяндза айца Г.Лянкевіча [4] ў 1802 г. Т.Бржазоўскі становіцца асістэнтам Г.Грубера, а ў 1805 г. ён быў абраны генералам ордэна езуітаў.

На гэтай высокай пасадзе Т.Бржазоўскі падтрымліваў ліставанне з уплывовымі расійскімі палітыкамі (Р.А.Пацёмкіным, А.К.Разумоўскім, А.М.Галіцыным), пазнаёміўся і пачаў сябраваць з дэ Мэстрам. Польскія даследчыкі папракалі Т.Бржазоўскага ў сталых кантактах з уладай Расіі [5], але мэтай ягоных зваротаў была ахова невялічкай філіі езуітаў, якая засталася на Беларусі пасля скасавання ордэна булай папы Клімента XIV у 1773 г. Прыгадаем, што ў межах Расіі на 1773 г. апынуліся 201 езуіт, 6 калегіумаў, ды 9 місій.

Езуіты размяшчаліся на абшарах Віцебскай губерні ў Віцебску, Полацку, Дзвінску (калегіумы), Пушчы (навіцыят у Рэжыцкім павеце), Ушвальдзі і Дагдзе (Дзвінскі павет); Магілёўскай губерні - у Магілёве,

Катлярчук Андрэй Сцяпанавіч, выкладчык Бранскай школы міліцыі, аспірант МАЭ РАН (Кунсткамера) імя Пятра Вялікага ў Санкт-Пецярбургу. Займаецца даследаваннем культуры ўсходнеславянскага горада XVI-XVIII стст.

Мсціслаўлі, Оршы, Хальчы (каля Веткі), Чачэрску, Расне, Лазовічах. Суполка Езуса з'яўлялася ўладальніцай 13,5 тысяч беларускіх сялян, амаль усе яны былі уніятамі і мелі уніяцкіх святароў [6]. Калі 30.06.1775 г. уласным прывілеем, насуперак кананічнаму праву, мітрапаліт каталіцкіх касцёлаў у Расіі беларус Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч падараваў ордэну езуітаў правы навіцыяту (сродак пашырэння сяброў), у Полацк і Віцебск (другі па значнасці калегіум) пачалі збірацца езуіты з усіх краін Еўропы, а таксама беларуская моладзь.



Тадэвуш Бржазоўскі. Выява паводле старадаўняй гравюры.

На пачатку 1812 г. лік езуітаў узрос да 400 сяброў, школьныя ўстановы беларускіх езуітаў працавалі ў Санкт-Пецярбургу, Астрахані, Маздоку, Рызе, Адэсе, Саратаве [7]. Але ва ўрадавых колах існавала моцная апазіцыя Суполцы Езуса ў асобах обер-пракурора Св.Сінода А.М.Галіцына ды фундатара Віленскага універсітэта паланафіла А.Ю.Чартарыскага [8]. Разумеючы даволі хісткае становішча каталіцкага ордэна ў афіцыйна праваслаўнай імперыі, Ж. дэ Мэстр разам з Т.Бржазоўскім імкнуліся зацвердзіць у вачах урада практычную карысць ад існавання ордэна езуітаў у Расіі і пачалі дамагацца адкрыцця вышэйшай навучальнай установы - Полацкай езуіцкай акадэміі. Выкарыстаўшы ініцыятыву М.Сперанскага аб пабудове Царскасельскага ліцэя, дэ Мэстр у Пецярбургу выступіў з падтрымкай ідэі Т.Бржазоўскага аб адкрыцці акадэміі ў Полацку. 18(30) ліпеня 1810 г. у запісцы А.К. Разумоўскаму (дарэчы, цэлым трактаце) дэ Мэстр ставіць пытанне аб пашырэнні ролі беларускіх езуітаў у сістэме адукацыі і адкрыцці акадэміі [9].

24 жніўня 1810 г. Т.Бржазоўскі падаў першую просьбу аб Полацкай езуіцкай акадэміі А.К.Разумоўскаму [10]. 6 кастрычніка 1811 г. на бале ў міністра фінансаў Гур'ева дэ Мэстр звярнуўся да А.М.Галіцына, а ў сярэдзіне лістапада атрымаў дазвол на асабістую сустрэчу з Аляксандрам I, дзе дабіўся згоды імператара ў справе адкрыцця Полацкай акадэміі [11]. Перад гэтым 16 кастрычніка 1811 г. Т.Бржазоўскі праз А.М.Галіцына падаў афіцыйны рапарт на імя Аляксандра I, які пасля ўсіх працэдур быў заслуханы і станоўча разгледжаны камітэтам міністраў Расіі [12]. Дзіўна, але, як адзначаюць усе даследчыкі (А.Кіркор, К.Багаслоўскі, М.Марошкін, А.Талстой, М.Сцяпанаў, С.Якавенка), менавіта высілкі Жазэфа дэ Мэстра і Тадэвуша Бржазоўскага спрыялі вырашэнню справы.

Пастановамі Аляксандра I ад 12.01.1812 г. і 1.05.1812 г. акадэмія езуітаў у Полацку атрымала прывілей універсітэта з наданнем трох факультэтаў: мовазнаўчага, вольных навук і тэалогіі. Цікава, што ў пастановах стварэнне акадэміі матывавалася жаданнем беларускай шляхты ("во уважение представленного нам желания Белорусского дворянства") [13]. Згодна статуту, у Полацкую акадэмію мусілі прымаць вучняў усіх саслоўяў і канфесій, па заканчэнні ім надаваўся "чин 14 класса", а таксама навуковыя ступені. Лік студэнтаў даходзіў да 600, выкладчыкаў было 39 [14]. У мурах акадэміі размяшчаліся адна з найвялікшых у краі бібліятэк (40 тыс. тамоў), друкарня, дзе было выдадзена каля 500 кніжак (у тым ліку на беларускай, летувіскай, латышскай мовах), хімічны, механічны і фізічны кабінеты, рэдакцыя ўласнага часопіса "Miesięcznik Połocki" (дарэчы, першага на абшарах сучаснай Беларусі). Музеум акадэміі меў зборы аптычных прыладаў, інструментаў, калекцыі старажытнай зброі і мастацтва.

На 10 чэрвеня 1812 г. былі прызначаны ўрачыстасці з нагоды адкрыцця езуіцкай акадэміі ў Полацку. Дэ Мэстр, нягледзячы на тое, што амаль ніколі не пакідаў Пецярбург [15],вырашыў паехаць у Беларусь, каб персанальна ўзяць удзел у святкаванні. Захаваліся два лісты дэ Мэстра з Полацка, у якіх ён распавядае аб сваіх уражаннях ад горада і паездцы ў губернскі Віцебск. Вось што ён піша з Полацка напярэдадні свята 9(21) чэрвеня 1812 г. княгіні А.Г.Беласельскай-Белазерскай [16]: "Тут няма ніякіх ні забаў, ні свецкага грамадства. Надвор'е адпавядае ўсяму астатняму, у полацкіх гародах нават не знойдзеш гародніны для супу. Іншы раз я ўзгадваю, што ў П'емонце ўжо каса вяртаецца ў адрыну, а серп збіраецца выйсці з яе ... Але я зрабіў невялікае ў 120 вёрст падарожжа. Я трапіў у Віцебск, каб прадставіцца каралеўскім ягамосцям [17], уладарам Беларусі (мужу і жонцы Віртэмбергскім). Прыймалі вельмі ветліва, але я не пакавалерыў за герцагіняй, таму што яна пасля хваробы сына зусім не пакідала пакояў. Мяне няведама як угаворвалі застацца, але я з'ехаў. Я выехаў з Полацка ў суботу, 31 траўня (памылка, бо гэта была пятніца - *А.К.*), а вярнуўся ў панядзелак 3-га, а другой гадзіне папалудні ... Сёння герцаг-губернатар урачыста прыязджае ў Полацк, каб прысутнічаць заўтра на адкрыцці акадэміі - з'ява нямалая, дайце веры, і філосаф

знойдзе, аб чым паразмаўляць. Хто б казаў Кліменту XIV, усім гэтым найхрысціянскім, найкаталіцкім Бурбонам, якія літаральна вырвалі ў яго булу з далоняў, прыставілі да горла нож..." [11].

Як было сказана, дэ Мэстр выехаў з Полацка 31 траўня а чацвёртай гадзіне папалудні. Першага чэрвеня ў 11 гадзін раніцы ён быў у Віцебску. У Віцебску дэ Мэстр спыніўся ў Рыжскай гасцініцы, палуднаваў у беларускага вайсковага генерал-губернатара герцага Аляксандра Віртэмбергскага, вячэраў і начаваў у калегіуме віцебскіх езуітаў. На наступны дзень ён зноў палуднаваў і вячэраў у герцага, а ў 12 гадзін ночы выехаў у Полацк, дзе быў 3 чэрвеня [18]. Урачыстая цырымонія ў гонар адкрыцця Полацкай езуіцкай акадэміі адбылася 10 чэрвеня 1812 г., за дзень (!) да нападу Напалеона Банапарта на Расію. Дзея праходзіла цалкам у адпаведнасці са старажытнай беларускай традыцыяй афіцыйных святкаванняў, якая трывала яшчэ з XVI-XVIII стст. у гарадах з магдэбургскім правам [19]. На свяце прысутнічаў шэраг выдатных асобаў: уніяцкі арцыбіскуп Красоўскі, вайсковы губернатар Беларусі герцаг А.Віртэмбергскі, менскі каталіцкі біскуп Дзядзерка, Жазэф дэ Мэстр, Тадэвуш Бржазоўскі.

Пачынала свята ўрачыстае шэсце гарадскіх карпарацый Полацка і студэнтаў езуіцкай акадэміі. Шэсце ўпрыгожвалі 70 сцягоў, у тым ліку сцягі Полацка, Полацкай езуіцкай акадэміі, Віцебска, Расійскай імперыі, герцага Віртэмбергскага, губерняў Расіі. З асаблівай пашанай няслі афіцыйныя прывілеі.

На сямі мовах (у т.л. і беларускай) гучалі прамовы ў гонар імператара і высокіх удзельнікаў свята. Пасля літургіі ў касцёле езуітаў былі зачытаны ліст Ст. Богуша-Сестранцэвіча і пастанова імператара. Узнёслы гімн "Te Deum Laudamus", які падхапілі ўсе месцічы, завяршыў асноўную частку свята. Усе касцёлы, трыумфальныя брамы, ды уніяцкія цэрквы Полацка былі ўпрыгожаны сімваламі і эмблемамі ў гонар езуіцкай акадэміі, горада Полацка, знакамітых асобаў, імператара Аляксандра I - "Quaesivit bona genti suae" ("Зрабіў добрае народу свайму"). Увечары адбыліся феерверкі, ілюмінацыя і гарматны салют, у небе лунаў аэрастат (традыцыя )! ( віцебскіх езуітаў) з дэвізам: "Tutus Alexandri auspiciis solaetus ad astra" ("Павольна пад аховай Аляксандра я весела лётаю ўверсе"). [20].

Верагодна, што яшчэ хлапчуком у свяце браў удзел слынны сын полацка- віцебскай зямлі Ян Баршчэўскі. Як занатаваў у Пецярбургу з верасня 1844 г. Рамуальд Падбярэскі, "яшчэ ў Полацку у калегіі езуітаў, будучы малым хлапчуком, ён (Я.Баршчэўскі - *А.К.*) пісаў ужо вершы (...) Там пры кожнай (! - *А.К.*) урачыстасці выступаў з вершамі, з варыяцыямі, так што была гэта фігура святочная, урачыстая, якую няраз узнімалі да годнасці лаўрэата" [21]. Трэба дадаць, што Я.Баршчэўскага лічаць выхаванцам Полацкага калегіума. Але калі прыймаць абгрунтаваны тэрмін яго нараджэння (1794 г.), ці версію М. Хаустовіча пра 1796-1797 год нараджэння [22], то выпадае, што Я.Баршчэўскі заканчваў менавіта Полацкую езуіцкую акадэмію. Дарэчы, аўтарытэтны даведнік Бракгауза і Ефрона адзначае, што Ян Баршчэўскі "родился в Белоруссии в 1794 году. Учился в Полоцкой академии" [23].

Выхаванцамі Полацкай акадэміі былі таксама Кастусь Тышкевіч (1806-1868), славуты беларускі археолаг і этнолаг, брат Яўстаха Тышкевіча; Ф.П.Талстой (1783-1873), рускі скульптар, медальер, віцэ-прэзідэнт Акадэміі Мастацтваў; мянчук, славуты беларускі мастак Валенты Ваньковіч; астраном Якуб Накцыяновіч; бацька таленавітага беларускага паэта Элегі Францішка Карафы-Корбута (Вуля) М.Ф.Карафа-Корбут [24]. Нарэшце, два выхаванцы акадэміі Я.Баршчэўскі і Г.Шэпялевіч (1800-1846) разам з Р.Падбярэскім, беларускім кампазітарам А.І.Абрамовічам, Ю.Барташэвічам і В.Давыдам заснавалі першы гурток беларусістаў у Санкт-Пецярбургу ў (1820-я-1840-я гады), дзейнасць якога, на жаль, яшчэ не даследавана.

Усе 8 гадоў свайго існавання Полацкая езуіцкая акадэмія падтрымлівала цесныя сувязі з культурнымі цэнтрамі Усходняй і Заходняй Еўропы. Нягледзячы на тое, што ў вайну 1812 года амаль усе езуіты былі эвакуіраваны ў Волагду, некалькі студэнтаў акадэміі змагаліся на баку Напалеона [25].

Аднак у хуткім часе кола Кліо павярнула ў іншы бок. Спужаўшыся ўзмацнення ўплыву каталіцызму на эліту расійскага грамадства, 20.12.1815 г. усе езуіты Пецярбурга былі высланы ў Полацк. 6 верасня 1816 г. А.Віртэмбергскі атрымаў загад аб падрыхтоўцы да высылкі віцебскіх езуітаў, але чамусьці яго не выканаў. У тым жа 1816 г. у Полацкай акадэміі было прыпынена наданне навуковых ступеняў.

4 чэрвеня 1816 г. Т.Бржазоўскі напісаў ліст А.Галіцыну з просьбай аб спыненні ціску, але дарэмна. З 1817 г. у Полацкай езуіцкай акадэміі мусілі навучацца толькі каталікі. 15(27) чэрвеня 1817 г. дэ Мэстр быў баніцыраваны з Расіі пасля размовы з Аляксандрам I, у якой імператар патрабаваў растлумачыць ролю графа ў пашырэнні каталіцызму. У 1818 г. Т. Бржазоўскі праз рэктара Аршанскага калегіума звярнуўся да Аляксандра I, які праязджаў праз горад, з эмацыянальным пасланнем, аднак ніякіх станоўчых вынікаў не атрымаў. Да самага 1820 г. вялікая група пецярбургскіх арыстакратаў-каталікоў на чале з графам

А.К.Разумоўскім, графам Ф.В. Растапчыным, княгінямі В.І.Галавіной і А.П.Галіцынай стрымлівалі наступ на Полацкую акадэмію езуітаў.

Але выкарыстаўшы смерць Т.Бржазоўскага 5 лютага 1820 г., "партыя вайны" прадпрыняла рашучыя крокі. У адносінах да Суполкі Езуса была створана абвінаваўчая справа з наступнымі артыкуламі: 1. Скарга парафіян касцёла Св.Кацярыны ў Пецярбургу аб быццам бы ліхвярстве езуітаў. 2. Публічнае казанне ў тым жа касцёле кс. Баландрэ (1815 г.), якое інтэрпрэтавалася як панегірык каталіцкай веры супраць праваслаўя, аб чым А.М.Галіцын раптоўна праінфармаваў Аляксандра І [26]. 3. Абвінавачванне езуітаў з боку А.М.Галіцына ў шматлікіх пераходах у каталіцтва беларускіх сялян-уніятаў. 4. Зварот у каталіцтва пляменніка обер-пракурора Св.Сінода. 5. Пераход у каталіцтва ў Віцебску аднаго з вайскоўцаў расійскага гарнізона [27]. 6. Місіянерства ў Сібіры (дзе ў пошуках каталікоў-"палякаў" езуіты знаходзілі толькі беларусаў-уніятаў) [28].

Галоўныя абаронцы Полацкай акадэміі былі ўжо далёка: дэ Мэстр жыў у Неапалі, Т.Бржазоўскі быў нябожчыкам. Прынцыповая пазіцыя апошняга рэктара акадэміі беларуса Раймунда Бржазоўскага (1763-1848) [29] не вырашала пытання. У траўні 1820 г. А.М.Галіцын зрабіў даклад Аляксандру 1 аб шкодным уплыве езуітаў на юнацтва. 13.05.1820 г. Аляксандр І выдаў пастанову аб ліквідацыі ордэна.

Указ аб выгнанні езуітаў падрыхтавалі А.С.Шышкоў (1754-1841), статс-сакратар Дзяржаўнай Рады Расіі, прэзідэнт РАН і сакратар Біблейскага таварыства, паплечнік А.М.Галіцына, А.І.Тургенеў (1784-1845). У тэксце было сказана: "1. Иезуитов как забывших священный долг не только благодарности, но и подданнической присяги и потому недостойных пользоваться покровительством российских законов выслать под присмотром полиции за пределы государства и впредь ни под каким видом и наименованием не впускать в Россию. 2. Полоцкую иезуицкую Академию и подведомственные ей училища упразднить" [30].

На падставе ўказа ва ўсіх месцах размяшчэння езуітаў адбыліся спецаперацыі міністэрства ўнутраных спраў. Так, абставіны высылкі езуітаў з Віцебска, разбурэнне архіва, бібліятэкі і музеума калегіума апісаны ў мемуарах Максіміляна Маркса [31].

Кнігазбор Полацкай езуіцкай акадэміі ў 1830 г. быў разбіты на часткі і перавезены ў бібліятэкі Пецярбурга, Масквы, Кіева і Віцебска (нязначная доля). Архіў апынуўся ажно ў Сімбірску, акадэмічная друкарня - у Кіеве, славуты полацкі арган - у Вільні ў касцёле Св.Яна. У мурах акадэміі адчыніўся калегіум піяраў, а потым - Полацкі кадэцкі корпус. Каля 100 беларускіх айцоў-езуітаў знайшлі прытулак на выгнанні ў Аўстрыйскай украінскай Галіцыі. Паводле сведчанняў У.Арлова і Г.Сагановіча [32], доктар Курта заснаваў першую гімназію ў Нью-Ёрку. Другі выкладчык акадэміі Ф.Дзеружынскі стаў заснавальнікам сістэмы каталіцкай адукацыі ў ЗША. Выкладчык філасофіі Вінцук Бучынскі стаў прафесарам універсітэта ў Лювэне.

На наш погляд, беларуская гістарыяграфія "стаіць на ганку" неаканцэпцыі ролі езуітаў у культуры Беларусі. Прыгадаем, што менавіта з езуітамі звязана стварэнне ў ВКЛ у XVI-XVIII стст. драматычнага тэатра, высокаякаснай сістэмы адукацыі, сеткі бясплатных шпіталяў, бібліятэк і зельняў. Вядомы беларускія старадрукі, што належалі езуітам. Патрабуюць аналізу адносіны Суполкі Езуса да беларушчыны, яе паланафільства ў сэнсе палітыкі прабабалізму (прыстасавання да канкрэтнай улады, часу і месца), удзел ва уніяцкай справе. Аднак калі б у гісторыі адбылася альтэрнатыва, сёння Беларусь мела б старажытны еўрапейскі універсітэт у Полацку, а даследчыкі - унікальны архіў і кнігазборы.

***Літаратура і крыніцы:***


1. Гл.: Хоружий С.С.Карсавин и де Местр. Вопросы философии. 1989, №3. С.79.
2. Яковенко С. Иезуиты в России. "Записки" по истории О.И. в царствование Екатерины II. Европейский альманах. М., 1991. С.154.
3. Maistre J.De Oeuvres Completes. Lyon, 1884-1887. T.XIII. S.218.
4. Падзеі з удзелам Г.Лянкевіча, славутага беларускага астранома, "былога езуіта" М.Пачобута (першага збіральніка беларускага фальклору /!/), віцэ-правінцыяла Суполкі Езуса полацкага рэктара Ст.Чарневіча, уніяцкага арцыбіскупа Я.Смагаржэўскага, Кацярыны II, Р.А.Пацёмкіна, губернатара Беларусі Э.Чарнышова добра асветлены ў ананімных запісках, напісаных на лаціне, недзе ў Полацку на прыканцы XVIII ст. Гл.: Записка о том, как было сохранено в Белоруссии общество Иисуса. Пер. с лат. Европейский альманах. М., 1991. С.163-172.
5. Polski Słownik Biograficzny. T.3. Kraków, 1937. S.68.
6. Толстой А. Римский католицизм в России. Историческое исследование. СПб., 1877. Т.2. С.185.
7. Тамсама. Дадатак №1.
8. Щебальский П.К. Виленский университет и иезуиты. Наше время. 1860, №3.
9. Катлярчук А.С. Санкт-Пецярбургскі перыяд жыцця Ж. дэ Мэстра і Полацкая езуіцкая акадэмія. Albaruthenica Petropolitano. СПб.,1997.
10. Пушкинский дом. Архив братьев Тургеневых. № 1154/14.

11. Степанов М. Ж. де Местр в России. Литературное наследство. Т.29-30. М., 1937. С.600.
12. Гл. наст. публікацыю.
13. Полное собрание законов Российской империи. Собрание второе. Т.32. № 24952.
14. Живописная Россия: Литовское и Белорусское Полесье. Сост. А.Киркор. Мн., 1994. С.323.
15. Феоктистов Е.М. Ж. де Местр в Санкт-Петербурге. Русская речь. № 27, 2 апреля 1861 г.
16. Аўтэнтычны тэкст на французскай мове захоўваецца ў РНБ Санкт-Пецярбурга. Аддзел рукапісаў. Фонд 390/7. Сабр. Яцэвіча А.П. Письмо Ж. де Местра кн. Белосельской-Белозерской 9/21 іюня 1812 г. Полоцк. 2л.
17. Герцаг Аляксандр Віртэмбергскі быў братам імператрыцы Расіі Марыі Фёдараўны.
18. Maistre R. les carnets du comte Joseph de Maistre. Livre Journal 1790-1817. Lyon - P. Emmanuel Witte, 1923. P.196.
19. Катлярчук А. Святочная культура гарадоў Беларусі XVI-XVIII стст. у кантэксце ўзаемадачыненняў Захаду і Усходу. Кантакты і дыялогі (Бюлетэнь МАБ). 1996, №5. С.21.
20. Морошкин М. Иезуиты в России с царствования Екатерины II и до нашего времени. Ч. 2. СПб., 1870. С.510. Поўны сцэнарый свята захоўваўся да 1917 г. як афіцыйная запіска Т.Бржазоўскага А.К.Разумоўскаму. Гл.: Архив Министерства народного просвещения. Д. 81 за 1812 г.
21. Падбярэскі Р. Беларусь і Ян Баршчэўскі. Шляхціц Завальня або Беларусь у фантастычных апавяданнях. Мн., 1990. С.348.
22. Тамсама, с.367.
23. Энциклопедический словарь Брокгауза и Ефрона. М., 1890. Т.5. С.122.
24. Кісялёў Г. Радаводнае дрэва. Мн., 1994. С.121.
25. Толстой А. Римский католицизм в России. С.200.
26. Богословский К. Государственное положение римско-католической церкви в России от Екатерины Великой до настоящего времени. Харьков, 1898. С.119.
27. Толстой А. Римский католицизм в России. С.62.
28. Па словах езуіта-місіянера Ф.Машэўскага, у Сібіры "паміж ссыльных вайскоўцаў усе былі іншага абраду, якіх называлі ў Расіі каталікамі ці палякамі таму, што продкі іх некалі жылі ў Кароне Польскай". Путешествие кс. Ф. Машевского из Иркутска в Нерчинск. Сибирский вестник, 1821 г.
29. Polski Słownik Biograficzny. T. 3. S.67.
30. Археографический сборник, относящийся к истории Северо-Западной Руси. Вильно, 1871. Т.5. С.114-115.
31. Маркс М. Записки старика. Віцебскі сшытак. 1996, №2. С.87-88.
32. Арлоў У., Сагановіч Г. Гісторыя Беларусі год за годам. Адкрыццё Полацкай акадэміі. Беларуская мінуўшчына. 1996, №1. С.16.

**Праект будынка Полацкага езуіцкага калегіума.**
**Гравюра з малюнка Г. Грубера. 1785 г.**



*Васіль ПУЦКО*

# АБРАЗ "УЗНЯСЕННЕ" З СЯЛА БАРАНЬ
## (АБ НЕКАТОРЫХ АСПЕКТАХ РАЗВІЦЦЯ ПОЗНЕУНІЯЦКАГА ІКАНАПІСУ)



**Сілініч. Узнясенне. 1808. Абраз з Праабражэнскай царквы сяла Барань.**

Мастацкае аблічча абразоў, выкананых на тэрыторыі Беларусі і Украіны, якія на мяжы XVIII-XIX стст. былі заняты грэка-каталіцкімі або уніяцкімі епархіямі, прадстаўляе дастаткова складаную гісторыка-культурную праблему. Яе своеасаблівасць абумоўлена ўжо супярэчнасцямі богаслужэбнага ўкладу: з аднаго боку відавочнай з'яўляецца прыхільнасць да візантыйскай праваслаўнай традыцыі, якая ў частцы захавання агульнага характару абразоў і спеваў прыкметна радніцца з рускімі старавeрамі, з другога - шырокая экспансія каталіцкай абраднасці і культуры. Прасачыць пранікненне апошняй у якасці спецыфічнага фактара аказваецца мажлівым, аднак, толькі ў пэўных аспектах - у царкоўнай архітэктуры XVIII ст. і ў агульным афармленні царкоўнага інтэр'ера (1).

Часам публіцыстычны пафас прыкметна перамяшчае акцэнты з вобласці сакральнага мастацтва ў плоскасць палітыкі і тады ўзнікае часткова гіпертрафіраванае ўяўленне аб асаблівай выключнасці уніяцкага сакральнага мастацтва (2). Гэтае сцвярджэнне, прынамсі, патрабуе дэталёвага вывучэння шырокага канкрэтнага матэрыялу ў гістарычным кантэксце. Папярэдні агляд захаваўшыхся твораў пакуль прымушае кваліфікаваць мастацкі працэс з асаблівай асцярожнасцю, пазбягаючы небяспекі выдаць пажаданае за сапраўднае (3). Амаль што пастаянна ўзнікае пытанне адносна канфесійнага асяроддзя, да якога належалі майстры і іх заказчыкі, асабліва актуальнае ў дачыненні да Магілёва і Оршы. Гэтыя аспекты паказваюць, што прадметам вывучэння павінны стаць перш за ўсё самі творы і асабліва датаваныя і падпісныя. Зыходзячы з украінскага матэрыялу, было высветлена, што развіццё сакральнага мастацтва ва унійным кантэксце на працягу XVII ст. не прывяло да асобнага існавання грэка-каталіцкай і праваслаўнай традыцый, а была

Пуцко Васіль Рыгоравіч, намеснік дырэктара па навуцы Калужскага абласнога мастацкага музея. Займаецца вывучэннем мастацтва хрысціянскага сярэднявечча і класічнага мастацтва Захаду. Аўтар манаграфіі "Русское монашество XV века" (Калуга, 1992), а таксама шэрагу артыкулаў у навуковых і навукова-папулярных выданнях.

адзіная царкоўная мастацкая культура (4). Размова ідзе пра пачатковы этап гісторыі уніі, першае стагоддзе яе існавання. Наперадзе было XVIII ст., адзначанае сваімі канкрэтнымі праявамі і ў беларускім, і ў украінскім іканапісе (5). Да якіх жа вынікаў яно прывяло там, дзе афіцыйнае існаванне уніі было перапынена ў 1839 г.?

Храналагічны рад беларускіх абразоў, якія былі выкананы на працягу канца XV-пачатку XIX стст. і складаюць каштоўнейшую частку культурнай спадчыны Беларусі, завяршае абраз "Узнясенне", выяўлены ў 1974 г. у Праабражэнскай царкве сяла Барань Аршанскага раёна Віцебскай вобласці. Гэты твор мае надпіс: "Писалъ Силинич 1808го года" (6). Згаданая царква датуецца 1704-1740 гг. і не выключана, што сувязь абраза з ёй была першапачатковай, хоць даказаць гэтае дапушчэнне практычна немагчыма. Вялікія памеры (147 x 93 см), здавалася б (гэтаксама, як і характар разнога абрамлення, якое падкрэслівае трохлопаснае завяршэнне абразовай дошкі), хутчэй сведчаць аб прызначэнні абраза для мясцовага рада іканастаса ў якасці храмавага. Аднак фактычна як сюжэт, так і ўжо адзначаныя прыкметы робяць магчымым размяшчэнне кампазіцыі і ў верхняй частцы іканастаса (у цэнтры), і ў алтары за прастолам. Такім чынам, з першых крокаў у вывучэнні твора сустракаемся з некаторай няпэўнасцю адносна функцыянальнага прызначэння. Калі ж гэта храмавы абраз, то трэба дапусціць яго перамяшчэнне ў Барань з адной з навакольных цэркваў гэтага рэгіёна.



Зелаўскі майстар. Другая палова XVIII ст.
Сашэсце Святога Духа на апосталаў.
Абраз з Троіцкай царквы сяла Зелава.

Жывапіс у цэлым вызначаецца сваім свецкім характарам, нягледзячы на тое, што сюжэт кампазіцыі адносіцца да ліку традыцыйных хрысталагічных, якія атрымалі распрацоўку на хрысціянскім Усходзе з глыбокай старажытнасці. У яго папулярнасці адыгралі вызначальную ролю дзве істотныя акалічнасці: сувязь падзей са Святой Зямлёй і эсхаталагічны характар Узнясення, якое з'яўляеца правобразам Другога Прышэсця. Першае абумовіла з'яўленне згаданай кампазіцыі на такой разнавіднасці палестынскіх яўлогій, як прызначаныя для паломнікаў свінцовыя ампулы раннесярэднявечнага часу, упрыгожаныя штампаванымі рэльефнымі выявамі (7). Другое абумовіла іканаграфічную праграму роспісаў алтарнай апсіды з яе рознымі тэматычнымі і кампазіцыйнымі варыянтамі, сярод якіх дамінуючай стала выява Хрыста ў славе (8). Наўрад ці варта пераказваць тут гісторыю развіцця іканаграфіі Узнясення згодна з візантыйскай мастацкай традыцыяй, якая канчаткова афармілася ў пасляіканаборчы перыяд (9). Асноўнымі прыкметамі кампазіцыйнай схемы тут з'яўляюцца ўзнасімы анёламі арэол з сядзячым Хрыстом і група апосталаў са стаячай у цэнтры разам з двума анёламі Божай Маці. На Захадзе, наадварот, большае распаўсюджванне атрымаў матыў узыходжання з зямлі на неба, заснаваны на літаральным разуменні евангельскага тэксту (10).

У беларускім іканапісе доўгі час утрымліваецца традыцыйная візантыйская іканаграфічная схема Узнясення, хоць і ў некалькі адаптаваным выглядзе. Гэтая мясцовая адаптацыя мела сваімі прычынамі не толькі ўздзеянні рэнесансавых узораў, але таксама зварот да разнастайных гравюрных крыніц, гэтаксама як і іх інтэрпрэтацыю ў творчасці мясцовых майстроў. Адзін з такіх прыкладаў прадстаўляе абраз сярэдзіны XVII ст. са Стэфанаўскай царквы ў Слуцку (11). Звычайная сцэна напоўнена рухам, з узмоцнена жэстыкулюючымі апосталамі, якія разам з Божай Маці глядзяць на Хрыста, што ўзносіцца. Кампазіцыя абраза-медальёна святочнага рада іканастаса Крыжаўздзвіжанскай царквы сяла Аброва Івацэвіцкага раёна Брэсцкай вобласці (1754-1757) ужо цалкам трактавана ў стылі барока, на манер побытавай сцэны: група з Божай Маці і апосталаў, якія стаяць на зямлі, звязана з маленькай лёгкай фігуркай узносячагася Хрыста хіба што толькі сюжэтам (12). Зрэшты, існаваў і трэці шлях, які характарызаваў творчасць народных майстроў-іканапісцаў, прыкладам чаго з'яўляецца іканастас з Прачысценскай царквы мястэчка Шарашова Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці, якая была ўзведзена ў 1760 г. Абразы былі напісаны чатырма мастакамі ў другой палове XVIII ст. Кампазіцыя "Узнясенне" ў складзе святочнага рада быццам бы злучае ў адно два розныя падыходы ў яе тлумачэнні, выяўляючы адначасова следаванне візантыйскай схеме і яе ўмеркаваную фальклорную інтэрпрэтацыю (13). Арэол з сідзячым Хрыстом узносяць два анёлы, апранутыя ў кароткія далматыкі заходняга тыпу. На першым плане знізу за шчыльна скампанаванай групай узвышаецца вяршыня Елеонскай гары. Такім чынам, прыведзеныя прыклады паказваюць, што ў майстроў XVII-XVIII стст. былі розныя ўзоры, якіх яны прытрымліваліся ў сваёй творчасці, калі звярталіся да тэмы Узнясення, што паспела атрымаць у Беларусі такую розную мастацкую інтэрпрэтацыю.

І ўсё ж нават ў параўнанні са згаданымі абразамі твор, датаваны 1808 г., выглядае часткова чужародным. Перш за ўсё таму, што ён здаецца абавязаным вопыту мастакоў іншага канфесійнага і, магчыма, сацыяльнага кола. Візантыйская схема саступае рэалістычнай у сваёй аснове карціне, якая прадстаўляе групу апосталаў, што абкружаюць круглявую вяршыню гары. На першым плане адлюстраваны ў некалькі манерных позах укленчаныя Божая Маці і апостал Пётр, якія карцінна жэстыкулююць. Знарочыстасць позаў уласціва і іншым персанажам, аблічча якіх робіць іх хутчэй падобнымі да герояў міфалагічных кампазіцый. На вяршыні гары, на яе халмістай плоскасці стаяць два апранутыя ў лёгкія белыя адзежыны анёлы, што выразна жэстыкулююць і ўказваюць на Хрыста, які ў чырвона-ружовым хітоне і развяваючымся сінім гіматыі, абкружаны рэльефнымі залатымі промнямі ззяння ўзносіцца на неба. Фон абраза мудрагеліста спалучае залатую паверхню з буйнымі сакавітымі спіралямі раслінных парасткаў і малочна-блакітныя аблокі, якія клубяцца. І ў гэтай дэталі праяўляецца дваістасць мастацкай мовы абраза ў цэлым, які хутчэй прадстаўляе карціну на рэлігійны сюжэт, чым абраз у традыцыйным сэнсе гэтага слова, які служыць малітоўным вобразам. Можа нават узнікнуць падазрэнне: ці не быў гэты твор першапачаткова алтарным абразом у адным з рыма-каталіцкіх касцёлаў? Што тычыцца прафесійнага ўзроўню, то ён дастаткова высокі, хоць відавочна і не набліжае абраз да шэдэўраў жывапісу свайго часу. Верхняя і ніжняя часткі кампазіцыі выглядаюць быццам бы разрозненa, што бывае часцей за ўсё ў выпадку яе "сачынення" з выкарыстаннем разнародных дэталяў. Каларыт у сваёй пабудове вельмі ўдала ўлічвае суадносіны яркіх і прыгашаных таноў. У цэлым абраз цалкам упісваецца ў кола ўзораў мастацтва ракако, якое атрымала шырокае распаўсюджванне ў Беларусі (14).

Нешматлікасць і выпадковасць твораў іканапісання таго перыяду, што захаваліся да нашага часу, могуць стварыць памылковае ўяўленне аб выключнасці апісанага абраза з Барані. Між тым, апошні відавочна адлюстроўвае пэўны стылістычны накірунак, які меў сваіх майстроў і, адпаведна, знаўцаў, бо інакш ён не быў бы выкліканы да жыцця там, дзе яшчэ нядаўна панавалі зусім іншыя эстэтычныя густы. Як вядома, існавала цэлая дынастыя магілёўскіх мастакоў Сілінічаў, да якой належалі майстры Лявон і Пётр, што працавалі ў 1765 г. (15). Вельмі верагодна, што аўтар абраза "Узнясенне" 1808 г., які не назваў сваё імя, генетычна быў звязаны з Магілёвам. Гэтая акалічнасць яшчэ больш узмацняе праблематычнасць канфесійнай прыналежнасці майстра, які, прынамсі, мог выконваць любыя заказы.

Агульны характар абраза з Барані, па сутнасці, з'яўляецца лагічным вынікам той лініі развіцця, якая дакладна акрэслівалася ў мастацтве італьянскага Адраджэння. Варта ўспомніць хоць бы кампазіцыю пэндзля П'ера Антоніа Палмерыні (1527-1528), якая знаходзіцца ў царкве Спаса ў Дуброўніку, з экзальтаванымі апосталамі, анёламі, якія лунаюць над Елеонскай гарой, і фігурай Хрыста, што хаваецца ў воблаку (16). Або кальцавую кампазіцыю выкананага Карэджа роспісу купала царквы Сан Джавані Эванджэліста ў Парме, якая ўбачана быццам бы знізу (17). Пасля такіх мастацкіх хітрыкаў празаходнія кампазіцыі Узнясення работы ўкраінскіх і беларускіх майстроў XVIII ст. выглядаюць дастаткова строгімі і прыкметна набліжанымі да традыцыйнай візантыйскай схемы. Прыкладам гэтага можа служыць, у

прыватнасці, абраз у Кастайніцы, які ў 1759 г. выйшаў з майстэрні Васіля Рамановіча (18). Яго ў пэўнай меры можна разглядаць як папярэдніка цікавячага нас твора ў тым плане, што тут ужо паспелі вызначыцца асноўныя элементы: узбуджаныя бачаным апосталы, анёлы ў белым адзенні, якія тлумачаць ім сэнс таго, што адбываецца, і Хрыстос, што ўзносіцца на неба, абкружаны аблокамі, якія клубяцца. Гэтыя назіранні дазваляюць яшчэ раз упэўніцца ў тым, што адаптацыя заходніх узораў наўрад ці менш актыўна адбывалася ў праваслаўным, чым ва уніяцкім асяроддзі на працягу ўсяго XVIII ст., вынікі чаго атрымаў у спадчыну пачатак XIX ст.



Зелаўскі майстар. Другая палова XVIII ст. Благавешчанне. Абраз з Троіцкай царквы сяла Зелава.

Адзначаную з'яву, якая прасочваецца на прыкладзе апісанага абраза "Узнясенне", натуральна, нельга лічыць лакальнай, а тым больш абавязанай толькі індывідуальнай творчасці канкрэтнага майстра. Яна прадстаўляе адну са стылістычных плыняў, якія прасочваюцца ў іканапісанні Беларусі на працягу другой паловы XVIII ст. Ці не аб гэтым жа сведчыць блізкі па памерах (127,5 х 87,5 см) абраз "Сашэсце Святога Духа на апосталаў" пэндзля зелаўскага майстра з Троіцкай царквы сяла Зелава Драгічынскага раёна Брэсцкай вобласці? Яго кампазіцыя таксама шматфігурная, з пазалочаным арнаментаваным фонам і трохлопасным завяршэннем, якое ствараецца рэльефным абрамленнем (19). Візантыйская графічная традыцыя гэтага сюжэта мае сваю дастаткова складаную і вельмі цікавую гісторыю, старонкі якой ужо даўно сталі прадметам спецыяльнага вывучэння (20). Больш за ўсё прыцягвала ўвагу выява "народаў", якой тут няма, але затое апосталы разсаджаны на лаўках паўколам у два рады і сярод іх Божая Маці з крыжападобна складзенымі на грудзях рукамі. Некаторыя з апосталаў (дакладней, большасць з іх) з малітоўна складзенымі рукамі ў характэрным жэсце злучэння далоняў перад грудзямі згодна з каталіцкай традыцыяй. Прынамсі, і сама прадстаўленая тут схема кампазіцыі мае сваім далёкім прататыпам помнікі, блізкія да мініяцюры лацінскай "Псалтыры" XIII ст. цюрынгскага ландграфа Хермана, якая захоўваецца ў Штутгарце. Зелаўскі абраз відавочна апасродкаваны нейкім хутчэй за ўсё нямецкім рэнесансавым узорам і, магчыма, шэрагам яго паўтораў, якія данеслі да беларускага мастака толькі саму схему, прадаставіўшы яму поўную свабоду ў трактоўцы вобразаў. І ён шырока карыстаўся гэтым, тонка перадаючы мясцовыя этнічныя тыпы. Калі непасрэднай крыніцай паслужыла гравюра (што цалкам верагодна), яе роля ў развіцці уніяцкага іканапісу атрымлівае яшчэ адзін канкрэтны прыклад, прычым, у плане радыкальнага пераасэнсавання запазычанага звонку. Стрыманая зялёна-срабрыстая гама з уключэннямі кінавары не пакідае сумненняў у прыналежнасці майстра да дэмакратычнага накірунку ў мастацтве тых дзесяцігоддзяў, што непасрэдна папярэднічалі стварэнню абраза з Барані.

Прадукцыя зелаўскага майстра прадстаўлена яшчэ па меншай меры трыма абразамі, якія паходзяць з таго ж храма і, несумненна, вартыя манаграфічнага вывучэння. На адным з іх змешчаны выявы каржакаватых фігур апосталаў Фамы і Іаана Багаслова, якія тут захоўваюць аблічча, больш характэрнае для заходняй, чым праваслаўнай іканаграфіі (размова ідзе пра юны ўзрост апошняга і барадатага Фаму з вугольнікам у руцэ). Толькі іншымі атрыбутамі фактычна адрозніваюцца ад іх вобразы прарокаў Майсея і Данііла з абраза з амаль пакаленнай іх выявай. Зрэшты, абраз "Благавешчанне" прадстаўляе адну з бясконцых варыяцый зноў-такі шырока распаўсюджанай каталіцкай схемы, якая трывала ўвайшла ў праваслаўнае і

уніяцкае царкоўнае асяроддзе дзякуючы галоўным чынам кніжнай гравюры (21). Наўрад ці трэба падрабязна спыняцца на асаблівасцях інтэрпрэтацыі зелаўскім іканапісцам толькі часткова зразуметай ім выявы. Яна пераасэнсавана так, як гэта рабілі пераважна народныя майстры. Праўда, апошнія ішлі значна далей у плане максімальнага спрашчэння сваіх арыгіналаў. Гэта цудоўна адлюстроўваюць абразы сярэдзіны XVIII ст. з вёскі Латыгава (22), і, бадай, яшчэ больш шырока творы украінскіх майстроў-іканапісцаў таго ж і больш ранняга часу (23). Запазычваючы новыя для сябе ўзоры, яны ўсё ж такі ўсяляк імкнуліся наблізіць іх да звыклага разумення кампазіцыі і вобраза. Гэта ўдавалася не ўсім і не заўсёды з аднолькавым поспехам. У дадзеным выпадку адзначаная з'ява з'яўляецца найбольш істотнай як аспект засваення заходніх уплываў на глебе уніяцкага народнага асяроддзя, якое вылучала свае мясцовыя творчыя кадры.



Хрыстос Усеадзяржыцель.
Другая палова XVIII ст.
Абраз са Спаса-Праабражэнскай царквы сяла Хмелева.

Сёння, праз два стагоддзі, надзвычай складана (калі ўвогуле магчыма) вызначыць сапраўдныя памеры мастацкай плыні, якая цалкам адлюстроўвала імкненне максімальна паставіць уніяцкі іканапіс у залежнасць ад рыма-каталіцкіх узораў. Рэалізацыя гэтых памкненняў магла б прывесці ў канчатковым выніку да выцяснення традыцыйнага іканапіснага вобраза рэалістычным жывапісам, рэлігійным па сюжэтах і свецкім па сваім агульным характары. Гэта значыць, з большым спазненнем паўтарылася б тое, што ўжо адбылося ў свой час у італьянскім Адраджэнні з другой паловы XIV ст. (24).

Аднак, думаецца, нешта падобнае наўрад ці магло адбыцца ў Беларусі другой паловы XVIII ст. хоць бы ўжо таму, што перапрацоўка заходніх крыніц у асноўным адбывалася не столькі на элітарным узроўні, колькі ў дэмакратычным асяроддзі. Такім чынам, уніяцкі іканапіс атрымліваў звонку толькі пэўныя імпульсы, якія былі здольныя часамі ўдыхнуць свежы струмень, аднак надта слабыя для таго, каб у вельмі кароткія тэрміны рэфармаваць мясцовыя традыцыі ў цэлым. Пра тыповыя прыклады адаптацыі еўрапейскіх мадэляў на мясцовай глебе мы ведалі раней, у прыватнасці, дзякуючы абразам работы майстра канца XVIII ст. Рыгора Мядзвецкага у Журавічах (25). Безумоўна, былі ва уніяцкіх храмах узнаўленні абразоў, якія карысталіся пашанай у рыма-каталіцкім асяроддзі, і, магчыма, адным з іх з'яўляецца абраз "Пакроў", датаваны 1797 г., з Успенскай царквы сяла Бусяж Івацэвіцкага раёна Брэсцкай вобласці (26). Яго агульная іканаграфічная схема паўтарае заходні тып, які атрымаў шырокую папулярнасць у Польшчы (27). Пафарбаваная ў жоўты колер фігура Божай Маці-царыцы (у кароне) відавочна імітуе ювелірнае ўпрыгожанне свайго ўзору, пра паходжанне якога не цяжка меркаваць ужо на падставе аналізу складу прадстаячых у маленні (уключаючы лацінскага епіскапа і каталіцкіх манахаў з павыстрыганымі танзурамі). Можна дапусціць, што не з уніяцкага, а хутчэй за ўсё з праваслаўнага асяроддзя выйшаў абраз "Цар Цароў Прадста Царыца", датаваны 1791 г., з рэгіёна Мінска (28). Апошні, наадварот, арыентаваны на рускі ўзор або на ўсходнеўкраінскі, што, можа быць, нават больш

верагодна. Гэтыя адзінкавыя прыклады калі і не могуць у цэлым прасвятліць агульную сітуацыю ва уніяцкім мастацкім асяроддзі мяжы XVIII-XIX стст., то дазваляюць адчуваць сляды быццам бы перакрыжаваных уплываў. Такія факты больш адчувальныя толькі ў тым выпадку, калі яны ў цэлым не ўпісваюцца ў кола звыклых з'яў, тыповых для мясцовага мастацкага асяроддзя.

Калі задаць сабе пытанне, што менавіта больш за ўсё вылучае уніяцкае іканапісанне Беларусі каля 1800 г., то, відаць, варта было б на яго адказаць, што гэта яскрава вызначаны традыцыяналізм у спалучэнні з фальклярызацыяй сакральнага вобраза. Магчыма, што ў гэтай фармулёўцы відавочна не ўлічаны розныя нюансы, якія характарызуюць жывую мастацкую творчасць, аднак іх адлюстраванне наўрад ці магчыма ў адной кароткай фразе. Мы ўсведамляем тое, што ўведзеныя ў навуковы ўжытак творы беларускага іканапісу канца XVIII-пачатку XIX стст. адлюстроўваюць далёка не ўвесь спектр лакальных з'яў, і, такім чынам, застаецца дастаткова месца для пажаданых удакладненняў і паправак (29). У той жа час нельга ігнараваць той факт, што найбольш тыповымі былі іканастасы тыпу таго, які паходзіць з Прачысценскай царквы Шарашова (30), і што абраз "Хрыстос Уседзяржыцель" другой паловы XVIII ст. са Спаса-Праабражэнскай царквы сяла Хмелева Жабінкаўскага раёна Брэсцкай вобласці (31) і да яго падобныя самым непасрэдным чынам генетычна звязаны са спадчынай папярэдніх стагоддзяў. Значыць, роля мастацкага вобраза, які ўзыходзіць да дауніяцкага перыяду, заставалася захоўваючай сваё значэнне. Інакш здарылася б тое, што адбылося ў царкоўным мастацтве XVIII ст. у Расіі. Там аналагічнае становішча захоўвалася толькі ў тых выпадках, калі заказчыкамі былі выхадцы са стараверскага асяроддзя, а не еўрапеізаваная арыстакратыя, якая ў значнай ступені згубіла разуменне асноў традыцыйнага іканапісання. Не толькі Пецярбург, але і расійская правінцыя ў згаданы час стракаціць іканастасамі з кампазіцыямі "італьянскага жывапісу".

На фоне згаданых узораў беларускага іканапісу другой паловы XVIII ст. абраз "Узнясенне" з Барані, датаваны 1808 г., як можна бачыць, успрымаецца некалькі адасоблена, хоць і не зусім ізалявана. Празаходнія тэндэнцыі адзначаных твораў тычацца галоўным чынам іканаграфіі і толькі часткова закранаюць дастаткова глыбока стыль. Гэта стварае кантраст у адносінах да праваслаўнага і каталіцкага рэлігійнага жывапісу мяжы XVIII-XIX стст., якія даюць значна больш кропак судакранання, на маскоўскай глебе ўжо з канца XVII ст. Пры такім стане рэчаў міжволі ўзнікае відавочна неўразумелае пытанне: дык чым жа, уласна кажучы, адрозніваўся позднеуніяцкі іканапіс ад праваслаўнага? Калі сюжэтамі, іканаграфічнымі схемамі, то іх дастаткова было і ў арсенале тых майстроў, праваслаўе якіх не падлягала сумненню. Варта згадаць хаця б "Каранаванне Божай Маці", уключанае нават у склад іканастаса. Ці не ўмеркаваным візантынізмам у спалучэнні з элементамі еўрапейскіх мастацкіх стыляў? Безумоўна, былі і больш шырокія іканаграфічныя запазычанні ў католікаў, якія прасочваюцца, у прыватнасці, ва уніятаў на Валыні (32). У Беларусі, падобна на тое, не захавалася ад іх бачных слядоў, як і ад многіх іншых з'яў,і гэта моцна абцяжарвае меркаванне пра агульны характар позднеуніяцкага іканапісу. Адпаведна, часам цяжка зразумець, чым канкрэтна была выклікана замена старых вобразаў новымі, "сінадальнымі". Хіба тым, што яны былі мала падобнымі на акадэмічны жывапіс?

Агульны характар позднеуніяцкага іканапісу Беларусі, здавалася б, можна разглядаць як цалкам пэўны, канкрэтны вынік развіцця на перакрыжаванні культурных традыцый на працягу XVI-першай трэці XIX стст. Аднак пакуль можам у лепшым выпадку толькі вызначыць яго некаторыя аспекты. Гэта, зразумела, надта мала для таго, каб мастацкую спадчыну лічыць зразуметай і ў той жа час дастаткова, каб зрушыцца з мёртвай кропкі і пазбегнуць па магчымасці памылковых меркаванняў. У справе вывучэння уніяцкага мастацтва згублена надта многа часу, і тое, што дастаткова было толькі зафіксаваць, цяпер прыйдзецца вызначаць цаной вялікіх намаганняў. Аднак ў гэтым ёсць неабходнасць і аб'ектыўны сэнс.

***Пераклад з рускай мовы.***

***Літаратура і крыніцы:***

1. Kowalczyk J. Latynizacja i okcydentalizacja architektury greckokatolickiej w XVIII wieku. Biuletyn Historii Sztuki. R. XLII. 1980. № 3/4. S.347-362; Шаставец У. Уніяцкая бажніца: што ўсярэдзіне? Віцебскі сшытак. 1996, № 2. С.9-11.
2. Мамчыц С. Апалёгія вуніі. Унія. №1, 1990. С.22-28.
3. Пуцко В.Г. Иконопись Белоруссии XV-XVIII вв. в контексте восточноевропейского сакрального искусства византийской традиции. Наш радавод. Кн. 4. Ч. 1. Гродна, 1992. С.60-69.
4. Biskupski R. Sztuka kościoła prawosławnego i unickiego na terenie przemyskiej w XVII i pierwszej połowie XVIII wieku. In: Polska-Ukraina 1000 lat sąsiedstwa. T. 2. Przemyśl, 1994. S.357-370; Александрович В. Релігійна мистецька культура України XVII століття: нова релігійна ситуація, нове мистецтво. У кн.: Берестейська унія і українська культура XVII століття. Львів, 1996. С.129-143.

5. Высоцкая Н.Ф. Жывапіс (станковы жывапіс). У кн.: Гісторыя беларускага мастацтва. Т.2. Мінск, 1988. С.262-279; Жолтовський П.М. Український живопис XVII-XVIII ст. Київ, 1978. С.67-117.
6. Высоцкая Н.Ф. Іканапіс Беларусі XV-XVIII стагоддзяў. Мінск, 1994, №139.
7. Graber A. Ampoules de Terre Sainte (Monza-Bobbio). Paris, 1958; Weitzmann K. "Loca Sancta" and the Representational Arts of Palestine. Dumbarton Oaks Papers. Vol. 28. Washington, 1974. P.43-44, fig. 26-31.
8. Van Der Méer F. Maiestas Domini. Théophanies de l'Apocalypse dans l'art chrétien. Roma-Paris, 1938; Ihm Chr. Die Programme der christlichem Apsismalerei vom vierten Jahrhundert bis zur Mitte des achten Jahrhunderts. Wiesbaden, 1960.
9. Dewald E.T. The Iconography of the Ascension. American Journal of Archaeology. Vol. XIX. 1915. P.277-319; Schiller G. Ikonographie der christlichen Kunst. Bd. 3. Güterloh, 1971. S.165-249.
10. Падрабязней гл.: Жебелев С. Иконографические схемы Вознесения Христова и источники их возникновения. У кн.: Сборник статей, посвященных памяти Н.П.Кондакова. Прага, 1926. С.1-14.
11. Высоцкая Н.Ф. Іканапіс Беларусі XV-XVIII стагоддзяў, №33.
12. Высоцкая Н.Ф. Тэмперны жывапіс Беларусі канца XV-XVIII стагоддзяў у зборы Дзяржаўнага мастацкага музея БССР. Каталог. Мінск, 1986. С.115, 118, №55.
13. Тамсама, с.159, №103.
14. Гл.: Кулагин А.Н. Архитектура и искусство рококо в Белоруссии. (В контексте общеевропейской культуры). Минск, 1989.
15. Высоцкая Н.Ф. Материалы к истории станковой живописи Белоруссии XVI- XVIII веков: Датированные произведения. Мастера. Музей. Вып. 4. М., 1983. С.177, №№ 166-167.
16. Глигорийевич М. Пьер-Антонио Палмерини. Зборник за ликовне уметности. Кн. 7. Нови Сад, 1971. С.62-63, сл. 1; Prijatel K. Uz nove restauratorske zahvate u Trogiru i Dubrovniku. Prilozi povijesti umjetnosti u Dalmaciji. Sv. 25. Split, 1985. S.188-192.
17. Дворжак М. История итальянского искусства в эпоху Возрождения. Курс лекций. Т. П. М., 1978. С.68-69, табл. 42.
18. Давидов Д. Украјнски утицаји на српску уметност средине XVIII века и сликар Василије Романович. Зборник за ликовне уметности. Кн.5. Нови Сад, 1969. С.126, сл. 7.
19. Высоцкая Н.Ф. Іканапіс Беларусі XV-XVIII стагоддзяў, №126.
20. Грабар А. Иконографската схема на Петдесетница. У яго кн.: Избрани съсинения. Т. 1. София, 1982. С.207-220, табл. 98-110.
21. Высоцкая Н.Ф. Іканапіс Беларусі XV-XVIII стагоддзяў, №№ 127-129.
22. Шчакаціхін М.М. Матэр'ялы да гісторыі беларускага малярства 18 сталецьця: Збор Віцебскага Аддзяленьня Беларускага Дзяржаўнага Музэю. Віцебшчына. Т. 1. Віцебск, 1925. С.26-36; Т. 2. Віцебск, 1928. С.147-167; Крукоўскі У. Чорная скрынка. Спадчына. 1996, №2. С.118-155; Пуцко В. Абразы з вёскі Латыгава: архаічныя тэндэнцыі ў беларускім іканапісе сярэдзіны XVIII ст. Віцебскі сшытак. 1996, N2. С.72-82; Вакар Л. Барочная экспрэсія народнага абраза (стылістычны аналіз абразоў з вёскі Латыгава). Тамсама, с.83-86.
23. Свенціцька В. І., Откович В.П. Українське народне малярство XIII-XX століть. Київ, 1991.
24. Падрабязней гл.: Skubiszewska M. Malarstwo Italii w latach 1250-1400. Warszawa, 1980.
25. Шчакаціхін М. Рыгор Мядзьвецкі - невядомы беларускі маляр канца XVIII сталецьця. Запіскі Аддзелу гуманітарных навук. Кн. 6 (Працы Камісіі гісторыі мастацтва. Т. 1, сшытак 1). Менск, 1928. С.183-187.
26. Высоцкая Н.Ф. Тэмперны жывапіс Беларусі канца XV-XVIII стагоддзяў, с.176-178, №111; яна ж. Іканапіс Беларусі XV-XVIII стагоддзяў, №137.
27. Gębarowicz M. Mater Misericordiae - Pokrow - Pokrowa w sztuce i legendzie Środkowo-Wschodniej Europy. Wrocław-Warszawa-Kraków-Gdańsk-Łódź, 1986.
28. Высоцкая Н.Ф. Іканапіс Беларусі XУ-XVIII стагоддзяў, №138.
29. Паводле тых дадзеных, што мы маем, шмат познеуніяцкіх абразоў, тады амаль нікога не цікавіўшых, было сфатаграфавана Валянцінам Ждановічам, зараз нябожчыкам, вялікім майстрам сваёй справы, і гэтая фотафіксацыя, несумненна, уяўляе вялікую цікавасць для будучых даследчыкаў матэрыялу.
30. Высоцкая Н.Ф. Тэмперны жывапіс Беларусі канца XV-XVIII стагоддзяў, с.141-169, №№74-104.
31. Тамсама, с.169-170, №105; яна ж. Іканапіс Беларусі XV-XVIII стагоддзяў, №136.
32. Ім прысвечаны падрыхтаваны да друку наш артыкул: Західні іконографічні мотиви у волинському бароковому іконописі XVII-XVIII ст.

*Людміла ВАКАР*

# СПРЭЧКІ ПРА ІВАНА ХРУЦКАГА

*Рэцэнзія на артыкул С.А.Кузняцова "Художник Иван Хруцкий. Проблема интерпретации творчества "среднего художника" XIX в." Вопросы отечественного и зарубежного искусства. Вып.4. Проблемы изобразительного искусства XIX столетия. Л., 1990.*

Творчасці Івана Фаміча Хруцкага прысвечана настолькі мала даследаванняў, што кожная новая праца выклікае цікаўнасць і не можа застацца па-за ўвагай. Прадчуванне адкрыцця і адначасова дзіўная насцярожанасць з'явіліся з першых хвілін знаёмства са зборнікам "Проблемы изобразительного искусства XIX столетия", дзе змешчаны артыкул С.А.Кузняцова "Художник Иван Хруцкий. Проблема интерпретации творчества "среднего художника" XIX в.". Зборнік выдаў у 1990 годзе Санкт-Пецярбургскі універсітэт. Нарэшце ў расійскім мастацтвазнаўстве з'явілася патрэба разглядзець творчасць І.Хруцкага саму па сабе, а не ў якасці акампанементу да акадэмічнай ці венецыянаўскай традыцый, ды і нагода найлепшая - з'ява бідэрмаера і яго ўзоры ў Расійскай імперыі. Але што за праблема творчасці "сярэдняга мастака"? Што за новая тыпалогія? Напачатку ўзнікае суцяшальная асацыяцыя з паняццем "малыя галандцы", бо аўтар сцвярджае, што тэрмін гэты не зневажальны. Толькі з яго вытлумачэння нельга выбраць нічога станоўчага. Аўтар вызначае, што з'ўленне "сярэдняга мастака" звязана з пашырэннем мастацкага попыту, з патрэбамі новага спажыўца з больш нізкіх слаёў грамадства, які таксама атрымлівае тоеснае вызначэнне "сярэдні глядач". Адпаведна логіцы, трэба разумець, што аўтар мае ва ўвазе складванне буржуазна-мяшчанскага асяроддзя, якое было сацыяльнай глебай для развіцця мастацтва бідэрмаера, і глыбока прааналізавана ў гэтым жа зборніку ў артыкуле Ю.А.Тарасава.

Эстэтычны прагматызм мастацтва гэтага часу заклаў асновы рэалізму ў краінах Цэнтральнай і Заходне-Паўночнай Еўропы. С.Кузняцоў гэтыя працэсы імкнецца апісаць у негатыўных танах, прычым пафасна выкрывае здраду "сярэдняга мастака" вялікім мэтам акадэмічнай школы. Дэмакратызацыя тэматыкі, жанравай іерархіі, змена эстэтычнай асновы выяўленчага мастацтва, пераход ад перадачы фабулы да сузірання, выяўлення быцця - усе гэтыя сутнасныя і станоўчыя прыкметы новага мастацтва застаюцца па-за ўвагай даследчыка. Актуалізуецца праблема заняпаду вялікага стылю і з гэтай пазіцыі выносіцца прысуд. Трэба адзначыць, што такі падыход ператварае гісторыка мастацтва ў крытыка, бо цалкам пазбаўляе яго рэтраспектыўнай дыстанцыі і аб'ектыўнасці аналізу. Складваецца ўражанне, што артыкул напісаны ў XIX стагоддзі зацятым адэптам акадэмічнага мастацтва, хоць аўтар часам і ўжывае паняцце акадэмізму ў адмоўным сэнсе. Часам С.Кузняцоў пярэчыць сам сабе. Прыкметамі вялікага мастацтва даследчык лічыць наяўнасць розных "інтэлектуальных рэбусаў", шматзначных сімвалаў, гістарычных алегорый, кампазіцыйнай арыгінальнасці і ... нявыказанасці складанага сюжэта. Што ж гэта за вялікае мастацтва, якое не набліжае да спасціжэння ісціны? Даследчык засяроджваецца на аналізе пераважна зместу, а не формы, што зноў-такі з'яўляецца прэрагатывай мастацкай крытыкі, а не гістарычнага мастацтвазнаўства.

Асноўныя крытэрыі, якімі кіруецца даследчык у вызначэнні "сярэдняга мастака" - гэта эпігонства, тыражыраванне ўдалых матываў на заказ і адсутнасць уласнай "вялікай карціны". Тэхнічнае майстэрства таксама з'яўляецца прыкметай "сярэдняга мастака" і таксама выклікае абурэнне крытыка. Па ўсім бачна, што заяўленыя кропкі адліку ў аналізе не з'яўляюцца асновай гісторыка-мастацтвазнаўчага і тыпалагічнага метадаў, а хутчэй рэхам даўняга стаўлення да мастацтва бідэрмаера. У літаратуры яшчэ 1960-х гадоў было прынята пісаць пра яго як пра мастацтва, якое "сцвярджала побыт і духоўны свет *сярэдняга* абывацеля з вузкім колам невялікіх думак, пачуццяў і вартасцяў" (1). З таго часу ўжо адбылося пераасэнсаванне нямецка-аўстрыйскага мастацтва 1815-1848 гадоў, прычым, знойдзены яго паралелі з расійскім (2) і сфармуляваны асаблівасці эстэтыкі.

У якасці "сярэдніх мастакоў" С.Кузняцоў згадвае прозвішчы Ф.А.Моллера, А.В.Тыранава, Ф.А.Бруні (праз два абзацы Ф.А.Бруні вызначаецца як "буйны майстар"), але ўся крытычная моц скіроўваецца на творчасць І.Хруцкага, робіцца яе падрабязны аналіз, які не ўражвае праніклівасцю. Аўтар добра перапрацаваў бібліяграфію, але аказваецца не ў стане пазбавіцца ад састарэлых стэрэатыпаў. Трэба адзначыць, што

Вакар Людміла Уладзіміраўна, кандыдат мастацтвазнаўства, выкладчык кафедры беларускай літаратуры і культуры Віцебскага дзяржаўнага універсітэта. Займаецца праблемамі інсітнага мастацтва і народнай культуры Беларусі. Аўтар шэрагу артыкулаў у навуковых і навукова-папулярных выданнях.

негатыўнае вытлумачэнне творчасці І.Хруцкага мае ўжо пэўную традыцыю ў расійскім мастацтвазнаўстве. Яна акрэслілася ў працах Т.Аляксеевай (3), якая выкрыла "павярхоўна- дэкаратыўны" акадэмізм мастака. Яе падтрымаў Ю.Гярчук (4) і раскрытыкаваў нацюрморты Хруцкага за вялікую колькасць блікаў, пышнасць і арыентацыю на жывапіс Снейдэрса. Крытыка вялася паралельна з "адлучэннем" Хруцкага ад рускай школы, увесь час падкрэслівалася яго арыентацыя на заходне-еўрапейскае мастацтва, беларуска-польскае паходжанне, набліжанасць да віленскай школы. У 1989 годзе было выдадзена фундаментальнае даследаванне І.С.Балоцінай "Проблемы русского и советского натюрморта" (5), дзе падрабязна разглядалася школа Венецыянава, акварэлі Ф.Талстога, вобраз рэчы ў творчасці К.Брулова, А.Іванова, П.Фядотава, але адсутнічае раздзел пра заснавальніка акадэмічнага нацюрморта І.Хруцкага. У тэксце шмат купюр, і дадзенае скарачэнне гісторыі расійскага мастацтва трэба аднесці на сумленне складальніка, а не аўтара, якой на час выхаду кнігі ў свет ужо не было. Пэўна, артыкул С.Кузняцова трэба ўспрымаць лагічным завяршэннем прац па занядбанню заслуг і памяці майстра.

Увесь час раздражняе вольнае стаўленне даследчыка да біяграфіі мастака і няведанне альбо ігнараванне рэалій асяроддзя, з якога выйшаў творца. Хруцкі вызначаецца палякам, які нарадзіўся на Беларусі і прайшоў "тыповы для беларускіх і літоўскіх мастакоў шлях" у набыцці першапачатковай адукацыі ў Вільні (што не мае пацвярджэння), якую далей удасканальваў у Пецярбургскай Акадэміі мастацтваў. Тут, паводле С.Кузняцова, ён далучыўся да вырашэння вялікіх мастацкіх мэтаў, але не меў значнага поспеху і вярнуўся на радзіму, дзе ажаніўся і канчаткова ператварыўся ў мастака бідэрмаера. З пазіцый пецярбургска-цэнтрысцкага погляду на свет гэтыя высновы маюць сваю логіку. Я не ведаю ніводнага тэкста пра знанага мастака, у якім на самым пачатку так лёгка перакрэсліваецца ўся яго спадчына. Відавочна, што аўтар не даследуе творчасць Хруцкага, а на яе матэрыяле даводзіць апрыёрна распрацаваныя высновы.

Біяграфія мастака поўніцца не толькі "тыповымі сітуацыямі і шляхамі". Без уніклівага вывучэння яе факталогіі эвалюцыя мастака застаецца нераскрытай. Іван Фаміч Хруцкі (27.01.1810 - 13.01.1885) нарадзіўся ў сям'і уніяцкага святара ў мястэчку Ула Лепельскага павета Віцебскай губерні. Менавіта уніяцкае паходжанне падкрэслівае яго беларускасць, вызначае калізіі лёсу, ментальнасць і творчую індывідуальнасць мастака. Ягоная жыццёвая сітуацыя выдатна акрэслена ў артыкуле І.М.Паньшынай і А.К.Рэсінай да альбома-каталога мастака (6). І.Хруцкі быў сынам апальнага уніяцкага святара, які не прымаў рэформаў І.Сямашкі па скасаванню дадзенай канфесіі. Каб ратаваць бацьку і сваю сям'ю, І.Хруцкі вымушаны быў выконваць заказы Сямашкі.

Найперш трэба спыніцца на этапе фарміравання І.Хруцкага як асобы і творцы. С.Кузняцоў паўтарае непацверджанае меркаванне пра навучанне І.Хруцкага ў Яна Рустэма. Мастак атрымаў класічную адукацыю ў Полацкім ліцэуме піяраў, які прыраўноўваўся да універсітэта. На пачатку XIX стагоддзя на Беларусі дзейнічалі два мастацкія цэнтры: Віленскі універсітэт і Полацкі езуіцкі калегіум, пераатвораны ў 1812 годзе ў Акадэмію езуітаў, а ў 1820 годзе - у ліцэум піяраў. Аснову полацкай мастацкай школы заклаў вядомы аўстрыйскі архітэктар і мастак Габрыэль Грубер. У 1788 годзе ён пабудаваў пры калегіуме трохпавярховы будынак для музея, карціннай галерэі і тэатра, упрыгожыў залы фрэскамі, напісаў шмат твораў на рэлігійную тэматыку, стварыў архітэктурныя краявіды і дэкарацыі з барочна-класіцыстычнымі архітэктурнымі формамі (7). У музеі быў вялікі збор твораў Сымона Чаховіча (8), які атрымаў адукацыю ў Рыме. Навучальныя праграмы ліцэума спрыялі засваенню эстэтыкі класіцызму. Ліцэй меў выдатныя залы для малявання. Менавіта ў Полацку Хруцкі, як і яго папярэднікі Ф.Талстой, В.Ваньковіч, К.Бароўскі, Т.Бычкоўскі, Р.Слізень (9) набыў трывалыя асновы малявання. Дакладны малюнак вылучае ўсе творы мастака і з'яўляецца асаблівасцю яго пластычнай мовы. Гэтая падрыхтоўка дазволіла яму ў Пецярбургу самастойна працягваць навучанне мастакоўскаму рамяству праз капіраванне еўрапейскага жывапісу ў Эрмітажы, праз прыватныя ўрокі Джорджа Доу (10) і праз заняткі ў Акадэміі мастацтваў у статусе вольнага слухача (11). Працаздольнасць і талент прынеслі яму прызнанне і славу. У 1836 годзе за нацюрморт "Кветкі і плады" ён атрымаў вялікі срэбны медаль Акадэміі мастацтваў, у 1838-м за нацюрморт і партрэт "Старая, якая вяжа панчоху" - малы залаты медаль, а ў 1839 годзе за шэраг карцін пейзажнага, партрэтнага і нацюрмортнага жанраў - званне акадэміка (12).

Дадзеныя факты паспяховага творчага росту Хруцкага С.Кузняцоў класіфікуе як "імітацыю майстра". Сваю выснову ён робіць на падставе таго, што мастак не напісаў "вялікай карціны", як тое зрабіў А.А.Іваноў. Толькі наяўнасць "шматслойнага па зместу праграмнага палатна", на яго думку, можа даць права на званне акадэміка. Добра, што так ужо не лічылі члены акадэмічнага савета, што, дарэчы, сведчыць пра адпаведнасць творчасці Хруцкага працэсу дэмакратызацыі эстэтычных густаў у грамадстве і яго вышэйшых мастацкіх інстытутах.

Узяўшы за ўзор біяграфію А.А.Іванова і яго метад працы, С.Кузняцоў адпаведным чынам аналізуе творчасць І.Хруцкага. Работы 1830-х гадоў даследчык разглядае як паэтапную працу над ненапісаным шэдэўрам, варыянтам якога прапануецца лічыць "Партрэт невядомай з кветкамі і садавінай" (1838). С.Кузняцоў мяркуе, што гэта і ёсць нацюрморт "Кветкі і плады", які разам з партрэтам "Старой, якая вяжа панчоху" прынеслі майстру малы залаты медаль. Арыгінальная думка, але усё ж такі ўласцівыя для таго часу ўзаемаўплывы жанраў не былі настолькі неабмежаванымі, каб кампазіцыі з чалавечай постаццю даць назву нацюрморта. Усе папярэднія партрэты з жаночымі вобразамі і нацюрморты С.Кузняцоў разглядае як этапы працы над дадзенай кампазіцыяй. Адначасова даследчык імкнецца даказаць, што і гэтыя пошукі былі не самастойнымі, работы не дасканалымі, а іх творца - эпігонам вялікіх еўрапейскіх майстроў.

Безумоўна, пецярбургскі перыяд быў для Хруцкага часам засваення класікі. Капіраванне старых майстроў было і ёсць нормай у спасціжэнні мастакоўскага рамяства. Мэтанакіраванасць у гэтай справе дала Хруцкаму добрую школу, за што ён і атрымаў званне акадэміка. Захапленне еўрапейскай класікай было ўласціва тагачасным рускім мастакам, асабліва акадэмічнаму колу творцаў. Гэтаму спрыялі шматгадовыя стажыроўкі выпускнікоў Акадэміі мастацтваў у Італіі, што прыводзіла да пашырэння кола італьянскіх матываў і тэмаў. Як сцвярджае А.М.Макрыцкі, вышэй за ўсіх К.Брулоў ставіў Веласкеса, Гвіда, Карэджа, Рубенса і Ван Дэйка (13). Выстаўленая ў Італіі карціна К.Брулова "Апошні дзень Пампеі" мела наступную рэцэнзію: "У адной частцы карціны бачна вялічэзнасць Мікельанджэла, у другой - грацыя Гвіда, часам мастак нагадвае Рафаэля, часам здаецца, што ў ім ажыў Тыцыян." (14) Нават у знешне апазіцыйным да акадэмічнага метадзе А.Венецыянава прысутнічае значная доля ідэалізацыі, імкненне наблізіць сваіх вясковых гераінь да антычных багінь. Адначасова ўсімі ўсведамлялася патрэба вывучэння натуры, жыццёвай праўды і мастацкай пераканаўчасці. Кожны творца набліжаўся да гэтай мэты праз уласныя пошукі. Хруцкі глыбока шанаваў высокае мастацтва і імкнуўся адаптаваць італізаваныя ідэалы на паўночнай глебе. Гэта выразна прасочваецца праз жаночыя вобразы 1830-х гадоў і нацюрморты. У кожнай працы мы знойдзем спалучэнне класічнай красы і штодзённасці, гармонію і роўнасць паміж высокім і нізкім, звыклым, малым.

Жаночыя партрэты 1830-х гадоў выклікаюць асацыяцыі з карцінамі К.Брулова "Італьянскі поўдзень" і "Раніца" 1827 года, на якіх мастак напісаў партрэт італьянкі на фоне вінаграднай лазы. Гэтым Брулоў рэалізаваў памкненні рамантызму да вывучэння натуры, да стварэння вобраза рэальнага чалавека ў рэальным асяроддзі. Н.Каваленская вызначае гэтыя карціны як ідэалізаваны акадэмічны жанр і бачыць у іх парушэнне жанравай нарматыўнасці, але і вернасць эстэтыцы аб'ектыўнай красы (15). На яе думку, гэтыя працы заклалі традыцыю адмысловых кампазіцый з дзяўчынамі ў творчасці рускіх мастакоў 1850-х - 60-х гадоў. Магчыма, для Хруцкага гэтая схема таксама была нагодай для дэманстрацыі свайго жаночага ідэалу, і тут таксама гучыць тэма зліцця чалавека з прыродай, але ўсё гэта мае сваю асаблівасць. Трэба заўважыць, што Хруцкі на чатырох палотнах не проста паўтарае адзін і той жа вобраз з дробнымі зменамі, а партрэтуе адну і тую ж асобу ў розным узросце. Мастак умела перадае псіхалагічны стан мадэлі: паслухмянасць дзяўчынкі, нясмеласць падлетка, годнасць дзяўчыны і дабрыню маладзіцы. Гэта не ідэалізаваны вобраз, а вельмі блізкі да аўтара чалавек. Нездарма апошнія партрэты доўгі час лічыліся выявамі яго жонкі. Яны ўтрымліваюць не столькі сантымент адносна жаночай абаяльнасці, колькі цеплыню і любоў да мадэлі. Ідэалізаванасць вобраза ідзе ад самога жывапісу, яго класічнай ўзорнасці, дасканаласці.

У ранніх партрэтах яшчэ адчуваецца перавага малюнка і слабасць каларыту, пабудаванага на лакальнай дэкаратыўнасці. У позніх разам з лінейна-пластычнай асновай прысутнічае майстэрская светлаценевая мадэліроўка, якая змягчае дэкаратыўнае гучанне колеру, дае пачуццё матэрыяльнасці ва ўспрыняцці жаночага строю, выяўляе яго фактурнасць. Ужо ў гэтых партрэтах відавочная прыхільнасць мастака паўтараць матывы, вобразы і проста ўпадабаныя рэчы. Так бывае, калі аўтар працуе з блізкім і дарагім для сябе асяроддзем. Разам з тым уражвае разнастайнасць кампазіцыйных рашэнняў, якія і ствараюць аснову вобраза.

У "Партрэце маладой жанчыны з кошыкам" (1835) прысутнічае матыў спакусы, які ідзе не ад мадэлі, як у Брулова і іншых акадэмікаў, а ад кампазіцыйнага ракурса яе постаці, накіраванай у глыб карціннай прасторы, і адначасова павернутай да глядача. Гэтую тэму падмацоўваюць аксесуары. На плячы дзяўчына трымае паўнюткі кош вінаграду, празрыстыя ягады якога ў святле сонечных промняў ствараюць жывапісны фон для яе твару. Чырвоны шаль акцэнтуе ўвагу на статнай постаці, кошыку з пяшчотнымі кветкамі, прыгожых руках і праз цёплыя рэфлексы на твары вяртае погляд глядача да спакойных вачэй дзяўчыны, утвараючы замкнёны кампазіцыйны цэнтр палатна. На "Партрэце невядомай" (1830-я гады) жанчына напісана ў развароце 3/4 да глядача, але і постаццю, і поглядам скіравана толькі да яго. У руках яна трымае ўжо знаёмы кош з садавінай, іх рух нагадвае частаванне. У яе спакойнай красе і значнасці прачытваецца

алегорыя адорваючай прыроды, яе шчодрасць, багацце. Галава жанчыны ўпрыгожана вянком васількоў, але перад намі не сялянка і гэтае ўпрыгожванне - не этнаграфічная адзнака, а нацыянальны сімвал. У эстэтычным сэнсе ён прыгожа стасуецца з блакітам неба на пейзажным фоне, у семантычным - гэтая дэталь сцвярджае красу тутэйшую, а не паўднёвую экзотыку. Абстрагаванасць усёй кампазіцыі, пэўная яе ўмоўнасць удала спалучаюцца з засяроджанасцю мастака на дэталях, іх выпісанасці, а таксама з простасцю і натуральнасцю вобраза. Перад намі і партрэт канкрэтнай асобы, і абагулены ідэал жаночай прыгажосці.

Пры разглядзе нацюрмортаў С.Кузняцоў бязладна тусуе біяграфічныя факты, пытанні атрыбуцыі, спробы семантычнага вытлумачэння зместу, працяглыя цытаты з тагачасных газет. У выніку атрымліваецца тэкст з парушанай логікай, незавершаным аналізам твораў і, адпаведна, непадмацаванымі высновамі. З іх выходзіць, што Хруцкі не меў уласнай мастакоўскай мовы, і каб індывідуалізаваць свае творы, ён уводзіў у іх кампазіцыі арыгінальныя рэчы. У эвалюцыі мастака С.Кузняцоў вылучае тры накірункі: павелічэнне фармату палотнаў, набліжэнне да жыццепадобнасці за кошт павелічэння колькасці рэчаў і наданне творам музейнасці праз выкарыстанне асаблівых лакаў. Каб пераканаць у адсутнасці арыгінальнасці нацюрмортаў мастака, даследчык метадычна прапануе параўнаць іх з творамі яго сучаснікаў, але забывае нагадаць, што яны былі яго паслядоўнікамі.

Між тым менавіта нацюрморты з'яўляюцца творчай кухняй мастака і дэманструюць яго паступовае ўдасканаленне. Па іх бачна, што мастак болей за ўсё засяроджваецца на пытаннях светлаценевай мадэліроўкі формы, з яе дапамогай дасягае натуральнасці і маляўнічасці ў перадачы фактуры рэчаў.

Ужо ў ранніх працах Хруцкага бачна, што мастак імкнецца да пераканаўчасці ў перадачы рэчавага свету і ў стварэнні цэнтрычных, удала закампанаваных матываў, засяроджваецца на выпісванні дэталяў, набліжаных да глядача. Узорным можна назваць нацюрморт "Вінаград і садавіна" (1830-я гады), дзе ліст, болей за ўсіх набліжаны да глядача, проста зачароўвае сеткай тонкіх прожылкаў на сваёй паверхні. З першых палотнаў Хруцкага пачынае гучаць лірычная партыя асобнай дробнай дэталі, якая канцэнтруе на сябе першапачатковую ўвагу і паступова ўводзіць у нетаропкі рытм сузірання астатняй кампазіцыі. У нацюрморце "Кветкі і плады" (1836), які прынёс яму вялікі срэбны медаль, мы ўжо бачым шматпланавую кампазіцыю з па-майстэрску напісаным цэнтрам і таямнічым трэцім планам, адзначаным блікуючым сілуэтам падсвечніка. Першы план заліты натуральным святлом з вакна, якое выяўляе прыгажосць формаў разнастайнай садавіны, што раскінута па краі стала і багаццем сваіх фактур надае прывабнасць усёй карціне. Лупіна лімона спіраллю звешваецца са сталешніцы і стварае ілюзію выхаду рэчы з-за межаў палатна.

Ілюзорная прапрацоўка першага плана, яго барэльефнасць набліжае Хруцкага да традыцыі жывапісу падманак. Але ў падманках прастора карціны будуецца паралельна плоскасці палатна. Хруцкі ж будуе прастору ў глыбіню і даводзіць да пачуцця матэрыяльнай адчувальнасці жывапіс дальніх планаў. Паказальным у гэтым сэнсе з'яўляецца ўпадабаны ім маёлікавы жбан з барэльефнай ляпнінай, што размешчаны па цэнтры нацюрморта "Плады і свечка" (1830-я гады) і потым паўтараецца ў іншых творах. Яго выяўленне дае нагоду для дэманстрацыі майстэрства і адначасова ўносіць у палатно рамантычныя матывы палявання, сцэны якога адлюстраваны на яго баках. Мастак скрупулёзна перадае выявы сабак, іх аб'ёмнасць і нават цені, якія падаюць ад барэльефа на круглы бок жбана. Тут таксама вельмі актыўны першы план, які проста правакуе інтарэс глядача праз шматлікія рэчы, што размешчаны па краі сталешніцы і выходзяць па-за яе межы. Гэта і лупіна зрэзанага лімона, і касцяная ручка ларнеткі, і зламаная галінка вінаграднай лазы з ягадамі ды лістотай, і муштук з непагаслай цыгаркай ды лёгкім дымам тлеючай паперы. Усе яны раскладзены быццам бы хаатычна, але ў актыўных ракурсах, якія вядуць погляд глядача да другога плана, на ўзор прамога вугла трохкутнага арнамента. Такім чынам павернута лубяная каробка з яблыкамі, што замыкае першы план і сваімі буйнымі памерамі пераходзіць у другі. Тут пачынае дамінаваць пукаты, увесь аблеплены анімалістычнымі выявамі жбан, да якога цягнуцца з шырокаплеценага лазовага коша гронкі вінаграду. Ягады ці цалкам абліты святлом, ці свецяцца блікамі з цемры, што таксама стварае рэльефную аснову. Урэшце, цёмны трэці план, высветлены па кутах высокім белым папяровым кульком з ягадамі і медным падсвечнікам з запаленай свечкай, актыўна выходзіць на глядача праз сцябліны аўса, якія тонкімі лініямі, пачырванелымі ад цёплага полымя свечкі, сягаюць праз усю шырыню стала і зіхацяць дробным зернем над першым планам кампазіцыі. Стварыць такую гарэльефную карцінную прастору дапамагае мастаку святло, якое мае дзве крыніцы і высвечвае аб'ёмы рэчаў з дзвюх кропак, размешчаных па дыяганалі злева направа. Яго дваістая прырода - натуральная ваконнага святла і штучная ад полымя свечкі - ажыўляе адпаведна халоднымі і цёплымі рэфлексамі лакальны колер рэчаў, запальвае блікі па ўсіх гладкіх паверхнях, адцяняе матавую фактуру.

Спроба С.Кузняцова даць семантычнае вытлумачэнне нацюрморта праз выяву ларнеткі, якая прапануецца ў якасці алегорыі мастакоўскай прафесіі, выглядае вельмі надуманай і прадузятай. Аўтар зноў імкнецца

пацвердзіць сваю думку пра "сярэдні" ўзровень твораў Хруцкага. У сувязі з тым, што ларнетка здатная не толькі набліжаць, але і аддаляць назіраемыя рэчы, у мэтах чаго яе часта выкарыстоўваюць дзеці, аўтар робіць выснову пра прыкметы "інфантылізацыі рэчаіснасці" ў нацюрморце і комплекс непаўнавартасці мастака. Калі ўжо шукаць гульнёвы пачатак у дадзеным нацюрморце, то прасцей было б меркаваць, што праз ларнетку мастак прапануе глядачу ўпэўніцца ў яго віртуозным валоданні пэндзлем і бездакорным веданні натуры. Але гэта таксама суб'ектыўная думка, а што да волі, густу і ідэалаў мастака, то яны яўна прачытваюцца ў рэчах шляхецкага побыту з яго набліжанасцю да прыроды і яе даброт, звычкай да тэатральных відовішчаў, палявання і застолляў пры свечках. Для беларускай, а таксама польскай і літоўскай культур вельмі істотным з'яўляецца трываласць сармацкіх ідэалаў, якія ўдала спалучаюцца з паэтызацыяй сямейнага дабрабыту часу бідэрмаера. Нацюрморты Хруцкага таму добры ўзор.

Непаслядоўнасць абраных крытэрыяў прыводзіць С.Кузняцова да недарэчных высноў і пры аналізе нацюрморта "Плады" (1839). Калі раней даследчык папракаў мастака за яго арыентацыю на класічныя ўзоры,то зараз ён бачыць найвялікшы грэх у адступленні ад іх. Яму смешна, што геаметрычны цэнтр кампазіцыі заняты не букетам ці яшчэ якой сімвалічнай рэччу, а белым грыбам, памідорам і грашыма. Але ж карціна не развальваецца і сэнс яе не драбнее. Мастак стварыў выдатны вобраз шчодрасці і багацця тутэйшай прыроды. На сталы трох узроўняў настаўлены і накладзены ў посудзе і без яго садавіна, гародніна, грыбы, рыба, бітая птушка, малако ў жбанах і пітная вада ў графіне. Мастак ствараe дынамічнае палатно, супрацьпастаўляе і стасуе формы, ракурсы і колеравыя спалучэнні. Шмат рэчаў актыўна выходзяць на глядача: медная талерка з рыбай сваімі краямі амаль выступае з жывапіснай паверхні, над ёй навісае і зацяняе яе масіўная сталешніца, дзе раскіданыя па краі рэчы таксама імкнуцца пераадолець межы сваёй пазіцыі і выйсці на першы план. Дапамагае ім у гэтым святло, якое падае зверху і адначасова адбіваецца ад блікуючай паверхні меднай талеркі так, што ўсе рэчы другога плана аказваюцца высвечанымі ўсебакова. Асабліва ілюзорна выпісаны гарбуз з ясным контурам круглай формы і светлакаляровай мадэліроўкай паверхні. Далей яблыкі і грыбы, высветленыя больш за рэчы першага плана, проста вывальваюцца з лазовай вазы і кораба. Толькі заценены задні план з шырокім лазовым кошам і гарызантальна пакладзенымі морквамі ды вертыкалямі жбаноў, прыгожа задрапіраванымі белымі ручнікамі, супакойвае погляд глядача. Усё выпісана да адчувальнай матэрыяльнасці, заліта сонечным святлом, сабрана ва ўрачыстую пірамідальную кампазіцыю, дзе кожная дэталь каштоўная сама па сабе і ўдала стасуецца з суседнімі. Тут няма падзелу на першаснае і другаснае, вялікае і малое, галоўнае і дадатковае. Тут усё вартаснае.

У нацюрморце "Плады" акрэслена праявілася цікавасць мастака да празаічнай тэмы і яе жыццёвасці, а таксама адначасова імкненне ўзняць значнасць простага матыву да ўзроўню высокага мастацтва. Спрашчэнне вобраза не прыводзіць да зніжэння фармальна-эстэтычных асноў жывапісу. Парадокс дадзенай карціны трэба бачыць не ў адсутнасці звыклай кампазіцыйнай схемы, а ў гарманічным, бесканфліктным спалучэнні эстэтыкі высокага і простага, складанай акадэмічнай пастаноўкі і свежасці яе ўспрыняцця. С.Кузняцоў не засяроджваецца на гэтай асаблівасці таленту мастака, а бачыць толькі наяўнасць "моднай" тэмы і ўплыў творчасці Венецыянава. Калі сябе абмяжоўваць толькі тэрмінамі мастацкага рынку, то можна абысціся ў характарыстыцы прыкметнікам "модны", але каб выявіць вытокі творчасці мастака, трэба зноў узгадаць - і без іроніі - пра самастойнае вывучэнне Хруцкім галандскага жывапісу, пра яго арыгінальную якасць дасканала перадаваць фактуру натуры, пра надзённую патрэбу набліжэння мастацтва да жыцця, што ўсведамлялася не толькі Венецыянавым. Дарэчы, Венецыянаў не пісаў нацюрмортаў, ён больш быў заклапочаны ўвасабленнем прасторы, перспектывы, асяроддзя. Менавіта тут праяўляецца апазіцыя іх талентаў і творчых метадаў. Хруцкі ў вывучэнні натуры засяроджваўся на фактуры і аб'ёмах рэчаў, іх матэрыяльнасці. Венецыянаў спасцігаў рэчаіснасць праз прасторавыя дачыненні. Абодва карысталіся ў сваіх мэтах светлаценем, але Хруцкі гэта рабіў дзеля мадэліроўкі формы і фактурнай жывапіснасці, а Венецыянаў - дзеля пабудовы перспектывы. Хруцкі аперуе высветленым сілуэтам, дакладным малюнкам, ясным контурам і выпуклай формай. Венецыянаў праз святло змякчае контуры і межы формаў, каляровыя кантрасты, высвятляе глыбіню прасторы, выяўляе асяроддзе.

Абодва майстры захоўваюць узнёсласць фармальных класіцыстычных прыёмаў, але праз іх выразнасць акцэнтуюць увагу на штодзённым, звычайным, паэтызуюць простую натуру. Хруцкі арыентуецца на шляхецкую культуру, Венецыянаў звяртаецца да простанароднай тэматыкі. Хруцкі вёў дыялог са старымі еўрапейскімі майстрамі, Венецыянаў палемізаваў з пецярбургскімі акадэмікамі. Абодвух майстроў яднае яшчэ іх прывязанасць да натурнай працы, да адначасовасці вывучэння прыроды і яе творчай трансфармацыі. Адсюль у іх палотнах кранальнае замілаванне натурай, статычнасць вобраза, сузіральны быційны падыход ва ўвасабленні яго ў карціне, невыразнасць сюжэтнай асновы.

Арыентаванасць на натуру ў Хруцкага з вяртаннем на радзіму на пачатку 1840-х гадоў узрастае, што паступова ператварае яго з позняга рамантыка ў рэаліста і гэта найбольш адчувальна ў партрэтах. С.Кузняцоў не заўважае дадзенай эвалюцыі майстра, а яшчэ з большай жарсцю выкрывае ганебную на яго погляд блізкасць мастака да мастацтва бідэрмаера. Залежнасць мастака ад І.Сямашкі і яго заказаў даследчык скарыстоўвае для высноў пра рамесніцкі характар працы Хруцкага, змушанага пісаць копіі з карцін іншых аўтараў па чужым выбары.

Апроч аздаблення апартаментаў Сямашкі Хруцкі выконвае 32 партрэты асоб духоўнага звання, піша абразы для іканастасаў царквы пры архірэйскім доме, Аляксандра-Неўскага сабора ў Коўне, царквы Св.Іосіфа Абручніка ў Трынопалі, пячорнай царквы Трох Пакутнікаў у Вільні (16). Такім чынам, партрэт і сакральны жывапіс з'яўляюцца асноўнымі жанрамі, у плыні якіх рэалізуецца талент мастака пасля яго вяртання на радзіму. У беларускай традыцыі гэтыя два накірункі суіснавалі на працягу двух стагоддзяў і абумовілі стылістычную эвалюцыю жывапісу. На жаль, гэты бок дзейнасці Хруцкага застаецца нявывучаным.

У альбоме-каталозе мастака рэпрадукуецца алтарная карціна Хруцкага "Святы Казімір" (1849), які лічыўся патронам Вялікага Княства Літоўскага і святым абаронцам уніяцкага ордэна базыльянаў. Наўрад ці гэты вобраз быў замоўлены мастаку Сямашкам, праваднікам палітыкі русіфікацыі на Літве і Беларусі. Ды і хто б яго не заказаў, дадзеная праца ілюструе перш за ўсё свядомасць Хруцкага. Разам са сведчаннем яго духоўнай арыентацыі, твор дэманструе жыццёвасць барочных схемаў у мастацтве Беларусі і творчасці Хруцкага. Мастак не мог не ўлічваць барочнай эстэтыкі храмаў, для якіх пісаў свае творы. Ды і класіцызм ці рэалізм адразу б пазбавілі сакральны вобраз яго іератызму, што і адбылося ў мастацтве першай паловы XIX стагоддзя. Так што пэўны стылёвы кансерватызм дадзенага твора, абраны, магчыма, інтуітыўна, з'яўляецца паказчыкам прафесійнасці і густу майстра. Мастак тонка адчуваў эстэтыку кожнага жывапіснага жанру і лёгка спажываў мастацкія вартасці суіснаваўшых у яго часе стылёвых накірункаў.

Постаць каралевіча на карціне напісана на першым плане і вылучана з цемры ясным святлом. Казімір склаў каралеўскую карону і жазло да алтара са святой кнігай і, укленчыўшы, выразным жэстам рукі звяртаецца да абраза, што вісіць на сцяне. Суцешным адказам на запытанне трэба лічыць яўленне чатырох анёлкаў, якія разам з промнямі святла спускаюць з нябёсаў крыж і вянец пакутніка. Цярпенне - вось дабрадзейнасць хрысціянства і ... ці не галоўная якасць ментальнасці беларусаў.

Выстаўляючы Сямашку як заказчыка і сааўтара Хруцкага, С.Кузняцоў яўна перабольшвае яго ролю ў творчасці мастака. З пажадання Сямашкі, выказанага ў пісьме да Хруцкага, мець у царкве пры сваім доме як абразы, так і копіі знакамітых карцін, выснoў пра распрацоўку ім канцэпцый развіцця іканапісу рабіць нельга. Па-першае, у 1840-я гады уніяцкая канфесія ўжо была скасавана. Па-другое, ідэя сінтэзу візантыйскага абраза і алтарнай карціны да гэтага часу была рэалізавана папярэдняй двухсотгадовай традыцыяй беларускай культуры. Па-трэцяе, дадзены факт ні пра што іншае не сведчыць, як толькі пра заняпад сакральнай традыцыі і неадукаванасць І.Сямашкі.

У кароткім аналізе творчасці Хруцкага пасляпецярбургскага перыяду С. Кузняцоў вылучае некалькі жанраў: партрэт, сямейны партрэт, пейзаж, інтэр'ер. Пры характарыстыцы кожнага даследчык узгадвае імёны яго мяркуемых настаўнікаў, а таксама майстроў, жывапісу якіх, на яго думку, прыпадабняецца мастак, ці, адным словам, скарыстоўвае ўжо апрабаваную схему доказу несамастойнасці творчых пошукаў Хруцкага.

У працы з заказным партрэтам Хруцкі зноў сустракаецца з кансерватыўнай эстэтыкай. Праз яе спажыванне і пераадольванне ідзе далейшая эвалюцыя мастака. Партрэты Хруцкага вылучаюцца дакладнасцю пісьма, дэталізацыяй і фактурнасцю, а таксама вострай характарнасцю. Вяртанне на радзіму прывяло да ўзмацнення рэалістычнага пачатку яго творчасці, дэмакратызацыі тыпажу і псіхалагізму вобразаў. І гэта адбылося не без уплыву традыцыі сармацкага партрэта, эстэтыка якога была заснавана на падабенстве. Традыцыйныя схемы сармацкага партрэта трывала захоўваліся ў жывапісе і істотна адаптавалі новыя канцэпцыі партрэтнага вобраза. Парадныя партрэты уніяцкіх мітрапалітаў Іясафата Булгака і Іосіфа Сямашкі (1838) вылучаюцца пратакольнасцю аднаўлення фізіянамічных асаблівасцяў твару. Парныя партрэты мужа і жонкі Рубцовых (1840-я гады), Ромераў (1847-1849), Бямбноўскіх (1845) амаль пазбаўлены кампліментарнасці і пры ўсёй фактурнай адпрцаванасці і жывапісным майстэрстве ахалоджваюць праўдзівасцю канкрэтных вобразаў і непрыхаваным мастакоўскім аналізам натуры. Партрэты Ромераў, апроч таго, дапоўнены геральдычнымі выявамі, што красамоўна сведчыць пра наяўнасць у іх рысаў сарматызму.

Статычнасць вобраза і падкрэслена аб'ектыўнае стаўленне да сваёй мадэлі ў Хруцкага былі выпрацаваны не на ўроках Джорджа Доу, а праз метадычнае вывучэнне натуры, уласцівае для яго творчага метаду. Пры гэтым

большасць яго мадэляў мае яркі індывідуальны характар. Унутраная экзальтацыя іераманаха В.Лісоўскага (1847), дзейсная натура публіцыста і гісторыка М. Маліноўскага (1847), іранічная насмешлівасць прадвадзіцеля дваранства М. Ромера (1847) выяўлены чыста жывапісна-пластычнымі сродкамі. Пэўна, каб іх не заўважыць, С.Кузняцоў пазбягае аналізу партрэтаў. Але і пры беглым апісанні партрэта М.Маліноўскага, узятага за лепшы ўзор, ён не можа не адзначыць удалага светлацяневага кантрасту і, самае галоўнае, не можа не прызнаць яго як яркую асаблівасць творчасці Хруцкага. Каб згладзіць змушанае прызнанне, слова "асаблівасць" бярэцца ў двукоссе і ператвараецца з пазітыўнай характарыстыкі ў негатыўную, а для большай пераканаўчасці спалучаецца з зусім безпадстаўнай заўвагай пра аматарскі характар творчасці мастака і адсутнасць школы, якія, быццам бы, праяўляюцца ў скаванасці мадэлі.

Партрэт М.Маліноўскага дэманструе больш складанае за іншыя кампазіцыйнае рашэнне, у якім спалучаецца рэпрэзентатыўнасць схемы сармацкага партрэта і бідэрмаераўская схільнасць да камфорту і натуральнай непасрэднасці. Партрэтуемы крыху адсунуты ад першага плана, яго постаць падаецца ў драбнейшым маштабе з адзінкавымі элементамі інтэр'ера. Гісторык, закінуўшы нага за нагу, сядзіць у крэсле з высокай разьбяной спінкай складаных барочных формаў. Правай рукой ён абапіраецца на край стала, левая ляжыць на прыўзнятым калене і прытрымлівае кій, у гульні з якім, пэўна, бавіць час, пазіруючы мастаку. Святло падае з правага верхняга кута і высвятляе мадэль ззаду, ствараючы тым самым складаную дынамічную гульню аб'ёмаў, паверхняў і фактур. Крыху аблыселая галава пісьменніка з пукатым вялізным ілбом і буйнымі рысамі твару моцна высветлена і займае строга цэнтрычнае месца кампазіцыі. Адкрыты і ўпэўнены погляд вачэй выдае валявы характар, які тонка раскрываецца і праз дэталі касцюма, іх жывапісна-пластычнае ўвасабленне. Багаты сурдут з футрам шырока раскінуты і з-пад яго бачна модная атласная камізэлька, якая шчыльна абцягвае цела і блікуе нацягненымі ломкімі складкамі. На яе цёмным фоне белая пляма кашулі на грудзях выступае наперад і разам з чорнай хусткай акцэнтуе ўвагу на твары. У нерухомасці галавы, спыненасці погляду канцэнтруецца ўнутраная напружанасць і энергія публіцыста. Аднак моцны паток святла, што падае на твар, паступова расцякаецца па постаці і захоплівае контражурным эфектам асвятлення футра, кія і разняволеных кісцяў рук. Валадарнасць позы змякчаецца негай раскошы, сармацкая прадстаўнічасць - тонкім псіхалагізмам, светлацяневая экспрэсія - жывапісным натуралізмам.

Групавы партрэт у Хруцкага мае жанравы пачатак, але без выяўленага сюжэта, што найбольш характэрна для стылю бідэрмаера. "Сямейны партрэт" (1850) напісаны на фоне краявіду, "Партрэт сям'і Гамаліцкіх" (1850-я гады) - у інтэр'еры. У абодвух выпадках мастак размяшчае на першым плане маці з дзецьмі, якія нягледзячы на наяўнасць у руках розных рэчаў і цеснае суседства, не звязаны паміж сабой якой-небудзь падзеяй, а добрасумленна пазіруюць. Адзенне, побытавыя рэчы, само асяроддзе выпісаны дакладна, з пачуццём прыгажосці. Не дзіва, што "Сямейны партрэт" выклікае ў С. Кузняцова асацыяцыі з "Мадонай у скалах" Леанарда да Вінчы. Тэма шчасця і паўнаты жыцця гучыць пераканаўча і без залішняй сентыментальнасці. Нават у такіх творах, вельмі насычаных эмацыянальна, стрыманасць мастака пераважае - на палатне пануе краса і ўрачыстасць. У стылі бідэрмаера дзіцячы вобраз, а тым больш сямейны партрэт, часцей дэманструюць сусальную замілаванасць. У Хруцкага яны скарэктаваны праз арыентацыю на класічныя творы мастацтва.

Больш поўна бідэрмаераўскую эстэтыку ў творчасці мастака дэманструе жанр інтэр'ера. Да яго Хруцкі звярнуўся яшчэ ў Пецярбургу, калі напісаў палатно, вядомае пад назвай "Майстэрня мастака" (1830-я гады). У ім ён увасобіў сябе падчас творчай працы над нацюрмортам, але пераважную долю ўвагі аддаў фіксацыі прасторы пакоя, яго напоўненасці жывапіснымі творамі. Захопленасць светам мастацтва і станам творчасці тут спалучаецца з матывамі хатняга дабрабыту і ўтульнасці. Гэтую ж паэтызацыю рэчаіснасці сустракаем і ў інтэр'ерах 1850-х гадоў, дзе мастак перадае сваё хатняе асяроддзе ў Захарнічах.Інтэр'ерны вобраз удала спалучаецца з жанравымі сцэнкамі ціхіх дзіцячых забаў. Каштоўнасць штодзённасці, яе быційны сэнс увасабляюцца праз любоўнае выпісванне ўсіх дробных дэталяў і майстэрскую перадачу святла, што мягка ліецца з вакон у пакоі і напаўняе іх цеплынёй і ласкай.

С.Кузняцоў жа разглядае інтэр'еры Хруцкага толькі як дакументальнае сведчанне вобраза мастака і яго эстэтычных густаў. Пералік жывапісу на сценах пакояў завяршаецца высновай, што і творы мастака, і яго копіі з упадабаных карцін іншых аўтараў належаць аднаму "сярэдняму мастаку" і не маюць індывідуальнага характара. На гэта трэба заўважыць, што калі не аналізаваць мастацкі твор, то ён застаецца нераскрытым, калі не падзяляць мастацкую школу ці час на аўтараў, то яны здаюцца безаблічнымі.

Пейзажы мастака С.Кузняцовым таксама толькі згадваюцца, а не аналізуюцца, таму даследчык адзначае, што фармальна гарадскі краявід Хруцкага нагадвае кампазіцыйную будову нацюрморта з дамінаваннем вялікай архітэктурнай формы па цэнтры і падпарадкаваннем ёй дробных чалавечых постацяў. Аднак

краявіды Хруцкага, як яго нацюрморты і партрэты, ілюструюць эвалюцыю мастака ад позняга рамантызму да ранніх рэалістычных адкрыццяў. Гэта адбываецца праз захопленасць натурай, паэтызацыю штодзённасці і ўвядзенне побытавых матываў. Яго раннія краявіды "Парк Ялагіна ў Пецярбургу" (1839), "Від на Ялагінай выспе ў Пецярбургу" (1839) яшчэ дэманструюць пэўную рамантызацыю пейзажнага вобраза, цікавасць да перадачы прасторы і святла, што яе напаўняе. Эфекты незвычайнага асвятлення, што трымаюць кампазіцыю апошняга твора, дапаўняюцца постацямі дзвюх паненак, што гуляюць па алеях парка, і гэтае спалучэнне стварае ідылічнае ўражанне гармоніі паміж прыродай і чалавекам. Тэма штодзённасці, што толькі засвойвалася праз матыў павольнай хады жанчын па парку, больш моцна гучыць у краявідах "Від у маёнтку" (1847), "Ля святой мясціны" (1840-я гады), "Від Сніпішак. Прадмесце Вільні" (1840-я гады), "Кальварыйскі касцёл пад Вільняй" (1840-я гады). Хруцкі працуе над стварэннем канкрэтнага пейзажнага вобраза, пазбаўленага прыкметаў нарматыўнасці, і гэтаму служаць незвычайныя прасторавыя рашэнні, дэталёвы малюнак рэльефа, архітэктурнага збудавання. Карціны напоўнены сонечным святлом, якое прыносіць адчуванне радасці, урачыстасці. Яго краявіды напоўнены людзьмі, стафажная дробнасць іх постацяў не засланяе сабой галоўнай тэмы і асаблівасцяў жанру - прасторавых дачыненняў, а падкрэслівае іх эпічны, панарамны характар. Адначасова гэтая засвоенасць прыроды чалавекам уносіць у іх элементы рэчаіснасці, прыкметы гістарычнага часу. Канкрэтнасць часу, месца, велічнасць прыродна-архітэктурнага асяроддзя, яго будзённае жыццёвае запаўненне і складаюць паэтыку краявідаў Хруцкага.

Творчасць Хруцкага дае цікавы ўзор спажывання сусветнай класічнай спадчыны і яе творчай трансфармацыі на патрэбу сучаснай аўтару эстэтыкі. Кансерватыўныя і наватарскія тэндэнцыі развіцця мастацкай практыкі ў яго асобе знайшлі рэдкі гарманізуючы талент, здатны падпарадкаваць галоўнай творчай мэце разнастайныя ўплывы. У спадчыне мастака можна знайсці ўзоры акадэмічнага жывапісу, бідэрмаера, схемы сармацкага партрэта, узнёсласць рамантычнага вобраза і псіхалагізм характараў. Хруцкі здолеў сінтэзаваць гэтыя разнастайныя стылёвыя рысы, пракласці праз іх свой уласны шлях. У беларускай мастацкай традыцыі яго творчасць з'яўляецца паслядоўнай рэалізацыяй творчай праграмы мастакоў другой трэці XIX стагоддзя.

У канцы артыкула С.Кузняцоў зноў вяртаецца да вытлумачэння паняцця "сярэдні мастак" і ўрэшце ўсведамляе недасканаласць прапанаваных ім напачатку прыкметаў. Пры гэтым у заўвагах ён спрабуе даць яго новае вызначэнне як мастака, які займае сярэдкавае становішча паміж майстрам і дылетантам. Гэтая яшчэ менш сур'ёзная фармулёўка, напэўна, таму і вынесена па-за межы тэксту. Разумеючы павярхоўнасць сваёй сістэмы аргументацыі, даследчык абяцае ў наступны раз больш дэталёва разгледзець праблему "сярэдняга мастака" і творчасць Хруцкага. Застаецца нагадаць, што любое тыпалагічнае практыкаванне мае другасны характар адносна самога мастацтва і вартае ўвагі толькі тады, калі з'яўляецца вынікам аналізу, а не яго мэтай.

***Літаратура і крыніцы:***


1. Кузьмина К.М. Искусство Германии. Всеобщая история искусств. Т.5. Искусство XIX века. М., 1965. С.269.
2. Коваленская Н.Н. Из истории классического искусства. Избранные труды. М., 1988. С.49-88; Сарабьянов Д.В. Русская живопись XIX века среди европейских школ. М., 1980. С.73-93.
3. Алексеева Т.В. Развитие бытового жанра. У кн.: История русского искусства. Т.8. Кн. 2. Русское искусство второй трети XIX века. М., 1964. С.243.
4. Герчук Ю. Живые вещи. М., 1977. С.31.
5. Болотина И.С. Проблемы русского и советского натюрморта. М., 1989.
6. Іван Хруцкі. Альбом-каталог. Складальнікі Паньшына І.Н., Рэсіна А.К. Мн., 1990.
7. Brezgo B. Sztuki piękne w kolegium oraz w akademii oo. jezuitów w Połocku, w XVIII i XIX w. Prace sekcji Hist. Tow. Przyjaciół Nauk w Wilnie, III, Wilno, 1938-39. S.31.
8. Lachnicki I. Krótka wiadomość o obrazach Czachowicza, znajdujących się w kollegium akademickim t-wa jezusowa w Połocku. Dziennik Wileński, 1817. T.6. S.144-152.
9. Дробов Л.Н. Искусство Белоруссии. История искусства народов СССР. Т.5: Искусство первой половины XIX века. М., 1979. С.266.
10. Joanna Miłobędzka. Jan Chrucki - nowe dane do życia i twórczości. Biuletyn Historii Sztuki. №2. 1962. S.174.
11. Кондаковъ Н. Списокъ русскихъ художниковъ къ юбилейному справочнику Императорской Академии Художествъ. 1764 - 1914. СПб., 1914. С.87.
12. Іван Хруцкі. Альбом-каталог. С.90.
13. Ацаркина Э. Карл Павлович Брюллов. Жизнь и творчество. М., 1963. С.302.
14. К.П.Брюллов в письмах, документах и воспоминаниях современников. М., 1961. С.95.
15. Коваленская Н.Н. Из истории классического искусства. С.58-60.
16. Іван Хруцкі. Альбом-каталог. С.11.

*Ганна БЕБРЫНА*

# ІВАН ХРУЦКІ — МАСТАК З ВІЦЕБШЧЫНЫ

## (метадычная распрацоўка заняткаў для школьнікаў 6-7 класаў)

### ЗАНЯТАК I.

**Мэта занятку**: падрыхтоўка школьнікаў да наведвання Віцебскага мастацкага музея.

**Задача занятку:** знаёмства з асноўнымі біяграфічнымі звесткамі і асобнымі творамі І.Хруцкага.

**Месца правядзення занятку:** школьны клас.

**Асноўныя метады:** расказ настаўніка; пытанні і адказы па ходзе знаёмства з матэрыялам.

**Выкарыстоўваемы матэрыял:** альбом-каталог з рэпрадукцыямі твораў мастака "Іван Хруцкі" (Мн., 1990).

Сярод славутых мастакоў Беларусі XIX стагоддзя імя Івана Фаміча Хруцкага найбольш знакамітае, але да сённяшняга часу няшмат вядома нам пра яго жыццё. Палотны Хруцкага ўпрыгожваюць экспазіцыі буйнейшых музеяў Беларусі, Літвы, Польшчы, Расіі, Украіны, Латвіі. Ёсць яго творы і ў Віцебскім мастацкім музеі. Гэта ўсяго тры карціны, аднак ніводзін з наведвальнікаў музея не застаецца да іх абыякавым. Каля гэтых палотнаў твары гледачоў заўсёды святлеюць, сэрцы напаўняюцца гонарам за нашага земляка.

Амаль усё жыццё І.Хруцкі пражыў на Віцебшчыне. Выключэнне складаюць толькі гады навучання ў Пецярбургу і працы ў Вільні. Нарадзіўся ён 27 студзеня 1810 года (па старым стылі) у мястэчку Ула Лепельскага павета Віцебскай губерні ў сям'і грэка-каталіцкага (уніяцкага) святара Фамы Іванавіча Хруцкага. Першапачатковую мастацкую адукацыю Іван Хруцкі атрымаў у Полацкім ліцэі на факультэце вольных мастацтваў. Адразу пасля заканчэння ліцэя ў 1827 г. ён паехаў у Пецярбург, дзе праз некаторы час паступіў у Акадэмію мастацтваў. Дзевяць гадоў спасцігаў ён у сталіцы таямніцы мастацкай прафесіі. Сваімі поспехамі ў навучанні Хруцкі звярнуў на сябе ўвагу расійскага цара Мікалая I і атрымаў ад яго падарунак — гадзіннік з залатым ланцужком. Неаднаразова творы маладога мастака адзначаліся медалямі Акадэміі мастацтваў. Нарэшце, у 1839 г. ён атрымаў ганаровае званне акадэміка. Перад Хруцкім адкрылася перспектыва стаць папулярным сталічным мастаком.

Па правілах Акадэміі таго часу, самыя высокія адзнакі і медалі атрымлівалі работы гістарычнага жанру або карціны з міфалагічнымі сюжэтамі. Далей ішлі партрэты і пейзажы. Нацюрморт у той час лічыўся нізкім жанрам, і ў Расіі пачатку XIX ст. практычна не існаваў. У творчасці Хруцкага падчас навучання ў Акадэміі і на працягу далейшага жыцця нацюрморт займаў адно з галоўных месцаў. Акадэмія мастацтваў не забараняла, а нават заахвочвала студэнтаў маляваць кветкі, плады і прадметы матэрыяльнага свету. Малады навучэнец з Беларусі галоўнымі героямі сваіх твораў зрабіў звычайную гародніну — моркву, капусту, цыбулю, гарбузы. Гэтыя рэчы паўсталі на яго палотнах у казачнай прыгажосці і засланілі сваёй красой пестуноў паўднёвага сонца — лімоны і вінаград.

Такім было палатно "Нацюрморт (Плады)", напісанае мастаком у 1839 г., адзін з шэрагу тых твораў, за якія Хруцкі атрымаў званне акадэміка. Гэты нацюрморт вырашаны ў прынцыпах, што былі тыповымі для акадэмічных твораў: ураўнаважаная кампазіцыя з падкрэсленым цэнтрам, запоўненасцю прадметамі першага і другога планаў, дакладнасцю і канкрэтнасцю пісьма. Нязвыклым быў набор прадметаў, якія маюць яркую нацыянальную афарбоўку: традыцыйная беларуская гародніна (агуркі, гарбуз, морква, капуста, цыбуля), сялянскі гарлач, накрыты чыстым ільняным ручніком, плецены кошык-лубянка з грыбамі. Вельмі

Бебрына Ганна Мікалаеўна, старшы навуковы супрацоўнік Віцебскага абласнога краязнаўчага музея. Займаецца пытаннямі музейнай педагогікі.

далікатна пададзены ў нацюрморце бітая дзічына і рыба. Ва ўсім адчуваецца шчырасць пачуццяў, глыбокая пашана да хараства і разнастайнасці не толькі праяў жывой прыроды, але і да людзей, якія вырасцілі гэтую простую і неабходную гародніну. З вялікім майстэрствам Хруцкі перадаў сакавітасць яблыкаў, свежасць грыбоў, шурпатасць агуркоў. Бліскучы медны таз падкрэслівае вільготнасць і срэбнае зіхаценне азёрнай рыбы. Блікі палівы сялянскага гарлача пераклікаюцца з зіхаценнем празрыстага шкла графіна. У цэнтры прытуліліся нікчэмныя манеты, побач з прыгажосцю дароў роднай прыроды яны выглядаюць цьмяна і невыразна. Форма, аб'ём, колер прадметаў перададзены мастаком з вялікай адчувальнасцю. Нязвыклы нацюрморт скарыў сэрцы нават строгіх прафесараў Акадэміі, якія вельмі адмоўна ставіліся да ўсяго новага ў жывапісе.

**На гэтым нацюрморце сабрана шмат прадметаў. Можа, мастаку не хапіла густу, каб выбраць галоўныя сярод іх?**

(Мастак хацеў перадаць захапленне разнастайнасцю праяў прыроды, таму ён лічыў немагчымым абмежавацца некалькімі прадметамі.)

Нацюрморты Хруцкага былі добрым упрыгожваннем жылых пакояў, адразу сталі карыстацца вялікай папулярнасцю. У мастака з'явілася шмат паслядоўнікаў, што паспрыяла развіццю жанру нацюрморта ў Расіі.

Адначасова І.Хруцкі пісаў цудоўныя партрэты, з'яўляўся майстрам краявіду. У 1830-я гады ён выканаў партрэты беларускіх царкоўных дзеячаў — мітрапалітаў грэка-каталіцкай царквы Іасафата Булгака і Іосіфа Сямашкі, у якіх па-майстэрску перадаў не толькі вонкавы выгляд, але і тонка адчуў характары сваіх мадэляў.

На "Партрэце І.Булгака" (1838) мы бачым пакаленную выяву старога чалавека ў трохчвэрцевым развароце фігуры з мноствам узнагарод на грудзях. Погляд яго ўдумлівы, злёгку стомлены, з амаль няўлоўным пачуццём роспачы. Ён сядзіць каля стала, на якім ляжаць раскрытая кніга і ўзнагароды. Постаць яго шляхетная, нават арыстакратычная. Мастак выкарыстоўвае позірк на мадэль крыху знізу, што надае фігуры манументальнасць, выяўляе сацыяльную значнасць чалавека.

Іасафат Булгак быў апошнім уніяцкім мітрапалітам на Беларусі, які ўпарта супраціўляўся аб'яднанню беларускай уніяцкай царквы з расійскай праваслаўнай. Ён разглядаў уніяцкую царкву як сродак будучай незалежнасці Беларусі, быў вельмі ўплывовай фігурай. Адразу пасля яго смерці уніяцкая царква была ліквідавана.

**Чаму мастак паказаў шмат узнагарод на грудзях мітрапаліта і на стале побач з ім? Відавочна, што Булгак не мог насіць іх адначасова.**

(Па ўзнагародах можна прачытаць заслугі гэтага чалавека. Хруцкі хацеў надаць яго асобе значнасць.)

**Аб чым можа сведчыць раскрытая кніга?**

(Мастак хацеў падкрэсліць адукаванасць Іасафата Булгака, які вучыўся ў Рыме.)

Шмат пра што на партрэце могуць расказаць рукі. У Булгака рукі выпешчаныя, з дарагім пярсцёнкам. Белыя карункі, што выглядаюць з рукавоў, наўмысна падкрэсліваюць яго шляхецкае паходжанне (Булгак быў сынам шляхціца з Гродзенскай губерні).

У тым жа 1838 г. Хруцкі выканаў партрэт яшчэ аднаго царкоўнага дзеяча Беларусі — Іосіфа Сямашкі, епіскапа мсціслаўскага і літоўскага, які пасля смерці І.Булгака стаў старшынёй уніяцкага дэпартамента Калегіі. Пры непасрэдным удзеле Сямашкі ў 1839 годзе адбылося ўз'яднанне уніяцкай царквы з праваслаўнай.

Партрэт І.Сямашкі пагрудны. Гэта яшчэ даволі малады чалавек, але ён мае азызлы твар, насцярожаныя празрыста-шкляныя вочы з ганарлівым свецкім выразам. Чырвоны фон драпіроўкі падкрэслівае недахопы твару і характару. На Беларусі Сямашку называлі "Іудам-здраднікам" за бясконцыя даносы на іншаверцаў і вольналюбцаў. Хруцкі шмат у чым залежыў ад гэтага чалавека, што перашкаджала яго працы над раскрыццём вобраза Сямашкі. Таму гэты партрэт атрымаўся такім стрыманым і некрасамоўным.

У 1839 г. у Хруцкага памёр бацька. Іван Фаміч быў старэйшым сынам у сям'і, апекуном маці і сясцёр. Ён спешна пакінуў сталічны Пецярбург і вярнуўся на Радзіму ў Усайі, дзе ў апошні час жыла сям'я. У 1844 г. ён купіў маёнтак Захарнічы на адлегласці 20 вёрст ад Полацка, куды і перавёз сваю сям'ю.

Бываў Хруцкі ў Віцебску і напісаў партрэты старшыні Віцебскай казённай палаты, правадзейнага стацкага саветніка Пятра Ягоравіча Рубцова і яго жонкі Ганны Міхайлаўны ("Партрэт П.Я.Рубцова" і "Партрэт

Г.М.Рубцовай"). Гэтыя партрэты маюць не толькі мастацкую, але і гісторыка-краязнаўчую каштоўнасць, бо з'яўляюцца партрэтамі канкрэтных асобаў, жыхароў Віцебска сярэдзіны мінулага стагоддзя.

Партрэт Рубцова паясны, мае франтальнае размяшчэнне фігуры на плоскасці палатна, што дазволіла паказаць мноства ўзнагарод, па якіх, нібыта па паслужным спісе, можна прачытаць біяграфію гэтага чалавека. Круглы твар з доўгімі бакенбардамі, акаймаваны радзеючымі валасамі, уважлівы позірк вачэй з-пад навіслых павекаў, шчыльна сцятыя вусны, сагнутыя плечы — усё падкрэслівае цяжар дзяржаўнай службы. Прамы позірк стацкага саветніка дазваляе мастаку весці з чыноўнікам прытоены дыялог. Хруцкі выдатна адольваў цяжкую мастацкую задачу — пісаць партрэты, дапытліва гледзячы прама ў вочы сваёй мадэлі, разгадваючы таямніцы яе характару.

Пры напісанні партрэта Ганны Міхайлаўны Рубцовай мастаку прыйшлося шмат папрацаваць, каб надаць дужай фігуры з моцным характарам як мага больш жаноцкасці. Залацістае святло ахоплівае твар і цела жанчыны, слізгае па цяжкіх косах, магутных аголеных плячах, змякчае буйныя рысы твару. Яркая хустка выразна акрэслівае фігуру. Зялёнае лісце расліны надае партрэту завершанасць.

У Захарнічах Іван Фаміч пабудаваў дом па ўласным праекце, узвёў гаспадарчыя пабудовы, разбіў сад. Тут ён ажаніўся з маладой суседкай Ганнай Ксавер'еўнай Бямбноўскай. Пра выгляд пабудаванага Хруцкім дома даюць уяўленне карціны, напісаныя ім у 1850-я гады — "Дзеці перад мальбертам" і "У пакоях сядзібы мастака І.Ф.Хруцкага Захарнічы Полацкага павета Віцебскай губерні". Разглядваючы іх, мы бачым, што ў доме мастака было анфіладнае размяшчэнне пакояў. Пакоі здаюцца паўпустымі, мэбля ў іх размешчана самая неабходная: просты стол з самаварам, куфар, накрыты дыванам, частка якога закрывае падлогу, дзе гуляюць дзеці; ламберны стол з газавай лямпай, мяккія і венскія крэслы, сціплыя даматканыя фіранкі на вокнах. Асноўнае ўбранне дома складаюць жывыя кветкі ў вазонах і развешаныя па сценах карціны — копіі вядомых твораў і арыгінальныя работы гаспадара. На сцяне аднаго з пакояў бачым скрыпку — звычайны музычны інструмент ў сядзібах на Беларусі. Абедзьве гэтыя карціны прасякнуты адчуваннем прыхільнасці мастака да роднага кута, што надае сціплым інтэр'ерам паэтычнае гучанне.

У 1850 г. мастак напісаў "Сямейны партрэт". Па глыбіні пачуццяў, якія выклікае гэты твор, яго іншым разам лічаць партрэтам жонкі мастака з дзецьмі. У гэтае палатно Хруцкі ўклаў асабістае ўяўленне пра гармонію свету. Трактоўка вобраза жанчыны-маці ўзыходзіць да высокіх ідэалаў Адраджэння. У цэнтры ў поўны рост прадстаўлена жанчына ў цёмнай сукенцы з белымі карункамі. Злева — старэйшы хлопчык, які на хвіліну адарваў погляд ад кнігі, побач з ім — дзяўчынка, якая паглыблена ў чытанне і не заўважае нічога навокал. З правага ад маці боку знаходзіцца вельмі рухавы малодшы хлопчык, якога яна амаль стрымлівае, узяўшы за руку. Уся група прадстаўлена на фоне вясковага краявіду, які нагадвае наваколле Захарнічаў — бераг возера, шырокае поле, край лесу.

Імкнучыся да найбольшай устойлівасці, мастак выкарыстаў у гэтай карціне пірамідальную кампазіцыю, у аснаванні якой змешчаны трохкутнік. Пры ўважлівым разглядзе заўважаем пірамідальную пабудову пейзажнага фону, у аснаванні якой ляжыць сакральны для мастака трохкутнік: жылыя пабудовы сядзібы злева, царква на заднім плане справа і літаральна пад ёю на сярэднім плане — група людзей на беразе возера, якая нагадвае святое сямейства (жанчына з дзіцём на руках і мужчына ў саламяным капелюшы). Усе гэтыя выявы трымаюць піраміду, вяршыня якой узыходзіць у глыбіню нябёсаў. Такая пабудова кампазіцыі надае карціне глыбіню прасторы, адчуванне завершанасці, спакою, усеагульнай гармоніі.

Хруцкаму давялося шмат працаваць з Іосіфам Сямашкам у Вільні, выконваць яго заказы, за якія мастак атрымліваў мізэрную плату. У 1854 г. ён напісаў палатно "Мітрапаліт І.Сямашка слухае ў сваім кабінеце дакладванне сакратара". На ім мы бачым мітрапаліта ў хатнім шлафроку. Ён сядзіць у сваім багата аздобленым кабінеце ў крэсле за рабочым сталом у вельмі вольнай для асобы духоўнага звання позе, закінуўшы нагу за нагу, слухае даклад сакратара і глядзіцца ў вялікае люстэрка, якое вісіць над яго рабочым сталом. Насупраць на паліцы шафы стаіць яшчэ адно люстэрка. Амаль нічога ў вялікім пакоі не нагадвае пра аскетызм царкоўнага жыцця, толькі злева ў куце вісіць маленечкі абраз. Пад рабочым сталом Сямашкі валяюцца кінутыя лісты — нішто не выпадае з-пад уважлівага позірку мастака. Значнае месца Хруцкі ўдзяліў паказу інтэр'ера, руплівa выпісаў разьбу на дзверцах шафаў, разьбяныя пазалочаныя рамы карцін, сярод якіх крайні справа краявід, хутчэй за ўсё, належаў пэндзлю самаго Хруцкага. Фігура Сямашкі сярод раскошы свайго кабінета выглядае мізэрнай і малазначнай. Што яшчэ можна сказаць пра мужчыну, царкоўнага дзеяча, манаха, які бесперапынна глядзіцца у люстэрка, не можа адвесці вачэй ад сваёй выявы, робіць гэта дэманстратыўна, зневажаючы астатніх?

Мы не ведаем, як адрэагаваў на гэты партрэт сам Іосіф Сямашка. Але год напісання партрэта — 1854 — доўгі час лічыўся годам смерці мастака. Пра жыццё Хруцкага ў апошнія 30 гадоў амаль нічога невядома.

**Ахарактарызуйце Сямашку па гэтым творы Хруцкага.**

Відаць, узрушаны смерцю выдатнага польскага паэта Адама Міцкевіча, які нарадзіўся ў Беларусі на Навагрудчыне, Хруцкі напісаў "Партрэт А.Міцкевіча". Хутчэй за ўсё, партрэт паэта быў выкананы па фотаздымку. Але напісаны ён быў з рамантычнымі памкненнямі, якія адпавядалі як характару вялікага паэта, так і ўсёй яго творчасці. Не выключана, што Хруцкі быў знаёмы з Міцкевічам падчас навучання ў Пецярбургу.

"Партрэт А.Міцкевіча" ўвесь час знаходзіўся ў сям'і Хруцкіх. Іван Фаміч пісаў яго, хутчэй за ўсё, для сябе. Партрэт апальнага паэта, які пасля няўдалай спробы ўдзелу ў паўстанні 1830 года быў вымушаны пакінуць радзіму і жыць у замежжы, дае падставу думаць не толькі пра любоў да паэзіі, але і пэўнае вальнадумства самога мастака.

На 75-м годзе жыцця, за дзевяць месяцаў да смерці, Хруцкі напісаў "Аўтапартрэт", які сёння знаходзіцца ў Дзяржаўным Рускім музеі ў Пецярбургу. Залаціста-вохрысты тон выяўляе мяккія светлыя абрысы фігуры мастака ў сурдуце колеру спелага жыта. На ім апранута белая кашуля і чорная камізэлька. Спакойна скрыжаваныя рукі ляжаць на каленях. Гэты аўтапартрэт з'яўляецца не толькі сродкам самавыяўлення, але і вынікам усяго жыцця мастака, якое ўзбагаціла нашу спадчыну выдатнымі творамі.

**Што вы можаце сказаць пра мастака, гледзячы на яго аўтапартрэт?**

(Аўтапартрэт характарызуе мастака як чалавека сціплага, простага і ў той жа час унутрана значнага).

Іван Хруцкі памёр 13 студзеня 1885 года. Ён быў пахаваны на фамільных могілках у Захарнічах. Час сцёр надпісы на помніках і толькі ў наш час з дапамогай праўнучкі мастака адшукалі яго магілу, паставілі на ёй сціплы помнік.

Мы пазнаёміліся з жыццём і некаторымі творамі выдатнага мастака XIX стагоддзя, нашага земляка, Івана Фаміча Хруцкага. Каб паглыбіць знаёмства з ім, наступныя заняткі мы правядзем у Віцебскім мастацкім музеі, залы якога ўпрыгожваюць тры арыгінальныя творы майстра.

## Занятак II.

**Мэта занятку:** знаёмства з арыгіналамі твораў І.Ф.Хруцкага.

**Задача занятку:** знаёмства з асноўнымі кампазіцыйнымі прыёмамі і паняццем святлаценю, якія выкарыстоўваў Хруцкі ў сваіх творах.

**Месца правядзення занятку:** Віцебскі мастацкі музей, адна з залаў выставы "Чароўны свет мастацтва".

**Асноўны метад:** пытанні і адказы.

**Выкарыстоўваемы матэрыял:** творы І.Ф.Хруцкага "Нацюрморт са свечкай", "Кветкі і плады", "Партрэт невядомай".

Сённяшняе наведванне музея прысвечана знаёмству з творамі нашага знакамітага земляка мастака Івана Фаміча Хруцкага, імя якога нават асацыіруецца з прыгожымі нацюрмортамі, на якіх шмат садавіны, гародніны і пышныя букеты кветак.

Нагадаем, што слова "нацюрморт" у перакладзе з французскай мовы азначае "мёртвая прырода". Але гэта — і цэлы свет са сваёй непаўторнасцю і своеасаблівым жыццём. Нацюрморт яскрава перадае стан мастака, яго настрой і час, у якім ён жыве. Добра напісаны нацюрморт іншым разам можа сказаць больш за вялікую шматфігурную кампазіцыю. Сузіранне нацюрморта пашырае наша ўяўленне пра свет, дазваляе вастрэй і глыбей адчуць прыгажосць акаляючых рэчаў.

У адрозненні ад іншых жанраў мастацтва, праца над нацюрмортам у мастака пачынаецца задоўга да таго моманту, калі ён пачне маляваць. Мастак доўга раскладвае рэчы, разглядае іх, любуецца іх непаўторнай прыгажосцю, доўга перасоўвае прадмет з аднаго месца на другое, падкладвае вінаградзіну, яблык ці нейкую рэч, каб дасягнуць максімальнага кампазіцыйнага эфекту. І толькі калі на вытанчаны погляд мастака атрымліваецца добрая кампазіцыя, ён бярэ ў рукі пэндзаль, фарбы і піша нацюрморт.

мастакоў з Віцебска, Наваполацка, Бешанковіч, Шаркаўшчыны пачалі работу на радзіме мастака ў Бешанковіцкім раёне і прадоўжылі яе на Полаччыне, дзе жыў і быў пахаваны знакаміты зямляк.

27 ліпеня ў пасёлку Высокае Аршанскага раёна прайшло тэатралізаванае свята "У нашым пасёлку майстры жывуць", прысвечанае мясцовым аматарам народных промыслаў. Арганізатар свята - вучэбна-метадычны цэнтр райаддзела культуры.

У канцы ліпеня ў Оршы былі завершаны пачатыя ў 1995 годзе археалагічныя доследы падмуркаў царквы Раства Багародзіцы, узведзенай у канцы XVIII ст. і разбуранай у 1962 г. па рашэнні гарвыканкама. Кіравала доследамі старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН Беларусі В.Ляўко, а асноўны аб'ём земляных работ выканаў гарадскі пошукавы клуб "Русічы". Абследаваўшы стан падмуркаў помніка, камісія аддзела архітэктуры і горадабудаўніцтва Аршанскага гарвыканкама дала заключэнне аб непрыдатнасці падмуркаў для адбудовы на іх новага храма, які паўтараў бы абрысы знішчанага, што мела на мэце праваслаўная абшчына горада, якой рашэннем выканкама была перададзена тэрыторыя, якую займала царква Раства Багародзіцы.

У чэрвені і ліпені ў Дуброўне праводзіліся археалагічныя доследы гарадзішча, у якіх удзельнічаў аршанскі пошукавы клуб "Русічы". Кіраўнік раскопак - старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН Беларусі В. Ляўко. Таксама працягваліся археалагічныя доследы на гарадзішчы жалезнага веку ля в.Вежкі Дубровенскага раёна. Кіраўнік раскопак - малодшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН Беларусі Ю.Каласоўскі.

У ліпені ў Полацку ў мастацкім салоне гісторыка-культурнага запаведніка праходзіла выстава графікі віцебскага мастака Генадзя Шутава.

У ліпені ў Віцебску ў абласным цэнтры народнай творчасці экспанавалася выстаўка работ Аршанскага клуба народных майстроў і мастакоў.

У ліпені ў Віцебску ў Мастацкім музеі экспанаваліся наступныя выстаўкі: "Чароўны свет мастацтва" /іконы, скульптура, творы жывапісу і дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва з фондаў абласнога краязнаўчага музея/; дабрачынная выстаўка акварэляў мастака з Феадосіі У.Кіркевіча "Рэпінскія мясціны на Украіне"; персанальная выстаўка работ сям'і Лук'яненкаў з Наваполацка.

У ліпені ў Віцебску ў абласным краязнаўчым музеі экспанавалася персанальная выстаўка работ віцебскага мастака У.Вальнова пад назвай "Віцебск. Боль. Роздум. Радасць".

У ліпені ў Віцебску ў Арт-цэнтры М.Шагала экспанавалася персанальная выстаўка жывапісу маскоўскага мастака Н.Сафронава.

У ліпені ў Віцебску ў выставачнай зале абласнога аддзялення Саюза мастакоў Беларусі экспанавалася сумесная выстаўка твораў мастака А.Малея і скульптара І.Казака.

13 жніўня ў Полацку ў мастацкім салоне гісторыка-культурнага запаведніка адкрылася выстава жывапісу віцебскага мастака Барыса Хесіна.

15 жніўня ў Оршы прайшлі ўрачыстасці з нагоды 80-годдзя разьбяра Сямёна Шаўрова. Імпрэза адбылася ў доме-майстэрні майстра, які ператвораны ў музей.

28 ліпеня - 15 жніўня ў Бешанковіцкім раёне ў п.Бачэйкава праходзіў II Міжнародны пленэр канцэптуальнага мастацтва "Малевіч. УНОВІС.Сучаснасць", у якім прынялі ўдзел мастакі з Беларусі, Расіі, Украіны, Літвы і Польшчы. 15 жніўня ў Віцебску адбылася навуковая канферэнцыя "Малевіч. Класічны авангард. Віцебск" з удзелам мастацтвазнаўцаў з Масквы, С.-Пецярбурга, Мінска.

16 - 21 жніўня ў Оршы ў касцёле Св.Язэпа прайшла чарговая сесія курсаў школы новай евангелізацыі - курс апостала Майсея. Удзельнічала 50 юнакоў і дзяўчат з усёй Беларусі.

17 - 18 жніўня ў Бешанковіцкім раёне ў п.Бачэйкава было праведзена рэспубліканскае свята "Ганчарны круг" з удзелам лепшых майстроў ганчарнай справы. Адбыліся конкурсы ганчароў, кірмаш рамёстваў, выстаўкі этнаграфічнай і сучаснай керамікі, выступленні самадзейных калектываў. Працавалі таксама творчыя лабараторыі.

25 жніўня ў Глыбоцкім раёне прайшлі ўрачыстасці з нагоды 135-годдзя з дня нараджэння беларускага акцёра, рэжысёра і тэатральнага дзеяча І.Ц. Буйніцкага.

У жніўні ў Оршы ў гарадской выставачнай зале экспанавалася выстава твораў аршанскага мастака Б.Арлова - першая пасля яго смерці ў 1986 г.

У жніўні ансамбль песні "На панадворку", створаны пры Браслаўскім гарадскім доме культуры, прыняў удзел у традыцыйным фальклорным свяце ў г.Зарасай /Літва/.

У жніўні ў Віцебску ў Мастацкім музеі і выставачнай зале абласнога аддзялення Саюза мастакоў Беларусі экспанавалася выстава работ Мікалая Драненкі.

У жніўні ў Віцебску ў Мастацкім музеі экспанавалася выстаўка твораў маскоўскага мастака М.Носава. Было прадстаўлена 55 акварэльных і графічных работ.

У жніўні-верасні ў Браславе ў выставачнай зале музея рамёстваў прайшла выстава акварэляў мастака з Браслава Цеафана Баркоўскага.

6 верасня ў Полацку ў выставачнай зале гісторыка-культурнага запаведніка была адкрыта выстава "Новае жыццё помнікаў старажытнабеларускага жывапісу. Іканапіс XVII-XIX стст.", якая была наладжана сумесна з Інстытутам мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН РБ.

15 - 25 верасня ў вёсцы Германавічы праходзіў пленэр, прысвечаны памяці мастака Язэпа Драздовіча. Пленэр быў арганізаваны культурна-асветніцкім цэнтрам імя Я.Драздовіча пры фінансавай падтрымцы Беларускага фонду Сораса.

20 верасня ў Віцебску ў выставачнай зале абласнога аддзялення Саюза мастакоў Беларусі адкрылася выстаўка твораў заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі Аляксандра Салаўёва, прысвечаная 70-годдзю з дня нараджэння мастака.

21 верасня ў Сенненскім раёне ў Багушэўскім доме культуры былі праведзены ўрачыстасці з нагоды 50-гадовага юбілею Багушэўскага народнага драматычнага тэатра.

24 верасня ў Віцебску ў Музеі Марка Шагала адкрылася выстаўка віцебскай мастачкі Людмілы Воранавай.

У верасні ў Наваполацку па запрашэнню ансамбля народных інструментаў "Талака" знаходзіўся "Канемакі-хор" з Гамбурга. Адбыліся сумесныя выступленні нямецкіх харыстаў і ансамбля "Талака" ў Наваполацку і Полацку.

У верасні ў Полацку ў музеі беларускага кнігадрукавання праходзіла выстава "Тут творчасці яго выток" (да 60-годдзя Генадзя Бураўкіна).

У верасні ў Віцебску ў цэнтры народнага мастацтва і рамёстваў "Задзвінне" адкрылася выстаўка акварэлі віцебскай мастачкі Л.Ярмолавай "...і Шлях, і Ісціна, і Жыццё."

У верасні ў Віцебску адбыліся гастролі Санкт-Пецярбургскага тэатра "Рок- опера". Глядачам былі прапанаваны спектаклі "Юнона і Авось" па матывах паэмы А.Рыбнікава і "Ісус Хрыстос - суперзорка" Э.Л.Уэбера, а таксама "Брыдкае качаня" па казцы Г.Х.Андэрсэна.

4 кастрычніка ў Віцебску выступленнем ансамбля народнага танца і песні "Усход" з Кітая адбылося адкрыццё 8-га канцэртнага сезона ў абласной філармоніі.

5 кастрычніка ў Віцебску ў памяшканні тэатра "Лялька" адбыўся творчы вечар, прысвечаны 50-годдзю з дня нараджэння віцебскага паэта Алега Салтука.

14 - 16 кастрычніка ў Полацку была праведзена II Міжнародная канферэнцыя па праблемах музеефікацыі гістарычных тэрыторый, у якой прынялі ўдзел вучоныя, гісторыкі, краязнаўцы Беларусі, Расіі, Непала. Арганізатары - Полацкі гісторыка-культурны запаведнік і абласное аддзяленне Беларускага фонду Сораса.

15 кастрычніка ў Полацку ў музеі беларускага кнігадрукавання адкрылася персанальная выстава твораў Таццяны Козік /габелен, батык/.

15 - 16 кастрычніка ў Віцебску ў дзяржаўным педагагічным універсітэце адбылася рэгіянальная навуковая канферэнцыя "Пісьменства і друк на Віцебшчыне: гісторыя і сучаснасць". Арганізатарамі выступілі Віцебскі дзяржуніверсітэт, абласны краязнаўчы музей, абласная бібліятэка, абласны камітэт па архівах. У рамках мерапрыемства было заслухана каля 50 дакладаў, прайшлі выстаўкі "Помнікі старажытнага пісьменства і друку Віцебшчыны", "У сугуччы культур: Я.Купала і Я.Райніс", "Старадрукі Віцебшчыны", "Пісьменнікі Віцебшчыны".

17 кастрычніка ў Віцебску ў выставачнай зале абласнога аддзялення Саюза мастакоў Беларусі адкрылася выстава работ У.Кухарава, прысвечаная 80-годдзю з дня нараджэння мастака і 60-годдзю яго творчай дзейнасці.

18 кастрычніка ў Полацку ў выставачнай зале гісторыка-культурнага запаведніка адкрылася выстава каліграфіі і шрыфтоў "Літарт-96" Беларусі. Праект быў ажыццёўлены пад кіраўніцтвам П.Семчанкі.

25 кастрычніка ў Віцебску ў абласным цэнтры народнай творчасці адкрылася выстаўка дзіцячага малюнка пад назвай "Шляхам Драздовіча". Было прадстаўлена 100 работ юных мастакоў з Браслаўскага, Міёрскага і Шаркаўшчынскага раёнаў. Арганізатары - культурна-асветніцкі цэнтр імя Я.Драздовіча і Віцебскае абласное аддзяленне Беларускага фонду Сораса.

29 - 31 кастрычніка ў Віцебску ў абласным краязнаўчым музеі прайшоў абласны семінар "Віцебскі ручнік". Падчас працы семінара ў абласным краязнаўчым музеі адбылося адкрыццё выставы "Віцебскі ручнік". Аўтар канцэпцыі выставы - Таццяна Дадзека.

У кастрычніку ў Полацку ў музеі беларускага кнігадрукавання праходзіла выстава "Свет дзіцячай кнігі" (выстава выдавецкай прадукцыі недзяржаўных выдавецтваў для дзяцей).

У кастрычніку ў Віцебску ў Мастацкім музеі адкрылася выстава работ тайваньскага мастака Лі Шы Мао.

1 лістапада ў Наваполацку ў гарадскім цэнтры нацыянальнай культуры адбылася вечарына з нагоды першай гадавіны існавання гісторыка-культурнага клуба "Княжыч". На вечарыне гучалі фальклорныя спевы, ладзіліся народныя гульні.

8 - 9 лістапада ў Віцебску на сцэне культурна-дзелавога цэнтра ААТ "КІМ" прайшоў Х фестываль аўтарскай песні "Віцебскі лістапад", у якім удзельнічалі віцебскія аўтары і выканаўцы з Масквы, Санкт-Пецярбурга, Смаленска, Магілёва.

8 - 10 лістапада ансамбль народнай песні "Раніца" Браслаўскага дома піянераў прымаў удзел у традыцыйным фальклорным свяце "Марцінас" у г. Вісагінасе /Літва/.

9 лістапада ў Расонскім раёне ў Гарбачоўскай СШ прайшлі першыя літаратурна-краязнаўчыя чытанні, прысвечаныя памяці Яна Баршчэўскага. У чытаннях удзельнічалі вучоныя-філолагі з Акадэміі навук Беларусі, Віцебскага дзяржуніверсітэта, літаратуразнаўцы з Польшчы, музейныя работнікі, настаўнікі.

9 лістапада ў Наваполацку народны тэатр "Час" прадставіў на суд глядачоў сваю новую работу - спектакль "Непаразуменне" па п'есе А.Камю.

15 лістапада ў Полацку ў канцэртнай зале "Сафійскі сабор" адкрыўся I Міжнародны фестываль арганнай музыкі. На працягу 5 вечароў гучала музыка ў выкананні музыкантаў з Беларусі, Расіі, Аўстрыі і Германіі.

16 лістапада ў Полацку ў выставачнай зале цэнтра нацыянальных культур адбылося адкрыццё мастацкай выстаўкі па выніках пленэру, прысвечанага Я.Драздовічу. У экспазіцыі былі прадстаўлены творы ўдзельнікаў пленэру і арыгінальныя творы Я.Драздовіча з Заслаўскага музея.

16 - 21 лістапада ў Віцебску на працягу тыдня адзначалася 70-годдзе Беларускага акадэмічнага тэатра імя Я.Коласа. Былі паказаны лепшыя спектаклі коласаўцаў, спектакль "Ромул Вялікі" Ф.Дзюрэнмата ў пастаноўцы Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Я.Купалы, спектакль "Букееў і кампанія" М.Горкага ў пастаноўцы Дзяржаўнага акадэмічнага рускага тэатра Беларусі, адбылася канферэнцыя тэатразнаўцаў.

19 лістапада ў Віцебску ў музычнай гасцёўні адкрылася выстаўка работ мастачкі Людмілы Зіноўевай, мастака-дэкаратара Беларускага акадэмічнага тэатра імя Я.Коласа. У экспазіцыі пад назвай "Віцебск - мой Салярыс" былі прадстаўлены эскізы да спектакляў, лялькі, маскі, батык.

21 лістапада ў Віцебску ў Арт-цэнтры М.Шагала адкрылася выстаўка работ маладых віцебскіх мастакоў А.Краўчанкі, Л.Мядзвецкага і У.Кавалеўскага.

26 лістапада ў Віцебску і Оршы быў праведзены Дзень літаратуры, прысвечаны 66-м угодкам Уладзіміра

Караткевіча. У Віцебскім дзяржуніверсітэце прайшло літаратурнае свята з удзелам паэтаў і празаікаў Віцебшчыны, былі названы першы ўладальнік стыпендыі імя У.Караткевіча. На радзіме У.Караткевіча ў Оршы пісьменнікі арганізавалі сустрэчы са школьнікамі і студэнтамі.

У лістападзе ў Віцебску ў Беларускім тэатры "Лялька" адбылася прэм'ера спектакля на французскай мове "Дзед і Жораў" па п'есе А.Вольскага. Пастаноўка - сумесны праект тэатра і дабрачыннага фонду "Pro Helvetia" з Цюрыха. Першымі глядачамі былі вучні СШ №36 з ухілам навучання на французскай мове.

У лістападзе ў Віцебску ў Мастацкім музеі адкрылася выніковая выстаўка ўдзельнікаў I пленэру памяці Івана Хруцкага, а таксама выставы мастакоў Н.Шчаснай, А.Салаўёва, М.Гугніна.

У лістападзе - снежні ў Браславе ў выставачнай зале музея рамёстваў адбылася выстава жывапісу "Свет майго кахання" мастачкі з вёскі Дварышча Аліны Трукан.

1 - 6 снежня ў Віцебску прайшоў VIII Міжнародны музычны фестываль імя І.І. Салярцінскага, прымеркаваны да 90-годдзя з дня нараджэння Д.Шастаковіча. У рамках фестывалю былі праведзены навуковыя чытанні "Віцебскі рэнесанс пачатку XX стагоддзя", у Мастацкім музеі была разгорнута выстаўка "Іван Салярцінскі і Віцебск", прайшоў творчы вечар прафесара С.- Пецярбургскай кансерваторыі Б.Цішчанкі. У шэрагу канцэртаў прынялі ўдзел ансамбль "Класік-авангард" /Мінск/, "Санкт-Петэрстрыо" і "Мадэрн-трыо" з Пецярбурга, салісты Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы Беларусі. Адбыліся творчыя справаздачы камернага хору Віцебскага музвучылішча і хору Наваполацкага музвучылішча, спектакль "Цырк Шардам" Д.Хармса на малой сцэне Беларускага акадэмічнага тэатра імя Я.Коласа.

4 - 8 снежня ў Віцебску адбыўся IX Міжнародны фестываль сучаснай харэаграфіі. У свяце балетнага мастацтва прынялі ўдзел артысты з Расіі, Беларусі, Малдовы, Літвы, Эстоніі, Францыі, Кітая.

6 снежня ў Полацку ў выставачнай зале гісторыка-культурнага запаведніка адкрылася II Міжнароднае біенале арт-кнігі. У выставе ўдзельнічалі мастакі з Польшчы, Францыі, ЗША, Германіі, Італіі, Літвы і Беларусі.

6 снежня ў Віцебску ў Мастацкім музеі адкрылася выстава работ віцебскага мастака-графіка, сябра Саюза мастакоў Беларусі Георгія Клікушына, прысвечаная 75-годдзю з дня нараджэння аўтара.

6 - 7 снежня ў Віцебску абласны цэнтр народнай творчасці правёў семінар кіраўнікоў вакальна-харавых калектываў Віцебшчыны на тэму "Беларуская народная песня - аснова рэпертуару самадзейнага харавога калектыву".

6 - 8 снежня ў Наваполацку адбыўся III дзіцячы музычны фестываль "Халі-хало", у якім удзельнічала 49 юных выканаўцаў эстраднай песні ў чатырох узроставых катэгорыях, госці з усіх куткоў Беларусі, а таксама Расіі і Польшчы.

10 снежня ў Полацку ў выставачнай зале цэнтра нацыянальных культур адкрылася выстаўка маляваных дываноў. У экспазіцыі былі прадстаўлены маляванкі Язэпа Драздовіча, Алены Кіш і творы невядомых народных мастакоў, сабраныя мастацтвазнаўцамі падчас этнаграфічных экспедыцый на Віцебшчыне.

13 снежня ў Оршы ў педкаледжы прайшла 5-я навукова-краязнаўчая канферэнцыя "Аршаншчына: погляд у мінулае". На канферэнцыі выступілі 7 гісторыкаў, даклады якіх мяркуецца выдаць у зборніку. Сярод іншага на канферэнцыі можна было набыць нядаўна выйшаўшую з друку кніжку Зміцера Дзядзенкі "Аршанская шляхта" (аб'ём выдання 64 старонкі, наклад - 500 асобнікаў).

14 снежня ў Віцебску ў культурна-дзелавым цэнтры ААТ "КІМ" адбыўся канцэрт, прысвечаны 5-гадоваму юбілею народнага маладзёжнага хору Віцебскага гарадскога аддзела культуры. Гэты канцэрт з'явіўся сумеснай творчай акцыяй юбіляраў і іх гасцей - Смаленскага народнага аркестра імя Дуброўскага.

20 снежня ў Віцебску ў Мастацкім музеі прайшоў вечар памяці віцебскага мастака Ісака Бароўскага /1921-1991/. Адбылося адкрыццё вялікай экспазіцыі майстра, у якой налічвалася каля 70 жывапісных работ.

24 снежня ў Сенненскім раёне ў Багушэўскім народным тэатры адбылася прэм'ера спектакля "Пінская шляхта" па п'есе В.Дуніна-Марцінкевіча.

24 снежня рашэннем калегіі Міністэрства культуры Беларусі ансамблю песні з Браслава "На панадворку" /кіраўнік М.Тамашэвіч/ прысвоена званне народнага.

У снежні ў Полацку ў мастацкім салоне запаведніка прайшла персанальная выстава графікі Марыны Багловай-Петэрсон (г.Мінск).

У снежні ў Віцебску прайшлі ўрачыстасці, прысвечаныя 25-гадоваму юбілею Віцебскага вучылішча мастацтваў.

У снежні ў Віцебску ў абласным цэнтры народнай творчасці экспанавалася выстава твораў з лазы, саломы, ткацтва, вышыўкі, разьбы па дрэву, жывапісных прац народных майстроў Браслаўскага Дома рамёстваў Э. і В. Зінкевічаў, С.Уманец, С.Бялова, Ц.Бароўскага, І.Дварэцкага, У.Лук'янца, Т.Цімошкінай, М. Чэркаса, М.Парахневіч, Л.Каліноўскай, П.Друзя, А. Чэпулінай.

Хроніку падрыхтавалі:

Наталля КАРЖЫЦКАЯ
Юрка КОПЦІК
Галіна ЛАДЗІСАВА
Міхась РАЙЧОНАК
Давід СІМАНОВІЧ
Кастусь ШЫДЛОЎСКІ
Валерый ШЫШАНАЎ



## допісы на палёх

## ЭЎЛАЛІЯ ДАМАНОЎСКА

# ТЭЙП-АРТ У ВІЦЕБСКУ

На пачатку 1996 г. у Музеі Марка Шагала ў Віцебску адчыніліся тры польскія выставы: дзве персанальныя - Анастазы Б.Віснеўскага і Рышарда Лугоўскага і групавая пад назвай "Тэйп-арт" ("Tape art"), у якой удзельнічалі польскія і замежныя мастакі.

Тэйп-арт - гэта з'ява ў мастацтве, вядомая ўжо з сярэдзіны 80-х гадоў, была створана мастаком і тэарэтыкам Анастазы Б.Віснеўскім. "Тэйп-арт - гэта канцэпцыя пасля мастацтва і пасля жывапісу, - сказаў аўтар, - якая палягае на зуспакаенні спажыўца і інтэлекту. Візуальна я запісваю тэйп-арт на стужку-палатно. Гэта ёсць інтэлектуальная тэрапія пра жывапіс праз жывапіс або спроба запісу абыякавага інтэлекту. У ім схаваны код, які не дазваляе далей маніпуляваць мастацтвам". Анастазы Б.Віснеўскі вядомы як кантраверсійная асоба польскага мастацтва, адмаўляльнік "смяротнага" аўтарытэту, бліскучы іраніст, які з'яўляецца каментатарам мастацкага жыцця, творца шматлікіх тэорый, галерэй і акцый, мастак, які адным з першых у Польшчы заняўся мэйл-артам (mail art) і не даў сябе ўцягнуць у нерухомыя рамкі дэфініцый. Створаная ім тэорыя тэйп-арта, што ўзрасла на глебе канцэптуалізму, дае мастацтву аўтаномію і вольнасць, якія прыводзяць ажно ў бясконцасць. Яна з'яўляецца адкрытай і татальнай, бо дазваляе змяшчацца ў сабе разнастайным формам творчасці, а таксама бясконцай, бо нельга перарваць стужку мастацтва, якое можа ствараццца кожным. Яе можна назваць мастацтвам інтэлекту, кнігай часу і прасторы, якая ствараецца на працягу жыцця кожнага мастака, што займаецца ёю.

Другім мастаком, які амаль адначасова пачаў развіваць тэорыю тэйп-арта, быў Леапольд Дэка - польскі мастак, што жыве ў Нью-Йорку, які наступным чынам акрэслівае сваю дзейнасць: "Тэйп-арт з'яўляецца інтэлектуальнай гульнёй, якая адбываецца ва ўсёй сферы мастацтва без падзелу на дысцыпліны і накірункі і набывае розныя аблічча..., свабодна развіваецца ў адвольным накірунку пры захаванні асноўнай ідэі". На мяжы 80-х і 90-х гадоў да руху далучыліся новыя ўдзельнікі: Грацэ Кольч, Эўлалія Даманоўска, Іаана Півоцка, крыху пазней - Ніна Дунін, Марыюш Самарай, а таксама Ігар Камандышка з Беларусі.

У 90-х гадах адбыўся шэраг выстаў, дзе прапагандаваліся ідэі тэйп-арта, на якіх экспанаваліся мастацкія творы, створаныя з дапамогай розных тэхнік, і якія былі залічаны да розных накірункаў мастацтва. У Віцебску можна было бачыць жывапіс на паперы, дыяграмы, выкананыя з дапамогай камп'ютарнай тэхнікі, артыстычныя кніжкі, аб'екты, інсталяцыі, мастацтва відэа, канкрэтную і гукавую паэзію, арт-факс (art fax) і іншыя эксперыментальныя тэндэнцыі ў мастацтве.

На выставе прадстаўляліся арт-кнігі Эрны Разенштайн, Джэфры Хендрыкса, Яна Тарасіна, Анджэя Домбка і Анджэя К.Урбанскага. Гісторыя гэтай формы пачынаецца з 50-х гадоў, калі Яўген Джомрынджэр і некалькі іншых мастакоў пачалі эксперыменты ў Швейцарыі і Бразіліі. Наступныя гады сталі часам распаўсюджвання гэтага накірунку ў еўрапейскіх і амерыканскіх краінах, асабліва ў Германіі, Аўстрыі, Англіі, Швецыі, Чэхаславакіі і Польшчы. Вялікую ролю адыграў рух "Флюксус" і канкрэтная паэзія, прадстаўнікі якой прынялі ўдзел у выставе (апроч Дж.Хендрыкса, Лары Міллер і Луіджы Пасатэллі). Разам з гэтым з'явілася ўсведамленне магчымасці функцыянавання мастацтва па-за афіцыйнай сферай, а кніжкі - па-за выдавецтвамі. Кніжка стала творам мастацтва, які ад пачатку да канца стварае мастак. Яна магла быць аб'ектам або нават інсталяцыяй, створанай не для пераказу інфармацыі і тэкста, а як асобны твор з візуальнымі і сэнсавымі вартасцямі. Кніжныя аб'екты абапіраюцца або паўстаюць у адзінстве з ідэяй кнігі. Часам яны спасылаюцца на яе як на сімвал, структуру або метафару. Яны могуць быць выкананы з самых розных матэрыялаў (кніжкі з гліны, камянёў, кніжкі-каўбасы Дзітэра Рота і г.д.). Шмат мастакоў і тэарэтыкаў выказаліся на гэтую тэму, спрабуючы акрэсліць гэтую сферу мастацтва. "Найпрыгажэйшая і найдасканалейшая кніжка тая, у якой пустыя старонкі, - пісаў Уліс Кэрыён, - гэтаксама, як і найпрыгажэйшай мовай з'яўляецца тая, якая знаходзіцца па-за ўсім, што чалавек можа выказаць". Паводле яго меркавання, кніжка з'яўляецца секвенцыяй прасторы (плоскасці) і момантаў, у якіх магчыма затрымаць зрок на акрэсленай прасторы. Яна апелюе да здольнасці кожнага чалавека разумець і ствараць знакі і сістэмы знакаў, абстрактна мысліць, выказваць думкі ў выглядзе сімвалічнага аб'екта.

На выставе была прадстаўлена таксама інсталяцыя Катажыны Чэрпак, польскай мастачкі, якая стала жыве ў ЗША, пад назвай "Жыццё вяртаецца ў жывапіс". У пяці "кіслародных палатках" яна змясціла карціны, выкананыя ў антычнай тэхніцы энкаўстыкі, у якіх "штучна падтрымліваецца жыццё" з дапамогай сістэмы кропельніц. Непасрэдным імпульсам да стварэння працы стаў артыкул пад назвай "Мастацтва вяртаецца ў жывапіс", надрукаваны ў часопісе "Art in America", дзе размова ішла пра павелічэнне ролі гэтай сферы мастацтва ў мастацкім жыцці і яе колькаснай перавазе на нью-йоркскіх выставах. Катажына Чэрпак выказвае сумненне ў творчай ролі і магчымасці разумнай кантынуацыі жывапісу ў плыні авангарду пасля канцэптуалізму. Яна лічыць, што гэта маршаны стараюцца "ажывіць" гэтую сферу мастацтва. Іранічнае гучанне інсталяцыі правакуе сцвярджэнне, што большасць ствараемых зараз карцін памнажае старыя ідэі і з'яўляецца хутчэй рэпрадуктыўнай або дэкаратыўнай.

Мастацтва Тадэвуша Мыслоўскага ўзрастае з традыцый канструктывізму, якія ён перанёс і развіў на амерыканскай

глебе. Яго займаюць выключна дзве геаметрычныя фігуры - квадрат, што паходзіць з метафізічнага мастацтва Казіміра Малевіча і прэзентуе канцэптуальную форму творчасці, і крыж, пра які сам мастак пісаў наступнае: "Я бачу ў форме крыжа несупынную лінію думкі і ведаў, якая цягнецца праз стагоддзі, краіны, расы; лінію, якая глыбока схавана паміж пластамі розных рэлігій і філасофій, што на самой справе з'яўляюцца толькі яе перакручваннем і скажэннем. З 1976 г. я патраціў шмат часу на маніякальнае збіранне матэрыялаў, вывучаючы ідэі, што адносяцца да структуры крыжа, даследваючы і адкрываючы раўнавагу духу і матэрыі. Вывучаючы яго выявы ў розных сферах - тапаграфіі, рэлігіі, фізіцы, біялогіі, хіміі, металургіі, касмалогіі, матэматыцы, псіхалогіі, сацыялогіі, геаметрыі і мастацтве - я спрабую выпрабаваць і стварыць новую адчыненую і натуральную форму крыжа, якая перасягне ўсе культурныя асацыяцыі". Мастак у сваёй творчасці наблізіўся да адкрыццяў так званай арганічнай геаметрыі (фрактальнай геаметрыі Бенуа Мальдэнбро). На выставе былі прадстаўлены яго графіка, кніга, якая паказвае трансфармацыю геаметрычных форм у арганічныя, а таксама праект помніка Казіміру Малевічу, які можа быць пастаўлены ў Варшаве побач з гатэлем "Polonia", дзе адбылася выстава гэтага мастака, калі ён затрымаўся ў Польшчы па дарозе ў Германію.

Творчасць Рышарда Лугоўскага з самага пачатку была свядомым пошукам і прадстаўленнем універсальных праблем. Ствараючы свае інсталяцыі, аб'екты і выконваючы перфомансы, ён займаўся рознымі філасофскімі сістэмамі: экалогіяй у шырокім сэнсе, алхіміяй, паняццямі космасу, перамен, працэсу, прасторы і, зрэшты, часу. На выставе ў Віцебску былі прадстаўлены чыгунныя печкі з шуфлядкамі, дзе мастак захоўвае памяць пра знаёмых і асобаў, што адыйшлі. Печка служыць лабараторыяй, у якой адбываюцца пазітыўныя і негатыўныя перамены - спаленне ўспамінаў, адыход энергіі вышэйзгаданых людзей.

У межах віцебскай экспазіцыі быў прадстаўлены арт-факс - мастацтва, якое аперыруе новым медыумам, ідэалогію якога можна выводзіць з мастацтва пошты, што было бунтам мастакоў 70-х гадоў супраць устаноў культуры і культурнай палітыкі некаторых краін, а таксама рынку мастацтва, па законах якога твор мастацтва з'яўляецца каштоўным аб'ектам і падлягае продажу. Зараз створана сетка мастакоў і мастацкіх месцаў, якія перасылаюць свае артыстычныя аб'екты па пошце. Арт-факс таксама з'яўляецца сродкам па-за ўстаноўнага кругазвароту, які створаны на падставе новага медыума і з дапамогай якога можна дасылаць праекты і працы малых фарматаў. У Музеі М.Шагала прэзентаваліся такія аб'екты звыш 100 польскіх і замежных мастакоў (у тым ліку і жыхаркі Шчэціна Іааны Півоцкай).

Віцебск, адзін з асяродкаў мастацкага жыцця Беларусі, які мае вялікія традыцыі авангарднага мастацтва (тут працавалі Марк Шагал і Казімір Малевіч), стаў належным месцам для прэзентацыі эксперыментальнага мастацтва. Выстава карысталася вялікім поспехам і цікавасцю як з боку наведвальнікаў і мастакоў, так і прэсы. Яна з'яўляецца пачаткам больш шырокага праекта польска-беларускага мастацкага абмену, які запланаваны як шэраг міжнародных выстаў, што будуць наладжаны на працягу бліжэйшых двух гадоў у Польшчы, ЗША і Беларусі.

*Пераклад з польскай мовы.*

Анастазы Б. Віснеўскі.
Паэмы тэйп-арт.
1996 г.





# допісы на палёх

## ВАЛЕРЫЙ ШЫШАНАЎ

# ДАБРАВЕСЦЕ АД БАТЛЕЙКІ

### ЗАМЕСТ ПРАЛОГА

Бог-творца стварыў чалавека па вобразе і падабенстве сваім. Стварыў наўмысна недасканала, але чалавек таксама быў творцам. І амаль што адразу пасля з'яўлення ён пачаў спрабаваць стварыць згодна са сваімі ўяўленнямі ўласны свет. У ход ішло ўсё, што неяк паддавалася працы чалавечых рук: камень і дрэва, гліна і салома, косць і метал... Вяршыняй гэтага працэсу стала ЛЯЛЬКА. І не толькі таму, што яна ва ўсім падпарадкоўвалася чалавеку, але і таму, што ёй можна было даверыць любыя ролі — нават ролю самога Бога. Апошняе, каб данесці да простага народа вучэнне Хрыста, і паспяшаліся скарыстаць варожыя да чалавечага відачынства божыя службы. З пачатку XV ст. манахі пачалі блукаць па Еўропе з драўлянымі скрынямі, у якіх лялькі прадстаўлялі біблейскае паданне пра нараджэнне Ісуса. У XVI ст. тэатр такога тыпу з'явіўся на Беларусі. Зваўся ён па-рознаму: на Віцебшчыне — віфлеем (ад назвы горада, дзе нарадзіўся Хрыстос), жлоб (ад назвы кармушкі ў хлеве, у якой ляжаў народжаны Збавіцель); у заходніх раёнах — яселкі (ад іншай назвы той жа кармушкі); на Магілёўшчыне — вяртэп (што на старaславянскай мове азначае "пячора", бо, згодна з апакрыфічным Евангеллем ад Фамы, менавіта ў пячоры размясціўся хлеў, дзе нарадзіўся Збавіцель). Але найбольшае распаўсюджанне атрымала назва "батлейка" (ад іншай транскрыпцыі назвы Віфлеема — Бэтлеем).

У XVIII ст. хаджэнне каталіцкіх манахаў з батлейкай было забаронена. Царква заўсёды строга наглядала за адыходам ад рэлігійнага канону і пранікненнем свецкіх матываў у лялечнае прадстаўленне. Таму каталіцкае духавенства распаўсюджвала яселкі з нерухомымі фігурамі, якія паказвалі толькі нараджэнне Хрыстова і пакланенне вешчуноў, а іх дэманстрацыя на Каляды суправаджалася спяваннем выключна духоўных кантаў.

Узорам батлейкі з нерухомымі лялькамі ў праваслаўнай царкве з'яўляецца вядомы "віцебскі жлоб", які паходзіць з Віцебскай Ільінскай царквы і які да Другой сусветнай вайны захоўваўся ў Віцебскім аддзяленні Беларускага дзяржаўнага музея. Сваім выглядам жлоб нагадваў трохкупальную царкву і складаўся з трох аддзяленняў: сярэдняга — двух'яруснага і двух бакавых — аднаярусных. У ніжнім ярусе сярэдняга аддзялення знаходзілася нерухомая лялечная інсцэніроўка "Пакланенне вешчуноў дзіцяці Хрысту", а ў астатніх — прыстасаваныя да кручэння па прынцыпе каруселі бляшаныя сілуэты, якія прадстаўлялі вандроўку вешчуноў у Віфлеем, уцёкі святога сямейства ў Егіпет і падрыхтоўку Ірадам забойства немаўлятаў. Канструкцыя прыводзілася ў рух цёплым паветрам, якое ўздымалася ад запаленай свечкі. Ад святла той жа свечкі на насычаным алеем палатняным экране ўзнікалі цені сілуэтаў у кручэнні. Звычай "Хрыстаслаўлення" са звяздой і батлейкай, як звычай неправаслаўны, быў забаронены ў Віцебскай епархіі ў 1864 годзе. У Віцебскай Ільінскай царкве ён канчаткова быў "знішчаны" у 1866 годзе.

Але кінутае ў глебу народнай творчасці зерне дало свае ўзыходы. На Каляды па гарадах і вёсках вялікія натоўпы народу збіраліся, каб паглядзець на прадстаўленні батлеечнікаў, якія паходзілі з простага люду і неслі да яго скарбы народнай мудрасці і духоўнасці. Сустракаліся батлейкі адна-, двух-, або трох'ярусныя. Аздабленне батлеечных скрыняў было самае разнастайнае: адны нагадвалі царкву, другія — простую шафу. Тая ж стракатасць назіралася і ў спевах, і ў дыялогах, і ў ляльках. Біблейскія сцэны з удзелам анёлаў, Адама і Евы, вешчуноў, святога сямейства суседнічалі з таксама біблейскай паводле сваёй асновы народнай драмай "Цар Ірад" і з ужо зусім "мірскімі" інтэрмедыямі, у якіх галоўная роль належала прадстаўленым у парадыйным, гратэскавым выглядзе персанажам з гісторыі і навакольнага жыцця.

Да зыходу XIX ст. батлейка ўсё радзей і радзей стала з'яўляцца перад народам. У 1962-63 гг. у Бялевічах Слуцкага раёна адбыліся апошнія зафіксаваныя прадстаўленні батлейкі на Беларусі. Зараз толькі матэрыялы, сабраныя даследчыкамі XIX - пачатку XX стст., ды нешматлікія ўзоры батлеечных лялек і скрыняў з музейных збораў даюць магчымасць далучыцца да свету старадаўняй батлейкі. Сувязь часоў перапынілася...

Але зноў і зноў людзі, улюбёныя ў сваю Бацькаўшчыну і неабыякавыя да лёсу яе культурнай спадчыны, спрабуюць вярнуць да нас гэтую амаль што страчаную форму народнага лялечнага тэатра. Некалькі год назад батлейка з'явілася ў Беларускім тэатры "Лялька", што ў Віцебску.

Прапануем вашай увазе прадстаўленне, складзенае з маналогаў яе стваральнікаў у трох дзеях з эпілогам.

### З'ЯВА ПЕРШАЯ:
#### АЛЯКСАНДР СІДАРАЎ, МАСТАК

Я сам і мая маці родам з Віцебска. Але паколькі бацька быў вайскоўцам, значная частка майго жыцця прайшла ў Расіі. У Ленінградзе я скончыў тэатральны інстытут, затым 15 гадоў працаваў у Іванаве. Асабліва не думаў аб сваіх каранях, аб Беларусі. Але з цягам часу прыйшла настальгія... І вось неяк натрапіў у газеце на паведамленне аб тым, што ў Віцебску адчыніўся тэатр "Лялька". У маёй душы нешта зварухнулася і праз некаторы час я стаў галоўным мастаком гэтага тэатра.

Я заўжды марыў стварыць у тэатры нейкі асаблівы свет, нейкі куток, які быў бы толькі ў адным месцы ў свеце. І гэтая, напэўна, яшчэ дзіцячая мара ўвасобілася для мяне ў батлейцы, якая сама па сабе — адметны свет. Прычым, для

беларускага тэатра батлейка — гэта адзін з яго вытокаў. І калі дзеці прыходзяць да нас у тэатр, яны адразу бачаць, з чаго ўсё пачалося. Батлейка ўваходзіць у іх жыццё. Дзіцячая фантазія абуджаецца праз дакрананне да глыбінь традыцыйнай культуры беларусаў.

Да батлейкі, якая знаходзіцца ў нашым тэатры, шлях быў даволі доўгі. Першую батлейку я зрабіў для сябе і сваіх дзяцей, але для кватэры гэта была даволі вялікая рэч і праз нейкі час яе ў мяне набылі для Літаратурнага музея ў Віцебску. Потым зрабіў батлейку для музея тэатральнага мастацтва ў Мінску.

Спачатку працаваць над батлейкай было складана — чарцяжоў не было, адзін толькі знешні выгляд. Пачаў унікаць у хітрасці канструкцыі, убачыў, як на першы погляд проста, але дасціпна распрацавана сістэма ваджэння лялек. Дакладнага аналага нашай батлейцы нельга вызначыць. Яна набліжана да магілёўскага тыпу, але ў мяне было сваё агульнае адчуванне батлейкі як з'явы народнай творчасці ў кантэксце паўсядзённага побыту беларусаў з яго пасялянску простымі, але адшліфаванымі за стагоддзі канструкцыямі прыладаў, народнай кемлівасцю. Так, у сваёй батлейцы я скарыстаў, праўда, у мадэрнізаваным выглядзе, сістэму ілюмінавання камер, якая ўжывалася выдатным батлеечнікам Патупчыкам. Звычайна для асвятлення на дзверцы батлейкі ставілі падсвечнікі, але гэта давала мала святла. І вось Патупчык паставіў у бакавінах батлейкі свечкі, на версе камер прыладзіў палоскі люстэркавага шкла і атрымалася вельмі эфектнае — "казачнае" — асвятленне. Лялькі таксама ствараліся хоць і пасля знаёмства са старымі ўзорамі, але інстынктыўна, па натхненні. І гэта, верагодна, было ўласціва і для тых часоў — не было канону. Вырашыў зрабіць проста разныя, драўляныя, набліжаныя, як мне падалося, да зыходнага — традыцыйнай драўлянай скульптуры. Але ў ляльках павінна быць закладзена мінімальная механіка. Так, у цара Ірада павінна адкідвацца галава, Смерць мусіць махаць касой, Чорт павінен неяк пужаць людзей, Анёл — званіць у званочак. Лялькі я рабіў з цікавасцю, без напружання. І яшчэ. Да працы над батлейкай мяне падштурхоўвалі акцёры нашага тэатра Юрась Франкоў і Ганна Кір'янава. Гэта вельмі захопленыя батлейкай людзі. Яны яшчэ раней самі зрабілі з кардону батлейку і ладзілі прадстаўленні.



Батлейка Беларускага тэатра "Лялька".
Фота Л. Ляшчовай.

З галоўным рэжысёрам тэатра Віктарам Клімчуком у нас была ідэя зрабіць вялікую сцэнічную батлейку не на 20 глядачоў, як звычайна, а на 150. І ў той жа час, каб яна была перасоўнай, разборнай. У нейкім сэнсе гэтая мара ўвасобілася ў нашым спектаклі "Загубленая душа" па матывах казак Яна Баршчэўскага. У афармленні спектакля прысутнічаюць элементы, уласцівыя батлейцы, і тыя, што нагадваюць яе. Дзеянне таксама адбываецца на двух паверхах. Гэта, зразумела, мадэрнізацыя, але захоўваецца традыцыя і, магчыма, так можна ісці да развіцця закладзеных у батлейцы прынцыпаў, магчымасцяў. На жаль, амаль што цалкам адсутнічае сучасная драматургія для тэатраў лялек...

## З'ЯВА ДРУГАЯ:
### ЮРАСЬ ФРАНКОЎ, АКЦЁР

Неяк да навагодніх ранішнікаў і да Раства мы з Ганнай Кір'янавай узяліся за пастаноўку гісторыі нараджэння Хрыста. Гэта была невялікая батлейка, нават не класічная, проста аднапавярховая скрыня, у якой адлюстроўваліся падзеі на зямлі, а зверху жылі Бог, анёлы і праведныя людзі. Потым з'явілася батлейка, створаная Алесем Сідаравым.

Як акцёра, батлейка прываблівае мяне тым, што ў адным прадстаўленні можна сыграць адразу некалькі роляў. Ганна іграла ўсе жаночыя ролі і ролі анёлаў, я — мужчынскія. Але лялечны тэтр — гэта не тэтр перажыванняў, гэта тэатр-прадстаўленне. Нават калі я павінен перадаць хваляванне, я не магу гэтага перадаць як жывы акцёр на сцэне — праз эмоцыі, пачуцці, я не магу выбегчы на сцэну, загаманіць, заплакаць. Артыст у батлейцы выказвае гэта інтанацыяй голасу і толькі ў нейкай ступені выкарыстоўвае вельмі простую механіку лялек. Але лялькі працуюць "па Станіслаўскаму" — "прыйшоў, убачыў, ацаніў". Калі лялька з'яўляецца на сцэне, яна павінна заявіць пра сябе, убачыць таго, да каго яна звяртаецца, ацаніць яго і потым нешта сказаць. Зразумела, у батлейцы ўсё адбываецца спакойна, таму што калі ў невялікай скрыні-доміку лялька пачне рабіць многа ўсялякіх рухаў, то гэта будзе проста

трасяніна нейкая. Таму лялькі робяць простыя рухі: паглядзець, зафіксаваць, прайсці ў адваротны бок, зноў паглядзець. І ў гэтым адметнасць батлейкі, адрозненне ад іншых тыпаў лялечных тэатраў. Усё на першы погляд неяк прымітыўна, але калі запальваюць свечкі, выходзяць людзі, чытаюць малітву, пачынаецца дзеянне — усё гэта стварае асаблівую атмасферу. І дзеці глядзяць з цікаўнасцю. Гульня лялек здольная глыбока крануць іх пачуцці.

Хацеў бы яшчэ прыгадаць, калі мы былі на гастролях у Нямеччыне, у касцёле бачылі вельмі старадаўнюю батлейку. Яна была вельмі багата ўпрыгожана разьбой і ўся паточана шашалем. Але, хоць наш тэатр удзельнічаў у фестывалях, даволі многа гастраляваў, нам не давялося бачыць у Еўропе працягу традыцыі батлеечнага тэатра...

## З'ЯВА ТРЭЦЯЯ:
### ГАННА КІР'ЯНАВА, АКТРЫСА

Мая цікаўнасць да батлейкі абудзілася год 10 назад, пасля знаёмства з мінскімі батлеечнікамі. Ад іх я даведалася, як рабілі батлейку, лялькі, прачытала батлеечныя тэксты, убачыла само дзеянне. Потым пазнаёмілася з кнігай Г.І.Барышава і А.К.Саннікава "Беларускі народны тэатр батлейка" (Мн., 1962).

Цікаўнасць да батлейкі ішла ў мяне ад жадання глыбей зведаць рэлігію і духоўнасць беларусаў. У масавай свядомасці яшчэ і зараз жыве ўяўленне пра беларусаў, як пра народ, які жыў у курных хатах і якога рабавалі то адны, то другія — якая там ужо культура! Але вось хор на прыканцы батлеечнай драмы "Цар Ірад" спявае:

*Чалавеча бедны,*
*Успомні час паследні,*
*Тым жа не гардзіся,*
*Не правазнасіся*
*Ў сем свеце.*
*Взглянь толькі ачыма —*
*Кругом бездна здрыма*
*Ў сем свеце.*
*Ў пралесным сем свеце*
*Смерць дзяржыць ў прымеце*
Ўсякага...

Ашаламляльная глыбіня філасофіі! Людзі жылі і як сумленне за спіной хадзіла — "Памятай: смерць дзяржыць у прымеце"! І далей:

*Купцы бы слажылісь,*
*Ат смерці аткупілісь,*
*Аддалі бы палаты*
*І ўсё сваё злата —*
*Не бярэць смерць!*

У сваёй вонкавай прастаце батлейка злучыла ў сабе ўяўленні нашага народа пра дабро і зло, пра будову свету, і праз яе можна спасцігнуць рэлігійнасць беларусаў, якая спалучае і хрысціянства, і язычніцтва. Вось у Польшчы — шопка: лялькі ўсе такія правільныя, разьба такая тонкая. Усё, каб даць кананічнае ўяўленне — вось такім павінен быць анёл, вось так ён павінен быць апрануты, так павінен размаўляць. У беларусаў адчуваецца сімвалізм — нейкі кавалак дрэва, а ўспрымаецца як анёл. Гэтак успрымаюць язычнікі — душой. І ў беларусаў гэтак — адчуванне прысутнасці духа, душы ўсюды. Тое ж самае — мова. Я не магу змяніць мовы — пры ўсім жаданні не магу. Губляецца дух, гэтае пачуццё ажывання душы. Таму тое, што мяне яшчэ вабіць у батлейцы — гэта мова. Батлейка паказвае і даказвае: беларуская мова існавала і батлейка дае магчымасць уваскрэсіць яе. Уваскрэсіць мову, уваскрэсіць успрыманне беларусамі навакольнага свету і грамадскіх адносін. Вось возьмем інтэрмедыі — у іх шмат смешнага, шмат павучальнага і цэлая галерэя вобразаў, узятых з тагачаснага жыцця: Лекар, Паненка, Пан, Франт, Антон і Антоніха, Казак, Турак, Цыган, Яўрэй-карчмар. Бясконца... Калі зараз чытаеш гэтыя тэксты — здзіўляе, наколькі беларусы маглі дакладна вызначыць у ляльках рысы нацыянальнага характару, вонкавы выгляд іншых народаў, сваіх суседзяў, адметныя рысы розных сацыяльных груп. Усё гэта набывала парадыйную, гратэскавую форму, беларусы смяяліся над сабой, над чужынцамі, але ў гэтым няма жорсткасці, непавагі да іншых народаў.

У сённяшнім жыцці батлейцы цяжка знайсці сваё месца. Тры гады я кірую батлеечнай студыяй пры Аб'яднанні пазашкольнай працы. Дзеці займаюцца з цікавасцю. Мы многа працуем, выступаем са спектаклямі. Між тым батлейка мае даволі абмежаваныя магчымасці для далейшага росту акцёрскага майстэрства. У батлейцы містычная зададзенасць рухаў. Вось шчыліны, па якіх водзяцца лялькі, — лялька можа ісці туды, потым сюды і нікуды не можа пайсці па сваёй волі. Нельга адыйсці ад канону, не парушыўшы яго, а з ім і сутнасць батлейкі. А мае вучні патрабуюць большага...

Публіка прымае батлейку вельмі добра, але бывае балюча, калі яна смяецца над тым, што не павінна выклікаць смех. У батлеечным дзеянні, у яго мове шмат такога, што не зразумела сучаснаму глядачу. Напрыклад: "Нова рада стала якой не бывала, над вярцепам звязда ясна светла вассіяла, дзе Хрыстос нарадзіўся з Дзевы ваплаціўся." Вось — "з Дзевы ваплаціўся..." Можа быць, месца батлейкі наогул у музеі, у тым наваколлі, у якім яна існавала спрадвеку? Але гэта павінен быць экспанат, які жыве, дзейнічае.

Сёння мы глядзім на сваё мінулае як іншаземцы. І вельмі балюча, што зараз культура знаходзіцца на галодным пайку. Краязнаўства як навука і як грамадская справа не знаходзіць падтрымкі ні ў дзяржавы, ні ў большай частцы насельніцтва. А вядома, каб скарыць народ, заваёўнікі ў першую чаргу знішчалі яго гістарычную памяць — архівы, бібліятэкі, музейныя зборы, знішчалі інтэлектуальную эліту. І надзвычай важна, каб за адраджэнне беларускай культуры не выдавалася нейкая падробка пад народныя танцы і спевы, а каб адраджалася глыбінная сутнасць духоўнага жыцця беларусаў. І каб вывучэнне мінулага, краязнаўства не ператваралася ў хобі апантаных адзіночак, якія займаюцца гэтым па-за часам здабывання хлеба паўсядзённага, а мела надзейную базу і падтрымку.

Мы не ў стане ўспрымаць усёй глыбіні нашай спадчыны і таму, што мы атэісты і выхаванне нашае атэістычнае. Зараз модна казаць пра Бога. Мы размаўляем, мы чытаем, мы ведаем — так трэба рабіць, так нельга — як у запаведзях сказана. А беларусы можа і запаведзяў дакладна не ведалі, але жылі па боскіх законах і ўспрымалі іх праз душу. І таму батлейка памерла, бо мы змяніліся, змяніліся нашы душы. 70 гадоў панавання камуністычнага ваяўнічага бязбожніцтва, зараз наступ поп-культуры — мы не можам ужо ўспрымаць батлейку, як нашы продкі. Мы слухаем яе вушамі, а не сэрцам. А вушамі чуем наіўнасць, наіўнасць беларусаў. Мы не можам зразумець, як людзі маглі быць такімі наіўнымі. А яны былі чыстыя. А мы ўжо не наіўныя, наша ўспрыманне забруджана. І каб батлейка жыла, напрыклад, так, як японскі

тэатр кабукі, у нас павінна быць захавана агульная культура, як у японцаў. Або возьмем "Рамаяну". Гэтаму эпасу каля двух тысячагоддзяў. Але і сёння гэтае прадстаўленне ідзе суткі, двое — людзі не адыходзяць. Яны ўвабралі гэта з малаком маці, а мы з малаком маці ўвабралі атэізм, з малаком маці ўвабралі двурушнасць — адно гаворым, другое думаем, трэцяе робім. І ад гэтага, мне здаецца, мы не ўспрымаем да канца мінулае, мы не можам усвядоміць каштоўнасць мінулага. Нам падаецца смешным і незразумелым тое, як працавалі і жылі нашы продкі, тое, што іх турбавала. Мы ў мінулым спрабуем бачыць дрэннае і чалавеку лягчэй убачыць тое, што ёсць у ім, таму што злодзея ўбачыць толькі злодзей. Калі ў нас ёсць тое, што было ў іх — мы бачым. У нас жа ёсць негатыўнае — гэта мы бачым і ў мінулым. Нашы продкі ўспрымалі свет сэрцам, таму і бачылі тое, што вачыма не ўбачыш. Яны маглі гэта бачыць, а мы не. Гэтае ўспрыманне свету з прысутнасцю Бога — паўсюднае і адчуванне жывога ва ўсім. Жывая прырода, жывы лес, трава, вада. Усё гэта — жывое і ва ўсім ёсць душа, дух, гэта пранізвае беларускую духоўнасць.

Але прыйдзе час, я спадзяюся, калі беларусы усё ж такі звернуць увагу на мінулае... З другога боку, спадзяюся, мы станем чысцей духоўна, станем хрысціянамі ў душы, а не звонку. І тады мы здолеем зразумець батлейку і яна стане бліжэй да нас.

## ЗАМЕСТ ЭПІЛОГА

У 1963 годзе тады студэнт тэатразнаўчага факультэта, а зараз дырэктар тэатра "Лялька" Геральд Асвяцінскі наведаў вёску Макуці, што ў Іўеўскім раёне Гродзенскай вобласці. Палову жыхароў вёскі складалі праваслаўныя, другую — каталікі. Але і тыя і другія вернікі добра ставіліся адзін да аднаго. І ўсе святы, нягледзячы ці то яны былі каталіцкія, ці то праваслаўныя, адзначалі разам. Ва ўсялякім выпадку — "і чарку прыгубяць". Ад старой Марыі Мурашкі спадар Асвяцінскі запісаў даўні спеў, які калісьці спявалі ў вёсцы і па-польску, і па-беларуску:

*Моцны голас уначы*
*Паўсюдна гучыць:*
*Нарадзіўся Бог святы!*
*Будзем хутка ўсе збірацца,*
*Да батлейкі паспяшацца,*
*Шанаваць Пана,*
*Шанаваць Пана.*

Віцебскі жлоб XVIII ст.
(агульны выгляд і канструкцыя вяртушкі)







допісы на палёх

ЛЮДМІЛА ХМЯЛЬНІЦКАЯ

# ГУТАРКА З ВАНДРОЎКІ Ў КРАІНУ ГЕЛЬВЕЦЫЮ


Скульптура Карла Вялікага на вежы сабора Гросмюнстэр у Цюрыху.

Назва Швейцарыі на розных мовах гучыць па-рознаму: па-нямецку Schweiz, па-французску Suisse, па-ангельску Switzerland, па-лацінску Helvetia. У гэтай краіне, размешчанай амаль у цэнтры Еўропы, мне давялося правесці 12 цудоўных дзён на самым пачатку восені 1996 года. Ідэя напісаць белетрызаваныя нататкі ўзнікла адначасова з пачаткам падрыхтоўкі да падарожжа і паступова пачала набываць сваё ўвасабленне ў кароценькіх запісах на тых шматках паперы, што трапляліся пад руку. Напаўпрыватны характар гэтых занатовак пазней дазволіў аб'яднаць іх гэткім жа напаўпрыватным словам "гутарка", што да ягонай сутнасці амаль забытага сёння жанра беларускай літаратуры, магчыма, мае толькі ўскоснае дачыненне.

Маё знаёмства са Швейцарыяй пачалося з Цюрыхскага аэрапорта, і таму першыя ўражанні - менавіта ад гэтага горада.

* * *

Сабор Гросмюнстэр у Цюрыху, заснаваны паводле падання яшчэ ў IX ст. - маці алеманскае Рэфармацыі. Менавіта тут прамаўляў свае казанні знакаміты Ульрых Цвінглі, пра што сведчаць бронзавыя барэльефы дзвярэй уваходнага партала, шматлікія партрэты рэфарматара на каляровых паштоўках, якія з ахвотай набываюць турысты, ды, зрэшты, само аскетычнае ўнутранае ўбранства бажніцы. Звонку ля паўночнай сцяны храма - плошча Цвінгліпляц, дзе можна ўбачыць помнік Генрыху Булінгеру, пераемніку і прадаўжальніку справы пераўтварэння хрысціянскае царквы.

Безумоўнай адметнасцю сабора з'яўляецца ягоная крыпта, самая вялікая ў Швейцарыі, змураваная яшчэ ў XII ст. У старадаўніх крыптах усяго свету пахне, напэўна, заўсёды аднолькава: цвіллю, вільгаццю і прамінулымі стагоддзямі. Не апрацаванае кандыцыянерамі паветра крыпты - гэткая ж самая рэліквія, як і рэшткі рэнесансавага роспісу на сценах, з'едзеныя часам вапняковыя структуры скляпенняў, зашмальцаваныя падэшвамі мільёнаў ног надпісы пахавальных пліт. Тут жа знаходзіцца велічная мураваная фігура Карла Вялікага, скапіраваная ў XV ст. з больш ранняга арыгінала. У фігуры адбітыя ногі, з-за чаго найзнакаміцейшаму з Каралінгаў сядзець нязручна, і з боку ўся ягоная постаць выглядае не больш устойліва, чым яйка, пастаўленае вертыкальна. Аднак турыстам, якія забягаюць сюды звычайна толькі на хвіліну, ніякая небяспека не пагражае: манументальная фігура заваёўніка надзейна прымацавана двума жалезнымі крукамі за плечы да сцяны. Гэткая ж самая выява - копія, зробленая ў 1935 г. Отта Мюнхам, - змешчана звонку, на адной з вежаў касцёла, адкуль з-пад багата дэкараванага познегатычнага балдахіна Carolus Magnus мае магчымасць назіраць за плынню ракі Ліммат і парадкам ва ўсім слаўным месце Цюрыху. Гэтая фігура не мае пашкоджанняў, уласцівых арыгіналу з крыпты, аднак дзякуючы аддаленасці ад глядача страчвае частку сваёй велічы і цалкам абвяргае ходкае сцвярджэнне, што ўсё вялікае бачыцца толькі на адлегласці.

Карл Вялікі лічыцца заснавальнікам Гросмюнстэра. Ахвотнік да палявання, ён аднойчы пераследаваў аленя ў цюрыхскіх лясах. Апынуўшыся на месцы, дзе зараз стаіць сабор, конь франкскага імператара раптам спыніўся і прыпаў на калені. Так было знойдзена месца пахавання святых Фелікса і Рэгулы, патронаў Цюрыха, замардаваных у канцы III ст., і заснаваны храм. Пра гэтыя падзеі распавядае адзін з рэльефаў вонкавых фрызаў сабора. Раманская разьба гэтых фрызаў з выявамі фантастычных птушак, жывёл, раслін, чалавечых постацяў утрымлівае ў сваёй пластыцы гэткую ж самую таямніцу, як і сілуэты старажытнарускіх храмаў ці каляровыя керамічныя пліткі ды загадкавыя знакі на цаглінах гарадзенскай Каложы.

* * *

Недалёка ад сабора Гросмюнстэр, усяго толькі праз мост цераз раку Ліммат, знаходзіцца яшчэ адна цюрыхская знакамітасць - царква Фраумюнстэр, каралеўскае абацтва часоў Каралінгаў. Зараз тут знаходзяцца пяць вялікіх і адзін маленькі вітражы, зробленыя Маркам Шагалам. Тут заўсёды шматлюдна, сотні турыстаў з рознай ступенню зацікаўленасці і разумення творчасці мастака спраўляюць паломніцтва ў гэтую мясціну. Часцей за ўсё іх суправаджаюць гаманлівыя гіды, у шматслоўных аповядах якіх рытмічным і надзвычай спеўным на слых рэфрэнам паўтараецца неперакладальнае: "Marc Chagall... Marc Chagall..." Нават пры дастаткова сціплым натуральным асвятленні, якім часцяком адорвае жыхароў Цюрыха зменлівае надвор'е, вітражыззяюць фарбамі і, здаецца, самі вылучаюць святло. Шагал рабіў іх у Рэймсе ў 1970 г., ужо амаль напрыканцы свайго зямнога шляху, маючы ад нараджэння 83 гады. Тым не менш галоўныя пачуцці, якія выклікаюць колеры вітражоў - радасць і свята жыцця. Згусткі ўльтрамарыну на іх паходзяць, безумоўна, з Віцебска, аднак усё астатняе - тутэйшае, еўрапейскае, плён уздзеяння на творчасць Майстра не толькі культуры, але і цывілізацыі.

Перад самым ад'ездам у Швейцарыю падчас адпачынку некаторы час жыла ў колішнім невялікім мястэчку пад Віцебскам. Пайшоўшы аднойчы на шпацыр у лес, напаткала ў ім старадаўнія яўрэйскія могілкі - сотні дзве ўрослых у зямлю заімшэлых трохкутных камянёў з незразумелымі літарамі, больш падобнымі на арнамент. Могілкі моцна пазарасталі дрэвамі, па іх цяжка было прайсці з-за апалага ламачча і хмызняку. Тым не менш пад нагамі ўвесь час трапляліся бітае бутэлечнае шкло, кінутыя коркі, сінтэтычныя абгорткі ад ежы, якія да абраду памінання продкаў не маюць ніякага дачынення. Яшчэ на пачатку стагоддзя працэнт яўрэйскага насельніцтва мястэчка быў даволі істотным, цяпер жа за ўвесь час свайго знаходжання тут я не ўбачыла ніводнага семіцкага твару. Напэўна, яўрэі ў мястэчку больш не жывуць. Засталіся адны толькі козы, якія на вечаровых папасах пры набліжэнні да іх людзей пачынаюць енчыць амаль чалавечымі галасамі.

Цяжка ўсвядоміць, што цюрыхскія вітражы Шагала і камяні занядбаных местачковых могілак - блізкія галіны аднаго дрэва.

* * *

Кюснахт - невялікі прыемны горад у ваколіцах Цюрыха, размешчаны на ўсходнім беразе Цюрыхскага возера. Тут ёсць два касцёлы, каталіцкі і пратэстанцкі, якія ва ўнутраным убранстве мала чым адрозніваюцца адзін ад аднаго і разам аздабляюць жыццё месцічаў штодзённым меладычным перазвонам. Тут некалі жыў нямецкі пісьменнік Томас Ман і швейцарскі псіхааналітык Карл Густаў Юнг, інстытут якога дзейнічае ў гарадку да гэтага часу.

Цяпер у Кюснахце жыве знаная швейцарская беларусістка Моніка Банькоўскі-Цюліг, пра якую без ценю відавочнага ці прыхаванага панібрацтва хочацца сказаць: "Наш чалавек у Швейцарыі". Спадарыня Моніка цудоўна ведае і разумее Беларусь, яе мінулае і сучаснае жыццё, яна шчыра адкрытая на кантакты і заўсёдную дапамогу. Яе цікавасць да Беларусі грунтуецца на глыбокім досведзе інтэлігента Цэнтральнай Еўропы пра культурнае развіццё ўсходнеславянскіх народаў. Яе хвалююць падзеі, якія перажывае наша краіна зараз. Яе дом - маленькі куток Беларусі ў Швейцарыі. Тут шмат беларускіх кніжак, часопісаў, сувеніраў, лістоў ад сяброў-беларусістаў з цэлага свету, шмат зычлівасці і жадання разумець нашыя праблемы. Спадарыня Моніка працуе ў Цэнтральнай бібліятэцы Цюрыха, даследуе пытанні швейцарска-беларускіх узаемадачыненняў, а таксама з ахвотаю дапамагае ўсім, хто займаецца беларусікай - каму новымі кніжкамі, што выдаюцца ў Еўропе, каму актуальнай інфармацыяй, каму сваімі ведамі і асаблівым досведам у галіне бібліяграфіі, робячы гэта іншым разам на шкоду ўласным навуковым зацікаўленням і вольнаму часу. Яна вельмі мілы і тактоўны ў абыходжанні чалавек, і маё стаўленне да яе цалкам адметнае - толькі дзякуючы ёй удалося спраўдзіць гэтае маё цудоўнае падарожжа да Швейцарыі.

* * *

Пры добрым надвор'і з гары Йётліберг (873 метры над узроўнем мора) адкрываецца цудоўная панарама на Цюрых і практычна ўсё Цюрыхскае возера. Для зручнасці турыстаў на гары зроблены выгодныя аглядальныя пляцоўкі, і стаіць металічная вежа, па якой жадаючыя сваім ходам могуць узняцца яшчэ на некалькі дзесяткаў метраў бліжэй да неба.

Панарама Цюрыха ўражвае амаль поўнай адсутнасцю хмарачосаў, лагоднасцю і паважнасцю ўсяго места, якое шырокай плямай расцяклося па пляскатай даліне. У невялікай рэстарацыі, што размясцілася ля самай вежы, мы заказалі фруктовую салату, якую з'елі на свежым паветры разам з тамтэйшымі восамі, вялікімі ахвотніцамі да салодкага. Па свайму смаку і пышных колерах спелай восеньскай садавіны з адбіткамі сонца салата нагадвала нацюрморты Івана Хруцкага, а манументальныя краявіды пакрытых лясамі гарыстых схілаў заходняга берага Цюрыхскага возера спакушалі на маўклівую засяроджанасць і роздум пра вечнае.

"Божухна, які вялікі свет ты стварыў!" - кажуць, гэтыя словы прамовіла швейцарская сялянка ў мінулым стагоддзі, калі абрынулася адна з гор, што акалялі яе вёску, і такім чынам адкрыўся краявід на суседнюю даліну. Гэткія ж словы не аднойчы хацелася выгукнуць і мне, сузіраючы велічную і строгую прыгажосць швейцарскай прыроды, гарманічна злучанай з жыццёвым асяродкам чалавека.

* * *

Да гарадка Майлен трэба ехаць ад Кюснахта 20 хвілін на цягніку. Са спадарыняй Банькоўскі мы выправіліся туды адмыслова для наведвання адной прыватнай галерэі, у якой захоўваецца вялікі збор графікі Марка Шагала. Як аказалася, якраз на той час галерэя была зачынена на рамонт, аднак яе ўладар - пан Гюнтэр Камацкі - ласкава дазволіў нам агледзець тое, што можна было пабачыць на знятых са сваіх месцаў і растаўленых уздоўж сцен графічных аркушах. Убачыўшы нашае відавочнае зацікаўленне творчасцю Шагала, гаспадар прапанаваў нам для агляду выдадзеную ў Парыжы кнігу "Сем смяротных грахоў", ілюстраваную афортамі мастака, якая сталася яго дэбютам на Захадзе ў галіне кніжнай графікі. Неўзабаве нам была прапанавана таксама і кава, падчас якой высветлілася, што я прыехала з Віцебска і нечакана для сябе стала першым наведвальнікам галерэі, які прыбыў з радзімы Майстра. Далей нас чакала яшчэ большая неспадзяванка. Аказалася, што пан Камацкі, уладальнік самай вялікай калекцыі графікі Шагала ў Еўропе, ужо даўно меў намер звязацца з музеем Шагала ў Віцебску і ахвяраваць яму адну з прац мастака! Даведацца аб такім намеры вядомага галерэйшчыка, для якога творчасць Шагала ўжо даўно стала не толькі бізнесам, але і шчырым ды глыбокім захапленнем, было вельмі ўсцешна.

Агледзеўшы яшчэ некалькі рарытэтаў са збору пана Камацкі і атрымаўшы запрашэнне наведаць галерэю яшчэ раз праз некалькі дзён, калі будзе скончаны рамонт, мы вярталіся дадому з цвёрдым

Сабакі пароды сенбернар, выведзеная у Швейцарыі



перакананнем, што кола сяброў віцебскага музея Шагала ў Еўропе пашырылася за кошт яшчэ аднаго вельмі дзейнага і дасведчанага грамадзяніна Гельвецыі.

* * *

Без ведання мовы цяжка падарожнічаць па іншай краіне. Не толькі таму, што маеш абмежаваныя камунікацыі (якраз тут я зазнала найменей клопату, заўсёды маючы добрага анёла-ахоўніка ў асобе спадарыні Банькоўскі), але і таму, што на пачатку цалкам адсутнічае разуменне тамтэйшых жыхароў, якія жывуць у іншай рытмічнай стыхіі, што выяўляецца найперш праз мову. Швейцарскую нямецкую мову, бадай што, хутчэй засвоіць музыкант. Вышэйшыя і ніжэйшыя перапады тонаў у амаль суцэльнай моўнай плыні чымсьці нагадваюць шчабятанне птушак (асабліва ў гаворцы жанчын). Для нашага вуха гэта нязвыкла і вельмі прыгожа.

* * *

Горад Раперсвіль быў заснаваны на беразе Цюрыхскага возера каля 1200 г. Пры ясным надвор'і і не зацягнутым хмарамі даляглядзе фонам для яго панарамы адразу выступаюць маляўнічыя абрысы Швейцарскіх Альпаў. Горад мае ўдалае аўтамабільнае і чыгуначнае злучэнне з Цюрыхам, Сэн-Галенам і Хурам (апроч таго, пры жаданні з Цюрыха можна трапіць сюды і водным шляхам - па возеры), і яго штогод ахвотна наведваюць сотні тысяч турыстаў з усяго свету. Вандроўнікаў прываблiваюць тут перш за ўсё велічны замак, шэрыя раманска-гатычныя муры якога паўсталі яшчэ ў XIII ст., ды касцёл Св.Яна Хрысціцеля з надзвычай густоўна выкананымі новагатычнымі інтэр'ерамі. У раперсвільскім замку зараз размяшчаецца польскі музей - выключна плённы вынік польска-швейцарскага ўзаемадачынення і сяброўства.

Польскі музей у Раперсвілі мае даўнюю гісторыю. Ён быў заснаваны яшчэ ў 1870 г. графам Уладзіславам Броэль-Плятарам і яго жонкай Каралінай, магілу якіх можна пабачыць сёння на замкавым дзядзінцы. Упершыню пра існаванне раперсвільскага музея мне давялося даведацца некалькі гадоў назад, чытаючы ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь пратаколы пасяджэнняў Віцебскай навуковай архіўнай камісіі (ВНАК). Пазачарговае пасяджэнне адзначанай камісіі было склікана 20 траўня 1913 г. з нагоды таго, што захавальнік музея ВНАК Канстанцін Змігродскі атрымаў прапанову заняць пасаду дырэктара "Польскага нацыянальнага музея ў Раперсвілі" і збіраўся выправіцца ў далёкае падарожжа да Швейцарыі. Віцебскі музейшчык, які да таго ж нядрэнна маляваў, мусіў змяніць былога дырэктара Уладзіміра Ружыцкага, які выконваў свае абавязкі з 1899 па 1914 гг.

На пачатку XX ст. раперсвільскі музей і бібліятэка ўжо валодалі знанымі калекцыямі. Бібліятэчныя каштоўнасці ў сваёй кнізе "Зборы раперсвільскай бібліятэкі", якая выйшла ў Варшаве ў 1929 г., апісаў А.Левак. Музей меў шырокую вядомасць на эміграцыі як захавальнік польскага нацыянальнага духу і патрыятычных традыцый. "MAGNA RES LIBERTAS" ("Вольнасць - вялікая рэч") - гэтыя словы былі выбіты на калоне, усталяванай па ініцыятыве графа Плятара побач з замкавымі мурамі яшчэ ў 1868 г. да 100-гадовага юбілею Барскай канфедэрацыі. У 1897 г. у адной з замкавых вежаў быў створаны маўзалей сэрца Тадэвуша Касцюшкі, дзе захоўвалася (да 1927 г.) сімвалічная урна, перанесеная зараз у музей Касцюшкі ў горадзе Салюры.



**Вінцэнт Лесёр (1745-1813). "Тадевуш Касцюшка". Мініяцюра са збору польскага музея ў Раперсвілі.**

Славутыя раперсвільскія зборы амаль цалкам загінулі ў гады 2-й сусветнай вайны. Новы музей паўстаў у 1975 г. На працягу ўжо двух дзесяцігоддзяў сюды зноў сцякаюцца памяткі гісторыі і культуры народаў Рэчы Паспалітай, ахвяраваныя галоўным чынам польскімі эмігрантамі, як гарох рассыпанымі па ўсім свеце. Аглядаючы сучасную экспазіцыю, знаходзіш у ёй прыкметы ўсё таго ж польскага патрыятычнага духу, які іншым разам жывіцца выразна вызначанымі рэаліямі іншых, у тым ліку і беларускай, культур. За шклом музейнай вітрыны - "Хроніка Еўрапейскай Сарматыі", выдадзеная на лаціне ў 1578 г. у Кракаве веронцам па паходжанні Аляксандрам Гваньіні, пра 10 гадоў службы якога ротмістрам віцебскага замка, што ўзначальваў атрад з 500 чалавек, у анатацыі не сказана ні слова. У другой вітрыне - выключнай захаванасці старасвецкія паясы з мастацкай калекцыі вялікашаноўнага пана Анджэя Цеханавецкага з Лондана, якія нягледзячы на выразна бачныя на іх вытканыя кірылічныя надпісы "ВЪ СЛУЦКЪ" турыстычны даведнік прэзентуе свету як "польскія кунтушовыя паясы, тканыя золатам і срэбрам".

З Раперсвіля ў Віцебск разам з іншымі памяткамі падарожжа я прывезла паштоўку з каляровай копіяй партрэта Т.Касцюшкі пэндзля прыдворнага мастака караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага Вінцэнта Лесёра, якую ў нас не так проста знайсці нават пры вялікай патрэбе. Напэўна, таму, што апошняя акалічнасць аказваецца ў нас магчымай, пра Беларусь так мала ведаюць у свеце.

* * *

Швейцарыя - краіна гор на даляглядах, кветак на фасадах дамоў, гадзіннікаў у вітрынах магазінаў і неверагоднай колькасці геральдычных выяў паўсюдна. Будзённыя гарадскія краявіды насычаны не дакучлівай кідкай рэкламай тавараў, а рознакаляровымі сцягамі ды сцяжкамі - краіны, кантона, горада, іх блізкіх ці далёкіх суседзяў. На прыбрамных слупках прыватных віл - уласныя сямейныя гербы, у дварах найбольш патрыятычна скіраваных грамадзян - чырвона-белыя сцягі Гельвецыі на высокіх металічных флагштоках. Напэўна, самім швейцарцам надакучвае празмерная колькасць геральдычных выяў на паштоўках, значках, паперы, у якую вам загорнуць кніжку ў кнігарні, разнастайнай сувенірнай прадукцыі, якой стракацяць вітрыны вялікіх і зусім маленькіх крамаў. Аднак воку беларусаназіраць усю гэтую "празмернасць" усцешна з прычыны настальгічнага недахопу аналагічнага відовішча на Радзіме.

* * *

Каб прасцей было адказваць на мае пытанні, на нашую выправу да Люцэрна спадарыня Моніка прыхапіла з сабою даведнік па горадзе, выдадзены ў 1896 г. Гэтая прыгожая кніжачка кішэннага фармату з інфармацыяй і графічнымі

выявамі мясцовых славутасцяў выглядала яўнай прыкметай стабільнасці швейцарскага жыцця. Даведнік аказаўся цалкам прыдатным для карыстання, вельмі няшмат помнікаў за гэты час зніклі ці істотна змянілі сваё гістарычнае аблічча. У Швейцарыі любяць і па-сапраўднаму шануюць даўніну, заўсёды вельмі тактоўна дапасоўваючы да яе новабуды ці элементы постмадэрнавых інтэр'ераў. "HELVETIA PATRIA" - гэтыя словы я не аднойчы бачыла накрэсленымі на сучасных фасадах прыватных дамоў. Яны - сапраўдны дэвіз швейцарцаў, які вызначае галоўную сутнасць іх адносін да сваёй зямлі і сваёй дзяржавы.

Адзін з самых кранальных помнікаў, якія мне даводзілася бачыць у сваім жыцці, знаходзіцца ў Люцэрне. Ён прысвечаны швейцарцам, што загінулі на чужыне, падчас службы ў наёмным войску. На стромым схіле гары высечаны грот даўжынёй 14 метраў, у якім змешчана фігура смяротна параненага ільва, што апошнім рухам свайго магутнага цела захінае шчыт з каралеўскімі лілеямі Бурбонаў. Помнік быў выкананы ў 1821 г. па мадэлі Тарвальдсена, і пад ім на скале высечаны імёны тых, хто загінуў у 1792 г., абараняючы насельнікаў палаца Цюільры ад народнага гневу.

Побач з помнікам - колішні гарадскі сад, а зараз музей Глечаргартэн. Пад адкрытым небам у ім экспануюцца надзвычай цікавыя прыродныя помнікі - так званыя "млыны" ледавіковага перыяду, якія ўяўляюць сабой вялізныя "дзіркі", выкручаныя ў горных пародах "жорнамі" валуноў, што траплялі ў невялікія натуральныя заглыбленні рэльефу падчас адыходу ледавіка. На фотаздымках гэтыя "млыны", адразу страціўшы сваю маштабнасць, выглядаюць нейкімі вычварнымі кампазіцыямі мастакоў-авангардыстаў.

Дзякуючы мяккаму клімату і ўдаламу месцазнаходжанню на беразе аднаго з самых прыгожых у Швейцарыі азёраў, а таксама цудоўнай панараме, якую ствараюць горы Пілат і Рыгі-Кульм, Люцэрн даўно стаў улюбёным месцам наведвання турыстаў. У старой частцы горада існуе шмат памятак даўніны, пачынаючы ад драўлянага моста XIV ст. праз раку Рэйс (самага старадаўняга збудавання такога кшталту ў Цэнтральнай Еўропе) да шэрагу гарадскіх камяніц правабярэжжа, кожная з якіх - узор дойлідства сваёй эпохі і прыкладных адносін да сябе з боку сучасных уладальнікаў.

На беразе Фірвальдштэцкага возера ў Люцэрне мяне чакала адно прыватнае адкрыццё: аказваецца, лебедзі - не такія грацыёзныя птушкі, як я думала раней, ніколі не бачыўшы іх перавальваючыміся з нагі на нагу падчас шпацыру па набярэжных.

* * *

Берн - галоўны горад аднайменнага кантона і сталіца Швейцарскай канфедэрацыі, якая носіць свой ганаровы тытул з 1884 г. У адрозненні ад іншых гарадоў, якія давялося пабачыць, вуліцы старой часткі Берна правільна распланаваны і аблямаваны шэрагамі масіўнай пабудовы дамоў, што надаюць гораду строгі і велічны выгляд. У Швейцарыі кветкі на фасадах дамоў - з'ява абавязковая, прычым, кожны гаспадар імкнецца перасягнуць астатніх у іх колькасці, рознакаляровасці і ступені экзатычнасці. Шэравата -зеленаватыя фасады бернскіх камяніц упрыгожаны паясамі адных толькі пунсовых кветак, што пакідае ўражанне не аднастайнасці, а хутчэй вытанчанасці і шляхетнасці. Магчыма, таму бернцы і атрымалі прыз за свае кветкі на адным са шматлікіх конкурсаў.

Стары горад размешчаны на высокім (у 30-40 метраў)скалістым плато, якое амывае рака Аара. Большасць сярэднявечных пабудоў была знішчана тут вялікім пажарам 1405г., у хуткім часе пасля якога была ўзведзена ратуша і вежа з гадзіннікам, фігуркі якога рухаюцца два раза на суткі да нашага часу. Нязвыклым і вельмі каларытным упрыгожаннем вуліц з'яўляюцца шматлікія фантаны ў стылі Адраджэння, упрыгожаныя арыгінальнымі статуямі, што паходзяць пераважна з XVI ст. Герб Берна ўтрымлівае выяву мядзведзя, і ў так званым мядзведжым яры ва ўсходняй частцы горада з даўніх часоў паводле старадаўняга звычаю ў асобным памяшканні, дасягальным для публікі, знаходзяцца некалькі гэтых жывых уладароў лесу.

Нашымі гідамі па Берне былі надзвычай сімпатычныя людзі - малады швейцарскі славіст Крыстаф фон Верд і яго жонка Малгажата, ураджэнка Варшавы. Крыстаф мае ўстойлівую цікавасць да гісторыі і культуры Беларусі, піша навуковую працу, у якой разглядае гістарычную структуру гарадоў Рэчы Паспалітай, і ўжо аднойчы ўдзельнічаў у працы навуковай канферэнцыі ў Гародні. Ён мае намер далей пашыраць свае кантакты з Беларуссю і паглыбляць свой досвед пра яе.

Няма нічога больш прыемнага, чым сустрэць у далёкай краіне людзей, родных па сваіх зацікаўленнях, адчуваннях, успрыняцці свету. Сябры нашага маленькага гаманлівага таварыства на вуліцах Берна адчувалі, здаецца, шчырую ўзаемную прыемнасць ад сустрэчы, сумеснага баўлення часу ды бясконцых размоў. Спасціжэнне іншай краіны праз пасрэдніцтва міжасабовых кантактаў - справа, безумоўна, вартасная, удзячная і амаль што цалкам самадастатковая.

* * *

Мой шлях дадому палягаў транзітам праз венскі аэрапорт. З вышыні птушынага палёту Аўстрыя нагадвае вялікі габелен, вытканы з акуратных прастакутнікаў зялёнага, карычневатага ды бэзавага колераў. На маё здзіўленне аказалася, што гэткімі ж самымі фарбамі вызначаюцца і палі ў ваколіцах Мінска, а бэзавы колер, паходжанне якога над Аўстрыяй я ніяк не магла зразумець - звычайны колер раллі, ад якой адбіваюцца сонечныя промні. Падумалася пра тое, што прыродная аснова нашага жыцця ў Беларусі - гэткая самая, еўрапейская, а вось якасць і ўзровень жыцця - плён здаўна існуючых грамадскіх адносін, нашага дзеяння або бяздзеяння ў сённяшні момант.

Бывай, цудоўная краіна Гельвецыя! Я захаваю пра цябе і тваіх насельнікаў самыя цёплыя ўспаміны. У цябе ёсць чаму павучыцца, і таму - GLORIA PATRIA!

Люцэрн. Драўляны мост праз раку Рэйс.



## допісы на палёх

# ВОЛЬГА ГРЫЦКЕВІЧ І ЯЕ "ЦЮБІКІ"



Вольга Грыцкевіч вядзе заняткі ў студыі.

Колькасць дзяржаўных ці іншых устаноў, у якіх можна атрымаць мастацкую адукацыю, не заўжды сведчыць пра росквіт мастацтва ў тым ці іншым месцы. І не дапаможа гэтаму ні зацверджаная некім праграма навучання, ні бізун ці пернік адзнак, бо каб лягчэй уздымаліся таленты, патрэбны адданы ім настаўнік.

Мастацкая студыя пры Мастацкім музеі ў Віцебску існуе тры гады. Яна не набыла пакуль сабе славы alma mater сусветна вядомых мастакоў, але пры падтрымцы сваіх бацькоў многія дзеці, якіх не задавальняе навучанне ў асвечаных дзяржавай установах, жадаюць, каб менавіта праз гэтую невялічкую студыю прайшоў іх жыццёвы шлях.

А чаму гэта адбываецца, паважаны чытач лёгка здагадаецца, калі бліжэй пазнаёміцца з кіраўніком студыі Вольгай Грыцкевіч, яе вучнямі і іх бацькамі.

_Ваня Шакінка, 6 гадоў:_ Мая самая запаветная мара... Калі я быў маленькі, я хацеў стаць мадэльерам і я павінен ім стаць, бо гэта ж мая мара дзяцінства. Я ўстаў раніцай і пачаў прыдумляць мадэлі. Пaглядзеў - павуцінне. З павуціння пачаў прыдумляць, з нітачак. Паглядзеў на лісце - з лісця прыдумаў. Паглядзеў на наклейку - і клеючуюся прыдумаў. Доўга думаў, з чаго б яшчэ? Са шкла ж нельга... І прыдумаў з паралону.

_Вольга Грыцкевіч:_ Перад нашай сустрэчай я задумалася: чаму ж я ўсёткі стала настаўнікам, а не тым, кім я хацела стаць? Па меры майго сталення мае зацікаўленні змяняліся - ад сцюардэсы і ўрача-псіхолага да мадэльера. Я не лічу, што быць настаўнікам - маё прызванне. У дзяцінстве я не гуляла ў школу, як мае сяброўкі, а любіла рухавыя гульні, займалася спортам. Аднак іншым разам, убачыўшы чалавека з эцюднікам, лавіла сябе на думцы, што крыху зайздрошчу яму. Хацелася навучыцца маляваць, іграць на музычных інструментах, танцаваць. Аднак я лічыла сябе няўклюднай, была надта няўпэўненай. Я - чалавек, які здольны захапляцца, і таму магла б у любой прафесіі знайсці нешта цікавае, нават у працы дворніка (гэта ж так цудоўна - прыводзіць у парадак вуліцу любімага горада, рабіць яе чысцейшай і прыгажэйшай). Галоўнае - рабіць любімую справу з душой, да самаадрачэння.

_Ларыса Лакісава, 9 гадоў:_ У гэтую студыю мама прывяла мяне ў сем гадоў. Яна пакінула мяне паглядзець, а я села і адразу пачала маляваць. Мне вельмі падабаецца.

_Вольга Грыцкевіч:_ Напэўна, выпадак прывёў мяне ў 1975 г. на мастацка-графічны факультэт Віцебскага педінстытута. У 1981г. я прыступіла да самастойнай працы ў школе №18. Там мне прыйшлося весці маляванне,чарчэнне і працоўнае выхаванне ва ўсіх класах, дзе гэта прадугледжана праграмай. Кожны дзень пісала процьму канспектаў, якія правяраў дырэктар школы. Так я пратрымалася адзін год. Потым выпадакова з'явілася магчымасць перайсці ў школу №25 з мастацкім ухілам. Там я сустрэла педагогаў, у якіх па-сапраўднаму стала вучыцца свайму рамяству (Л.І.Сянько, Т.П.Рубцова). На працу хадзіла, як на свята. Мной тады рухалі энтузіязм, бескарыслівасць і любоў да дзяцей. Мне здавалася, што вучыць дзяцей за грошы сорамна, заробак атрымлівала з неахвотай. Напэўна, я працаголік па натуры. Захапіць маляваннем як мага больш дзяцей, зрабіць так, каб дзеці хадзілі ў школу з задавальненнем - у гэтым я бачыла сваю задачу. Школе было аддадзена 10 гадоў майго жыцця. Гэта былі незабыўныя гады. Мае вучні ўжо даўно выраслі, сталі настаўнікамі, урачамі, мадэльерамі, бізнесменамі. Але калі я сустракаю іх, яны з удзячнасцю ўспамінаюць урокі малявання.

_Людміла Адаскевіч, маці:_ Мой сын Максім ходзіць у студыю ўжо два гады. І нам тут вельмі падабаецца. Менавіта тут я ўпершыню зразумела, што нetаленавітых дзяцей па-просту не бывае. Усе дзеці - таленты, і ў гэтым вялікая заслуга настаўніка. У студыі створана незвычайная атмасфера дабрыні, утульнасці, любові да дзяцей і да мастацтва. Я была вельмі рада і здзіўлена, калі мой сын пасля двух заняткаў у

студыі прыйшоў дадому і пачаў расказваць мне, што такое кампазіцыя карціны, як правільна трэба скласці нацюрморт. Я не лічу, што мой сын нейкі асаблівы, ён самы звычайны, але ўсё, што ў ім ёсць лепшага (калі казаць пра творчыя здольнасці) праяўляецца менавіта тут.

_Вольга Грыцкевіч:_ Я не калектывіст і школа з яе сістэмай абмяжоўвала мяне. Хацелася большага - свабоды. Свабодная творчасць - гэта была мая мара. Я і дзеці. І нікога паміж намі. Зрэшты, мара здзейснілася. У Палацы прафсаюзаў мне выдзелілі памяшканне, дзе я займалася з дзецьмі розных узростаў. Свабода патрабавала ахвяраў. З'явіліся фінансавыя праблемы, больш стала адказнасці. Нельга было распаволіцца ні на хвіліну. Пастаянны кантакт з бацькамі (чаго не было ў школе) прымушаў прад'яўляць да сябе павышаныя патрабаванні. Самааддача павінна была быць поўная, бо інакш дзеці на наступны дзень маглі па-просту не прыйсці. Усё было б добра, але грымнулі перамены, а з імі з'явіліся іншыя арыенціры ў грамадстве. Студыя давала невялікі прыбытак, а на гэтае памяшканне паквапілася камерцыйная фірма, якая прапанавала Палацу прафсаюзаў кругленькую суму за яго арэнду. Праўда, я ўдзячна адміністрацыі Палаца за тое, што мне дазволілі забраць з сабой мальберты і гіпсавыя злепкі. Мне пашанцавала знайсці прытулак у Мастацкім музеі. Загадчыца музея Іна Паўлаўна Холадава з цікавасцю і ўвагай паставілася да ідэі адкрыцця студыі. Праца закіпела. Жадаючых займацца было шмат. Я прымала ўсіх без адбору, бо выпадковыя дзеці заўсёды адсейваюцца на першых жа занятках. Вось так пры музеі і з'явілася дзіцячая мастацкая студыя "Цюбікі".

_Ягор Адамовіч, 8 гадоў:_ Я збіраю свае працы. Дома ў мяне ляжаць тыя, што не вельмі добра намаляваны, а тут тыя, што я добра намаляваў, і іх адбіраюць на выставу.

_Віктар Лакісаў, бацька:_ Добра, што кожны год адбываюцца выставы. Гэта вялікая падзея для дзяцей і для горада. Не абавязкова, каб наша дачка стала прафесійным мастаком. Аднак я ведаю, што атрыманыя ў студыі навыкі прыдадуцца ёй у любой прафесіі.

_Вольга Грыцкевіч:_ І гэтак прайшоў першы год. Праца забірала ўсе сілы. І як вынік - першая справаздачная выстава, на якой у чатырох залах Мастацкага музея было прадстаўлена 120 дзіцячых прац. Урачыстае адкрыццё, шчаслівыя твары дзяцей і іх бацькоў, кветкі, фотаздымкі на памяць і, канечне ж, салодкі стол. Я была шчаслівая - атрымалася! Але трэба ісці далей. Прааналізаваць сваю працу, знайсці памылкі, пралікі і не знаходзіцца ў стане эйфарыі.

_Жэня Якаўлеў, 10 гадоў:_ Наша кіраўніца вельмі добра вучыць. Я за год ужо вельмі добра малюю.

_Ваня Шакінка, 6 гадоў:_ Калі малюеш, добра неяк. Малюю, гляджу, потым забіраю малюнкі дадому, гляджу на іх - прыемна. Я яшчэ шмат чаго не маляваў.

_Вольга Грыцкевіч:_ Пачатак другога года паказаў, што цікавасць да студыі ўзрасла. Мне прыйшлося абмежаваць узрост дзяцей у межах ад 6 да 11 гадоў. У музеі нам выдзелілі новае памяшканне з відарысам на ратушу. Цудоўны краявід. Мне заўсёды тут вельмі добра і ўтульна. Сцены студыі ў дзіцячых працах, яны дадаюць мне сілы, паляпшаюць настрой. І дзеці, яны такія розныя. Але адно ў іх агульнае - адкрытасць, шчырасць, чысціня і вялізнае жаданне маляваць. Зацікавіць дзяцей мне дапамагае эмацыянальнае, вобразнае апавяданне пра прадмет малявання. Агонь у душы настаўніка заўсёды запаліць гэткі ж агеньчык у душы дзіцяці. Так



Малюнак Балашовай Вольгі (7 гадоў).

пачынаецца працэс навучання, але не творчасці, якая пачынаецца пасля таго, як дзеці засвояць асноўныя прыёмы працы з гуашшу, акварэллю, тушшу і іншымі выяўленчымі матэрыяламі. А таксама засвояць асноўныя прынцыпы пабудовы кампазіцыі, колеразнаўства. Можа быць таму малюнкі маіх дзяцей здаюцца прафесійнымі, а не наіўнымі дзіцячымі калякамі-малякамі, калі нават гэта праца сямігадовага дзіцяці. Некаторыя педагогі лічаць, што дзяцей нельга вучыць маляваць, іх самавыказванне павінна адбывацца на інтуітыўным узроўні. Аднак тады навошта ж я?

_Ваня Шакінка, 6 гадоў:_ Мы павінны размяркоўваць так, каб спераду было месца, ззаду, уверсе, каб не вылазіла і каб не было шмат вольнага месца. Так нас Вольга Іванаўна вучыць. Увогуле, Вольга Іванаўна вельмі добра нас вучыць і сама яна вельмі добрая.

_Вольга Грыцкевіч:_ Дзіця недзе з сямі гадоў жадае чаму-небудзь навучыцца. Яго ўжо не задавальняе той багаж, які ў яго ёсць. Ён як губка ўцягвае ўсё, што яго акаляе, усё разумее і адчувае, але не можа выказаць. Бо не можа ж дзіця сесці за раяль і пачаць іграць, не ведаючы нотаў, правілаў, законаў музыкі. Музыка можа гучаць у яго ў вушах, але ён не зможа яе перадаць. Так і ў маляванні. Дзіцяці неабходна дапамагчы, не прыгнятаючы яго індывідуальнасці і не гвалтуючы акадэмізмам (пабудова, перспектыва, авалы і г.д.). Гэта для дзіцяці сумна. Нудота забівае фантазію, гасіць уяўленне. Таму я імкнуся навучыць дзяцей вобразнаму ўспрыняццю і адлюстраванню рэчаіснасці. Каб яны не капіравалі яе як фатографы, а кожны па-свойму адлюстроўваў, выкарыстоўваючы назапашаны багаж ведаў.

_Ваня Шакінка, 6 гадоў:_ Дома я намаляваў птушку і яна ў мяне атрымалася падобнай. Але вось паглядзеў на яе сёння -

фарба злазіць, а калі намалюю ў студыі, фарба не злазіць. Будзе яна... Не ведаю, якая будзе. Але маляўнічая, прыгожая... Я назвы не прыдумваю... Вольная птушка.

_Вольга Грыцкевіч:_ Галоўнае патрабаванне да малюнкаў дзяцей - гэта каляровая гармонія, раўнавага плямаў, вылучэнне галоўнага. Дзіця з сямі гадоў цудоўна засвойвае ўсе гэтыя законы, але з-за недасканалай каардынацыі пясці рукі выява атрымліваецца наіўнай (скачучыя крывыя дамы, вазы, дрэвы). Гэта надае працы непасрэдны характар, чаго спецыяльна дамагаюцца прафесійныя мастакі.

_Ваня Шакінка, 6 гадоў:_ Я ўжо даўно фантазірую. Я ўжо прыдумаў карысныя мадэлі, якія надзімаеш паветрам і атрымліваецца сукенка такая паветраная. І зручна скакаць, і высока.

_Вольга Грыцкевіч:_ Прыродны талент дзіця - рэдкасць. У асноўным у студыю прыходзяць дзеці, якія маюць здольнасць да малявання. Але талент - гэта іншае. Гэта адрознае ад усіх успрыняцце і адлюстраванне свету. Ёсць дзеці-графікі, ёсць жывапісцы, а некаторыя ў роўнай ступені спраўляюцца і з адным, і з другім. Лепшыя дзеці пасля студыі паступаюць у мастацкую школу, куды яны ідуць ва ўзросце 11 гадоў. З гэтага часу дзіця атрымлівае яшчэ больш інфармацыі, глыбей засвойвае розныя віды выяўленчага мастацтва. У сценах студыі гэта зрабіць не рэальна. Патрэбны ўмовы, выкладчыкі, а я адна на 70-80 чалавек.

_Ліза Маханькова, 7 гадоў:_ Я нават не ведаю, што мне падабаецца маляваць, я так люблю. Малюю проста, каб умець. А па шчырасці, я хачу стаць псіхолагам, як мая мама.

_Вольга Грыцкевіч:_ За тры гады працы студыі праз яе прайшло больш за 300 дзяцей. Пасля другой выставы ў 1996 г., на якой было прадстаўлена 170 прац, прыток дзяцей павялічыўся. Аднак памяшканне і колькасць мальбертаў абмежаваны. Бацькі кожны месяц прыходзяць і цікавяцца, ці не з'явілася вольнае месца. Зараз займаецца больш за 70 чалавек. На занятках у адной групе сядзяць дзеці рознага ўзросту - у гэтым цяжкасць маёй працы. Нехта вучыцца ў студыі чацвёрты год, нехта - трэці, другі або першы. Навучанне набывае індывідуальны характар. Розныя здольнасці дзяцей, тэмпераменты, характары - усё неабходна ўзважыць і падыйсці да дзіцяці так, каб запаліць у ім іскрынку божую. А дзеля гэтага трэба быць і псіхолагам, і артыстам, і кім толькі не даводзіцца быць, каб дзіцяці было цікава на занятках! Іншым разам пераўтвараешся ў рыбу, іншым - у птушку, дыназаўра, русалачку, збан або дрэва. Часам даводзіцца прадстаўляць дом, вярблюда, каня - гэта выклікае бурную рэакцыю з боку дзяцей. І яны тады выконваюць свае працы з гарэзлівасцю, смела, шырока, вольна. А ўвогуле, сакрэт просты: трэба размаўляць з дзецьмі на іх мове і разумець кожны рух іх душаў, такіх уразлівых і трапяткіх.



Малюнак Казлоўскага Дзяніса (7 гадоў)

_Ваня Шакінка, 6 гадоў:_ Адлюстраванне ў вадзе - гэта здаецца, што яго цяжка маляваць, а па-мойму, гэта проста. Вельмі лёгка намаляваць адлюстраванне ў вадзе: малюеш возера, потым усё, што ў возеры. Я спрабаваў сам іншапланецян намаляваць - не атрымалася. Таму што нічога там не было зразумела - лятаючыя талеркі, кружочкі... Незразумела...

_Вольга Грыцкевіч:_ Калі я вучылася, можна сказаць, што мы варыліся ва ўласным соку. Ніхто нас не вучыў, як працаваць з дзецьмі. Вопыт набываўся па ходзе працы. Калі па такіх прадметах, як працоўнае выхаванне або чарчэнне ёсць падручнікі, распрацаваны праграмы, то па маляванні няма абсалютна нічога. Калі б нехта мне ў свой час дапамог, можа быць працэс назапашвання вопыту не зацягнуўся б да маіх 30-40 гадоў. Зараз я кантактую са студэнтамі тэхналагічнага універсітэта і бачу, што яны валодаюць ведамі і методыкай, якія я на ўласным вопыце набываю толькі цяпер. У тыя ж гады, калі я вучылася, усё зводзілася да акадэмізму, да штудыі. Фантазія выпаралася адразу ж. У сваёй методыцы навучання я імкнуся не паўтарацца, не люблю руціны. Хачу, каб мне і дзецям цікава было працаваць. Увесь час сама вучуся і не лічу, што ўсё ведаю і ўсё ўмею.

_Віктар Лакісаў, бацька:_ Вольга Іванаўна - залаты чалавек. Бяссрэбніца. Заробак у яе - ніякі. Аднак яна ўсю сябе аддае дзецям. І найвялікшы ёй дзякуй.

_Вольга Грыцкевіч:_ Прызямляюць многія моманты. Даводзіцца думаць пра грошы, якімі я раней пагарджала. Мне ўсё ж здаецца, што платнай сістэмы не павінна быць. Дзеці не павінны плаціць, хоць бы да пэўнага ўзросту. У сённяшніх умовах, канечне, складана даводзіцца. Мне трэба ўвесь час думаць пра грошы, якія хто-небудзь не здаў. Нагадваць бацькам, каб своечасова заплацілі, інакш іх дзеці не будуць дапушчаны да заняткаў. І гэта жудасна. Даводзіцца рабіць працу касіра, лічыць грошы, выпісваць чэкі. Рукі апускаюцца... Аднак знаходзіш сілы і працуеш далей.

_Ваня Шакінка, 6 гадоў:_ Сіні і чырвоны - вось гэтыя колеры мне падабаюцца. Сіні - таму, што вочы сінія, а чырвоны - таму, што гэта гарачы колер.

_Вольга Грыцкевіч:_ Фрыдрых Ніцшэ сказаў, што культура - гэта толькі тонкая яблычная скурка вакол бушуючага хаосу. Я пагаджаюся з гэтым і лічу, што місія людзей, якія ўзялі на сябе адказнасць навучаць дзяцей маляванню, у тым, каб рабіць гэтую абалонку мацнейшай.

*Інтэрв'ю запісаў Валерый Шышанаў.*

допісы на палёх

МАРЫНКА ВЯРЭНІЧ

# ЭКСПЕРЫМЕНТАЛЬНЫ ТЭКСТЫЛЬ АНТАНІНЫ ФАЛЕЙ

Віцебская мастачка Антаніна Фалей скончыла ВТІЛП у 1982 годзе. Тыя гады, што прайшлі з моманту абароны дыплома, сталі для яе шляхам у пошуку ўласнай мастацкай формы. Вынікам пошуку на сёння з'яўляюцца эксперыментальныя палотны, экспанаваныя ў лістападзе 1996 года ў выставачнай зале Оршы.

Моладзі ўласціва прагна эксперыментаваць. На Беларусі існуе маладое пакаленне мастакоў габелена, якім не падабаецца ўсяго толькі захоўваць традыцыю або нават шукаць уласную тэхніку выканання. Яны маюць жаданне, ўлічваючы традыцыі шпалеры і габелену, стварыць нешта прынцыпова новае. Антаніна Фалей - сярод іх. Яна не абмяжоўваецца пошукам новых нюансаў у пластыцы ткацкага мастацтва, а звяртаецца да новых тэхналогій і ткацкай машыны, спрабуючы прадбачыць месца і ролю габелена гадоў дзе-небудзь праз 10-20. Ткацкая "разумная" машына "Манарх дэ сін" мае выключна прамысловы змест і ўжывалася дагэтуль для выканання спажывецкага тэкстылю. Тэкстыль неўтылітарнай якасці, як мастацкі твор, выконваўся на ёй упершыню.

У традыцыйным уласнаручным выкананні габелена ёсць глыбокі сэнс прысутнасці цеплыні чалавечых рук. Кампутарнай тэхналогіі недаступная тая шматлікая колькасць адценняў і тонкасць пераліваў, якіх дасягаюць жывыя рукі. А. Фалей свядома адмовілася ад гэтых пераваг дзеля захавання часу, ільвіную долю якога паглынае працэс выканання габелена ў матэрыяле. Вызвалены час быў аддадзены канцэптуальным пошукам мастацкага вобраза. Мастачку не задавальняў стан і роля габелена ў сучасным дэкаратыўным мастацтве, бо ён выключна ўтылітарны і тчэцца ўсё часцей для канкрэтнага памяшкання. "Цікава было надаць твору больш універсальны сэнс і паспрабаваць уявіць інтэр'ер не такога ўжо далёкага будучага тысячагоддзя", - гаворыць Антаніна.

У кампутар была закладзена інфармацыя - канкрэтны матыў рэчаіснасці, які кардынальна змяняўся па рытму, па памерах, кантраснасці і першапачатковая крыніца такім чынам у выніку стала цалкам непазнавальнай. З'явілася абстрактная выява з абвостраным эмацыянальным зместам матыва. Вобразныя асновы тут самі па сабе не носяць прынцыпова новага характару і могуць быць рэмінісцэнцыяй абстрактнага жывапісу экспрэсіўнага стылю.Алюзіяй, пабудаванай шляхам свабодных асацыяцый. Створаны міфічны ,візуалізаваны ў абстрактных вобразах космас, у якім не названыя і не могуць быць акрэсленымі грані паміж рэчаіснасцю і ўласным духоўным вопытам аўтара. Рэчаіснасць у пластыцы А.Фалей не статычная, яна,так бы мовіць, знаходзіцца ў змаганні за гармонію. Акт стварэння для Антаніны Фалей ператвараецца ў напоўненую аптымізмам веру ў перамогу гармоніі, хай сабе і не ў глабальным сэнсе. Дэвізам выставы выбрана сіметрыя, як аснова дызайнформ і прыроднай формы. Менавіта зварот да сіметрыі ў назве выставы асацыятыўна акрэслівае тэму. Тое, што наймацней хвалюе мастачку, стала тэмай яе твораў. Мяркуем, гэта - стыхія жыцця, ірацыянальныя сілы чалавека і яго асабістая адказнасць ва ўзаемаадносінах з моцай гэтых стыхій.

Бясспрэчна, маштабы асобы мастака немагчыма вызначыць з асобнага эксперыменту, ды і няма ў нас такой задачы.Відавочны прыхаваны накшталт айсберга патэнцыял асобы, творчы метад якой у дадзеным выпадку- пластычная гульня з кантраснымі каляровымі модулямі. Каляровая рытміка кантрастных абстрактных плямаў пяці паказаных на выставе тэкстыльных палотнаў (170-250см, 170-350см, 170-170см) - гэта поўнае адмаўленне ад існуючага канона сучаснага беларускага габелена.

За апошняе дзесяцігоддзе перагледжаны сталыя каноны ў беларускім мастацтве, у тым ліку ў галіне ткацкага,габеленнага. Гэтаму спрыяла паступовае ўключэнне краіны ў сусветны кантэкст і наспелая неабходнасць рэфармавання заідэалагізаванага рэалізму. Адначасова ўзнікла маса прыватных пытанняў пра тое, на што арыентавацца мастаку, згубіўшаму попыт у сябе на радзіме. І наколькі суадносяцца эканамічныя прычыны з рэальнай каштоўнасцю мастацтва. Пры гэтым каласальны ўклад менавіта жаночай творчасці ў беларускі габелен савецкага перыяду - факт неаспрэчны. Аднак за апошнія дзесясігоддзі пара-тройка ўсім вядомых патрыярхаў была абсалютным манапалістам беларускага габелена і яго стылістыкі. Патрыярхі ўсталявалі і захоўвалі канон, жорстка кантралюючы ўласны прыярытэт. Камплімент патрыярхаў даваў пропуск у афіцыйнае прызнанне і пэўную магчымасць сталай працы. Мастак без такой індульгенцыі нікім не разглядаўся сур'езна. Кампліменты адзінкам былі для ўсіх астатніх сапраўднай рэпрэсіяй для аўтэнтычнасці мастацтва. Антаніна Фалей выйшла за межы існуючага канона да такой ступені, што пад пытаннем сама дэфініцыя габелена ў гэтых яе палотнах. Гэты факт даказвае моц яе духоўнасці і абвяргае расхожую думку пра другаснасць жаночай творчасці, быццам бы пабудаванай на суб'ектыўным жаночым вопыце -не істотным на фоне дамінанты - спрэчным уяўленні пра вялізны мужчынскі вопыт сацыяльна значнага дзеяння. Толькі вышэй названыя рэпрэсіі вымусілі ўключыць у размову гэты фізіялагічны аспект. На справе інь раўнаважны янь. Яскравы таму прыклад - канструктыўны дыскурс барацьбы Антаніны Фалей за права самарэпрэзентацыі .

Мастачка схавала прызначэнне твораў. Пазбавіла сюжэта. Нетрадыцыйныя тэхналогія і метад выканання, арыгінальны творчы ход сведчаць пра наяўнасць у аўтаркі інтэлектуальнай актыўнасці досыць радыкальнага зместу. Канцэпцыя творчасці Антаніны Фалей ужо выпрацаваная і, згодна ёй, задача мастака не замыкаецца адно толькі на тым, каб папоўніць музей новымі экспанатамі, час ад часу абнаўляючы экспазіцыю.

допісы на палёх

Аляксандр Лукшанскі

# "Витебский курьер": з гісторыі стварэння і развіцця

Газета "Витебский курьер" — адно з самых папулярных зараз на Віцебшчыне інфармацыйна-публіцыстычных выданняў. Першая газета з аднайменнай назвай пачала выдавацца ў Віцебску ў 1906 г. Нагадаем, што ў перыяд рэвалюцыі 1905-1907 гг. у губернскіх гарадах Беларусі пачалася сапраўдная "газетная ліхаманка". Да гэтага часу ў Віцебскай губерні манапалістам на друкаванае слова быў орган Віцебскага губернскага праўлення газета "Витебские губернские ведомости" (1838-1917). У перыяд з 1838 па 1897 і з 1900 па 1905 гг. гэта была адзіная газета, якая выходзіла ў Віцебску.

У красавіку 1906 г. віцебскія купцы браты Ізраіль і Меер Нейманы падалі прашэнне на імя губернатара Б.Б.Гершау фон Флотава з просьбай дазволіць ім выданне лістка пад назвай "Витебский курьер". Яго першы нумар пабачыў свет 2 траўня 1906 г. Газета выдавалася фарматам 296х219 міліметраў. У ёй друкаваліся інфармацыйныя паведамленні Санкт-Пецярбургскага тэлеграфнага агенства, нататкі, перадрукаваныя з іншых, у асноўным расійскіх, газет. Тут друкаваліся таксама самыя свежыя навіны, бо газета выходзіла два разы на дзень. Няцотныя нумары выдаваліся пад загалоўкам "Телеграммы вечерние", у цотных нумарах друкаваліся "Телеграммы утренние". Усяго выйшла 37 нумароў газеты. Апошні быў надрукаваны 30 траўня 1906 г. (усе нумары зараз захоўваюцца ў Расійскай нацыянальнай бібліятэцы ў Санкт-Пецярбургу). Браты Нейманы перасталі выдаваць газету, відаць, таму, што яна не апраўдала іх камерцыйных спадзяванняў (не прыносіла прыбытку).

У 1910-х гадах былі зроблены спробы аднавіць выданне "Витебского курьера". Вядома, што ў лютым 1912 г. з просьбай аб выданні газеты да віцебскага губернатара М.В.Арцымовіча звярнуўся дваранін Георгій Міхайлавіч Тарбееў, а ў 1913 г. — купец Лейба Маісеевіч Рубаноўскі. Аўтару гэтых радкоў не ўдалося ўстанавіць, ці атрымалі вышэйзгаданыя асобы дазвол на выданне газеты. Аднак нумароў газеты "Витебский курьер", якія датаваліся б 1912-1917 гг., няма ні ў Нацыянальным гістарычным архіве Рэспублікі Беларусь, ні ў Расійскай нацыянальнай бібліятэцы, дзе захоўваюцца ўсе перыядычныя выданні, што выходзілі на тэрыторыі былой Расійскай імперыі.

Пасля 83-гадовага перапынку газета "Витебский курьер" зноў пачала выдавацца ў Віцебску ў 1989 г. Незадоўга да распаду СССР, восенню 1989 г., віцебскія фотамастак Уладзімір Базан і журналіст Ігар Лейкін вырашылі выпускаць інфармацыйны бюлетэнь культурнага жыцця горада пад назвай "Витебский курьер". Зразумела, у той час няпроста было атрымаць дазвол на выданне новай газеты. Абласны камітэт партыі, які быў заснавальнікам адзінай абласной газеты "Віцебскі рабочы", што выходзіла з лістапада 1917 г., не жадаў з'яўлення новага выдання (газета "Народнае слова" пачала выдавацца ў горадзе ў жніўні 1990 г., газета "Віцьбічы" — у красавіку 1991 г.). Таму ў 1989 г. быў створаны грамадскі камітэт садзейнічання газеце "Витебский курьер", у склад якога ўвайшлі вядомыя ў горадзе і рэспубліцы дзеячы культуры: сябра Саюза пісьменнікаў СССР Давід Сімановіч, археолаг прадпрыемства "Белрэстаўрацыя" і ініцыятар стварэння клуба аматараў даўніны "Узгор'е" Ігар Цішкін, прафесар, доктар навук, загадчык кафедры Віцебскага педінстытута Юрый Радзівонаў, старшыня Віцебскага аддзялення Саюза мастакоў СССР скульптар Аляксандр Гваздзікаў, дырэктар карціннай галерэі Віцебскага гарадскога цэнтра культуры Любоў Базан і іншыя. Яны правялі пасяджэнне, дзе прынялі пастанову аб мэтазгоднасці стварэння ў Віцебску штотыднёвай газеты "Витебский курьер", у якой асвятляліся б праблемы культурнага жыцця горада.

Стваральнікі "Витебского курьера" галоўным накірункам газеты абралі прапаганду дасягненняў літаратурнага, музычнага і тэатральнага жыцця горада, а таксама народнай і самадзейнай творчасці. Былі вызначаны асноўныя рубрыкі і тэмы публікацый, сярод якіх былі наступныя: "Тэатр і тэатральнае жыццё", "Мастацтва кіно", "Выяўленчае мастацтва", "Народная творчасць", "Музыка і музычнае

Отдѣльный номеръ 2 коп.

ВИТЕБСКІЙ КУРЬЕРЪ

Выходитъ два раза въ день—утромъ и вечеромъ.

Суббота, 6 мая 1906 года.

№. 8.

Объявленія принимаются по самой умѣренной таксѣ.

Телеграммы утреннія.

Контора редакціи помѣщается въ г. Витебскѣ, при типографіи наслѣд. Неймана.

жыццё", "Літаратурная старонка", "З фондаў музея і архіва", "Мастацкая фатаграфія", "Спорт", "Рэпартаж з месца падзеі", "Навіны культурнага жыцця гарадоў-пабрацімаў Віцебска" і інш. Тэмы асноўных публікацый прайшлі ўзгадненне з чыноўнікамі ідэалагічнага аддзела абкама КПБ, якім журналістам прыйшлося паабяцаць, што газета не будзе прапагандаваць "палітычныя погляды нефармальных аб'яднанняў". Бюро абкама партыі дазволіла выдаваць не газету, а бюлетэнь "Витебский курьер".

30 снежня 1989 г. выйшаў у свет эксперыментальны нулявы нумар інфармацыйнага бюлетэня культурнага жыцця горада "Витебский курьер". Яго заснавальнікам стаў гарадскі цэнтр культуры. Васьміпалосны двухколеравы нумар бюлетэню фармату А3 быў надрукаваны ў Віцебскай узбуйненай друкарні імя Камінтэрна тыражом 4 тысячы экземпляраў. Да друку бюлетэнь падрыхтавалі фатографы-журналісты Уладзімір Базан і Ігар Лейкін, а таксама журналіст Сяргей Ніканораў. Кошт нулявога нумара газеты складаў 30 капеек (для параўнання, газета "Віцебскі рабочы" тады каштавала ўсяго 2 капейкі). На першай старонцы бюлетэня паведамлялася аб тым, што ўсе сродкі ад продажу нумара будуць пералічаны на рахунак Рэспубліканскага дзіцячага гематалагічнага цэнтра.

Пасля выхаду нулявога нумара "Витебского курьера" яго стваральнікі на працягу наступнага паўгода вырашалі пытанні, звязаныя з далейшым існаваннем газеты. Першы нумар "Витебского курьера" выйшаў у свет 9 чэрвеня 1990 г. Кошт выдання, колькасць старонак у ім, а таксама заснавальнік засталіся ранейшымі. Галоўным рэдактарам газеты супрацоўнікі рэдакцыі абралі Уладзіміра Базана — вядомага ў горадзе фотамастака.

У першым жа нумары журналісты "Витебского курьера" паспрабавалі прыцягнуць увагу грамадскасці да эканамічных, сацыяльных і маральных праблем грамадства. Яны не баяліся крытыкаваць гарадскія ўлады за недахопы ў іх працы. Тыраж другога і наступных нумароў "Витебского курьера" быў павялічаны ўдвая і дасягнуў 8 тысяч экземпляраў. Менавіта ў "Витебском курьере" ў 1990 г. упершыню сярод віцебскіх газет з'явіліся артыкулы пра пагрозу СНІДу, пра самвыдатаўскі мастацка-публіцыстычны часопіс "Идиот", пра праблемы беларускай рок-музыкі. Таксама былі апублікаваны інтэрв'ю з апазіцыйным дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР Сяргеем Навумчыкам, мітрапалітам Філарэтам, іншымі вядомымі палітыкамі і грамадскімі дзеячамі, якія выказвалі свой пункт погляду на падзеі, што адбываліся ў краіне.

Многім функцыянерам Віцебскага абкама КПБ такія паводзіны газеты не падабаліся. Дайшло нават да таго, што начальнік упраўлення па друку аблвыканкама загадаў дырэктару друкарні імя Камінтэрна не друкаваць 18 нумар "Витебского курьера" да яго рэгістрацыі. Аднак тады, згодна заканадаўству, для рэгістрацыі ўсіх газет быў адведзены тэрмін да 1 студзеня 1991 г. Прыкрыць "Витебский курьер" не ўдалося і 13 кастрычніка 1990 г. віцябляне пабачылі чарговы 19 нумар штотыднёвага інфармацыйнага весніка.

Заснавальнік "Витебского курьера" гарадскі цэнтр культуры толькі на пачатку аказваў садзейнічанне ў выданні газеты. Хутка журналісцкаму калектыву, у адрозненні ад калег з іншых рэдакцый, давялося перайсці на поўны гаспадарчы разлік. Рэдакцыя атрымлівала сродкі на выданне газеты толькі ад рэалізацыі нумароў "Витебского курьера". У першыя два гады існавання газеты рэклама на яе старонках была рэдкай госцяй.

Нягледзячы на эканамічныя цяжкасці, газета працягвала выдавацца. 5 студзеня 1991 г. на яе першай старонцы адразу пад "шапкай"-назвай з'явіўся надпіс "Еженедельная городская газета" — з інфармацыйнага бюлетэня гарадскога цэнтра культуры "Витебский курьер" ператварыўся ў паўнацэнную газету. У 1991 г. яе тыраж павялічыўся да 10 тысяч экземпляраў.

Нягледзячы на ўсе намаганні рэдакцыі, катастрафічна не хапала фінансавых сродкаў на выданне газеты. Таму ў студзені 1992 г. сузаснавальнікам "Витебского курьера" стала Віцебская вытворча-камерцыйная фірма "Сафид". Аднак у лістападзе таго ж года фірма апынулася на мяжы банкруцтва і адмовілася ад фінансавання штотыднёвіка. Пасля гэтага фінансавую дапамогу газеце прапанавала малое камерцыйнае прадпрыемства "Сузор'е". 27 лістапада 1992 г. "Витебский курьер" атрымаў у Міністэрстве інфармацыі РБ новае пасведчанне аб рэгістрацыі, згодна з якім сузаснавальнікам газеты разам з калектывам рэдакцыі стала МКП "Сузор'е". У красавіку 1994 г. рэдакцыя газеты вырашыла скасаваць дамову з гэтым сузаснавальнікам у сувязі з невыкананнем апошнім абавязацельстваў дамовы.

Нягледзячы на з'яўленне сузаснавальнікаў, калектыў рэдакцыі працягваў весці цяжкую, але самастойную вытворча-гаспадарчую дзейнасць. Дзяржава ў асобе Віцебскага аблвыканкама і абласнога савета дэпутатаў, Міністэрства фінансаў, Міністэрства культуры і друку ніколі не аказвала фінансавай дапамогі газеце "Витебский курьер".

Вясной 1995 г. сузаснавальнікам газеты стаў віцебскі кааператыў "Мастер", пасля чаго яна была перарэгістравана пад назвай "Витебский курьер м". У сакавіку 1996 г. кааператыў "Мастер" адмовіўся ад права на заснаванне газеты. 25 лістапада 1996 г. выданне зноў прайшло перарэгістрацыю, захаваўшы назву "Витебский курьер м" і адзінага заснавальніка — калектыў рэдакцыі.

У 1996 г. "Витебский курьер м" друкаваўся на 8 і 12 палосах фармату А3. Апошні 12-палосны нумар газеты выйшаў 27 верасня 1996 г., пасля чаго штотыднёвік стаў друкавацца на 8-і палосах фармату А2 (такі выгляд газета захоўвае і зараз). У 1995 г. рэдакцыя атрымала грант Беларускага фонду Сораса, на грошы якога было набыта камп'ютарнае і іншае абсталяванне, што дазволіла самастойна выконваць арыгінал-макеты нумароў. Істотна ўзрос тыраж газеты: у 1991 г. ён дасягнуў 12 тысяч экземпляраў, у 1993 г. перавысіў 23 тысячы, зараз складае больш за 29 тысяч экземпляраў. Па падпісцы газета трапляе ў кожную вобласць рэспублікі, распаўсюджваецца і ў Мінску.

У выніку сацыялагічнага апытання, праведзенага па заказу "Витебского курьера м", высветлілася, што ўзрост 70% чытачоў газеты знаходзіцца ў межах 19-30 гадоў. У асноўным газету чытае інтэлігенцыя (36,5%), студэнты і навучэнцы (14,9%), а таксама прадпрымальнікі (6,9%).

Нумары газеты "Витебский курьер" захоўваюцца ў самых розных бібліятэках свету, у тым ліку і ў бібліятэцы Кангрэса ЗША. Газета таксама мае ўласны адрас у сістэме Internet (http://www.kurier.minsk.by), па якім можна пазнаёміцца з апошнімі навінамі з жыцця горада і рэспублікі, якія друкуюцца на старонках "Витебского курьера".

*Пераклад з рускай мовы.*



# допісы на палёх

## ЛЮДМІЛА ХМЯЛЬНІЦКАЯ

# ТРЫ ПАРТРЭТЫ НА ФОНЕ АДНАГО ФЕСТЫВАЛЮ




З 4 па 8 снежня 1996 г. у Віцебску праходзіў чарговы, дзевяты па ліку, Міжнародны фестываль сучаснай харэаграфіі (IFMC). Віцебск, ужо даўно вядомы сваімі традыцыямі ў галіне выяўленчага мастацтва, зноў пацвердзіў сваю здольнасць не толькі пражываць духоўны скарб, атрыманы ў спадчыну, але і ствараць уласны культурны капітал. На цэлых пяць дзён для вялізнай па памерах прасторы, якая некалі называлася Савецкім Саюзам, ён стаў сапраўднай сталіцай "імперыі сучаснага танца". "Віцебскі фестываль - гэта адзінае месца, дзе можна паглядзець, у якім стане зараз знаходзіцца творчы працэс у галіне сучаснай харэаграфіі ў постсавецкіх краінах, - сказала на прэс-канферэнцыі сябра журы конкурсу фестывалю мастацтвазнаўца з Францыі Паскаль Жюст. - Зараз ні ў Расіі, ні ў суседніх краінах няма спецыяльнага месца для пракату спектакляў. Няма магчымасцяў ні для публікі паглядзець спектаклі, ні для харэографаў паказаць іх па-за межамі свайго горада. Віцебск - гэта адзінае месца, дзе ў такім маштабе сустракаюцца і абменьваюцца вопытам трупы".

На IFMC-96 прыехалі 19 калектываў з Беларусі, Расійскай Федэрацыі, Малдовы, Украіны, краін Балтыі і Кітая. Заявак на ўдзел было амаль што ў 10 разоў болей, аднак далёка не ўсе трупы змаглі прайсці адборачны тур, які праводзіўся на падставе дасланых відэазапісаў. На працягу пяці вельмі напружаных дзён работы фестывалю прайшлі чатыры публічныя канцэрты, а таксама два туры конкурсу, які ацэньвала і вызначала пераможцаў у дзвюх намінацыях (аднаактовы балет і харэаграфічная мініяцюра) прадстаўнічае міжнароднае журы на чале з харэографам і дырэктарам Нацыянальнага Акадэмічнага Вялікага тэатра балета Рэспублікі Беларусь Валянцінам Елізар'евым. Апроч таго, удзельнікі калектываў мелі магчымасць наведаць майстар-класы вядомых танцоўшчыкаў і харэографаў Мікалая Агрызкава (Масква), Яўгена Панфілава (Перм), Паскалін Вер'е (Францыя), а таксама пачуць меркаванні аб сваёй творчасці балетных крытыкаў з Масквы, Мінска, Вільнюса і Екацярынбурга.

Віцебскі фестываль харэаграфіі - з'ява шматпланавая. Для адных гэта - прыступка ў набыцці вопыту прафесійнага майстэрства, для другіх - крыніца інфармацыі аб творчых пошуках калег, для трэціх - месца для паказу новых прац. Фестываль ужо не першы год прыцягвае да сябе ўвагу і замежных харэографаў і крытыкаў. "Танец - гэта адлюстраванне жыцця, а паколькі мы заўсёды існуем у нейкай палітычнай і грамадскай сістэме, танец адлюстроўвае культуру той краіны, у якой ён развіваецца, - сказаў на прэс-канферэнцыі сябра журы конкурсу балетмайстар з Галандыі Бенджамін Феліксдал. - У сувязі з тым, што ўсе выканаўцы і харэографы адлюстроўваюць у танцы той асабісты вопыт, што набыты імі ў жыцці, тэматыка танца паўсюль аднолькавая, аднак яна ўспрымаецца і перадаецца людзьмі па-рознаму. Таму мне асабіста цікава прыязджаць сюды і назіраць за тым, што адбываецца зараз на тэрыторыі былога СССР. Калі пачынаць параўноўваць ступень развіцця сучаснага танца тут і на Захадзе, то гэта будзе не зусім сумленна і не зусім справядліва, таму я гэтага і не раблю".

Кожны год у фестывалі прымаюць удзел беларускія калектывы. Праўда, іх узровень рэдка дазваляе ім займаць прызавыя месцы. "Калектывы з Расіі і Прыбалтыкі зараз вельмі многа вучацца. Мізэрнае фінансаванне такога роду дзейнасці ў нас, у Беларусі, прыводзіць да таго, што нашы калектывы на фоне астатніх застаюцца практычна невукамі," - так лічыць сябра журы конкурсу харэограф з Віцебска Наталля Чарнюк. Тым не менш, прыезд на IFMC-96 мадэрн-балета з Гродна "Галерэя" (мастацкі кіраўнік і балетмайстар Аляксандр Цебяsynькоў) парадаваў аматараў сучаснай беларускай харэаграфіі. За мініяцюру "Парафраз" трупа атрымала ад заснавальнікаў фестывалю спецыяльную прэмію пад шматабяцаючай назвай "Перспектыва".

IFMC - маленькая дзяржава, якая цяпер амаль кожны год на працягу некалькіх дзён паўнакроўна існуе ў культуралагічнай прасторы Віцебска. Дзяржава са сваёй атмасферай, сваімі законамі, межамі, фінансамі і нават уласным урачом. Фестываль заўсёды робіцца намаганнямі мноства людзей, і пра ўсіх расказаць няма практычна ніякай магчымасці. Таму паспрабуем прадставіць цярпліваму чытачу толькі некаторых і накідаем усяго тры партрэты на фоне аднаго фестывалю.

## ПАРТРЭТ ПЕРШЫ:
### МАРЫНА РАМАНОЎСКАЯ

Марына Раманоўская - аўтар ідэі, арганізатар і дырэктар Міжнароднага фестывалю сучаснай харэаграфіі ў Віцебску. Апроч таго, яна таксама з'яўляецца прэзідэнтам кампаніі "Арт Марк" і намеснікам дырэктара па рабоце з моладдзю культурна-дзелавога цэнтра адкрытага акцыянернага таварыства "КІМ" ("Класіка індустрыі моды"). Скончыла Ленінградскі інстытут культуры. Разам са сваімі калегамі з'яўляецца ініцыятарам і арганізатарам правядзення ў Віцебску цэлага шэрагу фестываляў і творчых акцый. Апроч IFMC, штогод праводзяцца камерны фестываль гітарнай музыкі "Менестрэль", конкурс мадэльераў-дызайнераў "Белая амфара", выстава-конкурс творчасці студэнтаў мастацкіх спецыяльнасцяў ВНУ горада "Арт-сесія".

У рабочым кабінеце задаю Марыне Раманоўскай некалькі пытанняў.

*- Не складана на працягу аднаго года праводзіць столькі маштабных культурных мерапрыемстваў?*

- Канечне, складана. У мяне і маіх калег увесь год жорстка распісаны па месяцах. І потым, я ж не адна ўсё раблю. Я маю асаблівую прыхільнасць да фестывалю харэаграфіі, а Эдуард Чарніўчан, напрыклад, - да фестывалю камернай музыкі "Менестрэль". Там ён галоўны, ён усім запраўляе, вызначае асноўныя тэндэнцыі развіцця, а я ўжо толькі дапамагаю выконваць задуманае.



Фота А. Глебава.

Я вельмі люблю віцебскіх студэнтаў, сярод іх сустракаюцца надзвычай цікавыя людзі. А для іх у нашым горадзе неяк нічога і не было. У мяне шмат сяброў, якія выкладаюць у педагагічным і тэхналагічным універсітэтах, разам з імі мы прыдумалі ідэю "Арт-сесіі". Зараз гэтая акцыя набыла такую папулярнасць, што ўсе лічаць яе сапраўднай сесіяй, толькі творчай, якую трэба здаваць перад цэлым горадам, усімі яго жыхарамі.

Наша апошняе тварэнне - конкурс мадэльераў-дызайнераў "Белая амфара". Гэта зусім яшчэ маладзенькі фестываль, яму ўсяго толькі два гады. Аднак мне здаецца, што ён таксама будзе мець перспектыву і развіццё ў будучым.

*- Быць можа, у хуткім часе варта чакаць з'яўлення ў Вас яшчэ якога-небудзь новага фестывалю?*

- Не, на працягу года для яго ўжо па-простаму няма вольнага часу. Калі заканчваецца чарговы фестываль, з'яўляецца жаданне ўсё падсумаваць, сістэматызаваць і пачаць падрыхтоўку да наступнага з новымі, свежымі думкамі. У галаве ўжо ўсё раскладзена па палічках, усё зразумела, трэба толькі сесці, засяродзіцца і ўсё выкласці на паперу. Аднак ... у дзверы ўжо стукаецца наступны фестываль, і ўсё ніяк не выпадае расправіць плечы. Я, напрыклад, вельмі люблю восень. Люблю хадзіць па алеях, якія засыпаны апалым лісцем, люблю хадзіць у капюшоне пад дажджом. А зараз я думаю: чаму так даўно я не хадзіла пад дажджом? Чаму не бачыла, як падае лістота? Таму, што восень - гэта час падрыхтоўкі фестывалю сучаснай харэаграфіі, і на ўсё астатняе ў мяне зараз па-простаму не хапае часу.

*- Як нарадзілася ідэя правядзення IFMC?*

- Усё пачыналася гадоў 10 назад з фестывалю брэйк-данса. Я заўсёды была чалавекам, які не надта любіць рабіць тое, што дазваляюць. Тады я вучылася ў Ленінградзе, які заўсёды лічыўся вольналюбівым горадам, і там упершыню ўбачыла на афіцыйнай сцэне фестываль па брэйк-дансу. Да гэтага я бачыла брэйк у асноўным на відэакасетах, гэта былі амерыканскія, вельмі тэхнічныя рэчы. Тое, што я ўбачыла на ленінградскім фестывалі, мяне ўразіла і скарыла. У танцораў была выдатная тэхніка, якая ў той жа час афармлялася нейкай ідэяй. У выніку атрымліваўся той самы сінтэз, з якога пачынаецца сапраўднае мастацтва. Мяне вельмі ўразіла тое, што, па сутнасці, вулічнай мовай можна гаварыць пра вельмі сур'ёзныя рэчы. Калі пасля сесіі я вярнулася дадому, адразу вырашыла, чаго б гэта не каштавала, зрабіць такі фестываль у Віцебску. Кінулі кліч па Саюзе, жадаючых знайшлося мора, прыехала шмат вулічных танцораў - з гэтага ўсё і пачалося.

А потым усё было проста - сталелі мы, сталелі нашы зацікаўленні, думкі. 1988-ы стаў годам развітання з андэграўндам, потым быў Усесаюзны фестываль папулярнага танца "Белы сабака". І, зрэшты, у 1992 годзе з'явіўся IFMC. Зараз свае духоўныя запатрабаванні мы спрабуем пераносіць на сцэну. З аднаго боку, гэта вялікая раскоша, а з другога боку, калі гэтыя нашы ўнутраныя пошукі супадаюць з тым, што патрэбна глядачу, значыць, гэтая справа на агульную карысць.

*- У гэтым годзе фестываль праходзіў ужо ў дзевяты раз. З 1986 г. ён праводзіцца штогадова, выключэнне склаў толькі мінулы год. Чаму не было IFMC-95?*

- Таму, што ў мінулым годзе ў мяне нарадзіўся маленькі Клім. Сумяшчаць працу і выхаванне дзіцяці надзвычай складана. Мне перад Клімам вельмі няёмка. Зараз, падчас працы фестывалю, ён зрабіў свой першы крок, і я гэтага не бачыла. Я не бачыла Кліма некалькі дзён, і за гэты час ён навучыўся рабіць ужо сем крокаў. А яго самы першы крок бачылі прабабуля і бабуля.

*- У чым для Вас заключаюцца галоўныя складанасці ў падрыхтоўцы і правядзенні IFMC?*

-Асабіста мае складанасці - у недахопе адукацыі. З методыкай і арганізацыяй фестывалю асаблівых праблем ужо даўно няма, а вось спецыяльных ведаў не хапае. Людзі, з якімі даводзіцца працаваць, - прафесіяналы (крытыкі, танцоўшчыкі, балетмайстры), і зараз быць толькі арганізатарам - ужо мала. Я мяркую, што калі крышачку пагадуецца мой маленькі сынок, я пайду куды-небудзь вучыцца, каб мець магчымасць размаўляць з гэтымі людзьмі на прафесійнай мове. Я шкадую, што я не балерына ў мінулым. У свой час мне давялося паглядзець шмат балетаў. Некалі я спецыяльна ездзіла ў Маскву, каб пабачыць выступленні амерыканскіх, французскіх, іспанскіх труп. Я шмат чытала пра балет. Але ўсё роўна гэтага мала, нейкія абрыўкі ведаў трэба прыводзіць у сістэму. Па вялікім рахунку,

я мару вывучыць класічны станок, а таксама розныя школы і асноўныя накірункі ў тэорыі танца мадэрн.

***

Адзін разумны чалавек сказаў, што наша жыццё змяняюць не нейкія знешнія абставіны, а нашы думкі. Калі ў нас у галовах з'яўляюцца новыя думкі, мы самі і наша жыццё робяцца іншымі. Гэта сапраўды так. А калі вы ў гэта не верыце - перагартайце яшчэ раз гісторыю IFMC і задайце пры выпадку некалькі пытанняў спадарыні Раманоўскай.

## ПАРТРЭТ ДРУГІ:
### ЛАРЫСА КУЗНЯЦОВА

Ларыса Кузняцова - генеральны дырэктар сумеснага беларуска-германскага прадпрыемства "Белвест". СП існуе ўжо восем гадоў і выпускае прыгожы і дыхтоўны абутак, даступны па кошце масаваму спажыўцу. На фоне агульнай малапрывабнай карціны існавання эканомікі нашай рэспублікі па прынцыпах "рынкавага сацыялізму" "Белвест" уяўляе сабой рэдкі прыклад стабільнасці ў працы і ўпэўненасці ў сваіх сілах. Каля двух мільёнаў пар мужчынскага і жаночага абутку, якія выпрабляюцца і рэалізуюцца за год, амаль сто новых мадэляў штогадова, дзевяць уласных фірменных магазінаў у Беларусі і Расіі - ужо адны гэтыя аргументы выглядаюць дастаткова важка і красамоўна. Паводле дынамікі свайго развіцця і патэнцыяльных магчымасцяў прадпрыемства магло б стаць візітнай карткай новай эканомікі Беларусі, аднак стала, хутчэй, толькі нялюбым дзіцёнкам у роднай сям'і: у 1995 годзе яно вымушана было заплаціць столькі падаткаў, колькі лёгкая прамысловасць і машынабудаванне Віцебска разам узятыя.

Пра генеральнага дырэктара "Белвеста" Ларысу Кузняцову ў нас пішуць шмат і ахвотна: "прафесіяналізм і кантактнасць кіраўніка", "чалавек с моцным характарам", "разумее людзей, імкнецца дапамагаць іншым". Безумоўна, што і гэтыя якасці кіраўніка - складаючая поспеху ўсяго прадпрыемства. Аднак калі ўжо казаць пра асобу Л.Кузняцовай, то ніякім чынам нельга абыйсці ўвагай яе адносіны да культуры.

Мецэнат - слова заморскае, якое было малазразумелым у грамадстве "роўных магчымасцяў" і якое сёння спакушае многіх адноснай дасягальнасцю і магчымасцю ўплыву адной асобна ўзятай асобы на праблемы і справы культуры. Ларыса Кузняцова ў гэтых адносінах - проста інтэлігентны чалавек, у чым не аднойчы ўжо мелі магчымасць упэўніцца жыхары Віцебска. Тыя фестывалі, акцыі, выставы, выданні, якія падтрымлівае ў нашым горадзе "Белвест", - з'явы самі па сабе значна больш яркія і запамінальныя, чым спадарожная ім інфармацыя аб тым, без чыёй падтрымкі і ўдзелу іх папросту не было б.

У 1992 г. "Белвест" упершыню стаў фундатарам IFMC. З таго часу шмат што змянілася. У прыватнасці, змянілася і форма ўдзелу СП у лёсе фестывалю - "Белвест" зараз з'яўляецца адным з яго заснавальнікаў.

У першыя постфестывальныя дні спрабую ўзяць інтэрв'ю ў Ларысы Кузняцовай.

*- Якое значэнне Вы надаеце віцебскаму фестывалю сучаснай харэаграфіі?*

- Я надаю яму вялікае значэнне і маю да фестывалю вельмі сур'ёзныя адносіны. Па-першае, гэта дастаткова прэстыжны фестываль, адзін з нешматлікіх тут, у Віцебску, ды і ва ўсёй рэспубліцы, які сапраўды мае адносіны да мастацтва ў яго сур'ёзным значэнні. Па-другое, мне як нармальнаму чалавеку, які добра ставіцца да свайго горада, прыемна, што такая дастаткова ўнікальная з'ява адбываецца ў Віцебску. Патрэцяе, у горадзе ёсць людзі, якім іншым разам не бывае куды пайсці. Фестываль - гэта якраз тое месца, куды яны могуць прыйсці, паглядзець, паразважаць. Гэта - свята, якое цяпер так рэдка з намі.

*- Сучасная харэаграфія, танец мадэрн, данс-тэатр - гэта, пагадзіцеся, тая вобласць мастацтва, якая з'яўляецца дастаткова складанай для ўспрыняцця. Яна патрабуе ад глядача пэўнай падрыхтоўкі і нават, калі хочаце, пэўнага ўзроўню інтэлекту. Канцэрты ж IFMC у Віцебску збіраюць поўную залу. Гэта што, спецыфічная адметнасць горада?*



Фота А. Сцепанішчава.

- Я думаю, што калі б гэты фестываль праходзіў у нейкім іншым горадзе, то таксама збіраў бы поўную залу. Таму што не ўсе ж у нас дакаціліся да ўзроўню адной толькі эстрады. І нягледзячы на пэўныя трагічныя моманты ў гісторыі Беларусі ўсё ж, напэўна, засталіся людзі, якія жадаюць думаць, жадаюць развівацца, якім сапраўды прыемна быць саўдзельнікамі гэтага працэсу. Я не думаю, што іх толькі адна зала, іх нават і больш, бо не ўсе ж могуць патрапіць на канцэрты. І гэта адзінае, што пакуль суцяшае.

*- Якія Вы маеце сімпатыі як глядач фестывалю?*

- Слова "сімпатыі" - гэта слабое слова. Я лічу, што слова "любоў" тут больш падыходзіць. Я, напрыклад, не ўяўляю сабе фестываль без Яўгена Панфілава. Таму што гэта - нейкі асаблівы дух, магчыма, Божы дар. Панфілаў унікальны як чалавек, а ўсё, што ён робіць - проста вынік яго ўнікальнасці. "Правінцыяльныя танцы" - гэта таксама мая любоў. Ды і не толькі мая, але і тых людзей, якія прыходзяць на канцэрты спецыяльна дзеля гэтага калектыву. Напэўна, мы ўсе проста любім Мікалая Агрызкава, і не мае асаблівага значэння, прыязджае ён на фестываль у якасці ўдзельніка конкурсу або толькі госця. Добра, што з'явіўся Кінетычны тэатр Аляксандра Пепяляева, будзем глядзець, куды ён будзе развівацца далей. Я думаю, што такіх людзей і такіх калектываў з кожным годам будзе ўсё больш і больш. Гэты

фестываль чакаеш, а калі ён прыходзіць, нават двума-трыма словамі перакінешся са старымі знаёмымі - і ўжо іншы стан душы. А любоў - гэта добрая справа.

*- У сваіх адносінах да фестывалю Вы, можна сказаць, паслядоўна прайшлі тры якасці: глядача, фундатара і заснавальніка. Ці адрозніваюцца яны чым-небудзь паміж сабой?*

- Думаю, што не. Усё пачыналася з глядацкіх сімпатый, а далей ужо атрымалася быццам бы само сабой. У нас даўно ўжо склаліся сур'ёзныя працоўныя адносіны з культурна-дзелавым цэнтрам, і мы лічым проста сваім абавязкам падтрымліваць некаторыя цудоўныя ідэі Марыны Раманоўскай, таму што яны даюць вынік не адной асобе, а цэламу гораду і нават усёй рэспубліцы. І потым, "Белвесту" прэстыжна звязваць сваё імя з такой значнай з'явай, як фестываль. За ўсе восем гадоў сваёй дзейнасці мы, напэўна, ніколі не ўдзельнічалі ў нечым нявартасным. Быць заснавальнікам фестывалю - гэта, у першую чаргу, вялікі гонар. І, калі хочаце, рэклама, прычым, вельмі сур'ёзная.

*- У апошнія гады назіраецца выразны якасны рост фестывалю. Зрабіўшыся заснавальнікам, "Белвест", трэба меркаваць, атрымаў магчымасць уздзейнічаць на працэс яго падрыхтоўкі. Ці ёсць Ваш уплыў на тое, што фестываль змяняецца да лепшага?*

- Я думаю, што прамога ўплыву ніякага няма. Мы не маем права ўмешвацца, таму што мы дылетанты, аматары. Мы можам дапамагчы вырашыць фінансавыя праблемы, а ўсё астатняе павінны аддаць спецыялістам, і ў дадзеным выпадку па-простy не перашкаджаць ім. Кожны павінен займацца тым, што ён умее рабіць. Мы нешта разумеем у вытворчасці абутку, таму займаемся гэтай справай. Калі ў нас недзе нешта не атрымліваецца, імкнемся выправіць. Харэаграфіяй жа няхай займаюцца тыя, хто ў ёй прафесійна разбіраецца. Сучасную харэаграфію мы проста любім, а гэта ўжо іншае. Быць можа, дзякуючы адсутнасці ўздзеяння дурнога густу фестываль і развіваецца ў лепшы бок.

***

Кажуць, у гісторыі Расіі меў месца такі факт. Яшчэ ў XVII стагоддзі нейкі Івашка Култыгін, работнік на адным з млыноў на рацэ Яузе, вынайшаў сані з ветразем. За гэта яго схапілі і пачалі дапытвацца - дзеля чаго ён выдумаў такія сані. У выніку сані спалілі, а Култыгіна пабілі палкамі.

IFMC, думаецца, пашчасціла больш, чым работніку Култыгіну: пры такіх заснавальніках у фестываля ёсць шанц не толькі не быць пабітым сёння, але і з добрай доляй упэўненасці глядзець у будучыню.

## ПАРТРЭТ ТРЭЦІ:
### "ПРАВІНЦЫЯЛЬНЫЯ ТАНЦЫ"

Аляксандр Блок аднойчы сказаў: "Пісьменнік - расліна шматгадовая. Душа пісьменніка пашыраецца і развіваецца перыядамі, а творы яго - толькі вонкавыя вынікі падземнага росту душы". Гэтыя словы, думаецца, самым непасрэдным чынам характарызуюць данс-тэатр з Екацярынбурга "Правінцыяльныя танцы". Віцябляне ўпершыню пазнаёміліся з ім на IFMC-92, калі быў паказаны спектакль "Версіі. Частка І" (на музыку А.Тэртэрана, харэаграфія Т.Баганавай). Многім тады, напэна, гэты твор падаўся незразумелым, але для іншых стаў сапраўдным адкрыццём і пачаткам любові да складанага мастацтва авангарднага танца. Сёння "Правінцыяльныя танцы" ў Віцебску - госць заўжды чаканы, любімы, які мае свайго глядача, часцей за ўсё, прадузятага. Тое, што ў кожны свой новы прыезд трупа не дазваляе расчароўвацца ў сабе - з'ява вельмі ўсцешная, якая сведчыць пра той самы "падземны рост душы", што так неабходны для любога жывога арганізма.

"У сваёй творчасці тэатр сінтэзуе каноны заходнееўрапейскага, перш за ўсё нямецкага, данс-тэатра, тэхніку амерыканскага мадэрна, элементы джаза, фальклору, іншых накірункаў пластычнага мастацтва. У аснове трэнінгу трупы - класіка і розныя мадыфікацыі мадэрна. Пераплаўляючы ўсе гэтыя кампаненты, "Правінцыяльныя танцы" ў кожнай новай пастаноўцы ствараюць свой уласны стыль, у якім усё: музыка і танцавальная лексіка, драматургічная канструкцыя і сцэнаграфія - дыктуецца непаўторнай ёмістай мастацкай канцэпцыяй", - так пішуць сёння пра трупу сур'ёзныя мастацтвазнаўцы і танцавальныя крытыкі. За гэтымі словамі - талент і напружаная праца чатырох удзельнікаў калектыву, харэографаў і танцоўшчыкаў Таццяны Баганавай, Наталлі Шырокавай, Рэната Хасбатава і Равіля Галімава. За гады працы ў тэатры імі назапашаны дастатковы прафесійны вопыт, які з'яўляецца вызначальнай рысай усяго калектыву, прыкметна вылучаючы яго на фоне агульнай пярэстай фестывальнай карціны. Аднойчы вызначыўшы для сябе шлях у інтэлектуальнае мастацтва данс-тэатра ў краіне, дзе апошні на працягу ўсіх дзесяцігоддзяў савецкай улады быў практычна пазбаўлены магчымасці развівацца, удзельнікі трупы сталі актыўна вывучаць і засвойваць тую пластычную мову, што адпавядала іх прарыву ў новы стыль, у новую эстэтыку, у новую рэальнасць іх існавання. Стажыроўкі на базе знакамітага "American Dance Festival" у Дарэме (ЗША), вучоба ў alma mater нямецкага данс-тэатра "Фольkванг-шуле", супрацоўніцтва з танцоўшчыцай і харэографам з Эсэна Крысцін Брунель сталі добрай школай, якая дазволіла ўзрасціць уласныя спелыя працы. І калі сёння спрабаваць весці гаворку аб пошуках уласнай пластычнай мовы ў галіне танца мадэрн на тэрыторыі постсавецкіх дзяржаў, аб нацыянальным рускім варыянце данс-тэатра, то ніякім чынам, думаецца, нельга не ўлічваць тое, што робяць "Правінцыяльныя танцы" ў гэтым накірунку.

На IFMC-96 трупа прывезла свае новыя працы: аднаактовы балет "Не здарылася" (харэаграфія Т.Баганавай), мініяцюры "Паходная" (харэаграфія Т.Баганавай), "Дзённік пачуццяў. Старонка першая" (харэаграфія Р.Хасбатава) і "Дэжа вю" (харэаграфія Н.Шырокавай). Паказ апошняй мініяцюры на віцебскай сцэне стаў прэм'ерным, а таму для трупы вельмі хвалюючым.

У вузкай прасторы пакоя, адведзенага калектыву на час фестывалю, задаю ўдзельнікам калектыву пытанне: "Чым адрозніваюцца "Правінцыяльныя танцы" восені 96-га года ад тых, што былі сем гадоў назад?"

*Равіль Галімаў:* Па-першае, прафесіяналізмам. Па-другое, нас стала значна менш (было чалавек 15-18), але наш узровень узняўся на некалькі парадкаў. Паступова мы назапасілі вопыт той харэаграфіі, што маем зараз.

*Таццяна Баганава:* За гэты час мы сталі дарослымі, не зусім разумнымі, але разумнейшымі. Змяніліся нашы адносіны да жыцця ў тэатры (менавіта не да працы, а да жыцця ў тэатры). Зараз мы робім разлік не на вынік, а на працэс. Жыццё ў гэтым працэсе дазваляе ўжо зусім па-іншаму пагладзець на

свае папярэднія працы. Для мяне самым любімым застаецца першы спектакль "Версіі. Частка І.", які мы зараз не працуем з-за фінансавых праблем. Я думаю аб тым, як мы маглі б зрабіць яго зараз, наколькі ён быў бы іншым, больш цікавым, сталым, па-іншаму пeражытым. Тое, што мы зараз прывезлі ў Віцебск - усе новыя працы, якія былі створаны на працягу сезона 96 года. Аднак яны ўжо абкатаныя ("Не здарылася" мы паказалі на фестывалі ў Карлсруэ ў Германіі), глыбока перажытыя, самыя лепшыя варыянты.

<u>Наталля Шырокава:</u> Зараз мы творча працуем вельмі актыўна, і гэта стала нашым вялікім жыццём. Паступова нас усё больш зацягвае гэты працэс. Дзеля сур'ёзнай працы мы губляем нейкія іншыя часткі свайго жыцця, хобі, напрыклад, і нават робіцца крыху страшнавата.

<u>Рэнат Хасбатаў:</u> Чым яшчэ мы адрозніваемся ад 89-га года (і гэтым мы вельмі ганарымся), дык гэта тым, што мастацкае кіраўніцтва тэатрам ажыццяўляецца ўсімі сябрамі нашай трупы. У нас калектыўная адміністрацыйная і мастацкая творчасць. Наш тэатр жыве агульнымі сіламі, а складаецца з прац, якія ад пачатку і да канца робіць адзін чалавек: прыдумвае ідэю, ставіць рэжысуру, харэаграфію, святло. Сумесна ж вырашаецца, дзе будзе паказвацца спектакль, з чаго і дзе будуць рабіцца касцюмы, як будзе выглядаць сцэна.

Калектыўнасць творчасці - рэч, як вядома, выключна складаная (каб не сказаць спрэчная), асабліва ў тонкай і персаніфікаванай галіне харэаграфіі. Сучасны танец - гэта заўсёды глыбока індывідуальны аповяд, які нараджаецца з вопыту і перажыванняў канкрэтнай асобы. Усе ўдзельнікі трупы "Правінцыяльныя танцы" - без сумнення, людзі таленавітыя, яркія і непаўторныя ў сваёй індывідуальнасці асобы. Здавалася б, тым больш хваравітай для іх павінна быць нівеліроўка прыватных творчых амбіцый, якая непазбежна адбываецца ў працэсе ўсялякай сумеснай працы. Аднак гэтая праблема ў калектыве быццам бы адсунута на другі план. Сумеснасць і раўназначнасць усіх у цэлым пры магчымасці творчага самавыяўлення кожнага - такая форма жыцця прынята "Правінцыяльнымі танцамі" сёння і, напэўна, яна вартая самай высокай ухвалы, бо прыносіць вынік. Вынік, які нараджаецца з сінтэза цікавай харэаграфіі, тэхнічнасці танцоўшчыкаў, пошукаў новай драматургіі. Гэты вынік хутка заваёўвае сімпатыі глядачоў і любоў тых, хто аддае перавагу сур'ёзнаму чытанню, філасофскаму роздуму аб жыцці і назіранням над чалавечай прыродай.

<u>Таццяна Баганава:</u> Спектакль "Не здарылася", які мы прывезлі ў Віцебск, па-сапраўднаму называецца "Кніжка з малюнкамі і пралогам". У пралогу прадстаўлены тры героі і далей ідуць тры малюнкі, дзе з галоўным героем адбываецца гісторыя, нейкая сітуацыя, якая не здараецца. Мужчына марыць быць жанчынай - не здараецца. У іншай сітуацыі мужчыны пайшлі на паляванне - не здарылася паляванне. Гэта значыць, існуюць розныя сітуацыі, дзе не здараецца тое, што чакаюць, і тады яны ператвараюцца ўжо ў прытчу. Да гэтага ў нас былі спектаклі цяжкія. Напрыклад, у спектаклі "Калі надыйдзе час і прыйдзе той, Хто..." адбываецца забойства чалавека, аднак забойства не як такое (скажам, застрэлілі з ружжа), а яго ўнутранае паміранне, пасля якога настае пустэча, ноч. Спектакль "Не здарылася" - светлы. Хоць нешта і не здараецца, аднак ён усё роўна светлы. Усё, пра што гаворыш са сцэны, вельмі асабістае, індывідуальнае. Гэты спектакль - таксама пра нас. Я думаю, што са сцэны нельга казаць пра другога, чужога, таму што ты не ведаеш яго праблем. Калі хочаш быць шчырым, хочаш, каб табе паверылі, будзеш казаць толькі пра сябе і пра тое, што сам перажыў. Але ўжо ні ў якім разе не апавядаць гісторыю, якую пачуў ад іншага чалавека. Я зайздрошчу тым, у каго хутка нараджаюцца новыя творы. Я так не магу. Вось мы зрабілі спектакль, і зараз паўгода я буду хадзіць пуста-а-а-я...

Спосаб існавання данс-тэатра "Правінцыяльныя танцы" ў родным Екацярынбургу зусім не просты. Трупа не мае ніякай падтрымкі ні на федэральным, ні на муніцыпальным узроўні. Усе фінансавыя і арганізацыйныя праблемы даводзіцца вырашаць самім. Удзельнікі трупы самі шыюць сабе касцюмы, цягаюць дэкарацыі, са збораў за спектаклі плоцяць за арэнду залы, асвятленне, абслугоўванне сцэны. У выніку заробак за спектаклі атрымліваецца да смешнага мізэрным. Тым не менш, тэатр існуе і знаходзіць нетрадыцыйныя шляхі для свайго выжывання. Трупа едзе на нейкі міжнародны конкурс, атрымлівае там, як правіла, прэмію, грошы выкарыстоўвае на набыццё білетаў на наступны конкурс і г.д. У 1994 г. "Правінцыяльныя танцы", напрыклад, атрымалі гран-пры на фестывалі салістаў і малых труп у Казані, потым былі на гастролях у Калінінградзе, дзе таксама давалі майстар-класы, каб зарабіць на дарогу. Потым на аўтобусах праз Польшчу дабраліся да Ганновера, дзе Таццяна Баганава атрымала першую прэмію на міжнародным конкурсе маладых балетмайстраў. Лета прайшло ў Амерыцы, дзе калектыў удзельнічаў у рабоце фестывалю ADF, які існуе ўжо 60 гадоў. Задаю "Правінцыяльным танцам" чарговае пытанне: "Што азначае віцебскі фестываль сучаснай харэаграфіі ў біяграфіі Вашага данс-тэатра?"

<u>Равіль Галімаў:</u> Сваю самую першую прэмію тэатр атрымаў на віцебскім фестывалі 1992 года і гэта быў шчаслівы пачатак. Гэтая прэмія нам тады вельмі дапамагла, таму што праз тры дні мы адляталі ў Парыж і нам крыху не хапала грошай на білеты, так што прэмія аказалася вельмі дарэчы. І яна, напэўна, сталася шчаслівай, бо і ў Парыжы на міжнародным конкурсе мы атрымалі гран-пры і потым ужо ні з аднаго конкурса не з'язджалі без прэмій.

<u>Таццяна Баганава:</u> Віцебскі фестываль займае вельмі важнае месца ў нашай біяграфіі. Кожны раз, калі нас запрашаюць у Віцебск, перад намі паўстае пытанне: ехаць ці не ехаць. Але не з пункту гледжання пажаданасці або непажаданасці гэтага, а выключна з-за фінансаў. Многім калектывам даводзіцца вырашаць тую ж праблему. На гэты раз нам пашчасціла з абставінамі: Трансаэракампанія ўжо даўно была вінна нам тры білеты і як раз зараз змагла іх аддаць. Кожны раз, калі прыязджаеш у Віцебск, адчуваеш сваю запатрабаванасць. Таму што прыязджаеш на гатовую сцэну, на якой цябе чакалі, працуеш з тымі людзьмі, што табе дапамагаюць, а не ставяцца абыякава ці нават шкодзяць, як гэта бывае на іншых пляцоўках. А калі адчуваеш, што тое, што ты робіш, патрэбна не толькі табе, што цябе тут чакалі і хочуць бачыць, адразу ўзнікае жаданне дзяліцца. Тут мы ўжо маем сваю публіку, якая выхавана на нашай творчасці. Прыязджаць сюды - гэта нейкая ўнутраная патрэба. Гэта як калі напісаў песню, то яе трэба паказаць самаму блізкаму чалавеку. Мы так і дома працуем. Сумна, але мы не маем ніякай падтрымкі - што патопаў, тое і палопаў. Тым не менш, мы імкнемся хоць бы раз на тры месяцы сабраць грошы і выступіць, кожны свой спектакль мы абавязкова паказваем дома. Гэта патрэба такая, паказаць тое, што зрабіў, самаму блізкаму чалавеку - гораду. Екацярынбург і Віцебск - гэта для нас тое, што павінна быць абавязкова.

Такое чулівае прызнанне, думаецца, не можа пакінуць абыякавым ні аднаго віцебскага прыхільніка данс-тэатра. Узаемная любоў - сур'ёзная падстава для смутку пры развітанні. На гэты раз "Правінцыяльныя танцы" ад'язджалі з Віцебска з самай высокай другой прэміяй (першую журы вырашыла ўвогуле не прысуджаць) за аднаактовы балет "Не здарылася". Думаючы пра новыя сустрэчы на IFMC, пытаюся на развітанне: "Што хацелася б змяніць на фестывалі да лепшага?"

_Таццяна Баганава:_ Віцебск - гэта адзінае месца на тэрыторыі былога СССР, дзе праводзіцца фестываль такога плану, і ўзровень гэтага фестывалю з кожным годам расце. Мы ўжо даўно сюды прыязджаем, і ёсць розніца, скажам, паміж 92-м годам, калі мы выглядалі тут як белыя вароны, і 96-м, калі ўжо відавочны адбор сур'ёзных, канцэптуальных прац, якія больш адпавядаюць назве фестывалю. Віцебскі фестываль для нас значны тым, што тут мы ўсіх сустракаем, атрымліваем інфармацыю аб тым, хто што новага зрабіў. Несумненна, прыемна было б бачыць тут заходнія трупы. Але ж фестываль не мае такіх грошай, каб запрасіць трупу прыстойнага ўзроўню, напрыклад, Піны Бауш ці Магі Марэн. А запрашаць каго заўгодна, абы толькі гэта былі прадстаўнікі Захаду - я лічу, не мэтазгодна, хоць многія зараз так робяць. Да таго ж, фестываль мае фінансавую аснову ў выглядзе прэмій, якія шкада было б аддаваць заходнім трупам, лепш іх выкарыстаць на тое, каб узняць сваё.
Калі б я была арганізатарам фестывалю, я, напэўна, праводзіла б больш жорсткі адбор удзельнікаў. Запрасіла б не 19 калектываў, а 10, але дала б ім волю, не абмяжоўваючы так жорстка па часе. Ну не можа доўжыцца балет паўгадзіны! Бываюць аднаактовыя балеты, але ў рэпертуары трупы іх можа быць усяго адзін-два. Ставіць спецыяльна для конкурсу - я лічу, што гэта поўны маразм. Калі ты не нарадзіў спектакль, а зрабіў штучна, то лепш не выходзіць і не казаць. Мне запярэчаць: на фестывалі шмат калектываў і тады журы пампрэ ад усяго, што трэба адглядзець. Я ведаю, што пампрэ, я сама праз гэта прайшла. Але ў такім выпадку лепш запрасіць 10 калектываў, якія прывязуць не па два, а па адным балеце, і тады не прыйдзецца крывава купіраваць уласныя рэчы, як гэта мы вымушаны былі рабіць зараз. І потым, 8 хвілін для харэаграфічнай мініяцюры - гэта не час. Ён дастатковы толькі для таго, каб ацаніць, як тэхнічна працуе выканаўца. Мініяцюра - гэта ж гісторыя аб жыцці, яе трэба завязаць, пражыць, развязаць. Мы, як мне здаецца, не шматслоўныя, і то ў гэты час не укладваемся. У мінулым годзе мы былі на конкурсе харэографаў "Прыз Валінін" у Парыжы, і там на харэаграфічную мініяцюру адводзілася 15 хвілін. Вось гэта, як мне здаецца, можна было б змяніць, а ўсё астатняе... Марына Раманоўская - вельмі разумны чалавек, і яна ўсё робіць правільна.


Сцэна з балета "Не здарылася". Фота І. Гусакова.

***

Калі раз'язджаліся ўдзельнікі фестывалю, у Віцебску не выпаў першы снег. Трэба думаць, па чыстай выпадковасці, таму што ў горадзе ў гэты дзень наступіла ўжо іншая пара года - пара жыцця без фестывалю, без яго чароўнай атмасферы творчасці, добразычлівасці, здаровага саперніцтва і ўсеагульнай любові да мастацтва сучаснай харэаграфіі. Фестываль робяць розныя людзі, на фестываль прыязджаюць розныя калектывы, але намаганнямі ўсіх атрымліваецца адна з'ява - агульная, з якой заўсёды бывае шкада раставацца. І потым кожнаму хочацца напісаць з любоўю ліст з Віцебска ў фіялетавым канверце...

# допісы на палёх

# "МОЙ РАДАВОД"

*"Мой радавод" - так называўся конкурс, які восенню 1996 г. абвясціла сярод сваіх чытачоў віцебская гарадская газета "Віцьбічы". "Той, хто марыць пра плады, забыўшыся пра карані, застаецца галодным," - вучыць народная мудрасць. Гэта ў роўнай ступені адносіцца і да грамадства, і да чалавека. І каб зразумець, што адбываецца сёння, каб не згубіць сэнс уласнага жыцця, абавязкова трэба ўглядзецца ў гісторыю. Калі ў нас з памяці выпадае наша мінулае, калі часам людзі стараюцца не пазнаваць сваіх родных і блізкіх, калі бацькі шукаюць дапамогі ў зусім чужых людзей, а іх дзеці жывуць на суседняй вуліцы - гэта ўжо адна з самых страшных хвароб душы. І што можа быць больш годнае, чым веды і памяць пра сваіх продкаў?*
*На конкурс "Мой радавод" было даслана 52 матэрыялы. 32 з іх былі апублікаваны на старонках нашай газеты. Па просьбе рэдакцыі частку рукапісаў мы прапануем для публікацыі ў часопісе "Віцебскі сшытак". Хочацца спадзявацца, што гэтае вартаснае пачынанне будзе мець свой працяг у будучым.*

***Галіна Міронава,***
***супрацоўніца рэдакцыі газеты***
***"Віцьбічы"***

**МОЙ РОД СЛАВІЦЦА ПРАЦАВІТАСЦЮ**

Паабапал ракі Улы раскінулася адна з буйнейшых вёсак Бешанковіцкага раёна - Бачэйкава. Першыя звесткі пра Бачэйкава адносяцца да сярэдзіны XV стагоддзя, калі ім валодаў князь Я.М.Ямантовіч-Падбярэзскі. Потым Бачэйкавам валодалі князі Цеханавецкія. Па праекту італьянскага архітэктара тут быў пабудаваны цудоўны палац, закладзены вялікі парк на ўзор французскіх.

І вось у такім прыгожым месцы з'явіўся мой прашчур. Справа у тым, што князь Цеханавецкі жыў за мяжой, таму ў Бачэйкава быў прывезены ўпраўляючы з Польшчы. Звалі яго Альберт Навацкі. Гэта быў мой прапрапрадзед. Тут ён ажаніўся, у яго нарадзіўся сын Эдуард Навацкі, які таксама быў упраўляючым гэтага маёнтка. Ажаніўся ён з дзяўчынай Параскай з суседняй вёскі Промыслы. Яна працавала па найму ў полі, працавала вельмі старанна. Сваёй прыгажосцю і яшчэ больш працавітасцю спадабалася Эдуарду. Жылі яны вельмі добра. Эдуард быў майстрам на ўсе рукі, у выхадныя дні ён рабіў зрубы, рамы, дзверы. У Параскі і Эдуарда было шасцёра дзяцей: Андрэй, Міхаіл, Макрыда, Таіса, Нікіфар, Сцяпан. Пахаваны Эдуард на могілках у Промыслах. Да сённяшняга дня там стаіць помнік у выглядзе цаглянай калоны з металічным крыжам. (Дарэчы, палова жыхароў у Промыслах носіць прозвішча Навацкія).

Міхаіл Навацкі - мой прадзед. Ён быў пісьменным чалавекам. Служыў у Пецярбургу пісарам у штабе. Калі вярнуўся дадому, як і ўсе, займаўся сельскай гаспадаркай. Ажаніўся ён з дзяўчынай Праскоўяй. Гаспадарку меў вялікую: два кані, тры каровы, шмат свіней. Прадзед Міхаіл падзарабляў тым, што ганяў ганкі (сплаўляў лес) у Рыгу. За гэта вельмі добра плацілі. З Рыгі вярталіся пешшу, каб зэканоміць грошы. Дзеці - Андрэй, Дзям'ян, Дуня, Праскоўя, Ганна - з нецярпеннем чакалі бацьку, бо ён купляў ім у Рызе падарункі. На парозе хаты Міхаіл з'яўляўся з доўгай звязкай абаранкаў на шыі, з пернікамі, з падарункамі для ўсёй сям'і. У Рызе каштавала ўсё танней, чым тут.



Дзям'ян Навацкі, яго дачка Таццяна і ўнукі Міхаіл і Зоя. Вёска Промыслы, 1950 г.

Памёр прадзед маладым. Было яму каля 40 год, калі захварэў на запаленне лёгкіх. Адзін знахар паставіў Міхаілу п'явак і яны высмакталі шмат крыві. Калі яго прывезлі да ўрача, той толькі рукамі развёў. Так не стала прадзеда Міхаіла.

Мой дзед Дзям'ян Навацкі нарадзіўся ў 1887 годзе ў Промыслах. Закончыў 4 класы школы і працаваў на сваёй зямлі. Потым служыў у арміі дзеншчыком у аднаго генерала ў Пецярбургу. Генерал вельмі добра да яго адносіўся. У генерала была дачка і ён хацеў, каб Дзям'ян з ёю ажаніўся. Аднойчы ён прывёў майго дзеда дадому і паказаў усе свае багацці: золата, срэбра, каштоўныя камяні. Але Дзям'яна цягнула да зямлі, у 1910 годзе ён дэмабілізаваўся. Аднак

памяць пра добрага генерала была ў яго сэрцы да канца дзён. Перад смерцю дзед папрасіў, каб у труну да яго паклалі фотаздымак генерала.

Такім чынам, пасля арміі мой дзед працаваў на зямлі. Аднойчы на Тройцу ў Бачэйкаве ён пазнаёміўся з Марфай, 16-гадовай прыгажуняй з Сяльца. Яны пачалі сустракацца, потым пажаніліся. Марфа рана засталася без бацькі, яна была старэйшай у сваёй вялікай сям'і, і дзед Дзям'ян увесь час клапаціўся пра яе маці і сясцёр. Дзям'ян і Марфа жылі душа ў душу. Марфа гадавала дзяцей, працавала ў полі, як і ўсе жанчыны, прала, ткала, шыла, вышывала. Так і жылі на ўсім сваім, у краме нічога не куплялі.

Пасля рэвалюцыі 1917 года дзед Дзям'ян пайшоў на фронт. Там ён атрымаў кантузію і вярнуўся дадому. У іх з Марфай нарадзілася пяць дачок. Дзям'ян разумеў, якое значэнне мае прафесія і даў магчымасць атрымаць яе ўсім дзецям. Вольга стала швачкай, Марыя і Ганна - настаўніцамі, Праскоўя - поварам, а Тацццяна, мая маці - медсястрой.

Увесь род Навацкіх славіўся вялікай працавітасцю. Сам дзед Дзям'ян вельмі многа працаваў. Ён назбіраў грошы і купіў ручную малатарню "Ланц", якую выпісаў з Германіі, і веялку "Арфа". Усё гэта прывезлі ў г.Чашнікі ў 1926 годзе. Але ў 1929 г. пачалася калектывізацыя і дзеду ўсё прыйшлося аддаць: машыны, клець, хлеў, кабылу, жарабя, дзве каровы, а таксама калёсы, сані і прыгожа размаляваны вазок, на якім ездзілі ў сваты . Сям'я вельмі цяжка ўсё гэта перанесла, бо трэба было карміць пяцёра дзяцей.

Дзед Дзям'ян і бабуля Марфа сталі працаваць у калгасе. Працавалі вельмі добра. За дзень дзед скошваў траву з плошчы ў адзін гектар. Бабуля жала, вязала снапы, мяла лён. Жыццё было вельмі цяжкае, а тут зноў вайна. Памерла бабуля Марфа праз тры месяцы пасля вызвалення Беларусі, а дзед Дзям'ян памёр у 1952 г.

Калі мы з маці ідзём на могілкі ў в.Промыслы, яна паказвае мне больш дзесятка магіл нашых продкаў і расказвае пра іх. Хутка мы збяромся сям'ёй, каб адзначыць Дзень памяці продкаў - Дзяды. Лічыцца, што ў гэты дзень дух памерлых продкаў, дзядоў і прадзедаў нашых, прыходзіць да жывых. На працягу многіх год гэтае свята афіцыйна не адзначалася. Многія жылі як Іваны Бязродныя. І часта зарасталі сцежкі да магілаў родных людзей, бо ў жыццёвых клопатах людзі сталі забывацца на сваіх продкаў, на свае абавязкі перад імі. А так не павінна быць. Бо стыне памяць - стыне і сэрца. Чалавек становіцца абыякавым не толькі да памерлых продкаў, але нават да сябе самога, становіцца жорсткім, нядобрым і да маці-прыроды. Але ж чалавек - часцінка прыроды і аб гэтым павінен помніць. Няхай светлай будзе наша памяць, няхай вечна жыве ў нашых сэрцах светлы дух дзядоў і прадзедаў і няхай пральюцца светлыя слёзы. Давайце памолімся за памерлых: "Памяні, Божа, душы супачылых слугаў тваіх, дзядоў і прадзедаў нашых і даруй ім усе грахі іхныя - свядомыя і несвядомыя, прымі да сябе ў валадарства вечнае славы тваёй, бясконцага шчасця і радасці невымоўнае навекі.

Даруй, Божа, грахі ўсім прадзедам, дзядулям і бабулям нашым - усім продкам, што адышлі ў веры і надзеі на ўваскрэсенне, і ўчыні ім вечную памяць. Амінь."

**Ала АРЛОВА,**
*настаўніца беларускай мовы і літаратуры, в. Бачэйкава Бешанковіцкага раёна.*

**Я ГАНАРУСЯ СВАЁЙ ПРАБАБКАЙ**



Анастасія Сцяпанаўна з сынам Яфімам, дачкой Шурай і ўнукамі Алікам і Мішам. Фота 1945 г.

Нас у мамы з татам пяцёра. Некаторыя нашы знаёмыя і зараз не перастаюць здзіўляцца ў бацькоў: "Навошта вам так многа дзяцей? Тут з адным клопатаў хапае!" Звычайна на такія пытанні мама зусім не адказвае, або паспачувае субяседніку: "Вось таму і клопатаў у вас многа, што адно яно ў сям'і." А я ў такіх выпадках заўсёды думаю: "А ці ж нас многа? Толькі Лена з Сашам, мы з Оляй ды двухгадовы Мішутка. Не, лішніх дзяцей у нашай сям'і няма."

Мой дзядуля Яфім Парфенавіч Казлоў быў дзесятым дзіцём у свайго бацькі. І нічога страшнага! Перажыў многія хваробы, вайну, атрымаў адукацыю і больш за 30 гадоў адпрацаваў настаўнікам фізкультуры. Браты і сёстры таксама дажылі да паўналецця, вучыліся ў розных навучальных установах, мелі розныя прафесіі.

Вось я і хачу расказаць пра жанчыну, якая паставіла на ногі і вывела ў людзі дзесяць чалавек, прычым, час для гэтага быў не самы лепшы. Гэтая жанчына - дзядуліна мама, а мая прабабка Анастасія Сцяпанаўна Казлова (дзявочае прозвішча Уласава). Нарадзілася яна ў 1887 г. у працавітай сям'і. Бацька прыклаў нямала сіл, каб дзяўчынка атрымала адукацыю. Больш таго, Анастасія Сцяпанаўна стала настаўніцай і працавала ў мястэчку Мікуліна (зараз гэта вёска ў Руднянскім раёне Смаленскай вобласці).

Недалёка ад Мікуліна жыў дзядулеў бацька Парфен Яфімавіч Казлоў, чалавек багаты, але няшчасны - ён адзін выхоўваў чацвёра дзяцей. Кожную нядзелю Парфен Яфімавіч ездзіў са сваімі дзецьмі ў Мікулінскую царкву. Аднойчы на нейкае свята ў царкве было так многа людзей, што меншая дзяўчынка ад гарачыні страціла прытомнасць. Бацька яе зусім разгубіўся і не ведаў, што рабіць. Яму на дапамогу прыйшла незнаёмая дзяўчына. Дзядулеў бацька нёс на руках малую, а дзяўчына з астатнімі дзецьмі праціскалася праз людскі натоўп...

Так і адбылося знаёмства. Потым было шмат сустрэч. Парфен Яфімавіч доўга не адважваўся сказаць Насці пра свае пачуцці да яе. Быў ён і старэйшы за дзяўчыну, і ўжо меў чацвёра дзяцей. І ўсё ж каханне перамагло. Анастасія Сцяпанаўна не пабаялася выйсці замуж і з першага ж дня атуліла сіротак мацярынскай ласкай. Са школай прыйшлося развітацца - сям'я і гаспадарка забіралі ўвесь вольны час. А неўзабаве кола гісторыі закруцілася вельмі ўжо хутка -

Першая сусветная вайна, Кастрычніцкая рэвалюцыя, грамадзянская вайна...

Анастасія Сцяпанаўна цярпліва чакала мужа з ваенных дарог, умела гаспадарыла і расціла ўжо восем дзетак.

Неяк у вёску прыйшоў атрад чырвонаармейцаў, каб сабраць збожжа для гараджан. Мясцовыя жыхары адмовіліся дзяліцца прадуктамі харчавання. Больш таго, яны аказалі супраціўленне чырвоным, у выніку чаго галодныя, знясіленыя дарогай салдаты апынуліся ў палоне. Паколькі дзядулеў бацька меў моцны мураваны склеп, сяляне выраiшылі менавіта туды заперці чырвонаармейцаў, хоць Анастасія Сцяпанаўна была супраць. Наступіла ноч. У вёсцы нарэшце запанавала цішыня. Толькі прабабка не магла супакоіцца. Перад вачыма стаялі худыя, змарнелыя твары маладых салдат. І яна рашылася... Панесла чырвонаармейцам перакусіць, а потым і выпусціла іх на волю. Але колькі ж страху ёй давялося пераажыць на другі дзень! Раз'юшаныя аднавяскоўцы не хацелі слухаць ніякія апраўданні, яны нават спрабавалі падпаліць хату Анастасіі Сцяпанаўны. Тады жанчына вывела дзяцей і сказала: "Ну што ж, паліце ўсё, але і нас тады ў агонь укіньце. Усё роўна з голаду прападзём." І здрыгануліся людскія сэрцы. Прабабцы даравалі яе дзёрзкі ўчынак.

Мая прабабка Анастасія Сцяпанаўна дачакалася мужа, нарадзіла яшчэ дваіх дзетак. Большыя былі ўжо добрымі памочнікамі. Хто працаваў, хто вучыўся, дзяўчаты сталі выходзіць замуж. Калі пачалася калектывізацыя, сям'і Казловых пагражала раскулачванне. І тады на дапамогу прыйшоў былы чырвонаармеец - адзін з палонных, што сядзелі ў склепе.

Ніхто не думаў, што наперадзе яшчэ большыя выпрабаванні - Вялікая Айчынная вайна, смерць блізкіх. Два сыны і дачка Анастасіі Сцяпанаўны ваявалі на фронце, дзвюх дачок немцы хацелі вывезці ў Германію, але тым удалося ўцячы са зборнага пункта. Пасля гэтага выпадку ўся сям'я пайшла ў партызанскі атрад брыгады Пракопа Вішнёва. Анастасія Сцяпанаўна разам з усімі дзяліла нягоды партызанскага жыцця, чакала заканчэння вайны.

Пасляваеннае жыццё таксама было не цукар. Загінуў пад Беластокам 20-гадовы сын Валодзя, у 1944 г. памёр муж Анастасіі Сцяпанаўны . Жылі ў зямлянцы, у суседзяў, пакуль не пабудавалі на месцы спаленай хаты новую.

Памерла мая прабабка ў 1962 г., дачакаўшыся ўнука і ад самага малодшага сына (майго дзядулі). Я ганаруся сваёй прабабкай, хачу быць такой жа цярплівай і мужна пераносіць усё, што пасылае нам зменлівы лёс.

**Наташа КАЗЛОВА,**
*вучаніца 5 класа гімназіі, в.Якубаўшчына Лёзненскага раёна.*

**В ЗЕМЛЕ НАШИ КОРНИ**

Уходит осень. За окном последние дни ноября. Монотонно стучит за окном дождь. Стекают капельки дождя по стеклу. Холодный ветер старается сорвать с деревьев последние почерневшие листья, сломать ветви. Но сделать это не так просто. Ведь вон какое это дерево. Сколько ветвей на нем, а корни глубоко в земле. Так и род человеческий, так и мой род.

...Среди лесов и полей белорусской земли, на Лиозненщине, затерялась когда-то большая, а нынче человек на 50, деревенька Замошье. Когда-то она была расположена за большим непроходимым болотом, куда и ступить было страшно (такая была трясина) и рос там лишь мох. Отсюда и название — Замошье. На этой земле и жили мои предки по маминой линии.

Там около 150 лет назад в простой семье жил и работал на зёмле мой прапрадед Козловский Тимофей. Женился он на простой девушке Ирине, и было у них 11 детей, среди них и мой прадед Козловский Илларион Тимофеевич. Родился он в 1879 г., женился очень молодым, в 19 лет. Сосватал он себе Евдокию Анисимовну, девушку работящую и очень спокойную. В то время была она в работницах. Анисим (отец Евдокии) был большим умельцем. Делал резную мебель, умел починить заводские станки, поэтому за ним приезжали даже из Витебска.

После женитьбы Илларион сначала жил в семье отца. В то время в семье было 22 души. Для того, чтобы накормить такую семью блинами, замешивали тесто в специальных дежах (блинницах) объемом с ведро. Работали дружно и за столом, и в поле. Но хотелось самостоятельности.

Отделяясь от отца, прадед получил земли мало, так как у его отца было четверо сыновей и всего 5 десятин, да и то неудобицы. Поэтому, чтобы прокормить семью, пришлось покупать землю (9 десятин). К этому времени семья увеличилась, родились дети Дмитрий, Андрей, Петр, Ирина и Пелагея. Денег на покупку земли не хватало, поэтому пришлось одолжать у зажиточных людей под большие проценты. Для того, чтобы заработать деньги, прадед нанимался к богатым евреям из Лиозно гонять скот в Витебск. Гонял он скот вместе со своими братьями Фёдором и Михаилом. 22 года они выполняли эту работу. Первые три года они ходили пешком туда и обратно. В дорогу они брали еду и две пары лаптей, так как одних было мало. Потом, привыкнув к работе и познакомившись немного с Витебском, они стали ездить назад украдкой в основном на товарняках. Старались ездить "зайцами", чтобы сэкономить деньги. Гоняли скот два раза в неделю. Трудно представить, сколько километров прошел Илларион Тимофеевич за эти годы.

Накопив денег, он решил построить новый дом. В то время жили по хуторам. Место было очень красивое, возвышенное. Вскоре был посажен большой сад. Было много подсобных помещений. В хозяйстве имелись 4 коровы, 2 лошади, свиньи, овцы, куры.

Но вскоре случилось несчастье - сгорел дом (играя, подожгли соседские дети). Сгорело все, так как никого из взрослых не было дома. Очень помогли в беде люди. Помогали, кто чем мог - и одеждой, и хлебом. А паненка из поместья Станиславово выделила бесплатно лес на строительство дома.

Так и жил прадед, гонял скот, в свободное время работал дома и ходил по найму к панам в Станиславово и Прудище. В 1919-1920 гг. прадеда взяли в обоз. До этого времени он был неграмотным. В обозе в свободное от службы время один солдат научил его читать и писать.

Вернувшись домой, прадед стал работать на земле. В 1921 г. у него родилась дочь Варвара. Она чудом осталась живой, так как в это время почти вся семья заболела тифом. В это время остальные дети были уже взрослые и все они очень любили девочку.

Вскоре началась коллективизация. В колхоз люди шли

Много пришлось перетерпеть моей прапрабабушке Анне Гавриловне, когда в село пришли белые. Чтобы добиться от нее, где скрываются красные, ее пытали, били, таскали за косы по двору, а младшего сынишку, которому было три года, бросили в колодец. Прапрадедушка погиб на фронте в гражданскую войну и прапрабабушке пришлось одной поднимать детей на ноги. Как ни трудно было, всех вырастила, всем дала образование.

Её старший сын Кисляков Михаил Семенович - мой прадедушка. В годы гражданской войны совсем еще юным 17-летним юношей он вместе с отцом добровольно пошел на фронт защищать советскую власть. После войны он встретил девушку Аню, дочь волжского рыбака. Они поженились. Всю жизнь Аня была ему верной подругой, советчиком, хранительницей домашнего очага. Вместе они воспитали двух дочерей, которые впоследствии стали художницами (одна из них - моя бабушка).

Прадедушка Михаил работал инженером на паровозостроительном заводе. Он трудился над усовершенствованием паровых двигателей, был рационализатором и изобретателем. О нем как о молодом и талантливом инженере тогда много говорили по радио и писали в газетах. Но однажды он не пришел с работы домой. Это были годы репрессий. Его арестовали и отправили в ГУЛАГ, где он и погиб. Позднее был посмертно реабилитирован.

Мои прадедушка и прабабушка по линии деда были коренными витебчанами. Прадедушка Осмоловский Андрей Иванович работал машинистом-железнодорожником. Он женился на девушке Ефросинье из многодетной семьи, талантливой и умной. Она была хорошей портнихой или, как раньше называли, модисткой. У них был сын Леонид (мой дедушка).

Леонид Андреевич Осмоловский был участником Великой Отечественной войны. Он ушел на фронт защищать Родину от немецко-фашистских захватчиков совсем молодым. Был на передовой, ходил в разведку. За заслуги на войне имеет награды.

Вся жизнь моего дедушки была связана с кино. До войны и после нее он работал киномехаником, но его очень увлекала киносъёмка. В те годы киносъёмочная аппаратура была малодоступна и дедушка сам по собственным чертежам изготовил кинокамеру и снимал ею сюжеты о жизни Витебска и витебчан. Потом стал работать кинокорреспондентом БЕЛТА. Он был очень увлеченным человеком. Благодаря его энтузиазму и помощи была организована и открыта Витебская студия телевидения, где он, возглавляя киносъёмочную группу, проработал 25 лет. За эти годы он внес много рационализаторских предложений, снял много фильмов. Своими знаниями и опытом он охотно делился с учениками. Моего дедушку ценили как хорошего специалиста, скромного, интеллигентного, талантливого кинооператора и кинорежиссера. Он пользовался большим авторитетом у всех, кто его знал, и имел много предложений работать на больших студиях. Труд дедушки был отмечен грамотами правительства, а его имя занесено в Белорусскую энциклопедию. Дедушка умер в 1991 г.

В нашем роду было много трудолюбивых и талантливых людей. Я горжусь своими предками. Были среди них научные работники, артисты, художники, но это уже дальние родственники и я о них знаю мало.

**Альберт ОСМОЛОВСКИЙ**,
*школьник, 10 лет, г.Витебск.*




## У ліпені 1996 года ў Віцебску адчыніўся Цэнтр Абсалютнага Мастацтва.

Канцэптуальная стратэгія дзейнасці Цэнтра вынікае з сутнасці абсалютнага мастацтва. АРТ–манашая дзейнасць уладальнікаў Цэнтра адбываецца шляхам іх бясконцага растварэння ў бьщці, калі любая адзінка свету да найменшай аднолькава каштоўная.
Для арт–манаха істотнае кожнае імгненне жыцця незалежна ад канкрэтыкі зместу.
Кожная доўгатэрміновая чалавечая дзейнасць надае духоўны адбітак месцу дзеяння. Месца, у якім мы медытуем, становіцца медытатыўным. Цэнтр Абсалютнага Мастацтва – медытатыўная прастора, дзе жыццё ёсць мастацтва.
Экзістэнцыяльная маўклівасць, пануючая ў Цэнтры, не ёсць пустэча, штосьці ўяўнае. Гэта – рэальнасць, што патрапіла сюды з самых глыбінь медытатыўнага духу.
У Цэнтры адбываецца працэс жыцця, працэс медытацыі, працэс творчасці, працэс роздуму, працэс мастацтва. Прычым, коскі магчымыя толькі на паперы. Вобразна кажучы, гэта – дах для вышэйназванага адзінага працэсу.
У Цэнтры наладжваюцца выставы сучаснага найноўшага неартадаксальнага мастацтва. Мастацкі бамонд і аматары могуць ведаць пра выставы Цэнтра праз сродкі mass media або з хронікі. Іншых дачыненняў з экспазіцыяй няма.
На месцы візуальнай інфармацыі звычайнай выставы тут – своеасаблівыя "чорныя дзіркі".
Шлях стварэння зачыненых выстаў дае глядачам магчымасць вынаходніцтва ўласных бліскучых гіпотэз. Аднак у хуткім часе гіпотэзы прыпыняюцца і чалавек застаецца сам насам з невядомасцю.
Паколькі абсалют, бездакорнасць экзістэнцыяльныя, то знаходзяцца па–за межамі даследавання.
Гэтае сутыкненне з невядомасцю і адчыняе перад усімі зачынены Цэнтр Абсалютнага Мастацтва і сам абсалют. Галоўным з'яўляецца сутыкненне з феноменам невядомага. Парадаксальным чынам зачыненасць адчыненай выставы дасягае наступных мэтаў: 1. Рэцыпіент засвойвае, што першасным ёсць мастацтва, а не яго рацыянальны змест; 2. Рэцыпіент абуджаецца праз няўбачанае мастацтва.
Цэнтр Абсалютнага Мастацтва мае ўласны арт–банк. Крэатыўная сутнасць твораў найноўшага мастацтва, сабраных у арт–банку, робіць яго жывой з'явай, супрацьлеглай музейным калекцыям. Адсутнасць камерцыйнага эксплуатавання твораў паслядоўна вызваляе мастацтва і робіць яго выключна духоўнай каштоўнасцю.
Існаванне рубрыкі INFORM на старонках нашага часопіса дасць магчымасць зазірнуць у невядомае.

МАРЫНКА ВЯРЭНІЧ
Цэнтр Абсалютнага Мастацтва,
ліпень'97.




# АБСАЛЮТНАЕ МАСТАЦТВА АНДРЭЯ ВЯРЭНІЧА

Хто мы?... Адкуль і куды мы ідзем? Канец або пачатак гісторыі...
Што ёсць мастацтва ды ў чым яго актуальнасць? Абсалютная эстэтыка. Абсалютнае існаванне. Адвечныя пытанні зноў паўстаюць перад чалавецтвам. Кожная эпоха, як і кожны з нас, дае на ўсе пытанні ўласны адказ.

Мастацтва можа быць актуальным перш за ўсё пры наяўнасці безумоўнай навізны яго даследаванняў, прытым, абавязковы рэальны вынік пошукаў.

Імкнучыся не вельмі паглыбляцца ў філасофскія парадыгмы, прасочым эвалюцыю асноўных стасункаў сучаснага мастацтва актуальнай пазіцыі.

Заходнееўрапейская філасофская думка ў розныя часы шукала крытэрыі быцця, прыярытэтныя каштоўнасці або фундамент чалавечага існавання. Яшчэ Платон пабудаваў іерархію розумаспасцігальных сутнасцяў. У філасофіі ХХ ст. пачаўся прынцыповы пераход ад паняцця "жыццё" да анталогіі чалавечага быцця праз нерацыяналістычнае асэнсаванне яго гістарычнасці, часовасці ды тленнасці.

Усходнія філасофіі істотна адрозніваліся ад заходніх як колам пытанняў, так і якасна, узроўнем гуманнасці, але літаральна да пачатку ХХ ст. усе яны ігнараваліся заходнімі філосафамі як заведама ірацыянальныя. Першым, хто ў навуковай дзейнасці выкарыстаў у якасці аб'ектаў даследавання сымбалі містычных вучэнняў Усхода быў Карл Юнг.

Авангардная сучасная філасофія Захаду не абыйшлася ў сваім развіцці без уважлівага позірку ў бок усходняй філасофскай традыцыі. Бліжэй за ўсіх, напэўна, падыйшоў да яе, і ў прыватнасці да Дзэн, нямецкі філосаф–экзістэнцыяліст Марцін Хайдэгер. Ён канцэнтраваўся на асэнсаванні свабоды, для якой адчынена чалавечая істота і з якой сутнае ўпершыню з'яўляецца ў сваёй сутнасці.

Хайдэгер распрацаваў шэраг ідэяў і лічыў, што дослед існавання дасць яму разуменне сапраўднай прыроды быцця. Менавіта Хайдэгер парушыў еўрапейскую філасофскую традыцыю, лічачы, што яшчэ ад Платона ды Арыстоцеля яна з'яўляецца прагрэсуючым забыццём існавання.

Французскага філосафа Жыля Дэлеза цікавілі ўжо бінарныя апазіцыі. Насуперак арыентацыям на рацыянальны модус здаровага сэнсу, Дэлез абапіраўся ў сваёй філасофіі станаўлення на безасабовае і даіндывідуальнае поле, якое нельга вызначыць як поле свядомасці. Метафізіка і трансцэндэнтальная філасофія зыходзяцца ў разуменні адвольных адзінкавасцяў (сінгулярнасцяў) толькі як персаніфікаваных у вышэйшым Я.

Даіндывідуальныя, неасабовыя, аканцэптуальныя сінгулярнасці, па Дэлезу, караняцца ў іншай стыхіі. Гэтая стыхія мае розныя назвы – нейтральнае, праблематычнае, празмернае, абыякавае, але з адной агульнай якасцю – індыферэнтнасць у адносінах агульнага і прыватнага, асабістага і безасабовага, індывідуальнага – калектыўнага ды іншых супрацьпастаўленняў.

Першая, і, асабліва, другая сусветныя войны, фашысцкі генацыд, шматмільённыя рэпрэсіі выявілі моцны дэфіцыт гуманнасці ў самім фундаменце навукова–тэхнічнай цывілізацыі – у адносінах паміж людзьмі. Жудасныя пакуты, што прымусілі здрыгануцца ўвесь свет, перанесеныя чалавецтвам у ХХ стагоддзі, моцна паменшылі асветніцкую ўпэўненасць у непераадольнасці прагрэсіўнага руху чалавецтва адначасова з поспехамі навукі ды цывілізацыі.

Найноўшы час з яго буйным развіццём тэхнасферы прынёс боязь страты гуманістычных ідэалаў ды маральных нарматываў у сучасным грамадстве ды страх перад прыгнятаннем чалавечай індывідуальнасці будучай машыннай цывілізацыяй.

Вельмі пашырылася праблемнае поле сучаснай філасофіі на Захадзе. Ранейшыя межы апынуліся вычарпанымі, а праблемы – абвостранымі. Чалавек адчувае ўсемагутнасць прыроды і навакольнага свету. Але ніводная навука не можа ўпэўніць яго, што гэта –я го свет. Усе навукі, класіфікацыі, дэталёвыя апісанні, законы дапамагаюць толькі вызначыць феномены, але ніколькі не набліжаюць да разумення свету. У пошуках сапраўднага разумення свету авангардная філасофская думка Захаду набліжаецца ў ХХ ст. да таго, што прапаведуе Дзэн.

Дзэн – не філасофія і не містыка. Гэта шлях дасягнення поўнай рэалізацыі трансцэндэнтнай прыроды жыцця. Шлях да непасрэднага ўспрыняцця сапраўднасці. Дзэн вядзе да асаблівага стану непрадузятасці, у якім таямніца ды цуд жыцця ўспрымаюцца ў поўнай меры і непасрэдна кожным момантам існавання. Дзэн – гэта практыка перабудовы нервовай дзейнасці чалавека з мэтай аднаўлення нармальнай функцыі нервовай сістэмы з дапамогай медытацыі. Галоўная задача Дзэн – дапамагчы чалавеку зведаць сапраўднае вышэйшае прасвятленне, дасягнуць кантынууму бязмежнага кожнасекунднага шчасця. Інакш кажучы, адвечная праблема, як жыць у свеце і знаходзіць вызваленне, вырашаецца чысцінёй аб'ектыўнага ўспрыняцця гэтага ж свету. Дзэн прапаведуе ачышчэнне свядомасці шляхам вялізных духоўных намаганняў ды медытавання.

Дзэн мае надзвычайную абыякавасць да адвечных імкненняў ды амбіцый чалавека. Дзэнскі погляд на рэчы такі: усё ў свеце ў роўнай ступені святое і вылучаць той ці іншы аспект жыцця, уяўляючы яго больш важным, чым іншы, азначае ўпадаць у памылку дуалістычнага ўяўлення, якая ўводзіць ад рэальнасці. Існаванне, па Дзэну, проста рухаецца наперад. Яно здольнае памыляцца, як і абуджацца. Крызіс ды адчай – гэта толькі фазы. Час ды гадзіннік бягуць нават у самы цяжкі дзень. Тое, што існаванне не можа

не існаваць, прымусіла яго прайсці праз усе магчымыя перыпетыі ды прывяло да сучаснага.
Несумненна, яно павінна следаваць па гэтым шляху ў будучыні. Калі чалавек спасцігае гэта, ён набывае ўнутраную раўнавагу.
Дзэн вучыць : сапраўдная свабода нашага духу ў тым, каб не быць у палоне ўласнага розуму.
Чалавечая энергія – гэта проста энергія. У залежнасці ад таго, як усталяваныя трубы і на якой з іх адчынены клапаны, гэтую энергію можна з дапамогай Дзэн аднавіць у адчуванне ашаламляльнай радасці.
Дзэнскі метад вызвалення накіраваны на прарыў скрозь смуродныя кайданы жарсцяў, беспадстаўных мараў, жаданняў, страхаў ды гневу. Чалавек, які практыкуе Дзэн, даследуе сваю ўласную сапраўдную прыроду. Дзякуючы медытацыі ён набывае здольнасць утрымліваць розум у стане найбольшай абвостранасці ды сканцэнтраванасці. Паступова пачынае ўпарадкаваць дзейнасць яго свядомасці і ў выніку дасягае адзінства са знешнім светам.
Свет ды чалавек узаемна пранікаюць адзін у аднога, паміж імі ўжо няма супрацьдзеяння.
Ужо шмат часу як Дзэн выйшаў з манастыроў, стаўшы светапоглядам шмат каго з людзей і на ўсходзе, і на захадзе дзякуючы яго асаблівасці паказаць чалавеку яго ўласны ўнікальны шлях у жыцці і ў поўнай меры праяўляцца ў ім.
Прасветлены чалавек нясе іншым радасць. У сацыяльным жа аспекце зусім розныя людзі цалкам роўныя пры ўмовах аднолькавай яснасці іх свядомасці. У адносінах мастацтва Дзэн, у прыватнасці, лічыць, што яго вышэйшы ідэал – быць незалежным ад суб'ектыўнага "я".
Менавіта да Дзэн прыйшло найноўшае авангарднае мастацтва.
Сучаснае мастацтва авангарду падобна Дзэн растворана ва ўсім, у самім жыцці. Сфера мастацтва ў нашым стагоддзі неверагодна пашырылася за кошт актуалізацыі ды прыцягнення новых дасягненняў навукі ды тэхнікі. Істотныя змены адбыліся ў самасвядомасці мастакоў. Мастацкія формы часта ўжо не аддзяляюць сябе ад форм жыцця. Мастацтва ператвараецца ў лад жыцця накшталт натуральнага існавання мастацтва на золку цывілізацыі, калі яно не вылучалася ў асобную сферу дзейнасці.
I I.
Авангарднае мастацтва сёння існуе ў дзвюх варыяцыях: у гісторыі ды па–за гісторыяй. Узровень формы ў мастацтве можа адпавядаць найбольш поўнай ды глыбокай для сучаснасці эстэтычнай мадэлі свету, узроўню культуры. Такая форма займае самую актуальную пазіцыю, але толькі на пэўны час. Затым яна робіцца класікай ды адыходзіць у каталог гісторыі мастацтва, даючы месца новай актуальнасці. Такі авангард сутнасна існуе ў гісторыі, залежыць ад гісторыі ды праяўляецца ў гісторыі. Гэта – гістарычны авангард, прыкладаў якому ў гісторыі шмат. У нашым толькі стагоддзі гэта дада–аб'екты, перформансы, акцыі і шмат што яшчэ.
Акрамя таго, існуе ўзровень формы, які адпавядае абсалютнай эстэтычнай мадэлі свету. Значыць, мае ўсеабдымны глабальны сэнс. Гэтая адзіная эстэтычная канстанта змяшчае ў сабе ўсё і можа мець бясконцае мноства сваіх праяваў. Гэта і ёсць абсалютны або звышгістарычны авангард.
Форма ў мастацтве мае іерархію, вяршыняй якой з'яўляецца эстэтычны абсалют, як адпаведнасць форме абсалютнага існавання.
Абсалютнае мастацтва вырашае задачу, сходную Дзэн – дасягненне ўнутранага перамяшчэння, пераходу душы ад стану, у якім прэвалюе матэрыяльны пачатак, да духоўнага прасвятлення, зведання абсалюту.
Гэта – найбольш дэмакратычнае мастацтва, паколькі яно ўтоенае, і чалавек можа адчуць яго толькі па ўласнай волі.
Абсалютнае мастацтва ніколі не можа стаць утылітарным, затое яму ўласцівая макраўтылітарнасць. Інакш кажучы, гэтае мастацтва мае на мэце толькі кантынуум бязмежнага шчасця ды абсалютнага прасвятлення.
I I I.
У абсалютным мастацтве ёсць сфера АРТ–дзейнасці – абсалютная рытуальная дзейнасць чалавека па стварэнню духоўнага "палатна". Яе можна вызначыць як АРТ–манашую, што па–сутнасці ёсць вышэйшая эстэтычная духоўная дзейнасць.
Форма адна – эстэтычны абсалют. Але ўвасабляцца яна можа па–рознаму. У стольках варыянтах, колькі людзей будуць яе ствараць. АРТ–манах працяглы неабмежаваны час (верагодна, усё жыццё) стварае адну мастацкую форму. Усе яго творы вельмі падобныя паміж сабой і розныя адначасова. АРТ–манах не шукае. Усё, што ён жадаў і мог знайсці – ён мае, а менавіта – абсалютную форму.
АРТ–манах Андрэй Вярэніч штодня стварае рытуал – выконвае "палатно" вышэйшага духоўнага існавання, інакш кажучы – абсалютную духоўную матрыцу. Гэта бачная візуальная медытацыя ў практыцы абсалютнага мастацтва.
Існуе вышэйшая эстэтычная і фізічная адзінка – "абсалютная кропка". Яна – найбольш парадаксальная адзінка формы, у якой кадыруецца ўся інфармацыя пра ўсё і нічога.
У фізічным сэнсе "абсалютнай кропцы" ўласціва сінгулярнасць (бясконцая шчыльнасць ды нулявы аб'ём).
У эстэтычным сэнсе "абсалютная кропка" адэкватная паняццю "ўсё і нічога" адначасова.
Не спыняючыся на катэгорыі "ўсё" як досыць зразумелай, спынімся на катэгорыі "нічога". У кантэксце дадзенага даследавання правамоцна ўжыць ідэю "нічога" як нічога не дадаючага да рэальнага і нічога не аднімаючага ад яго. У псіхічным вопыце небыццё мае сэнс наша ўласнае НІЧОГА, калі мы, напрыклад, пачынаем думаць пра тое, што будзе праз 100 ці 200 гадоў. Адным з аспектаў НІЧОГА з'яўляецца менавіта

сума будучых жыццяў, якія ўжо не будуць нашым жыццём. Тое ж датычыцца мінулага.
Феномен "абсалютнай кропкі" найбольш поўна праяўляецца ў сістэме "шахматкі–растра", добра вядомай па звычайнай шахматнай дошцы. Дакладнае паходжанне шахматкі–растра невядомае. Гэта форма сустракаецца ў гісторыі чалавечай культуры з самых даўніх часоў, у самых розных народаў, але крыніцы яе губляюцца.
Андрэй Вярэніч лічыць, што гэтая ўніверсальная і самая парадаксальная эстэтычная сістэма ніколі не была прыдумана чалавекам, а існавала заўжды "растворанай" у свеце ў форме вышэйшага касмічнага закону Сусвету і была "занесена" на Зямлю ў якасці вялікага Касмічнага Коду (або Касмічнага фальклору), які нясе ў сабе бязмежны змест пра ўсё і з'яўляецца пракрыніцай фальклору ўсіх этнасаў Зямлі.
Чорныя ды белыя кропкі–знакі здзяйсняюць па сістэме шахматкі–растра бясконцы рытуал, у якім метафізічнай эстэтыцы "абсалютных кропак" парадаксальным чынам надаецца катэгорыя часу (час ёсць і яго няма), форма атрымоўваецца завершанай, але заўжды незавершанай.
Так ствараецца абсалютная эстэтычна–канцэптуальная духоўная матрыца вышэйшага існавання. Яна ёсць сутнасна і вышэйшы духоўны канон формы (іканаформы), эстэтычна–канцэптуальны духоўны універсум. Акрамя таго – візуальная медытацыя.
Вышэйшае духоўнае "палатно" стварае сутную візуальную медытацыю. У імназіраецца дзівосны візуальны эфект эстэтыкі свабоды. Гісторыя прысутнічае, але яна не мае ніякага значэння. Ёсць у "палатне" таксама адчуванне сканцэнтраванай свядомасці.
Кожная кропка "палатна" мае ўласную канфігурацыю, велічыню, націск. Яна адрозніваецца ад астатніх, але яна – кропка, як і астатнія. Бясконцы паўтор кропак у духоўным "палатне" паказвае на бясконцасць гісторыі. Мы бачым зрэз, празрыстасць якога падкрэслівае бясконцасць палатна. Кропка сама па сабе мае метафізічную сутнасць, але гэты паўтор чорных ды белых кропак паказвае на развіццё ды рух, на тое, што духоўнае "палатно", па сутнасці, ёсць дыялектычная метафізіка або метафізічная дыялектыка.
Само выкананне АРТ–манахам вышэйшай духоўнай матрыцы мае язычніцкі аспект, паколькі ў самім выкананні ўлічваецца жывое канкрэтнае датыкненне чалавека да паперы.
У той час, калі інтэлігенты і грамадскія дзеячы сур'ёзна працуюць дзеля дасягнення ўсеагульнай гармоніі ў сябе дома і ва ўсім свеце, а вытворцы працуюць дзеля павелічэння багаццяў, існаванне проста рушыцца наперад.
Андрэй Вярэніч стварае форму, якая мае функцыю псіхічнай тэрапіі, таму што яна і супакойвае, і канцэнтруе чалавечную псіхіку.
Форма дае кананічнае адчуванне – найбольш чыстае і глыбокае пачуццё, бясконцую духоўную крыніцу для чалавецтва. Невычарпальную духоўную крыніцу. Праз яе магчыма знайсці ўнутранае абнаўленне, духоўнае прасвятленне, зведаць абсалют. Хваравітыя невырашальныя праблемы чалавека – няўдалыя пошукі кораню "я", супрацьстаянне паміж людзьмі, пачуццё жыцця, як нечага нялёгкага, жудаснага, пачуццё пакінутасці – усё гэта адступае ад чалавека і некуды знікае (можа і назаўжды) пры сузіранні ім духоўнага "палатна". Абсалютнае мастацтва, у адрозненні ад так званых элітарных мастацтваў звяртаецца да ўсіх, да кожнага, а не толькі да інтэлектуалаў або мастацкай эліты.
У аспекце парадаксальнасці абсалютнай эстэтычнай формы акрамя яе найглыбейшай сэнсавасці (у той жа час утоенай) існуе таксама парадаксальная шматмернасць. Намінальная форма існуе на бязвагавым двухмерным аркушы паперы быццам бы ў адной плоскасці. Але ў ёй прысутнічаюць усе вымярэнні. Форма мае найвыразнейшую выяву кантынууму Сусвету. Яе энігматычная сутнасць праяўляецца ў наяўнасці ўласнага яе жыцця. Бо не трэба прыкладаць ніякіх намаганняў пры сузіранні духоўнага "палатна", каб убачыць як там у ім увесь час адбываюцца эксцытатыўныя змены, рух, праяўляецца і раптам знікае вясёлка, час ад часу бачны неблiскучы срэбны эфект.
Эксплікацыя тут, відавочна, немагчыма, але пералічаныя эфекты фіксуюцца як чалавечым вокам, так і відэатэхнікай.
Крыніцай натхнення для АРТ–манаха Андрэя Вярэніча з'яўляецца цішыня, якая звініць (абстрактнае псіхічнае адчуванне – НІШТО). Відавочна, гук гэты ды цішыня змяшчаюць у сабе ўсе гукі Сусвету.
Крэатыўнасць вышэйшай духоўнай матрыцы забяспечваецца, перш за ўсё, прысутнасцю жывога пачуцця ў самім АРТ–манаху. Ён здолеў неспасцігальным чынам увабраць у сябе ўвесь Сусвет і пераадолець усялякія творчыя межы.
АРТ–дзейнасць Андрэя Вярэніча – найбольш эфектыўная сублімацыя цярплівасці ды яснасці. Гэта пасведчанне ўпартага бунту супраць свайго чалавечага лёсу – ведаць свае рамкі і меру.
АРТ–манашая дзейнасць патрабуе штодзённых намаганняў, валодання самім сабой, патрабуе сілы і самаадданасці. Гэта ёсць від аскезы, у сутнасці парадаксальнай, паколькі толькі звонку існуе гэтая аскеза. На самой справе мастацтва гэтае роўна настолькі ж аскетычнае, наколькі і пачуццёвае.
Дысгармонія існавання нараджае вышэйшыя памкненні. Людзі імкнуцца дасягнуць адзінства і раўнавагі, будучы ў свядомасці ўсеабдымны адбітак свету. Але гэтай разумовай сістэмы не хапае таму, што чалавек – істота, у якой акрамя свядомасці ёсць працэс жыцця, пачуцці і дзеянні. Чалавек імкнецца да адзінства ва ўсіх сферах быцця. Таму любая прывабная сістэма арыентацыі мяркуе, каб ва ўсіх сферах чалавечых намаганняў рэалізоўваўся як інтэлект, так і пачуцці, адчуванні. У мастацтве шмат можна зразумець – адчуўшы. Вернасць мэце, якая пераўзыходзіць чалавека, з'яўляецца выразам патрэбы ў паўнаце быцця.

МАРЫНКА ВЯРЭНІЧ
1997г .




# АРТ-КНІГА Ў ПОЛАЦКУ

У сучасным свеце кампутар выкарыстоўваюць прадстаўнікі самых розных відаў мастацтва. Беларусь у гэтым адстае, што, відавочна, абумоўлена не вельмі развітай у нас кампутарнай культурай. І трошкі крыўдна, што толькі зараз дарослыя людзі ўпершыню знаёмяцца са з'явай мастацтва АРТ–кнігі, якой ужо амаль 40 год...

У канцы пяцідзесятых у Амерыцы і Еўропе, пачаўшыся ад канкрэтнай паэзіі, АРТ–кніга сублімавалася з хэпенінгаў і АРТ–дзеяў. Канкрэтная паэзія канструюе моўныя знакі ў гукавым або візуальным аспекце. Тэкст атрымліваецца візуальным аб'ектам. Гэта ўжо па сутнасці адпавядае АРТ– кнізе.

У дачыненні да каранёў з'явы трэба дадаць, што яшчэ ў 1916 годзе расейскі паэт Велямір Хлебнікаў ствараў паэзію, цалкам адпаведную дэфініцыі паэзіі канкрэтнай.

Летам 1996 года польская мастачка і даследчыца мастацтва Ніна Дунін надрукавала нарыс пра мастацтва АРТ–кнігі ў сучасным яго стане: "...Шматлікія формы АРТ–кнігі перашкаджаюць зрабіць тыпалогію гэтай з'явы і вызначыць, чым яна ў сапраўднасці з'яўляецца. Кожны новы аб'ект, які ўзнікае пасля вызначэння галоўных тыпаў АРТ–кнігі можа парваць ужо сфармуляваныя тыпалагічныя рамкі.

Сярод АРТ–кніг мы можам знайсці наступныя катэгорыі:
– канцэптуальныя кнігі, якія з'яўляюцца ўвасабленнем твора самога ў сабе;
– мінімалісцкія кнігі, у якіх аўтары развіваюць розныя структурныя і мастацкія варыянты, звязаныя з формай кнігі;
– кнігі знакаў з мастацкай экспрэсіяй, якія змяшчаюць канкрэтную паэзію;
– гукавыя кнігі (яны даюць магчымасць здабываць з іх розныя гукі);
– кнігі пра кнігі;
– прасторавыя кнігі (да іх належаць розныя памяшканні; кнігай тут з'яўляецца прастора);
– метафарычныя кнігі (напрыклад, кнігі жыцця, кнігі сусвету, кнігі добрых чалавечых учынкаў);
– адчыненыя кнігі, якія рэгіструюць кожны момант навакольнага асяроддзя;
– кнігі, якія з'яўляюцца намёкам на філасофскі трактат;
– кнігі–калейдаскопы, якія даюць магчымасць шукаць колеры і празрыстасці;
– кнігі–лісты (вяртанне да эстэтыкі ручнога пісьма);
– кнігі–інтэлектуальныя шарады;
– забаўныя кнігі;
– кнігі для маніпулявання, якія адчыняюць свой сэнс у руцэ "чытача";
– кнігі–паразіты (іх аўтары выкарыстоўваюць кнігі, купленыя на кніжным рынку для стварэння сваіх кніг);
– кнігі–стужкі (інспіраваныя мастацтвам тэйп–арта);
– кнігі–трубы (праз якія могуць праплываць розныя думкі, ідэі, імпульсы);
– кнігі–пучкі (сімвалы мастацкай энергіі, накшталт пучкоў сонечнай энергіі)." *

Падчас II Міжнароднага біенале АРТ–кнігі ў Полацку (снежань–студзень 1996– 97 гг.) вышэйназваная тыпалогія ўзбагацілася новымі адзінкамі.

Андрэй Вярэніч паказаў на выставе складзеныя накшталт старонак кніг аркушы "духоўнага палатна", выкананага з чорна–белых кропак па сістэме шахматкі– растра. Атрымаліся адначасова новы шлях экспанавання "духоўнага палатна" і АРТ–кніга з невымяральным абсалютным зместам.

Аўтар гэтых радкоў экспанавала ў якасці АРТ–кнігі энцэфалаграму, запісаную ў момант медытацыі.

Ідэя АРТ–кнігі ўнікальная магутнасцю стваральнай моцы. Тут да месца хіба толькі параўнанне з ланцуговай рэакцыяй у свеце фізікі, бо мастацтва АРТ– кнігі робіцца тым больш змястоўным, чым больш творцаў далучаюцца да яго. Гэта значыць, што мае месца невычарпальная з'ява, стрыжнем якой застаецца намёк на ідэю кнігі.

Дамінантай з'явы АРТ–кнігі бачыцца акрамя аўтэнтычнай пластычнай мовы кожнага творцы яшчэ і неверагодная колькасць камбінацый "кніга–чытач". У літаратурнай кнізе (няхай не крыўдзяцца спадары літаратары) вопыт, атрыманы чытачом, з'яўляецца вопытам аўтара. Для чытача ён – сурагат, веды, здабытыя іншым чалавекам.

АРТ–кніга, дзякуючы сваёй мастацкай мове, дае ўзбагачэнне ўласнага вопыту глядача не праз накапленне фактаў з чужога вопыту. Менавіта ўласнае пачуццё пранікае ў іншую культуру мыслення.

Энергапатэнцыял творцы патрабуе пашырэння тэрыторыі мастацтва, імкнецца да выхаду. У наш час празаічныя і паэтычныя літаратурныя штампы пачалі быццам гумкай выціраць час жыцця вялікай колькасці людзей. Кнігі перасталі вучыць думаць, памяць паступова ператварылася ў каталог чужых думак. Найкаштоўнейшы здабытак чалавецтва – кніга – праз стэрэатыпы і шаблоны зместу згубіла значную частку сваёй духоўнасці.

Найноўшае мастацтва як вялікі нігіліст папярэдняй культуры выправіла сітуацыю, адкінуўшы каштоўнасць зместу і надаўшы прэрагатыўную каштоўнасць з'яве, шматкратна пашырыўшы яе змест. Гэтая інтэлектуальная мастацкая гульня правакуе эмпатыю глядача і бесперапынна імкнецца рушыць некалі знойдзеныя прыёмы.

Грандыёзная колькасць удзельнікаў II Міжнароднага біенале АРТ–кнігі ў Полацку (а іх было 119 чалавек, якія прадстаўлялі Польшчу, Літву, Францыю, Расею, ЗША, Ізраіль, ФРГ, Галандыю, Італію, Англію, Японію,

Югаславію) не ўтрымлівала ў сабе запрошаных беларускіх мастакоў канцэптуальнага накірунку. Шкада. Бо Полацк на гэты раз меў не цяперашні правінцыйны статус, а менавіта свой адвечны статус культурнага і духоўнага цэнтра Еўропы.

Дзіцячая ды студэнцкая аўдыторыя глядачоў успрыняла АРТ–кнігу як тое і павінна быць – былі створаны ўласныя АРТ–кніжкі. Гэта значыць, ідэя знайшла водгук і на нашай зямлі.

** Нина Дунин. Артистическая книга. Варшава, 1996.*

МАРЫНКА ВЯРЭНІЧ



Леапольд Дэ–Ка
Нью–Ёрк



Грацэ Кольч
Нью–Ёрк



Арт–кніга ў Полацку




# УТОЕНАЯ ФОРМА АБСАЛЮТНАГА МАСТАЦТВА

Абсалютнае мастацтва засноўваецца на судачыненні чалавека і Сусвету, у якім кожнае імгненне быцця і небыцця аднолькава значнае. Узаемасувязь паміж духоўным і біялагічным жыццём чалавека ўсталёўваецца праз раўнавагу рацыянальных ды ірацыянальных момантаў. Сузіранне, заснаванае хутчэй на пачуцці, не зводзіцца да проста мыслення.

Багацце і разнастайнасць зместу Сусвету ў колькі заўгодна шматлікіх мастацкіх вобразах недасягальнае для поўнага і аб'ектыўнага ахопу адным чалавекам за адно жыццё. Дзяленне свету на асобныя вобразы – ненатуральнае для абсалютнага мастацтва, паколькі цэласнасць вобраза свету не павінна парушыцца. Эстэтыка абсалюту пабуджае АРТ–манаха спрэсаваць усю даўжыню свайго жыцця, як і любую іншую з'яву, у бясконца малую бясплотную духоўную кропку.

Феномен "абсалютнай кропкі" найбольш поўна праяўляецца ў сістэме "шахматка–растр". У гэтай сістэме чорныя і белыя кропкі–знакі выконваюць рытуал, ствараючы духоўнае палатно вышэйшага духоўнага існавання. Гэта – візуалізацыя вышэйшага духоўнага пачуцця.

Псіхалагічна такія адносіны да сусвету парадаксальныя і палярна дваістыя. З аднаго боку гэта – максімальна спрэсаваны ў мінімальную адзінку час жыцця, з другога – роўна найглыбейшая ўвага да ўсяго ў Сусвеце і за яго межамі. Творчасць АРТ–манаха носіць надбіяграфічны і, відавочна, па–за індывідуальны характар.

Спецыфіка эстэтыкі абсалюту не можа быць спасцігнута выключна рацыянальным шляхам і патрабуе пэўнага суперажывання. У глядача мяркуецца наяўнасць духоўнага вопыту, які ў аснове сваёй ідэнтычны эстэтыцы абсалюту. Гэта – жывое ўспрыняцце жыцця, дадзенае першапачаткова прыродай амаль усім нам і часта губляемае на жыццёвым шляху ў выніку звыклай стомленасці або страты жыццёвай актыўнасці.

Але нават такая візуальна поўная форма абсалютнага мастацтва, калі сублімаваная сінгулярная кропка ахоплівае бясконцасць быцця і небыцця, мае істотнае абмежаванне. Паколькі яна абмяжоўваецца канкрэтным часам жыцця АРТ–манаха, то мае ў канчатковым выніку лічаную колькасць візуальных кропак. Мноства, якое паддаецца падліку, ужо не можа прэтэндаваць на адэкватнасць незлічоным бясконцым велічыням. Таму наступнай, больш высокай формай абсалютнага мастацтва бачыцца ў іерархіі формы ўтоеная яго форма.

Апеляванне да саўдзелу і суперажывання тлумачыць прысутнасць дылемы: паказ на выставах утоенай формы абсалютнага мастацтва. Але тлумачэнне сутнасці паняцця АРТ–манашай дзейнасці не зводзіцца да яе трактоўкі як пасрэдніцкай, праваднікова паміж абсалютам і людзьмі дзейнасці. АРТ–манаха галоўным чынам цікавіць уласна феномен абсалюту.

Аўтар мастацкага твора часта падвяргаецца спакусе апісаць уласны вопыт, не ўсведамляючы пры гэтым уздзеяння пабочных дамешкаў, вонкавых павеваў свайго часу. У выніку атрымліваецца сінтэзаваны вобраз, залежны ад мноства прыватнасцяў, другасны ў адносінах да аўтэнтычнасці.

Утоеная форма абсалютнага мастацтва абараняе яго ад прыватнасцяў. Суперажываючы абсалютную эстэтыку, чалавек робіць спробу рацыяналізавацца і растлумачыць адчутае ім. У кожнага з'яўляецца ўласная фармулёўка, у роўнай ступені паралельная існаванню эстэтыкі абсалюту і не маючая ўзаемадзеяння з ёй. Абсалютнае мастацтва, такім чынам, у сваёй утоенай форме з'яўляецца тым унікальным матэрыялам, які належыць роўна ўсім і нікому і перад якім усе мы абсалютна роўныя.

Праяўляецца абсалютнае мастацтва ў практыцы маральных самазаваёваў свабоднага прасветленага шчаслівага чалавека. Іншымі словамі, абсалютнае мастацтва можа суперажывацца глыбокім пачуццём у любым сэрцы пры ўмове развітай духоўнасці чалавека і як вынік творчага светаадчування.

У аснове светапогляду мысляроў і мастакоў старажытнага Кітая было ўяўленне пра адзіную першааснову ўсёй шматлікасці фенаменальнага быцця. Гэта не маючая формы і не вызначаемая словамі першааснова (Дао) разумелася як пустэча, якая ў той жа час перапоўнена патэнцыяльным зместам і невычэрпальная ў сваёй творчасці жыцця. "Дао туманнае і нявызначанае" – вучыць Лао–цзы. Аднак у яго туманнасці і нявызначанасці змяшчаюцца вобразы і схаваныя рэчы.

АРТ–манах мае ў сабе вышэйшае духоўнае пачуццё, найбольш абвостранае ў момант поўнай канцэнтрацыі чыстай свядомасці. Адсутнічаючая прысутнасць не носіць чыста трансцэндэнтнага характару. Ачышчэнне свядомасці дасягаецца шляхам духоўнага намагання над сабой. Чалавек дасягае самога сябе, канцэнтруючы ў сабе Сусвет. Усё раз'яднанае, аўтаномнае і непаракрыжоўваемае ў сусвеце перакрыжоўваецца і акумулюецца ў АРТ– манаху. Аднак, вопыт даказвае, што каласальная самаканцэнтрацыя і засяроджанне ў сабе магчымыя і спантанна. Ужо ў раннім узросце адораныя асобы здольныя глыбока вызваляцца ад вонкавай залежнасці, дасягаць, вобразна кажучы, уласнага ядра, нават не падазраючы пры гэтым пра існаванне самога паняцця медытацыі.

Акт абсалютнага мастацтва адбываецца ў АРТ–манаху і можа выяўляцца па меншай меры дваіста: або ў форме дастаткова працяглай медытацыі, або як імгненнае прасвятленне. Акт медытацыі выступае тут як своеасаблівы тунэль або мост, які праводзіць абсалютнае пачуццё да нервовых канчаткаў чалавека.

Абсалютнае мастацтва існуе і растворыным у самім жыцці. Жыццё дадзена нам у пачуццёвых вобразах і нашы пачуцці ўзаемадзейнічаюць з абсалютам як з самім жыццём.

Штодзённа з дапамогай друкаванага адбітка фіксуецца акт абсалютнага мастацтва. Адбітак з'яўляецца элементарным дакументам з канкрэтнай датай, надзвычай аскетычным па выяўленчых сродках.

Дакумент толькі апасродкавана фіксуе абсалютнае мастацтва і напрасткі – момант часу.
Як сукупнасць дакументаў гэтае поле адбіткаў складае АРТ–банк дакументаў і знаходзіцца ў рамках гістарычнага авангарда. Але само абсалютнае мастацтва не можа мець і не мае стылёвых дэфініцый і знаходзіцца па–за жанрам. Абсалют змяшчае ў сабе ўсе формы духоўнай дзейнасці чалавека і распаўсюджваецца значна шырэй іх.
Сучаснасць уносіць карэкціроўку ў традыцыі суадносна найноўшым адкрыццям у розных галінах ведаў. У наш час пагоня за тэхнічнымі дасягненнямі адцягнула ўвагу ад самой крыніцы ўсіх адкрыццяў і ідэй – ад уласна чалавека. Усеагульная ўвага накіравана на сенсацыйныя адкрыцці.
У такіх умовах матыў стварэння ўтоенай формы абсалютнага мастацтва з'яўляецца прарывам у будучыя актуальнасці. Нават не механікай самога рытуалу, але акцэнтаваннем галоўнасці і першаснасці чалавечага духу, свабоднага ад апазіцыйнасці да навакольнага асяроддзя. Праз абсалютнае мастацтва адбываецца ўзаемаатаясамліванне чалавека і свету. Чалавек знаходзіць гармонію.
Крыніцай натхнення для АРТ–манаха з'яўляецца цішыня. Утоеная форма абсалютнага мастацтва ўтрымлівае ў сабе Вялікую цішыню.
Чалавек разумны ўсведамляе сябе і астатніх разрозненымі асобамі. Жыццё ўсё часцей здаецца яму безнадзейным. Панічна баючыся смерці, ён усё часцей з жарсцю жадае смерці як пазбаўлення. Адзінота і супрацьстаянне да рэшты атручваюць яго жыццё. Уласныя духоўныя намаганні ў стане прымірыць яго з сабою і вызваліць ад пакутаў.
Вялікая цішыня ўтоенага абсалютнага мастацтва дасылае выклік палоннаму сацыяльным выхаваннем розуму кожнага з нас. Татальны эстэтычны антынігілізм абсалютнага мастацтва асенізуе свядомасць. Разам з тым абсалютнае мастацтва пазбаўлена спажывецкай формы. Яго аптымізм з'яўляецца супрацьлегласцю палітызаваным сацыяльным формам мастацтва. Свабоднае ад дыдактыкі і прапаганды сутнасна яно крэатыўнае і не жадае нічога распінаць.
Накіраванасць абсалют–арта – у ідэальнае. Але без настальгіі па часах недасягальнага ідэала дзяцінства чалавецтва. І нават без веры ў светлае заўтра. Абсалютнае мастацтва прапаведуе жыццё з кожнахвіліннай каштоўнасцю. Каштоўнасцю кожнай хвіліны. Каштоўнасцю гэтай хвіліны.
Абсалютнае мастацтва іманентна ўтрымлівае ў сабе паняцце ідэальнага чалавека, які жыве ў гармоніі з сабой і навакольным светам. Пошук гэтай гармоніі актуальны заўжды, са старажытнасці да сённяшняга дня. Актуальнасць абсалютнага мастацтва, такім чынам, бачыцца вечнай актуальнасцю.
Разам з тым канцэпцыя абсалют–арта – прынцыпова новая, вызваленая ад катэгорыі ўласна эстэтычнага. Фармальныя, тэхнічныя крытэрыі, якія вызначаюць жанр, адсутнічаюць і не могуць з'явіцца. Выяўленчыя сродкі надзвычай скупыя зусім не з–за раўнадушша да глядача. Яны мінімальныя, каб пазбегнуць разбурэння натуральнай структуры шляхам выхоплівання асобных звенняў быцця і падкрэсліць тое, што першасным з'яўляецца менавіта абсалютнае мастацтва, а не яго дакумент.
Пластычная форма абсалютнага мастацтва мае максімальны сэнсавы і эстэтычны дыяпазон. АРТ–манах не спрабуе сцвярджаць сваю самабытнасць і не задумваецца аб спосабах выказвання сваёй індывідуальнасці. Але ў абсалютным мастацтве няма пры гэтым бязасабовасці. Індывідуальнасць у абсалютным мастацтве ператвараецца, як і ўсё астатняе, у абсалют і праяўляецца праз абсалют.
Рэалізм АРТ–манаха чысты і голы, без тоўстага слою пылу выдумкі над рэальнасцю. Чысты духоўны феномен абсалютнага мастацтва – гэта не толькі духоўная рэальнасць. У ім адлюстравалася сакральная вера АРТ–манаха ў магчымасць разумення людзьмі гармоніі свету і жыцця ў згодзе з ім. АРТ– манах, які жыве ў момант духоўнага прасвятлення, лечыць і ўдасканальвае сябе. Яго жыццё праходзіць удалечыні ад вулканаў свецкай сучаснасці. Яго духоўны абертон – адасабленне. Сутнасць жыцця – спасціжэнне абсалюту.
Даць дакладную эксплікацыю арт–манашай дзейнасці складана з–за яе неадназначнага характару ўзаемаадносінаў з людзьмі. Тут маюцца як бы тры ступені. У пэўны момант АРТ–манах мае стасункі з людзьмі праз дэманстрацыю ім дакументаў–актаў абсалютнага мастацтва ва ўтоенай форме. Пры гэтым АРТ– манах толькі называе феномен, але не паказвае яго. Мова абсалютнага мастацтва – яго маўчанне. Паказ арт–банка актаў абсалютнага мастацтва не мае ў сабе мэты ў чым–небудзь дапамагаць глядачу. Але абсалютнае мастацтва ме іманентную ўласцівасць канцэнтраваць і супакойваць чалавечую псіхіку.
На другім узроўні АРТ–манашай дзейнасці стасункаў з глядачамі амаль няма, арт–банк дакументаў ім не дэманструецца. Праўда, яны могуць ведаць пра факты існавання актаў абсалютнага мастацтва са сродкаў mass media. Страта ўдзелу глядачоў параўноваецца са змоўкшымі словамі кахання.
На вышэйшым узроўні дзейнасці АРТ–манах не дапускае ўвогуле нікога ў веданне фактычнага яе існавання. Зачараваны таямнічасцю абсалюта, АРТ– манах паглынаецца ім і застаецца з ім сам насам. АРТ–манах, сублімаваўшы ў сабе сусветны абсалют, растварае ў сабе ўвесь свет. Незваротна абсалют паглынае АРТ–манаха, і, у сваю чаргу, растварае яго ў сабе.
Такім чынам, глыбокі эмпірычны кантакт з глядачом характэрны толькі для нязначнай часткі дзейнасці АРТ–манаха. Глыбокае адасабленне і адсутнасць кантактаў з'яўляюцца найбольш арганічнымі для гэтай дзейнасці. АРТ–манах сам насам з абсалютным мастацтвам – такая сітуацыя самая натуральная для яго.
У рытуальнай арт–дзейнасці ёсць і праява рэлігійнай традыцыі, і пераадольванне яе. Праява – перш за ўсё ў нязменнасці рытуала служэння вышэйшаму духоўнаму. Пераадольванне – у пошуках свабоды, у звяртанні да вышэйшага духоўнага пачуцця напрасткі, без пасрэднікаў.

МАРЫНКА ВЯРЭНІЧ

*травень '97, Віцебск*




# СКУЛЬПТАР І МУЛЯР НА ВЯТРАХ ВАНДРОВАК...

"Мая праца не містычная і не рамантычная. Яна – лагічная. Гэта логіка вобразаў, непарушны ланцуг ідэяў."
Томек Кавяк добра ведае і ясна бачыць, чаго ён хоча. Для яго мастацтва – гэта лад жыцця, сапраўдны і непадзельны тэатр, дзе кожнай асобе адпавядае ўласная выразнасць, цалкам разнастайная. Пасля эміграцыі з Польшчы ў Парыж у 1970 г. Томек Кавяк хутка зрабіў сабе імя як скульптар цэглы, мадулёр элементаў, жыццё якіх экзістэнцыяльна ўніверсальнае. Яго цагліны – гэта канцэпцыя дасаднай задумы, прынцыпу. У сваёй скульптуры ён забаўляецца з цаглінамі ў любых магчымых варыянтах: ён хавае іх у кішэні, губляе іх, знаходзіць, арганізоўвае з іх элементы ненаўмыснай архітэктуры і гэтак далей. Не задаволіўшыся вырабам цэглы з натуральнай гліны і яе звычайнай апрацоўкай, Кавяк адлівае цэглу з бронзы, штампуе на ёй сваё імя або высесвае з мармуру. Усе праблемы, з якімі ён мае справу, датычацца яго цэглы, яго кішэні ды гумару. (Па–французску на жаргоне цэгла – "brigue" – азначае мільён старых франкаў, але роднасць гэтых аб'ектаў не заўжды бывае лагічнай). Логіка перамагае ў Кавяка ў стасунках скульптуры. Ён стварае скульптуру і падарожжа. Можна сказаць, што мастак – вялікі падарожнік вакол сваёй майстэрні ды свайго пакою ў Абсалютна НЕ! Пакой Томека Кавяка і яго майстэрня адчыненыя ў свет вакол нас і планету з імем Зямля.

Скульптар не забыўся пра галоўную мэту цэглы – муравальне ды будаўніцтва. Пераўтварыўшыся у муляра, ён дасылае сваю цэглу ва ўвесь свет, разгортвае свой фецішь, выбіраючы для гэтага акта найлепшыя сымбалічныя месцы. Такім чынам яго філасофія падарожжа выяўляецца ў жэстах і рухах, якія ў розных шыротах і даўготах набываюць сапраўдную каштоўнасць у часе, космасе, сітуацыі, акце, свядомасці.

Першае дзеянне гэтага скульптара–муляра – у аддрукоўцы цэглы як не–элемента дома. Гэтае ўмяшальніцтва паказвае пачуццё еднасці мастака з працэсам вызвалення архітэктуры.

У Еўропе цэглу абпальваюць, у Афрыцы – зямлі глінабітнай –не абпальваюць. Падарожжа – таксама шлях, каб адыйсці ад адной меры ненадзейнасці існавання больш рашуча: не–быцця быцця.

Падчас сваіх падарожжаў Томек Кавяк не вагаецца, ці пакідаць сваю цэглу людзям, з якімі ён сустракаецца. За імі выбар, як выкарыстаць атрыманы аб'ект (выпадкова або з мэтай), як яны самі жадаюць.

Але цэгла – не толькі пасіўная адзінка выпадку. Томек Кавяк таксама стасуе яе як трафей, як ахвяру. Ён горача кладзе яе на алтары, у азіяцкіх храмах, каля Будды. Будда заўжды пільна глядзіць у бясконцы свет, бачыць незнаёмыя рэчы, але недастаткова добра ставіцца да чалавечых ахвяр незалежна ад таго, наколькі мінімальна або канцэптуальна могуць яны з'яўляцца поўнымі пашаны. Нарэшце, "цэгла" на французскім жаргоне азначае мільён франкаў. Цэгла Кавяка вельмі натуральна стала валютай і абменьваецца, калі здараецца зручны выпадак.

Вось ясная панарама інтэрактыўнага падарожжа цэглы, скульптурнага элемента ды аб'екта вандроўкі. Мастацтва ды падарожжа выдатна аб'ядналіся ў мову чалавечых адносінаў. На гэтым шляху Томек Кавяк аб'яднаны з вялікай сям'ёй турыстаў–паэтаў непрадбачнай рэальнасці, раскіданай па ўсім свеце.

Тэма не вычарпаная, але гэта не істотна. Пластыка скульптуры Томека Кавяка вельмі моцная, тое глыбокае эха вечнага вандравання, чые мадуляцыі надаюць нашаму існаму гуманізму слабы і неабходны колер надзеі.

П'ЕР РЭСТАНІ.
*Пераклад з ангельскай Марынкі Вярэніч.*

P.S.
*Праз нявялікі час пасля адкрыцця ў Віцебску Цэнтра Абсалютнага Мастацтва ў ім прайшла зачыненая выстава ЦЭГЛЫ Томека Кавяка. Гэтая зробленая з тэракоты цагліна з наштампаваным імем аўтара мае памер 10х20х3 см. Першая цагліна з'явілася ў Францыі ў 1976 годзе. Тузіны цаглінаў Кавяка раскіданыя па ўсім свеце. Падчас падарожжаў ён дорыць або гандлюе імі. Цэгла Томека існуе ў Еўропе, Паўднёвай і Паўночнай Амерыцы, Афрыцы, Азіі, на Блізкім Усходзе, на астравах – зараз і ў нас, на Беларусі. Фотаздымкі адлюстроўваюць акцыі і вандроўкі. Месцы, куды Кавяк ставіць цагліны – невыпадковыя, гэта – яго ўласныя інтэлектуальныя арыенціры. На пытанне, што можна рабіць з цэглай, Томек Кавяк адказвае: "Вы можаце – высылаць іх, – рабіць падарункамі, – паказваць іх, –абменьваць на нешта іншае, – пабудаваць з іх жытло, – вандраваць з імі, – і гэтак далей. Выраб і размяшчэнне маіх цаглін – гэта стварэнне бездакорнага мастацтва разам з прыняццем старадаўняй спадчыны. Гэта – акт чыстай творчасці."*

МАРЫНКА ВЯРЭНІЧ.




Гістарычны зборнік ***"Браслаўскія сшыткі"*** выдаецца Браслаўскімі музейным аб'яднаннем і краязнаўчым таварыствам пры ўдзеле культурна-асветніцкага цэнтра імя Язэпа Драздовіча ў м.Германавічы. Змястоўныя матэрыялы зборніка прысвечаны гісторыі і культуры Браслаўшчыны. Тэл.: (8-02153) 21-4-45.




Выйшла другая кніжка літаратурна-мастацкага альманаха ***"Край"***, які выдаецца Полацка-Глыбоцкай філіяй Саюза беларускіх пісьменнікаў і галерэяй "Рыса"(Полацк). На старонках альманаха змешчаны творы мясцовых аўтараў пра свой край, яго гісторыю і сучаснасць, пераклады твораў польскіх літаратараў, агляд літаратурнага мацерыка Прыдзвіння і інш. матэрыялы. Тэл.: (8-02144) 2-96-51; 5-07-78; 9-27-45.




З друку выйшаў трэці нумар гісторыка-публіцыстычнага часопіса ***"Мишпоха"*** ("Сям'я"). Нумар складаюць разнастайныя артыкулы па гісторыі і культуры яўрэяў Беларусі, аб генацыдзе яўрэйскага народа падчас вайны 1941-1945 гг., аб жыцці выдатных асобаў, лёс якіх звязаны з Віцебскам і Беларуссю. Пад рубрыкай "Мастак з Віцебска" змешчаны шэраг матэрыялаў, прысвечаных 110-годдзю з дня нараджэння М.Шагала. У часопісе друкуюцца аб'явы аб пошуку родных. Тэл.: (8-0212) 36-68-72.




Віцебскі дзяржуніверсітэт з 1996 г. пачаў выдаваць штоквартальнік ***"Веснік Віцебскага дзяржаўнага універсітэта"***, у якім змяшчаюцца артыкулы выкладчыкаў універсітэта і навукоўцаў іншых устаноў па розных галінах навукі, а таксама хроніка і навіны жыцця універсітэта. Тэл.: (8-0212) 25-31-20.




На старонках інфармацыйна-аналітычнага і культуралагічнага бюлетэня Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў і Беларускага таварыства дружбы і культурных сувязей з зарубежным краінамі ***"Кантакты і дыялогі"*** змяшчаюцца даследаванні беларускіх і замежных вучоных па пытаннях беларусазнаўства, звесткі пра дзейнасць Беларускага таварыства дружбы, рэцэнзіі на новыя выданні, бібліяграфія пра кантакты ў Беларусі і ў свеце, паведамленні пра маючыя адбыцца навуковыя канферэнцыі і шмат іншай цікавай і карыснай інфармацыі. Тэл.: (8-0172) 220-93-50.




***Зборнік выступленняў на навуковай канферэнцыі, прысвечанай 75-годдзю Віцебскай мастацкай школы. Віцебск, 1994.***
Віцебскія абласны краязнаўчы і мастацкі музеі выдалі зборнік матэрыялаў канферэнцыі, прысвечанай 75-годдзю Віцебскай мастацкай школы, якая праходзіла 6-8 красавіка 1994 г. у Віцебску. У дакладах навукоўцаў з Віцебска, Мінска, Масквы і С.-Пецярбурга асвятляюцца старонкі гісторыі мастацкай школы, славутай імёнамі М.Шагала, К.Малевіча, Ю.Пэна, Э.Лісіцкага і інш., а таксама пытанні мастацкага жыцця Беларусі і Расіі канца XIX — XX стст. Тэл.: (8-0212) 36-94-06.




***Шагаловский сборник. Витебск, 1996.***
Зборнік складаюць даклады даследчыкаў з розных краін свету, якія прагучалі на Шагалаўскіх чытаннях у Віцебску за пяць гадоў іх правядзення (1991-1995) і ў якіх асвятляюцца розныя бакі жыцця і творчасці Майстра, мастацкай і яўрэйскай культуры яго часу. У зборнік таксама ўвайшлі матэрыялы, якія асвятляюць дзейнасць Шагалаўскага камітэта па вяртанні і ўшанаванні імя мастака на Радзіме. Рэдактар-складальнік зборніка — старшыня Шагалаўскага камітэта, лаўрэат Шагалаўскай прэміі, паэт Давід Сімановіч. Тэл.: (8-0212) 36-47-85.




***Малевич. Классический авангард. Витебск. Витебск, 1997.***
У зборніку змешчаны матэрыялы тэарэтычных канферэнцый 1-га і 2-га Міжнародных пленэраў “Малевич. УНОВИС. Современность”, якія праводзіліся ў Віцебску ў 1994 і 1996 гг. Укладальнік і рэдактар зборніка — Таццяна Катовіч.

***Рывкин М., Шульман А. Породненные войной. Витебск, 1997.***
***Рыжик Р. Спаси и помилуй. Витебск, 1997.***
***Запоздалое признание : Очерки. Витебск, 1997.***




Беларускае аб’яднанне яўрэйскіх абшчын і арганізацый выдала тры кнігі, у якіх змешчаны нарысы на розныя тэмы : аб людзях, якія ў гады вайны 1941-1945 гг. выратоўвалі яўрэяў ад фашысцкага генацыду; аб мастаку Хаіме Ліўшыцу; аб паэце Ігары Шнеерсоне-Паглазаве; успаміны Р.Рыжык. Агульнае рэдагаванне — А.Шульмана. Тэл.: (8-0212) 36-68-72.






## МУЗЕІ ВІЦЕБСКА

*Віцебскі абласны краязнаўчы музей.* Адрас : вул. Леніна, 36. Тэл. 36-05-87.

*Віцебскі мастацкі музей.* Адрас : вул. Леніна, 32. Тэл. 36-22-31; 36-54-06.

*Музей-сядзіба І.Я.Рэпіна "Здраўнёва".* Знаходзіцца ў 16 кіламетрах на поўнач ад Віцебска і ў 2 кіламетрах ад трасы "Мінск-С.Пецярбург" (арыенцір — пасёлак Руба). Тэл. 91-56-73.

*Музей Марка Шагала.* Адрас : вул. Пакроўская, 11. Тэл. 36-03-87.

*Музей прыватных калекцый.* Адрас : вул. 1-ая Даватара, 26. Тэл. 37-22-69.

*Музей літаратуры.* Адрас : пр. Фрунзе, 13. Тэл. 37-05-89.

*Музей гісторыі віцебскага трамвая.* Адрас : вул. 5-ая Фрунзе, 7.

*Музей Міная Філіпавіча Шмырова.* Адрас : вул. Чэхава, 4. Тэл. 36-69-54.

*Музей воінаў-інтэрнацыяналістаў.* Адрас: вул. Воінаў-інтэрнацыяналістаў, 20. Тэл. 96-36-18.

*Музей гісторыі акадэміі ветэрынарнай медыцыны.* Адрас : вул. 1-ая Даватара, 7/11. Тэл. 37-07-26.

## ВЫСТАВАЧНЫЯ ЗАЛЫ ВІЦЕБСКА

*Выставачная зала Віцебскага мастацкага музея.* Творы жывапісу, графікі, скульптуры, дэкатарыйна-ўжытковага мастацтва мастакоў Беларусі, Расіі, Украіны, Швейцарыі, Германіі, Японіі, Кітая,Ізраіля, ЗША, Англіі і інш. краін. Адрас: вул. Леніна, 32. Тэл. 36-22-31; 36-54-06.

*Выставачная зала Віцебскай абласной арганізацыі Саюза мастакоў Беларусі.* Працы віцебскіх жывапісцаў, графікаў, скульптараў, майстроў дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва. Адрас : Маскоўскі праспект, 5. Тэл. 22-81-84.

*Выставачная зала Віцебскага абласнога цэнтра народнай творчасці.* Творы майстроў народнай творчасці і інсітнага (наіўнага) мастацтва. Адрас : вул. Леніна, 35-а. Тэл. 37-37-13.



Фота У. Базана

*Дзіцячая мастацкая галерэя цэнтра эстэтычнага выхавання "Маладзік".* Дзіцячая і маладзёжная творчасць, а таксама творы прафесійных мастакоў горада і рэспублікі.
Адрас : вул. Воінаў-інтэрнацыяналістаў, 19. Тэл. 96-36-15; 96-29-65.

*Выставачная зала музея Марка Шагала.* Сучаснае беларускае і замежнае мастацтва.
Адрас: вул. Савецкая, 25. Тэл. 36-03-87.

*Музычная гасцёўня аддзела культуры Віцебскага гарвыканкама.* Выставы твораў беларускіх мастакоў.
Адрас : пр. Фрунзе, 11. Тэл. 36-28-34.

*Выставачная зала Віцебскай дзіцячай мастацкай школы №1.* Працы навучэнцаў школы, а таксама творы прафесійных мастакоў Беларусі і замежжа. Адрас : вул. Суворава, 3. Тэл. 37-02-60.

*Выставачная зала на вул.Пакроўскай,8.* Працы народных майстроў, а таксама прафесійных і самадзейных мастакоў Віцебска. Тэл. 36-05-81.

*Выставачная зала "Саляныя склады".* Сучаснае мастацтва мастакоў Беларусі і замежжа.
Адрас : вул. Чайкоўскага, 3. Тэл. 36-05-81.

*Выставачная зала музея прыватных калекцый.* Прадметы з прыватных збораў жыхароў горада.
Адрас : вул. 1-ая Даватара, 26. Тэл. 37-22-69.